Сяргей Марозаў

# ІДЭЯ АДРАДЖЭННЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫМ ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСІ

## *(1795–1939 гг.)*

Гродна
«ЮрСаПрынт»
2019

УДК 94(476)+329.7
ББК 63.3(4Беі)5
М26

*Рэкамендавана да друку Саветам факультэта гісторыі, камунікацыі і турызму ГрДУ імя Я. Купалы (пратакол № 1 ад 29.01.2019).*

*Навуковы рэдактар:*
М. П. Касцюк, акадэмік НАН Беларусі,
доктар гістарычных навук, прафесар

*Рэцэнзенты:*
В. Ф. Голубеў, доктар гістарычных навук, прафесар;
У. А. Сосна, кандыдат гістарычных навук, дацэнт

Марозаў С.П.

М26 **Ідэя** адраджэння Вялікага Княства Літоўскага ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі (1795–1939 гг.) : манаграфія / С. П. Марозаў; пад навук. рэд. М. П. Касцюка. – Гродна : ТАА "ЮрСаПрынт", 2019. – 446 с.

ISBN 978-985-7134-83-0.

Першая частка кнігі ўяўляе сабой даследаванне ў кантэксце тэорыі сацыякультурнай траўмы праблемы месца і ролі ідэі адраджэння Вялікага Княства Літоўскага ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі ў 1795–1939 гг. Абгрунтавана палажэнне аб гістарычнай ўстойлівасці гэтай ідэі, устаноўлены прычыны яе прывабнасці і даўгавечнасці. Вылучаны і ахарактарызаваны асноўныя этапы руху па адраджэнню ВКЛ, вызначана яго сацыяльная база, раскрыты фактары ўплыву на ўзмацненне і згасанне адраджэнскіх настрояў. Прасочана месца пытання аб вяртанні дзяржаўнасці ВКЛ і яго атрыбутаў у дзейнасці грамадскіх арганізацый, палітычных партый, грамадскіх дзеячаў і палітыкаў Беларусі ў 1795–1939 гг. Дадзена характарыстыка важнейшых індывідуальных і калектыўных праектаў, канцэпцый, палітычных платформ вяртання дзяржаўнасці ў форме ВКЛ, прапанаваных грамадска-палітычным рухам Беларусі ў гэты перыяд, і выпрацаваных імі мадэляў дзяржавы на аснове традыцыі Княства. Паказаны спробы іх рэалізацыі і прааналізаваны прычыны няўдач. Удакладнены час адмовы ад гэтага намеру. Праведзена параўнанне праектаў пачатку XIX і пачатку XX ст. Паказана спецыфіка беларускага досведу выкарыстання дзяржаўна-палітычнай традыцыі ВКЛ у параўнанні з іншымі прэтэндэнтамі на яго спадчыну.

У другой частцы кнігі змешчаны дадаткі, якія адлюстроўваюць розныя аспекты і храналагічныя зрэзы гісторыі руху за вяртанне дзяржаўнасці ВКЛ: ілюстрацыі, карты, а таксама архіўныя і апублікаваныя крыніцы (прыведзены цалкам або фрагментарна).

**УДК 94(476)+329.7**
**ББК 63.3(4Беі)5**

**ISBN 978-985-7134-83-0**

# Пералік умоўных абазначэнняў і скарачэнняў

| | | |
|---|---|---|
| **БАНЛ** | — | Бібліятэка імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы, аддзел рукапісаў |
| **БВілУ** | — | Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта, аддзел рукапісаў |
| **БВУ** | — | Бібліятэка Варшаўскага ўніверсітэта, аддзел рукапісаў |
| **БДАМЛіМ** | — | Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (Мінск) |
| **БНК** | — | Беларускі нацыянальны камітэт (у Вільні) |
| **БНР** | — | Беларуская Народная Рэспубліка |
| **БРГ** | — | Беларуская рэвалюцыйная грамада |
| **БСГ** | — | Беларуская сацыялістычная грамада |
| **БСДРГ** | — | Беларуская сацыял-дэмакратычная работніцкая група |
| **ВБР** | — | Віленская беларуская рада |
| **ВКЛ** | — | Вялікае Княства Літоўскае |
| **ВНУ** | — | Вышэйшая навучальная ўстанова |
| **ГАСА** | — | Галоўны архіў старажытных актаў (Варшава) |
| **ДАРФ** | — | Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (Масква) |
| **ДГАЛ** | — | Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (Вільнюс) |
| **Карона** | — | Каралеўства Польскае |
| **Княства** | — | Вялікае Княства Літоўскае |
| **ЛітБел** | — | Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Літвы і Беларусі |
| **КЧУ ВКЛ** | — | Камісія Часовага ўраду Вялікага Княства Літоўскага |
| **ЛДП** | — | Літоўская дэмакратычная партыя |

| | | |
|---|---|---|
| **ЛЗКТ** | — | Літоўскае Земскае Крэдытнае Таварыства |
| **ЛПК** | — | Літоўскі правінцыяльны камітэт |
| **ЛСДП** | — | Літоўская сацыял-дэмакратычная партыя |
| **МБС** | — | Міністэрства беларускіх спраў ва ўрадзе Літоўскай Рэспублікі |
| **МЗС** | — | Міністэрства замежных спраў |
| **млн** | — | мільён |
| **НБП** | — | Нацыянальная бібліятэка Польшчы, аддзел рукапісаў (Варшава) |
| **НГАБ** | — | Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (Мінск) |
| **НГАБГ** | — | Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна |
| **ППС** | — | Польская сацыялістычная партыя |
| **ППС на Літве** | — | Польская сацыялістычная партыя на Літве |
| **РДАСА** | — | Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў (Масква) |
| **РДВГА** | — | Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў (Масква) |
| **РДГА** | — | Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (Санкт-Пецярбург) |
| **РНБ** | — | Расійская нацыянальная бібліятэка, аддзел рукапісаў (Санкт-Пецярбург) |
| **ЦНК** | — | Цэнтральны нацыянальны камітэт |

# Уводзіны

Важнай асаблівасцю гістарычнага працэсу канца XVIII – першай чвэрці XX ст. ва Усходняй Еўропе з'яўляліся пошукі народамі былога Вялікага Княства Літоўскага, пазбаўленымі ўласнай дзяржаўнасці і інтэграванымі ў палітычную, сацыяльна-культурную і эканамічную прастору Расійскай імперыі, шляхоў свайго нацыянальна-дзяржаўнага ўладкавання. Шмат хто з лепшых прадстаўнікоў беларускага і літоўскага народаў, якія ўсведамлялі сябе пераемнікамі вялікай гістарычнай спадчыны, бачыў магчымасць аднавіць «натуральны» ход развіцця гістарычных падзей у вяртанні ВКЛ на палітычную карту Еўропы. Іх перакананасць у неабходнасці, немінучасці аднаўлення Княства і сваёй здольнасці гэта зрабіць нашмат перажыла самую дзяржаву і заявіла аб сабе як значная грамадска-палітычная сіла. Яшчэ сто гадоў таму (у 1915–1918 гг.) беларускія палітыкі прадпрымалі спробы прадоўжыць ранейшую дзяржаўную традыцыю, абмяркоўвалі пытанне пра адраджэнне ВКЛ з іншымі прэтэндэнтамі на яго спадчыну і выносілі на міжнародны ўзровень. У 20-я – 30-я гг. XX ст., аж да сярэдзіны 1940-х гг. ідэолагі позняга краёвага руху выказвалі ўпэўненасць, што ВКЛ – гэта не толькі мінулае, але і будучыня Беларусі і Літвы.

Але пры дамінаванні доўгі час погляду на гісторыю Беларусі скрозь прызму польскай або расійскай канцэпцыі рух за адраджэнне ВКЛ знаходзіўся «ў цяні» змагання за адбудову Рэчы Паспалітай. Непрызнанне савецкай уладай альтэрнатыўных мадэляў дзяржаўнасці беларускага народа ў першай чвэрці XX ст. разам з гіпнатычным уплывам на гістарыяграфію СССР 1917 г. як рубяжа, пасля якога пачынаецца «сапраўдная гісторыя», выключалі магчымасць правядзення навуковых даследаванняў гісторыі ранейшай дзяржаўнасці беларускага народа не толькі як рэальнасці, але нават як ідэі. Ігнараванне дзяржаватворчых сіл і інтарэсаў Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. спрыяла замацаванню за беларусамі іміджу недзяржаўнага народа, вяло да адмовы ад гістарычнай спадчыны ВКЛ як сваёй, да прыніжэння яго ролі ў еўрапейскім цывілізацыйным працэсе і ў развіцці палітычнай думкі, спрашчала і не дазваляла ўсебакова асэнсаваць гісторыю беларускай дзяржаўнасці.

З памежжа XX–XXI ст. набірае сілу гістарыяграфічная тэндэнцыя разгляду лёсу беларускага і літоўскага народаў у 1795–1939 гг. скрозь прызму палітычнай спадчыны ВКЛ (тэрыторыя, сталіца і інш.), на якую прэтэндавалі таксама Польшча і Расія. Тэма выкарыстання гэтай спадчыны народамі-правапераемнікамі ВКЛ была пастаўлена як самастойная навуковая праблема працамі замежных даследчыкаў Ю. Бардаха, Д. Шпопера, Т. Снайдэра. Апошнія 15–20 гадоў розныя аспекты і храналагічныя зрэзы гэтай праблемы актыўна распрацоўваюцца на беларускім матэрыяле айчыннымі гісторыкамі. Каталізатарам правядзення новых даследаванняў і пераасэнсавання ведаў сталі юбілеі гістарычных падзей і асобаў, з якімі звязана пастаноўка пытання аб рэстытуцыі ВКЛ: 200-годдзе вайны 1812 г. (2012 г.), 150-годдзе паўстання 1863 г. (2013 г.), 100-я гадавіна Першай сусветнай вайны (2014–2018 гг.), 250-годдзе нараджэння М. К. Агінскага (2015 г.).

Сучасная гістарычная навука, маючы пэўныя здабыткі па вывучэнні спробаў адраджэння ВКЛ у 1811–1812 і 1915–1916 гг., тэму змагання за вяртанне ВКЛ на палітычную карту Еўропы далёка не вычэрпвае. Да таго ж гэта змаганне не зводзілася да двух фрагментарных, храналагічна абмежаваных і падзеленых стагоддзем часу сюжэтаў палітычнай гісторыі Беларусі, але з'яўлялася своеасаблівым «сімвалам веры» яе грамадска-палітычнага руху і канстантай яе палітычнай думкі на працягу прыкладна 150 гадоў. Таму наспела патрэба правядзення спецыяльнага даследавання гісторыі пошуку грамадска-палітычным рухам Беларусі формаў уладкавання народаў былога ВКЛ на аснове яго дзяржаўнай традыцыі.

Падрыхтоўка такой працы набывае мэтазгоднасць і актуальнасць у кантэксце ўзмоцненай навуковай і грамадскай цікавасці да шматвяковага досведу, на які абапіраецца беларускі народ у сучасным нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве. Лагічна, што айчынную навуку цікавіць не толькі гісторыя развіцця дзяржаўна-прававых формаў у Беларусі, але і пошукі шляхоў яе дзяржаўнага будаўніцтва ў бездзяржаўны перыяд гісторыі. Вывучэнне гісторыі намераў і спробаў адрадзіць ВКЛ дапамагае лепш ацаніць яго спадчыну, якая дасталася ад мінулага нашым папярэднікам і нам, усвядоміць іх месца ў ланцугу пакаленняў і вызначыць сваё месца сярод іншых народаў і дзяржаў свету, пераадолець навязаны беларусам

комплекс гістарычна недзяржаўнага народа. Тэма працуе на суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

Мэта даследавання – вызначыць месца і ролю ідэі адраджэння ВКЛ у грамадска-палітычным жыцці Беларусі ў 1795–1939 гг.

Рэалізацыя гэтай мэты ажыццяўляецца праз вырашэнне наступных задач:

– устанавіць прычыны прывабнасці і доўгавечнасці ідэі адраджэння ВКЛ у грамадска-палітычным жыцці Беларусі ў 1795–1939 гг. і яе носьбітаў;

– вылучыць і ахарактарызаваць асноўныя этапы руху за адраджэнне ВКЛ, ракрыць фактары ўплыву на ўзмацненне і згасанне адраджэнскіх настрояў;

– даць характарыстыку важнейшых праектаў вяртання дзяржаўнасці ў форме ВКЛ;

– высветліць прычыны няўдач з рэалізацыяй праектаў адраджэння ВКЛ.

Аб'ектам даследавання з'яўляецца грамадска-палітычнае жыццё і палітычная думка Беларусі ў 1795–1939 гг.

Прадмет даследавання – пошукі грамадска-палітычным рухам Беларусі ў 1795–1939 гг. шляхоў уладкавання беларуска-літоўскага рэгіёна на аснове дзяржаўнай традыцыі ВКЛ.

Храналагічна даследаванне абмежавана перыядам з 1795 г., калі ВКЛ спыніла існаванне, па 1939 г. Верхняя храналагічная мяжа вызначаецца дэактуалізацыяй у грамадска-палітычным жыцці Беларусі пытання аб стварэнні дзяржавы на аснове традыцыі ВКЛ у сувязі са зменай у рэгіёне геапалітычнай сітуацыі, выкліканай утварэннем у 1918–1919 гг. народамі былога ВКЛ сваіх нацыянальных дзяржаў (у розных формах), падзелам беларускай тэрыторыі па Рыжскаму дагавору 1921 г. і згасаннем у 1939 г. краёвага руху. Аднак выяўленыя намі праекты-канцэпцыі аднаўлення гістарычнай Літвы 1942 г. і 1946 г. абумовілі выхад за вызначаныя храналагічныя межы даследавання.

Геаграфічныя межы даследавання ахопліваюць беларускія землі ВКЛ, якія ў 1795–1921 гг. уваходзілі ў склад Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Ковенскай губерняў, а ў 1921 г. адышлі да Польшчы або ў 1922 г. увайшлі ў склад СССР. Дзяржаўна-палітычная традыцыя ВКЛ у ідэалогіі «позняга» краёвага руху разглядаецца на матэрыяле Заходняй Беларусі і Віленскага краю – усходняй і паўднёва-ўсходняй

часткай сучаснай Літвы з Вільняй і прылеглых да яе раёнаў Беларусі, якія ў 1920-я – 1930-я гг. належалі Польшчы.

Манаграфія ўяўляе сабой першае сістэмнае даследаванне праблемы месца і ролі ідэі адраджэння ВКЛ у грамадска-палітычным жыцці Беларусі ў 1795–1939 гг. Гісторыя намераў і спробаў рэстытуцыі Княства прасочана ад першых праяў да дэактуалізацыі гэтага пытання і «прасвечана» скрозь прызму сучасных тэарэтыка-метадалагічных падыходаў: тэорыі сацыякультурнай траўмы, канцэпцыі нацыяўтварэння ва Усходняй Еўропе Т. Снайдэра, тэорыі трох фаз у нацыянальных рухах, тэорыі «старых» і «маладых» нацый, а таксама канцэпцыі А. Каўкі аб руху «ў сабе» і «для сябе» ў беларускім вызваленчым руху.

Падборка дадаткаў да манаграфіі: ілюстрацыі, карты, архіўныя, выяўленыя аўтарам, і апублікаваныя гістарычныя крыніцы (поўныя тэксты або вытрымкі) – ахоплівае практычна ўсе храналагічныя зрэзы і шматаспектна характарызуе ідэалогію і практыку руху за адраджэнне дзяржаўнасці ВКЛ і вяртанне яго атрыбутаў. Сярод крыніц – дакументы палітычных арганізацый, афіцыйныя запіскі для ўладаў, творы публіцыстыкі, фрагменты ўспамінаў і дзённікаў, палітычныя праекты, канцэпцыі і інш., а таксама зведзенае ў табліцу аўтарскае параўнанне праектаў адраджэння ВКЛ пачатку XIX ст. і пачатку XX ст.

Падборка крыніц мае на мэце пацвердзіць абгрунтаванасць галоўнага палажэння манаграфіі аб гістарычнай ўстойлівасці ідэі адраджэння ВКЛ і яе прываблівасці для многіх пакаленняў правапераемнікаў гэтай дзяржавы. Дакументы, якія распавядаюць пра разгляд палітыкамі Расіі, Францыі, Германіі пытання аб вяртанні ВКЛ яго спадчыннікам, сведчаць пра сілу гэтай ідэі. Урэшце, дадаткі пераконваюць у слушнасці прымянення да вывучэння руху за адраджэнне ВКЛ тэорыі сацыякультурнай траўмы з яе пастулатам: чым храналагічна далей ад траўмы, тым больш яна перажываецца. Як напісаў даследчык пачаткаў Княства А. К. Краўцэвіч, хоць самой дзяржавы не існуе ўжо больш за 200 гадоў, але яна і сёння прысутнічае ў нашым паўсядзённым жыцці як з'ява гістарычная, культурная, нарэшце, псіхалагічная[1].

[1] *Краўцэвіч А. К.* Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток: Вышэйшая Школа Публічнай Адміністрацыі імя С. Сташыца, 2008. С. 9.

# Глава 1. Гістарыяграфія. Крыніцы. Метадалогія

## 1. Гістарыяграфічны агляд

Пачатак вывучэнню намаганняў вярнуць ВКЛ на карту Еўропы быў пакладзены **дарэвалюцыйнай расійскай гістарыяграфіяй.** Прыярытэт належыць А. Падвысоцкаму, які рэканструяваў гісторыю ўзаемаадносін М. К. Агінскага з Аляксандрам I у 1807–1815 гг.[2]. Іх сутнасць зводзілася да захадаў ліцвінскага палітыка як выразніка інтарэсаў жыхароў «Літвы» схіліць імператара аднавіць Княства.

Афіцыйны расійскі погляд на «літоўскае пытанне» ў 30-я гг. XIX ст. адлюстраваў Д. А. Кропатаў у ранняй палітычнай біяграфіі М. Мураўёва[3]; у 1860-я гг. – В. Ф. Ратч[4]. Д. А. Кропатаў, як і большасць яго расійскіх калег, лічыў Статут ВКЛ і Віленскі ўніверсітэт «гістарычнымі анамаліямі, якія дасталіся нам у спадчыну ад памерлай Рэчы Паспалітай». Ён ставіў у заслугу М. Мураўёву іх скасаванне, а таксама «механічнае спыненне смут, зацеяных крамольным духавенствам і блізарукай шляхтай» Беларусі, з мэтай адраджэння дзяржавы-нябожчыцы[5]. Афіцыйны гістарыёграф паўстання 1863–1864 гг. В. Ратч заўважыў яго адрозненне ў Вільні і Варшаве, а прычыны разыходжання іх пазіцый убачыў у імкненні К. Каліноўскага з аднадумцамі да дасягнення незалежнасці гістарычнай Літвы.

На мяжы XIX–XX ст. у Расійскай імперыі пачалося вывучэнне гісторыі тайных арганізацый на беларуска-літоўскіх землях:

---

[2] *Подвысоцкий А.* Граф Михаил Огинский и его отношения к императору Александру Павловичу (1807–1815) // Русский архив. 1874. Кн. 1, № 3. Стб. 637–710.

[3] *Кропотов Д. А.* Жизнь графа М. Н. Муравьева в связи с событиями его времени и до назначения его губернатором в Гродно. Биографический очерк. СПб.: Тип. Безобразова и К°, 1874. 549 с.

[4] Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России: Собрал В. Ратч. Вильна, 1867. Т. 1. 675 с.

[5] *Кропотов Д. А.* Жизнь графа М. Н. Муравьева в связи с событиями его времени и до назначения его губернатором в Гродно. Биографический очерк. СПб.: Тип. Безобразова и К°, 1874. С. II–III.

масонскіх ложаў (С. Дабранскі[6]), тайных гурткоў 1819–1823 гг. (Ф. Вержбоўскі[7]), якія ад маральна-асветных мэтаў пераходзілі да палітычных. Праўда, у ідэалогіі і дзейнасці гэтых арганізацый і патрыятызме іх удзельнікаў аўтары бачылі толькі польскі кампанент.

Адлік **савецкай гістарычнай навукай** пачаткаў беларускай дзяржаўнасці з 1919 г. і погляд на ВКЛ, як на дзяржаву беларусам чужую, не заахвочваў да распрацоўкі гісторыі змагання за яе адраджэнне. Сацыяльная база гэтага змагання – паланізаваная шляхта і каталіцкая інтэлігенцыя – абумовіла яго трактоўку ў рэчышчы панаваўшага класавага падыходу як з'яву рэакцыйную, антынародную. Разам з тым гэты падыход абумовіў цікавасць савецкай гістарыяграфіі, узмоцненую стагоддзем паўстання 1863 г., да рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху і яго дзеячаў: Ф. Савіча з яго ідэяй раўнапраўнай федэрацыі народаў былой Рэчы Паспалітай[8]; К. Каліноўскага, пастаноўку якім пытання аб самастойнасці Літвы-Беларусі прызнаў і станоўча ацаніў буйнейшы савецкі спецыяліст па паўстанню А. Ф. Смірноў[9]. Характарызуючы апазіцыю мясцовага дваранства ўраду, гісторык прыкмеціў сувязь паміж рознагалоссямі па сялянскай рэформе і яго патрабаваннем аўтаноміі «Літвы»[10].

Савецкія гісторыкі вывучалі найперш сацыяльныя праграмы грамадскіх рухаў, паўстанняў, а далікатныя пытанні гісторыі былых зямель ВКЛ, якія адышлі да СССР, іх падпарадкавання Расійскай імперыі і змагання за аўтаномію або за выхад з яе складу абыходзілі маўчаннем або падавалі аднабакова і ідэалагізавана. У гэтым сэнсе не заангажаваны савецкай метадалогіяй эмігранцкі гісторык А. І. Ляскоўскі (Берлін) звярнуў увагу на адметнасць заснаванай на дзяржаўнай традыцыі ВКЛ палітычнай праграмы ліберальна-дваранскай апазіцыі ў Беларусі и Літве ў 1861–1863 гг. у параўнанні з Польшчай[11].

[6] *Дабранскі С.* Нарысы з гісторыі масонства ў Літве // Спадчына. 1997. № 3. С. 42–72.

[7] *Вержбовский Ф.* К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823 гг. Варшава: Тип. Варшавского учебного округа, 1898. 98 с.

[8] *Смірноў А. Ф.* Франц Савіч: З гісторыі беларуска-польскіх рэвалюцыйных сувязей 30–40-х гадоў XIX Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1961. 172 с.

[9] *Смирнов А. Ф.* Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии. М.: АН СССР, 1963. 392 с.; *Смирнов А. Ф.* Кастусь Калиновский. Минск: Госиздат БССР, 1963. 200 с.

[10] *Смирнов А. Ф.* Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии. М.: АН СССР, 1963. С. 76.

[11] *Лясковский А. И.* Литва и Белоруссия в восстании 1863 г. (по новым архивным материалам). Берлин: Архамасъ, 1939. 191 с.

М. В. Доўнар-Запольскі ў працы па гісторыі беларускай дзяржаўнасці, першай ў **айчыннай гістарыяграфіі,** пісаў, што асновы дзяржаўнасці «выяўляюцца ва ўсёй мінуўшчыне Беларусі»; Беларусь іх «толькі зусім нядаўна ўтраціла» і мы «павінны дабівацца аднаўлення іх». У паўстаннях 1830 і 1863 гг., па яго словах, «справа ішла не толькі аб адбудове Польшчы ў яе старых межах». Прафесар быў перакананы: «Тое, што Беларусь і Літва нейкі час знаходзіліся ва ўніі з Польшчай, не пазбаўляе іх права на адбудову дзяржаўнай незалежнасці ў форме супольнага Беларуска-Літоўскага гаспадарства ці нават у форме асобных дзяржаўных арганізацый»[12].

Работы першых удзельнікаў дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі М. В. Доўнар-Запольскага[13], Я. Варонкі[14], Ф. Турука[15], а таксама Т. Грыба[16], напісаныя ў пераломныя 1918–1921 гг., калі вырашалася пытанне аб самім існаванні беларускай дзяржавы, ішоў выбар форм дзяржаўнага жыцця, выдаюць яўную сімпатыю іх аўтараў да ідэі адраджэння ВКЛ у выглядзе канфедэрацыі Беларусі і Літвы, чаго, аднак, нельга сказаць пра А. Цвікевіча[17].

Першы нарыс пра рэвалюцыйны рух у Беларусі С. Х. Агурскага, пачатак якога аўтар выводзіць з 1863 г.[18], уяўляе цікавасць трактоўкай палітычных поглядаў К. Каліноўскага.

З прац канца 50–80-х гг. XX ст. па гісторыі грамадска-палітычнай думкі і руху ў Беларусі ў XIX ст. Н. М. Мохнач[19],

---

[12] *Доўнар-Запольскі М. В.* Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі. Мінск: ВПП Дзяржэканомплана Рэспублікі Беларусь, 1994. С. 6–7, 13–15.

[13] *Довнар-Запольский М. В.* Жребий брошен // Спадчына. 2002. № 5–6. С. 86–87.

[14] *Варонка Я.* Заходняя Беларусь: Городзеншчына і Віленшчына. Палітычна-статыстычны нарыс з дадаткам дакументаў і пратэстаў проці польскай акупацыі. Коўна, 1919. Аўтограф, машынапіс, друкаванае выданне // БДАМЛіМ. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 152. 29 арк.; *Варонка Я.* Беларускі рух ад 1917 да 1920 году. Кароткі агляд. Менск: Беларускае коопэрацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэньне», 1991. 29 с.

[15] *Турук Ф. Ф.* Белорусское движение: Очерки истории национального и революционного движения белорусов. Минск: Картографическая фабрика Белгеодезии, 1994. 144 с.

[16] *Грыб Т.* «Нашы мэты і заданні». Артыкул без канца. Машынапіс. Пачатак 1920-х г. // БДАМЛіМ. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 145. 70 арк.

[17] *Цвикевич А.* Беларусь. Политический очерк; пер. с бел. Берлин, 1919. 29 с.

[18] *Агурский С. Х.* Очерки по истории революционного движения в Белоруссии (1863–1917). Минск: Белгиз, 1928. 348 с.

[19] *Мохнач Н. Н.* Идейная борьба в Белоруссии в 30–40-е годы XIX в. Минск: Наука и техника, 1971. 160 с.

С. М. Самбук[20], І. Н. Лушчыцкага[21], С. Х. Александровіча[22], В. Ф. Шалькевіча[23], якія шмат зрабілі для вывучэння праграм тайных таварыстваў, рэвалюцыйных арганізацый, паўстанцкіх камітэтаў і іх органаў друку, вынікае, што пытанне аб працягу дзяржаўна-палітычнай традыцыі ВКЛ у сферу разважанняў тагачасных мысліцеляў не ўваходзіла. Ідэалагічная заангажаванасць не дазволіла беларускай савецкай гістарыяграфіі распрацаваць гэту плынь палітычнай думкі. Пры гэтым, аднак, Н. М. Мохнач лічыла недапушчальным зводзіць ідэйны і грамадска-палітычны рух, які разгарнуўся на тэрыторыі Беларусі і Літвы з канца 40-х гг. XIX ст., да выключна польскага нацыянальна-вызваленчага руху, бо, выступаючы за аднаўленне незалежнай Рэчы Паспалітай, яго ўдзельнікі у той жа час стаялі за свабоднае, незалежнае існаванне і тых народаў, якіх Польшча некалі прыгнятала[24]. А В. Ф. Шалькевіч згадваў пра «паслядоўную барацьбу з нацыяналістычнымі прыцязаннямі ... польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў» К. Каліноўскага[25].

З кола даследчых праблем айчынных гісторыкаў былі выключаны таксама праграмы пачатку XX ст. дзяржаўнага ўладкавання Беларусі, альтэрнатыўныя бальшавіцкай, у тым ліку ў гістарычнай форме ВКЛ. Інфармацыю пра такі праект, выпрацаваны ў Першую сусветную вайну нацыянальнымі дзяржаўніцкімі сіламі ў зоне акупацыі, першым з беларускіх гісторыкаў змясціў у сваёй працы 1986 г. І. М. Ігнаценка[26].

[20] *Самбук С. М.* Общественно-политическая мысль Белоруссии второй половины XIX века (по материалам периодической печати). Минск: Наука и техника, 1976. 183 с.; *Самбук С. М.* Революционные народники Белоруссии (70-е – начало 80-х годов XIX в.). Минск: Наука и техника, 1972. 247 с.

[21] *Лушчыцкі І. Н.* Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку. Мінск: Выдавецтва Белдзяржуніверсітэта імя В. І. Леніна, 1958. 367 с.

[22] *Александрович С. Х., Александрович И. С.* Публицистика белорусских народников: нелегальные издания белорусских народников, 1881–1884. Минск: Изд-во БГУ им. В. И. Ленина, 1983. 132 с.

[23] *Шалькевич В. Ф.* Кастусь Калиновский: Страницы биографии. Минск: Университетское, 1988. 239 с.

[24] *Мохнач Н. Н.* Идейная борьба в Белоруссии в 30–40-е годы XIX в. Минск: Наука и техника, 1971. С. 109, 138.

[25] *Шалькевич В. Ф.* Кастусь Калиновский: Страницы биографии. Минск: Университетское, 1988. С. 166.

[26] *Игнатенко И. М.* Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. Минск: Наука и техника, 1986. 343 с.

**Сучасная беларуская гістарыяграфія,** для якой гісторыя дзяржаўнасці стала прыярытэтнай тэмай, выйшла на прынцыпова новы ўзровень асэнсавання непасрэднай і аддаленай рэакцыі народаў ВКЛ на страту сваёй дзяржавы.

Вялікае значэнне для разумення дзяржаваразбуральных і дзяржаваўтваральных працэсаў і фактараў, якія ім спрыялі або перашкаджалі, мае абагульняючая праца вучоных Інстытута гісторыі «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.», якой уласцівая ўвага да праектаў адраджэння ВКЛ 1811 і 1915 гг.[27]. Узмацненне навуковай цікавасці да гэтай праблемы знайшло адлюстраванне ў шасцітомнай «Гісторыі Беларусі»[28], калектыўнай манаграфіі «На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы»[29], а таксама ў вучэбнай літаратуры па гісторыі дзяржавы і права Беларусі Я. Юхо, А. Ф. Вішнеўскага, па гісторыі знешняй палітыкі Беларусі У. Е. Снапкоўскага[30], па гісторыі палітычнай і прававой думкі Беларусі С. Ф. Сокала, В. Ф. Шалькевіча[31], па ідэалогіі беларускай дзяржавы і інш. Так, З. Шыбека адзначае вялікую гістарычную інэрцыю пры распадзе шматэтнічнай Рэчы Паспалітай – настальгія па разбуранай дзяржаве прасочваецца ў беларускай гісторыі на працягу ўсяго XIX ст. і далей. Гэта інэрцыя на працягу цэлага стагоддзя пэўным чынам бараніла беларусаў ад русіфікацыі, спрыяла выпрацоўцы іх незалежніцкай палітычнай праграмы. Ён вылучае этапы развіцця справы адраджэння Рэчы Паспалітай у Беларусі, якая была тут «справай шляхецкай, каталіцкай і... ліцвінскай». У пачатку XX ст. гэта ідэя ўступіла ў супярэчнасць з ідэалогіяй беларускага незалежніцтва, якую сама часткова і парадзіла[32].

[27] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. Кн. 1. 584 с.

[28] Гісторыя Беларусі: у 6 т. / М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч [і інш.]; рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Экаперспектыва, 2005. Т. 4: Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.). С. 79–80, 86–102, 233–243, 453–455.

[29] На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы / В. В. Яноўская [і інш.]; навук. рэд. В. В. Яноўская; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. 311 с.

[30] *Снапковский В. Е.* История внешней политики Беларуси: пособие. Минск: БГУ, 2013. 495 с.; *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Мінск: БДУ, 2004. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. С. 19–31, 72–75.

[31] *Шалькевіч В. Ф.* Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. Мінск: Маладзёжнае навуковае супрацоўніцтва, 2002. 248 с.

[32] *Шыбека З.* Справа адраджэння Рэчы Паспалітай на землях Беларусі ў XIX ст. (па старонках неапублікаванага падручніка) // Наш радавод. Гродна, 1999. Кн. 8:

Згаданыя абагульняючыя працы Інстытута гісторыі НАНБ увялі ў кантэкст акадэмічнай навукі, а вучэбныя кнігі ўкаранілі ў навучальны працэс важнейшыя факты і постаці з гісторыі руху за адраджэнне ВКЛ, але яны пададзены ў гэтых выданнях фрагментарна і, як правіла, лаканічна.

Шэраг сюжэтаў з гісторыі гэтага руху атрымалі некаторае развіццё на старонках фундаментальнага выдання Інстытута гісторыі «Грамадска-палітычнае жыццё ў Беларусі, 1772–1917 гг.», якое разглядаецца ў двух галоўных вымярэннях: імкненне расійскага ўраду інтэграваць беларуска-літоўскія губерні ў агульнаімперскі арганізм і намаганні іх грамадства захаваць самабытнасць з тым, каб у адпаведны момант аднавіць страчаную дзяржаву[33].

Другі том акадэмічнай «Истории белорусской государственности» раскрывае заканамернасці ў барацьбе беларускіх палітычных партый і арганізацый за рэалізацыю ідэі нацыянальнай дзяржаўнасці. У кантэксце гэтай ідэі разглядаюцца і важнейшыя праекты адраджэння ВКЛ. Аднак праблемы руху за вяртанне страчанай дзяржаўнасці і гэта грунтоўнае выданне не вычэрпвае[34].

Даследаваннем захадаў па захаванню ў канцы XVIII ст. цэласнасці ВКЛ і выратаванню яго дзяржаўнасці займаліся У. Емельянчык[35], Я. Анішчанка[36], С. Таляронак[37]. Несумненнае значэнне для разумення спецыфікі «літоўскіх» інтарэсаў у паўстанні 1794 г. маюць працы Я. Анішчанкі. С. Таляронак на аснове выяўленых ім у РДАСА матэрыялаў следства па справе

Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. X–XX ст.: матэрыялы міжнар. круглага стала, Гродна, 28–30 верас. 1999. С. 269–275.

[33] Грамадска-палітычнае жыццё ў Беларусі, 1772–1917 гг. / А. У. Унучак [і інш.]; рэдкал.: В. В. Даніловіч (гал. рэд.) [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларуская навука, 2018. 573 с.

[34] История белорусской государственности. В 5 т. Т. 2: Белорусская государственность в период Российской империи (конец XVIII – начало XX в.) / Н. В. Смехович [и др.]; Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. Минск : Беларуская навука, 2019. 413 с.

[35] *Емельянчык У.* Паланез для касінераў: (З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі на Беларусі). Мінск: Беларусь, 1994. 160 с.; *Юхо Я., Емельянчык У.* «Нарадзіўся я ліцьвінам…»: Тадэвуш Касцюшка. Мінск: Навука і тэхніка, 1994. 68 с.

[36] *Анішчанка Я. К.* Беларусь у часы Кацярыны II (1772–1796) / пад рэд. У. А. Сосна. Мінск: ЗАО «ВЕДЫ», 1998. 220 с.; *Анішчанка Я. К.* Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мінск: Хурсік, 2003. 470 с.

[37] *Таляронак С.* Віленская асацыяцыя 1796–1797 гг. // Беларускі гістарычны часопіс. 1994. № 1. С. 24–31.

«Віленскай асацыяцы» рэканструяваў агульную карціну дзейнасці гэтай палітычнай арганізацыі, якая ставіла мэтай пазбавіць сваю зямлю ад чужога панавання[38]. Але літаратура і крыніцы, якія засталіся па-за ўвагай гэтага даследчыка, не дазваляюць ставіць кропку на вывучэнні ролі гэтай арганізацыі ў пачатку змагання за «новую» дзяржаву. «Акт паўстання», прыняты асацыяцыяй ў 1797 г., прааналізаваў Я. Анішчанка[39].

На мяжы XX–XXI ст. з'явіўся шэраг артыкулаў беларускіх гісторыкаў, прысвечаных асобным праектам адраджэння ВКЛ. Пры гэтым найбольшая ўвага была ўдзелена плану М. К. Агінскага і ВКЛ у 1812 г. Першым да вывучэння гэтага плана звярнуўся А. П. Грыцкевіч, які бачыў у ім адзін з момантаў палітычных узаемаадносінаў царызму і мясцовых памешчыкаў, зацікаўленых у адраджэнні страчанай дзяржаўнасці[40].

В. В. Швед разглядае лёс зямель былога ВКЛ у кантэксце «польскага пытання», якое пасля падзелаў Рэчы Паспалітай набыло міжнародны характар. У манаграфіі «Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.)» ён прааналізаваў запіскі і праект указа, напісаныя М. Агінскім у 1811 г.[41]. Значна ўзбагаціў уяўленне пра адраджэнскія настроі шляхты беларускіх зямель у 1806–1811 гг. артыкул А. У. Ерашэвіча «Палітычныя праекты адраджэння Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў палітыцы расейскага царызму напярэдадні вайны 1812 г.»[42]. Але нават працы В. В. Шведа і А. У. Ерашэвіча ўсёй глыбіні праблематыкі, звязанай са спробамі вяртання дзяржаўнасці ВКЛ, не вычэрпваюць, разглядаючы яе, галоўным чынам, у кантэксце міжнароднай сітуацыі эпохі напалеонаўскіх войнаў.

Год М. К. Агінскага, якім згодна рашэння ЮНЭСКА з'яўляўся 2015 г. у сувязі з 250-й гадавінай яго нараджэння, прынёс новыя бібліяграфічныя пазіцыі, цікавыя для асэнсавання скрозь прызму

[38] Тамсама.

[39] *Анішчанка Я.* Малавядомыя крыніцы пра «Віленскую асацыяцыю» 1797 года [Электронны рэсурс] // ARCHE. Рэжым доступу: http://arche.by/by/page/science/kryinitsaznaustva/7593. Дата доступу: 21.12.2015.

[40] Адраджэнне: Гістарычны альманах / склад. і навук. рэд. А. П. Грыцкевіч. Мінск: Універсітэцкае, 1995. Вып. 1. 262 с.

[41] *Швед В. В.* Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.). Гродна: ГрДУ, 2001. С. 14.

[42] *Ерашэвіч А.* Палітычныя праекты адраджэння Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў палітыцы расейскага царызму напярэдадні вайны 1812 г. // Гістарычны альманах. Гародня, 2002. Т. 6. С. 84–96.

праблемы адраджэння ВКЛ. Сярод іх – праца Л. Несцярчука «Міхал Клеафас Агінскі: Ліцвін, Патрыёт, Творца»[43], выданні мемуараў М. К. Агінскага ў перакладзе на беларускую і рускую мовы[44].

Вывучэнне французска-рускай вайны 1812 г. узбагацілася ў гістарыяграфіі Рэспублікі Беларусь такім аспектам, як арганізацыя Напалеонам ВКЛ на акупаванай тэрыторыі, дзейнасць Часовага ўраду Княства, стварэнне арміі Княства. Гэты бок вайны вывучалі С. Таляронак[45], А. У. Ерашэвіч[46], А М. Лукашэвіч[47], С. У. Данскіх і В. В. Швед[48]. Пяру В. В. Шведа належыць першы ў айчыннай гістарыяграфіі артыкул, спецыяльна прысвечаны ВКЛ у 1812 г.[49].

Новая навуковая актуалізацыя падзей вайны 1812 г. у сувязі з яе 200-годдзем выявілася ў артыкулах і кнігах А М. Лукашэвіча з іх моцным акцэнтам на дзяржаватварэнні на абшарах былога ВКЛ[50], у тым ліку прысвечаных «польскаму пытанню» ў эпоху напалеонаўскіх войнаў[51].

---

[43] *Несцярчук Л.* Міхал Клеафас Агінскі: Ліцвін, Патрыёт, Творца. Брэст: Брэсцкая друкарня, 2015. 355 с.

[44] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 5–194; Мемуары Михала Клеофаса Огинского о Польше и поляках с 1788 до конца 1815 года: в 2 т.; пер с франц. Мінск : Четыре четверти, 2015. Т. II. 440 с.

[45] *Таляронак С., Блінец А.* Апошняя армія ВКЛ (1812–1814 гг.) // Беларускі гістарычны часопіс. 1996. № 2. С. 22–34; *Толеренок С. В.* Создание французскими оккупационными войсками государственных структуру ВКЛ (1812 г.). Минск: ИСПИ, 1998. 20 с.

[46] *Ерашэвіч А. У.* Камісія Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага 1812 г.: Асноўныя напрамкі дзейнасці // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі : стан, здабыткі і супярэчнасці развіцця: матэрыялы рэсп. навук. канф. Гродна, 3-4 мая 2002 г.: у 4 ч. Гродна: ГрДУ, 2003. Ч. 2. С. 73–79; *Ерашэвіч А. У.* Уплыў напалеонаўскіх войнаў на грамадска-палітычнае жыццё Беларусі (1799–1815 гг.): аўтарэф. ... канд. гіст. навук: 07.00.02; НАН Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск, 2003. 21 с.

[47] *Лукашэвіч А. М.* Беларусь напярэдадні і ў час вайны 1812 г.: вучэбна-метадычны комплекс. Мінск: БДУ, 2004. С. 103–108.

[48] *Швед В., Данскіх С.* Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805–1815 гады. Гродна: ГрДУ імя Я. Купалы, 2006. 252 с.

[49] *Швед В.* Вялікае княства Літоўскае ў 1812 годзе // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. № 3. С. 9–15.

[50] *Лукашевич А. М.* Западный пограничный регион в военно-стратегических планах Российской империи (конец XVIII в. – 1812 г.): в 3 кн. Минск: ИВЦ Минфина, 2012. Кн. 1: Политическая ситуация по данным служб разведки и контрразведки. 359 с.; *Лукашевич А. М.* Политическая ситуация в белорусско-польском пограничье и ее оценка российским руководством по данным разведки и контрразведки (1801–1812 гг.). Минск: ИНБ Республики Беларусь, 2009. 280 с.; *Лукашэвіч А. М.* Беларусь напярэдадні і ў час вайны 1812 г.: вучэбна-метадычны комплекс. Мінск: БДУ, 2004. 291 с.

[51] *Лукашевич А. М.* «Польские» проекты в военно-стратегических планах Российской империи (1810 – июнь 1812 г.) // Российские и славянские исследования:

Працы згаданых даследчыкаў, тым не менш, не закрываюць навуковай праблемы руху за адраджэнне ВКЛ, які цікавіць аўтара манаграфіі найперш «знутры», з пункту погляду пераемнікаў-патрыётаў Княства, а да таго ж ахопліваюць толькі адзін, асобны – хай сабе і важны – фрагмент гісторыі этага руху.

Даследуючы адлюстраванне гісторыі ВКЛ у творах беларускіх пісьменнікаў першай паловы XIX ст. (У. Сыракомлі, Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча), Я. Янушкевіч паказаў, што істотным для іх было не столькі дакладна ўзнавіць гістарычныя факты, колькі абудзіць гістарычную памяць народа і заклікаць паўстаць на адраджэнне страчанай краіны[52].

Дзяржаўна-палітычнай канцэпцыі лідараў паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гг. у Беларусі прысвяцілі радкі сваіх прац М. В. Біч[53], В. В. Гарбачова – аўтар першых у айчыннай гістарыяграфіі спецыяльных даследаванняў па Лістападаўскаму паўстанню[54] і іншыя гісторыкі. В. В. Гарбачова, Д. Ч. Матвейчык паказалі таксама сепаратызм пасляпаўстанцкай эміграцыі з зямель былога ВКЛ адносна польскай эміграцыі і яе настальгію па страчанай дзяржаве[55].

---

науч. сб. / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. Минск: БГУ, 2011. Вып. 6. С. 179–187; *Лукашевич А. М.* Проекты восстановления Речи Посполитой и Великого княжества Литовского и их место в военно-стратегическом планировании Российской империи (1810–1812 гг.) // Внешняя политика Беларуси в исторической ретроспективе: материалы междунар. науч. конф., Минск, 24–25 мая 2002 г. Минск: Адукацыя і выхаванне, 2002. С. 46–59; *Лукашевич А. М.* «Пулавский план» Адама Чарторыйского и его влияние на оперативную подготовку России и ход войны 1805 г. с Францией // Российские и славянские исследования: науч. сб. / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. ред.) [и др.]. Минск: БГУ, 2010. Вып. 5. С. 194–202; *Лукашэвіч А.* Тадэвуш Касцюшка ў палітычных планах Францыі і Расіі пачатку XIX ст. // Беларусь і Тадэвуш Касцюшка: спадчына, час, здабыткі: матэрыялы Міжнар. семінара, Мінск, 28–29 ліст. 2000. Мінск, 2002. С. 70–75.

[52] *Янушкевіч Я.* Гісторыя Вялікага княства Літоўскага ў творах беларускіх пісьменнікаў І-й паловы XIX ст. // Наш радавод: матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст., Гродна, 3–5 ліп. 1996 г. / адк. рэд. Д. Караў. Гродна: Заходне-беларускі гуманітарны цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы, 1996. Кн. 7. С. 257–258.

[53] *Біч М. В.* Беларускае адраджэнне ў XIX – пачатку XX ст. Гістарычныя асаблівасці, узаемаадносіны з іншымі народамі. Мінск, 1993. 30 с.

[54] *Гарбачова В. В.* Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі. Мінск: БДУ, 2001 186 с.; *Гарбачова В. В.* Удзельнікі паўстання 1830–1831 гадоў на Беларусі: біябібліяграфічны слоўнік. Мінск: БДУ, 2004. 400 с.

[55] *Гарбачова В.* Дзейнасць Таварыства літоўскага і рускіх зямель у межах Вялікай эміграцыі ў Францыі // Гістарычны альманах. Гародня; Беласток, 2005.

С. Я. Сяльверстава і С. В. Марозава ахарактарызавалі грамадскія настроі ў сувязі са знішчэннем царызмам такіх элементаў спадчыны ВКЛ, як Статут 1588 г. і ўніяцкая царква[56].

150-годдзе паўстання 1863 г. і смяротнай кары К. Каліноўскага выклікала новую хвалю цікавасці да іх дзяржаўна-палітычных ідэалаў і ролі ў нацыятворчых працэсах у Беларусі. Гэта знайшло адлюстраванне ў тэматычнай падборцы «Паўстанне 1863–1864 гг. і лёсы Беларусі»[57], зборніках артыкулаў «Паўстанне 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі, Літве і Украіне: гісторыя і памяць»[58], «Кастусь Каліноўскі, яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі»[59], «Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі»[60], а таксама ў даследаваннях Д. Ч. Матвейчыка[61], В. В. Шведа[62], В. Герасімчыка[63]. Тое значнае месца, якое ў нашых сённяшніх «баях» за гісторыю адводзіцца пытанню аб палітычных поглядах К. Каліноўскага і аб яго значэнні для нацыятворчых працэсаў ХХ ст., для сучаснай ідэнтычнасці беларусаў; магчымасць без абмежаванняў ідэалагічнай

Т. 11. С. 172–188; *Матвейчык Д. Ч.* Выгнаныя з роднага краю: Пасляпістападаўская эміграцыя з Беларусі і Літвы (1830–1870-я гады). Мінск: Лімарыус, 2011. 200 с.

[56] *Куль-Сяльверстава С. Я.* Статут ВКЛ 1588 г. у свядомасці насельніцтва беларускіх зямель у першай палове XIX ст. // Леў Сапега і яго час: зб. навук. арт. / рэд. кал. С. В. Марозава [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2007. С. 341–346; *Марозава С. В.* Адмена Статута Вялікага княства Літоўскага (1831, 1840 г.) і рэакцыя на яе беларускай шляхты // Pirmasis Lietuvos Statutas ir epocha. Vilnius: Vilniaus universiteto leidykla, 2005. P. 55–62; *Марозава С. В.* «Сваёй веры ламаць не будзем…»: Супраціў дэўнізацыі ў Беларусі (1780–1839 гады). Гродна: ЮрСаПрынт, 2014. 218 с.

[57] Паўстанне 1863–1864 гг. і лёсы Беларусі: зб. арт. / гал. рэд. В. Булгакаў. Мінск: Рэдакцыя часопісу «Архэ-Пачатак», 2010. 316 с.

[58] Паўстанне 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі, Літве і Украіне: гісторыя і памяць: зб. навук. арт. / уклад.: В. В. Яноўская, А. У. Унучак, А. Э. Фірыновіч; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларуская навука, 2014. 427 с.

[59] Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. Мінск: Беларускае Гістарычнае Таварыства, 2011. 220 с.

[60] Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі: матэрыялы міжнар. навук. канф., Лондан, 27–29 сак. 2014 г. / пад рэд. А. Смаленчука і Д. Дынглі. Мінск: Зміцер Колас, 2015. 180 с.

[61] *Матвейчык Д. Ч.* Паўстанне 1863–1864 гадоў у Беларусі: нарыс баявых дзеянняў. Мінск: Медысонт, 2013. 122 с.; *Матвейчык Д. Ч.* Удзельнікі паўстання 1863–1864 гадоў: біяграфічны слоўнік (паводле матэрыялаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі). Мінск: Беларусь, 2016. 735 с.

[62] *Швед В.* Рэквіем паўстанцам 1863–1864 гг.: Гродзенская губерня. Минск: Альфа-книга, 2017. 312 с.

[63] *Герасімчык В. У.* Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда. Гродна: ЮрСаПрынт, 2018. 229 с.

цэнзуры даследаваць ідэалогію партыі «белых» у Беларусі, якой гістарыяграфічная традыцыя прыпісала жаданне адрадзіць Польшчу; урэшце, адсутнасць у айчыннай навуцы да гэтага часу фундаментальнай манаграфіі аб паўстанні 1863–1864 гг. у Беларусі, – ўсё гэта, разам узятае, сведчыць пра далёка не вычарпаны навуковы патэнцыял тэмы «літоўскага сепаратызму» першай трэці 1860-х гг.

Кароткі агляд асноўных спробаў матэрыялізаваць ідэю аднаўлення ВКЛ у канцы XVIII ст. – 60-х гг. XIX ст. даў І. Лялькоў[64].

Патрыятычна-адраджэнскія тэндэнцыі ў дзейнасці шэрагу грамадскіх арганізацый Беларусі канца XVIII – пачатку XX стст., якія прыводзілі да іх пераўтварэння ў палітычныя арганізацыі змоўніцкага характару, адзначаюць М. Сакалова[65], В. В. Швед[66], А. Л. Дашкевіч[67]. Спецыфіку нацыянальнага выспявання беларусаў у кантэксце этнічнай гісторыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы і ролю ў гэтым працэсе гістарычнай памяці аналізуе П. У. Церашковіч[68].

Працамі А. Ф. Смалянчука ў праблемнае поле айчыннай навукі ўведзена тэма звароту да дзяржаўнай традыцыі ВКЛ грамадска-палітычнага руху пачатку XX ст.[69]. Яны маюць важнае значэнне для разумення сутнасці краёвай ідэалогіі, яе беларускай «версіі»[70] і фарміравання на іх аснове канцэпцыі

[64] *Лялькоў І.* Традыцыі Вялікага Княства Літоўскага ў палітычным жыцці беларускіх земляў у XIX ст. // Спадчына. 2002. № 2–3. С. 56–65.

[65] *Соколова М.* Общественные объединения и движения в Беларуси в конце XVIII – начале XX века: проблемы становления гражданского общества. Минск: 2002. 129 с.

[66] *Швед В. В.* Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст.). Гродна: ГрДУ, 2007. 275 с.; Швед В. В. Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.). Гродна: ГрДУ, 2001. 416 с.

[67] *Дашкевіч А. Л.* Маладзёжны рух Беларусі 30 – пачатку 60-х гадоў XIX ст.: дыс. ... канд. гіст. навук: 07.00.02. Мінск, 2003. 180 с.

[68] *Терешкович П. В.* Этническая история Беларуси XIX – начала XX в.: В контексте Центрально-Восточной Европы. Минск: БГУ, 2004. 223 с.

[69] *Смалянчук А.* Краёвец Антон Луцкевіч // Гістарычны альманах. 1998. № 1. С. 27–44; *Смалянчук А. Ф.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–1917 г. Гродна: ГрДУ, 2001. 320 с.

[70] *Смалянчук А.* Беларускі Нацыянальны рух і краёвая ідэя // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2000. S. 105–114; *Смалянчук А.* Краёвасць стасоўна беларускага і літоўскага нацыянальных рухаў на пачатку XX ст. // Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты: матэрыялы міжнар. канф., Варшава, 9–11 снеж. 2011 г. Варшава: Oficyna Wydawnicza Uczelni Łazarskiego, 2013. С. 66–77; *Smalančuk A.* Krajovaść vis-à-vis Belarussian and Lithuanian Natoinal Movements in the Early 20th Century // Belarus and its Neighbors:

адбудовы ВКЛ. Аднак у беларускай гістарыяграфіі адсутнічае даследаванне месца ў краёвай ідэалогіі базавай для яе ідэі ВКЛ. Распрацоўка гэтага пытання набывае актуальнасць у кантэксце абуджэння з пачатку XXI ст. узмоцненай цікавасці айчыннай і замежнай навукі да краёвага руху правапераемнікаў ВКЛ. Выданне ў 2014 г. анталогіі краёвай ідэі[71], а таксама выяўленыя аўтарам манаграфіі архіўныя крыніцы адкрылі новыя перспектывы даследавання гэтай праблемы.

У сваіх працах па гісторыі масонства пачатку XX ст. у Беларусі і Літве А. Ф. Смалянчук[72] і С. В. Багалейша[73] адзначаюць, што яны спрычыніліся да пастаноўкі пытання аб адбудове суверэннага ВКЛ на новым гістарычным этапе. М. М. Забаўскі паказаў, як на фоне сутыкнення ў царскай Дзяржаўнай думе (1906–1917 гг.) расійскіх і польскіх гістарычных прэтэнзій на беларуска-літоўскія землі, барацьбы самадзяржаўя з «сепаратызмам» у заходніх губернях іх дэпутаты адстойвалі пастулат аўтаноміі свайго краю з парламентам у Вільні[74].

Працы В. А. Круталевіча[75], М. С. Сташкевіча[76], У. Ф. Ладысева і П. І. Брыгадзіна[77], С. С. Рудовіча[78], В. Г. Мазеца і іншых

Historical Perceptions and Political Constructs: International Conference Papers / ed. by A. Łahviniec, T. Čulickaja. Warsaw: Łazarski University, 2013. P. 68–80.

[71] Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. 602 с.

[72] *Смалянчук А.* Масонскія ложы на беларускіх і літоўскіх землях. 1910–1916 гг. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2002. T. 17. S. 141–155.

[73] *Багалейша С. В.* Дзейнасць масонскіх арганізацый на беларуска-літоўскіх землях у пачатку XX ст. // Белорусские земли в составе Российского государства (1772–1917 гг.): материалы Респ. науч.-технич. конф., Минск, 2 дек. 2013 г. / редкол.: В. А. Божанов, Т. В. Кедрик, Д. Н. Хромченко. Минск: БНТУ, 2013. С. 18–24.

[74] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. Кн. 1. С. 274–296; *Забаўскі М. М.* Расійская Дзяржаўная дума ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі (1906–1917 гг.). Мінск: БДПУ, 1999. 212 с.

[75] *Круталевич В. А.* История Беларуси. Становление национальной державности. Минск: Право и экономика, 2003. 592 с.; *Круталевич В. А.* Очерки истории государства и права Беларуси [Текст]. Минск: Право и экономика, 2007. 824 с.

[76] Проблемы формирования белорусской государственности в XX – начале XXI века: избранные труды Н. С. Сташкевича / под науч. ред. А. Н. Данилова, В. С. Кошелева. Минск: РИВШ, 2012. 242 с.

[77] *Ладысеў У. Ф., Брыгадзін П. І.* Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.). Мінск: БДУ, 2003. 307 с.

[78] Гісторыя Беларусі: у 6 т. / М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч [і інш.]; рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Экаперспектыва, 2005. Т. 4: Беларусь у складзе

паклалі пачатак навуковаму пераасэнсаванню праблемы нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння беларусаў на вызначальным для іх этапе 1915–1918 гг. і тым адкрылі магчымасць асэнсавання месца ў гэтым самавызначэнні праектаў адраджэння ВКЛ.

На мяжы XX–XXI ст. да вывучэння дзяржаваўтваральных праектаў, выпрацаваных у Першую сусветную вайну прыхільным да ідэі адбудовы ВКЛ беларускім рухам у зоне «старой» акупацыі, і пазіцыі адносна гэтага Германіі звярнулася цэлая група даследчыкаў. Гэтыя праекты яны разглядаюць у розных кантэкстах: гісторыі беларускай дзяржаўнасці (А. Сідарэвіч[79], С. Багалейша[80], В. А. Ашарчук[81], «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.»[82]), фарміравання тэрыторыі і межаў Беларусі (С. М. Хоміч[83]), беларускага грамадска-палітычнага і нацыянальнага руху (А. Сідарэвіч[84], М. Б. Шчаўлінскі[85],

Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.). С. 453–455.

[79] *Сідарэвіч А.* Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Мінск: БелЭн, 1997. Т. 4. С. 93; *Сідарэвіч А. М.* Антон Луцкевіч: ад краёвасьці да незалежніцтва (1916–1918). Агляд крыніцаў // ARCHE. 2006. № 1–2. С. 80–91.

[80] *Багалейша С. В.* Праекты стварэння беларуска-літоўскай дзяржавы падчас Першай сусветнай вайны // Войны XIV–XX вв. в судьбах белорусского народа: сб. науч. ст. Междунар. науч.-теоретич. конф., Минск, 4 дек. 2014 г. / науч. ред. В. А. Божанов. Минск: БГАТУ, 2014. С. 30–40; *Багалейша С.* Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага: праекты і здзяйсненні // Беларускі гістарычны часопіс. 2005. № 7. С. 12–17.

[81] *Ашарчук В. А.* Попытки создания Литовско-белорусского государства (1915–1923 гг.) // Актуальныя праблемы станаўлення і развіцця беларускай дзяржаўнасці / рэдкал.: А. І. Андарала [і інш.]. Мінск: БДПУ, 2009. Ч. 1: Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ад старажытнасці да 1918 г. С. 191–194.

[82] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. Кн. 1. 584 с.

[83] *Хомич С.* Территория и государственные границы Беларуси в XX веке. От незавершенной этнической самоидентификации и внешнеполитического произвола к современному status quo. Минск: Экономпресс, 2011. 416 с.

[84] *Луцкевіч А.* Барацьба за вызваленне; уклад., навук. рэд., пераклады, каментары і прадмова А. Сідарэвіча. Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2009. 650 с.; *Луцкевіч А.* За дваццаць пяць гадоў (1903–1928): Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый: Беларуская рэвалюцыйная грамада, Беларуская сацыялістычная грамада; пасляслоў. А. М. Сідарэвіча. Мінск: БелСЭ, 1991. 64 с.

[85] *Щавлинский Н. Б.* Белорусское национальное движение в годы первой мировой войны (1914–1918 гг.). Минск: РИВШ БГУ, 2001. 136 с.; *Щавлинский Н. Б.* Государственно-политическое и национально-культурное самоопределение Беларуси в годы Первой мировой войны (1914–1918). Минск: ООО «Мэджик Бук», 2009. 192 с.

С. М. Хоміч[86], М. В. Цуба[87], С. А. Траццяк[88] і інш.), гісторыі знешняй палітыкі Беларусі (У. Е. Снапкоўскі[89]), у кантэксце нямецкай акупацыйнай палітыкі на беларускіх землях (А М. Бабкоў[90], Д. А. Мігун[91], Д. І. Кузьма[92]), беларуска-літоўскіх адносін (А. Ціхаміраў[93], З. Шыбека[94]). Працы названых аўтараў дазваляюць зразумець пазіцыі беларускіх дзяржаўніцкіх і палітычных сіл у акупаванай Вільні; той геапалітычны кантэкст, у якім яны распрацоўвалі свае праекты; перыпетыі беларуска-літоўскіх дачыненняў і канкурэнцыю формул гістарычнай і этнічнай Літвы ў іх кантэксце і інш. У той жа час аналіз гістарыяграфічных здабыткаў і праблем у вывучэнні працэса станаўлення беларускай нацыі прывёў вучоных Інстытута гісторыі НАНБ да высновы пра недастатковую даследаванасць пытання аб канцэпцыях геапалітычнага

---

[86] *Хомич С. Н.* Белорусское национальное движение в зоне немецкой оккупации (1915–1917 гг.) // Беларусь у гады Першай сусветнай вайны. Смаргоншчына: трагедыя, гераізм, памяць: матэр. міжнар. навук.-практ. канф., Смаргонь, 18–19 мая 2007 г. / навук. рэд. А. М. Літвін, У. В. Ляхоўскі; рэдкал.: М. У. Мяснікові̌ч [і інш.]. Мінск: Чатыры чвэрці, 2009. С. 586–598.

[87] *Цуба М. В.* Грамадска-палітычнае жыццё на Беларусі з пачатку Першай сусветнай вайны да Лютаўскай рэвалюцыі (жнівень 1914 – люты 1917 гг.). Мінск: [б.в.], 2006. 230 с.; *Цуба М. В.* Першая сусветная вайна на Беларусі ў кантэксце сусветных ваенных падзей (грамадскі і ваенны бакі) 1914–1918 гг. Пинск: ПалесДУ, 2010. 303 с.

[88] *Траццяк С. А.* Брэсцкі мір і грамадска-палітычныя працэсы ў Беларусі: лістапад 1917 – студзень 1919 г. Мінск: Беларуская навука, 2009. 208 с.

[89] *Снапковский В. Е.* История внешней политики Беларуси: пособие. Минск: БГУ, 2013. 495 с.; *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Мінск: БДУ, 2004. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. С. 72–75.

[90] *Бабков А. М.* Беларусь в польской политике Германии (1915–1916 гг.) // Беларусь у гады Першай сусветнай вайны. Смаргоншчына: трагедыя, гераізм, памяць: матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф., Смаргонь, 18–19 мая 2007 г. / навук. рэд. А. М. Літвін, У. В. Ляхоўскі; рэдкал.: М. У. Мяснікові̌ч [і інш.]. Мінск: Чатыры чвэрці, 2009. С. 544–557.

[91] *Мигун Д. А.* Территория Беларуси в составе Обер Оста // Беларусь у гады Першай сусветнай вайны. Смаргоншчына: трагедыя, гераізм, памяць: матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф., Смаргонь, 18–19 мая 2007 г. / навук. рэд. А. М. Літвін, У. В. Ляхоўскі; рэдкал.: М. У. Мяснікові̌ч [і інш.]. Мінск: Чатыры чвэрці, 2009. С. 558–570.

[92] *Кузьма Д. И.* Немецкая концепция «Срединной Европы» (Mitteleuropa) и белорусский вопрос // Научные труды Республиканского института высшей школы. Исторические и психолого-педагогические науки: сб. науч. ст. Минск: РИВШ, 2009. Ч. 1. вып. 8. С. 68–74.

[93] *Ціхаміраў А.* Беларуска-літоўскія дачыненні ў 1914–1920 гг. // Спадчына. 2000. № 5–6. С. 3–27.

[94] *Шыбека З.* Чаму Вільня не стала сталіцай БНР? [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://old.belcollegium.org/lekcyji/historyja/szybeka_01.htm. Дата доступу: 24.01.2019.

ўладкавання беларуска-літоўскага рэгіёна, якія былі вылучаны лідарамі беларускага нацыянальнага руху ў 1915–1917 гг.[95].

Тэма звароту беларускага руху да канцэпцыі дзяржаўнасці гістарычнай Літвы у 1918–1920 гг. знайшла адлюстраванне ў працах В. А. Круталевіча[96], С. В. Багалейшы[97], А. Ціхаміравa[98], С. М. Хоміча[99] і інш. Матэрыялы, якія маюцца ў нашым распараджэнні, таксама дазваляюць прасачыць існаванне надзей на рэалізацыю гэтай канцэпцыі пасля 1918 г., на якім ранейшая гістарыяграфія звычайна ставіла кропку. Слушнасць аўтарскага назірання пацвярджаецца працамі Р. Лазько пра новую актуалізацыю гісторыі ў выглядзе Ягелонскай ідэі пасля Рыжскай дамовы 1921 г.[100], А. Вабішчэвіча[101] і А. Смалянчука пра пэўную прывязанасць часткі эліты народаў былога ВКЛ да ідэі суверэнітэту гістарычнай Літвы ў 20–30-я гг. XX ст.[102]. А. Смалянчук сваю манаграфію пра ідэолага і лідара краёвага руху Р. Скірмунта (1868–1939) прысвяціў «апошнім грамадзянам Вялікага Княства Літоўскага»[103].

Асобныя аспекты ўзнятай у манаграфіі тэмы закраналі

---

[95] На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы / В. В. Яноўская [і інш.]; навук. рэд. В. В. Яноўская; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 286.

[96] *Круталевич В. А.* История Беларуси. Становление национальной державности. Минск: Право и экономика, 2003. С. 141–239.

[97] *Багалейша С.* Дзейнасць Міністэрства беларускіх спраў у 1918–1924 гг. // Беларускі гістарычны часопіс. 2005. № 9. С. 22–26; *Багалейша С. В.* Беларуска-літоускія узаемаадносіны у 1915–1924 гг. Мінск: БДАТУ, 2014. 231 с.

[98] *Ціхаміраў А.* Беларусь у сістэме міжнародных адносін перыяду пасляваеннага ўладкавання Еўропы і польска-савецкай вайны (1918–1921 гг.). Мінск: Экаперспектыва, 2003. 400 с.

[99] *Хомич С.* Территория и государственные границы Беларуси в XX веке. От незавершенной этнической самоидентификации и внешнеполитического произвола к современному status quo. Минск: Экономпресс, 2011. 416 с.

[100] *Лазько Р.* Ягелонская ідэя ў Польскай Рэспубліцы пасля Рыжскага міру (1921 г.) // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 3. С. 25–37.

[101] *Wabiszczewicz A.* Idea Wielkiego Księstwa Litewskiego w białoruskiej myśli okresu międzywojennego (1920–1930) // Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. T. Bujnicki; K. Stępnik. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu M. Curie-Skłodowskiej, 2005. S. 299–305.

[102] *Смалянчук А.* «Краёвая ідэя» і беларускі нацыянальны рух у Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гг. // Homo Historicus 2012: Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад рэд. А. Смаленчука. Вільня: ЕГУ, 2012. С. 380–405; Смалянчук А. «Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі: зборнік навуковых артыкулаў. – Мінск: Зміцер Колас, 2016. 458 с.

[103] *Смалянчук А.* Раман Скірмунт (1868–1939). Жыццяпіс грамадзяніна Краю. Мінск: Зміцер Колас, 2018. 692 с.

ў сваіх працах беларускія гісторыкі за мяжой. Я. Запруднік (ЗША) вывучаў палітычнае змаганне за Беларусь у царскіх Дзяржаўных думах у 1906–1917 гг. і бачыў уплыў гістарычнай традыцыі ў пастаноўцы пытання аб яе будучыні[104]. Ю. Весялкоўскі (Вялікабрытанія) у манаграфіі «Беларусь у Першай Сусветнай вайне» ўдзяліў увагу арганізацыі «Канфедэрацыя ВКЛ»[105]. Пра яе ж згадвае Ю. Туронак (Польшча)[106], які назваў ЛітБел тэрмінам «Советское Великое Княжество Литовское»[107].

**У сучаснай расійскай гістарыяграфіі** кола пытанняў, звязаных з заходнімі ўскраінамі імперыі, пашырылася за кошт цікавасці да праблем нацыянальнай палітыкі і нацыяналізму. У гэтым кантэксце пытанні ўзаемаадносін цэнтра і рэгіянальных эліт, узмацнення сепаратызму разглядаюцца ў манаграфіях Л. Я. Гарызонтава[108], А. А. Камзолавай[109], А. Ю. Бахтурынай[110], М. Далбілава і А. Мілера[111], на старонках часопіса «Ab imperio»[112] і інш. Іх высновы аб больш высокай інтэнсіўнасці палітычных працэсаў на заходніх землях у параўнанні з іншымі часткамі Расіі[113] і аб наяўнасці там больш моцных элітных дваранскіх і інтэлігенцкіх груп[114], аб спалучэнні палітыкі ўмацавання адзінства дзяржавы з

[104] *Запруднік Я.* Палітычнае змаганне за Беларусь у царскіх Дзяржаўных думах (1906–1917 гг.) // ARCHE. 2009. № 1/2. С. 43–217.

[105] *Весялкоўскі Ю.* Беларусь у Першай Сусветнай вайне (Гістарычны нарыс). Беласток; Лёндан, 1996. 361 с.

[106] *Turonek J.* Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawa: Warszawska Oficyna Wydawnicza «Gryf», 1992. 148 с.

[107] *Туронок Ю.* Нежеланная республика // Деды: дайджест публикаций о белорусской истории / сост., научн. ред. А. Е. Тараса. Минск: Харвест, 2011. С. 218–238.

[108] *Горизонтов Л. Е.* Парадоксы имперской политики: поляки в России и русские в Польше. М.: Индрик, 1999. 272 с.

[109] *Комзолова А. А.* Политика самодержавия в Северо-Западном крае в эпоху Великих реформ. М.: Наука, 2005. 384 с.

[110] *Бахтурина А. Ю.* Окраины Российской империи: государственное управление и национальная политика в годы Первой мировой войны (1914–1917 гг.). М.: РоссПЭН, 2004. 392 с.

[111] Западные окраины Российской империи / ред. М. Долбилов, А. Миллер. М.: Новое литературное обозрение, 2006. 608 с.; Миллер А. Империя Романовых и национализм: Эссе по методологии исторического исследования. М.: Новое литературное обозрение, 2006. 248 с.

[112] Исследование империи и национализма // Ab imperio. 2004. № 4. С. 484–601.

[113] Западные окраины Российской империи / ред. М. Долбилов, А. Миллер. М.: Новое литературное обозрение, 2006. 608 с.

[114] *Миллер А.* Империя Романовых и национализм: Эссе по методологии исторического исследования. М.: Новое литературное обозрение, 2006. С. 66.

неабходнасцю прыслухоўвацца да рэгіянальных праблем[115], аб рэзкім узмацненні нацыянальнага фактару ва Усходняй Еўропе ў канцы Першай сусветнай вайны[116] дапамагаюць лепш зразумець той усходнееўрапейскі імперскі і нацыянальны кантэкст, у якім разгортваўся рух за адраджэнне ВКЛ, хоць сам гэты рух расійскімі гісторыкамі не даследуецца.

Адзін з праектаў геапалітычнага ўладкавання тэрыторыі ВКЛ і Польскага каралеўства, якія прапаноўвалі напярэдадні вайны 1812 г. Напалеону яго польскія дарадчыкі[117], стаў прадметам аналізу **сучаснага ўкраінскага гісторыка** В. Ададурава ў манаграфіі «Наполеоніда» на Сході Європи»[118]. Гэта праца выклікала моцны навуковы і грамадскі рэзананс ва Усходняй Еўропе, бо стварыла прэцэдэнт грунтоўнай навуковай распрацоўкі аднаго з праектаў уладкавання часткі Украіны пасля верагоднай перамогі Напалеона. У гэтым праекце аўтарства генерала М. Сакальніцкага прысутнічаюць цікавыя сюжэты аб ролі, якая адводзілася ў яго рэалізацыі беларускім землям і насельніцтву.

У вялізнай **польскай літаратуры** другой паловы XIX – пачатку XXI ст. па гісторыі змагання за адраджэнне Рэчы Паспалітай удзяляецца значная ўвага ўдзелу ў ім беларускага і літоўскага народаў. Аднак гэты ўдзел разглядаецца скрозь прызму польскай канцэпцыі, якая да нядаўняга часу ігнаравала спецыяльную пастаноўку пытання аб палітычным лёсе народаў былога ВКЛ і адметнасці іх адраджэнскага руху, які ў такой трактоўцы раствараўся «ў цяні» польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

Пытанню аб палітычнай сітуацыі і грамадскіх настроях на землях Беларусі і Літвы пасля 1795 г., іх удзелу ў змаганні за адраджэнне Рэчы Паспалітай удзялілі ўвагу М. Кукель[119], які

---

[115] *Бахтурина А. Ю.* Окраины Российской империи: государственное управление и национальная политика в годы Первой мировой войны (1914–1917 гг.). М.: РоссПЭН, 2004. С. 6.

[116] *Миллер А.* Империя Романовых и национализм: Эссе по методологии исторического исследования. М.: Новое литературное обозрение, 2006. С. 206.

[117] *Ададуров В.* Проекти французького командування стосовно південно-західних земель Російської імперії під час підготовчого та наступального етапів военної кампанії 1812 року // Вісник Львівського університету. Сер. історія. 2010. Вип. 45. С. 127–167.

[118] *Ададуров В.* «Наполеоніда» на Сході Європи: Уявлення, проекти та діяльність уряду Франції щодо південно-західних окраїн Російської імперії на початку XIX століття. Львів: Видавництво Українського Католицького Університету, 2007. 560 с.

[119] *Kukiel M.* Dzieje Polski porozbiorowe: 1795–1921. Londyn: Spotkania, 1961. 663 s.

даследаваў прадпрынятыя ў 1795–1797 гг. спробы арганізацыі вызваленчага паўстання[120]. П. Вандыч[121], А. Шварц[122] і інш.

Антынапалеонаўская канцэпцыя А. Чартарыйскага, грунтаваныя на ёй праекты 1805–1810 гг. адбудовы Рэчы Паспалітай і месца ў іх ВКЛ разгледжаны Е. Скаўронкам[123]. Некалькі старонак сваёй манаграфіі пра палітыка К. Друцкага-Любецкага С. Смолка прысвяціў яго ўдзелу ў распрацоўцы ў 1811–1812 гг. праекта адраджэння ВКЛ пад скіпетрам Аляксандра I[124].

Непрацяглая гісторыя ВКЛ, адноўленага імператарам французаў, знайшла адлюстраванне ў грунтоўных манаграфіях Я. Івашкевіча «Літва ў 1812 годзе»[125] і Д. Наўрата «Літва і Напалеон у 1812 годзе»[126]. Праекты 1813–1830 гг. злучэння «Літвы» з Польскім каралеўствам ахарактарызаваў Г. Масціцкі[127].

Значным з'яўляецца ўклад польскай гістарыяграфіі ў даследаванне гісторыі тайных арганізацый канца XVIII–XIX ст. у Літве і Беларусі. Пытанні палітычнай ідэалогіі «Віленскай асацыяцыі» закранаў Ю. Мілер[128], масонскіх ложаў пачатку XIX ст. – С. Малахоўскі-Лямпіцкі[129], маладзёжных таварыстваў першай паловы XIX ст. – М. Дунаёва[130] і А. Камінскі[131],

---

[120] *Kukiel M.* Próby powstancze po trzecim rozbiorze.1795–1797. Kraków; Warszawa: Druk W. L. Anczyca i spółki, 1912. 516 s.

[121] *Wandycz P.* Pod zaborami. Ziemie Rzeczypospolitej w latach 1795–1918; przełożył z angielskiego W. Zajączkowski. Warszawa : Państwowy Instytut Wydawniczy, 1994. 551 s.

[122] *Szwarc A.* Pod obcą wladzą. 1795–1864. Warszawa: Bellona, 1997. 133 s.

[123] *Skowronek J.* Antynapoleońskie koncepcje Czartoryskiego. Warszawa: PWN, 1969. 380 s.

[124] *Smolka S.* Polityka Lubeckiego przed powstaniem listopadowym. Kraków: Akademia Umiejętności, 1907. T. 1. 555 s.

[125] *Iwaszkiewicz J.* Litwa w roku 1812. Kraków; Warszawa: Druk W. L. Anczyca i Spółki, 1912. 442 s.

[126] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. 792 s.

[127] *Mościcki H.* Projekty połączenia Litwy z Krolestwem Polskim w okresie 1813–1830. Warszawa: Wydawnictwo Towarzystwa straży kresowej, 1921. 20 s.

[128] *Miller A.* Perwsza porozbiorowa konspiracja litewska: Spisek ks. Ciecierskiego, przeora dominikanów Wileńskich (1796–1797): studjum historyczne. Kraków: Nakł. OO. Dominikanów, 1936. 174 s.

[129] *Małachowski-Łempicki S.* Wolnomularstwo na ziemiach dawnego WKL (1776–1822). Dzieje i materiały. Wilno: Nakładem Towarzystwa Przyjaciół Nauk, skład główny w księgarni św. Wojciecha, 1930. 213 s.

[130] *Dunajowa M.* T. Zan: Lata uniwersyteckie. 1815–1824. Wilno: T-wo przyjaciół nauk, 1933. 282 s.

[131] *Kamiński A.* Polskie związki młodzieży (1804–1831). Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1963. 554 s.; *Kamiński A.* Polskie związki młodzieży (1831–1848).

паўстанцаў 1830–1831 гг. – А. Барчэўска-Крупа[132], змоўніцкіх рухаў 1846–1848 гг., 1861–1862 гг. і паўстання 1863–1864 гг. – Д. Файнгаўз[133], С. Ланец[134], С. Кеневіч[135], Я. Фядушка[136]. Усе гэтыя рухі, арганізацыі, паўстанні названыя аўтары лічаць польскімі, іх удзельнікаў – змагарамі за польскую ідэю, хоць часам і адзначаюць іх «літоўскі» патрыятызм. Развіццё на мяжы 50-х – 60-х гг. XIX ст. ліберальнай палітычнай думкі ў Беларусі і Літве, арыентаванай на дамаганне аўтаноміі для тэрыторыі гістарычнай Літвы, вывучалі Д. Файнгаўз[137], Д. Шпопер[138], Г. Глэмбоцкі[139], П. Дамброўскі[140].

Несумненную цікавасць уяўляе трактоўка гісторыі Літвы[141] і ідэалогіі літоўскага нацыянальна-культурнага руху Е. Ахманскага[142], які згадваў пра няспраўджаную надзею шляхты на аднаўленне ВКЛ у другой палове 1812 г., пра

---

Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1968. 288 s.

[132] *Barczewska-Krupa A.* Generacja powstańcza 1830–1831. Łódź: Wyd-wo Łódźkie, 1985. 380 s.

[133] *Fajnhauz D.* 1863: Litwa i Białoruś. Warszawa: Neriton, 1999. 357 s.; *Fajnhauz D.* Ruch konspiracyjny na Litwie i Białorusi. 1846–1848. Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1965. 404 s.

[134] *Laniec S.* Litwa i Białoruś w dobie konspiracji i powstania zbrojnego (1861–1864). Olsztyn: Osrodek Badań Naukowych im. W. Ketrzyńskiego, 2002. 196 s.; *Laniec S.* Powstanie styczniowe na Litwie. Olsztyn: Instytut Historii Uniwersytetu Warmińsko-Mazurskiego, 2000. 172 s.

[135] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Материалы и документы / гл. ред.: С. Кеневич и др. М.: Наука, 1965. 588 с.; *Kieniewicz S.* Dramat trzeźwych entuzjastów. O ludziach pracy organicznej. Warszawa: Wiedza powszechna, 1964. 237 s.

[136] *Feduszka, J.* Powstanie Listopadowe na Litwie i Zmudzi // Teka Kom. Hist. OL PAN, 2004, 1. S. 110–160.

[137] *Fajnhauz D.* Śladami Wielopolskiego, Wiktor Starzeński i jego projekty ugody polsko-rosyjskiej na Litwie i Białorusi (1861–1863) // Przegląd Historyczny. 1994. Z. 3. S. 239–253.

[138] *Szpoper D.* Pomiędzy caratem a snem o Rzeczypospolitej. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich w guberniach zachodnich Cesarstwa Rosyjskiego w latach 1855–1862. Gdańsk: Wydawnictwo Uniwersytetu Gdańskiego, 2003. 626 s.

[139] *Głębocki H.* Dzieje „litewskiego Wielopolskiego». Hr. Wiktor Starzeński i projekty autonomii prowincji litewskich przed powstaniem styczniowym // Naród-państwo. Europa Środkowa w XIX i XX wieku: Studia ofiarowane Michałowi Pułaskiemu w pięćdziesięciolecie pracy naukowej; red. A. Patek i W. Rojek. Kraków, 2006. S. 45–56.

[140] *Dąbrowski P.* «Litewski Wielopolski» – program hrabiego Wiktora Starzeńskiego przed 1863 rokiem // Próba ustrojowej rekonstrukcji Królestwa Polskiego w latach 1861–1862: w 150. rocznicę reform margrabiego Aleksandra Wielopolskiego: praca zbiorowa / pod red. L. Mażewskiego. Olsztyn: Pracownia Wydawnicza ElSet, 2012. S. 73–83.

[141] *Ochmański J.* Historia Litwy. Wyd. trzecie. Wrocław; Warszawa; Kraków: Zakład Narodowy im. Ossolińskich, 1990. 395 s.

[142] *Ochmański J.* Litewski ruch narodowo-kulturalny w XIX wieku (do 1890 r.). Białystok: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1965. 201 s.

адраджэнне незалежнасці ВКЛ у межах былой Рэчы Паспалітай як палітычнай мэце паўстання 1831 г.[143] і інш. Разуменню грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. дапамагаюць працы С. Ланеца[144].

Польскі погляд на пытанне аб адраджэнні ВКЛ, якое ўсплыла ў канцы Новага часу, прэзентуюць працы сучаснікаў і першых даследчыкаў тых падзей Л. Васілеўскага[145] з уласцівай яму сімпатыяй да народаў гістарычнай Літвы[146]; В. Вельгорскага[147]; работнікаў польскіх спецслужбаў 1920-х гг.[148] і інш. В. Сукенніцкаму[149] і З. Панарскаму (Канада)[150] належыць прыярытэт у навуковай пастаноўцы пытання аб дзейнасці арганізацыі «Канфедэрацыя ВКЛ», да таго амаль невядомай гісторыкам.

Польскія федэралісцкія канцэпцыі другой паловы XIX – першых дзесяцігоддзяў XX ст. з іх Ягелонскай ідэяй і месца ў іх Беларусі і Літвы сталі прадметам увагі Ю. Левандоўскага[151], К. Грунберга[152] і інш., спецыяльнага даследавання

---

143 *Ochmański J.* Historia Litwy. Wyd. trzecie. Wrocław; Warszawa; Kraków: Zakład Narodowy im. Ossolińskich, 1990. S. 186–187, 193.

144 *Laniec S.* Białoruś w dobie kryzysu społeczno-polityznego (1900–1914). Olsztyn: Druk: Wyższa Szkoła Pedagogiczna, 1993. 135 s.; *Laniec S.* Białoruś w drugiej polowie XIX stulecia. Olsztyn: Wyższa Szkoła Pedagogiczna, 1997. 205 s.

145 *Wasilewski L.* Dzieje zjazdu paryskiego 1892 roku. Przyczynek do historji polskiego ruchu socjalistycznego. Warszawa: Wydawnictwo Instytutu Badania Najnowszej Historji Polski, 1934. 48 s.; *Wasilewski L.* Rosyjskie partye polityczne i ich stosunek do sprawy polskiej. Kraków: Drukarnia W. Teodorczuka, 1905. 144 s.; *Wasilewski L.* Zarys dziejów polskiej partji socjalistycznej w związku z historją socjalizmu polskeigo w trzech zaborach i na emigracji. Warszawa: «Nowe Życie», 1925. 224 s.

146 *Wasilewski L.* Kresy wschodnie. Litwa i Białorus-Podliasie i Chelmszczyzna. Galicya wshodnia-Ukraina. Warszawa; Kraków: Towarzystwo Wydawnicze w Warszawie, 1917. VII, 109 s.; *Wasilewski L.* Litwa i jej ludy. Warszawa: Księgarnia Naukowa, 1907. 81 s.

147 *Wielhorski W.* Litwa etnograficzna. Przyroda, jako podstawa gospodarcza. Rozwój stosunków narodowościowych. Wilno: Wydawnictwo Wileńskiego Biura Informacyjnego, 1928. 218 s.; *Wielhorski W.* Litwa współczesna. Warszawa: Wojskowy Instytut Geograficzny, 1938. 255 s.

148 Кароткі нарыс беларускага пытаньня. Мінск: Выдавец І. П. Логвінаў, 2009. 396 с.

149 *Sukiennicki W.* Początki Ober-Ostu i sprawa Konfederacji W. Ks. Litewskiego w 1915–1916 // Zeszyty Historyczne.1974. T. 28. S. 99–104.

150 *Ponarski Z.* Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916 // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 1998. № 10. S. 56–67.

151 *Lewandowski J.* Federalizm. Litwa i Białoruś w polityce obozu belwederskiego (IX.1918–IV.1920). Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1962. 272 s.

152 *Grunberg K.* Polskie koncepcje federalistyczne 1864–1918. Warszawa: Książka i Wiedza, 1971. 358 s.

К. Гамулкі[153]. Беларускія сюжэты праходзяць па старонках прац Ю. Паеўскага[154], Ю. Вайтасіка[155] і інш. па праблеме адраджэння Польскай дзяржавы, З. Краеўскага па гісторыі Сярэдняй Літвы[156].

З памежжа XX–XXI ст. цікавасць польскай гістарыяграфіі да лёсу народаў гістарычнай Літвы ўзмацняецца[157]. Першынство ў пастаноўцы пытання аб спадчынніках ВКЛ належыць Ю. Бардаху[158], які прызнаваў істотным элементам іх нацыянальнай свядомасці захаванне традыцыі ўласнай дзяржаўнасці[159], а таксама звярнуў увагу на працэс дыферэнцыяцыі палітычнай нацыі ліцвінаў на этнічныя нацыі[160]. Ролю дзяржаўнай гістарычнай традыцыі ВКЛ у нацыянальным самаўсведамленні беларусаў у XIX ст. падкрэслівае таксама спецыяліст па пытаннях іх этнагенэзу Р. Радзік[161].

---

[153] *Гамулка К.* Паміж Польшчай і Расіяй. Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных фарміраванняў (1918–1922); пераклад з польскай мовы. Вільня, 2008. 256 с.

[154] *Pajewski J.* Odbudowa Państwa Polskiego. 1914–1918. Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2005. 354 s.

[155] *Wojtasik J.* Zmierzch i odrodzenie Rzeczypospolitej: z polskich dziejów politycznych i wojskowych do 1918 r. Warszawa: Vizja Press, 2009. 378 s.

[156] *Krajewski Z.* Geneza i dzieje wewnętrzne Litwy Środkowej (1920–1922). Lublin: Ośrodek Studiów Polonijnych i Społecznych PZKS w Lublinie, 1996. 172 s.

[157] Europa nieprowincjonalna. Przemiany na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej (Białoruś, Litwa, Łotwa, Ukraina, wschodnie pogranicze III Rzeczypospolitej Polskiej) w latach 1772–1999 / red. K. Jasiewicz. Warszawa: Rytm Oficyna Wydawnicza, 1999. 1496 s.

[158] *Бардах Ю.* Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага [Тэкст]; пер. з пол. М. Рамаmaking ноўскага; пер. з фр. А. Істоміна; уклад. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. 456 с.; *Bardach J.* O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań: Wydawnictwo Naukowe UAM, 1988. 443 s.

[159] *Бардах Ю.* Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага [Тэкст]; пер. з пол. М. Раманоўскага; пер. з фр. А. Істоміна; уклад. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. С. 393.

[160] *Bardach J.* Od narodu politycznego do narodu etnicznego w Europie Środkowo-Wschodniej ardach // Kultura i Społeczeństwo. 1993. № 4. S. 3–16; *Bardach J.* Polacy a narody Litwy historycznej – proba analizy systemowej // Kultura i Społeczeństwo. 1994. № 2. S. 35–52.

[161] *Радзик Р.* Петербургские народники – творцы современной белорусской национальной идеи // Белорусский сборник: статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. СПб.: Изд-во Российской национальной библиотеки, 2005. Вып. 3. С. 75–86; *Radzik R.* Między zbiorowością etniczna a wspolnotą narodowa: Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Środkowo-Wschodniej XIX stulecia. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej, 2000. 301 s.; Tożsamości zbiorowe białorusinów / pod red. R. Radzika. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej, 2012. 422 s.

Навуковую праблему дзяржаўна-палітычнай спадчыны ВКЛ, яе выкарыстання правапераемнікамі развіў, храналагічна давёў да 1939 г. і зрабіў на матэрыяле краёвага руху прадметам самастойнага даследавання Д. Шпопер[162]. Сёння ён – галоўны спецыяліст па дадзенай праблеме ў еўрапейскай гістарыяграфіі. Краёўцаў з беларускіх зямель, для якіх і ў 1904–1939 гг. гістарычная Літва заставалася ідэалам дзяржавы, ён лічыць кансерватарамі, а іх погляды – праявай польскай палітычнай думкі.

Зборнік артыкулаў польскіх і беларускіх навукоўцаў «Апошнія грамадзяне Вялікага Княства Літоўскага» прысвечаны праграмам, творчасці і палітычным дзеячам XX ст. (Ю. Пілсудскаму, Л. Абрамовічу, Е. Гедройцу, Ч. Мілашу і інш.), якім было ўласцівае нягзаслае пачуццё прыналежнасці да ВКЛ[163].

Укладам польскай гістарыяграфіі ў распрацоўку ідэі і спадчыны ВКЛ у першай палове XX ст. як навуковай праблемы з'яўляюцца манаграфіі Ю. Савіцкага і З. Соляка, прысвечаныя дзейнасці ідэолага літоўска-беларускага краёвага руху М. Ромера[164] і яго поглядам на нацыянальныя праблемы на землях былога ВКЛ[165]. Уяўляе цікавасць артыкул Ю. Савіцкага аб масонскай ложы «Вялікі Усход Літвы»[166] з яе прынцыпам захавання цэласнасці гістарычнай Літвы, а таксама працы Е. Юркевіча пра палітычную думку Літвы і Беларусі[167] і І. Янушэўскай-Юркевіч пра беларускія «краёвыя» ініцыятывы[168], міжнацыянальныя спрэчкі з-за Вільні і спробу адраджэння гістарычнай Літвы ў 1919–1921 гг. у іх кантэксце[169].

[162] *Szpoper D.* Gente Lithuana, Natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt. Gdańsk: Arche, 2009. 487 s.; *Szpoper D.* Sukcesorzy Wielkiego Księstwa. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1904–1939. Gdańsk: Arche, 1999. 357 s.

[163] Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. T. Bujnicki; K. Stępnik. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu M. Curie-Skłodowskiej, 2005. 341 s.

[164] *Solak Z.* Między Polska a Litwa. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920. Kraków: Wydawnictwo Arcana, 2004. 484 s.

[165] *Sawicki J.* Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń: TNT, 1998. 153 s.

[166] *Sawicki J.* Z dziejów «Wielkiego Wschodu Litwy» // Przegląd Wschodni. 1997. T. IV, zeszyt 2 (14). S. 443–450.

[167] *Jurkiewicz J.* Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905–1922. Poznań: Wydawn. Nauk. Uniw. im. A. Mickiewicza, 1983. 259 s.

[168] *Januszewska-Jurkiewicz J.* Dwie «krajowe» inicjatywy białoruskie na Litwie Środkowej // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2001. Z. 16. S. 197–218.

[169] *Januszewska-Jurkiewicz J.* Spór o Wilno w latach 1919–21 a próba wskrzeszenia Litwy historycznej, jako państwa trzech narodów // Interstitio. East European Review of His-

Узрастаючая цікавасць да праблемы адраджэння ВКЛ характэрна для **літоўскай гістарыяграфіі**. Месца «літоўскага пытання» ў міжнароднай палітыцы еўрапейскіх дзяржаў у 1795–1815 гг. даследаваў Б. Дундуліс[170], дзейнасць напалеонаўскай адміністрацыі ў Літве ў 1812 г. – В. Пугачаўскас[171]. Барацьба народаў ВКЛ за дзяржаўнае самавызначэнне ў ХІХ – пачатку ХХ ст. знайшла адлюстраванне ў працах Е. Александравічуса і А. Кулакаўскаса[172], З. Кяупы[173], Д. Сталюнаса[174] і інш.

Пытанне аб месцы дзяржаўна-палітычнай традыцыі ВКЛ у літоўскім руху ў 1904–1905 гг. закранаецца ў артыкуле Р. Мікныса, прысвечаным віленскім «аўтанамістам»[175]. Дзейнасць у 1915–1916 гг. тых палітычных колаў, якія намерваліся адрадзіць Княства; абставіны з'яўлення праграмных дакументаў Канфедэрацыі ВКЛ і развіццё ідэі літоўскай дзяржавы, якая спачатку выражалася ў дваякай формуле: дзяржаўнасць Літвы або змадыфікаванага ВКЛ у палітычнай сістэме Сярэдняй Еўропы, вывучаў Р. Лапата[176].

Э. Гімжаўскас даследаваў беларускі фактар фарміравання літоўскай дзяржавы ў 1915–1923 гг., паказаў развіццё літоўска-беларускіх адносін, прааналізаваў праявы беларускай нацыянальнай палітычнай думкі ў 1915–1918 гг., прасачыў

torical Anthropology. 2007. December. Vol. 1, № 2. P. 176–199; *Januszewska-Jurkiewicz J.* Stosunki narodowościowe na Wileńszczyźnie w latach 1920–1939. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2010. 710 s.

[170] *Dundulis B.* Lietuva Europos politikoje. 1795–1815. Vilnius: Mokslo ir enciklopedijų leidybos institutas, 1998. 121 p.; *Dundulis B.* Napoléon et la Lithuanie en 1812. Paris: Presses Universitares de France, 1940. 344 p.

[171] *Пугачаускас В.* Литва в войне 1812 года [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: estorussica/estica/ros_balt/2015/paguchauskas. Дата доступу: 24.01.2019; *Pugačiauskas V.* Napoleno administracja Lietuvoje. Vilnius: Vagis, 1998. 205 p.

[172] *Aleksandravičus E., Kulakauskas A.* Pod władzą carów. Litwa w XIX wieku. Krakòw : Universitas, 2003. 414 s.

[173] *Kiaupa Z.* Lietuvos valstybes istorija. Vilnius: Baltos lankos, 2006. 311 p.

[174] *Staliunas D.* Konserwatywna szlachta litewska w połowie XIX w. – kwestia podwójnej świadomości politycznej // Kultura Litwy i Polski w dziejach. Tożsamość i współistnienie / red. J. Wyrozumski. Kraków, 2000. 204 s.; *Сталюнас Д.* Канцэпцыя персанальнай культурнай аўтаноміі ў Літве і Беларусі (пачатак ХХ стагоддзя) // Палітычная сфера. 2012. № 18–19. С. 77–86.

[175] *Miknys R.* Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905 // Lithuano-Slavica Poznaniensia Studia Historica. 2001. T. VIII. S. 97–112.

[176] *Lopata R.* W kręgu projektów odrodzenia Wielkiego Księstwa Litewskiego (1915–1916) // Lituano-Slavica Posnaniensia: studia historica. 2001. Vol. VIII. P. 155–171.

абставіны адыходу літоўцаў ад супольнага з беларусамі праекта ўтварэння дзяржавы на аснове традыцый ВКЛ[177].

Названыя аўтары і іх працы даюць літоўскі погляд на праблему з яго прэтэнзіяй на манаполію на спадчыну ВКЛ у наш час, як і ў пачатку XX ст.

**У заходнееўрапейскай гістарыяграфіі** грамадска-палітычная гісторыя Беларусі 1795–1939 гг. вывучана слаба. Прызнаючы гэта, аўстрыйскі гісторык А. Капелер у працы «Россия – многонациональная империя: Возникновение. История. Распад»[178] лічыць, што этнасы перыферыі імперыі не трэба разглядаць толькі як аб'екты дзяржаўнай палітыкі, але як сілы, што ў значнай ступені вызначалі яе гістарычнае развіццё. Сярод фактараў, якія падрывалі моц імперыі, даследчык называе дваранска-рамантычную традыцыю, «якая метадам узброенага паўстання разлічвала адрадзіць старую ягелонскую дзяржаву» і якой рухала ў тым ліку «пачуццё патрыятызму ў дачыненні да роднага краю і не страчаны гістарычны ўспамін пра Вялікае Княства Літоўскае»[179].

А. Капелер скептычна ацэньвае шанцы на поспех і «магчымасці захавання і існавання ВКЛ, звязанага з Расіяй толькі дамовай-саюзам, прыкладна так, як гэта прапанаваў у 1811 г. М. Агінскі»[180], а таксама спробу Ю. Пілсудскага «злучыць сацыяльныя і нацыянальныя мэты … з дваранска-рамантычнай традыцыяй»[181]. Затое даследчык прызнае ролю ў развале імперыі нацыянальных рухаў «старых» нацый (палякаў), а таксама нацый «маладых», да ліку якіх адносіць беларусаў з літоўцамі[182].

**Англамоўная гістарыяграфія** прадстаўлена працай брытанскага гісторыка Н. Дэвіса аб зніклых каралеўства Еўропы з главой аб гісторыі, спадчыне ВКЛ і лёсе нацый, якія з яго выйшлі[183]; манаграфіяй амерыканскага прафесара Т. Снайдэра

[177] *Гімжаўскас Э.* Беларускі фактар пры фармаванні літоўскай дзяржавы ў 1915–1923 гг. Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. 216 с.; *Гімжаўскас Э.* Беларускі фактар утварэння сучаснай літоўскай дзяржавы. 1915–1917 гг. // Гістарычны альманах. Гародня; Беласток, 2005. Т. 11. С. 57–70.

[178] *Каппелер А.* Россия – многонациональная империя: Возникновение, история, распад. – М.: Прогресс-Традиция, 1997. 344 с.

[179] Тамсама. С. 161, 165.

[180] Тамсама. С. 65.

[181] Тамсама. С. 161.

[182] Тамсама. С. 161–169.

[183] *Davies N.* Vanished Kingdoms: The History of Half-Forgotten Europe. London: Allen Lane, 2011. P. 229–308.

«Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569–1999» аб досведзе выкарыстання дзяржаўна-палітычнай спадчыны ВКЛ прэтэндэнтамі на яе і прычынах пройгрышу беларусамі ідэалагічнай бітвы за спадчыну Княства літоўцам[184]; а таксама кнігай А. Залускага, прапрапраўнука М. К. Агінскага, пра свайго знакамітага продка[185].

Н. Дэвіс адзначыў, што ў XIX ст. былое ВКЛ уяўляла сабой арэну бурнай і насычанай падзеямі палітычнай барацьбы. Першыя два-тры пакаленні ліцвінаў пад уладай Расійскай імперыі гісторык характарызуе як пасіўных змагароў з новымі парадкамі, хоць часам іх пратэст прымаў вельмі актыўныя формы. Наступныя тры ці чатыры пакаленні былі глыбока ахоплены новымі палітычнымі і нацыянальнымі рухамі. Па словах даследчыка, «людзі былога Вялікага Княства Літоўскага» зніклі з поля зроку ў самым канцы XVIII ст., з кароткім вяртаннем у гады рускай рэвалюцыі, і зноў з'явіліся на паверхні толькі ў канцы XX ст.

**Такім чынам**, праекты рэалізацыі беларускай дзяржаўнасці ў гістарычнай форме ВКЛ былі абыйдзены ўвагай гісторыкамі СССР. Мяжа XX–XXI ст. адзначылася прарывам і новымі падыходамі да вывучэння гэтай праблемы. Пастаноўка грамадска-палітычным рухам Беларусі 1795–1939 гг. пытання аб адраджэнні ВКЛ прываблівае ўвагу не толькі гісторыкаў краін, якія ў той час прэтэндавалі на спадчыну ВКЛ, г.зн. Беларусі, Расіі, Польшчы, Літвы, але і даследчыкаў з Канады, ЗША, Вялікабрытаніі, Аўстрыі. Намеры і спробы адраджэння ВКЛ разглядаюцца ў розных кантэкстах: гісторыі грамадска-палітычных, нацыянальна-вызваленчых рухаў народаў былой Рэчы Паспалітай, паўстанняў; гісторыі міжнародных адносінаў і знешняй палітыкі, войнаў 1812 г. і 1914–1918 гг.; гісторыі беларускай нацыі і дзяржавы ў першыя дзесяцігоддзі XX ст.

Разам з тым дасягненні папярэднікаў, айчынных і замежных даследчыкаў, тэмы барацьбы за адраджэнне ВКЛ далёка не вычэрпваюць. Маюць далейшую перспектыву для распрацоўкі наступныя праблемы: грамадскія настроі і пазіцыя эліт былога

[184] *Снайдэр Т.* Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569–1999; пер. з англ.; навук. рэд. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. 424 с.

[185] *Залусский А.* Время и музыка Михала Клеофаса Огинского: пер. с англ. / А. Залусский. Минск: Четыре четверти, 1999. 191 с.

ВКЛ у канцы XVIII – першай трэці XIX ст.; месца «ліцвінскага патрыятызму» ў «рэчпаспалітаўскім патрыятызме»; пастаноўка пытання аб адраджэнні ВКЛ у дзейнасці тайных таварыстваў, у паўстаннях XIX ст., краёвым руху. Патрабуюць перагляду пытанні аб дзяржаўна-палітычнай традыцыі ВКЛ у поглядах лідараў партыі «белых» у Беларусі, аб часе адмовы беларускіх дзеячаў ад намеру стварыць дзяржаву на аснове традыцыі ВКЛ. Далейшая ўвага неабходна канцэпцыям геапалітычнага ўладкавання беларуска-літоўскага рэгіёна, вылучаным у 1915–1917 гг. беларускім нацыянальным рухам. Адсутнічае цэласнае даследаванне па праблеме грамадска-палітычнага руху ў Беларусі за аднаўленне ВКЛ ад яго зараджэння да зыходу з гістарычнай арэны.

## 2. Характарыстыка крыніц

Даследаванне грунтуецца на дакументальных і апавядальных пісьмовых крыніцах. З улікам сферы, у якой яны ўзніклі, – гэта крыніцы асабістага паходжання (успаміны, дзённікі, эпісталярый); створаныя ў грамадскай сферы (літаратурныя, публіцыстычныя і палітычныя творы, перыёдыка); звязаныя з дзяржаўнай сферай (заканадаўства, матэрыялы справаводства і інш.). Па сацыяльна-прафесійнаму складу творцамі крыніц былі прадстаўнікі ўплывовых магнацкіх колаў, шляхта як інтэлектуальная эліта грамадства, разначынцы, чыноўнікі рознага рангу мясцовай адміністрацыі, вышэйшыя саноўнікі Расійскай імперыі, прадстаўнікі ваеннага камандавання розных дзяржаў (Францыі, Германіі і інш.), мясцовыя і замежныя палітыкі. Па стаўленню іх аўтараў да пытання аб адраджэнні ВКЛ крыніцы ўмоўна падзяляюцца на дзве групы: 1) выйшлі з-пад пяра саміх удзельнікаў грамадска-палітычнага руху; 2) напісаны іх апанентамі і ганіцелямі.

**Помнікі заканадаўства** прадстаўлены загадамі і распараджэннямі цэнтральных і мясцовых расійскіх улад, галоўным чынам, на прадмет кантролю за грамадскай думкай, нейтралізацыі апазіцыйных настрояў, пакарання за намеры і спробы расчлянення імперыі. Да крыніц такога роду адносяцца, напрыклад, універсал правіцеля Літоўскай губерні М. Рапніна да «літоўскіх грамадзян» ад 2 (13) лістапада

1797 г. з нагоды выкрыцця «Віленскай асацыяцыі»[186]; універсал Аляксандра I «Да ліцвінаў», выдадзены 12 (24) снежня 1812 г. пасля вызвалення тэрыторыі былога ВКЛ ад французаў[187].

У полі зроку аўтара былі загады паўстанцкага кіраўніцтва на тэрыторыі Беларусі і Літвы 1794 г.[188], 1830–1831 гг. і 1863–1864 гг.[189], што ўказваюць на спецыфіку «літоўскіх» інтарэсаў у змаганні спачатку за выратаванне, а потым ўваскрашэнне Рэчы Паспалітай.

Для даследавання прыцягнуты значны пласт матэрыялаў **справаводства** цэнтральных і мясцовых органаў дзяржаўнай улады, прадстаўленых арганізацыйна-распарадчай, пратакольнай, справаздачнай, уліковай дакументацыяй, афіцыйнай перапіскай, а таксама судова-следчымі матэрыяламі.

Наладжванне функцыянавання адноўленага Напалеонам ВКЛ і дзейнасць яго вышэйшых і мясцовых органаў улады ў другой палове 1812 г. адлюстроўваюць пратаколы пасяджэнняў КЧУ ВКЛ, выяўленыя аўтарам у фондзе 12 РДАСА[190], а таксама справаводчая дакументацыя кіраўніцтва Гродзенскім дэпартаментам з НГАБГ[191]. «Акты, документы и материалы

[186] *Mościcki H.* Dzieje porozbiorowe Polski w aktach i dokumentach. Od rozbiorów do Księstwa Warszawskiego 1807 r. Warszawa; Kraków; Poznań; Wilno: Zakłady Drukarskie F. Wyszyński i S-ka, 1923. S. 43–44.

[187] До литвинов. Универсал Александра I, изданный в Вильно 12/24 декабря 1812 г. // БВУ. Спр. 2381. Арк. 10–11.

[188] *Анішчанка Я. К.* Збор твораў: у 6 т. Т. 1: Камісары Касцюшкі: Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі. Мінск: Выдавец В. Хурсік, 2004. 364 с.; *Анішчанка Я. К.* Збор твораў: у 6 т. Т. 2: Імем Айчыны: Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі. Мінск: Выдавец В. Хурсік, 2004. 236 с.; *Анішчанка Я. К.* Збор твораў: у 6 т. Т. 3: СССР: Святы саюз свабодных рыцараў: Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі.Мінск: Выдавец В. Хурсік, 2007. 306 с.

[189] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Материалы и документы / гл. ред.: С. Кеневич и др. М.: Наука, 1965. 588 с.; *Калиновский К.* Из печатного и рукописного наследия. Минск: Беларусь, 1988. 208 с.; *Каліноўскі К.* За нашу вольнасць. Творы, дакументы; уклад, прадм., паслясл., камент. Г. Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. 464 с.; Материалы польского восстания 1863 г. // РДВГА. Ф. 484. Воп. 2. Спр. 659. Арк. 1–126.

[190] Журнал заседаний Комиссий Временного правительства Великого княжества Литовского. 1812 г. // РДАСА. Ф. 12. Спр. 262.; Протоколы Виленской правительственной комиссии. 1812 г. // РДАСА. Ф. 12. Спр. 261.

[191] Дело об открытии в четырех департаментах уездных городов Гродненской губернии отделов самоуправления (24 августа – 26 ноября 1812 г.) // НГАБГ. Ф. 1168. Воп. 1. Спр. 2. 10 арк.; Переписка с временным управлением ВКЛ по организационным, хозяйственным и финансовым вопросам. 8 ноября – 22 ноября 1812 г. // НГАБГ. Ф. 1168. Воп. 1. Спр. 3. 225 арк.; Сборник документов по организационным, хозяйственным

по политической и бытовой истории 1812 года»[192] служаць вывучэнню ўплыву вайны на ажыўленне рэстаўратарскіх настрояў сярод шляхты беларуска-літоўскіх зямель, гісторыі стварэння КЧУ ВКЛ і яго дзейнасці па кіраванню жыццём краю, занятага французамі, і адраджэнню элементаў ранейшай дзяржаўнасці.

У распараджэнне даследчыка грамадска-палітычнага руху і праблемы дзяржаўнага самавызначэння народаў былога ВКЛ архівы прадстаўляюць багатыя калекцыі вельмі своеасаблівых дакументаў: данясенні агентаў, агентурныя зводкі, выпіскі з перлюстраваных лістоў, запіскі дзяржаўных дзеячаў і прыватных асоб, судова-следчыя матэрыялы. Група крыніц такога роду, выяўленая аўтарам у ДАРФ, у фондзе 1165 «Особая канцелярия при министре полиции», адлюстроўвае трывогу ўраду ў сувязі з інфармацыяй, якая паступала ў 1813–1819 гг. з заходніх губерняў, аб незадаволеных «аўтанамісцкіх» чаканнях мясцовай шляхты і яе паўстанцкіх настроях[193].

---

и финансовым вопросам Гродненского департамента за 1812 г. // НГАБГ. Ф. 1168. Воп. 1. Спр. 5. 33 арк.

[192] Акты, документы и материалы по политической и бытовой истории 1812 года / под ред. К. Военского. СПб.: Тип. А. Ф. Штольценбурга, 1909. Т. 1. 582 с.

[193] Дело о ревизии Могилевской, Гродненской и Подольской губерний. 31 января – 2 августа 1811 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 1. Спр. 491. 96 арк.; Дело по донесению генерального консула в Кенигсберге [Коцебу] о готовящемся восстании в Западных пограничных губерниях с помощью французских эмиссаров. 11–24 апреля 1815 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 1. Спр. 146. 12 арк.; Дело по наблюдению за политическим настроением жителей губерний, присоединенных от Польши. 21 марта – 7 июня 1812 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 1. Спр. 49. 43 арк.; Дело по отношению рижского военного губернатора Главнокомандующему в Петербурге о готовившемся мятеже в Литве. Начато 19 марта 1813 г. Окончено 16 августа 1814 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 1. Спр. 5; Дело по представлению гродненского губернатора о принятии мер против лиц, распространявших ложные слухи в связи с бегством Наполеона с о. Эльбы. 12 апреля – 28 мая 1815 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 1. Спр. 146. 6 арк.; О наблюдении за помещиками присоединенных от Польши губерний. 1812 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 1. Спр. 149. 45 арк.; О разсеивающих ложные слухи по случаю бегства Наполеона с о-ва Эльбы. 1815 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 1. Спр. 147. 6 арк.; Опись писем кн. Чарторыйского, Новосильцева, Собочевского, Маевского, Володкевича, Гродковского Александру I (с изложением краткого содержания (о нарушении польской конституции русскими властями, об образовании управления в Царстве польском и др. вопросам). 1812–1822 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 3. Спр. 11. 3 арк.; Переписка с минским гражданским губернатором и главнокомандующим в Петербурге о распространении в Минске листовок с текстом конституции, якобы данной Королевству. 5 июля – 31 августа 1815 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 1. Спр. 25. Арк. 1–8.; Письма кн. Чарторыского А. к Александру I о политических и национальных интересах Польши, о политических настроениях населения, о суровом режиме наместника и нарушении конституции, с ходатайствами о смягчении наказания и снятия секвестра с имений поляков.

Крыніцы з фонда 197 «Канцылярыя сенатара Навасільцава» ГАСА паказваюць грамадскую напружанасць у Беларусі, Літве і Польшчы ў сувязі з іх палітычнымі чаканнямі ў 1814–1815 гг.[194].

Агентурныя звесткі пра настроі жыхароў заходніх губерняў, збіраныя з нагоды ўступлення на трон Мікалая I, выяўлены ў РДВГА, у фондзе 410 «Документы по истории России». Сярод іх – справа аб таварыстве заран[195], агляд дзейнасці за 1800–1832 гг. Варшаўскага таварыства аматараў навук, якое аб’ядноўвала шмат прадстаўнікоў інтэлігенцыі з Беларусі і Літвы[196].

У НБП выяўлены матэрыялы пра пазбаўленне кафедр у 1824 г. перадавой віленскай прафесуры, якія адлюстроўваюць яе ўплыў на ідэалогію Таварыства філаматаў[197], а таксама матэрыялы пасляпаўстанцкага эміграцкага «Таварыства Літоўскага і Рускіх зямель» (статут, пратаколы пасяджэнняў, перапіска)[198].

З дакументаў фондаў канцылярыі віленскага генерал-губернатара і Віленскага ўніверсітэта ДГАЛ пачарпнута інфармацыя пра малавядомае студэнцкае таварыства «Патрыёты Айчыны» або «Племя сарматаў»[199]. Дакументы РДГА расказваюць пра разгляд у Сенаце справы апальнага

1812–1817 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 3. Спр. 10. 119 арк.; Письмо Карамзина Н. М. Александру I с советом не восстанавливать Польшу. 17 октября 1819 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 3. Спр. 22. 5 арк.

194 О наблюдении за поступками поляков по случаю политических обстоятельств в 1815 году. 12 февраля – 30 ноября 1815 г. // ГАСА. Ф. 197. Спр. 217. 409 арк.; О переписке разных лиц на счет политических обстоятельств. 1814 г. // ГАСА. Ф. 197. Спр. 109. 56 арк.; О шпионах и подозрительных людях. 5.4.1814–4.9.1815 г. // ГАСА. Ф. 197. Спр. 103. 151 арк.

195 Об обществе зорян в Вильно, Белостоке и Свислочи // РДВГА. Ф. 410. Спр. 61.

196 Записка «Исторический взгляд на бывшее Варшавское общество любителей наук в политическом отношении» // РДВГА. Ф. 410. Спр. 154. 117 арк.

197 Sprawa pozbawenia katedry Bobrowskiego, Daniłowicza, Gołuchowskiego i Lelewela przez Nowosilcowa w r. 1824 // НБП. Спр. 7675.

198 Towarzystwo Litewskie i Ziem Ruskich. Akta, tyczące się wybicia medalu na pamiątkę powstania Żmudzi, Litwy, Wolynia, Podola i Ukrainy. Paryż 1832 r. // НБП. Спр. III 6594. 80 арк.; Odpisy dokumentow «Towarzystwa Litewskiego i Ziem Ruskich» z lat 1831–1836 // НБП. Спр. 57384. 218 арк.

199 О наказаниях студентов Виленского университета с 1825 по 1830 г. // ДГАЛ. Ф. 721. Воп. 1. Спр. 768. 12 арк.; О полиции, учрежденной в Виленском университете для надзора за студентами с 1822 по 1833 г. // ДГАЛ. Ф. 721. Воп. 1. Спр. 775. 222 арк.; Следственное дело о тайном обществе Сармацкое племя или Приверженцы Отечества, здесь же о магистре Онацевиче, Горецком, Лисовском, Заборовском, Жемойтеле, Цехановиче. Началось 25 марта 1828 г. // ДГАЛ. Ф. 378. 1828 г. Спр. 644. 267 арк.

прафесара І. Анацэвіча, выдаленага за «шкодны» ўплыў на студэнцкую моладзь з Віленскага ўніверсітэта ў сувязі з выкрыццём гэтага таварыства[200].

Каштоўная інфармацыя аб працы інтэлектуалаў і грамадскіх настроях у Беларусі ў 1820–1860-я гг. і ўрадавых контрмерах адносна любых праяў сепаратызму выяўлена ў ДАРФ, у фондзе Трэцяга аддзялення імператарскай канцылярыі – палітычнай паліцыі, якая вяла барацьбу з рэвалюцыйным і нацыянальна-вызваленчым рухамі. Тут знаходзіцца матэрыял аб пакаранні за палітычныя злачынствы[201]. Дакументы Трэцяга аддзялення

[200] Дело о бывшем профессоре Виленского университета коллежском асессоре Онацевиче. 1835 г. // РДГА. Ф. 1151. Воп. 2. 1835 г. Спр. 52. 171 арк.; По указу Правительственного Сената с препровождением на заключение дела по предмету обвиненеия и удаления экстраординарного профессора упраздненного Виленского университета коллежского асессора Игнатия Онацевича. 27 августа 1833 г. – 10 января 1834 г. // РДГА. Ф. 733. Воп. 66. Спр. 101. 21 арк.

[201] Донесение жандармского штаб-офицера Минской губернии о распространении гимна «Боже, который Польшу столь много веков озарял славою». 4 ноября 1861 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 год. Спр. 449. 5 арк.; Записка главного делегата при Правительствующем Совете Царства стацкого советника Новосильцева Н. Н. о необходимости запрещения поэмы Адама Мицкевича «Конрад Валенрод» // ДАРФ. Ф. 109. Сакрэтны архіў. Воп. 2. Спр. 35. 69 арк.; О белом орле, который был выставлен в г. Свенцянах. 27 ноября 1861 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 г. Спр. 485. Арк. 1; О беспорядках в Царстве Польском и в Западных Губерниях. Ч. 46: По безымянному доносу из Ниццы о польских делах. 1863 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1863 г. Спр. 23. 15 арк.; О двух возмутительных воззваниях, найденных на улице в Гродно командиром тамошняго гарнизонного батальона подполковником Таубе. Начато 26 июня 1861 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 г. Спр. 185. 14 арк.; О девице Марцинкевич в г. Минске, которая чрез меру высказывала польский патриотизм. Начато 1 июня 1861 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 г. Спр. 322. 83 арк; О запрещенных книгах, журналах и других сочинениях, издаваемых бежавшими за границу поляками и пересылаемых в Западные губернии // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1835 г. Спр. 121. Арк. 2–3.; О лицах, высланных из Гродна за участие в мятеже. 17 июня 1863 г. – 11 февраля 1867 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1863 г. Спр. 23. Ч. 261. 154 арк.; О мраморной группе, изображающей великого князя литовского Ягелло и королеву польскую Ядвигу. 1863 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1863 г. Спр. 23. Ч. 344. 8 арк.; О политических беспорядках в Западных губерниях. Ч. 5-я. В Минской губернии // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 г. Спр. 303. Ч. 1. 63 арк.; О политических замыслах будто бы в Петербурге и о положении дел в Варшаве. Начато 28 сентября 1861 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 г. Спр. 353. 15 арк.; О появлении в западных губерниях пуговиц и перстней с изображениями бывших мятежнических начальников // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1835 г. Спр. 168. Арк. 1; О семействе Свенторжицких и лекаре Оскерко, тут же и об открытии в Минске польской организации. 1863 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1863 г. Спр. 428. 474 арк.; О слухах и толках о войне европейских держав с Россиею по поводу Польского дела. 1863 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1863 г. Спр. 23. Ч. 129. 14 арк.; О церковных процессиях в Западных губерниях. Ч 2: О процессии в Вильно по случаю бывшего соединения Литвы с Польшею и об участвовавшем в этом поручике Вольском.

па тэме з'яўляюцца судова-следчыя матэрыялы, сведчыць аб складаных умовах, у якіх ідэя адраджэння ВКЛ жыла і перадавалася наступным пакаленням. Большасць крыніц, якая знаходзіцца ў нашым распараджэнні, выйшла з-пад пяра тых, хто гэты рух падаўляў. Гэта сказалася як на трактоўцы падзей, дзеянняў людзей і арганізацый – суб'ектаў руху, так і на выкарыстанай тэрміналогіі. Стан крыніцавай базы па даследуемай тэме дазваляе прасачыць ход палітычнага мыслення і прааналізаваць праекты, жаданні арганізацый, партый, палітыкаў, звязаныя з дзяржаўна-палітычнай традыцыяй ВКЛ, і стварыць цэласнае даследаванне, прысвечанае досведу выкарыстання гэтай традыцыі грамадска-палітычным рухам Беларусі канца XVIII – першай паловы XX ст.

## 3. Метадалогія і метады даследавання

Пры правядзенні даследавання аўтар кіраваўся прынцыпамі гістарызма, разглядаючы рух за аднаўленне дзяржаўнасці ВКЛ у дынаміцы – ад зараджэння праз пройдзеныя этапы да дэактуалізацыі, і аб'ектыўнасці, імкнучыся асвятліць праблему ва ўсёй яе складанасці і супярэчлівасці. Каштоўнасны падыход даў аўтару магчымасць праявіць свае адносіны да вывучаемых з'яў і падзей, паглядзець на іх з пункту погляду такой цывілізацыйнай каштоўнасці як уласная дзяржава, яе наяўнасць або адсутнасць. Сістэмна-структурны падыход дазволіў убачыць праблему ў цэлым і ў яе складаемых элементах: унутрыпалітычны і міжнародны кантэкст з'яўлення, ажыўлення і затухання руху за адраджэнне ВКЛ, яго сацыяльная база; стваральнікі, змест праектаў і г. д.

Даследаванне праведзена з выкарыстаннем агульнанавуковых метадаў: аналізу, сінтэзу, індукцыі, дэдукцыі, аналогіі, параўнання, абагульнення, узыходжання ад абстрактнага да канкрэтнага – і спецыяльных гістарычных метадаў: гісторыка-генетычнага, кампаратыўнага, дыяхранічнага, рэтраспектыўнага.

Важнае значэнне для разумення праблемы мае яе **тэрміналагічны аспект,** у якім прынцыповы характар носіць высвятленне сэнсавага напаўнення ў крыніцах і навуковай

літаратуры паняццяў «Польшча», «Літва», а таксама «паляк», «ліцвін», «беларус», «рускі».

Паняцце «Польшча» ў крыніцах канца XVIII–XIX ст., а таксама ў працах польскіх і расійскіх гісторыкаў XIX–XX ст., калі размова ідзе пра беларускія і літоўскія землі, выступае, як правіла, сінонімам Рэчы Паспалітай. Пад палякамі, польскім народам у Беларусі і Літве звычайна разумеюць грамадзян былой Рэчы Паспалітай, хоць таксама мела месца іх атаесамленне з этнічнымі палякамі Каралеўства. Гэтак жа паняцце «Літва» ў крыніцах і творах польскіх, расійскіх, літоўскіх аўтараў з'яўляецца сінонімам ВКЛ, а тэрмін «ліцвін» ужываўся ў значэнні грамадзянін, жыхар, ураджэнец зямель былога Княства. У канцы XIX ст. сталі адрозніваць «Літву гістарычную», якая ўключала Беларусь і Літву і была раўназначнай паняццю «ВКЛ», і «Літву этнаграфічную», якая абмяжоўвалася тэрыторыяй рассялення літоўскага этнасу і ў свой час складала толькі невялікую частку ВКЛ. Літоўскія палітыкі пачатку XX ст. сталі атаесамляць з гістарычнай Літвой сучасную ім Літву (этнаграфічную), якую пры гэтым лічылі адзінай правапераемніцай ВКЛ. У склад этнаграфічнай Літвы яны таксама ўключалі беларускія землі Віленскай, Гродзенскай, Сувалкаўскай і нават Мінскай (Навагрудскі павет) губерняў, дзе пражывала шмат каталіцкага насельніцтва, якое таксама залічвалі да этнічных літоўцаў.

Таму Беларусь і беларусы ў тагачасным гістарычным працэсе і ў навуковай літаратуры, яму прысвечанай, аказаліся нібы схаванымі[298], прычым за падвойнай заслонай – за назвамі «Польшча», «паляк» і «Літва», «ліцвін», «літовец», а часткова – яшчэ і за імем «Русь», «рускі». Атрымалася гэткая этнанімічная «хованка», калі аднаго і таго ж чалавека маглі называць рознымі этнонімамі. Так, паводле аўтэнтычных крыніц, К. Каліноўскі ў час універсітэцкай вучобы ў Пецярбургу быў удзельнікам «польскага» таварыства (выхадцаў з Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны); пасля вучобы вярнуўся «ў родную Літву»; «апрануты ў сярмягу літоўскага селяніна», пешкі вандраваў «па Літве і Русі»; ён – «адзін з самых высокіх розумаў, якія вылучыла ў той час Польшча, ...шчыры апостал люду

[298] *Lichtensztul J.* The White Ruthenian Problem in Eastern Europe // Reprinted from the Quarterly Bulletin of the Polish Institute of Arts and Sciences in America. 1944. July. P. 2.

беларускага»; «адзін з самых высакародных мужоў Літвы»[299]. «Расійскія ўлады называлі К. Каліноўскага дыктатарам Літвы, (разумеючы Літву як даўнейшае гасударства разам з Беларуссю)», – пісаў В. Ластоўскі[300]. Відавочца паўстання Ю. Ягмін удакладняе, што гэта быў «дыктатар Літвы і Белай Русі»[301].

Гісторыкі часта блытаюць – гэта канстатуецца ў манаграфіі «На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы» – паняцці «польскі» і «рэчпаспалітаўскі», а з'ява «ліцвінства» патрабуе новага гістарыяграфічнага асэнсавання ў кантэксце цывілізацыйнай барацьбы і нацыятворчых працэсаў другой паловы XIX – пачатку XX ст.[302]. За «польскасцю» ўраджэнцаў і дзечаў беларускіх зямель канца XVIII – сярэдзіны XIX ст. трэба бачыць не ўласна польскі, а рэчпаспалітаўскі патрыятызм. Яго складовай часткай быў «ліцвінскі патрыятызм», які характарызаваўся высокай ступенню аўтаномнасці. Ліцвіны – беларусы і літоўцы – па меры магчымасці адстойвалі сваю палітычную аўтаномію яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай. У XIX ст. яны, хоць і мелі агульныя з польскай шляхтай мову і рэлігію, але сваё адрозненне ад яе грунтавалі на гістарычных і культурных традыцыях ВКЛ[303]. Так, усведамленне Адамам Міцкевічам сваёй польскасці «не перашкаджала яму мець рэгіянальную, субэтнічную, літвінскую ... свядомасць», як сцвярджае даследчык этнаканфесійных стэрэатыпаў беларусаў І. А. Марзалюк, а «яго Польшча – то і Карона, і Літва, і Русь»[304]. Паколькі царызм ігнараваў факт існавання беларускай нацыі, то і ў афіцыйных крыніцах другой паловы XIX ст. мы не знойдзем паняцця «беларускі дваранін». У іх дваране звычайна фігуруюць як асобы «польскага» і «непольскага» паходжання. Пры гэтым

[299] *Каліноўскі К.* За нашу вольнасць. Творы, дакументы; уклад, прадм., паслясл., камент. Г. Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 161, 163, 165, 167, 210, 216.

[300] Тамсама. С.200.

[301] Тамсама. С.185.

[302] На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы / В. В. Яноўская [і інш.]; навук. рэд. В. В. Яноўская; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 260, 262–263.

[303] *Смалянчук А.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. СПб.: Неўскі прасцяг, 2004. С. 47, 49.

[304] *Марзалюк І.* Вытокі беларускага заходнерусізму і літвінізму // Беларуская думка. 2012. № 8. С. 53–54.

ў першым выпадку размова ідзе не столькі пра палякаў па нацыянальнасці, колькі пра апалячаных беларусаў-дваран[305].

Прынцыповае значэнне для нашага даследавання мае выбар падыходу да **сутнасці «польскага пытання» ў беларускай гісторыі** і яго эвалюцыі на працягу канца XVIII – пачатку XX ст. Сучаснікі разумелі вырашальны характар праблемы прыналежнасці літоўскіх і беларускіх зямель для лёсу польска-расійскай спрэчкі, нават яе еўрапейскую значнасць. У запісцы «Пытанне польскае», датаванай снежнем 1862 г., З. Серакоўскі пісаў, што адным з важнейшых пытанняў, якія Еўропе прыйдзецца вырашыць у бліжэйшай будучыні, з'яўляецца польскае пытанне, а прычына яго важнасці заключаецца ў заходніх губернях[306]. Удзельнік паўстанцкай арганізацыі Віленскай губерні Э. Кучэўскі-Порай, прыхільнік памяркоўнага крыла «чырвоных», у сваіх успамінах пісаў пра вялікую ролю Літвы ў лёсе Польшчы, якая разумела, што пазбавіўшыся гэтага краю, яна «становіцца з вялікага народа трэццеразрадным статыстам, не адпаведным ні гістарычнаму мінуламу, ні маральным патрэбам нацыянальнага духа»[307].

Пад «польскім пытаннем» у беларускай гісторыі апошняй трэці XIX – пачатку XX ст. А. Смалянчук разумее змаганне палітычнай і культурнай эліты гістарычнай Літвы за захаванне традыцый уласнага палітычнага, сацыяльна-эканамічнага, культурнага і рэлігійнага ладу жыцця. Характэрнымі рысамі свядомасці гэтай эліты было ўяўленне пра ўласнае мясцовае паходжанне, усведамленне непарыўнай сувязі з роднай зямлёй, глыбокая прыхільнасць да польскай культуры, якая спалучалася з шанаваннем мясцовых культурных традыцый, і пачуццё непадзельнасці гістарычнага лёсу Літвы і Польшчы[308].

Гісторыя намераў і спроб адраджэння ВКЛ у 1795–1939 гг. разглядаецца ў манаграфіі скрозь прызму **тэорыі**

---

[305] *Самбук С. М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. Минск: Наука и техника, 1980. С. 13–14.

[306] Русско-польские революционные связи. М.: Изд-во АН СССР, 1963. Т. I. С. 231.

[307] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Материалы и документы / гл. ред.: С. Кеневич и др. М.: Наука, 1965. С. 205.

[308] *Смалянчук А.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. СПб.: Неўскі прасцяг, 2004. С. 123–124.

**сацыякультурнай траўмы** польскага сацыёлага П. Штомка[309], якая, развітая сацыёлагамі Х. Йоасам (Германія), Р. Мертанам і Д. Аляксандэрам (ЗША)[310], Э. Гідэнсам (Вялікабрытанія)[311], атрымала шырокае навуковае прызнанне[312].

Сацыякультурная траўма – гэта вынік сутыкнення культурных каштоўнасцяў соцыума з «чужым» і варожым акружэннем, які выклікаў дысфункцыянальныя змены ў сацыяльным жыцці. Адбываецца ломка каштоўнасных асноваў, прывычных сэнсаў і значэнняў сацыяльнай рэальнасці. Карэнным чынам мяняецца вобраз паўсядзённасці, абесцэньваюцца складзеныя правілы сацыяльных дзеянняў, што цягне за сабой страту індывідуальнай і групавой ідэнтычнасці.

Соцыум, паводле П. Штомпкі, па-рознаму адчувае гэты культурны крызіс. Заўсёды ёсць цэнтральная група, якая глыбока ўспрымае яго; і перыферыйныя групы, для якіх ён – неістотны, маргінальны. Фактар, які найбольш уплывае на гэты параметр, – адукацыя. Х. Йоас і Д. Аляксандэр сфармулявалі палажэнне «чым далей ад траўмы, тым больш яна перажываецца», бо яна валодае моцнай інэрцыяй, часам пакаленнямі захоўваецца ў калектыўнай памяці ці ў калектыўнай падсвядомасці і час ад часу пры спрыяльных умовах праяўляе сябе.

Праекцыя дадзенай тэорыі на даследаванне руху за адбудову ВКЛ ставіць і дапамагае вырашыць цэлы шэраг пытанняў: пра сімптомы траўмы, выкліканай дэмантажом дзяржавы; групы насельніцтва, ёй найбольш падвержаныя, і прычыны іх імкнення перанесці мінулае ў будучыню; прычыны перажывання гістарычнай катастрофы новымі пакаленнямі, жывучасці традыцыі ВКЛ і інш.

---

[309] *Штомпка П.* Социология социальных изменений: пер. с англ.; под ред. В. А. Ядова. М.: Аспект-Пресс, 1996. 416 с.; *Sztompka P.* Trauma wielkiej zmiany. Społeczne skutki transformacji. Warszawa: Instytut Studiów Politycznych PAN, 2000. 168 s.

[310] *Jeffrey C. A.* On the Social Construction of Moral Universals: The «Holocaust» from War Crime to Trauma Drama // European Journal of Social Theory. 2002. № 5 (1). P. 5–85; *Joas H.* Cultural Trauma? On the Most Recent Turn in Jeffrey Alexander's Cultural Sociology // European Journal of Social Theory. 2005. № 8 (3). P. 365–374.

[311] *Гидденс Э.* Устроение общества: Очерк теории структурации. М.: Академический Проект, 2005. 528 с.

[312] *Штомпка П.* Культурная травма в посткоммунистическом обществе // Социологические исследования. 2001. № 2. С. 3–12.; *Штомпка П.* Социальное изменение как травма // Социологические исследования. 2001. № 1. С. 6–16.

Тэорыя сацыякультурнай траўмы дае метадалагічны інструментарый, які дазваляе аб'яднаць у адно цэлае факты, раскіданыя амаль на 150-гадовым храналагічным адрэзку[313]. Інтэрпрэтацыя праблемы ў кантэксце гэтай тэорыі дазваляе звязаць у лагічны ланцуг знішчэнне ВКЛ, тайныя таварыствы, ідэалогію паўстанняў, Канфедэрацыю ВКЛ 1915 г., дзейнасць МБС у літоўскім урадзе і нават прапанову вярнуць Беларусі назву «Вялікае Княства Літоўскае», якая прагучала ў 2005 г.[314].

«Шукаць важныя дэтэрмінанты макрагістарычных працэсаў у мікрасферы чалавечых матывацый, каштоўнасцяў і адносінаў», як вучыў М. Вэбер[315], дапамагае **канцэпцыя «трох эпох» – фаз, якія праходзяць заняволеныя народы ў сваім палітычным жыцці ад страты незалежнасці да самаўсведамлення** і змагання за яе. Гэта канцэпцыя была сфарулявана ў першым нумары нелегальнай паўстанцкай газеты «Chorągew swobody» (Вільня, 1 студзеня 1863 г.) – органа ЛПК[316]. Першы этап характарызуецца лаяльнасцю да захопнікаў тых, хто давёў краіну да страты незалежнасці, і апатыяй большасці народа. На другім этапе робяць першыя крокі людзі, якія ўзялі на сябе абавязак абуджэння нацыянальнай годнасці і духу. Гэта фаза пачынаецца тайнымі змовамі, першымі ахвярамі, а завяршаецца аднаўленнем веры народа ў свае сілы, разгараннем «полымя любові да Айчыны» і масавым нацыянальным рухам. Трэцяя фаза непрацяглая, бо нацыя

313 *Marozau S.* Знішчэнне Вялікага княства Літоўскага як сацыякультурная траўма // Per aspera ad astra: materiały z XVI Ogólnopolskiego Zjazdu Historyków Studentów, Kraków, 20 kwietnia 2008 r. / red. A. Swiątek. Kraków: Uniwersytet Jagielloński, 2008. T. XII: Metodologia historii, historiografia i historia gender. S. 101–113.; *Марозаў С. П.* Тэорыя сацыякультурнай траўмы П. Штомпка як тэарэтыка-метадалагічная аснова вывучэння ідэй і праектаў адраджэння Вялікага княства Літоўскага // Шлях у навуку: зб. арт. Рэсп. навук. канф. да 55-годдзя студ. навук.-даслед. гіст.-краязн. гуртка «НіКа», Гродна, 22–23 крас. 2010 г. / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: Н. А. Івашчанка (гал. рэд.) [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2011. С. 186–193; *Морозов С. П.* Идея возрождения Великого Княжества Литовского (конец XVIII – первая четверть XX в.) в контексте теории социокультурной травмы // Россия и Беларусь: История и культура в прошлом и настоящем. Россиеведение и белорусоведение в XXI веке. Вып. IV: Традиционные и новые тенденции в научных исследованиях: Материалы междунар. науч. конф., Смоленск, 11–12 окт. 2018 г. Смоленск: СмолГУ, 2018. С. 157–167.

314 *Пазьняк З.* ВКЛ // Народная воля. 2005. 3 лістапада.

315 *Штомпка П.* Социология социальных изменений: пер. с англ.; под ред. В. А. Ядова. М.: Аспект-Пресс, 1996. С. 214.

316 *Калиновский К.* Из печатного и рукописного наследия. Минск: Беларусь, 1988. С. 61–62; *Каліноўскі К.* За нашу вольнасць. Творы, дакументы; уклад, прадм., паслясл., камент. Г. Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999.С. 49–50.

ўздымаецца на барацьбу за незалежнасць, і характарызуецца нацыянальнай салідарнасцю і пачуццём сілы духу[317].

Тэарэтыка-метадалагічны характар для нашага даследавання мае таксама **канцэпцыя нацыяўтварэння ва Усходняй Еўропе, разгледжаная на феномене і спадчыне Рэчы Паспалітай і ВКЛ**, якую прапанаваў у пачатку 2000-х гг. амерыканскі гісторык Т. Снайдэр[318].

Згодна з яго канцэпцыяй, палітычная «польская нацыя», якую ўтварыла ў Рэчы Паспалітай шляхта розных нацыянальнасцяў (польскай, літоўскай і ўсходнеславянскай) і рэлігій (праваслаўнай, каталіцкай і пратэстанцкай), з канца XVIII ст. пачынае распадацца. Пасля паўстання 1863 г., у якім шляхта Літвы і Беларусі змагалася за адраджэнне інстытутаў і традыцый ВКЛ, што і ў Рэчы Паспалітай захоўвала важныя атрыбуты самадастатковай дзяржавы (уласную назву, структуру кіравання, фінансавую сістэму, заканадаўства, войска[319]), адбываецца пераход з палітычнай нацыі на літоўскую, польскую, украінскую, беларускую этнічныя нацыі – супольнасці носьбітаў адной мовы[320].

Тады і ліцвінскі патрыятызм, «нацыя элітаў ВКЛ» пачынае «распадацца» на асобныя «колеры» нацыянальных ідэй. У Беларусі знакам новай эпохі – эпохі нацыяналізмаў Т. Снайдэр называе К. Каліноўскага. Ідэю гістарычнага ВКЛ, на думку гісторыка, перакрэсліла палітыка М. Мураўёва, які шляхціца-ліцвіна К. Каліноўскага, што пісаў па-беларуску, падтрымліваў царкоўную ўнію, лічыў сваёй бацькаўшчынай ВКЛ, павесіў як завадатара польска-каталіцкага бунту[321].

З народаў былога ВКЛ, па меркаванню Т. Снайдэра, у беларусаў, якія колькасна нашмат пераўзыходзілі ўсе іншыя, быў найбольшы шанец у XIX ст. хутка сфарміравацца ў нацыю

[317] Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі: матэрыялы міжнар. навук. канф., Лондан, 27–29 сак. 2014 г. / пад рэд. А. Смаленчука і Д. Дынглі. Мінск: Зміцер Колас, 2015. С. 48–49.

[318] *Снайдэр Т.* Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569–1999; пер. з англ.; навук. рэд. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. 424 с.; *Марозаў С. П.* Ідэя адраджэння Вялікага Княства Літоўскага ў святле канцэпцыі нацыяўтварэння Т. Снайдэра // Этносоциальные и конфессиональные процессы в современном обществе: сб. науч. ст. / ГрГУ им. Я. Купалы; редкол.: М. А. Можейко (гл. ред.), С. В. Донских, С. Л. Вилейко. Гродно: ГрГУ, 2014. С. 98–109.

[319] *Снайдэр Т.* Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569–1999; пер. з англ.; навук. рэд. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. С. 39, 41.

[320] Тамсама. С. 164.

[321] Тамсама. С. 71, 75.

і разам са сваімі суседзямі, а то і хутчэй за іх, стаць галоўнымі спадкаемцамі ВКЛ. Асноўным унутраным фактарам, якi абумовіў няўдачу, гісторык лічыць якраз адданасць беларускага руху, які «азіраўся на гісторыю», ідэі адраджэння шматнацыянальнага ВКЛ у той час, як літоўскі і польскі нацыянальныя рухі змянілі палітычныя традыцыі ВКЛ да непазнавальнасці.

Канцэпцыя Т. Снайдэра дае тлумачэнне месца дзяржаўна-палітычнай традыцыі ВКЛ у грамадска-палітычным руху ў Беларусі ў параўнанні са стаўленнем да гэтай традыцыі іншых спадкаемцаў ВКЛ. У святле гэтай канцэпцыі становяцца больш зразумелымі прычыны няўдач беларускага нацыянальнага руху пачатку XX ст.

Прапанаваная аўстрыйскім вучоным Андрэасам Капелерам **тэорыя «старых» і «маладых» нацый** фармуліруе канцэптуальныя асновы інтэрпрэтацыі нацыянальных рухаў народаў, якія ўваходзілі ў склад Расійскай імперыі. Разам з **тэорыяй трох фаз у нацыянальным руху** чэшскага вучонага Міраслава Гроха яна абгрунтоўвае арыентаванасць беларускага нацыянальнага руху пачатку XX ст. на адраджэнне ВКЛ і разыходжанне яго інтарэсаў з літоўскім рухам.

Згодна з тэорыяй А. Капелера, «старыя» – гэта нацыі з поўнай сацыяльнай структурай, якія сфарміраваліся першымі (канец XVIII – пачатак XIX ст.), у тым ліку на аснове элітарнай дваранскай культуры і свядомасці. «Маладыя» нацыі – з сялян і сфарміраваліся яны пазней. Іх інтэлігенцыя была прадстаўлена выхадцамі з сялян, а мова і культура фарміравалася на народнай аснове. Палякаў ён адносіць да «старых» нацый, беларусаў і літоўцаў – да «маладых»[322].

У развіцці нацыянальных рухаў М. Грох вылучае тры галоўныя фазы. Фаза А – гэта перыяд навуковага вывучэння этнасу яго інтэлігенцыяй. Нацыя, якая ўсвядоміла свае палітычныя інтарэсы, выставіла прэтэнзіі на палітычную самастойнасць, уваходзіць у фазу В – перыяд агітацыі на карысць гэтага нацыянальнага руху. У фазе С нацыянальны рух набывае масавы характар[323].

Як сцвярджае А. Капелер, пераход беларускага

[322] *Каппелер А.* Россия – многонациональная империя: Возникновение, история, распад. М.: Прогресс-Традиция, 1997. С. 161–169.

[323] *Токць С.* Праблемы перыядызацыі беларускага нацыянальнага руху 19 – пачатку 20 ст. // Гістарычны альманах. Гародня, 2002. Т. 7. С. 187–192.

нацыянальнага руху, спецыфічнай задачай якога была «эмансіпацыя і ад польскай вярхушкі, і ад расійскай», у фазу В зацягнуўся, наступіў са спазненнем і пачаўся са стварэння БРГ, у той час, як літоўскі нацыянальны рух, падтрыманы каталіцкім духавенствам, заявіў свае прэтэнзіі на палітычную самастойнасць раней і да таго ж вызначаўся большай «прабіўной сілай» у параўнанні з украінскім і беларускім нацыянальнымі рухамі[324].

Пры вывучэнні праблемы аўтар кіраваўся тэарэтыка-метадалагічнымі выкладкамі сучаснай паліталагічнай навукі адносна грамадска-палітычных рухаў. Пры спробе ўпісаць рух за адраджэнне ВКЛ у існуючую тыпалогію грамадска-палітычных рухаў узнікаюць цяжкасці з-за яго храналагічнай працягласці, дынамікі, неаднароднасці сацыяльнай базы, разнастайнасці форм выяўлення і іншых характарыстык. З улікам наступных крытэрыяў даследуемы рух у гэтай тыпалагізацыі займае наступныя пазіцыі: па прычыне ўзнікнення – незадаволенасць пазбаўленнем дзяржавы, былых правоў і новым рэжымам; па мэтах – палітычны; па масавасці – элітны, аднак пад час ваенных і сацыяльных катаклізмаў 1806–1812, 1831, 1863–1864 гг. – масавы; па сацыяльнай аснове – шляхецкі, але ў адзначаных палітычных сітуацыях – пазакласавы; па маштабе (зоне распаўсюджання, адміністрацыйна-тэрытарыяльнаму ахопу) – рэгіянальны (ахопліваў Беларусь і Літву); па нацыянальнай прыкмеце – нацыянальна-вызваленчы, за культурна-нацыянальную аўтаномію; па спосабах і метадах дзеянняў – легальны і нелегальны, мірны і гвалтоўны; па ступені арганізацыі – высокаарганізаваны; па адносінах да існуючага ладу – спалучаў рэфарматарства і радыкалізм; па ідэалагічнай аснове – ліберальна-дэмакратычны, аднак з праявамі кансерватызму; па ўзаемаадносінах з уладай – ад канфрантацыі да супрацоўніцтва; быў дыскрэдытаваны, блакіраваны, падаўляўся ўладамі.

Важнае значэнне для нашага даследавання мае канцэпцыя айчыннага гісторыка А. Каўкі аб этапах у беларускім вызваленчым руху ў 1794–1918 гг. Паводле самаўсведамлення, арганізаванасці і якаснай эвалюцыі вызваленчага руху ў

[324] *Каппелер А.* Россия – многонациональная империя: Возникновение, история, распад. М.: Прогресс-Традиция, 1997. С. 165, 167.

ім умоўна вылучаны два этапы: пачаткова-падсвядомы рух «у сабе» пераважна ў межах польскага нацыянальна-вызваленчага працэсу і рух «для сябе», сведамы ўласна беларускіх нацыянальных задач. Храналагічнай мяжой паміж імі з'яўляецца паўстанне 1863 г. Вынікам агляду руху стала палажэнне А. Каўкі аб гістарычнай пераемнасці і незнішчальнасці нацыянальна-дзяржаўнай ідэі беларускага народа[325].

Выкарыстанне тэарэтыка-метадалагічных падыходаў, сфармуляваных у тэорыі палітычнай нацыі, тэорыі сацыякультурнай траўмы, канцэпцыі трох эпох у жыцці і самаўсведамленні паняволеных народаў, канцэпцыі нацыяўтварэння ва Усходняй Еўропе Т. Снайдэра, у тэорыі «старых» і «маладых» нацый і тэорыі трох фаз, якія праходзяць нацыянальныя рухі, паліталагічнай тэорыі грамадска-палітычных рухаў дазваляе ўбачыць такія аспекты гісторыі руху за адраджэнне ВКЛ, якія засталіся б незаўважнымі ў межах пазітывізму.

**Такім чынам,** у даследаванні грамадска-палітычнага руху за адраджэнне ВКЛ, яго ідэалогіі сказвалася і цяпер дае сябе знаць ангажаванасць дарэвалюцыйных, затым савецкіх і сучасных расійскіх, літоўскіх, польскіх, а таксама беларускіх гісторыкаў інтарэсамі сваіх краін і народаў. Доўгі час гэту праблему разглядалі праз прымат польскай або расійскай канцэпцый, у якіх змаганне за адбудову ВКЛ атаесамлялася з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам. У расійскай, польскай і літоўскай гістарыяграфіі Беларусь і беларусы часта схаваныя за назвамі «Польшча», «палякі» і «Літва». Савецкая гістарыяграфія пад уплывам 1917 г. як рубяжа, з якога пачалася «другая гісторыя» Беларусі, абыходзіла маўчаннем дзяржаўна-палітычныя традыцыі ВКЛ або падавала іх аднабакова ідэалагізавана. У той жа час працы канца 1910–1920-х гг. шэрагу першых удзельнікаў дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі (А. Луцкевіча, М. В. Доўнар-Запольскага, Я. Варонкі, Ф. Турука, Т. Грыба і інш.) характарызуюцца сімпатыяй да гістарычнай формы яе дзяржаўнага ўладкавання ў выглядзе ВКЛ.

За апошнія паўтара стагоддзя гістарыяграфія руху за адраджэнне ВКЛ эвалюцыянізіравала ад паказу барацьбы за польскую ідэю праз ігнараванне праблемы да спецыяльнай

---

[325] *Каўка, А.* Беларускі вызваленчы рух // Спадчына. 1991. № 5. С. 5–10.

пастаноўкі пытання аб палітычным лёсе народаў былога ВКЛ, цікавасць да якога ўзрасла ў Беларусі і за мяжой пасля распаду СССР. З канца 1990-х гг. гісторыя руху за адраджэнне ВКЛ становіцца самастойнай навуковай праблемай.

Пры наяўнасці пэўнай навуковай літаратуры, прысвечанай праектам адраджэння ВКЛ у 1805–1812 і 1915–1916 гг., тэма барацьбы за вяртанне ВКЛ на палітычнае поле Еўропы яшчэ далёкая ад вычарпальнай даследаванасці. Да таго ж гэта барацьба не зводзіцца да двух фрагментарных, храналагічна абмежаваных і падзеленых паміж сабой стагоддзем часу сюжэтаў з палітычнай гісторыі Беларусі, але з'яўляецца «чырвонай ніццю», якая пранізвала грамадска-палітычны рух на працягу прыкладна паўтара стагоддзя. Аднак самастойнага даследавання, дзе б рух за адраджэнне ВКЛ прасочваўся цэласна – ад першых праяў да адыходу ў нябыт, яшчэ не створана.

У беларускай гістарыяграфіі не атрымалі належнага асэнсавання грамадскія настроі канца XVIII – першага дзесяцігоддзя XIX ст., дзяржаўна-палітычныя шуканні інтэлектуальнай эліты былога ВКЛ і ў гэтым кантэксце – вытокі плана М. К. Агінскага. Вывучэнне гісторыі змагання за адраджэнне ВКЛ у кантэксце мясцовага грамадска-палітычнага руху дазваляе паглядзець на гэта змаганне «знутры», убачыць месца «ліцвінскай ідэі» ў «рэчпаспалітаўскім патрыятызме», адметнасць якіх да гэтага часу часта не заўважаецца. У навуковай літаратуры па гісторыі паўстанняў XIX ст. толькі фрагментарна закранаецца тэма адраджэння ВКЛ. Дыскусіі апошніх гадоў з асобай К. Каліноўскага ў іх цэнтры вядуцца, галоўным чынам, вакол яго дзяржаўна-палітычных поглядаў і нацыянальных ідэалаў. Яшчэ не стала прадметам спецыяльнага даследавання месца ў ідэалогіі краёвага руху базавай для яе дзяржаўнай традыцыі ВКЛ. Недастаткова даследавана пытанне аб канцэпцыях геапалітычнага ўладкавання беларуска-літоўскага рэгіёна, якія былі вылучаны лідарамі беларускага нацыянальнага руху ў 1915–1917 гг. Да канца не вырашана пытанне аб часе адмовы беларускага нацыянальнага руху ад намеру стварыць дзяржаву на аснове традыцыі ВКЛ. Кропка на намеры адрадзіць ВКЛ, пастаўленая папярэдняй гістарыяграфіяй на пачатку 1918 г., збядняе наша ўяўленне пра

беларускі нацыянальны рух памежжа 10–20-х гг. і прапанаваную ім палітру магчымых дзяржаўна-палітычных канструкцый.

Наяўнасць комплексаў архіўных крыніц, нягледзячы на шматлікія дакументальныя страты ў XIX і XX ст., і публікацыя іх часткі адкрывае магчымасць весці даследчую працу па абранай навуковай праблеме. Найбольш багатымі сховішчамі дакументаў і матэрыялаў па тэме з'яўляюцца ДАРФ, ДГАЛ, БАНЛ і БДАМЛіМ. Даследуемая праблема забяспечана крыніцамі па наступным тэматычным блокам: уплыў напалеонаўскіх войнаў 1799–1815 гг. на ажыўленне сярод беларускай і літоўскай шляхты адраджэнскіх настрояў; традыцыі ВКЛ у паўстаннях 1794, 1830–1831 і 1863–1864 гг.; ідэалогія грамадскіх рухаў і тайных таварыстваў у Беларусі і Літве ў канцы XVIII–XIX ст.; праблема нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння народаў былога ВКЛ у першай чвэрці XX ст. і ўплыў на гэты працэс Першай сусветнай вайны; палітычная спадчына ВКЛ у ідэалогіі краёвага руху.

Адлюстраванне гісторыі змагання за адраджэнне ВКЛ у крыніцах, створаных у розных сферах – асабістай, грамадскай, дзяржаўнай, людзьмі рознай сацыяльна-прафесійнай прыналежнасці, сведчыць, што гэта ідэя цыркулявала на ўсіх узроўнях грамадства: ад канкрэтнай асобы да дзяржаўнага апарата. Пры гэтым дакументы актыўна выходзілі як з-пад пяра барацьбітоў за вяртанне ВКЛ, так і іх апанентаў, пераследнікаў, карнікаў.

На падставе крыніц, якія знаходзяцца ў нашым распараджэнні, можна ўстанавіць ход палітычнага мыслення, праекты, жаданні арганізацый, партый і іх правадыроў, хоць вывучаць пакінутыя на пісьме нешматлікімі словамі думкі і погляды цяжэй, чым дзеянні людзей.

Наяўная база гістарычных крыніц, узятых у сукупнасці, дае інфармацыю, якая дазваляе вызначыць прычыны прыхільнасці грамадска-палітычнага руху Беларусі да працягу дзяржаўнай традыцыі ВКЛ, ахарактарызаваць сацыяльную базу адраджэнскіх настрояў, прааналізаваць фактары і перыядычнасць іх ажыўлення, ацаніць эфектыўнасць легітымных і нелегітымных спроб рэалізаваць гэты намер і прычыны адмовы ад яго.

Працуючы з крыніцамі па тэме, патрэбна ўлічваць іх відавую спецыфіку – гэта найперш датычыць судова-следчых

матэрыялаў, помнікаў мемуарыстыкі – і асаблівасці тэрміналогіі, у прыватнасці, атаесамленне палітонімаў «Польшча» і «Рэч Паспалітая», «Літва» і «ВКЛ», а таксама рэдкае для XIX ст. згадванне Беларусі і беларусаў як самастойных назваў.

Манаграфія як даследаванне грамадска-палітычных рухаў падрыхтавана на стыку гісторыі, сацыялогіі, філасофіі, паліталогіі і псіхагісторыі. Гісторыя пастаўляе факты. Сацыяльна-культурная траўма з'яўляецца сацыялагічным паняццем. Тэорыі, звязаныя з катэгорыямі «нацыя», «памяць», «ідэнтычнасць» і інш., носяць філасофскі характар. Паліталогія распрацоўвае тэорыю грамадскіх рухаў і палітычных ідэалогій. Псіхагісторыя шукае тлумачэнне падзей і з'яў у сферы людскіх матывацый і каштоўнасцяў. Даследчыя магчымасці ў вывучэнні праблемы пашырае прымяненне інструментарыя наступных тэорый: палітычнай нацыі, сацыякультурнай траўмы, трох эпох у жыцці паняволеных народаў, нацыяўтварэння ва Усходняй Еўропе Т. Снайдэра, «старых» і «маладых» нацый, трох фаз у нацыянальных рухах, руху «ў сабе» і «для сябе» ў беларускім вызваленчым руху А. Каўкі.

# Глава 2.
# Палітычны рамантызм першага пакалення спадчыннікаў Вялікага Княства Літоўскага: праекты і рэаліі (1795–1829 гг.)

## 1. Грамадскія настроі ў 1795–1798 гг.

***Траўма страты сваёй дзяржавы.*** У канцы XVIII ст. 15-мільённая Рэч Паспалітая[326], часткай якой з'яўляліся аб'яднаныя ў ВКЛ Беларусь і Літва (дадаткі 1, 2), няўмольна ішла да скону (дадатак 3). Вымушаныя даць згоду на падзел сваёй краіны паміж Расіяй і Прусіяй дэпутаты «маўклівага» сейма паставілі яе на край бездані. Перад пагрозай поўнай страты дзяржаўнасці падскарбі літоўскі М. К. Агінскі пісаў з Гродна 22 кастрычніка 1793 г. свайму калегу з Кароны, падскарбію А. Дзяконскаму: «Калі няшчасная Айчына, чаму я ў ёй павінен быць шчаслівым?»[327]. Усеагульнае адчуванне палітычнай катастрофы выказаў у карціне «Магіла Айчыны» ў 1794 г. жывапісец Ф. Смуглевіч (дадатак 4).

Патэнцыял вялікай і некалі магутнай Рэчы Паспалітай, на думку яе патрыётаў, не быў вычарпаны. Каб ратаваць яе незалежнасць і цэласнасць, у сакавіку 1794 г. патрыятычна настроеныя шляхта і гараджане ўзнялі паўстанне. Толькі на землях сучаснай Беларусі ў ім прымала ўдзел 30 тысяч чалавек[328], а ўзначаліў яго ўраджэнец Навагрудскага ваяводства генерал Тадэвуш Касцюшка.

Лозунг паўстання на тэрыторыі ВКЛ «Свабода, роўнасць, незалежнасць» некалькі адрозніваўся ад польскага. У Польшчы ён гучаў «Свабода, цэласнасць, незалежнасць». Акцэнт на роўнасці быў зроблены не выпадкова – размова ішла аб самастойным удзеле ВКЛ у паўстанні, без апекі Польшчы, і аб іх роўнасці ў аднаўленай Рэчы Паспалітай.

[326] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 87.

[327] Письма Дзяконского к Огинскому и сего последняго к Изабелле Огинской. 1794 г. // РДАСА. Ф. 12. Спр. 225. Арк. 17 адв.

[328] *Емельянчык У.* Паланез для касінераў: (З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі на Беларусі). Мінск: Беларусь, 1994. С. 157.

Віленскі акт паўстання ад 24 красавіка 1794 г.[329] фактычна аднаўляў ранейшы статус ВКЛ, абмежаваны Канстытуцыяй 3 мая 1791 г. Ліцвінскія палітыкі, незадаволеныя зробленай тады ў імя найвышэйшых інтарэсаў Рэчы Паспалітай саступкай польскаму боку, стаялі за федэрацыю раўнапраўных дзяржаў. Таму першыя паўстанцкія дакументы, абвешчаныя ў Вільні, у Польшчы ўспрынялі насцярожана. Загучалі адвечныя абвінавачванні ліцвінаў у сепаратызме. Гісторык У. Емельянчык назваў паўстанне Т. Касцюшкі канцом старой дзяржаўнасці народаў, якія праз ВКЛ уваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай, і адначасова пачаткам іх змагання за новую[330].

Восенню 1794 г., пасля падаўлення паўстання, Беларусь і Літва апынуліся, як сцвярджае даследчык палітычнай атмасферы таго часу А. Мілер, у нашмат больш цяжкім становішчы, чым карэнная Польшча. Галоўныя выканаўцы палітыкі Кацярыны II – генералы М. Рапнін, які ўнёс важкі ўклад у разбурэнне польска-літоўскай дзяржаўнасці, і П. Цыцыянаў уціхамірвалі тут «буйства палякаў» і ўмацоўвалі працэс «фізіялагічнага зліцця з Расіяй» Літвы, «якая яшчэ не адышла ад ампутацыі, адсекшай яе ад Польшчы»[331]. Суровыя выракі па справах удзельнікаў паўстання выносіла Смаленская судовая камісія. Яго ацалелыя кіраўнікі апынуліся ў Петрапаўлаўскай крэпасці, 12 тысяч паўстанцаў з Рэчы Паспалітай – у Сібіры[332].

Заходнебеларускія землі апынуліся пад ваенным і адміністрацыйным кантролем Пецярбурга і непасрэдным кіраваннем «генерал-губернатара Літоўскага княства» М. Рапніна з рэзідэнцыяй у Гродна. Тут у замку жыў ганаровы нявольнік – кароль польскі і вялікі князь літоўскі Станіслаў Панятоўскі родам з Брэсцкага павета. Яго дэтранізацыяй 25 лістапада 1795 г. было афіцыйна спынена існаванне Рэчы Паспалітай (дадатак 5). Разам з ёй пала дзяржава ліцвінаў,

---

[329] *Анішчанка Я. К.* Збор твораў: у 6 т. Т. 3: СССР: Святы саюз свабодных рыцараў: Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі. Мінск: Выдавец В. Хурсік, 2007. С. 17–21.

[330] *Емельянчык У.* Паланез для касінераў: (З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі на Беларусі). Мінск: Беларусь, 1994. С. 156.

[331] *Miller A.* Perwsza porozbiorowa konspiracja litewska: Spisek ks. Ciecierskiego, przeora dominikanów Wilenskich (1796–1797): studjum historyczne. Kraków: Nakl. OO. Dominikanów, 1936. S. 3, 4, 14.

[332] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 107.

страціўшы вымяраную паловай тысячагоддзя незалежнасць. Заняпад ВКЛ, за кошт якога ўзмацніліся Расія і Прусія, змяніла расклад сіл ва Усходняй Еўропе і стала адной з важнейшых падзей яе гісторыі канца XVIII ст. Апошні вялікі князь закончыў жыццёвы шлях у Пецярбургу, дзе незадоўга да таго два гады таміўся ў Петрапаўлаўскай крэпасці яго зямляк Т. Касцюшка.

Значная частка арыстакратыі і буйных землеўласнікаў, у якіх новая адміністрацыя адабрала палітычную ўладу, але захавала іх ранейшыя эканамічныя і грамадскія пазіцыі, успрыняла заняпад ВКЛ за канчатковы і незваротны, як знікненне вялікіх дзяржаў старажытнага свету. Але не ўсё грамадства, у якім істотную ролю адыгрывала сярэдняя шляхта і інтэлігенцыя, пасіўна прыняло гэты факт. Існавалі сілы, гатовыя працягваць барацьбу, але выключна з апорай на нейкую еўрапейскую дзяржаву.

Катастрофа сваёй радзімы, адміністрацыйная рэарганізацыя краю, разбурэнне вякамі складзенага і заснаванага на Статуце ВКЛ палітычнага, сацыяльнага, гаспадарчага ўкладу і прававога парадку, знішчэнне атрыбутаў дзяржавы, разрыў сувязяў з Захадам – усё гэта амаль аўтаматычна пхнула адукаваную частку беларуска-літоўскага грамадства, пранізаную дэмакратычнымі ідэямі свайго часу, да дзеяння дзеля аддзялення ВКЛ ад Расіі. Яно пачало разгортвацца ў трох напрамках: змоўніцкім, дыпламатычным і вайсковым.

«Спыненне існавання Вялікага Княства Літоўскага як рэальнай дзяржавы, – адзначыў гісторык І. Лялькоў, – зусім не азначала яго канец у якасці гістарычнага феномена»[333]. Ідэя неабходнасці і немінучасці аднаўлення ВКЛ з гэтага часу трывала прапісалася ў палітычнае мысленне ліцвінскай інтэлектуальнай і палітычнай эліты. Як ні імкнуўся царскі ўрад задобрыць беларускую і літоўскую шляхту, яна, вядучая сіла ў сацыяльна-эканамічных і культурных адносінах, не магла прабачыць новай уладзе знішчэння сваёй дзяржаўнасці і пазбаўлення сябе ранейшых правоў. Не хацелі змірыцца са стратай незалежнасці і свайго дачынення да кіравання краінай палітыкі ВКЛ. У навуковай літаратуры выказваецца думка, што паняцце «грамадзянін ВКЛ», якое сёння выкарыстоўваецца

[333] *Лялькоў І.* Традыцыі Вялікага Княства Літоўскага ў палітычным жыцьці беларускіх земляў у XIX ст. // Спадчына. 2002. № 2–3. С. 56.

ў даследаваннях і публіцыстыцы, з'явілася якраз тады, калі такое грамадзянства ўжо фармальна перастала існаваць[334]. Фактычную прыналежнасць да ВКЛ тых, хто на яго землях нарадзіўся і быў пазбаўлены краіны дзяцінства, змянілі перададзеныя наступным пакаленням дзейсныя настальгія і пачуццё духоўнай прыналежнасці да ВКЛ, якія вылiваліся ў праграмы і праекты, грамадскія арганізацыі, палітычную дзейнасць, антырускія змовы і паўстанні. Лічыцца, што ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. большасць ліцвінаў марыла аб адраджэнні ВКЛ у складзе аднаўленай Рэчы Паспалітай з захаваннем уніі Кароны і Княства[335]. Змаганне за вяртанне на карту Еўропы Рэчы Паспалітай не перакрэслівала іх жадання вярнуць дзяржаўнасць ВКЛ.

«Літва зусім спакойная, – інфармаваў М. Рапнін Пецярбург, – і будзе такой надалей, пакуль пажар не ўспыхне ў іншых мясцовасцях»[336]. Ён не дапускаў нават думкі, што ў пакораным народзе яшчэ засталіся сілы да змагання. Хіба толькі горстка «нямудрых» маладзёнаў песціць «непрыстойныя» думкі, але небяспекі з боку несвядомай і «дурной» моладзі не бачыў, а старэйшае, стомленае пакаленне ў нелаяльнасці не западозрваў. Тым не менш, адсочваў лаяльнасць новых падданых імперыі, каб цалкам выдушыць з сэрцаў і мазгоў ліцвінаў «мяцежны дур»[337].

Між тым, групы бежанцаў з Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны пасля разгрому паўстання сабраліся ў Італіі, Францыі, Малдавіі, Валахіі, Турцыі. Вайскоўцы пачалі ствараць там легіёны, якія, меркавалі, у вельмі хуткім часе пойдуць вызваляць Айчыну. Палітыкі ВКЛ Караль Прозар, князь М. К. Агінскі, Юзаф Коцел, князь Рамуальд Гедройц і інш., што апынуліся ў эміграцыі, шляхам дыпламатыі вярэдзілі еўрапейскія каралеўскія двары ў надзеі, што Францыя дамовіцца з Прусіяй, схіліць Данію, Швецыю і Турцыю да вайны з Расіяй і возьме актыўны ўдзел у аднаўленні Рэчы Паспалітай. Для забеспячэння інтарэсаў сваёй неіснуючай ужо

[334] Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. T. Bujnicki; K. Stępnik. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu M. Curie-Sklodowskiej, 2005. S. 25.

[335] *Швед В., Данскіх С.* Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805–1815 гады. Гродна: ГрДУ імя Я. Купалы, 2006. С. 41.

[336] *Miller A.* Perwsza porozbiorowa konspiracja litewska: Spisek ks. Ciecierskiego, przeora dominikanów Wileńskich (1796–1797): studjum historyczne. Kraków: Nakł. OO. Dominikanów, 1936. S. 13.

[337] Тамсама. S. 12.

краіны ў Парыж паехаў К. Прозар, у Венецыю – А. Патоцкі, у Канстанцінопаль – М. К. Агінскі. Людзі, якія ў 1794 г. прынеслі ў ахвяру свой грамадскі статус і ўласнасць дзеля выратавання сваёй краіны, яны і цяпер былі перакананы, што дзяржава, якая знайшла столькі абаронцаў і мсціўцаў, не можа быць страчана назаўсёды. Яны і ў эміграцыі ўжывалі розныя сродкі, якія здаваліся ім здольнымі яшчэ ўзняць яе, і непахісна спадзяваліся на змену абставінаў. Асаблівыя надзеі эмігранты ўскладалі на Францыю, бо знікненне Рэчы Паспалтай з шэрагу дзяржаў закранула яе інтарэсы парушэннем ранейшага палітычнага балансу ў Еўропе. Надзея на Францыю ўзмацнялася з прычыны хуткіх поспехаў яе войскаў.

Дэпутацыя, створаная ў Парыжы ў верасні 1795 г. з пяці найбольш вядомых удзельнікаў паўстання (з іх двое, К. Прозар і Р. Гедройц, – з ВКЛ, родам з Беларусі), рыхтавала план усеагульнай канфедэрацыі (гэтым тэрмінам завуалявалі слова «паўстанне») у Польшчы і ВКЛ. Падрыхтоўкай выступлення ў Літве займаўся генерал Р. Гедройц[338].

У 1795–1796 гг. паўстанне і вайна супраць Расіі рыхтавалася ў Турцыі. У іх дыпламатычнай падрыхтоўцы ўдзельнічаў М. К. Агінскі, якому вяртанне на радзіму забаранілі, а за яго галаву прызначылі буйную ўзнагароду. Толькі змена абставінаў магла адкрыць яму – «злачынцу» ў міжнародным розшуку шлях дадому, і ён гэту змену прыспешваў. Ён хадайнічаў перад турэцкім урадам аб прытулку і падтрымцы вайскоўцаў-бежанцаў з Рэчы Паспалітай. Планаваўся іх прыток і арганізацыя вялікага корпуса на турэцкім памежжы для рэалізацыі плана паўстання. Вяліся перамовы аб вызначэнні ім месца збору бліжэй да ўкраінскай крэпасці Камянец, якая меркавалася першым пунктам наступальнай аперацыі[339], і аб атрыманні ад турэцкага ўрада пазыкі, гармат.

Звесткі з эміграцыі давалі надзею і прыносілі суцяшэнне тым, хто заставаўся на радзіме і не мог змірыцца з тым, што «Польшчы канец».

[338] *Smoleński W.* Emigracja Polska w latach 1795–97: Materyały historyczne. Warszawa: Tłocznia Wł. Łazarskiego, 1911. S. 2, 8, 22.

[339] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 27–28, 41, 56, 79.

***Абуджэнне палітычнай думкі.*** Як не імкнуўся новы правіцель адгарадзіць мурам Беларусь і Літву ад палітычнага рэха Еўропы, адтуль даносіліся чуткі аб стварэнні легіёнаў, мацнелі звесткі аб перамогах Банапарта, даходзілі пагалоскі аб уцёках Т. Касцюшкі з Петрапаўлаўскай крэпасці і з'яўленні пад псеўданімам у Парыжы.

Да Гродна першыя звесткі аб нібыта ўцёках з няволі кіраўніка паўстання дайшлі ў лютым 1795 г. Расійскі ўрад жорстка ставіўся да тых, хто гэту «ерунду» пашыраў. Шляхціц Тадэвуш Крушынскі за тое, што ў Лідзе «ад імя Касцюшкі пабуджаў ... да ўзброенай барацьбы», падвергся экзекуцыі ў Вільні. Яго паставілі пад шыбеніцай. Кат, спаліўшы «пасквіль», даў 25 удараў, а потым раскаленым жалезам таўраваў шчокі. Пасля экзекуцыі Т. Крушынскага выслалі ў Нерчынск. Але знішчыць прамень надзеі было цяжка: у Ўладаўскім ключы шляхціц Лявон Турскі «сее непакой», у Слоніме – шамбелян Вольмар[340].

Пачынаецца «паляванне» на Т. Касцюшку. Яно знайшло адлюстраванне ў карэспандэнцыі М. Рапніна з губернатарамі, прадстаўнікамі расійскай адміністрацыі ў Беларусі і Літве. З'явіўся ўніверсал да ліцвінаў, якім прадпісвалася Т. Касцюшку лавіць, калі ён з'явіцца ў гэтых мясцінах, і выдаваць тых, хто дасць уцекачу сховішча. Па ўказанню М. Рапніна ўніверсал на працягу трох тыдняў чыталі з амбонаў[341]. Пераследавалі нават за неасцярожныя словы, узмацнілі кантроль за перапіскай, а таксама ўвагу да дзяржаўнай мяжы.

Гэта «паляванне» на Т. Касцюшку, якое з перспектывы часу выглядае гумарыстычна, адназначна ўказвае на існаванне ва ўрадзе моцнай асцярогі, што само з'яўленне правадыра паўстання, ураджэнца гэтых мясцінаў, можа зноў абудзіць дух пераможанага народа і яго надзею, што знутры можа прыйсці дапамога і вызваленне. У красавіку 1796 г. у мястэчку Сялец, што адыйшло да Аўстрыі, былі схоплены змоўшчыкі на чале з М. К. Агінскім, якому быццам бы Т. Касцюшка даручыў падбіваць «чэрнь» да працягу ўзброенай барацьбы. Як паведамляў тады ў Пецярбург М. Рапнін, «у тутэйшай зямлі

[340] *Miller A.* Perwsza porozbiorowa konspiracja litewska: Spisek ks. Ciecierskiego, przeora dominikanów Wileńskich (1796–1797): studjum historyczne. Kraków: Nakł. OO. Dominikanów, 1936. S. 17, 21.

[341] Тамсама. S. 22.

пачалі рассейвацца розныя чуткі ... да абурэння падобных, ... і што ўсё тое робіцца дзеля аднаўлення Польшчы»[342].

З пачатку 1796 г. разгортваецца патрыятычны рух у самой Літве і Беларусі. З наступленнем вясны тут адчувалася нейкае чаканне, неспакой[343]. Накіраваны 26 лютага 1796 г. парыжскай Дэпутацыяй у Літву генерал Р. Гедройц рыхтаваў тут глебу для новага выступлення, спрабаваў арганізаваць паўстанне ў Жамойці[344].

Урадавы Пецярбург пачынаў разумець, што дадзеная мясцовым насельніцтвам вымушаная прысяга на вернасць – фармальная і не сведчыць аб яго ўнутранай лаяльнасці, а таксама тое, што сілы на эміграцыі не прызналі падзелаў Рэчы Паспалітай і разбурэння ВКЛ. І ў бліжэйшым акружэнні М. Рапніна, і пры двары Кацярыны II з'явілася адчуванне, што «еўрапейскі вулкан заціх ненадоўга», што пажар звонку набліжаўся і мог ахапіць народ[345].

У край даходзілі звесткі аб разгортванні руху ў эміграцыі, аб яе новых планах. Дзейнасць эміграцыі, Парыжская дэпутацыя, Львоўская цэнтралізацыя – гэтыя тэндэнцыі і плыні адчулі ў ВКЛ. Весткі, якія даходзілі сюды з Басфора, Венецыі, Вены, станавіліся іскрамі надзеі. Ніхто не пытаў, наколькі гэтыя звесткі праўдзівыя, наколькі добра абдуманыя гэтыя планы, але і патрыёты ВКЛ, і гродзенскі правіцель разумелі, што калі прыйдзе дапамога звонку, тут зноў запалае паўстанне[346]. У гэтых умовах у Беларусі і Літве зараджаецца грамадска-палітычны рух, які матэрыялізаваўся ў дзейнасць арганізацыі, што праходзіла праз справы расійскай Тайнай экспедыцыі як «змова братоў Цяцерскіх», а ў гістарычныя працы ўвайшла пад назвай «Віленская асацыяцыя».

---

[342] *Анішчанка Я. К.* Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мінск: Хурсік, 2003. С. 399.

[343] *Miller A.* Perwsza porozbiorowa konspiracja litewska: Spisek ks. Ciecierskiego, przeora dominikanów Wileńskich (1796–1797): studjum historyczne. Kraków: Nakł. OO. Dominikanów, 1936. S. 28.

[344] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 23, 45; *Smolenski W.* Emigracja Polska w latach 1795–97. Warszawa: Tlocznia Wl. Lazarskiego, 1911. S. 8.

[345] *Miller A.* Perwsza porozbiorowa konspiracja litewska: Spisek ks. Ciecierskiego, przeora dominikanów Wileńskich (1796–1797): studjum historyczne. Kraków: Nakł. OO. Dominikanów, 1936. S. 23, 27, 32, 33.

[346] Тамсама. S. 32–33.

***Віленская асацыяцыя (1796–1797 гг.).*** Смерць Кацярыны II і першыя крокі-«дабрадзействы» адносна ўдзельнікаў паўстання Паўла I (вызваленне Т. Касцюшкі і 12 тысяч вязняў, амністыя сасланых, дазвол эмігрантам вярнуцца ў Расійскую імперыю і вяртанне ім канфіскаваных маёнткаў) ажывілі ў ліцвінскай шляхты надзею на змяненне палітыкі царызму ў адносінах да іх радзімы. Папаўзлі чуткі, што ў Пецярбургу распрацоўваецца новая геаграфічная карта, на якой пазначана Рэч Паспалітая, і мяркуецца аднаўленне самой дзяржавы з сынам Паўла I на троне[347].

Людзі, адданыя ідэі аднаўлення Рэчы Паспалітай, вясной 1796 г. аб'ядналіся ў «Віленскую асацыяцыю». Заснаваная ў Вільні, асацыяцыя мела адгалінаванні ў Мінску, Брэсце, Гродна, Кобрыне, Ашмянах, Свіслачы, Дзярэчыне, Ружанах і карысталася папулярнасцю сярод шляхты і каталіцкага духавенства. Вялікія надзеі яе ўдзельнікі ўскладалі на дапамогу рэспубліканскай Францыі і былі звязаны з эміграцыяй у Італіі, Турцыі, Францыі, Малдавіі, Галіцыі.

Асацыяцыю ўзначальвалі ксяндзы – ураджэнец Полацкай губерні Фаўстын Цяцерскі, доктар філасофіі і тэалогіі, выпускнік Галоўнай школы ВКЛ; і В. Зюлкоўкі, а таксама жыхар мястэчка Камень Мінскай губерні, шляхціч Станіслаў Юдзіцкі. «Удзельнік паўстання Ясінскага» на Гродзеншчыне Ф. Цяцерскі, звязаны з аднадумцамі ў Беларусі і ў еўрапейскай эміграцыі, стварыў гэта тайнае таварыства для арганізацыі новага паўстання. «На што спадзяваліся яны, святары і свецкія людзі?» – на гэта пытанне гісторык асацыяцыі А. Мілер знаходзіць адказ у яе дакументах: на Бога і на французскую зброю[348]. Яны верылі ў сваю здольнасць звярнуць кола гісторыі.

Датаваны 27 студзенем 1797 г. дакумент асацыяцыі «Акт Віленскага паўстання» абгрунтоўваў неабходнасць працягу барацьбы. «Наша мэта – аднаўленне Рэспублікі, галоўнай асновай якой павінна стаць Канстытуцыя 3 мая», – прызнаўся на допыце ўдзельнік асацыяцыі С. Цяцерскі, родны брат Фаўстына. Следства па справе асацыяцыі высветліла «прыхільнасць беларускага дваранства *(шляхты ўсходніх*

[347] *Smoleński W.* Emigracja Polska w latach 1795–97: Materyały historyczne. Warszawa: Tłocznia Wł. Łazarskiego, 1911. S. 34, 38, 75.

[348] *Miller A.* Perwsza porozbiorowa konspiracja litewska: Spisek ks. Ciecierskiego, przeora dominikanów Wileńskich (1796–1797): studjum historyczne. Kraków: Nakł. OO. Dominikanów, 1936. S. 142.

*раёнаў Беларусі – С. М.)* да былой рэспублікі Польскай». Сувязь з Каронай, як адзначае А. Мілер, разглядалася імі як аснова дзяржаўнай сілы злучаных зямель і народаў[349]. Тайнай экспедыцыі стала вядома пра «буйныя задумы шляхты Міншчыны» аднавіць ранейшыя структуры кіравання. Аднак аб дзейнасці філіялаў асацыяцыі ў Брэсце, Мінску і Гродна з меншым размахам і колькасцю ўдзельнікаў нічога не вядома.

«Віленская асацыяцыя» не паспела ўмацавацца, бо восенню 1797 г. была выкрыта. Літоўскага губернатара зацікавіў перахоплены паліцыяй ліст С. Юдзіцкага нейкаму Старадубскаму. У ім С. Юдзіцкі паведамляў, што знаходзіцца ў Вільні «дзеля палітычных прычын» і цяпер накіроўваецца ў Львоў, а потым – у Мілан, дзе «знаходзяцца… ўсе патрыятычныя грамадзяне» і «робяцца найвялікшыя справы». У лісце згадваўся паручнік С. Цяцерскі, які таксама хутка павінен выехаць з Вільні.

Пайшлі арышты і вобыскі. У С. Цяцерскага знайшлі спіс кіраўнікоў арганізацыі. Пачаліся допыты, прызнанні. За выкрыццём таварыства і ходам следства сачыў сам Павел I. Па справе «Віленскай асацыяцыі» праходзіла больш як 70 чалавек, большасць з іх – выхадцы з Беларусі: служачыя Кобрынскага суда Тадэвуш і Гаўрыла Сестравітоўскія, сын лідскага суддзі Людвік Нарбут, сын ротмістра з Ашмян Каэтан Неўзаровіч, мсціслаўскі лоўчы Юзаф Чарноўскі, прафесар Станіслаў Кандратовіч і інш. Яны абвінавачваліся ў «змове на паўстанне, парушэнні прысягі». Катавалі іх у Вільні.

У следстве па справе асацыяцыі ўдзельнічаў рускі пісьменнік сенатар Г. Дзяржавін. Ён спытаў у начальніка Тайнай экспедыцыі: «Чаму так строга абвінавачваюцца гэтыя няшчасныя, што яны мелі пэўныя паміж сабой размовы пра выратаванне ад нашага валодання сваёй бацькаўшчыны? На маю думку, няхай яны думаюць і кажуць пра выратаванне сваёй бацькаўшчыны, як хочуць, але толькі да самога дзеяння ня прыступаюць». Г. Дзяржавін лічыў, што «Віленская асацыяцыя» не прадстаўляе сур'ёзнай пагрозы цэласнасці Расійскай імперыі. Аднак генерал-пракурор Куракін перадаў, што «гасудар загадаў яму не разумнічаць»[350].

Сенат прысудзіў удзельнікаў Віленскага таварыства

[349] Тамсама. S. 6.

[350] *Таляронак С.* Віленская асацыяцыя 1796–1797 гг. // Беларускі гістарычны часопіс. 1994. № 1. С. 29.

да пакарання смерцю. Цар прысуд змягчыў: іх пазбавілі дваранскай годнасці і пасля зневажальнага пакарання бізуном, вырывання ноздраў і кляймення саслалі, закаваўшы ў кайданы, на катаржныя работы ў Сібір[351]. Пра іх жыццё, быт, работу на Нерчынскіх рудніках напісаў ва ўспамінах, вярнуўшыся з катаргі, С. Цяцерскі[352].

Пасля расправы над змоўшычкамі М. Рапнін выдаў 2 (13) лістапада 1797 г. універсал да ўсіх «літоўскіх грамадзян» і ў ім затаўраваў ганьбай удзельнікаў асацыяцыі як «вырадкаў», што забыліся «пра гонар, абавязкі, закон, нават і божы». Агучваліся імёны «злачынцаў». Адзначалася, што гэта прадстаўнікі «зацнага шляхецкага стану», служыцелі Бога, якія, аднак, гэтых званняў не заслугоўваць. Яны, няўдзячныя, пагрэбавалі імператарскімі «ласкамі», літоўскаму народу неаднаразова аказанымі, за якія ад яго чакалі вернападданства. Арганізаваная імі змова – гэта замах на ўладу манарха, дараваную яму ад Бога, парушэнне «спакою сваёй уласнай Айчыны». Ва ўніверсале настойліва падкрэслівалася, што імперыя разлічвае на вернасць сваіх новых падданых, ад якіх чакае выдачы ўраду падобных «парушальнікаў святых краёвых сувязяў», калі такія з'явяцца, і іх задум. А калі хто даведаецца, але пра гэта не данясе, сам будзе лічыцца ўдзельнікам змовы[353].

Стварэнне і дзейнасць «Віленскай асацыяцыі» – непазбежная рэакцыя патрыятычных колаў Беларусі і Літвы на падзелы Рэчы Паспалітай і знішчэнне ВКЛ. Гэта першая пасля падзелаў тайная палітычная арганізацыя ў краі з мэтай барацьбы за іх адраджэнне. Аператыўнасць у раскрыцці асацыяцыі гаворыць, па меркаванню Я. Анішчанкі, не пра малазначнасць паўстанцкай змовы 1797 г., якой улады перашкодзілі распаўсюдзіцца на прасторы былога ВКЛ, а пра яе нерэалізаваны пачатак[354].

---

[351] *Таляронак С.* Віленская асацыяцыя 1796–1797 гг. // Беларускі гістарычны часопіс. 1994. № 1. С. 29.

[352] Pamiętnik xiędza Ciecierskiego, przeora Dominikanów wileńskich. Lwow: Nakladem A. Vogla, 1865. 346 s.

[353] *Mościcki H.* Dzieje porozbiorowe Polski w aktach i dokumentach. Od rozbiorów do Księstwa Warszawskiego 1807 r. Warszawa; Kraków; Poznań; Wilno: Zakłady Drukarskie F. Wyszyński i S-ka, 1923. S. 43–44.

[354] *Анішчанка Я.* Малавядомыя крыніцы пра «Віленскую асацыяцыю» 1797 года [Электронны рэсурс] // ARCHE. Рэжым доступу: http://arche.by/by/page/science/kryinitsaznaustva/7593. Дата доступу: 21.12.2015.

Разгром «Віленскай асацыяцыі» стаў першай буйнай няўдачай руху за аднаўленне ВКЛ.

***Расчараванні патрыятычнай эміграцыі.*** Першыя расчараванні напаткалі тады і эміграцыю. У яе асяроддзі пачаліся спрэчкі наконт выбару сродкаў аднаўлення Рэчы Паспалітай і ўсталявалася нязгода. Зразумела, гэтыя людзі былі пазбаўлены айчыны, раздражнёныя яе няшчасцем, няўпэўненыя ў сваёй будучыні, вымушаныя давяраць лёс няпэўным шанцам новага паўстання. Фактычна скलаліся дзве партыі: рэвалюцыянеры, якія лічылі ўсе шляхі вартымі і ўсе спосабы дзеяння прымальнымі, і памяркоўныя, якія рабілі стаўку на дыпламатычныя каналы і грунтоўную падрыхтоўку ўсіх акцый. На жаль, не знайшоўся чалавек, які змог бы іх аб’яднаць. Раз’яднанасць эміграцыі рабіла дрэннае ўражанне на французскі і турэцкі ўрады, у якіх нават з’явілася думка, што «трэба ўсё зрабіць для палякаў, але без палякаў»[355].

17 мая 1795 г. Францыя, здавалася бы, салідарная з патрыятычнай эміграцыяй, падпісала мірнае пагадненне з Прусіяй, якім забяспечвала недатыкальнасць яе ўладанняў, г. зн. de facto гарантавала яе тэрытарыяльныя набыткі ў Польшчы і Беларусі, хоць па праву пераможцы магла навязаць Прусіі адмову ад гэтага набытку. Рыхтавалася мірнае пагадненне Францыі з Аўстрыяй, але і тут французскі ўрад не паклапаціўся наконт артыкула, спрыяльнага для аднаўлення Рэчы Паспалітай[356].

Эміграцкія палітыкі ў сваім разліку на прывідныя абяцанні саюзнікаў сталі губляць палітычныя арыенціры. І ў Парыжы, і ў Канстанцінопалі яны чулі толькі няпэўныя абяцанні і суцяшальныя словы. Да таго ж сітуацыя хутка мянялася. Яшчэ летам 1796 г. замежныя агенты Дэпутацыі цешылі суайчыннікаў надзеяй, што вайна за аднаўленне Рэчы Паспалітай вось-вось разгорнецца; паведамлялі пра збор на яе паўднёвых межах турэцкіх войскаў, пра добрыя намеры Швецыі, пра падтрымку Францыі. Але ўжо восенню расклад сіл змяніўся: не варта было больш разлічваць на падтрымку Швецыі з часу яе збліжэння з Расіяй, з дня ў дзень станавілася ўсё больш сумнеўным спадзяванне на дзейсную дапамогу туркаў. У лістападзе пакінуў

---

[355] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 65.

[356] Тамсама. С. 15–16, 74.

Турцыю М. К. Агінскі, бо зразумеў бескарыснасць далейшых дыпламатычных намаганняў у Канстанцінопалі[357].

Яго калега і пераемнік Ф. Рымкевіч пісаў з Канстанцінопаля 20 лістапада 1796 г., што больш спадзяецца «на падзеі і на нашу энергію, чым на ўсе палітычныя разлікі»[358]. Пасля дзевяці месяцаў прабывання ў Турцыі Ф. Рымкевіч у роспачы прызнаваў (пісьмо ад 3 студзеня 1797 г.), што былую ўпэўненасць змяніла безнадзейнасць, а «Французская рэспубліка нам спрыяла настолькі, наколькі гэта служыць яе ўласным інтарэсам, каб на поўначы мець народ, сабе прыхільны і абавязаны»[359]. Расчараванне ў стаўцы на замежную дапамогу ў вяртанні згубленай дзяржаўнасці гучыць і ў пісьме Ф. Рымкевіча ад 30 сакавіка 1797 г.: «у гэтых краях кормімся толькі славалюбнай надзеяй. Нашы разлікі на іншыя сілы, як добрыя, так і ніякія. Хіба калі ўздымемся, то толькі праз падзеі і нашу ўласную энергію ці праз генеральную пацыфікацыю»[360]. «Мягкасць *(замежных двароў – С. М.)* адносна палякаў, – заключыў дыпламат, – дастатковая для улаўлівання слабых душ, але не для пераканання грунтоўна думаючых»[361].

Ацаніўшы сітуацыю, парыжская Дэпутацыя ў снежні 1796 г. зрабіла заяву, што аднаўленню Рэчы Паспалітай мала дапамагаюць сяброўскія заявы замежных дабрадзеяў аб падтрымцы, – патрэбны гарантыя дапамогі і дзеянне. Наракалі на рэспубліканскую Францыю, якая, «скарыстаўшыся часам нашага разладу, каб узмацніць сваё існаванне, ёсць неадчувальная да нашых бедаў і прапануе нам сваю дапамогу толькі ў будучыні, гэта значыць, калі мы ўзнімемся самі або калі наша цяперашняе пакаленне згасне, а наступнае назаўжды будзе асуджанае на маўчанне!»[362].

Дэпутацыя вырашыла звярнуць увагу Банапарта на «польскія справы». 21 жніўня 1796 г. яму пісалі: «Пятнаццаць мільёнаў палякаў, калісьці незалежных, а сёння ахвяраў сілы абставінаў, спыняюць свае позіркі на Вас. … Вы – адзін з тых,

[357] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 89, 99, 100, 103.

[358] *Smoleński W.* Emigracja Polska w latach 1795–97: Materyały historyczne. Warszawa: Tłocznia Wł. Łazarskiego. S. 66.

[359] Тамсама. S. 72.

[360] Тамсама. S. 90.

[361] Тамсама.

[362] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 114, 115.

чыя пазіцыя павінна адкрыць палякам шлях і магчымасць скінуць ненавіснае і прыніжальнае ярмо, якое яны ледзьве трываюць»[363]. Адказ быў наступны: «Падзел Польшчы – гэта беззаконны акт, які не можа доўга пратрымацца. ... Але ... палякі не павінны перакладаць свае клопаты на тых, хто дапамагае ім з-за мяжы ... . Нацыя, задушаная сваімі суседзямі, можа зноў узняцца толькі са зброяй у руках»[364]. Як запісаў пра гэта ў мемуарах М. К. Агінскі, Напалеону падабалася жадаць дабра Рэчы Паспалітай і аддаваць належную пашану яе патрыётам, але гэтым і абмяжоўваліся яго добрыя паслугі[365].

Буйнейшыя палітычныя дзеячы Францыі Барас, Пішэгру, Талейран, Сіес, дэ Ла Круа, Бано, сам Банапарт давалі ў 1797 г. уніклівыя адказы наконт намераў Дырэкторыі адносна Рэчы Паспалітай, хоць і завяралі ў жаданні заняцца яе аднаўленнем. Праекты, якія яны разглядалі, патрабавалі ад эмігрантаў служэння інтарэсам Францыі, ахвяр, але не давалі гарантый вяртання палякам і ліцвінам іх дзяржавы[366]. Урэшце ў снежні Ш. Талейран адкрыта заявіў, што пры цяперашніх абставінах ім няма чаго чакаць ад Францыі[367].

**Такім чынам,** сацыякультурную траўму, нанесеную палітычнай катастрофай Рэчы Паспалітай, змянілі пошукі патрыётамі ВКЛ шляхоў яе ўзнаўлення. Эміграцыя з ВКЛ разгортвала ў краінах Еўропы і Турцыі дзейнасць у двух напрамках: вайсковым – фарміраванне легіёнаў, гатовых ісці вызваляць айчыну; і дыпламатычным – ініцыіравала ваеннае сутыкненне Турцыі, Даніі, Швецыі, Францыі з Расіяй; а таксама рыхтавала новае паўстанне ў сваёй краіне (М. К. Агінскі, Р. Гедройц і інш.). Першыя поспехі эміграцыі з'яўляліся важным фактарам уплыву на настроі ў краі, як і чуткі пра ўцёкі з Петрапаўлаўскай крэпасці Т. Касцюшкі. З пачатку 1796 г. у Беларусі і Літве абуджаецца палітычная думка і разгортваецца патрыятычны рух (спроба выступлення ў Жамойці; дзейнасць у 1796–1797 гг. «Віленскай асацыяцыі»). Разгром асацыяцыі разам з расчараваннем эміграцыі ў разліках на замежную дапамогу былі першымі буйнымі няўдачамі ў намаганнях аддзяліць ад Расіі і вярнуць дзяржаўнасць ВКЛ.

[363] Тамсама. С. 87.
[364] Тамсама. С. 96–97.
[365] Тамсама. С. 89.
[366] Тамсама. С. 119, 123, 126.
[367] Тамсама. С. 138.

## 2. Узмацненне рэстаўратарскіх памкненняў пад час напалеонаўскіх войнаў (1799–1815 гг.)

***Узмацненне адраджэнскіх настрояў у першым дзесяцігоддзі XIX ст. Праекты аднаўлення ВКЛ пад эгідай Напалеона.*** У пачатку XIX ст. на землях былой Рэчы Паспалітай перакрыжаваліся геапалітычныя інтарэсы Расіі і Францыі і ўзрасла іх стратэгічная роля ў маштабе Еўропы. Асаблівую ўвагу Аляксандра I і Напалеона прыцягнулі беларуска-літоўскія землі, чыя палітычная і інтэлектуальная эліта жадала аднаўлення ВКЛ. «Літоўскае пытанне» з унутрыпалітычнай праблемы Расіі стала тады побач з «польскім пытаннем» важным палітычным фактарам у сістэме міжнародных адносін. Абодва імператары разумелі вырашальны характар праблемы аднаўлення дзяржаўнасці гэтых зямель у патэнцыйным ваенным канфлікце. Абодва ўзяліся падтрымліваць і ўмацоўваць надзеі ліцвінскай шляхты, выкарыстоўваючы яе патрыятычныя настроі для вырашэння сваіх знешнепалітычных задач.

У ліцвінскім, як і ў польскім патрыятычным руху, у пошуках шляхоў дзяржаўнага ўладкавання Айчыны сфарміраваліся тады дзве плыні. Была значная плынь, арыентаваная на Захад. Яна звязвала вялікія надзеі з Францыяй і Напалеонам, які перакройваў карту Еўропы. Другая плынь зрабіла стаўку на Расію і Аляксандра I.

Разгром у кастрычніку 1806 г. Францыяй Прусіі і рускай арміі над пад Фрыдландам 14 чэрвеня 1807 г. наблізілі вайну да межаў былога ВКЛ. Стварэнне ў 1807 г. пад французскім пратэктаратам на землях, якія паводле першага і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай адышлі да Прусіі, марыянеткавага дзяржаўнага ўтварэння – Вялікага герцагства Варшаўскага выклікала жывы водгук у Літве і Беларусі. Тут, як і ў Варшаве, надзею на адшуканне незалежнасці сталі звязваць з чарговымі ваеннымі перамогамі Напалеона над «заборцамі» Рэчы Паспалітай[368]. Да 1806 г., як сцвярджаюць польскія гісторыкі Е. Скаўронак і С. Смолка, ніхто ўсур'ёз не думаў аб магчымасці

---

[368] *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 20; *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 20.

вяртання Польшчы, а пасля Тыльзіта нават недаверлівыя паверылі ў магчымасць яе адбудовы[369].

Рашэнне аднавіць Рэч Паспалітую Напалеон упершыню публічна абвясціў у Берліне, Познані, Варшаве пад час вайны 1806–1807 гг. з Прусіяй і Расіяй. Стварэнне Варшаўскага герцагства было пададзена як зарука яе аднаўлення ў будучым. Затое заява ў публічнай прамове французскага міністра ўнутраных спраў Манталівэ, што аб узнаўленні Польшчы Напалеон ніколі не думаў, у друк не папала. Прэса паспяшалася заспакоіць палякаў і ліцвінаў, што гэта заява – усяго толькі ветлівасць, аказаная Манталівэ расійскаму паслу. Выступленні (па загадзе Напалеона) 1 лістапада 1806 г. у друку польскіх генералаў Я. Дамброўскага і Ю. Выбіцкага са зваротамі да суайчыннікаў надавалі ўпэўненасці, што справа сапраўды ідзе да ўзнаўлення Рэчы Паспалітай[370].

У 1806 г. Напалеон хацеў выкарыстаць для сваіх мэтаў Т. Касцюшку, ведаючы пра вялікі давер і любоў да яго палякаў і ліцвінаў; рабіў яму заманлівыя прапановы. Прапаноўваў, каб ён склаў зварот да сваіх суайчыннікаў, падпісаны ўласнай рукой. Але Т. Касцюшка не спакусіўся, бо не верыў абяцанням Напалеона, што той мае намер узнавіць Рэч Паспалітую, а асабліва – зрабіць яе вольнай і незалежнай краінай. Кіраўнік паўстання не пажадаў браць на сябе адказнасць і абманваць суайчыннікаў надзеямі, якія ён не падзяляў. Хоць ужо і было абвешчана пра хуткі прыезд Т. Касцюшкі і яго згоду змагацца дзеля вызвалення Рэчы Паспалітай пад эгідай імператара французаў – гэта абнародавалі ў сваіх зваротах генералы Я. Дамброўскі і Ю. Выбіцкі[371].

Т. Касцюшка з болем прыгадваў бесклапотнасць французаў адносна лёсу Рэчы Паспалітай, падзел якой яны маглі прадухіліць і якой яны маглі дзейсна дапамагчы ў перыяд паўстання 1794 г. Ён аддаваў належнае вайсковаму таленту Напалеона, але бачыў у ім заваёўніка, прасякнутага славалюбствам, і дэспата, што цалкам супярэчыла яго прынцыпам і выключала магчымасць узнікнення ўсялякага

[369] *Skowronek J.* Antynapoleońskie koncepcje Czartoryskiego. Warszawa: PWN, 1969. S. 199; *Wasilewski L.* Litwa i jej ludy. Warszawa: Księgarnia Naukowa, 1907. S. 22.

[370] Адраджэнне: Гістарычны альманах / склад. і навук. рэд. А. П. Грыцкевіч. Мінск: Універсітэцкае, 1995. Вып. 1. С. 202–204.

[371] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 161–162.

пачуцця даверу. Напалеон быў вельмі засмучаны адмовай Т. Касцюшкі, які, каб не ісці ўслед за ім, спасылаўся на кепскі стан здароўя[372], а яшчэ і абвясціў фальшывай выдадзеную ад яго імя адозву. «Касцюшка вар'ят», – напісаў тады разъюшаны імператар[373].

Згаданыя адозвы; надзея ўбачыць прыезд Т. Касцюшкі; давер, выклiканы Напалеонам, які да гэтага часу быў непераможным; яго нядаўнія поспехі ў Прусіі (1806); павага, якую ён засведчываў вайскоўцам з былой Рэчы Паспалітай; а таксама спадзяванні на яе ўзнаўленне, якія Банапарт клапатліва падтрымліваў праз сваіх эмісараў, – усё гэта ўзрушыла жыхароў не толькі польскіх зямель, што знаходзіліся пад прускай уладай, але і беларуска-літоўскіх зямель, падпарадкаваных Расіі[374]. Адусюль паспяшаліся на захад дабраахвотнікі, каб стаць пад пераможныя сцягі французаў, якія ў снежні 1806 г. трыумфальна ўвайшлі ў Варшаву.

Назіральныя людзі, многія асобы з вышэйшых грамадскіх колаў ВКЛ абапіраліся ў сваіх меркаваннях на адкрыта засведчаную Т. Касцюшкам непрыязнь да абяцанняў Напалеона. «Аднак маса насельніцтва, якая не разважае, – пісаў М. К. Агінскі, – даверліва цешылася спадзяваннем на блізкае ўваскрасенне, а смелыя вайскоўцы … чакалі толькі магчымасці пакрыць сябе славай»[375]. Ён не падзяляў спадзяванняў тых суайчыннікаў, якія ішлі за «дыктатарам Францыі», хоць ставіўся да іх з павагай, бо мэта ва ўсіх была адна – не сыходзіліся толькі ў сродках і спосабах яе дасягнення[376].

У той жа час сярод магнатэрыі беларуска-літоўскіх губерняў было шмат прыхільнікаў Напалеона: Л. М. Пац, А. Сапега, Д. Радзівіл і інш. На яго арыентавалася дэмакратычная частка шляхты, мяшчан, інтэлігенцыі, чые патрыятычныя пачуцці падаграваліся самім фактам існавання на другім беразе Нёмана княства. Забароны і рэпрэсіі не спынялі

[372] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 162.

[373] *Дубровин Н. Ф.* Русская жизнь в начале XIX века // Русская старина. 1902. Т. 109. С. 238.

[374] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 162–163.

[375] Тамсама. С. 164.

[376] *Подвысоцкий А.* Граф Михаил Огинский и его отношения к императору Александру Павловичу (1807–1815) // Русский архив. 1874. Кн. 1, № 3. С. 642.

шляхецкую моладзь, якая ў вялікай колькасці эмігравала туды і паступала на службу ў польскае войска[377], – называецца лічба 12 тысяч маладых людзей з Літвы і Валыні[378]. Прыклад прадэманстраваў Дамінік Радзівіл, які паверыў у абяцаную Напалеонам свабоду і незалежнасць ВКЛ, пакінуў у Беларусі і Літве вялізныя маёнткі і адным з першых перабраўся ў Варшаўскае герцагства[379]. З 1806 г. знаходзіўся пры штабе Напалеона князь Аляксандр Сапега, які быў яго камергерам, ад'ютантам і галоўным інфарматарам аб сітуацыі ў Літве і Беларусі[380].

У лютым 1807 г. эмісары з Літвы і Валыні агучылі ў Варшаве ідэю арганізацыі паўстання на іх тэрыторыі. Вясной 1807 г. план паўстання (антырасійскай дыверсіі) у агульным абрысе быў прапанаваны Напалеону. Найбольш верагодным аўтарам яго з'яўляўся А. Сапега, хоць існуе думка, што ён выйшаў з-пад пяра Т. Касцюшкі. Меркавалася дзеянне трох узброеных злучэнняў у тылах расійскага войска: у жмудскіх лясах вакол Нёмана і паміж Гродна і Брэстам. Корпус лёгкай польскай кавалерыі пасля атакі на Брэст накіруецца на Валынь і далей на поўдзень. Адначасова на гэтых землях уздымаецца паўстанне праз абвяшчэнне свабоды сялянам. Шляхта не павінна гэтаму супраціўляцца, бо мае свой інтарэс у паўстанні[381].

План паўстання суправаджаў мемарыял, напісаны, верагодна, пад уплывам А. Сапегі ў 1807 г. Мемарыял утрымліваў аналіз абставін акцыі паўстання і праект арганізацыі вызваленага ВКЛ. У ім падкрэслівалася, што ліцвіны надаюць вялікую ўвагу былым інстытуцыям і звычаям. Яны і цяпер жадаюць захаваць уласны кодэкс і ўнутраную адміністрацыю. З мемарыяла відаць жаданне аўтара аб захаванні асобнай адміністрацыі ў ВКЛ. Агаворвалася, што на пасаду маршалкаў шляхты трэба абіраць людзей, якія характарызуюцца дастатковым патрыятызмам[382].

[377] *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 21.

[378] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 22.

[379] *Лукашэвіч А. М.* Беларусь напярэдадні і ў час вайны 1812 г.: вучэбна-метадычны комплекс. Мінск: БДУ, 2004. С. 103.

[380] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 22.

[381] Тамсама. S. 25–27.

[382] Тамсама. S. 31–32.

Да мемарыялу быў далучаны спіс асобаў з ліку дзяржаўных, вайсковых і рэлігійных дзеячаў ВКЛ, якія карысталіся ўсеагульнай павагай і мелі ўплыў на стан думак: генерал Тамаш Ваўжэцкі, пісар літоўскі вайсковы Ежы Белапятровіч, маршалак надворны літоўскі Станіслаў Солтан, навагрудскі ваявода Юзаф Несялоўскі і яго сын генерал Ксаверы Несялоўскі, Караль Прозар, апошні абозны вялікі літоўскі Аляксандр Пацей, Міхал Ромер, біскуп Ян Касакоўскі, генерал Ігнацы Гелгуд, Адам Храптовіч (сын канцлера), Аляксандр Сапега, генерал Рамуальд Гедройц, князь Дамінік Радзівіл і інш. Ім было вырашана даручыць ажыццяўленне плана паўстання. Большасць з гэтых людзей ведала пра davеранную ім ролю і ў будучым пацвердзіла сваю прафранцузскую арыентацыю[383].

Заангажаванасць ліцвінаў у падрыхтоўку паўстання ў Беларусі і Літве пацвярджае рапарт палкоўніка Тадэвуша Тышкевіча 30 чэрвеня 1807 г., прапанаваны Напалеону ў Тыльзіце. Палкоўнік сцвярджаў, што жыхары ўсяго краю – ад Нёмана да Дзвіны – маюць адкрытыя сэрцы для імператара французаў; інфармаваў пра тайныя атрады, гатовыя да змагання і сабраныя на Жмудзі, каля Гродна і на Брэстчыне. У рапарце адзначалася, што падрыхтоўкай паўстання займаюцца вызначаныя асобы, якія карыстаюцца ўсеагульным даверам і заменяць расійскіх чыноўнікаў у адміністрацыі ВКЛ. Т. Тышкевіч аптымістычна ацэньваў, што беларуска-літоўскія землі выставяць 50 тысяч узброеных салдат. Інфармаваў таксама аб тым, што да аўстрыйскага імператара Іосіфа пасланы Юзаф Серакоўскі, надзелены вялікімі паўнамоцтвамі, які ад імя Літвы павінен узгадніць паўстанцкія планы[384].

У чэрвені 1807 г. у Тыльзіт, дзе ішлі перамовы імператараў, прыбыла тайная ліцвінская дэлегацыя на чале з Ю. Серакоўскім у надзеі, што мірныя перамовы прынясуць адбудову Рэчы Паспалітай, і ў боязі, што на тых перамовах забудуць пра ВКЛ, з прапановай узняць антырасійскае паўстанне ў заходніх губернях пры ўмове яго падтрымкі з боку Францыі. Але поспеху гэта дэлегацыя не мела, бо ініцыятыва з'явілася запозна[385].

---

383 *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 33.

384 Тамсама. S. 33. .

385 *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 21; Nawrot D. Litwa i Napoleon w 1812

На землях былога ВКЛ наспявала новае паўстанне. Падрыхтоўку да яго пацвярджалі як французы, так і расіяне. Сам Напалеон пазней прызнаваў, што Літва ў 1807 г. была гатовая да паўстання[386]. У ліпені 1807 г. у Вільні распаўсюджваліся пункты пераміp'я, нібыта заключанага паміж Расіяй і Францыяй, па якому мяжа Расіі адсоўвалася за Дзвіну і Днепр далей на ўсход[387]. «Ды як было і не верыць гэтаму, – пісаў 14 ліпеня 1807 г. ураджэнец Брэсцкага павета, былы ад'ютант і сакратар Т. Касцюшкі Юльян Нямцэвіч, – калі палякі былі падтрыманыя пракламацыямі, рапартамі міністра Талейрана Напалеону ... і новымі картамі Еўропы, на якіх было пазначана царства Польскае як самастойная дзяржава. Стаяла толькі пытанне, хто будзе кіраваць ёй»[388].

Досвед адраджэння Напалеонам польскай дзяржаўнасці быў, па словах сучасніка тых падзей шляхціца Э. Тышынскага з беларускага Падзвіння, вельмі спакуслівы для ліцвінаў[389]. Яны бачылі ў Варшаўскім герцагстве пачатак аднаўлення Рэчы Паспалітай і ўскладалі надзеі на Напалеона ў адраджэнні сваёй гістарычнай дзяржавы – ВКЛ, якое магло быць злучана з Варшаўскім герцагствам. Як пісаў рускі гісторык С. Салаўёў, Напалеон быў задаволены тым, што знайшоў «ва ўсходняй Еўропе народ, які хваляваўся і падаваў няспынна прэтэнзіі на самастойнае існаванне. Напалеону трэба было час ад часу вабіць гэты народ, каб пужаць ім суседзяў»[390].

Аднак пры ўсёй знешняй бачнасці самастойнасці Варшаўскага герцагства – саё войска, фінансы, сейм, урад – яно з'яўлялася пратэктаратам Францыі, падпарадкаваным законам Напалеона. Непрапарцыянальныя тэрыторыі і насельніцтву герцагства ваенныя падаткі, рэквізіцыі, рэкруцкія наборы, удзел польскіх легіёнаў у шматлікіх напалеонаўскіх войнах у многіх выклікалі незадавальненне

---

roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 30, 45.

[386] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 46–47.

[387] *Дубровин Н. Ф.* Русская жизнь в начале XIX века // Русская старина. 1902. Т. 109. С. 243.

[388] Тамсама. С. 242.

[389] Историческое начертание о Великом княжестве Литовском и письмо Е. Тычинского об образовании особого княжества Литовского. 1811 год // РДАСА. Ф. 12. Спр. 258. Арк. 23.

[390] *Дубровин Н. Ф.* Русская жизнь в начале XIX века // Русская старина. 1902. Т. 111. С. 29.

палітыкай французскага імператара. Як піша гісторык С. Смолка, герцагства Варшаўскае ў вачах ліцвіна было ўсё ж не Польскім каралеўствам, а карыкатурай незалежнасці на самым ускрайку Польшчы, з адыёзным для любіцеля Літоўскага Статута Кодэксам Напалеона[391]. Гэта разам з адменай прыгоннага права прымушала частку беларуска-літоўскай шляхты ў надзеі палітычнага адраджэння сваёй дзяржавы арыентавацца на Расію і Аляксандра І.

Напалеон ведаў, што «Літва не падзяляе энтузіязму іншых правінцый даўняй Польшчы», таму пасылаў сюды сваіх эмісараў, якія шырылі думку, што ён абсыпае палякаў дабрадзействамі і намерваецца пашырыць межы Польшчы аж да Волгі, а пецярбургскія планы яе аднаўлення – гэта хімера[392].

***Праекты палітычнага адраджэння «рускай Польшчы» пад скіпетрам Аляксандра І (1805–1810 г.). План А. Чартарыйскага.*** Сярод часткі жыхароў Беларусі і Літвы дамінавалі настроі прымірэння з Расіяй. Да згоды з ёй, па ацэнках польскага гісторыка Д. Наўрота, схілялася большасць магнатэрыі і заможнай шляхты. Не трэба забываць, што Расія адзіная пакінула Статут ВКЛ і пэўную свабоду ў формах адміністрацыі, і гэта давала шляхце сурагат ранейшых свабод, нагадвала пра старыя добрыя для яе часы[393]. Палітыка Паўла І і Аляксандра І часам узмацняла прарасійскія настроі шляхты. Першы згладзіў востры курс асіміляцыі, якую праводзіла Кацярына ІІ, і рабіў некаторыя жэсты, разгляданыя як сведчанне яго прапольскіх сімпатый. Але сапраўдны энтузіязм вышэйшых слаёў ліцвінскага грамадства выклікалі першыя гады праўлення Аляксандра І. Вяртанне канфіскаваных маёнткаў, зняцце секвестраў абуджала пачуццё ўдзячнасці ў «адораных» уласным маёнткам. Прызнанне аўтаноміі і паланізацыя асветы ў Віленскай навучальнай акрузе будзіла надзеі на атрыманне шырокай адміністрацыйнай і

---

[391] *Smolka S.* Polityka Lubeckiego przed powstaniem listopadowym. Kraków: Akademia Umiejętności, 1907. T. 1. S. 43.

[392] Адраджэнне: Гістарычны альманах / склад. і навук. рэд. А. П. Грыцкевіч. Мінск: Універсітэцкае, 1995. Вып. 1. С. 203; Pamiętniki Michała Ogińskiego o Polsce i Polakach: od roku 1788 aż do końca roku 1815. T. III. Poznań: Nakładem Księgarni J. K Żupańskiego, 1872. S. 104.

[393] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 17, 18.

палітычнай аўтаноміі для зямель былога ВКЛ[394]. Сімпатыі да «добрага цара» ўзмацніліся не толькі ў Беларусі і Літве, але і ў эміграцыі.

Прыхільнікі вяртання незалежнасці Расіяй, якія згадзіліся бы на аўтаномію ВКЛ, падкрэсліваючы яго партыкулярызм, таксама не былі пасіўныя. І ў іх асяроддзі паўставалі праекты. Кіраўніком гэтай плыні ў польскім руху быў удзельнік барацьбы за незалежнасць Рэчы Паспалітай у час яе падзелаў, а цяпер – расійскі дзяржаўны дзеяч князь Адам Чартарыйскі (1770–1861)[395]. На чале ліцвінскага руху стаў князь Міхал Клеафас Агінскі.

Прызначэннем у 1804 г. А. Чартарыйскага на пасаду міністра замежных спраў Аляксандр І даваў зразумець, што «польскае пытанне» становіцца галоўным арыенцірам пры выпрацоўцы асноўных прынцыпаў знешнепалітычнага курса Расіі. Асабісты давер імператара той успрыняў як прычыну для змены палітыкі ў «польскім пытанні»[396]. Адраджэнне Рэчы Паспалітай А. Чартарыйскі лічыў мэтай свайго жыцця, але не верыў ні ў рэвалюцыйны шлях здабыцця незалежнасці, ні ў дапамогу Францыі. Яго праграма перабудовы Еўропы, распрацаваная ў 1805–1810 гг., і канцэпцыя ўзнаўлення пад царскім скіпетрам Рэчы Паспалітай як састаўная частка гэтай праграмы насіла антынапалеонаўскі характар[397].

З'яўленню польскіх планаў А. Чартарыйскага спрыялі міжнародная сітуацыя – польскае пытанне набірала ўсё большае значэнне па меры пагаршэння з пачатку 1803 г. расійска-французскіх адносін, а таксама стаўленне расійскіх урадавых сфераў[398]. Важна і тое, што ў 1802–1810 гг., пакуль міністрам асветы быў П. Завадоўскі, А. Чартарыйскі меў поўную свабоду дзеяння ў Віленскай навучальнай акрузе.

Абрысы плана А. Чартарыйскага пачалі акрэслівацца з канца 1804 г, а першы накід з'явіўся ў 1805 г. Гэты план быў

[394] *Skowronek J.* Antynapoleońskie koncepcje Czartoryskiego. Warszawa: PWN, 1969. S. 181, 187–188.

[395] *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 21.

[396] *Ерашэвіч А.* Палітычныя праекты адраджэння Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў палітыцы расейскага царызму напярэдадні вайны 1812 г. // Гістарычны альманах. Гародня, 2002. Т. 6. С. 84–85.

[397] *Skowronek J.* Antynapoleońskie koncepcje Czartoryskiego. Warszawa: PWN, 1969. S. 190.

[398] Тамсама. S. 199, 202.

упісаны ў яго смелую канцэпцыю перагляду палітычнай карты Еўропы, выкладзеную ў «Запісцы аб уладкаванні еўрапейскіх спраў». Галоўным пунктам плана было абвяшчэнне цара ў Вільні польскім каралём. Новая дзяржава стваралася ў межах, якія Рэч Паспалітая мела да першага падзелу, г. зн. за кошт зямель, якія цяпер належалі Расіі, Прусіі і, верагодна, Аўстрыі; была звязана дынастычнай уніяй з Расіяй, але атрымлівала Канстытуцыю 3 мая 1791 г.[399]. План быў прадстаўлены Аляксандру I, калі той накіроўваўся на тэатр вайны, у радавым маёнтку Чартарыйскіх Пулавы (на паўднёвым усходзе Польшчы), чаму атрымаў назву «Пулаўскага плана». Гэты візіт імператара ўзбудзіў надзею ў польскім і ліцвінскім грамадстве, якое ўбачыла ў ім доказ, што момант ажыццяўлення патрыятычных чаканняў блізкі.

Рускія палітыкі, як успамінаў А. Чартарыйскі ў мемуарных запісах за 1804–1805 гг., дабразычліва слухалі прадстаўленую ім палітычную праграму, пакуль у ёй развівалася ідэя аб першаснай ролі, якую набудзе Расія ў справах Еўропы. Але як толькі ён закранаў абавязацельствы, якія вынікалі з першынства Расіі, і пачынаў гаварыць пра правы іншых народаў, адабрэнні станавіліся больш рэдкімі, халоднымі і стрыманымі. Таму міністр, калі агучваў сваю праграму, пазбягаў згадваць пра Рэч Паспалітую, хоць ідэя яе аднаўлення сама па сабе выцякала з яго праграмы і з таго кірунку, які ён хацеў надаць рускай палітыцы. Адчуваў, што патрэбна асцярожнасць, бо ніхто з рускіх палітыкаў не быў схільны да аднаўлення Рэчы Паспалітай. Толькі Аляксандр I ведаў пра яго лад думак і цвёрда намерваўся абвясціць сябе польскім каралём. Праўда, заўважаў А. Чартарыйскі, як толькі набліжаўся час дзеянняў, яго рашучасць слабела[400].

У канцы 1806 г. А. Чартарыйскі прадпрыняў новую спробу пераканаць Аляксандра I у неабходнасці вярнуць незалежнасць Рэчы Паспалітай. У запісцы, накіраванай яму 5 снежня, князь

[399] *Лукашевич А. М.* «Пулавский план» Адама Чарторыйского и его влияние на оперативную подготовку России и ход войны 1805 г. с Францией // Российские и славянские исследования: науч. сб. / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. ред.) [и др.]. Минск: БГУ, 2010. Вып. 5. С. 194–202; *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 37.

[400] *Чарторижский, А.* Мемуары [Электронны рэсурс]. М.: ТЕРРА–Книжный клуб, 1998. 304 с. Рэжым доступу: http://pawet.net/library/history/bel_history/_memoirs/007/Чарторижский_Адам._Мемуары.html. Дата доступу: 20.01.2019.

даказваў, што заходнія губерні з іх настроямі на адраджэнне дзяржаўнасці настолькі ж змяншаюць магутнасць Расіі, наколькі павялічваюць магутнасць і сілы Францыі[401].

У час руска-пруска-французскай вайны 1806–1807 гг. думка пра палітычнае адраджэнне «рускай Польшчы» пад скіпетрам Аляксандра I з'явілася сярод палітычных дзеячаў былога ВКЛ. Гэту ідэю ініцыявалі Станіслаў Нямцэвіч, былы пасол ад Брэсцкага ваяводства на сеймы Рэчы Паспалітай, і ўраджэнец Браслаўскага павета Тамаш Ваўжэцкі, які пераняў кіраванне паўстаннем 1794 г. пасля захопу ў палон Т. Касцюшкі.

С. Нямцэвіч уручыў А. Чартарыйскаму план, выкладзены ў двух дакументах, датаваных адпаведна 24 і 25 лістапада 1806 г.: «Думкі, якія служаць да выканання вядомага праекта» і «Мемарыял аб уладкаванні Літвы». Прадугледжвалася, што А. Чартарыйскі пераканае Аляксандра I прыняць польскую карону, і распісвалася працэдура абнародавання яго згоды. Да дня прыбыцця Аляксандра I у Вільню там будзе арганізаваны з'езд маршалкаў шляхты Віленскай, Гродзенскай, Валынскай, Падольскай і Кіеўскай губерняў, які перадасць яму падзячны адрас за сваімі подпісамі, як прадстаўнікоў усяго насельніцтва заходніх губерняў[402].

Прадугледжвалася падрыхтоўка адпаведнай падтрымкі з боку грамадства, для чаго меркавалася накіраваць арганізатараў акцыі на Валынь, у Мінск і інш. У рэалізацыі плана намерваліся абаперціся на прадстаўнікоў знакамітых ліцвінскіх родаў, якія з даўніх часоў кіравалі грамадскай думкай і цяпер павінны даць прыклад іншым: Чартарыйскіх, Радзівілаў, Сапегаў, Аляксандра Хадкевіча, Аляксандра Пацея («яго справадзіць з Варшавы»), Міхаіла Паца, Тызенгаўзаў, Храптовічаў, Агінскіх («падскарбія, канешне»). Далей ішоў пералік асоб, на якіх планавалася абаперціся пры ажыццяўленні гэтага плана[403].

У 1807 г. А. Г. Радзівіл у сваім ваенна-палітычным праекце прапаноўваў расійскаму цару прыняць тытул вялікага князя літоўскага[404].

---

[401] *Дубровин Н. Ф.* Русская жизнь в начале XIX века // Русская старина. 1902. Т. 109. С. 243.

[402] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 37–39.

[403] Тамсама.S. 38.

[404] *Ерашэвіч А.* Палітычныя праекты адраджэння Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў палітыцы расейскага царызму напярэдадні вайны 1812 г. //

Сам А. Чартарыйскі ўпершыню выразна прапанаваў вяртанне дзяржаўнасці Рэчы Паспалітай у 1806–1807 гг.[405]. Праца над праектам ішла на мяжы 1806–1807 гг., калі французы захапілі Варшаву. У пачатку 1807 г. сваім цыркулярам да «некаторых значнейшых асоб у Польшчы» ён асцерагаў, што ім прыйдзецца дорага заплаціць за гонар насіць ярмо Напалеона, і падрыхтаваў адозву, якую павінен быў выдаць галоўнакамандуючы расійскай арміі. Але тым грамадзянам Рэчы Паспалітай, хто возьмецца за зброю супраць «узурпатара», не абяцалася нічога, акрамя падзякі «выдатнага манарха»[406]. Праект не знайшоў тады падтрымкі Аляксандра І з-за боязі некантраляванай для Расіі сітуацыі, якую магло стварыць абвяшчэнне адраджэння Рэчы Паспалітай.

Тым не менш, рэакцыя жыхароў Беларусі і Літвы на ваенныя падзеі 1806–1807 г., рэальная пагроза пашырэння на ўсход тэрыторыі Варшаўскага герцагства і адарвання «польскіх губерняў», боязь іх страты, разам з пошукам рэзерваў перад рашаючым сутыкненнем з Францыяй, вымушала Пецярбург прадпрымаць крокі па вырашэнню «літоўскага» пытання, бо з гэтай ініцыятывай мог апярэдзіць Напалеон[407]. Таму ўрэшце было вырашана выкарыстаць уплывы А. Чартарыйскага.

А. Чартарыйскі паклікаў тады ў галоўную кватэру цара ў Таўрогах Т. Ваўжэцкага і генерала Караля Князевіча (паходзіў з беларускай шляхты), расчараванага палітыкай Напалеона. Зноў выказваючы сваё бачанне будучыні Рэчы Паспалітай, Аляксандр І абмежаваўся толькі агульнымі дэкларацыямі, што гатовы яе адрадзіць, арганізаваць польскае войска і даверыць камандаванне ім К. Князевічу ў супрацьвагу польскай арміі пад кіраўніцтвам Я. Дамброўскага. К. Князевіч адмовіўся, матывуючы свой крок немагчымасцю змагацца на баку Расіі супраць братоў, якія знаходзяцца ў шэрагах польскіх войскаў, арганізаваных Напалеонам[408].

---

Гістарычны альманах. Гародня, 2002. Т. 6. С. 87.

[405] *Skowronek J.* Antynapoleońskie koncepcje Czartoryskiego. Warszawa: PWN, 1969. S. 190.

[406] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 39.

[407] *Ерашэвіч А.* Палітычныя праекты адраджэння Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў палітыцы расейскага царызму напярэдадні вайны 1812 г. // Гістарычны альманах. Гародня, 2002. Т. 6. С. 84–88.

[408] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 40–41.

У 1809 г. адбыўся новы ўсплёск адраджэнскіх настрояў на беларуска-літоўскіх землях, калі Напалеон далучыў да Варшаўскага герцагства тыя тэрыторыі Рэчы Паспалітай, што адышлі ў час яе падзелаў да Аўстрыі, і стварыў 80-тысячны корпус польскага войска на чале з Юзафам Панятоўскім, пляменнікам апошняга караля польскага і вялікага князя літоўскага[409]. 18 мая 1809 г. гродзенскі губернатар паведамляў міністру ўнутраных спраў, што ў краі «пад попелам крыецца агонь, які пры першым спрыяльным выпадку гатоў успыхнуць»[410].

Ліцвінскім патрыётам здавалася, што Тыльзіцкі мір і ўтварэнне Варшаўскага герцагства, а потым пашырэнне яго тэрыторыі ўрэшце пераканалі расійскага імператара згадзіцца з аднаўленнем Рэчы Паспалітай. У ананімным пісьме з Вільні, атрыманым у Пецярбургу ў верасні 1809 г., аўтар, які падпісаўся «Убогі шляхціц», пераконваў Аляксандра I і сенат у тым, што наступіў час «вярнуць Польшчу, як яна з даўніх часоў была». «Няхай палякі выберуць сабе каралём свайго адназемца, – гаварылася ў пісьме. – Расія можа зрабіць гэта без вайны. … а потым ваяваць. … (*інакш – С. М.*) будзе пераможана і змушана будзе вярнуць дзяржаву»[411].

Яркую характарыстыку «настрояў у Літве» на мяжы 1800–1810-х гг. дае датаваны чэрвенем 1811 г. ліст Э. Тышынскага, прадстаўніка «першынствуючай часткі народа, якая карыстаецца неабмежаванай перавагай дваранскай годнасці», М. К. Агінскаму. Ад імя «літоўцаў», якія насяляюць берагі Заходняй Дзвіны, Э. Тышынскі пераконваў адрасата ў неадкладнай неабходнасці вярнуць ліцвінам іх дзяржаву[412] (дадатак 6).

«У літоўцаў, – гаворыцца ў лісце, – яшчэ айчынай – Літва, законам – Статут, заканадаўчай уладай – сейм». А тых, хто думае інакш, – «малая колькасць»[413]. «Ад 15-гадовага юнака да 60-гадовага старца няма ў Літве ніводнага шляхціца, які б не палаў жаданнем … або абараняць грудзьмі свае

409 Тамсама. S. 53.

410 *Дубровин Н. Ф.* Русская жизнь в начале XIX века // Русская старина. 1902. Т. 111. С. 10.

411 Историческое начертание о Великом княжестве Литовском и письмо Е. Тычинского об образовании особого княжества Литовского. 1811 год // РДАСА. Ф. 12. Спр. 258. Арк. 1, 6–6 адв.

412 Тамсама. Арк. 19–23.

413 Тамсама. Арк. 20 адв. – 21.

карэнныя законы і перавагі, або вырашаць справы Айчыны і справы дзяржавы. … Калі б уладкаваць Літву, якая доўгі час знаходзілася ў саюзе з Польшчай, але якая заўсёды зберагала ўдзельнасць і незалежнасць сваёй нацыі, на больш выгодных, супраць Варшаўскага герцагства, правілах, – лічыў Э. Тышынскі, – гэта спыніць незадавальненне, запальчывасць і парыў тых, хто спакушаецца і спакусіўся пустымі надзеямі, але яшчэ і прывабіць на бок тутэйшага ўраду вельмі многіх з-за мяжы. Літоўцы загінуць без хуткай і рашучай пастановы аб іх долі»[414]. Аўтар ліста папярэджваў, што «цяперашняе становішча літоўцаў … небяспечнае для імперыі» і пагражае ёй катастрофай[415].

***Урадавая ідэя «літоўскай аўтаноміі». Праект М. Сперанскага.*** Правал плана А. Чартарыйскага аб стварэнні Польскага каралеўства на чале з рускім імператарам, які быў у прынцыпе не супраць гэтай ідэі – згаджаўся даць палякам аўтаномію, канстытуцыю, уласны ўрад, войска, але не прызнаваў іх правоў на землі Беларусі, Літвы, Украіны ў межах да 1772 г., – падштурхнуў Аляксандра І да ідэі «літоўскай аўтаноміі»[416]. У ёй царскі ўрад убачыў ва ўмовах напружанай знешнепалітычнай абстаноўкі надзейны сродак зменшыць антыўрадавыя настроі часткі мясцовай шляхты і выклікаць сімпатыі насельніцтва заходніх губерняў да Расіі[417]. Дзеля гэтага Аляксандр І быў гатоў пайсці на некаторую лібералізацыю палітыкі ў заходніх губернях і стварэнне ў складзе Расійскай імперыі аўтаномнага ВКЛ. Устойлівае імкненне беларускай і літоўскай шляхты да адміністрацыйнай і прававой самастойнасці свайго краю, здавалася, урэшце знайшло разуменне ў сталіцы імперыі.

Думку аб утварэнні аўтаномнага ВКЛ імператар упершыню выказаў у гутарцы з А. Чартарыйскім у 1809 г. Аляксандр І прызнаў, што пачатак бедаў Еўропы быў пакладзены падзеламі

[414] Историческое начертание о Великом княжестве Литовском и письмо Е. Тычинского об образовании особого княжества Литовского. 1811 год // РДАСА. Ф. 12. Спр. 258. Арк. 22–22 адв.

[415] Тамсама. Арк. 23.

[416] *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 24.

[417] *Ерашэвіч А.* Палітычныя праекты адраджэння Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў палітыцы расейскага царызму напярэдадні вайны 1812 г. // Гістарычны альманах. Гародня, 2002. Т. 6. С. 91.

Рэчы Паспалітай, і ён намераны даць асаблівае ўладкаванне тым абласцям, што знаходзяцца пад яго ўладай. У 1810 г. Аляксандр I  усур'ёз зацікавіўся планам А. Чартарыйскага, калі вырашыў падпарадкаваць свайму ўплыву Варшаўскае герцагства, бо ўтварылася рэальная пагроза, што Напалеон выкарыстае яго ў якасці плацдарма для нападу на Расію[418]. З пачатку гэтага года ўсё больш рэальныя абрысы набывала таксама ідэя «літоўскай аўтаноміі». Афіцыйны Пецярбург пайшоў у той далікатнай сітуацыі на абмеркаванне плана стварэння з заходніх губерняў пад пратэктаратам Расійскай імперыі Вялікага герцагства (княства) Літоўскага як асновы будучага ўзнаўлення Рэчы Паспалітай[419].

Паміж лістападам 1810 г. і красавіком 1811 г. А. Чартарыйскі практычна штодня быў госцем цара, які стараўся любой цаной узмацніць яго прывязку да пецярбургскага двара. Побач з абмеркаваннем канцэпцыі ўтварэння Польскага Каралеўства з зямель аўстрыйскага і прускага «забору» Аляксандр I  з пачатку 1810 г. пачаў гаварыць аб намеры абвясціць адраджэнне ВКЛ як састаўной часткі Расіі. З боку цара гэта быў хутчэй ні да чаго не абавязваючы зандаж з мэтай ацаніць магчымасці набыцця ліцвінаў. А. Чартарыйскі спачатку быў толькі слухачом яго маналогаў[420]. Ён ужо дастаткова холадна прымаў завярэнні Аляксандра I аб хуткай адбудове Рэчы Паспалітай у асабістай уніі з царом, нават коратка акрэсленыя планы і імкнуўся выблытацца з сеткі супрацоўніцтва з ім у справах польскіх і літоўскіх, бо баяўся раздваення народу і прывіду грамадзянскай вайны паміж Польшчай і Літвой, якія стаялі за Аляксандра, і той Польшчай і Літвой, што былі верныя Напалеону[421].

Рэакцыя жыхароў Беларусі і Літвы на ваенныя падзеі 1809 г., боязь адарвання «польскіх губерняў», разам з пошукам рэзерваў перад рашаючым сутыкненнем з Францыяй,

---

418 *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 21–22.

419 *Ерашэвіч А.* Палітычныя праекты адраджэння Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў палітыцы расейскага царызму напярэдадні вайны 1812 г. // Гістарычны альманах. Гародня, 2002. Т. 6. С. 89, 90.

420 *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 57–58.

421 *Smolka S.* Polityka Lubeckiego przed powstaniem listopadowym. Kraków: Akademia Umiejętności, 1907. T. 1. S. 33–34.

вымушала Пецярбург прадпрымаць крокі па вырашэнню «літоўскага» пытання, бо з гэтай ініцыятывай мог апярэдзіць Напалеон[422].

Вялікую ролю ў вызначэнні расійскай стратэгіі палітычных дзеянняў адносна літоўска-беларускіх зямель напярэдадні вайны 1812 г. адыграў буйны расійскі дзяржаўны дзеяч, рэфарматар-ліберал і самы ўплывовы тады саноўнік Расіі Міхаіл Сперанскі (1772–1839), які лічыў Польшчу «ахілесавай пятой» Расіі»[423]. Ён сцвярджаў, што «вайна, канешне, лепш, чым страта васьмі заходніх губерняў і ўсе наступствы гэтай страты»[424]; раіў Аляксандру I патаемна прасунуць бліжэй да заходняй мяжы войскі і склады, а грошы на вайну знайсці шляхам займу ў дваранства.

М. Спяранскі прапанаваў Аляксандру I звярнуць увагу на восем заходніх губерняў, якія чакаюць вольнасці і адбудовы дзяржавы, і ахвяраваць гэта ліцвінам, бо ніхто іншы не зможа гэта ім гарантаваць больш танна і на больш трывалых падставах[425]. У сакавіку 1811 г. ён выклаў свае прапановы па ўладкаванню беларуска-літоўскага краю ў запісцы «Аб уладкаванні польскіх губерняў»[426] (дадатак 7), хоць першыя накіды гэтых прапаноў з'явіліся ўжо ў лістападзе 1810 г.[427]

Прапанаваныя захады імператарскі дарадца падзяліў на дзве групы: папярэднія і рашучыя. Галоўнай мэтай першай групы мер было выклікаць прыхільнасць, давер мясцовай шляхты да ўраду Аляксандра I, даўшы ёй надзею на жаданыя пераўтварэнні і волю.

Неабходнасць папярэдніх мер, па словах М. Спяранскага, вынікае з самога становішча «польскіх губерняў», якія пакутуюць ад нязгоднасці іх грамадзянскіх законаў з правіламі нашага праўлення, ад супярэчнасцяў у судовых парадках, ад

[422] *Ерашэвіч А.* Палітычныя праекты адраджэння Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў палітыцы расейскага царызму напярэдадні вайны 1812 г. // Гістарычны альманах. Гародня, 2002. Т. 6. С. 84–88.

[423] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 63.

[424] *Дубровин Н. Ф.* Русская жизнь в начале XIX века // Русская старина. 1901. Т. 108. С. 256.

[425] Тамсама. С. 257.

[426] *Сперанский Михаил Михайлович.* Записка об устройстве польских губерний. На бумаге с водяным знаком 1803 г. Копия. [Б. д.]. // РНБ. Ф. 731. Спр. 147. 26 арк.

[427] Две записки М. М. Сперанского по политическим делам // Русская старина. 1900. № 104. С. 440.

цяжкіх павіннасцяў, завышаных падаткаў, такога фінансава-эканамічнага курса, што ўскладняе гаспадарчую дзейнасць мясцовага панства, і ад іншых фактараў. Абнародаваць гэтыя меры трэба ў самы кароткі тэрмін – не больш як праз месяц, каб падбадзёрыць добранадзейных і «прыпыніць палкасць» тых, хто схільны да пратэсту[428].

Прадугледжвалася стварэнне ў Вільні з «лепшых абшарнікаў» васьмі губерняў і Беластоцкай вобласці Камісіі для арганізацыі тут грамадзянскага праўлення. Камісія найперш павінна вырашыць такія праблемы: 1) як прывесці мясцовае права «ў лепшую яснасць і забяспечыць яго выкананне судамі і паліцыяй»; 2) даць прапановы аб арганізацыі легіёна з мясцовай шляхецкай моладзі; 3) «як задаволіць шляхту з захаваннем яе выгод і агульнай карысці»[429].

Камісія складаецца з чатырох аддзяленняў са старшынямі на чале: заканадаўства і паліцыі, уладкавання казённых маёмасцяў, аблягчэння павіннасцяў і падаткаў, удасканалення прамысловасці і дабрачынных устаноў. Аддзяленні распрацоўваюць прапановы па рэфармаванню адпаведнай сферы жыцця рэгіёна і абмяркоўваюць іх на агульным сходзе Камісіі, які ўзначальвае прызначаны імператарам прэзідэнт. Прапановы, ухваленыя сходам, падаюцца на разгляд і рашэнне імператара[430].

Заснаваць такую Камісію М. Сяпранскі лічыў патрэбным адразу ж, цяпер. Калі «абставіны прадыктуюць неабходнасць стварыць у *(«рускай» – С.М.)* Польшчы асаблівы урад», ім – без звычайнай у такіх справах шкоднай паспешлівасці – можа стаць гэта Камісія, а Пецярбург будзе мець час пазнаёміцца з яе людзьмі і справамі. Калі ж «абставіны не прывядуць нас да рашучых мер», то і ў гэтым выпадку карысць стварэння Камісіі будзе істотнай у «добраўпарадкаванні» гэтых губерняў, бо яна a) прывядзе «польскія законы» ў адпаведнасць з расійскімі, чым забяспечыць лепшы прававы парадак; b) «паставіць даволі значны корпус лепшага дваранства пад уплыў ўраду пасродкам чыноў, ордэнаў і званняў і з дапамогай гэтага корпуса можна будзе мацней і дакладней уздзейнічаць на

[428] *Сперанский Михаил Михайлович.* Записка об устройстве польских губерний. На бумаге с водяным знаком 1803 г. Копия. [Б. д.] // РНБ. Ф. 731. Спр. 147. Арк. 1–4, 8–8 адв.

[429] Тамсама. Арк. 7–7 адв.

[430] Тамсама. Арк. 5–5 адв.

ўсю масу *(насельніцтва – С.М.)»;* c) забяспечыць паступленне на расійскую ваенную службу шляхецкай моладзі, якой будзе дадзена прываблівая для яе і заўгодная для ўраду адукацыя, што паставіць пад яго кантроль «ўяўленне маладых палякаў, заўсёды схільнае да запалення». Створаная з мясцовых абшарнікаў Камісія будзе карыснай таксама d) у правядзенні фінансавай палітыкі, зборы земскіх павіннасцяў, уладкаванні казённых маёнткаў; e) арганізацыі дабрачынных установў, секулярызацыі царкоўных маёнткаў і інш.[431].

Праект М. Спяранскага прадугледжваў таксама стварэнне шляхецкага легіёна і асобай гвардыі ў ім, якая будзе знаходзіцца ў Маскве; назначэнне лепшых губернатараў у Гродне, Вільні і Мінску; стварэнне паліцыі і іншыя меры.

Прапанаваныя захады М. Спяранскі, нагадаем, лічыў патрэбным абнародаваць і пачаць рэалізоўваць не пазней як праз месяц, бо ход міжнародных падзей (палітыка Напалеона за Нёманам, на тэрыторыі Польшчы, чаканне вайны з Францыяй) не пакідаў часу марудзіць. Гэтыя захады павінны падрыхтаваць глебу да пераходу да рашучых мер. Сігналам для пераходу да іх стане «змена ладу праўлення ў Прусіі і Герцагстве Варшаўскім» – аднаўленне французскім імператарам дзяржаўнасці Каралеўства Польскага. У гэты момант – не раней і не пазней – і трэба пачаць аднаўленне дзяржаўнасці Вялікага Княства Літоўскага, што адзіна можа папярэдзіць бунт («возмущение») на землях Літвы і Беларусі[432].

Дзеля гэтага трэба, каб імператар маніфестам абвясціў, што, «жадаючы ўладкаваць на вечныя часы дабрабыт польскай нацыі, мяркуе даць гэтай краіне вобраз праўлення, уласцівы яе норавам і звычаям»[433]. Пасля гэтага Камісія ў Вільні ператвараецца ў вярхоўную ўладу Вялікага Княства Літоўскага – дзяржаўны Літоўскі Савет, складзены з аддзяленняў-міністэрстваў па колькасці галін кіравання. Старшыні аддзяленняў былой Камісіі становяцца міністрамі. Лад праўлення Літоўскага Савета павінен будавацца на тых жа самых прынцыпах, што і ў Расіі, з некаторымі, аднак, мясцовымі асаблівасцямі і дапаўненнямі. Літоўскі Савет

---

[431] *Сперанский Михаил Михайлович.* Записка об устройстве польских губерний. На бумаге с водяным знаком 1803 г. Копия. [Б. д.]. // РНБ. Ф. 731. Спр. 147. Арк. 10 адв. – 13 адв.

[432] Тамсама. Арк. 19.

[433] Тамсама. Арк. 20.

узначальвае сам імператар, а ў яго адсутнасць у Вільні Саветам будзе кіраваць яго намеснік або літоўскі генерал-губернатар[434].

Адначасова з рэарганізацыяй Камісіі ва ўрад у Вільні склікаецца сход з дэпутатаў ад дваранства і духавенства колькасцю да 100 чалавек з усіх губерняў. Публікуецца парадак выбараў, на іх правядзенне адводзіцца адзін месяц.

Калі ў дзяржаўнымі Савеце «ўсё будзе разгледжана і прыгатавана», тады ў прызначаны час у прысутнасці імператара ў Вільні «адкрыецца Сход пад імем Літоўскага Сейма»[435]. Сейм распрацоўвае Канстытуцыію, у якой вызначаецца вобраз праўлення: «Вярхоўная Улада Вялікага Княства Літоўскага, яе перавагі і непадзельнасць з уладай Расійскага Імператара»; парадак прыняцця законаў; склад валасных, губернскіх і агульнага сеймаў; судовую сістэму і правілы судаводства ў іх; парадак упраўлення ў ніжніх і сярэдніх уладных інстанцыях. Сейм павінен таксама вызначыць парадак збору падаткаў, склад вайсковай сілы, Выкананне ўсіх захадаў, прапанаваных Сеймам, ускладаецца на дзяржаўны Савет. Літоўскаму генерал-губернатару даручаецца стварэнне літоўскіх легіёнаў. Пад прадлогам патрэбы сродкаў на іх узбраенне можна атрымаць пазыку праз латарэю. Легіёны «мала-памалу» павінны быць выведзены ў іншыя губерні[436].

Канстытуцыя прапісвае таксама правы саслоўяў. Дваранства мае тыя ж правы, што і расійскае; дзеліцца на асабістае і спадчыннае; павінна несці грамадзянскую ці вайсковую службу. Сяляне застануцца ў залежнасці памешчыкаў, але памер іх падаткаў і павіннасцяў рэгламентуецца інвентарамі, для перагляду якіх засноўваецца асаблівая камісія[437].

Як гаворыцца ў запісцы, гэты «акт аб вобразе праўлення» («Канстытуцыя») «можа быць на прынятых пачатках цяпер жа выраблены»[438].

«Для большага зачаравання розумаў» М. Спяранскі прапанаваў устанавіць ордэн княства Літоўскага з рознымі разрадамі. Прадугледжвалася заснаванне ў Вільні на карысць дваранства заёмнага банка. Прывязать шляхту да зямлі ён раіў

[434] Тамсама. Арк. 20, 22–22 адв.

[435] Тамсама. Арк. 21–21 адв.

[436] Тамсама. Арк. 21 адв.–22 адв., 24, 25.

[437] Тамсама. Арк. 23–23 адв.

[438] Тамсама. Арк. 23, 24 адв.

перадачай ёй на льготных умовах у спадчыннае карыстанне казённых маёнткаў[439].

Карысць для Расійскай імперыі ад свайго праекта рэформ М. Спяранскі фармуляваў наступным чынам: «Калі такім чынам польскія нашы Губерні вернуць палітычнае сваё быццё, – калі адновяцца іх сеймы і ўсё тое, што ў думках іх уяўляла ім выгляд свабоды, калі маладое дваранства атрымае прыстойную службу і шлях да чыноў і званняў, а Дваранства ганаровае будзе мець месцы, велічныя званні і спосаб пражываць свае даходы з некаторай пышнасцю; калі золата іх і частка маёнткаў будзе ў руках Ураду шляхам пазык і саступак: тады пры памяркоўных падатках, пры вядомай лагоднасці нашага праўлення нельга меркаваць, каб паквапіліся яны адарвацца ад Расіі: бо ні Варшаўскае Герцагства, ні самае польскае Каралеўства, калі б яно аднавілася, не дадуць ім тых жа выгод»[440].

Для пасрэдніцтва паміж урадам і патрыятычна настроенай літвінскай шляхтай, якая жадала адрадзіць ВКЛ, яму быў патрэбен энергічны і аўтарытэтны чалавек з яе асяроддзя. Ім стаў Міхал Клеафас Агінскі.

***Праект М. К. Агінскага (1811 г.) і яго разгляд ва ўрадавых колах Расіі.*** З васьмігадовага выгнання М. К. Агінскі – адзіны эмігрант, для якога пры Паўле I не было ў Расіі амністыі, – вярнуўся ў 1802 г. на радзіму, расчараваны ў шчырасці і бескарыслівасці намераў Напалеона адрадзіць Рэч Паспалітую. Дамогшыся атрымання ў спадчыну часткі родавай маёмасці[441], дыпламат неіснуючай дзяржавы пасяліўся з сям'ёй у вёсцы Залессе Ашмянскага павета, паблізу Вільні, з намерам адыйсці ад грамадскіх спраў, якія не прыцягвалі яго з таго часу, як не меў радзімы, якой належала служыць[442]. Аднак бурлівыя падзеі 1806–1807 гг. вярнулі яго да палітыкі.

Разглядаючы Варшаўскае герцагства як толькі правінцыю, падпарадкаваную законам Напалеона, нягледзячы на ўсю знешнюю бачнасць яго самастойнасці – свой урад, сейм, войска,

[439] *Сперанский Михаил Михайлович.* Записка об устройстве польских губерний. На бумаге с водяным знаком 1803 г. Копия. [Б. д.]. // РНБ. Ф. 731. Спр. 147. Арк. 24 адв. – 25.

[440] Тамсама. Арк. 25 адв. – 26.

[441] Об отдаче имения (бывшего князя кухмистра) Огинского Ксаверия в опеку Огинскому Михаилу. Начато 28 июля 1802 г. – окончено 27 ноября 1803 г. // НГАБГ. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 71. 128 арк.

[442] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 157.

фінансы, М. К. Агінскі прыйшоў у сваіх развагах да высновы, што без упэўненасці на ўзнаўленне Рэчы Паспалітай «настолькі ж годна быць ліцвінам, як і жыхаром Варшаўскага княства»[443] (дадатак 8). Палітык-рэаліст, які ўжо шмат чым ахвяраваў дзеля радзімы, расчараваўся ў Напалеоне і атрымаў «міласці» ад Аляксандра І, М. К. Агінскі гатоў быў служыць таму, хто адновіць Рэч Паспалітую на ўсім яе абшары і з незалежным урадам[444]. Разумеючы непазбежнасць барацьбы Францыі з Расіяй, ён прызнаў, па словах А. Падвысоцкага, за меншае з двух зол яе аднаўленне пад скіпетрам расійскага імператара[445].

З гэтай мэтай у пачатку красавіка 1811 г. М. К. Агінскі з'явіўся ў Пецярбург. Запіска М. Спяранскага з'явілася ў сакавіку. У Пецярбургу князя чакала дэлегацыя ад шляхты Віленскай і Гродзенскай губерняў («літоўскі русін» Ф.-К. Друцкі-Любецкі, Т. Ваўжэцкі, Грабоўскі), каб пад яго уплывовай апекай хадайнічаць перад царом аб эканамічных – без палітычнага адцення – інтарэсах свайго краю, які з-за палітыкі расійскай адміністрацыі апынуўся ў цяжкім стане (застой гаспадаркі, бязлітасная фіскальная эксплуатацыя)[446].

М. К. Агінскі прыехаў у сталіцу якраз тады, калі міжнародная сітуацыя схіляла Расію напярэдадні канфлікта з Францыяй да новага звароту да польскай карты, як гэта было ў час французска-расійскай вайны 1806 і 1807 гг. Пасля досведу 1807 г. Аляксандр І бачыў у Беларусі і Літве важнейшы фактар, які мог вырашыць лёс будучай вайны. Вопытны палітык і тонкі дыпламат М. К. Агінскі, зразумеўшы палітычную кан'юнктуру, адразу пачаў настойліва, крок за крокам, падступацца да рэалізацыі ідэі адбудовы ВКЛ. Польскі гісторык Д. Наўрот звязвае пачатак новай палітыкі цара адносна заходніх губерняў з прыездам гэтага палітыка ў сталіцу, дзе «хацелі разбудзіць літоўскі сепаратызм, раздаючы ілюзорныя перспектывы адбудовы ВКЛ»[447].

Паколькі А. Чартарыйскі імкнуўся адыйсці ад

[443] Тамсама. С. 191.

[444] Тамсама.

[445] *Подвысоцкий А.* Граф Михаил Огинский и его отношения к императору Александру Павловичу (1807–1815) // Русский архив. 1874. Кн. 1, № 3. С. 642.

[446] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskieg, 2008. S. 68; *Smolka S.* Polityka Lubeckiego przed powstaniem listopadowym. Kraków: Akademia Umiejętności, 1907. T. 1. S. 24, 34.

[447] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008.S. 69, 71.

супрацоўніцтва з імператарам у справах польскіх і літоўскіх, тым больш цёплы прыём Аляксандра I меў М. К. Агінскі, асыпаны ім дабрадзействамі і ўзведзены ў ранг сенатара. Чалавек з такім мінулым і з упэўненасцю, што ад стваральніка Варшаўскага герцагства палякам і ліцвінам больш няма чаго чакаць, М. К. Агінскі мог стаць для Аляксандра I каштоўным супрацоўнікам для нейтралізацыі напалеонаўскіх уплываў у Беларусі і Літве. Аўдыенцыі і абеды ў цара, якому імпанавала, што іх жыхары давяраюць новаму расійскаму сенатару адстойваць свае інтарэсы, усё больш звязвалі апошняга з расійскімі планамі адносна заходніх губерняў[448].

Пачатак стварэнню праекта аднаўлення ВКЛ паклала размова з царом 13 (25) красавіка 1811 г., які прапанаваў М. К. Агінскаму выкласці ў пісьмовай форме думкі і прапановы адносна «пераўладкавання польскіх абласцей Расіі». Распрацоўка праекта пачалася на наступны дзень і ішла на працягу амаль цэлага года. Ёй займаўся «творчы калектыў»: М. К. Агінскі, Ф.-К. Друцкі-Любецкі і К. Любамірскі, якія тады знаходзіліся ў Пецярбургу, а таксама Л. Плятэр і Т. Ваўжэцкі. Яны вялі паміж сабой тайныя размовы, рэдагавалі палітычныя мемарыялы, якія М. К. Агінскі прадстаўляў цару. Усё яны не верылі ў Напалеона, як і Т. Касцюшка, але верылі ў Аляксандра I, у якога, аднак, Т. Касцюшка таксама не верыў. У гэтым «літоўскім коле» былі выпрацаваны два праекты арганізацыі дзяржавы, злучанай з Расіяй асабістай уніяй, на выпадак розных палітычных камбінацый, у якіх гэтыя планы ўвасобяцца, – два праекты канстытуцыі. Першы – пры захаванні міру – ВКЛ утваралася з васьмі губерняў, другі – на выпадак вайны з Францыяй – Рэч Паспалітая адбудоўвалася ў межах 1771 г. Ядром гэтай новай Польшчы павінна была стаць гістарычная Літва, Вільня[449].

Распрацаваны гэтым «творчым калектывам» план адраджэння ВКЛ, які сенатар М. К. Агінскі прапанаваў расійскаму імператару, быў выкладзены ў наступных дакументах: «Запіска», пададзеная Аляксандру I 15 (27) мая 1811 г.; «Праект указа аб новай арганізацыі заходніх губерняў», які датуецца 22 кастрычніка (3 лістапада) 1811 г.; «Памятная

[448] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 69.

[449] *Smolka S.* Polityka Lubeckiego przed powstaniem listopadowym. Kraków: Akademia Umiejętności, 1907. T. 1. S. 35–36, 42.

запіска», пададзеная Аляксандру I (напісана 1 снежня 1811 г.); «Праект Канстытуцыі Вялікага Княства Літоўскага» (распрацаваны ў канцы 1811 – пачатку 1812 г.).

У першай запісцы М. К. Агінскі тлумачыў Аляксандру I, што далучаная да Расіі частка Рэчы Паспалітай раней складала асобную дзяржаву – ВКЛ, і ліцвіны, нягледзячы на аб'яднанне з Польскім каралеўствам, захавалі свае звычаі, органы ўлады, войска, суд, нават сейм, які збіраўся па чарзе ў Варшаве і Гродна, і гэтымі дзяржаўнымі атрыбутамі вельмі даражылі[450]. Сенатар тлумачыў цару палітычнае значэнне Беларусі і Літвы ў кантэксце наспяваючай вайны з Францыяй і пераконваў, што ўзнаўленнем ВКЛ той заручыцца адданасцю васьмімільённага насельніцтва, якое будзе апорай Расіі з таго боку, адкуль менш за ўсё яна абароненая, і «атрымае на заходняй мяжы… імперыі апору больш надзейную, чым усе крэпасці і войскі, што там знаходзяцца»[451].

М. К. Агінскі прапанаваў напісаць праект арганізацыі Літвы, а ў «запісцы» абмежаваўся тлумачэннем тых правоў, на наданне якіх заходнім губерням мог бы пайсці Аляксандр I: вярнуць краю ранейшыя назву – ВКЛ, сталіцу, Статут; даручыць кіраўніцтва Літвой свайму намесніку, які б меў рэзідэнцыю ў Вільні; дазволіць ёй мець уласны сенат, трыбунал, казну; ураўняць ліцвінаў у падатках з іншымі падданымі імперыі[452], і тады «ліцвінам адным росчыркам пяра будзе вернута бацькаўшчына»[453].

У канцы верасня, напярэдадні ад'езду М. К. Агінскага на адпачынак у Залессе, імператар наказаў яму давесці да ведама землякоў, што ён займаецца іх лёсам і быць можа хутка прадставіцца выпадак даказаць ім гэта: «адно з дзвюх: або, у выпадку вайны, я ўтвараю Польскае каралеўства…, або, калі вайны не будзе, прывяду ў выкананне наш вялікі план адносна Літвы»[454]. У час гэтай паездкі ў Літву і Беларусь М. К. Агінскі гаварыў усім, хто толькі хацеў яго слухаць, што Аляксандр I даручыў яму скласці праект утварэння з

[450] Адраджэнне: Гістарычны альманах / склад. і навук. рэд. А. П. Грыцкевіч. Мінск: Універсітэцкае, 1995. Вып. 1. С. 207.

[451] Тамсама. С. 208.

[452] Тамсама. С. 208–209.

[453] Тамсама. С. 209.

[454] Pamiętniki Michała Ogińskiego o Polsce i Polakach: od roku 1788 aż do końca roku 1815. T. III. Poznań: Nakładem Księgarni J. K. Żupańskiego, 1872. S. 43.

Белай Русі, Літвы, Валыні, Падолля асобнага каралеўства са сталіцай у Вільні, віцэкаралём і аддзелам Сената. Разам з Т. Ваўжэцкім і Л. Плятэрам яны падрыхтавалі нават спіс будучых чыноўнікаў і «раздавалі» пасады[455].

Цар прапанаваў сенатару разам з суайчыннікамі (па аднаму з кожнай губерні) распрацаваць план арганізацыі Літвы. У склад аўтарскага калектыва ўвайшлі ад Гродзенскай губерні – князь Ксаверый Любецкі, ад Віленскай – Тамаш Ваўжэцкі, ад Мінскай – Вікенцій Гечэвіч, ад Магілёўскай – граф Людвік Плятэр, ад Віцебскай – Шадурскі, ад Валынскай – князь Казімір Любамірскі, ад Падольскай – Фадзей Чацкі, ад Кіеўскай – сенатар Казлоўскі[456].

Прапанаваны 22 кастрычніка (3 лістапада) 1811 г. гэтым калектывам «Праект указа аб новай арганізацыі заходніх губерняў» складаўся з прэамбулы і 11 артыкулаў[457] (дадатак 9). Ён прадугледжваў стварэнне ў межах Расійскай імперыі з Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай і Валынскай губерняў, Беластоцкай і Тарнапальскай акруг правінцыі пад назвай «Вялікае Княства Літоўскае» (дадатак 10). Кіраванне Княствам даручалася імператарскаму намесніку, прызначанаму імператарам, з рэзідэнцыяй ў Вільні, сталіцы Княства, які ўтрымліваўся за кошт дзяржаўнай казны. Пад старшынствам намесніка ствараецца Адміністрацыйная рада кіравання – унутраная адміністрацыя Княства, якая падраздзяляецца на дэпартаменты і складаецца з генеральнага дырэктара і некалькіх радцаў, прызначаемых імператарам. Апошняй апеляцыйнай інстанцыяй па судовым справам будзе вярхоўны трыбунал у Вільні. Права смяротнага пакарання і памілавання належыць імператару. Усе пасады ў дзяржаўным кіраванні могуць замяшчацца толькі ўраджэнцамі Княства. Справаводства будзе весціся на польскай мове. Для кіравання справамі ВКЛ у Пецярбургу ствараецца Літоўская

---

455 *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 72.

456 *Подвысоцкий А.* Граф Михаил Огинский и его отношения к императору Александру Павловичу (1807–1815) // Русский архив. 1874. Кн. 1, № 3. С. 682; Pamiętniki Michała Ogińskiego o Polsce i Polakach: od roku 1788 aż do końca roku 1815. T. III. Poznań: Nakładem Księgarni J. K. Żupańskiego. S. 72.

457 Адраджэнне: Гістарычны альманах / склад. і навук. рэд. А. П. Грыцкевіч. Мінск: Універсітэцкае, 1995. Вып. 1. С. 212–213.

канцылярыя пад кантролем імператара і пад кіраўніцтвам аднаго з міністраў.

Асноўным заканадаўствам Княства з'яўляецца і назаўжды застаецца статут. Ён вызначае арганізацыю ўсіх галін унутранага кіравання і абавязкі службовых асоб, размеркаванне падаткаў, кіраванне дзяржаўнай маёмасцю, пытанні фарміравання арміі, утрымання паліцыі, пошты, шляхоў зносін, ведамстваў юстыцыі, духоўных спраў, народнай адукацыі, земляробства і прамысловасці. Спецыяльная камісія павінна пад наглядам імператара адрэдагаваць статут Княства ў адпаведнасці з новымі рэаліямі.

Па зместу гэты праект ішоў далей, чым майскі ўніверсал, і яго можна назваць праектам канстытуцыі. Устанаўленне Літоўскай канцылярыі ў Пецярбургу, уласных урадавых органаў, выключны доступ да пасадаў жыхароў ВКЛ мелі на мэце вывесці тэрыторыю ВКЛ з-пад улады царскай адміністрацыі[458].

Аляксандр I не спяшаўся з рэалізацыяй праектаў. У лістападаўскіх размовах з М. К. Агінскім, указваючы на непазбежнасць блізкага канфлікту з Францыяй, ён быў схільны адкласці літоўскія канстытуцыйныя планы, падкрэсліваючы пры гэтым неабходнасць арганізацыі ўзброеных сіл Літвы. М. К. Агінскі, можа быць здагадваючыся, што стаў зброяй расійскай палітыкі, зноў гаварыў аб прыярытэце надання ВКЛ канстытуцыі[459]. Урэшце ён пачуў ад імператара: «Мне толькі шкада, што ў нас не будзе часу ажыццявіць наш план адносна Літвы. Але цяпер ужо няма чаго думаць аб адміністрацыйных мерах і арганізацыі нашых васьмі губерняў, а трэба патурбавацца аб узмацненні сродкаў да абароны». Аляксандра цікавілі матэрыяльныя рэсурсы, «якія вашы суайчыннікі … могуць цяпер прадставіць у маё распараджэнне»[460]. «Усе мае надзеі рушыліся ў гэту мінуту, – пісаў пазней М. К. Агінскі ў мемуарах, – але вера ў настрой імператара яшчэ не згасла ва мне, і я палічыў неабходным з яшчэ большай, чым калісьці, настойлівасцю дамагацца ажыццяўлення майго плана»[461].

---

458 *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 73, 74.

459 Тамсама. S. 76.

460 *Подвысоцкий А.* Граф Михаил Огинский и его отношения к императору Александру Павловичу (1807–1815) // Русский архив. 1874. Кн. 1, № 3. С. 669.

461 Тамсама.

1 снежня 1811 г. М. К. Агінскі перадаў імператару новую запіску, у якой пераконваў яго ў неабходнасці неадкладнага ўтварэння ВКЛ, каб апярэдзіць Напалеона; даказваў, што яго аднаўленне не пярэчыць дзяржаўным інтарэсам Расіі. Палітык асуджаў намер стварыць асобную літоўскую армію і выкачваць з беларуска-літоўскіх зямель сродкі на вайну без папярэдняга стварэння ВКЛ[462]. 2 (14) снежня 1811 г. ён прадставіў праект арганізацыі ўзброеных сіл ВКЛ колькасцю прыкладна 100 тысяч чалавек у складзе расійскай арміі, складзены К. Любамірскім[463].

Пры ўдзеле дзяржсакратара М. Сперанскага да 27 студзеня (8 лютага) 1812 г. згаданым вышэй калектывам аўтараў быў распрацаваны праект канстытуцыі ВКЛ, які дадаткова прадугледжваў стварэнне двухпалатнага сейма і ліквідацыю на працягу 10 гадоў, гэта значыць, да 1821 г. прыгоннай залежнасці сялян[464]. У гэты дзень адбылася апошняя размова М. К. Агінскага з царом аб літоўскіх планах. Пасля ад'езду Аляксандра I у красавіку ў армію, якая стаяла на заходніх межах імперыі, абмеркаванне праекта спынілася.

26 красавіка імператар прыбыў у Вільню. Па гораду кружыла інфармацыя, што адной з мэтаў яго візіту было абнародаванне адраджэння ВКЛ, і гэтага вельмі чакалі. Гаварылі, што ў багажы Аляксандра I ёсць карона апошняга караля Станіслава Аўгуста. Яшчэ ў пачатку чэрвеня цар спаткаўся з групай уплывовых грамадзян і абвясціў ім, што гатовы даць Літве асобны ўрад[465].

Але, як заключае гісторык Д. Наўрот, Аляксандр I разумеў, што прыхільнасць ліцвінаў не шчырая. Група палітыкаў, якая лічыла сябе прадстаўнікамі ліцвінскага грамадства і ў 1811 г. пачала супрацоўніцтва з расійскім урадам, увайшла ў зман, думаючы, што сваімі дзеяннямі зможа ўваскрасіць ВКЛ. Ініцыятывы гэтай групы былі пазбаўлены шырокай грамадскай падтрымкі, грунтаваліся на друзлых абяцаннях і дыскусіях у вузкім коле і ніколі не атрымалі сур'ёзнай падтрымкі

[462] Адраджэнне: Гістарычны альманах / склад. і навук. рэд. А. П. Грыцкевіч. Мінск: Універсітэцкае, 1995. Вып. 1. С. 214.

[463] *Лукашевич А. М.* «Польские» проекты в военно-стратегических планах Российской империи (1810 – июнь 1812 г.) // Российские и славянские исследования: науч. сб. / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. Минск: БГУ, 2011. Вып. 6. С. 185.

[464] Тамсама.

[465] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 106–107.

Аляксандра І. Ніхто нават ў атачэнні цара не трактаваў гэтыя захады сур’ёзна.

У Расіі і не думалі адмаўляцца ад новай здабычы, бо лічылі землі ВКЛ «исконно русскими». Уплывовыя расійскія палітыкі бачылі ў літоўскіх планах пагрозу расчлянення і аслаблення імперыі і імкнуліся адцягнуць цара ад іх рэалізацыі. Выпрацоўка і абмеркаванне плана М. К. Агінскага атрымала шырокую агалоску і выклікала моцнае незадавальненне ў рускім грамадстве. Сярод расійскай арыстакратыі, найперш буйных землеўладальнікаў, якія мелі маёнткі ў заходніх губернях, развілася непрыхільнасць і варожасць да тых, каго западозрвалі ў жаданні рэваншу і вяртанні незалежнасці ВКЛ[466]. Урэшце, прадугледжанае планам вызваленне сялян магло стварыць рызыкоўны прэцэдэнт са скасаваннем прыгону.

Акрамя непрыхільнасці публічнай думкі Расіі таксама і частка польскай грамадскай думкі аказвала супраціўленне рэалізацыі праектаў адбудовы ВКЛ. Для яе гэта было падсілкоўванне ліцвінскага сепаратызму, які вёў да разрыву ўніі з Польшчай[467]. Праект аднаўлення ВКЛ «не прайшоў экспертызу» А. Чартарыйскага, які палічыў немэтазгодным рэалізоўваць яго перад вайной.

Вялікую ролю ў правале «літоўскіх» палітычных праектаў адыграла адстаўка ў сакавіку 1812 г. М. Сяпранскага, якой дамагліся расійскія нацыяналістычна-кансерватыўныя колы, што ненавідзелі дзяржасакратара за яго смелыя праекты дзяржаўных пераўтварэнняў, сімпатыі да французскай сістэмы кіравання, – адны з патрыятычных перакананняў, што рэформы могуць парушыць натуральны гістарычны ход развіцця Расіі і тым нашкодзіць ёй; іншыя проста баяліся за сваё становішча. Сустрэчы з Напалеонам у Эрфурце і яго паслом Каленкурам у Пецярбургу парадзілі чуткі аб здрадзе М. Спяранскага на карысць Францыі. Гэта быў асабліва цяжкі папрок ва ўмовах абвастрэння расійска-французскіх адносін.

У падзенні М. Спяранскага адыграла ролю «Записка о древней и новой России» М. Карамзіна – «першы маніфест расійскага кансерватызму», які ў сакавіку 1811 г. ён перадаў цару. Разумеючы, што менавіта Рэч Паспалітая на працягу доўгага часу з’яўлялася асноўнай перашкодай для дасягнення Расіяй вялікадзяржаўнага статусу, М. Карамзін бачыў

[466] Тамсама. S. 42, 83, 108.
[467] Тамсама. S. 89.

палітыка-стратэгічную небяспеку яе магчымага аднаўлення для магутнасці Расіі[468].

Высылку М. Спяранскага яго нядобразычліўцы святкавалі як першую перамогу над французамі[469]. Па Пермі, дзе ў 1812–1814 гг. той адбываў высылку, хадзілі чуткі, быццам ён прадаў айчыну не за грошы, а за польскую карону. «Дзякуй Богу! Пачынаюць пра мяне лепш думаць: за карону ўсё-ткі больш прабачальна спакусіцца», – адказваў М. Спяранскі на гэтыя чуткі[470]. Так што сур'ёзнасць яго намераў адносна «польскіх губерняў», выкладзеных у сакавіку 1811 г. у запісцы, не варта змяншаць – пра іх ведала не толькі вузкае кола прыдворных. З прапановамі М. Спяранскага сугучныя палажэнні праекта, якія на працягу красавіка 1811 – лютага 1812 г. выпрацавала «група» М. К. Агінскага, скарыстаўшыся тым, што «літоўскае» пытанне з унутранай справы яго спадчыннікаў і ўнутранага пытання Расійскай імперыі набыло, побач з «польскім пытаннем», міжнародны статус.

Але галоўнай мэтай расійскай палітыкі была не адбудова ВКЛ, але нейтралізацыя эліты літвінскага грамадства, каб зрабіць немагчымай падтрымку ёй Напалеона і прадухіліць магчымы выбух паўстання ў Беларусі і Літве, пра які папярэджваў М. Спяранскі. Пранапалеонаўскія сімпатыі ліцвінаў пагражалі расійскім тылам, і Аляксандр I дрыжэў пры думцы аб паўстанні, якое паралізавала бы тылы яго арміі[471]. Усё гэта пацвярджае выснову беларускага гісторыка А М. Лукашэвіча, што план аднаўлення ВКЛ быў толькі састаўной часткай ваенна-стратэгічных планаў Расійскай імперыі («тэхнічным» бокам абарончага плана вайны), у якіх вырашэнню «польскага пытання» адводзілася хоць і важная, але не выключная роля[472].

---

[468] *Кручковский Т. Т., Хилюта В. А.* «Записка о Польше» М. Н. Карамзина как определение польского вопроса в России первой трети XIX века // История Польши в историографической традиции XIX – начала XX вв.: материалы Международн. научной конф. Гродно: ГрГУ, 2011. С. 86–89.

[469] *Корф М. А.* Жизнь графа Сперанскаго. СПб.: Издание Императорской публичной библиотеки, 1861. Т. 2. С. 29.

[470] *Томсинов В. А.* Светило российской бюрократии. Исторический портрет М. М. Сперанского. Изд. 5-е, обновленное и дополненное. М.: ИКД «Зерцало-М», 2013. С. 250.

[471] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 40, 41, 43.

[472] *Лукашевич А. М.* Проекты восстановления Речи Посполитой и Великого княжества Литовского и их место в военно-стратегическом планировании Российской

Нягледзячы на правал палітычных праектаў групы М. К. Агінскага на стадыі абмеркавання, яны сталі з'явай грамадска-палітычнай думкі Беларусі XIX ст. Гэта быў той выпадак у гісторыі, як адзначае В. Швед, калі ліцвіны-беларусы «паспрабавалі выкарыстаць барацьбу еўрапейскіх гігантаў для адраджэння сваёй дзяржаўнасці»[473].

***Беларускія землі ў праекце адраджэння Рэчы Паспалітай генерала М. Сакальніцкага (пачатак 1812 г.).*** Напярэдадні і пад час кампаніі 1812 г. увазе Напалеона быў прапанаваны шэраг праектаў правядзення вайсковых аперацый і арганізацыі паўстанцкіх рухаў у заходніх губернях Расійскай імперыі з наступнай палітычнай рэарганізацыяй заваяваных ім зямель. Аўтарамі гэтых праектаў былі пераважна дзеячы патрыятычнага руху з ліку былых грамадзян Рэчы Паспалітай, якія спрабавалі зацікавіць французскі ўрад ідэяй яе аднаўлення ў «гістарычных межах»[474].

У лютым 1812 г. адзін з лідараў прафранцузскай арыентацыі сярод патрыятычна настроеных палякаў і ліцвінаў, польскі генерал на французскай службе Міхаіл Сакальніцкі (1760–1816) прадставіў свой план адраджэння Рэчы Паспалітай Напалеону напярэдадні яго ўварвання ў Расію. Гэты план быў выкладзены ў аналітычнай запісцы («мемарыяле») «Аб спосабах пазбаўлення Еўропы ад уплыву Расіі, а дзякуючы гэтаму – і ад уплыву Англіі»[475]. Яе напісаннем вадзіла рука «глыбока абражанага патрыёта, у якога замігцела надзея рэваншу»[476]. У адрозненне ад М. К. Агінскага, які рабіў стаўку на мірнае адраджэнне страчанай дзяржаўнасці, генерал М .Сакальніцкі – на глабальнае ваеннае сутыкненне Францыі з

империи (1810–1812 гг.) // Внешняя политика Беларуси в исторической ретроспективе: материалы междунар. науч. конф., Минск, 24–25 мая 2002 г. Минск: Адукацыя і выхаванне, 2002. С. 59.

473 *Швед В., Данскіх С.* Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805–1815 гады. Гродна: ГрДУ імя Я. Купалы, 2006. С. 16.

474 *Ададуров В.* Проекти французького командування стосовно південно-західних земель Російської імперії під час підготовчого та наступального етапів военної кампанії 1812 року // Вісник Львівського університету. Сер. історія. 2010. Вип. 45. С. 127.

475 *Сокольницкий М.* «Исполнено по высочайшему повелению...»: Рапорт, поданный Наполеону начальником его контрразведки, польским генералом Михаилом Сокольницким, с рекомендациями «о способах избавления Европы от влияния России...»; сост., предисл., примеч. О. А. Яновского; пер. с фр. В. А. Яновского. Минск: БГУ, 2003. 151 с.

476 Тамсама. С. 5.

Расіяй. Але абодва яны выступалі ў ролі просьбітаў – даказвалі імператарам слушнасць і выгаду ад рэалізацыі сваіх праектаў.

Вопытны інжынер-гідрограф і вучоны-тапограф М. Сакальніцкі распрацаваў канцэпцыю вайны Францыі з Расіяй пры дапамозе паўстання ў Беларусі, Літве, куды яго раней неаднойчы прыводзіла вайсковая кар’ера, і Украіне[477]. Арэнай, дзе павінна пачацца і завяршыцца ўзброеная барацьба гігантаў, на яго думку, павінна стаць Літва. Літва для М. Сакальніцкага – гэта былое паслялюблінскае ВКЛ, аснову якога складала тэрыторыя Літвы і Беларусі. Ён даказваў, што «французы маюць усе падставы разлічваць на добры прыём у Белай Русі, дзе Кацярына Другая моцна паскубла мясцовую знаць і аддала вялізныя маёнткі маладым памешчыкам – сваім фаварытам. Характэрна, што сваім былым гаспадарам спачувае і просты люд»[478].

Генерал быў упэўнены, што дзеянне армейскіх карпусоў стане сігналам для ўсеагульнага ўзброенага паўстання супраць расійскай улады ў Белай Русі, якое, аднак, успыхне не стыхійна. Яго трэба падняць («справакаваць паўстанне за Дняпром на Белай Русі») і ўзброіць. Узняць паўстанне могуць людзі найбольш уплывовыя і «патрыятычна настроеныя». Гэта, на яго думку, «лепш за ўсё даручыць маладому князю Радзівілу, накіраваўшы яму ў дапамогу вопытнага ваяку. … Малады князь – глава знакамітага роду. У яго ўладанні знаходзіцца болей зямель, чым ва ўсіх астатніх абшарнікаў

[477] *Марозаў С. П.* Праект аднаўлення Рэчы Паспалітай генерала Міхаіла Сакальніцкага (1811 г.) // История Польши в историографической традиции XIX – начала XXI вв.: материалы междунар. науч. конф., Гродно, 29–30 окт. 2009 г. / ГрГУ им. Я. Купалы; под общ. ред. Т. Т. Кручковского. Гродно: ГрГУ, 2011. С. 120–128; *Морозов С. П.* Белорусские земли в проекте возрождения Речи Посполитой генерала Михаила Сокольницкого (1812 г.) // Труды молодых ученых Воронежского государственного университета. 2012. Вып. 1–2. С. 142–147; *Марозаў С. П.* Дзяржаўная традыцыя Вялікага княства Літоўскага ў палітычнай свядомасці першых пакаленняў яго нашчадкаў: погляд з Беларусі, Расіі, Францыі (1811–1832) // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. Сер. Гісторыя, архівазнаўства, крыніцазнаўства / рэд.: Ю. М. Бохан [і інш.]. Мінск: НГАБ, 2014. Вып. 12. С. 171–184.

[478] *Сокольницкий М.* «Исполнено по высочайшему повелению...»: Рапорт, поданный Наполеону начальником его контрразведки, польским генералом Михаилом Сокольницким, с рекомендациями «о способах избавления Европы от влияния России...»; сост., предисл., примеч. О. А. Яновского; пер. с фр. В. А. Яновского. Минск: БГУ, 2003. С. 49.

Літвы, разам узятых. Да таго ж у ваколіцах Слуцка і Нясвіжа жыве шмат залежнай ад яго знаці»[479].

Дзеля гэтага прадпрыемства планавалася выкарыстаць зброю, у вялікай колькасці схаваную там пасля паўстання 1794 г., асабліва ў раёне Нясвіжа. Адзін з Радзівілаў, па словах М. Сакальніцкага, завяраў яго, што закапаў тады ў сваім маёнтку 32 гарматы, некалькі тысяч вінтовак і вялікую колькасць халоднай зброі. Па падліках генерала, масавае ўзброенае паўстанне ў Літве, дзе «пачуццё помсты ферментуецца … хутка», дасць Напалеону падчас яго прасоўвання да берагоў Дняпра корпус дабраахвотнікаў і 60-тысячную армію[480].

Пасляваеннае ўладкаванне Усходняй Еўропы па плану М. Сакальніцкага прадугледжвала адраджэнне Рэчы Паспалітай з усходнімі межамі па Днепр і Заходнюю Дзвіну, з заходняй і цэнтральнай Беларуссю ў яе складзе. На ўсходзе планавалася стварэнне васальных міні-дзяржаў – Полацкага, Мсціслаўскага і Смаленскага герцагстваў, якім разам з герцагствамі Лівонскім, Чарнігаўскім, Палтаўскім, Напалеанідай (Запарожскай Сеччу) і Санкт-Пецярбургскім губернатарствам адводзілася роля буфера паміж аслабленай, але не знішчанай Расіяй і «новай» Польшчай (дадатак 11). Энергію нацыянальных рухаў, як адзначае беларускі гісторык А. А. Яноўскі, рост якіх генерал абгрунтавана прадбачыў на беларускіх і ўкраінскіх землях, пазбаўленых улады дынастыі Раманавых, меркавалася, такім чынам, накіраваць на стварэнне марыянеткавых міні-дзяржаў[481]. Гэтыя княствы павінны былі знаходзіцца пад уладай Рэчы Паспалітай, але прызначэнне іх кіраўніцтва належала да прэрагатыў французскага імператара[482].

Разам з тым генерал мякка намякаў Напалеону, што ў палякаў і ліцвінаў ёсць альтэрнатыўны выбар. Іх прыхільнасць хоча заваяваць імператар Аляксандр I , чые глашатаі ўсюды разносяць яго спакуслівыя абяцанні адрадзіць Польшчу. Але «не будуць слухаць гэтых ілжэпрарокаў да таго часу, пакуль не ўбачаць, што іх пакідае рука, ад якой яны чакаюць выратавання. Урэшце рэшт, палякі вымушаны будуць схіліцца на нечый

[479] Тамсама. С. 66.

[480] Тамсама. С. 42, 66, 68.

[481] Тамсама. С. 9.

[482] *Ададуров В.* Проекти французького командування стосовно південно-західних земель Російської імперії під час підготовчого та наступального етапів военної кампанії 1812 року // Вісник Львівського університету. Сер. історія. 2010. Вип. 45. С. 134.

бок. Калі яны імпульсіўна паддадуцца на чары Аляксандра, Польшчу можна будзе разглядаць як краіну, назаўсёды страчаную для Францыі…»[483].

У 1812 г. прыхільнікі адраджэння ВКЛ, здавалася, як ніколі раней былі недалёкія ад ажыццяўлення сваіх планаў. Надзея на аднаўленне дзяржаўнасці вясной-летам «усміхалася» ім і з аднаго (расійскага), і з другога (французскага) боку.

Яшчэ перад вайной выдзеліліся тры партыі ліцвінаў: 1) прыхільнікі Напалеона, якія чакалі яго як свайго збавіцеля; 2) чакалі, не дэкларуючы супрацоўніцтва з ім, і назіралі за развіццём падзей; 3) звязвалі палітычныя надзеі з Расіяй з кіраўнікамі 15–20 магнацкіх родаў на чале, якія «найбольш атрымалі на расійскім панаванні»[484]. Называецца лічба амаль 100 тысяч палякаў і ліцвінаў, якія служылі ў арміі Напалеона, паверыўшы яго абяцанням адрадзіць іх дзяржаўнасць[485].

Да трэцяй партыі адносілася група М. К. Агінскага, які, тым не менш, прызнаваў, што калі французская армія перайшла Нёман і пранікла ў Літву, то да яе прымкнулі, напэўна, усе, хто мог насіць зброю[486]. Тыя, хто звязваў палітычныя надзеі з Расіяй, пакінулі край разам з рускай арміяй. Тых жа, хто застаўся, трымалі ўсю вайну пад хатнім арыштам. Па меркаванню даследчыка Я. Івашкевіча, адсутнасць гэтых уплывовых людзей, якія ведалі мясцовыя справы, была вялікай стратай для краю, які тады, як ніколі, патрабаваў людзей энергічных і здольных да працы ў адміністрацыі[487].

***Вялікае княства Літоўскае 1812 года: французскі варыянт.*** Імператар французаў, калі распачынаў кампанію 1812 г., абвясціў яе «другой польскай вайной» і тым нібы паказаў, што будзе весці яе толькі на тэрыторыі былой Рэчы

[483] *Сокольницкий М.* «Исполнено по высочайшему повелению...»: Рапорт, поданный Наполеону начальником его контрразведки, польским генералом Михаилом Сокольницким, с рекомендациями «о способах избавления Европы от влияния России...»; сост., предисл., примеч. О. А. Яновского; пер. с фр. В. А. Яновского. Минск: БГУ, 2003. С. 113.

[484] *Nawrot D.* Litwa i Napoleon w 1812 roku. Katowice: Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego, 2008. S. 87.

[485] *Залусский А.* Время и музыка Михала Клеофаса Огинского: пер. с англ. Минск: Четыре четверти, 1999. С. 110.

[486] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 167.

[487] *Iwaszkiewicz J.* Litwa w roku 1812. Kraków; Warszawa: Druk W. L. Anczyca i Spółki, 1912. S. 77..

Паспалітай. Падчас сустрэчы ў маі 1812 г. з міністрам замежных спраў саюзнай Аўстрыі К. Метэрніхам ён прызнаў: «Я адкрыю кампанію пераходам праз Нёман. Я закончу яе ў Смаленску і Мінску. Там я спынюся. Я ўмацую гэтыя два гарады і, будучы на працягу зімы ў Вільні, дзе размесціцца мая штаб-кватэра, займуся арганізацыяй Літвы, якая імкнецца скінуць з сябе расійскае ярмо»[488]. Пытанне дзяржаўнасці ВКЛ, такім чынам, было актуальным для Францыі і, на думку яе палітыкаў, надавала вайне супраць Расіі справядлівы характар у вачах Еўропы[489].

Гэты агучаны Напалеонам першы варыянт плана вайны быў разлічаны на два этапы на працягу двух гадоў. Падчас першай кампаніі, разлічанай на 1812 г., планавалася захапіць усе землі былой Рэчы Паспалітай ад Балтыкі да Чорнага мора і спыніцца на Дзвіне і Дняпры, каб умацавацца і сфарміраваць польскую армію (з ліцвінаў). Падчас другой кампаніі (1813 г.) планавалася ажыццявіць паход на Маскву і Пецярбург, які Напалеон разлічваў «аплаціць», па выразу Д. Прадта, французскага каардынатара патрыятычнага руху ва ўладаннях Расіі, «польскай крывёй»[490].

Пазней, пасля прайгранай кампаніі 1812 г., Напалеон прызнаваўся, што стаў ахвярай уласных непамерных амбіцый: «Я ехаў з Парыжа з намерам давесці вайну толькі да межаў Польшчы. Абставіны мяне захапілі»[491]. М. К. Агінскі асуджаў яго: замест таго, каб падумаць пра аднаўленне Рэчы Паспалітай, чыё існаванне было неабходна для спакою Еўропы, ён, прыспешаны першымі поспехамі, пайшоў да брам расійскай сталіцы, ля якой «знайшоў … жудасны канец сваёй славы, тады як мог яе канчаткова пацвердзіць, спыніўшыся

---

[488] *Ададуров В.* Проекти французького командування стосовно південно-західних земель Російської імперії під час підготовчого та наступального етапів военної кампанії 1812 року // Вісник Львівського університету. Сер. історія. 2010. Вип. 45. С. 145.

[489] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 208–209.

[490] *Ададуров В.* Проекти французького командування стосовно південно-західних земель Російської імперії під час підготовчого та наступального етапів военної кампанії 1812 року // Вісник Львівського університету. Сер. історія. 2010. Вип. 45. С. 144–145.

[491] Тамсама. С. 164.

на Дзвіне і вярнуўшы палякам Бацькаўшчыну, а залітай крывёй Еўропе – мір і спакой»[492].

Насельніцтва Беларусі неадназначна паставілася да прыходу французскай арміі. Гараджане, якія бачылі ў Напалеоне вызваліцеля, наладжвалі яму пампезныя ўрачыстыя сустрэчы. Ён знайшоў нямала прыхільнікаў сярод той часткі мясцовай шляхты, якая шчыра паверыла яго абяцанню адрадзіць былую дзяржаўнасць Гэта абярнулася катастрофай для Расійскай імперыі на першым этапе вайны.

У той жа час і сам Банапарт, і яго прыбліжаныя адзначалі недахоп энтузіязму і халодны прыём ліцвінаў, наракалі на іх халоднасць да «польскай справы», малую схільнасць да ахвяр і вялікую незадаволенасць абмежаваннямі, звязанымі з вайной. Масавай падтрымкі, як гэта было ў 1806 і 1809 гг. у Польшчы, Напалеон не дачакаўся. Таму ў Вільні ён вымавіў сваю вядомую фразу: «Гэтыя палякі не такія, як у Варшаве»[493]. У прыватнай размове ён выказаў: «Я чакаў большага ад абяцаных імі адданасці і стараннасці. Я не жадаю спусташаць Францыю дзеля іх... Я прыдаю Польшчы не больш значэння, чым чаму-небудзь іншаму»[494].

Неўзабаве пасля ўступлення ў межы Расійскай імперыі Напалеон заняўся арганізацыяй літоўска-беларускіх зямель. На тэрыторыі Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў, ён, ідучы насустрач даўнім жаданням ліцвінаў, стварыў ВКЛ і надаў гэтаму ўтварэнню ўсе атрыбуты дзяржаўнасці: тэрыторыя (з насельніцтвам ад 2,5 да 3,5 мільёнаў чалавек[495]), межы, сталіца, органы ўлады, рэгулярная армія, паліцыя, суд і г.д.

У склад КЧУ ВКЛ увайшлі мясцовыя палітыкі, землеўладальнікі, вучоныя: С. Солтан (старшыня), А. Сапега, К. Прозар, Ф. Ельскі, Я. Снядэцкі, Ю. Серакоўскі, А. Патоцкі. Генеральным сакратаром быў прызначаны Ю. Касакоўскі. Усе яны былі людзьмі заслужанымі (удзельнікі Вялікага сейма,

[492] *Агінскі М. К.* Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 года // ARCHE. 2015. № 9. С. 88.

[493] *Пугачаускас В.* Литва в войне 1812 года [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: estorussica/estica/ros_balt/2015/paguchauskas. Дата доступу: 23.01.2019.

[494] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 210–211.

[495] *Швед В.* Вялікае княства Літоўскае ў 1812 годзе // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. № 3. С. 11.

паплечнікі Т. Касцюшкі, займалі ў ВКЛ высокія пасады), радавітымі, заможнымі, аднак ужо адышлі ад грамадскай працы. Гісторыкі прызнаюць гэты выбар няўдалым (М. Кукель[496], В. Швед[497]), бо ўсе яны былі людзьмі сталага ўзросту, не здольнымі да энергічнай і інтэнсіўнай працы. Ім не хапала ведання рэальных умоў краю, асаблівасцяў французскай адміністрацыйнай сістэмы. Сярод гэтых аўтарытэтаў не было моцнага натхніцеля і здольнага на смелыя імправізацыі арганізатара. «Цуд магло зрабіць толькі з'яўленне Касцюшкі з яго энергіяй і з магіяй яго імя», – піша М. Кукель[498]. Але, як вядома, той яшчэ ў 1806 г. адмовіўся супрацоўнічаць з Напалеонам.

КЧУ ВКЛ разгарнула дзейнасць па адраджэнні элементаў ранейшай дзяржаўнасці з улікам, аднак, новых рэалій. Пратаколы пасяджэнняў КЧУ, якія захоўваюцца ў РДАСА[499], адлюстроўваюць яго дзейнасць па кіраванні жыццём краю «ў такі важны час аднаўлення Айчыны і ўваскрашэння нацыянальнага быту»[500]. Прыярытэтнымі сферамі дзейнасці Камісіі былі тры: 1) адміністраванне краю, 2) клопат аб забеспячэнні Вялікай арміі неабходным харчаваннем і фуражом, 3) стварэнне ваенных структур, неабходных як для ваенных патрэб, так і для падтрымання грамадскага парадку. Аб размеркаванні функцый у прыярытэтных сферах сведчаць назвы камітэтаў – свайго роду «міністэрстваў»: Харчавання і крам, Паліцыі, Фінансаў, Унутраных спраў, Ваенных спраў, Юстыцыі, Адукацыі і рэлігіі[501].

Былі рэарганізаваны на французскі манер адміністрацыйныя адзінкі (дэпартаменты, дыстрыкты, кантоны, камуны), створана мясцовая адміністрацыя (адміністрацыйныя камісіі, падпрэфектуры, муніцыпалітэты ў гарадах, якія раней мелі

[496] *Kukiel M.* Dzieje Polski porozbiorowe: 1795–1921. Londyn: Spotkania, 1961. S. 148–149.

[497] *Швед В.* Вялікае княства Літоўскае ў 1812 годзе // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. № 3. С. 11.

[498] *Kukiel M.* Dzieje Polski porozbiorowe: 1795–1921. Londyn: Spotkania, 1961. S. 148.

[499] Журнал заседаний Комиссий Временного правительства Великого княжества Литовского. 1812 г. // РДАСА. Ф. 12. Спр. 262; Протоколы Виленской правительственной комиссии. 1812 г. // РДАСА. Ф. 12. Спр. 261.

[500] Протоколы Виленской правительственной комиссии. 1812 г. // РДАСА. Ф. 12. Спр. 261. Арк. 7 адв.

[501] *Пугачаускас В.* Литва в войне 1812 года [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: estorussica/estica/ros_balt/2015/paguchauskas. Дата доступу: 24.01.2019; *Pugačiauskas V.* Napoleno administracja Lietuvoje. Vilnius: Vagis, 1998. 205 p.

магдэбургскае права)[502]. Стваралася судовая сістэма Княства, якая ў сваёй дзейнасці кіравалася правіламі судавытворчасці, выдадзенымі КЧУ 23 ліпеня, Статутам ВКЛ 1588 г. і пастановамі сеймаў. Пачалося фарміраванне арміі; яна дасягнула 19 тысяч салдат[503].

Віцебская, Магілёўская, Смаленская губерні былі арганізаваны адпаведным чынам, але віленскаму ўраду яны не падпарадкоўваліся. Ёсць звесткі, што яшчэ ў 1811 г. Напалеон меў намер стварыць на тэрыторыі былога ВКЛ тры дзяржавы: Літву на чале з М. К. Агінскім са сталіцай у Вільні (Віленская, Гродзенская і Мінская губерні), Беларусь (Віцебская, Магілёўская і Смаленская губерні) і Самагіцію (Жамойцію)[504].

Княства Напалеон аднавіў з адзінай мэтаю – выкарыстаць Беларусь і Літву ў сваіх інтарэсах. Ад КЧУ ВКЛ патрабавалася найперш забяспечваць «вялікую армію» ўсім неабходным і папаўняць рэкрутамі, што расчароўвала шляхту. Як пісаў гісторык Ю. У. Тацішчаў, Напалеон, які перабольшыў сілы і ўплыў віленскіх летуценнікаў, «кінуў ім цацку, якая яму была нават часткова карысная, паколькі за дазвол вярцець яе ў руках і цешыцца яе прывідным бляскам Літва павінна даць яму ўсё, што ён патрабаваў»[505].

Зразумела, паўстала пытанне аб адносінах ВКЛ да Польшчы. Літоўскі гісторык Б. Дундуліс звярнуў увагу на тое, што нягледзячы на настойлівыя звароты дзеячаў польскага патрыятычнага руху, Напалеон у Вільні не толькі не абвясціў аднаўлення Польскага Каралеўства, але і прадаставіў Літве асобную ад Варшаўскага герцагства арганізацыю. Такім чынам французскі імператар расцаніў Літву як дзяржаву, роўную па статусе Варшаўскаму герцагству, яму саюзную, якая магла стварыць уласны ваенны кантынгент[506]. Гэтым ён вельмі

[502] *Pugačiauskas V.* Napoleno administracja Lietuvoje. Vilnius: Vagis, 1998. 205 p.

[503] *Швед В.* Вялікае княства Літоўскае ў 1812 годзе // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. № 3. С. 13.

[504] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. Кн. 1. С. 209.

[505] *Швед В.* Вялікае княства Літоўскае ў 1812 годзе // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. № 3. С. 9.

[506] *Dundulis B.* Napoleon et la Lithuanie en 1812. Paris: Presses Universitares de France, 1940. S. 160–161, 164–165; *Ададуров В.* Проекти французького командування стосовно південно-західних земель Російської імперії під час підготовчого та наступального етапів военної кампанії 1812 року // Вісник Львівського університету. Сер. історія. 2010. Вип. 45. С. 157.

расчараваў палякаў. У такой сітуацыі новая польская ўлада пачала дзейнічаць самастойна і 11 ліпеня звярнулася да КЧУ ВКЛ з заклікам да ўсталявання дзяржаўнага адзінства ВКЛ з Польшчай.

Як адзначае літоўскі даследчык дзейнасці напалеонаўскай адміністрацыі ў Літве В. Пугачаўскас, КЧУ не была цалкам паслухмяная ўказанням Напалеона і яго акружэння, якія з першых дзён намагаліся яе асаблівую ўвагу звярнуць на ваенныя праблемы. Нягледзячы на аўтарытэты, КЧУ найперш прыступіла да адраджэння палітычнай традыцыі[507]. 14 ліпеня яна заявіла аб злучэнні ВКЛ з Каралеўствам Польскім «у адзінае палітычнае цела» і такім чынам дэкларавала адданасць дзяржаўным традыцыям Рэчы Паспалітай. На працягу ліпеня такія ж акцэсы (акты далучэння) былі прыняты ў гарадах і дыстрыктах ВКЛ. Але ўсюды падпісанты гэтых актаў падкрэслівалі, што пры імкненні да адзінства яны памяталі пра сваю радзіму Літву. Аднак бачылася яна ім толькі пад апекай Польшчы[508].

Узноўленае Княства не было самастойным у сваёй дзейнасці. КЧУ працавала пад наглядам французаў. Незадаволены вынікамі першых месяцаў яе дзейнасці, Напалеон 27 жніўня 1812 г. прызначыў старшынёй КЧУ французскага генерала Д. Гагендорпа. Гэта было канцом гульні ў адраджэнне і самастойнасць ВКЛ. У знак пратэста А. Сапега, ад’ютант Напалеона, падаў у адстаўку[509]. Тым не менш, як паказаў В. Пугачаўскас, КЧУ выконвала ўласцівыя ўраду функцыі, больш таго, намагалася вярнуць да жыцця законы і парадкі, якія дзейнічалі ў часы ВКЛ, і, такім чынам, паступова адраджала дзяржаўныя традыцыі[510]. Аднак недахоп сродкаў і часу, няўдалы падбор асабістага складу і слабы кадравы патэнцыял цэнтральных органаў улады і кіравання, вострыя супярэчнасці паміж прадстаўнікамі французскай і мясцовай адміністрацыі і інш. не дазволілі КЧУ разгарнуць работу па

[507] *Пугачаускас В.* Литва в войне 1812 года [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: estorussica/estica/ros_balt/2015/paguchauskas. Дата доступу: 24.01.2019.

[508] *Швед В.* Вялікае княства Літоўскае ў 1812 годзе // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. № 3. С. 10; *Швед В., Данскіх С.* Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805–1815 гады. Гродна: ГрДУ імя Я. Купалы, 2006. С. 97–99.

[509] *Швед В.* Вялікае княства Літоўскае ў 1812 годзе // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. № 3. С. 13.

[510] *Пугачаускас В.* Литва в войне 1812 года [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: estorussica/estica/ros_balt/2015/paguchauskas. Дата доступу: 24.01.2019.

адраджэнні элементаў ранейшай дзяржаўнасці, нягледзячы на самаахвярнасць некаторых яе дзеячаў[511]. Самавольства Напалеона, які пазбавіў ліцвінскіх палітыкаў магчымасці адрадзіць сапраўднае ВКЛ, рабаванні з боку яго арміі, секвестры адштурхнулі большасць магнатаў і шляхты ад французскай вайсковай і мясцовай грамадзянскай улады.

ВКЛ праіснавала вельмі кароткі час. Пытанне аб існаванні новай дзяржавы вырашалася на палях бітваў. Гісторыя арміі ВКЛ, якая далучылася да Напалеона ў пару яго няўдач і верай у аднаўленне ім Айчыны кампенсавала недахоп вывучкі і ваеннага вопыту, – гэта гісторыя паражэнняў. Княства «рассыпалася» з адыходам французскай арміі з тэрыторыі Беларусі і Літвы[512]. 30 ліпеня 1813 г. у Дрэздэне КЧУ ВКЛ правяла апошняе пасяджэнне і на ім абвясціла, што іх радзіме «застаецца суцяшацца ўспамінам», што ні Англія, ні Францыя падзелаў Рэчы Паспалітай не прызналі[513].

Спроба аднавіць ВКЛ з дапамогай Напалеона пацярпела поўны правал. У дзённіку, напісаным на востраве св. Алены, ён прызнаваўся, што дзейнічаў у польскім пытанні на сваю карысць – трымаў яго за страшыдла ў сваёй палітыцы да Расійскай імперыі. Беларусь жа ў «польскай карце» Напалеона, па словах В. Шведа, наогул была толькі разменнай манетай[514]. Акрамя вялікага дэмаграфічнага і матэрыяльнага ўрону ад вайны Беларусь і Літва панеслі яшчэ адну страту – крушэнне спробы аднавіць сваю дзяржаву. Роспач і песімізм агарнулі творцаў і дзеячаў ВКЛ у яго французскай версіі, якім расійскія ўлады да таго ж помсцілі за 1812 г.

***Новыя надзеі ліцвінскай шляхты і новыя расчараванні (канец 1812–1815 гг.).*** Расчараваная Напалеонам ліцвінская шляхта працягвала арыентавацца на імператара Расіі. Той, хоць і адмовіўся ў 1812 г. ад ідэі аднаўлення ВКЛ, аднак працягваў

---

[511] *Ерашэвіч А. У.* Камісія Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага 1812 г.: Асноўныя напрамкі дзейнасці // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці развіцця: матэрыялы рэсп. навук. канф. Гродна, 3-4 мая 2002 г.: у 4 ч. Ч. 2. Гродна: ГрДУ, 2003. С. 79.

[512] *Швед В.* Вялікае княства Літоўскае ў 1812 годзе // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. № 3. С. 15.

[513] *Пугачаускас В.* Литва в войне 1812 года [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: estorussica/estica/ros_balt/2015/paguchauskas. Дата доступу: 24.01.2019.

[514] *Швед В., Данскіх С.* Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805–1815 гады. Гродна: ГрДУ імя Я. Купалы, 2006. С. 55.

дэмагагічную палітыку абяцанняў, бясконца зацягваючы перамовы. «Літоўскае пытанне» паўставала кожны раз побач з «польскім пытаннем». Тым больш што яго зноў і зноў уздымалі А. Чартарыйскі і М. К. Агінскі. Першы прадстаўляў інтарэсы Рэчы Паспалітай у цэлым, другі выступаў ад імя прыхільнікаў адбудовы ВКЛ. Таму Аляксандра I не пераставала хваляваць пытанне, «якім чынам аднавіць Польшчу і далучыць *(да яе – С. М.)* усе яе правінцыі, і якая ад таго будзе Расіі выгада, а не страта»[515].

На сустрэчы з Аляксандрам I па пытанню адраджэння ВКЛ 10 кастрычніка 1812 г., калі ў ходзе вайны ўжо пачаўся пералом, М. К. Агінскага цікавілі дзве рэчы: дзень яго звароту да народаў былога ВКЛ, у якім ён абвесціць сябе каралём Рэчы Паспалітай (прапанаваў яму тэксты мяркуемых зваротаў), і амністыя суайчыннікам, якія скампраментавалі сябе супрацоўніцтвам з французскімі акупацыйнымі ўладамі. Сенатар адыграў вялікую ролю ў памілаванні члена КЧУ ВКЛ, рэктара Віленскага ўніверсітэта Я. Снядэцкага[516]. У лісце да А. Чартарыйскага, датаваным 1813 г., імператар пацвярджаў намер адрадзіць Рэч Паспалітую, але прасіў палякаў быць «разважлівымі і тактоўнымі», бо яго прыхільнае да іх стаўленне пасля іх удзелу ў спусташэнні ў 1812 г. Масквы і Смаленска можа абурыць расіян[517].

Яшчэ цэлы 1813 год А. Чартарыйскі, М. Агінскі, Ф.-К. Любецкі, Т. Ваўжэцкі мелі надзею, што Аляксандр I выканае свае абяцанні. Але ў 1813–1814 гг. той перастаў карыстацца паслугамі М. К. Агінскага і наогул стаў да ліцвінаў менш сяброўскім і ветлівым. Напалеон быў пераможаны, і не было патрэбы бударажыць пытанне аб аўтаноміі, абяцанай беларуска-літоўскаму краю. Кан'юнктурны характар палітыкі Аляксандра I у літоўскім пытанні станавіўся для групы М. К. Агінскага ўсё больш відавочным.

Аднак пытанне вяртання дзяржаўнасці Рэчы Паспалітай паранейшаму заставалася цэнтральным у грамадска-палітычным жыцці края. У жніўні 1814 г. адзін з яе былых грамадзян,

---

515 Опись писем кн. Чарторыйского, Новосильцева, Собочевского, Маевского, Володкевича, Гродковского Александру I (с изложением краткого содержания (о нарушении польской конституции русскими властями, об образовании управления в Царстве польском и др. вопросам). 1812–1822 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 3. Спр. 11. Арк. 3 адв.

516 *Залусский А.* Время и музыка Михала Клеофаса Огинского: пер. с англ. Минск: Четыре четверти, 1999. С. 111, 112.

517 Тамсама. С. 133.

вяртаючыся з замежнага паходу рускай арміі, наракаў, што з вяртаннем Еўропе міру ўсе народы радуюцца адшуканай уласнасці, усе яны «за наш кошт весяляцца, а мы безуцешна вяртаемся на бацькаўшчыну, якая лье слёзы, не маючы ніякіх правоў»[518].

Не дзіўна, што вясной 1813 г. настроі насельніцтва заходніх губерняў былі арыентаваны на новае антырасійскае паўстанне. В. В. Швед назваў гэта запаздалай рэакцыяй мясцовых прыхільнікаў Напалеона і незалежнасці Рэчы Паспалітай, якія ачунялі пасля разгрому «Вялікай арміі» ў 1812 г.[519]. Уцёкі Напалеона з вострава Эльбы зноў ажывілі надзеі палякаў і ліцвінаў на атрыманне з яго рук сваёй дзяржавы. У красавіку 1815 г., як вынікае з вайсковай перапіскі паміж Кенігбергам і Варшавай, ксяндзы раз'язджалі з месца на месца, «чаго раней не было», і па сакрэту перараказвалі жыхарам навіну аб вяртанні французскага імператара – таму ёсць падставы «асцерагацца бунту ў польскім народзе»[520].

Створанае ў 1815 г. на Венскім кангрэсе, які на новы лад перакройваў карту Еўропы, Царства Польскае («Кангрэсовая Польшча») атрымала ліберальную канстытуцыю (яе падрыхтаваў А. Чартарыйскі), свой сейм, армію, эканамічную незалежнасць і інш.; не мела толькі права на самастойную знешнюю палітыку. Аляксандра I, фармальнага главу гэтай дзяржавы, хвалявала, як гэта ўспрыме грамадская думка ў Расіі. Таму ён забараніў распаўсюджваць у Вільні і Пецярбургу інфармацыю пра канстытуцыю Царства[521].

Між тым лісткі з тэкстам канстытуцыі пачалі «хадзіць па руках» у Мінску. Памешчыка Ашмянскага павета Юрыя Сароку, у якога знайшлі тэкст канстытуцыі, арыштавалі. Гэты экзэмпляр перадаў яму ў Вільні М. К. Агінскі са словамі, што і ў іх губернях з часам будзе свой урад на аснове гэтай канстытуцыі[522].

518 О переписке разных лиц на счет политических обстоятельств. 1814 г. // ГАСА. Ф. 197. Спр. 109. Арк. 6.

519 *Швед В., Данскіх С.* Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805–1815 гады. Гродна: ГрДУ імя Я. Купалы, 2006. С. 194.

520 О наблюдении за поступками поляков по случаю политических обстоятельств в 1815 году. 12 февраля – 30 ноября 1815 г. // ГАСА. Ф. 197. Спр. 217. Арк. 29.

521 *Залусский А.* Время и музыка Михала Клеофаса Огинского: пер. с англ. Минск: Четыре четверти, 1999. С. 116.

522 Переписка с минским гражданским губернатором и главнокомандующим в Петербурге о распространении в Минске листовок с текстом конституции, якобы данной Королевству. 5 июля – 31 августа 1815 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 1. Спр. 25. Арк. 8–9 адв.

Ліберальная канстытуцыя Царства Польскага прыцягвала зайздрослівыя погляды не толькі з Беларусі і Літвы. У расійскай глыбінцы гаварылі: «Чаму гэта палякі павінны мець тое, у чым адмаўляецца нам?»[523]. Далучэнне тэрыторыі былога ВКЛ да Царства магло абярнуцца рэвалюцыяй у Расіі. Таму са стварэннем аўтаномнага Царства Польскага расійскаму імператару не патрэбна была яшчэ адна аўтаномія побач, у Беларусі і Літве. Тым больш, што ідэю вяртання заходнім губерням былой дзяржаўнасці ў любой форме варожа сустракала расійская эліта.

Па гэтаму пытанню адбылося прамое сутыкненне афіцыйнага гістарыёграфа імперыі М. Карамзіна, вядомага кансерватыўнымі поглядамі, і самога імператара. У публіцыстычным творы «Записка о Польше», або «Мнение русского гражданина» гісторык сцвярджаў, што польская палітыка Аляксандра І наогул несумяшчальная з дзяржаўнымі інтарэсамі і прынцыпамі палітыкі Расіі, абавязкамі расійскага самаўладцы як гаранта велічы Расіі. У намерах Аляксандра І ён убачыў не толькі адступленне ад палітыкі Кацярыны ІІ, але палітычную памылку і нават здраду інтарэсам вялікадзяржаўнай велічы Расійскай імперыі[524]. «Ці можаце са спакойным сумленнем адабраць у нас Беларусь, Літву, Валынію, Падолію, зацверджаную ўласнасць Расіі яшчэ да Вашага царавання? – звяртаўся гісторык да манарха. – Хіба гасудары не клянуцца берагчы цэласнасць сваіх дзяржаў? ... Мы ўзялі Польшчу мячом – вось наша права, якому ўсе дзяржавы абавязаны сваім быццём… Калі вы аддадзіце іх, то ў Вас запатрабуюць і Кіеў, і Чарнігаў, і Смаленск: бо яны таксама доўга належалі варожай Літве. Або ўсё, або нічога. … Аднаўленне Польшчы будзе падзеннем Расіі…»[525] (дадатак 12). Погляды Карамзіна былі прыняты як рускім грамадствам, так і дзяржаўнай уладай.

***Такім чынам,*** 1815 г. паставіў кропку на надзеях ліцвінскай шляхты аб вяртанні былой дзяржаўнасці на іх землі ў любой форме.

---

[523] *Залусский А.* Время и музыка Михала Клеофаса Огинского: пер. с англ. Минск: Четыре четверти, 1999. С. 120.

[524] *Кручковский Т. Т., Хилюта В. А.* «Записка о Польше» М. Н. Карамзина как определение польского вопроса в России первой трети XIX века // История Польши в историографической традиции XIX – начала XX вв.: материалы Международн. научной конф. Гродно: ГрГУ, 2011. С. 84, 86.

[525] Письмо Карамзина Н. М. Александру I с советом не восстанавливать Польшу. 17 октября 1819 г. // ДАРФ. Ф. 1165. Воп. 3. Спр. 22. Арк. 4–6.

## 3. Ідэя адраджэння ВКЛ у дзейнасці масонскіх ложаў і тайных таварыстваў (1815–1829 гг.)

***Інтэлектуальныя асяродкі генерацыі ідэі адбудовы ВКЛ: навуковыя таварыствы, Віленскі ўніверсітэт, масонскія ложы.*** Венскі кангрэс стаў у гісторыі Еўропы пачаткам новай эпохі. Ад папярэдняга часу ёй засталося нявырашанае «польскае пытанне», якое яшчэ Напалеон назваў «ключом ад сховішча» ўсёй палітычнай будовы Еўропы[526]. Яго важнейшы складнік, «літоўскае пытанне», як пісаў гісторык Г. Масціцкі, пастаянна ўзнаўлялася амаль ва ўсіх найбольш значных падзеях «пасляразборавай» эпохі, «як адна з галоўных, можа – самых галоўных кропак апоры і ўмоў нармальнага вырашэння» гэтай праблемы. Яно «ўзнаўлялася, нягледзячы ні на якія разлікі і канцэпцыі, ... бо вынікала з самой асновы палітычнай свядомасці народа, як у 1805, 1807, 1810 і 1811, 1812–1815 гг., так і пазней»[527].

Ліцвінская шляхта не змагла ў тых падзеях дамагчыся ніводнай са сваіх палітычных мэтаў. Больш таго, былі значна абмежаваны самакіраванне, культурная аўтаномія гістарычнай Літвы, ускладнілася яе міжнароднае становішча. Таму пытанне вяртання дзяржаўнасці ВКЛ захавала актуальнасць у грамадска-палітычным руху Беларусі і Літвы. Яго абмеркаванне падаграваласяшэрагам фактараў. Стварэнне аўтаномнага Царства Польскага з уласнай канстытуцыяй, невялікім войскам выклікала ў адукаваных колах Беларусі і Літвы сепаратысцкія памкненні далучыць, аб'яднаць з ім землі былога ВКЛ, аж да іх уніфікацыі. Фарміраванне ў 1817 г. у расійскім войску асобнага Літоўскага корпуса з мясцовых ураджэнцаў і з гербам ВКЛ на штандары ўзмацняла гэтыя настроі. Урэшце, іх падагравалі заявы Аляксандра І у прыватных размовах, што не пройдзе і двух гадоў, як да Царства будуць далучаны Літва, Валынь і Падолле, а таксама яго выступленне на Варшаўскім сейме 1818 г., што «законнасвабодныя ўстановы» Польшчы могуць быць пашыраны і на Расійскую імперыю. Патрыятычныя настроі шырылі мясцовыя літаратурныя выданні, гістарычныя

[526] *Mościcki H.* Projekty połączenia Litwy z Krolestwem Polskim w okresie 1813–1830. Warszawa: Wydawnictwo Towarzystwa straży kresowej, 1921. S. 3.
[527] Тамсама.

даследаванні, творы мастацтва, а таксама мясцовыя чыноўнікі, навучальныя ўстановы[528].

Цярпімасць і «лібералізм» палітыкі Аляксандра I у дачыненні да «далучаных ад Польшчы зямель», які забяспечыў ім пэўную колькасць правоў і свабод, разам з развіццём кніжнавыдавецкай справы і адукацыі нараджалі пэўны аптымізм. Такая сітуацыя спрыяла росту грамадскай актыўнасці і стварэнню шматлікіх афіцыйных і неафіцыйных гурткоў і груп. Працэс самаарганізацыі грамадскіх сіл ішоў пераважна ў асяроддзі дваранства. Грамадскае жыццё Беларусі і Літвы сканцэнтравалася тады ў навуковых таварыствах, масонскіх ложах, «тайных таварыствах», якія існавалі легальна, хоць і без зацвярджэння ўрадам[529]. У шэрагу з гэтых грамадскіх арганізацый ідэя адбудовы незалежнай Рэчы Паспалітай з ВКЛ у яе складзе, абуджаная ў 1811 і зруйнаваная ў 1812–1815 гг., знайшла шчырых прыхільнікаў.

Першым асяродкам грамадскай актыўнасці сталі разнастайныя навуковыя таварыствы. Інтэлектуальную эліту былой Рэчы Паспалітай у 1800 г. аб'яднала Таварыства сяброў навукі, заснаванае ў Варшаве. Яно хутка стала цэнтрам інтэлектуальнага і культурнага жыцця народаў, пазбаўленых уласнай дзяржавы, і вырасла за трэць стагоддзя ад 14 да 416 сяброў[530]. Сярод іх было нямала навукоўцаў, пісьменнікаў, людзей мастацтва з гістарычнай Літвы. Таварыства мела цесныя сувязі з Віленскім універсітэтам – яго сябрамі быў шэраг універсітэцкіх прафесараў – і аказвала значны ўплыў на грамадскія настроі ў Беларусі і Літве. У 1827–1831 гг. старшынёй Таварыства з'яўляўся пісьменнік, гісторык і палітычны дзеяч Ю. У. Нямцэвіч, прыхільнік адраджэння ВКЛ, з якога ён паходзіў. «Дух нашага таварыства, – пісаў адзін з яго ўдзельнікаў, – стаў у хуткім часе духам усіх людзей з талентам: ён быў выказваннем усеагульнага пачуцця адназемцаў» – «захаваць у мове і навуцы

[528] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 211; *Сакалова М.* Палітычная сітуацыя на беларускіх землях у 1815–1830 г. у кантэксце «новай палітычнай гісторыі» // Беларускі Гістарычны Агляд. 2012. Т. 19. Сш. 1–2. С. 109–138.

[529] *Соколова М.* Общественные объединения и движения в Беларуси в конце XVIII – начале XX века: проблемы становления гражданского общества. Минск: 2002. С. 16–17.

[530] Записка «Исторический взгляд на бывшее Варшавское общество любителей наук в политическом отношении» // РДВГА. Ф. 410. Спр. 154. Арк. 3.

рэшткі Айчыны»[531]. Так, таварыства прапаноўвала выбіць знак у памяць падзення і аднаўлення Рэчы Паспалітай з выявай трохгаловага цмока, які пад ударамі Георгія Пераможцы і Белага арла выпускае з кіпцюроў герб ВКЛ[532].

Страта ўласнай дзяржавы спарадзіла цікавасць таварыства найперш да яе гісторыі, бо зварот да вялікага мінулага дапамагаў з надзеяй глядзець у будучыню. Аптымізм, з якім тады верылі ў вяртанне Рэчы Паспалітай, вызначыў прынятае пасля 1806 г. рашэнне ў даследчай і папулярызатарскай дзейнасці «заняцца канцом айчыннай гісторыі – замест яе пачатку». У гэтым расійскія ўлады ўбачылі «наймацнейшую спружыну польскага патрыятызму», сродак уздзеяння на расклад розумаў грамадства, каб рыхтаваць яго да новых палітычных пераваротаў[533]. «Варшаўскае вучонае таварыства, – гаварылася ў аглядзе яго дзейнасці «ў палітычным плане» за 1800–1832 гг., – магло валадарыць словам і пяром у Царстве меркаванняў сваіх суайчыннікаў, … кіраваць людзьмі, часам і цэлымі грамадзянскімі супольнасцямі»[534].

У 1832 г. у рэчышчы пасляпаўстанцкіх рэпрэсій сяброў таварыства абвінавацілі ў тым, што сваімі «клапатлівымі ўспамінамі пра славу продкаў» яны падагравалі «легкадумныя мары аб аднаўленні Айчыны» і намагаліся «захаваць і забяспечыць некаторае існаванне Польшчы пад добрапрыстойным выглядам навук»[535].

Моцным інтэлектуальным цэнтрам, дзе генерыравалася ідэя адбудовы ВКЛ, быў Віленскі ўніверсітэт. Буйнейшы ў Расійскай імперыі (на яго чатырох факультэтах займалася да 1500 студэнтаў), ён пераўзыходзіў колькасцю студэнтаў Пецярбургскі і Маскоўскі ўніверсітэты і не саступаў лепшым тагачасным еўрапейскім універсітэтам. Будучы цэнтрам Віленскай навучальнай акругі, універсітэт загадваў сямю гімназіямі і дзесяткамі павятовых школ, у якіх разам вучыліся ад 15 да 20 тысяч маладых людзей[536]. Паводле этнічнага складу

[531] Записка «Исторический взгляд на бывшее Варшавское общество любителей наук в политическом отношении» // РДВГА. Ф. 410. Спр. 154. Арк. 11, 12 адв.

[532] *Дубровин Н. Ф.* Русская жизнь в начале XIX века // Русская старина. 1902. Т. 111. С. 452.

[533] Записка «Исторический взгляд на бывшее Варшавское общество любителей наук в политическом отношении» // РДВГА. Ф. 410. Спр. 154. Арк. 8 адв., 9 адв. – 10.

[534] Тамсама. Арк. 7.

[535] Тамсама. Арк. 6 адв., 7.

[536] *Iwaszkiewicz J.* Z pamiętników Hipolita Klimaszewskiego (stan Uniwersytetu Wileńskiego od czasu jego reformy przez Nowosilcowa i Pelikana) 1824–1830 // Księga pamiąt-

студэнтаў гэта быў беларускі ўніверсітэт, бо, па падліках культуролага І. І. Трацяка, каля 80 % яго студэнтаў складалі выхадцы з этнічнай тэрыторыі Беларусі, і сярод прафесараў на момант закрыцця ўніверсітэта выхадцаў з Беларусі было 36 чалавек з агульнай колькасці 47[537].

Універсітэт даваў высокі на той час узровень адукацыі, якая спалучалася з вальнадумствам і выразна акрэсленым ліцвінскім патрыятызмам. Ён не толькі рыхтаваў кадры інтэлігенцыі для Беларусі і Літвы, але быў асяродкам выхавання патрыятычнай моладзі, якая шукала шляхі вызвалення свайго краю і надзеі на яго шчаслівую будучыню звязвала з аднаўленнем ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Універсітэт адчувальна ўплываў на інтэлектуальнае і грамадска-палітычнае жыццё значнай часткі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, але з часам стаў выклікаць усё большы недавер у чыноўнікаў Міністэрства асветы і духоўных спраў. Ужо ў 1809 г. адзін з іх, А. Сталыпін, пісаў: «Дастаткова было аднаго Віленскага ўніверсітэта і Крамянецкага ліцэя..., каб настроіць супраць Расіі ўсе далучаныя да яе ад Польшчы губерні»[538].

Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, што Віленскі ўніверсітэт здзейсніў канчатковую паланізацыю беларускай шляхты, існуе думка, што тут, наадварот, паглыблялася ліцвінская свядомасць лепшых сыноў шляхты: «ліцвін зусім не атаесамляўся з палякам», «паняцце ліцвінскасці было пастаўлена нароўні з паняццем польскасці»[539]. Так, Адам Міцкевіч, абвясціўшы «Літва, мая Айчына!», выразна перасцярог палякаў, каб яны не атаесамлялі Літву з Польшчай[540]. Сістэма адукацыі і выхавання моладзі ў Віленскай навучальнай акрузе даволі доўгі час (найперш, у перыяд папячыцельства А. Чартарыйскага, 1803–1823)

kowa ku uczczeniu CCCL rocznicy założenia i X wskrzeszenia Uniwersytetu Wileńskiego. I: Z dziejów dawnego Uniwersytetu, Wilno: Nakladem Uniwersyteta Stefana Batorego, 1929. T. 1. S. 393.

537 *Трацяк І. І.* Беларускія прафесары Віленскага ўніверсітэта (1803–1832 гг.) // Ігнат Анацэвіч: жыццёвы шлях, педагагічная і навуковая спадчына: матэрыялы рэгіян. навук. канф., Малая Бераставіца, 21 кастр. 2005 г. / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: С. А. Габрусевіч [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2008. С. 79–80.

538 *Дубровин Н. Ф.* Русская жизнь в начале XIX века // Русская старина. 1902. Т. 111. С. 14.

539 Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 105.

540 Тамсама. С. 94, 105.

замацоўвала ўяўленні пра беларускія землі як пра «асобны» край, які не з'яўляецца ні польскім, ні рускім. Дзеячы пакалення А. Міцкевіча найбольш спрычыніліся да распрацоўкі міфа гістарычнай Літвы. Ліцвінства беларускай інтэлектуальнай эліты першай трэці XIX ст., будучы часткай рэчпаспалітаўскага патрыятызму, адрознівалася ад яго высокай ступенню аўтаномнасці. Яно грунтавалася на гістарычных і культурных традыцыях ВКЛ і на ўсведамленні этнакультурнай адметнасці як ад рускіх, так і ад палякаў з этнічнай Польшчы[541].

У 10–20-я гг. XIX ст. ідэю аднаўлення ВКЛ папулярызавалі ўніверсітэцкія прафесары – віленскія інтэлігенты беларускага паходжання Міхаіл Баброўскі, Ігнат Даніловіч, Платон Сасноўскі, Іосіф Ярашэвіч і галоўны аўтарытэт у «літоўскай гісторыі» Ігнат Анацэвіч. Вялікі ўплыў на студэнцкую моладзь аказвалі лекцыі знакамітага польскага гісторыка і патрыёта Іаахіма Лялевеля.

Пра прафесара І. Даніловіча, прыхільніка адраджэння ВКЛ і мовы Статута, адзін з яго біёграфаў з глыбокай павагай, але адначасова і з лёгкай іроніяй сказаў, што «ёсць усе падставы лічыць яго … грамадзянінам дзяржавы, якая даўно знікла, а таксама чалавекам, які з кахання да помнікаў роднай гісторыі служыў прывіду XV і XVI ст.»[542].

П. В. Баброўскі, біёграф М. Баброўскага, пісаў: «Пасля Венскага кангрэса ў заходніх губернях утварылася … малавядомая партыя, што мела на чале некаторых прафесараў Віленскага ўніверсітэта, якія ахвотней жадалі бы аднаўлення былога Вялікага княства, чым злучэння Літвы і Валыні з былой Каронай; гэта нязначная па ліку сваіх членаў руска-літоўская партыя марыла аб адраджэнні беларускай мовы, на якой выдадзены быў першапачаткова Літоўскі Статут (у XVI ст.) і якая яшчэ заставалася ў сіле. Але руска-літоўскіх патрыётаў перакрычалі маладыя польскія рэвалюцыянеры і лацінскія манахі, якія атрымалі настаўленні з Варшавы і не пераставалі ўздыхаць аб канстытуцыі 3-га мая»[543]. П. У. Церашковіч

[541] *Куль-Сяльверстава С. Я.* Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур: Фармаванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова XVIII ст. – 1820-я гады. Мінск: Белдзяржуніверсітэт, 2000. 265 с.; *Куль-Сяльверстава С. Я.* Палітыка. Культура. Асоба. Нарысы па гісторыі культуры Беларусі. Гродна: ЮрСаПринт, 2012. С. 6–7.

[542] *Шалькевіч В. Ф.* Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. Мінск: Маладзёжнае навуковае супрацоўніцтва, 2002. С. 192–193.

[543] *Бобровский П. О.* Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I: Историческое исследование по архивным документам. Минск: Энциклопедикс, 2014. С. 243.

дапускае магчымасць фармулявання прафесурай (найперш І. Даніловічам і М. Баброўскім) палітычнай праграмы аднаўлення ВКЛ накшталт тых, што распрацоўваліся напярэдадні вайны 1812 г.[544].

Вальнадумства, гістарычную настальгію і палітычны рамантызм прафесуры пераймала ўніверсітэцкая моладзь. Аналізуючы ў 1824 г. прычыны патрыятызму студэнтаў і навучэнцаў Віленскай акругі, яе новы куратар М. Навасільцаў убачыў «корань зла» ў спосабе выкладання гісторыі: педагогі «пры выкладанні сусветнай гісторыі кажуць аб пераможаных народах, аб дзяржавах, якія загінулі і зноў жа з нікчэмнасці паўсталі, з запалам і з узбуджэннем больш ці менш відавочным. Да чаго ўсё гэта служыць і да якога канца хіліцца, лёгка здагадацца можна»[545].

У 1812–1822 гг. асяродкамі грамадскай актыўнасці, якія ставілі пытанне адраджэння страчанай дзяржаўнасці, былі масонскія ложы. Шмат хто з сучаснікаў і пазнейшых аўтараў лічыў масонаў галоўнымі арганізатарамі вызваленчага руху XIX ст. на абшарах былой Рэчы Паспалітай. Імі, у прыватнасці, былі Т. Касцюшка, М. К. Агінскі, А. Чартарыйскі[546].

Дзейнасць масонаў аднавілася пасля заканчэння ў 1812 г. баявых дзеянняў і яшчэ больш актывізавалася пасля стварэння Царства Польскага. Шляхта, інтэлігенцыя, незадаволеныя вынікамі Венскага кангрэса, разам з тым бачылі ў стварэні Царства рэальны шанец дамагчыся незалежнасці. Масонскія ложы з іх патаемным характарам былі выкарыстаны, каб мець магчымасць збірацца, не выклікаючы падазрэння ўладаў[547].

Звязаныя паміж сабой масонскія арганізацыі ўзніклі ў Вільні, Мінску. Яны стваралі ложы ніжэйшага ўзроўню ў правінцыях[548]. Віленскі ўніверсітэт быў адным з цэнтраў

[544] *Терешкович П. В.* Этническая история Беларуси XIX – начала XX в.: В контексте Центрально-Восточной Европы. Минск: БГУ, 2004. С. 68.

[545] Краткий очерк о восстании в Литве в 1863 г. и о мероприятиях по колонизации края. 1867 г. // РДВГА. Ф. 484. Воп. 1. Спр. 164. Арк. 506 адв. – 507.

[546] *Aleksandravičus E., Kulakauskas A.* Pod władzą carów. Litwa w XIX wieku. Litwa w XIX wieku. Kraków: Universitas, 2003. S. 130.

[547] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. Кн. 1. С. 215.

[548] *Aleksandravičus E., Kulakauskas A.* Pod władzą carów. Litwa w XIX wieku. Kraków: Universitas, 2003. S. 131.

масонскага руху, які меў тут выразна патрыятычны характар[549]. У 1816–1821 гг. назіраецца росквіт масонства на землях Беларусі, а перыяд 1816–1819 гг. атрымаў назву «залатога веку масонства». У сярэдзіне 1821 г. ложы існавалі ва ўсіх губернскіх гарадах Беларусі і Літвы, а таксама ў Нясвіжы, Навагрудку, Слуцку і Шклове. Яны мелі больш за тысячу братоў.

Масонства згрупавала афіцэраў, прадстаўнікоў «свабодных прафесій» (настаўнікі, прафесары, адвакаты і г. д.), чыноўнікаў, а таксама буйных землеўладальнікаў і арыстакратыю. У ложы ўступалі як па ідэалагічных матывах, так і з-за снабізму, жадання прытрымлівацца моды[550]. Прадстаўнікі дэмакратычнага грамадства, на думку В. Шведа, аб'ядноўваліся ў гэтыя арганізацыі з галоўнай мэтай – адраджэнне былой дзяржаўнасці[551]. Такую мэту ставілі ложы «Старанны ліцвін», «Рэфармаваны старанны ліцвін» і інш.

Хоць сапраўдная мэта масонства – маральнае ўдасканальванне, самавыхаванне, узаемадапамога, але жыццё ўносіла палітычныя карэктывы ў яго ідэйныя пошукі і дзейнасць на тэрыторыях, якія пазбавіліся свайго незалежнага дзяржаўнага развіцця. Варшаўскі следчы камітэт паведамляў, што «палякі, узбуджаныя надзеямі, пададзенымі нашым урадам, не хаваюць ад рускіх ні жаданняў сваіх, ні ўпэўненасці ў далучэнні да царства заходніх абласцей імперыі… Не толькі ў царстве Польскім, але нават у Магілёве палякі складаюць асобныя зборышчы і ўзаемна падтрымліваюць адзін другога… Уплыў ідэі аб народнай незалежнасці выяўляецца разнастайна і ў асаблівасці ў нашых заходніх губернях. У Вільні ён хаваецца ў масонскіх ложах, вельмі шматлікіх»[552].

---

549 *Куль-Сяльверстава С.* Студэнцкія тайныя таварыствы і разгром Віленскага ўніверсітэта (1820–1824 г.) // ARCHE. 2015. № 9. С. 221–222.

550 *Соколова М.* Общественные объединения и движения в Беларуси в конце XVIII – начале XX века: проблемы становления гражданского общества. Минск: 2002. С. 20; Швед В. В. Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст.). Гродна: ГрДУ, 2007. С. 8, 23.

551 *Швед В. В.* Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст.). Гродна: ГрДУ, 2007. С. 15, 17, 23.

552 *Бобровский П. О.* Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I: Историческое исследование по архивным документам. Минск: Энциклопедикс, 2014. С. 246.

П. В. Бабро́ўскі адзначаў, што масонскія ложы, створаныя ў вялікай колькасці ў заходніх губернях у пачатку XIX ст., вызначаліся абыякавасцю да рэлігійных абрадаў і палітычным вальнадумствам, а потым перарадзіліся ў тайныя таварыствы і перайшлі да абмеркавання на сваіх тайных пасяджэннях пытанняў незалежнасці Айчыны[553]. Гісторык масонства С. Дабранскі таксама звярнуў увагу на тое, што польскія і літоўскія масоны, наогул не староннія да палітыкі, пачыналі ўхіляцца ад першапачатковых задач, спакваля ператвараючыся ў цалкам палітычныя згуртаванні. Яны, не маючы магчымасці адкрыта выказваць свае палітычныя погляды, ахіналі «работу» ў ложах покрывам суровай таямніцы, утваралі розныя таемныя суполкі, якія ставілі мэту вяртання страчанай свабоды і аднаўлення зніклай дзяржавы[554].

За ўплыў на ложы Літвы і Беларусі канкурыравалі Вялікі Усход Польскі і пецярбургскія масоны. У 1819 г. маёр польскай арміі В. Лукасінскі заснаваў у Варшаве арганізацыю «Нацыянальнае масонства», скіраваўшы яе дзейнасць на цалкам палітычны шлях пры знешнім захаванні масонскай будовы, абрадаў і ўмоўнасцяў. Узнікшае ў 1821 г. у Царстве Польскім на базе «Нацыянальнага масонства» Патрыятычнае таварыства ставіла перад сабой мэту аднаўлення Рэчы Паспалітай шляхам узброенага паўстання.

Сапраўдныя палітычныя намеры масонскіх арганізацый сталі вядомыя ўраду пасля арышту ў 1822 г. паліцыяй і допыту некаторых кіраўнкоў польскіх масонаў. Царскі ўказ ад 1 жніўня 1822 г. забараніў дзейнасць ложаў і тайных таварыстваў, прызнаную за супрацьдзяржаўную і надзвычай шкодную, па ўсёй тэрыторыі Расійскай імперыі

Арганізацыйныя структуры і ідэйныя пошукі масонаў пераняли шмат пазнейшых грамадскіх арганізацый, вымушаных дзейнічаць напоўлегальна або тайна.

***Пытанне незалежнасці Айчыны ў маральна-палітычных пошуках тайных студэнцкіх таварystваў.*** На мяжы 1810–1820-х гг. у Літве і Беларусі сталі адно за другім узнікаць тайныя маладзёжныя таварыствы: шубраўцаў (1817–1822), філаматаў (1817–1823), філарэтаў (1820–1823)

[553] Тамсама. С. 244–246, 267.

[554] *Дабранскі С.* Нарысы з гісторыі масонства ў Літве // Спадчына. 1997. № 3. С. 42–72.

прамяністых (красавік – чэрвень 1820), навуковае таварыства ў Свіслацкай гімназіі (1819–1824), Маральнае таварыства ў Свіслачы (1819–1820) і інш. Яны аб’ядноўвалі маладых людзей з розных сацыяльных слаёў – ад арыстакратыі да рамеснікаў, якія спачатку сваёй мэтай ставілі маральнае ўдасканаленне, узаемадапамогу, вывучэнне гісторыі і культуры Рэчы Паспалітай, але культывавалі «літоўскі» патрыятызм. Гісторыкі называюць перыяд канспірацыйнай дзейнасці гэтых таварыстваў у 1817–1823 гг. эпохай палітычнага рамантызму[555]. Цэнтрам маладзёжнага руху быў Віленскі ўніверсітэт з яго вальнадумнай атмасферай і ліберальна настроеннай прафесурай.

Паступова навукова-асветныя студэнцкія і вучнёўскія гурткі набывалі палітычную афарбоўку, на іх тайных пасяджэннях сталі абмяркоўвацца пытанні незалежнасці Айчыны. Той самы галоўны матыў, што і ў «патрыятычным масонстве», чуўся ў дзейнасці шубраўцаў. У нацыянальным пытанні яны выступалі з пазіцый ліцвінскага патрыятызму, імкнуліся да адраджэння Польска-Літоўскай канфедэрацыі з палітычнай аўтаноміяй Літвы[556].

На следстве па справе студэнцкіх арганізацый адзін з іх кіраўнікоў – Ф. Малеўскі паказаў, што таварыства пачыналася з сяброўства. Потым заняліся самаадукацыяй, вывучалі свой край, бо ведаў, якія даваў універсітэт, не хапала, – «мы лепш маглі даведацца Амерыку, чым наша грамадства», але «наша сэрца білася для Айчыны», «думкі пра дабро нашай Айчыны пачалі выклікаць нашы сілы да больш значных подзвігаў»[557]. В. Ф. Шалькевіч падкрэслівае, што па сваёй свядомасці філаматы з’яўляліся ліцвінамі, патрыётамі ВКЛ. Яны ажыццяўлялі паглыбленае вывучэнне палітычнага і дзяржаўнага ладу ВКЛ, яго гістарычных, культурных, палітычных і дэмакратычных традыцый[558].

З 1819 г. у перапісцы і творчасці філаматаў з’яўляюцца палітычныя ідэі. Калі «Таварыства філаматаў» імкнулася

[555] *Aleksandravičus E., Kulakauskas A.* Pod władzą carów. Litwa w XIX wieku. Kraków: Universitas, 2003. S. 129.

[556] *Швед В. В.* Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст.). Гродна: ГрДУ, 2007. С. 270.

[557] Краткий очерк о восстании в Литве в 1863 г. и о мероприятиях по колонизации края. 1867 г. // РДВГА. Ф. 484. Воп. 1. Спр. 164. Арк. 192 адв. – 193, 196 адв., 198 адв.

[558] *Шалькевіч В. Ф.* Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. Мінск: Маладзёжнае навуковае супрацоўніцтва, 2002. С. 194.

шляхам адукацыі палепшыць стан Бацькаўшчыны, дык «Таварыства філарэтаў» мела ўжо выразна акрэсленую палітычную мэту – адраджэнне Рэчы Паспалітай[559], бо толькі ў яе межах, на іх думку, магла быць вернута пэўная самастойнасць ВКЛ. Гэту ідэю «Таварыства філарэтаў» прапагандавала сярод вучняў і насельніцтва. Каб паспрыяць асвеце свайго краю ў духу «польска-літоўскага патрыятызму», сябры таварыства М. Рукевіч, выхадзец з беларускай шляхты з Беласточчыны, і Ф. Малеўскі спрабавалі арганізаваць прадстаўнічы «Саюз літоўскай моладзі», каб уцягнуць моладзь Беларусі і прылеглых тэрыторый у карысную грамадскую дзейнасць. Але ва ўмовах канспірацыі такое шырокае аб'яднанне моладзі было проста нерэальным[560].

У 1821 г. філаматы настолькі змянілі свае мэты і прынцыпы, што ўжо не маглі захоўваць назву «аматараў навук». У 1823 г. яны прымаюць назву «патрыятычны саюз». Традыцыйная лінія філаматаў – адраджэнне народа з дапамогай асветы – набывае «паўстанцкае адценне». Маладзёжнае таварыства пераўтвараецца ў палітычную арганізацыю змоўніцкага характару і перарастае рамкі толькі студэнцкага саюза[561]. Узброенае паўстанне філаматы лічылі асноўным сродкам адраджэння Рэчы Паспалітай, хоць дакладнага плана палітычныга перавароту не мелі і не ўяўлялі яго дэталяў.

Пад ідэйным уплывам філаматаў знаходзіліся прамяністыя. За афіцыйна зацверджанымі 17 мая 1820 г. 15-цю маральнымі правіламі прамяністых хаваўся патрыятычны характар[562]. Адным з патрабаванняў да сяброў гэтага таварыства была прывязанасць да роднай зямлі, добразычлівасць да землякоў усіх саслоўяў, захаванне звычаяў бацькоў, памяць

---

[559] *Шыбека З.* Справа адраджэння Рэчы Паспалітай на землях Беларусі ў XIX ст. (па старонках неапублікаванага падручніка) // Наш радавод. Гродна, 1999. Кн. 8: Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. X–XX ст.: матэрыялы міжнар. круглага стала, Гродна, 28–30 верас. 1999. С. 271.

[560] Філаматы і філарэты: зборнік / уклад., пераклад, прадмова, біягр. даведкі пра аўтараў і каментарыі К. Цвіркі. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. С. 250; *Лялькоў І.* Традыцыі Вялікага Княства Літоўскага ў палітычным жыцьці беларускіх земляў у XIX ст. // Спадчына. 2002. № 2–3. С. 62–63.

[561] *Соколова М.* Общественные объединения и движения в Беларуси в конце XVIII – начале XX века: проблемы становления гражданского общества. Минск: 2002. С. 34.

[562] *Швед В. В.* Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст.). Гродна: ГрДУ, 2007. С. 262.

пра славу і справы продкаў і іх, адпаведна ўласным сілам, прытрымліванне[563].

Сваіх патрыятычных настрояў прамяністыя не хавалі. Гэта атрымала вялікі розгалас, бо сходы, якія арганізоўвала таварыства, збіралі да 200–300 чалавек[564], у тым ліку пабочных асобаў, якія да ўніверсітэта не належалі. Чуткі пра гэтыя сходы разышліся па горадзе і прымусілі рэктара іх забараніць і забраць зацверджаныя ім 15 правілаў у Т. Зана. У лісце да Ф. Малеўскага 16 (28) чэрвеня А. Міцкевіч пісаў: «…навошта Прамяністыя галасна сцвярджаюць Радзіму ратаваць? Гэта ўсіх уразіла. Бачыце, якімі асцярожнымі трэба быць»[565].

Надпіс-заклік да адраджэння Рэчы Паспалітай і яе Канстытуцыі 1791 г., зроблены 3 мая 1823 г. на класнай дошцы адным з віленскіх гімназістаў, стаў нагодай для пераходу да рэпрэсій. Студэнцкія таварыствы былі выкрыты і забаронены. Следства працягвалася 11 месяцаў. Было выяўлена 166 чалавек, якія належалі да тайных таварystваў у Вільні і Свіслачы. Амаль усе яны былі арыштаваны, зняволены ў турмах і манастырах, прайшлі праз допыты. Сярод іх былі 34 выхадцы з Гродзенскай губерні, 33 з Мінскай, 5 з Магілёўскай, 1 з Віцебскай[566]. «За распаўсюджванне безразважнага польскага нацыяналізму пасродкам навукі» 108 чалавек пакаралі[567] высылкай ва ўнутраныя губерні Расіі, аддачай у салдаты, паколькі пакідаць у заходніх губернях лічылі небяспечным. Сярод іх – Т. Зан (спачатку са зняволеннем у крэпасці на працягу года), Я. Чачот, А. Міцкевіч, І. Дамейка, В. Кавалеўскі. Гэта быў буйнейшы ў тагачаснай Еўропе палітычны працэс над студэнтамі.

13 мая 1824 г. куратар М. Навасільцаў накіраваў вялікаму князю Канстанціну данясенне аб следстве і расправе з удзельнікамі тайных палітычных таварystваў у Вільні і

[563] Towarzystwo promienistych. 28 aprila 1822 r. // БВілУ. Ф. 2. Спр. KC436. Арк. 83 адв.

[564] *Вержбовский Ф.* К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823 гг. Варшава: Типография Варшавского учебного округа, 1898. С. 70.

[565] *Куль-Сяльверстава С.* Студэнцкія тайныя таварыствы і разгром Віленскага ўніверсітэта (1820–1824 г.) // ARCHE. 2015. № 9. С. 226–227.

[566] *Вержбовский Ф.* К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823 гг. Варшава: Типография Варшавского учебного округа, 1898. С. 81–91.

[567] Тамсама. С. 19.

Свіслачы, якія «хіліліся да аднаўлення былога палітычнага існавання Польшчы, засноўваючыся на канстытуцыі 3 мая 1791 г.»[568]. Куратар падкрэсліваў, што гэта студэнты і вучні, «найвыдатнейшыя ў навуках і найбольш да іх схільныя»[569]. У віну маладым людзям ставілі тое, што яны выказвалі патрыятычныя думкі: «узбуджалі любоў да былой айчыны», бедавалі аб яе заняпадзе, наракалі на далучэнне да Расіі, успаміналі ў сваіх прамовах і прывітаннях славутых дзеячаў былой Рэчы Паспалітай (напрыклад, Л. Сапегу) і заклікалі ім наследаваць, мелі мары і намеры аб яе адраджэнні і да т. п. Прамяністым інкрымінавалі нават узгадванне ў іх правілах аб неабходнасці захавання любові для свайго краю, пад якім яны разумелі не Расійскую імперыю ўвогуле, а толькі тэрыторыю Віленскай навучальнай акругі, набліжаную да контураў былога ВКЛ[570]. На следстве Т. Зан, прызнаны «першым сярод філарэтаў», апраўдваўся, што іх любоў да Айчыны «не выходзіла з дапушчальных межаў», а ўспаміны аб былым бляску Рэчы Паспалітай «нічога непрыстойнага не мелі»[571].

Выкрыццё філаматаў і філарэтаў стала падставай для рэпрэсій супраць перадавой прафесуры. Член ураду граф Несельродэ сказаў пра гэтыя арганізацыі, што іх «мэтай ёсць рэвалюцыя, а зброяй з’яўляюцца прафесары і педагогі»[572]. «...Шукаюць нейкі дух, прывід або мару, істоту нябачную, нежывую, шукаюць яго ва ўчынках, лістах, думках...», – пісаў пра тыя падзеі прафесар І. Анацэвіч, выходзец з Малой Бераставіцы[573]. З універсітэта выдалілі за іх вальнадумства найбольш аўтарытэтных вучоных-гуманітарыяў І. Лялевеля, І. Даніловіча, М. Бароўскага, Ю. Галухоўскага, западозраных у інспірацыі студэнцкага руху. Астатнім прафесарам прадпісалі пазбягаць на лекцыях «усяго таго, што магло б … заражаць няспелы розум» студэнтаў вальнадумствам[574].

[568] Тамсама. С. 3.

[569] Тамсама. С. 71.

[570] Тамсама. С. 5, 45, 48, 50–55, 70.

[571] Тамсама. С. 46, 47.

[572] Краткий очерк о восстании в Литве в 1863 г. и о мероприятиях по колонизации края. 1867 г. // РДВГА. Ф. 484. Воп. 1. Спр. 164. Арк. 183; Вержбовский Ф. К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823 гг. Варшава: Типография Варшавского учебного округа, 1898. С. 68.

[573] *Габрусевіч С. А., Марозава С. В.* Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына. Гродна: ГрДУ, 2005. С. 63.

[574] О полиции, учрежденной в Виленском университете для надзора за студентами с 1822 по 1833 г. // ДГАЛ. Ф. 721. Воп. 1. Спр. 775. Арк. 38 адв. – 39, 44–45 адв.

Разгром маладзёжных тайных таварыстваў адбыўся ў рэчышчы змен ва ўнутранай палітыцы Аляксандра І з мэтай выкараніць праявы апазіцыйнасці сярод студэнцкай і вучнёўскай моладзі і яе настаўнікаў. Іх каралі менавіта за патрыятызм. Удар па ўніверсітэту быў нанесены таксама з прычыны асабістай нянавісці ўсемагутнага М. Навасільцава да А. Чартарыйскага.

У атмасферы рэакцыі, праследу, нагляду і даносаў, устаноўленай ва ўніверсітэце ў 1825–1828 гг., студэнтамі была прадпрынята спроба стварэння новага тайнага таварыства «Патрыёты Айчыны» або «Племя сарматаў» з прэтэнзіяй на працяг справы філаматаў[575]. Яго заснавалі ў кастрычніку 1827 г. студэнты-першакурснікі Канстанцін Заха, сын гродзенскага казначэя, і Адам Траскоўскі з мэтай унесці ўклад у адраджэнне ВКЛ і Рэчы Паспалітай і вяртанне ім анексіраваных зямель. Быў распрацаваны ўстаў арганізацыі, клятва вернасці і клятва маўчання, уведзена сімволіка. Пачаўся пошук аднадумцаў. Меркавалася стварэнне філіялаў таварыства ў гарадах Літвы, Беларусі, Украіны і Польшчы – цэнтрах канцэнтрацыі вучнёўскай і студэнцкай моладзі[576].

Але ў тых умовах новае таварыства было асуджана. Дзейнасць «патрыётаў» абарвалі на стадыі яго фарміравання ў пачатку 1828 г. Пра з'яўленне ў імператарскім універсітэце новай тайнай арганізацыі далажылі Мікалаю І. Яго воля была: афіцыйную судовую справу не заводзіць, але разабрацца са змоўшчыкамі ў самім універсітэце[577]. Заснавальнікаў таварыства К. Заха і А. Траскоўскага, а таксама студэнта Ф. Лісоўскага пакаралі 25–30 ударамі бізуноў, выключылі з універсітэта, аддалі ў салдаты і выслалі ў дзеючую армію на Каўказ[578]. Грамадская думка была

[575] *Марозаў С.* «Патрыёты Айчыны», або «Племя сарматаў» у Віленскім універсітэце ў 1827–1828 гг. // Беларускі гістарычны часопіс. 2006. № 6. С. 19–25.

[576] *Iwaszkiewicz J.* «Plemię sarmatów». Kartka z dziejów tajnych związków na Uniwersytecie Wileńskim // Ateneum Wileński. 1923. № 3–4. S. 485.

[577] О студентах Виленского университета Захе, Тржасковском, Гронтовском, Лисовском и других, учредивших тайное общество под названием «Племя сарматов или общество приверженцев Отечества» и о ректоре университета Пеликане и прочих должностных лицах // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. Воп. 3. 1828 г. Спр. 164. – Арк. 17 адв., 29.

[578] Об аресте и розыске разных лиц, принадлежащих к тайным обществам и привозившим из-за границы фальшивые деньги. Декабрь 1827 г. – январь 1829 г. // ДГАЛ. Ф. 421. Воп. 4. Спр. 13. Арк. 684–685 адв.

на баку «патрыётаў» – у яе вачах яны з'яўляліся пакутнікамі за загінулую Айчыну[579].

Выкрыццё таварыства было выкарыстана для расправы з гісторыкам прафесарам Ігнатам Анацэвічам, які цудам уцалеў падчас разгрому філаматаў. Прыхільнік адраджэння ВКЛ, першы беларускі даследчык і першы выкладчык гісторыі ВКЛ І. Анацэвіч меў вялікі ўплыў на студэнтаў і быў «шкодным» сваім вальнадумствам і патрыятызмам[580]. Прафесара ўзялі пад хатні арышт, правялі вобыск на кватэры, канфіскавалі паперы. З іх вынікала, што ён «марыў аб аднаўленні незалежнасці Польшчы і падтрыманні польскага нацыяналізму шляхам выхавання моладзі»[581].

Вучонага выдалілі з універсітэта і выслалі ў Малую Бераставіцу, а за спробу абараніць сябе і пакараных студэнтаў хадайніцтвам перад высокімі саноўнікамі імперыі яшчэ і аддалі пад суд[582]. Справу І. Анацэвіча разглядалі Гродзенскі гарадскі суд і крымінальная палата, міністр адукацыі, сенат, міністр юстыцыі, Дзяржаўны савет, сам імператар. Толькі ў 1836 г. гісторык быў апраўданы, але забраных рукапісаў яму не вярнулі.

Шматгадовая апала, у якую трапіў І. Анацэвіч, адарвала яго ад універсітэцкага асяроддзя, пазбавіла ўмоў для навуковай працы. Гэта разам з канфіскацыяй падчас арышту яго навуковых матэрыялаў не дало вучонаму магчымасці

---

[579] Следственное дело о тайном обществе Сармацкое племя или Приверженцы Отечества, здесь же о магистре Онацевиче, Горецком, Лисовском, Заборовском, Жемойтеле, Цехановиче. Началось 25 марта 1828 г. // ДГАЛ. Ф. 378. 1828 г. Спр. 644. Арк. 21 адв.

[580] *Марозаў С.* Ігнат Анацэвіч: старонкі біяграфіі // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 2004. № 22. S. 275–305; *Марозаў С. П.* Маральна-палітычныя пошукі студэнтаў Віленскага універсітэта і судовая справа прафесара Ігната Анацэвіча // Заходні рэгіён Беларусі вачыма гісторыкаў і краязнаўцаў: зб. навук. артыкулаў / ГрДУ; рэдкал.: І. П. Крэнь, У. І. Навіцкі, В. А. Белазаровіч (адк. рэдактары) [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2006. С. 367–371.

[581] О студентах Виленского университета Захе, Тржасковском, Гронтовском, Лисовском и других, учредивших тайное общество под названием «Племя сарматов или общество приверженцев Отечества» и о ректоре университета Пеликане и прочих должностных лицах // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. Воп. 3. 1828 г. Спр. 164. Арк. 73 адв. – 74.

[582] Ведомости о лицах, которые находятся под надзором полиции по губернии. 6 июля 1829 г. – 27 июня 1830 г. // НГАБГ. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 540; Дело по отношению Виленского гражданского губернатора с препровождением бывшего профессора Виленского университета коллежского асессора Онацевича под надзор полиции. Май 1828 г. – 15 января 1831 г. // НГАБГ. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 186. 98 арк.

стварыць капітальную гісторыю ВКЛ, над даследаваннем якой ён працаваў усё жыццё. Апала вучонага пазбавіла беларусаў і літоўцаў магчымасці ўжо ў першай палове XIX ст. займець сваю ўласную раннюю гісторыю. Сітуацыя хутка змянілася, і беларуская гістарыяграфія, якая толькі пачала фарміравацца, была заціснута паміж больш моцнай расійскай і польскай гістарыяграфіямі. У іх інтэрпрэтацыі гісторыя ВКЛ, з якой у часы І. Анацэвіча ідэнтыфікавалася беларуская мінуўшчына, пераўтварылася ў гісторыю Заходняй Русі[583] або растварылася ў гісторыі Польшчы. Да нашага часу ў беларускай навуцы і гістарычнай свядомасці грамадства сказваецца моцны ўплыў гэтых гістарыяграфічных кантраверсій.

**Такім чынам,** у блоку новых праблем, якія з'явіліся ў грамадска-палітычным жыцці беларускіх зямель пасля іх далучэння да Расійскай імперыі, важнае месца заняў пошук шляхоў аднаўлення ВКЛ. У канцы XVIII – першай трэці XIX ст. гэта пытанне пастаянна ўздымала палітычная і інтэлектуальная эліта гістарычнай Літвы, якая зведала эфект сацыякультурнай траўмы ад страты дзяржаўнасці, хоць частка вышэйшых пластоў грамадства прыняла заняпад ВКЛ як канчатковы і незваротны. Шляхта звязвала з аднаўленнем дзяржаўнасці спадзяванні на вяртанне дамінуючага палітычнага статусу, былых правоў і прывілегій, паляпшэнне сацыяльнага і эканамічнага становішча. Перманентнай пастаноўцы пытання аб адраджэнні ВКЛ спрыялі ўнутраныя і знешнія фактары: «ліберальная» палітыка Паўла І і Аляксандра І у «польскім пытанні»; вайсковая і дыпламатычная дзейнасць патрыятычнай эміграцыі; вера ў здольнасць сілай зброі (легіёны за мяжой, паўстанне на радзіме) ці шляхам перамоў вярнуць Рэч Паспалітую на карту Еўропы з дапамогай зацікаўленых у гэтым дзяржаў (найперш Францыя і Турцыя); выхад «польскага пытання» на міжнародную арэну; знешнепалітычная сітуацыя пачатку XIX ст. і барацьба за ўплывы на шляхту Беларусі і Літвы Напалеона і Аляксандра І. На падзеі ў Расійскай імперыі і на міжнароднай арэне ліцвінскія палітыкі глядзелі скрозь прызму іх магчымага ўплыву на аднаўленне ВКЛ. У 1805–1815 гг. вялікі ўплыў на пастаноўку

[583] *Габрусевіч С. А., Марозава С. В.* Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына. Гродна: ГрДУ, 2005. С. 134, 137.

пытанне аб вяртанні дзяржаўнасці ВКЛ мела міжнародная сітуацыя. Чаканні ўзмацняліся падзеямі 1806, 1807, 1809 гг. (захоп Напалеонам прускай часткі «забору» Рэчы Паспалітай, стварэнне і пашырэнне тэрыторыі Варшаўскага герцагства), 1811 – пачатку 1812 гг. (прапановы М. Спяранскага ахвяраваць ліцвінам «вольнасць і адбудову дзяржавы», абмеркаванне ў Пецярбургу праекта групы М. К. Агінскага) і другой паловы 1812 г. (арганізацыя ВКЛ і дзейнасць КЧУ).

Большасць ліцвінаў хацела адраджэння ВКЛ у складзе адноўленай Рэчы Паспалітай. Характар будучых адносін з Польскім Каралеўствам бачыўся па-рознаму: з захаваннем уніі Кароны і Княства; на аснове Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Вяртанне Рэчы Паспалітай не перакрэслівала адраджэння ВКЛ. У той жа час былі прыхільнікі аднаўлення ВКЛ без злучэння з Каронай (напрыклад, сярод прафесуры Віленскага ўніверсітэта). Сепаратызм ліцвінаў быў сведчаннем перанесенага ў XIX ст. усведамлення імі адметнасці інтарэсаў і дзяржаўна-палітычнай сістэмы ВКЛ ад Польскага Каралеўства. Сепаратызм, аднак, спалучаўся з салідарнасцю ў агульным горы «страты Айчыны» і змаганні за яе адраджэнне.

Ліцвінскі дзяржаўны сепаратызм быў дваякім: адносна Польшчы і адносна Расіі. Урадавы Пецярбург, ствараючы ў тыя часы ілюзорныя перспектывы адбудовы ВКЛ, намагаўся «разбудзіць» антыпольскі сепаратызм ліцвінаў. З другога боку, расійскія ўлады жорстка падаўлялі ўсялякія праявы іх патрыятызму і сепаратызму, у якіх бачылі падкоп пад моц імперыі. У той жа час улады, вымушаныя абапірацца на мясцовую шляхту, ішлі на абмеркаванне праектаў аднаўлення ВКЛ і стваралі бачнасць іх падтрымкі на дзяржаўным узроўні.

Рух за адраджэнне ВКЛ разгортваўся ў Беларусі і Літве ў канцы XVIII – першай трэці XIX ст. легальным шляхам з выкарыстаннем сродкаў палітычных (распрацоўка праектаў і прапанова іх Аляксандру I), навукова-асветных (выхаванне патрыятызму праз гістарычную навуку і адукацыю); ідэалагічных (тайна-канспірацыйнае супрацьстаянне ўладам праз масонскія ложы, тайныя таварыствы) і збройных (паўстанцкія намеры мелі месца ў 1797, 1807, 1813 гг.).

На працягу 1806–1812 гг. палітыкі былога ВКЛ і Рэчы Паспалітай, выкарыстаўшы міжнародную палітычную кан'юнктуру, падрыхтавалі шэраг праектаў дзяржаўнага

ўладкавання беларуска-літоўскіх зямель. Усе яны прадугледжвалі палітычную рэарганізацыю Усходняй Еўропы мірным або ваенным спосабам. У пошуках шляхоў аднаўлення дзяржавы ў ліцвінскім патрыятычным руху сфарміраваліся дзве плыні: адна звязвала надзеі з ваеннымі перамогамі Францыі і Напалеона (А. Сапега, Ю. Серакоўскі, М. Сакальніцкі), другая зрабіла стаўку на Расію і Аляксандра I (А. Чартарыйскі, С. Нямцэвіч, А. Г. Радзівіл, М. К. Агінскі, Э. Тышынскі). Аўтары праектаў бралі палітычны арыенцір на краіну, якую лічылі рэальнай сілай. У імкненні выгандляваць прывідную дзяржаўнасць «пад пратэктаратам» яны выступалі ў ролі просьбітаў, вымушаных пераконваць Напалеона і Аляксандра I у мэтазгоднасці адраджэння ВКЛ, даказваць выгоды ад гэтага для Францыі і Расіі, узамен абяцаючы адданасць суайчыннікаў.

Абодва імператары падтрымлівалі і ўмацоўвалі адраджэнскія надзеі ліцвінскай шляхты адзіна з намерам выкарыстаць Беларусь і Літву ў сваіх інтарэсах. Адмова Т. Касцюшкі ад супрацоўніцтва з Напалеонам ахаладжала надзеі арыстакратыі і інтэлігенцыі на імператара французаў.

Найважнейшымі фактарамі ўплыву на грамадска-палітычную сітуацыю ў Беларусі і Літве ў першай трэці XIX ст. з'яўляліся Віленскі ўніверсітэт і варшаўскае Таварыства сяброў навук. Асабліва «падагравалі» мары аб аднаўленні Айчыны гістарычная навука і выкладанне ліберальнай прафесурай гісторыі. Мара-ідэя аб адбудове ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай, разбураная ў 1812–1815 гг., знайшла прыхільнікаў ва ўсіх трох тыпах грамадскіх арганізацый, у якіх у 1815–1829 гг. сканцэнтравалася грамадскае жыццё Беларусі і Літвы: у масонскіх ложах, навуковых і тайных таварыствах. Многія з іх ад адцягненых ідэй маральнай дасканаласці, узаемадапамогі перайшлі да пастаноўкі палітычных задач аднаўлення Рэчы Паспалітай і пры гэтым культывавалі ліцвінскі патрыятызм.

Рух за адраджэнне ВКЛ, які разгортваўся ў 1795–1829 гг., пацярпеў няўдачу. Яго першым буйным паражэннем быў разгром «Віленскай асацыяцыі». Расколу эміграцыі на глебе выбару сродкаў аднаўлення дзяржавы сапутнічала расчараванне ў магчымасці атрымаць рэальную дапамогу ад Турцыі і Францыі. Ні Аляксандр I , ні Напалеон не прыняў да ўвагі праекты, прапанаваныя ліцвінскімі палітыкамі.

Згубным для «літоўскіх» палітычных праектаў 1811–1812 г. стала «падзенне» М. Спяранскага. Праваліліся на стадыі абмеркавання праекты групы М. К. Агінскага. У 1812 г. ліцвіны, здавалася, былі найбліжэй да магчымасці адбудовы ВКЛ. Узноўленае Напалеонам ВКЛ мела ўсе прыкметы дзяржаўнасці, але не было самастойным у сваёй дзейнасці і праіснавала вельмі кароткі час. КЧУ ВКЛ не змагла і не паспела разгарнуць работу па адраджэнні элементаў ранейшай дзяржаўнасці. Кропку на надзеях ліцвінскай шляхты аб вяртанні на іх землі былой дзяржаўнасці паставіў Венскі кангрэс. Не паўплывала на палітычную сітуацыю дзейнасць масонскіх ложаў і тайных таварыстваў, якія мелі «буйныя задумы», але далей «абмеркавання спосабаў выратавання Айчыны» не ішлі і былі хутка згорнуты пераследам. Нездарма перыяд іх найбольшай актыўнасці называюць эпохай палітычнага рамантызму. 1795–1829 гг. сталі часам няздзейсненых надзей, успаміны аб якім пазней жывілі змаганне за незалежнасць і адраджэнне «забранай» дзяржавы.

Тым не менш, уся сукупнасць планаў, праектаў, выказаных думак, дзейнасці навуковых асяродкаў і тайна-канспірацыйных арганізацый сведчыць пра моцныя адраджэнскія настроі ў 1795–1829 гг. на тэрыторыі Беларусі і Літвы і аптымізм іх носьбітаў – веру ў немінучасць вяртання ВКЛ і сваю здольнасць гэта зрабіць. Носьбіт гэтай ідэі мяняўся ў залежнасці ад гістарычных абставін: былыя палітыкі ВКЛ, масоны, універсітэцкая прафесура, студэнцкая моладзь, а ў 1806–1812 гг. – больш шырокія колы грамадства: частка магнатаў, шляхты, духавенства, мяшчан, чыноўнікаў, вайскоўцаў, моладзі. Гэта была інтэлігенцкая, элітарная ідэя. Заснаванне студэнцка-вучнёўскіх таварыстваў – аж да такіх, што планавалі ваенную падрыхтоўку («Таварыства сарматаў або патрыётаў»), – сведчыла аб кансалідацыі вакол ідэі адраджэння ВКЛ наступнага пакалення – дзяцей тых, хто перажыў траўму крушэння дзяржавы і перадаў ім яе боль. Напярэдадні 1830 г. моладзь была поўная патрыятычнага запалу.

# Глава 3.
# Сепаратысцкія настроі і ўзброеная барацьба за вяртанне дзяржаўнасці (1830–1864 гг.)

## 1. Палітычная традыцыя ВКЛ у паўстанні 1830–1831 гг.

Паўстанне, якое пачалося з выступлення ў Варшаве ў ноч на 29 лістапада 1830 г., было выклікана парушэннем царызмам аўтаноміі і канстытуцыі Царства Польскага, паступовай ліквідацыяй яго дзяржаўнасці, а таксама, як лічыць шэраг айчынных гісторыкаў (В. Гарбачова, У. Снапкоўскі, А. Грыцкевіч і інш.), намаганнямі шляхты Беларусі і Літвы аднавіць дзяржаўнасць сваіх зямель і свае былыя палітычныя правы[584]. Адной з прычын паўстання сучаснікамі называлася невыкананне Расіяй свайго абяцання аб далучэнні да Царства Польскага «былых усходніх правінцый Рэчы Паспалітай», а яго мэтай – «вярнуць сваю незалежнасць і старажытную магутнасць»[585].

У кіраўніцтва паўстаннем і польскай грамадскай думцы не было адзінства па пытанню аб адносінах паміж Царствам Польскім і землямі былога ВКЛ. Прадстаўнікі кансерватыўна-арыстакратычнага лагера, які дамінаваў у кіраўніцтве, з А. Чартарыйскім на чале выступалі за федэрацыю Польшчы з Літвой, Беларуссю і Украінай на аснове Люблінскай уніі з аднаўленнем грамадскага ладу і законаў, што існавалі да падзелаў Рэчы Паспалітай. Адноўленая Рэч Паспалітая ім бачылася канстытуцыйнай манархіяй са спадчыннай каралеўскай уладай, а дасягнуць мэты яны разлічвалі

[584] *Гарбачова В. В.* Удзельнікі паўстання 1830–1831 гадоў на Беларусі: біябібліяграфічны слоўнік. Мінск: БДУ, 2004. С. 3; *Снапковский В. Е.* История внешней политики Беларуси: пособие. Минск: БГУ, 2013. С. 212; *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 37.

[585] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск : Беларус. навука, 2011. С. 216.

дыпламатычным шляхам і рабілі стаўку на падтрымку замежных дзяржаў, варожых Расіі (у прыватнасці, на Аўстрыю).

Частка прадстаўнікоў дэмакратычнага лагера са сваім ідэолагам І. Лялевелем на чале выказвалася за стварэнне цэнтралізаванай дзяржавы з рэспубліканскай формай праўлення і з распаўсюджаннем на яе правоў і законаў Царства Польскага, а таксама праведзеных у ім сацыяльных і палітычных рэформ[586]. Некаторыя члены Патрыятычнага таварыства прапаноўвалі ўлічыць думку народаў былога ВКЛ аб характары іх будучых адносін з Царствам Польскім[587]. Рэвалюцыйная плынь («левіца») у змаганні з расійскім самадзяржаўем разлічвала на народ, улічвала інтарэсы падатковых саслоўяў і дамагалася пашырэння паўстання на землі былога ВКЛ. Вылучаны І. Лялевелем лозунг «За нашу і вашу свабоду» стаў сімвалам яднання рэвалюцыянераў Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны, а таксама Расіі.

18 снежня 1830 г. сейм Царства Польскага абвясціў сябе вышэйшай уладай у Польшчы, заклікаў да паўстання насельніцтва ўсёй тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай і дэманстратыўна пашырыў свой склад за кошт прадстаўнікоў шляхты Беларусі, Літвы і Украіны. З іх быў сфарміраваны Літоўскі камітэт.

Новы ўрад накіраваў у Пецярбург дэлегацыю з шэрагам патрабаванняў да Мікалая І як кіраўніка Царства Польскага, сярод іх – вяртанне васьмі ваяводстваў, якія адышлі да Расіі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай і напалеонаўскіх войнаў[588]. Цар адхіліў усе патрабаванні і абяцаў адзіна – амністыю ўдзельнікам паўстання. У адказ на гэта сейм прыняў рашэнне пра дэтранізацыю Мікалая І, бо ён не выконвае сваіх канстытуцыйных абавязкаў, пазбавіў яго тытула цара польскага і вызваліў ад прысягі яму жыхароў Царства, Літвы, Беларусі і Украіны. Той успрыняў рашэнне сейма як асабістую абразу. Такі паварот падзей азначаў пераход ад мірных перамоў

[586] *Feduszka J.* Powstanie Listopadowe na Litwie i Zmudzi // Teka Kom. Hist. OL PAN, 2004, 1. S. 123–124; Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 217.

[587] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 217.

[588] *Снапковский В. Е.* История внешней политики Беларуси: пособие. Минск: БГУ, 2013. С. 212.

да ўзброенага супрацьстаяння. У канцы студзеня Мікалай I накіраваў у Польшчу 180-тысячную армію. Ёй супрацьстаяла 140 тысяч чалавек.

Каб пашырыць раён паўстання, 1 лютага 1831 г. сейм заклікаў насельніцтва Літвы, Беларусі і Украіны сумеснымі намаганнямі аднавіць «старажытнае адзінства і ўнію». 22 студзеня 1831 г. I. Лялевель зачытаў на сейме складзены на ўзор «Літоўскага акта» 1794 г. «Акт салідарнасці грамадзян»: «Абвяшчаем свету, што наша воля і наша справа да Дзвіны і Дняпра з'яўляецца агульнай і непадзельнай, што ўсе складаем адну Польшчу...»[589]. Створаны тады I. Лялевелем клуб «Аб'яднаных братоў» з прадстаўнікоў інтэлігенцыі Літвы, Беларусі і Украіны, якія знаходзіліся ў Варшаве, заявіў ад імя сваіх народаў, што ўсе яны «імкнуцца да ўз'яднання ў адзінай з палякамі дзяржаве»[590].

Парламенцкія настроі перадаліся грамадству – у прэсе, паэзіі, улётках загучалі заклікі да «марша на Літву»[591]; клікалі «Літву да зброі», каб зняць з яе «ганебныя кайданы»[592] (дадатак 13).

У сакавіку-красавіку 1831 г. паўстанне дайшло да зямель былога ВКЛ. Па словах яго ўдзельніка-мемуарыста Ігнацыя Клюкоўскага з Ашмянскага павета, «разлілася паўстанне ад Нёмана да Дзвіны»[593]. Спачатку яно ахапіла Літву і паўночна-заходнюю частку Беларусі, у красавіку пашырылася на ўсю Віленскую губерню, у маі – на Гродзенскую, у чэрвені-ліпені – на Мінскую губерні. У Беларусі і Літве было арганізавана каля 30 партызанскіх атрадаў, у якіх змагаліся 12 тыс. чалавек. Сацыяльную базу паўстання I. Клюкоўскі ахарактарызаваў наступным чынам: «сялянства, спадлелае ад сталькіх часоў галечы, няволі і цемнаты, выявіла, якой можа быць магутнай сілай пакрыўджаная народнасць, каб толькі хто

[589] *Feduszka J.* Powstanie Listopadowe na Litwie i Zmudzi // Teka Kom. Hist. OL PAN, 2004, 1. S. 122.

[590] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 216.

[591] *Feduszka J.* Powstanie Listopadowe na Litwie i Zmudzi // Teka Kom. Hist. OL PAN, 2004, 1. S. 124.

[592] Gazeta Polska. Октябрь – декабрь 1830. Варшава // РДВГА. Ф. 478. Воп. 1. Спр. 67. Арк. 197–197 адв.

[593] За вольнасць і веру. Ігнацій Клюкоўскі і яго ўспаміны аб падзеях паўстання 1830–1831 гадоў: на польскай і беларускай мовах / уклад., перакл., камент. В. В. Гарбачова. Мінск: Лімарыус, 2007. С. 61.

ўмеў ёй удала валодаць. Грамадзянства, а асабліва моладзь, па большай частцы сядала на коней. Уся моладзь Віленскага ўніверсітэта і тыя, хто вышэйшым духам былі ажыўлены ў сталіцы Літвы, усе паспяшылі да паўстаўшых братніх шарэнгаў. Святарства, якое цярпела ўціск і праследаванне, і ўвесь час пагрозы з боку расійскага ўрада, найбольш стаpанна і найпахвальней дапамагала ў паўстанцкай справе. … Адныя толькі магнаты, да і то старэйшага ўзросту, не жадалі ніякім чынам прычыніцца да паўстання. ... Аднак за такія паводзіны не стаў бы я вінаваціць іх у здрадзе ці садзейнічанні Расіі, а абвінавачваў бы ў эгаізме і баязлівасці рызыкнуць, паставіць на карту няпэўнай рэвалюцыі свае вялікія маёнткі»[594].

Так, уклад у паўстанне настаўнікаў вучылішча з мястэчка Маладзечна Мінскай губерні выявіўся ў наступным: «Дульскі – у выдачы мяцежнікам вучэльнай сумы, Дабкевіч – у сачыненні нібыта абуральных папер, Катлубай – у перапісванні тых і чытанні народу, Харжэўскі – ва ўзбраенні сябе і заахвочванні да гэтага іншых і Архімовіч – у далучэнні да бунтаўшчыкоў»[595]. Гэты фрагмент з датаванай вераснем 1831 г. судова-следчай справы маладзечанскіх настаўнікаў сведчыць пра «падзел працы» сярод паўстанцаў і іх увагу да «ідэалагічнага забеспячэння» паўстання.

Паўстанцам беларускіх паветаў даводзілася дзейнічаць у намнога больш складаных умовах, чым у Польшчы. Напярэдадні іх выступлення былі ўведзена ваеннае становішча, канфіскавана прыватная зброя, арыштаваны, высланы ў глыб Расіі патэнцыйна актыўныя сілы і лідары паўстання, устаноўлены паліцэйскі нагляд над студэнцкай моладдзю і выкладчыкамі Віленскага ўніверсітэта. Адсутнасць відавочнага лідара, недастатковая падрыхтаванасць выступлення, цяжкасць сувязі цэнтра з павятовымі камітэтамі не садзейнічалі кансалідацыі паўстанцаў у Беларусі і Літве[596], і падзеі тут развіваліся пераважна стыхійна. Не хапала зброі,

594 За вольнасць і веру. Ігнацій Клюкоўскі і яго ўспаміны аб падзеях паўстання 1830–1831 гадоў: на польскай і беларускай мовах / уклад., перакл., камент. В. В. Гарбачова. Мінск: Лімарыус, 2007. С. 62–63.

595 Дело по предписаниям г. минского временного военного губернатора о доставлении попечителем Белорусского учебного округа Карташевым сведений о молодеченских учителях. 2 сентября 1831 г. // ГАСА. Ф. 202. Спр. 4. Арк. 3 адв.

596 За вольнасць і веру. Ігнацій Клюкоўскі і яго ўспаміны аб падзеях паўстання 1830–1831 гадоў: на польскай і беларускай мовах / уклад., перакл., камент. В. В. Гарбачова. Мінск: Лімарыус, 2007. С. 7.

грошай. Паўстанцам, сярод якіх было шмат узброеных толькі косамі і пікамі сялян, супрацьстаяла навучанае рэгулярнае войска.

У маі – пачатку чэрвеня 1831 г. паўстанцкія сілы на Гродзеншчыне былі ўзмоцнены корпусам рэгулярнага польскага войска на чале з генералам Д. Хлапоўскім (700 чалавек пяхоты і кавалерыі) і 12-тысячным корпусам генерала А. Гелгуда[597]. А. Гелгуд выдаў адозву да мясцовага насельніцтва, каб у яго «абуджаць дух і дзеянне дзеля вяртання Айчыны»[598]. Тым не менш, агульная сітуацыя складвалася не на карысць паўстанцаў. Наступленне царскіх войскаў вымусіла іх адыйсці ў лясы Белавежскай пушчы. Кульмінацыяй паўстання стала бітва за Вільню 19 чэрвеня. У пачатку жніўня паўстанне было падаўлена на ўсёй тэрыторыі Беларусі, хоць яшчэ ў другой палове месяца І. Лялевель унёс на разгляд Літоўскага камітэта прапанову арганізаваць новую ваенную экспедыцыю ў Літву для адраджэння «літоўскага паўстання»[599].

Пасля паражэння каля 9 тысяч паўстанцаў з зямель былой Рэчы Паспалітай, з якіх ад 1500 да 1700 чалавек паходзілі з беларуска-літоўскіх губерняў, пакінулі радзіму. Яны пасяліліся пераважна ў Францыі і ў 30–40-х гг. рабілі спробы ўзнавіць узброенае выступленне ў заходніх губернях праз высылку эмісараў[600]. Да следства за ўдзел у паўстанні ў беларуска-літоўскіх губернях было прыцягнута 2878 чалавек, было канфіскавана 217 маёнткаў з 85,6 тысячамі прыгонных[601].

Сярод даследчыкаў няма адзінства ў адказе на пытанне, як бачыўся паўстанцам Беларусі і Літвы характар будучых палітычных адносінаў зямель ВКЛ з аднoўленым Польскім каралеўствам. Адны лічаць, што апалячаная шляхта, каталіцкае і часткова ўніяцкае духавенства падтрымалі

---

[597] *Feduszka J.* Powstanie Listopadowe na Litwie i Zmudzi // Teka Kom. Hist. OL PAN, 2004, 1. S. 149.

[598] Inventarz zespołu archiwalnego «Władze Centralne Powstania Listopadowego 1830–1831» z lat 1830–1833, 1828–1845. AGAD. Warszawa. 1953 // ГАСА. Ф. 200. Арк. 8.

[599] За вольнасць і веру. Ігнацій Клюкоўскі і яго ўспаміны аб падзеях паўстання 1830–1831 гадоў: на польскай і беларускай мовах / уклад., перакл., камент. В. В. Гарбачова. Мінск: Лімарыус, 2007. С. 76.

[600] *Матвейчык Д. Ч.* Выгнаныя з роднага краю: Пасялістападаўская эміграцыя з Беларусі і Літвы (1830–1870-я гады). Мінск : Лімарыус, 2011. С. 141–142.

[601] Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4: Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) / М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч [і інш.]; рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Экаперспектыва, 2005. С. 91–92.

лозунг барацьбы за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. як польскай дзяржавы, а пытанне аб дзяржаўнасці свайго краю не ставілі. Так, на думку У. Снапкоўскага і З. Шыбекі, у паўстанні 1830–1831 гг. пра адбудову ВКЛ гаворка не заводзілася – лічылася, што літоўскі сепаратызм аслабляе антыцарскі фронт[602]. З другога боку, В. В. Гарбачова бачыць у падтрымцы беларускімі паўстанцамі лозунга аднаўлення Рэчы Паспалітай сведчанне таго, што яны змагаліся за аднаўленне федэратыўнай дзяржавы і аўтаноміі ВКЛ у яе складзе[603].

Не падлягае сумненню, што ва ўсіх трох паўстаннях барацьба вялася за адраджэнне Рэчы Паспалітай, пры гэтым, аднак, іх кіраўнікі ад Я. Ясінскага да К. Каліноўскага ставілі мэтай аднаўленне аўтаноміі ВКЛ і яго федэратыўнай сувязі з Польшчай.

Тое, што ў імкненні адбудаваць новую незалежную Рэч Паспалітую беларуская і польская шляхта выступалі ў першай палове XIX ст. адным блокам, З. Шыбека тлумачыць наступным: «Усе антырасійскія сілы задавальняла менавіта такая буйная польская дзяржава, бо толькі тады яна магла супрацьстаяць імперыі царскай. У будучай Вялікай Польшчы рамантычную моладзь і шляхецкую інтэлігенцыю (у тым ліку і праваслаўную) прываблівала перспектыва ўвядзення рэспубліканскага праўлення і далучэння да еўрапейскай культурнай традыцыі. Клерыкалаў прываблівала панаванне каталіцызму. Выхаваныя ў польскай культуры базыльяне грэка-лацінскага абраду бачылі выратаванне ўніі *(царкоўнай – С. М.)* і Айчыны таксама толькі ў адноўленай Рэчы Паспалітай»[604].

Паўстанцы з тэрыторыі былога ВКЛ, як піша польскі гісторык Я. Фядушка, калі ў 1831 г. браліся за зброю, апелявалі найперш да памяці пра супольную дзяржаву, да шматвяковых сувязяў

---

[602] *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 37; Шыбека З. Справа адраджэння Рэчы Паспалітай на землях Беларусі ў XIX ст. (па старонках неапублікаванага падручніка) // Наш радавод. Гродна, 1999. Кн. 8: Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. X–XX ст.: матэрыялы міжнар. круглага стала, Гродна, 28–30 верас. 1999. С. 272.

[603] *Гарбачова В. В.* Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі. Мінск: БДУ, 2001. С. 3.

[604] *Шыбека З.* Справа адраджэння Рэчы Паспалітай на землях Беларусі ў XIX ст. (па старонках неапублікаванага падручніка) // Наш радавод. Гродна, 1999. Кн. 8: Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. X–XX ст.: матэрыялы міжнар. круглага стала, Гродна, 28–30 верас. 1999. С. 271.

Літвы і Польшчы, да сумеснай барацьбы за незалежнасць пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Пры гэтым звяртае ўвагу на тое, што пасля Канстытуцыі 1791 г. перад пагрозай агульнай небяспекі, у моманты патрыятычных уздымаў і нацыянальных паўстанняў у ліцвінаў злучаліся разам пачуццё палітычнага адзінства з Польшай са свядомасцю адметнасці жыхароў гістарычнай Літвы[605]. Гэта свядомасць выяўлялася хоць бы ў паўстанцкім фальклоры[606] (дадатак 13) і публіцыстыцы.

**Такім чынам**, у паўстанні 1830–1831 гг. галоўным было пытанне аб адраджэнні страчанай дзяржаўнасці. Узброенае змаганне за адраджэнне Рэчы Паспалітай не перакрэслівала барацьбы за аднаўленне дзяржаўнасці ВКЛ як яе састаўной часткі. Аднак адзінства ў поглядах на характар будучай палітычнай сувязі гістарычнай Літвы і Царства Польскага ў адноўленай незалежнай Рэчы Паспалітай не было як у кіраўніцтва паўстаннем у Польшчы, так і на абшарах былога ВКЛ і вар'іравалася ад федэрацыі да ўнітарнай дзяржавы і нават поўнага зліцця. Ліцвіны ўзняліся на барацьбу вясной–летам 1831 г., пры ўсёй іх салідарнасці з «варшаўскай справай», не за інтарэсы палякаў, не за дзяржаву для палякаў, але каб вярнуць сваю дзяржаву, 450-гадовай традыцыяй звязаную ўніяй з Польшчай. Залог вяртання ВКЛ звязвалі з адбудовай Рэчы Паспалітай.

## 2. Знішчэнне апошніх атрыбутаў дзяржаўнасці. ВКЛ у грамадскай думцы 30–50-х гг. XIX ст.

***Рэакцыя на знішчэнне апошніх атрыбутаў дзяржаўнасці ВКЛ.*** Царскі ўрад праводзіў на беларуска-літоўскіх землях цэнтралісцкую палітыку з мэтай іх зліцця з Расіяй. У той жа час ён быў вымушаны лічыцца з некаторымі асаблівасцямі іх дзяржаўна-прававога, моўна-культурнага, канфесійнага, «маральна-палітычнага» становішча, сацыяльнай структуры, якія дасталіся ў спадчыну ад ВКЛ, але перашкаджалі поўнай інкарпарацыі Беларусі і Літвы ў склад імперыі. Нядаўні «бунт» даў падставу для нівеляцыі гэтых

[605] *Feduszka J.* Powstanie Listopadowe na Litwie i Zmudzi // Teka Kom. Hist. OL PAN, 2004, 1. S. 110, 111.

[606] *Kamiński A.* Polskie związki młodzieży (1831–1848). Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1968. S. 163–164.

адметнасцяў. У Камітэце па справах заходніх губерняў царскія міністры распрацоўвалі спосабы іх зліцця з цэнтральнымі раёнамі імперыі, каб папярэдзіць на будучыню любыя праявы апазіцыйнасці і сепаратызму. У пакаранне за ўдзел у паўстанні быў распачаты працэс «разбору» шляхты, знішчаны Статут ВКЛ 1588 г., Віленскі ўніверсітэт і царкоўная ўнія, якія ўспрымаліся мясцовай шляхтай і інтэлігенцыяй за важнейшыя атрыбуты-сімвалы ВКЛ.

Першым паў універсітэт, які тры дзесяцігоддзі быў асяродкам ліберальнай думкі, перадаваў новым пакаленням эліты ідэі дэмакратыі і прышчэплівяў пачуццё ліцвінскага патрыятызму. Прадмет гонару беларуска-літоўскага краю і павагі еўрапейскага навуковага свету, універсітэт, трэць студэнтаў якога прынялі ўдзел у паўстанні, быў у 1832 г. закрыты царскім урадам. Гэта быў балючы ўдар не толькі па інтэлектуальным жыцці беларуска-літоўскага краю, успрыняты яго інтэлігенцыяй як абраза, але і па нацыянальна-вызваленчым руху, па традыцыях, якія тут захоўваліся з часоў ВКЛ. Удар па ўніверсітэце быў, па словах С. Я. Куль-Сяльверставай, адначасова ўдарам па памяці аб былой дзяржаўнасці. Вільня як універсітэцкі горад і цэнтр навучальнай акругі, у якую ўваходзілі землі былога ВКЛ, фактычна выконвала ролю іх сталіцы. З перакройваннем межаў навучальнай акругі і закрыццём універсітэта Вільня нізводзілася да ўзроўню іншых губернскіх гарадоў імперыі, канчаткова губляючы свой сталічны статус[607]. Інтэлігенцыя Беларусі і Літвы, усведамляючы, што край, пазбаўлены ўніверсітэта, затрыманы «на шляху развіцця разумовага»[608], на працягу XIX – пачатку XX ст. дамагалася ў Пецярбурга яго аднаўлення.

Актыўная дапамога паўстанцам з боку ўніяцкага духавенства стала зачэпкай для ліквідацыі ўніяцкай царквы, якая не падтрымлівала палітыку трона, перашкаджала ўніфікацыі заходняга краю. Таму і з яе дзейнасцю ўлады звязвалі небяспеку сепаратызму. У 1839 г. паўтара мільёна беларускіх уніятаў былі пераведзены ў пануючую веру. У Зімовым палацы ацанілі гэты акт як «велізарнае прадпрыемства, гэтак жа важнае ў

[607] *Куль-Сяльверстава С.* Студэнцкія тайныя таварыствы і разгром Віленскага ўніверсітэта (1820–1824 г.) // ARCHE. 2015. № 9. С. 241–242.

[608] Дело Временного полевого аудиториата Виленского военного округа о помещике графе Викторе Старжинском. 27 июня –… ноября 1863 г. // ДГАЛ. Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 16 адв.

палітычным, колькі і ў рэлігійным сэнсе, якое зойме бліскучую старонку ў летапісах імперыі»[609].

Падаўленне ўніяцкай традыцыі ўвергла грамадства ў шокавы стан, нанесла яму глыбокую псіхалагічную траўму. Сяляне не разумелі, чаму забараняецца вера, у якой больш за 200 гадоў былі іх бацькі і дзяды. На абарону ўніі выступіла шляхта, якая ўспрыняла яе знішчэнне як помсту цара за нядаўні бунт; мясцовая інтэлігенцыя; само духавенства і вернікі, якія не бачылі патрэбы сваю веру мяняць. Таму на знішчэнне ўніі была накіравана ўся сістэма царскай улады: суд, сінод, сенат, мясцовая адміністрацыя, паліцыя. Сцерагучыся новага выбуху пры абнародаванні факту, што ўніі ўжо няма, у беларускіх гарадах і вёсках папярэдне размясцілі вайсковыя атрады[610]. Злом царкоўна-рэлігійнай спадчыны ВКЛ і Рэчы Паспалітай, які атрымаў працяг з разгромам паўстання 1863–1864 гг. у наступе на рымска-каталіцкую царкву, прывёў да перакройвання канфесійнай структуры Беларусі.

Апошнім паў Статут ВКЛ. Уведзены ў дзеянне яшчэ ў 1588 г., ён амаль на паўстагоддзя перажыў саму дзяржаву і працягваў дзейнічаць разам з агульнаімперскімі законамі. Паколькі шэраг нормаў і правілаў Статута слаба адпавядалі новай рэчаіснасці, створаная Мікалаем I у 1822 г. спецыяльная кадыфікацыйная камісія ў складзе прафесараў Віленскага ўніверсітэта І. Даніловіча, І. Лялевеля, І. Лабойкі, Я. Зноскі (старшыня) і бібліятэкара К. Контрыма распрацавала новую рэдакцыю Статута, дапасаваную да расійскага заканадаўства, і збіралася ўключыць яе ў агульнаімперскі збор законаў. Беларусь і Літва, такім чынам, захавалі бы прававую адметнасць у імперыі, дзе для іх ніякай аўтаноміі і тэрытарыяльнай адасобленасці не прадугледжвалася. Аднак І. Даніловічу, які падтрымліваў сувязі з І. Лялевелем, не дазволілі ажыццявіць гэты «сепаратысцкі» сцэнар[611].

Калі рэдакцыйная работа была завершана і прадстаўлена на зацвярджэнне, Мікалай I з 1 студзеня 1831 г. спыніў дзеянне Статута ВКЛ у Віцебскай і Магілёўскай губернях. Такі крок абгрунтоўваўся імкненнем «выдалення ў жыхарах Паўночна-

[609] *Марозава С. В.* «Сваёй веры ламаць не будзем…»: Супраціў дэўнізацыі ў Беларусі (1780–1839 гады). Гродна: ЮрСаПрынт, 2014. С. 14.

[610] Тамсама. С. 51, 80, 199, 201.

[611] *Лянькоў І.* Традыцыі Вялікага Княства Літоўскага ў палітычным жыцьці беларускіх земляў у XIX ст. // Спадчына. 2002. № 2–3. С. 61–62.

Заходняга краю ўсялякай думкі пра самастойнасць дзеючага ў іх заканадаўства, якое можа служыць якойсьці перашкодай да зліцця іх з карэннай Расіяй»[612].

Адмена Статута напаліла грамадска-палітычную абстаноўку ў заходніх губернях, выклікала абурэнне мясцовай інтэлігенцыі і пратэсты шляхты, увергнутых у свайго роду «прававы шок»[613]. Каб згладзіць негатыўны грамадскі рэзананс, магілёўскі губернатар М. Мураўёў у лютым 1831 г. арганізаваў падачу імператару падзячнага ліста ад шляхты сваёй губерні за адмену Статута. Тая ўсяляк імкнулася ўхіліцца ад падпісання гэтага адраса. Калі прызначаная губернатарам дэлегацыя павезла падзячны адрас у Пецярбург, шляхта Рагачоўскага павета пад выглядам банкета правяла шматлюдны сход, на якім гучалі «вольныя словы» і «выказваліся надзеі» на адраджэнне сваёй дзяржавы[614].

Супрацоўнік Трэцяга аддзялення, тайны агент корпуса жандараў Аляксандр Васільеў, які выдатна арыентаваўся ў мясцовай сітуацыі і настроях, вясной 1832 г. сваёй запіскай «Літва» рэзка выступіў супраць юрыдычнай адасобленасці і адметнага статусу беларускіх і літоўскіх зямель у складзе Расійскай імперыі[615] (дадатак 14). Ён пісаў, што Аляксандру І трэба было яшчэ пасля 1812 г. пазбавіць Літву прававой адасобленасці і разбурыць яе адміністрацыйную аўтаномію. А ён стварэннем Літоўскага корпуса даў падставу для яшчэ большага адчужэння Літвы ад Расіі, у той час як з размяшчэннем у Літве рускай арміі «літоўцы» праз шлюбныя саюзы афіцэраў са шляхецкімі дачкамі «этнічна зліліся бы» з рускімі. Мяцеж 1831 г., як сцвярджаў аўтар запіскі, цяпер цалкам засведчыў шкоду прававой адасобленасці і нават прывід існавання Літвы[616]. Беларускае і літоўскае дваранства, як адзначаў А. Васільеў, не

---

612 *Терешкович П. В.* Этническая история Беларуси XIX – начала XX в.: В контексте Центрально-Восточной Европы. Минск: БГУ, 2004. С. 76.

613 *Куль-Сяльверстава С. Я.* Статут ВКЛ 1588 г. у свядомасці насельніцтва беларускіх зямель у першай палове XIX ст. // Леў Сапега і яго час: зб. навук. арт. / рэд. кал. С. В. Марозава [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2007. С. 341–346.

614 *Марозава С. В.* Адмена Статута Вялікага княства Літоўскага (1831, 1840 г.) і рэакцыя на яе беларускай шляхты // Pirmasis Lietuvos Statutas ir epocha. Vilnius: Vilniaus universiteto leidykla, 2005. P. 60.

615 Письма капитана Васильева Александра с просьбой назначить его полицмейстером в Варшаву с приложением своих записок о Литве и Польше. Начато 20 мая 1832 г. // ДАРФ. Ф. 109. Сакрэтны архіў. Воп. 2. Спр. 208. Арк. 5–41 адв.

616 Тамсама. Арк. 6.

задаволена частымі зменамі некалі дадзеных ім і яшчэ не знішчаных правоў і прывілеяў, а дробная шляхта прагна чакае першага кліку да бунту ў надзеі палепшыць сваё становішча і сялян пужае непазбежнымі новай вайной «за Польшчу і Літву» і новым паўстаннем народа[617].

26 чэрвеня 1840 г. Мікалай I скасаваў правадзейнасць Статута ў Віленскай, Мінскай і Гродзенскай губернях. Польскі гісторык А. Камінскі атаесамляе гэта са знішчэннем рэшткаў аўтаноміі гістарычнай Літвы і шляхецкай дэмакратыі[618]. На гэтым на спробах захавання юрыдычнай адасобленасці зямель былога ВКЛ была пастаўлена кропка. Праціўнікі ломкі прававой сістэмы ВКЛ даказвалі тады перавагу былых законаў і знаходзілі ў гэтым разуменне мясцовай шляхты. Для патрыётаў ВКЛ Статут 1588 г. быў сімвалам велічы і магутнасці іх дзяржавы. Ён стаў і апошнім атрыбутам дзяржавы, знішчаным царызмам. Усе наступныя праекты адраджэння ВКЛ прадугледжвалі вяртанне Статута ў прававое поле беларуска-літоўскіх зямель.

Такім чынам, удзел у паўстанні студэнтаў і ўніяцкага духавенства сталі зручнай падставай для знішчэння Віленскага ўніверстітэта, які з'яўляўся паказчыкам цывілізаванасці краю, і царкоўнай ўніі, якая была яго рэлігійнай адметнасцю. «Мяцеж» 1831 г. засведчыў шкоду прававой адасобленасці беларуска-літоўскіх зямель, таму быў адменены Статут ВКЛ. Знішчэнне гэтых сімвалаў-атрыбутаў ВКЛ паглыбіла ў новым пакаленні яго спадчыннікаў сацыякультурную траўму, нанесеную ў канцы XVIII ст. знішчэннем самой дзяржавы. Гэта была абраза патрыятычных пачуццяў і памяці пра ВКЛ. Таму пытанне аб вяртанні забраных атрыбутаў Княства неаднаразова ўздымалася інтэлігенцыяй у наступныя дзесяцігоддзі. Ідэя вяртання Статута і ўніверсітэта звычайна звязвалася з праектамі адраджэння ВКЛ. Віленскі ўніверсітэт быў адноўлены ў Літве ў 1919 г., унія ў Беларусі – у канцы XX ст. Статут ніколі ўжо не быў вернуты.

***Настальгія па Княству ў ідэалогіі тайных таварыстваў і грамадскай думцы 30-х – 50-х гг. XIX ст.*** Пасля падаўлення паўстання пытанне аднаўлення ранейшай дзяржаўнасці ў яе «гістарычных межах» не

617 Письма капитана Васильева Александра с просьбой назначить его полицмейстером в Варшаву с приложением своих записок о Литве и Польше. Начато 20 мая 1832 г. // ДАРФ. Ф. 109. Сакрэтны архіў. Воп. 2. Спр. 208. Арк. 7, 10.

618 *Kiaupa Z.* Lietuvos valstybes istorija. Vilnius: Baltos lankos, 2006. P. 158.

страціла палітычнай актуальнасці ў жыцці Беларусі і Літвы. Тым больш яго зноў і зноў уздымалі эмісары эміграцкіх арганізацый – прыхільнікі адраджэння ВКЛ: выхаванец Віленскага ўніверсітэта М. Валовіч[619], Ш. Канарскі, які рыхтаваў новае паўстанне і стварыў канспіратыўную сетку яго будучых удзельнікаў. Вялікі ўплыў на актуалізацыю гэтага пытання аказалі рэвалюцыйныя падзеі 1848 г. у Заходняй Еўропе[620]. Да канца 1850-х гг. на ўрадавы ўзровень яно ва ўмовах палітыкі рэпрэсій і забаронных законаў не выносілася, а абмяркоўвалася, галоўным чынам, на ўзроўні нелегальных грамадскіх аб'яднанняў, якія ўзнікалі найперш у асяроддзі моладзі: «Дэмакратычнае таварыства» студэнтаў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі (1836–1839 гг.; заснавальнік – Ф. Савіч), «Братні саюз літоўскай моладзі» (Вільня, Ліда, Навагрудак, 1846–1849 г.; Ф. і А. Далеўскія), Саюз літоўскай моладзі ў Мінску (1847–1851) і інш.[621].

Паколькі ў польскім грамадстве трымалася паданне аб прапольскіх сімпатыях народаў былой Рэчы Паспалітай, то кіраўніцтва «Польскага дэмакратычнага таварыства» выступала за «маналітнае адзінства» Польшчы і нават не дапускала гаворкі аб нейкай аўтаноміі яе асобных тэрыторый[622]. Але ідэолагі грамадска-палітычнага руху Беларусі і Літвы, якія раней падтрымлівалі цэнтралісцкую ідэю адбудовы Польшчы «ад мора да мора» ў гістарычных межах, пераходзілі да ідэі федэрацыі славянскіх народаў, а гарантыяй іх свабоды і роўнасці лічылі рэспубліканскі лад. За гэта ратавалі Франц Савіч і іншыя члены «Дэмакратычнага таварыства», якому Ш. Канарскі адводзіў адну з галоўных роляў у рыхтаваным ім паўстанні; а таксама створаны братамі Далеўскімі «Братні саюз літоўскай моладзі». Ліцвінскі патрыятызм гэтых людзей яшчэ цалкам падпарадкоўваўся агульнадзяржаўнаму рэчпаспалітаўскаму патрыятызму, тым больш, што да праблем,

[619] *Sidorowicz-Czerniewska K.* Sprawa emisarjusza Michała Wołłowicza z r. 1833. Grodno, 1934. 113 s.

[620] *Fajnhauz D.* Ruch konspiracyjny na Litwie i Białorusi. 1846–1848. Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1965. 404 s.

[621] *Соколова М.* Общественные объединения и движения в Беларуси в конце XVIII – начале XX века: проблемы становления гражданского общества. Минск: 2002. С. 36.

[622] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 218–219.

якія выяўлялі вызваленчыя сілы Польшчы, жыхароў Беларусі прывязвалі польская мова і касцёл. Моцны польскі нацыянальна-вызваленчы рух, з якім салідарызаваліся беларусы, нейтралізоўваў з'яўленне беларускага сепаратызму, запавольваў нараджэнне іх нацыянальнай свядомасці.

Члены «Дэмакратычнага таварыства» давалі прысягу «перад Богам і Айчынай, імем Касцюшкі, Панятоўскіх і Сабескіх» прысвяціць сябе барацьбе за дабро і адзінства Айчыны[623]. Ф. Савіч, які ідэалізаваў мінулае Рэчы Паспалітай, імкнуўся да яе адраджэння, пісаў: «Мае думкі былі пра свабоду, пра Айчыну»[624]. Але пісаў ён ужо не толькі па-польску, але і па-беларуску. Адозву Ф. Савіча «Заўвагі аб маральнай вайне народа з дэспатызмам» польскі даследчык С. Камінскі назваў першай палітычнай пракламацыяй у гісторыі вызваленчага руху Беларусі[625]. Арышт у 1838 г. Ш. Канарскага і Ф. Савіча пазбавіў вызваленчы рух яго каардынатараў.

Створаны ў 1846 г. «Братні саюз літоўскай моладзі» таксама выступаў «за незалежнасць Польшчы, Літвы і Русі»[626]. Б. Ліманоўскі, які паходзіў з Віцебскай губерні, пра грамадскія настроі канца 1850-х гг. у Беларусі і Літве пісаў ва ўспамінах: «...нам, ліцвінам, г. зн. польскай моладзі з гістарычнай Літвы, думалася перадусім пра тое, каб Літва спалучыла свае рухі з рухамі Кангрэсовай Польшчы... Гэтыя нашы намаганні да аб'яднання Літвы з Польшчай, аднак, пазней памылкова ацэньваліся як дзяржаўніцкае, цэнтралістычнае імкненне на карысць выключна польскай нацыянальнасці. Мы сапраўды прагнулі вяртання Рэчы Паспалітай у яе даўніх межах, але паводле перакананняў мы былі федэралістычнымі рэспубліканцамі»[627]. Жаданне аднаўлення Рэчы Паспалітай у яе даўніх межах, такім чынам, спалучалася ў пакалення грамадскіх дзеячаў і мысліцеляў 30–50-х гг. з жаданнем забяспечыць у адроджанай дзяржаве раўнапраўе ўсіх народаў, што ўваходзілі ў яе склад, падтрымаць самабытнасць «літоўска-рускага народа» і вярнуць яму самастойны «палітычны быт».

[623] *Kamiński A.* Polskie związki młodzieży (1831–1848). Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1968. S. 170.

[624] Тамсама. S. 158.

[625] Тамсама. S. 166, 176.

[626] Тамсама. S. 184.

[627] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 219.

Ідэалогія вызваленчага руху ў Беларусі фарміравалася не толькі ў цеснай сувязі з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам, але зведала на сабе ўплыў рускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай ідэалогіі, асабліва моцны ва ўмовах рэвалюцыйнай сітуацыі ў Расіі. З закрыццём Віленскага ўніверсітэта таленавітая моладзь з зямель былога ВКЛ накіроўвалася за вышэйшай адукацыяй у расійскія ўніверсітэты, найперш, Маскву і Пецярбург, якія не змаглі выкараніць яе патрыятычныя пачуцці. Разам з ураджэнцамі Царства Польскага яна заснавала там студэнцкае таварыства «Ogół» («Разам») з адладжанай арганізацыяй з гуртаваннем па зямляцкаму прынцыпу і эфектыўнай сістэмай работы і ўзаемадапамогі. Фактычна таварыства з’яўлялася грамадска-палітычнай арганізацыяй. Студэнтаў, нягледзячы на рознае сацыяльнае паходжанне, матэрыяльнае становішча і палітычныя погляды, аб’ядноўвалі пачуццё страчанай Айчыны і клопат пра яе лёс. У таварыстве «панаваў моцны дух карпарацыі, заснаваны на народных пачатках з усімі сімптомамі адчужэння палітычнага характару»[628]. Пасля заканчэння ўніверсітэта на радзіму яны вярталіся, гатовыя ахвяраваць сабой дзеля яе вызвалення. Многія з іх пазней прынялі ўдзел у паўстанні 1863 г., яго падтрымалі або яму спачувалі.

Студэнцкае таварыства выхадцаў з зямель былой Рэчы Паспалітай у Маскоўскім універсітэце ў 1863 г. аб’ядноўвала да 600 чалавек, у Пецярбургскім – больш за 500[629]. На мяжы 50–60-х гг. у пецярбургскім зямляцтве выдзелілася кіруючае ядро: К. Каліноўскі, Э. Вярыга, І. Здановіч, Ф. Зянкевіч, Э. Юндзіл, І. Ямант, і дзейнасць студэнцкага «Огула» актывізавалася[630]. У поглядзе на спосаб вырашэння «польскага пытання», як паказаў пазней следству студэнт-вольнаслухач В. Гажыч, моладзь падзяляліся на тры нефармальныя партыі: «белыя», умераныя і «чырвоныя». «Белыя», галоўным чынам, заможныя студэнты, палітыкай цікавіліся мала – верагодна, улічвалі гістарычныя

[628] По показанию студента Гажича и других насчет учрежденных между студентами обществ из Русских, Немцев, Поляков и Малороссиян. 1863 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1863 г. Спр. 23. Ч. 313. Арк. 6.

[629] Тамсама. Арк. 3 адв., 9–10.

[630] *Соколова М.* Общественные объединения и движения в Беларуси в конце XVIII – начале XX века: проблемы становления гражданского общества. Минск: 2002. С. 37.

ўрокі 1794, 1812, 1831 гг., а рыхтаваліся паслужыць грамадству, стаўшы добрымі спецыялістамі: юрыстамі, эканамістамі, матэматыкамі. Найбольш шматлікая ў студэнцкім «Огуле» партыя «чырвоных» была прадстаўлена выхадцамі з заходніх губерняў, сынамі незаможнай шляхты і з'яўлялася найбольш радыкальным, бунтарскім элементам сярод моладзі. Яны сімпатызавалі ідэям рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў аб шляхах перабудовы грамадства і рабілі стаўку на «кулачную» рэвалюцыю, спалучаную з сацыяльным пераваротам[631]. Пазней у кіраўніцтве паўстаннем 1863 г. сустрэнуцца дзве партыі – «белых» і «чырвоных», чые палітычныя мэты, сацыяльныя праграмы і метады барацьбы фактычна не зменяцца ў параўнанні са студэнцкімі «партыямі» Пецярбургскага ўніверсітэта.

Вялікі ўплыў на фарміраванне патрыятычнай грамадскай думкі аказвала мастацкая літаратура і публіцыстыка 20–50-х гг. XIX ст. Большасць пісьменнікаў і паэтаў гэтага часу, якія паходзілі з беларуска-літоўскага краю з каталіцкай ліцвінскай шляхты (А. Міцкевіч, Я. Баршчэўскі, Я. Чачот, У. Сыракомля, А. Рыпінскі і інш.), былі выхаваны ў сям'і і школе ў рэчпаспалітаўскім патрыятычным духу і карысталіся беларуска-польскім двухмоўем. Для іх, па сцвярджэнню А. Смаленчука, галоўнай з'яўлялася «ідэя Польшчы як Айчыны ў шырокім сэнсе слова. Літва ўспрымалася як «малая Радзіма». Хоць ліцвінскі патрыятызм гэтых людзей «малым» ніяк не назавеш»[632].

Як адзначае польскі даследчык М. Галедэк, спадкаемцы ВКЛ мелі тры Бацькаўшчыны (і адпаведна тры ўзроўні свядомасці): малую – месца нараджэння, вялікую – гістарычную Літву і найвялікшую – Рэч Паспалітую[633]. ВКЛ, нават калі самой дзяржавы ўжо не было як рэальнасці, з'яўлялася для іх «нейкім станам духоўнага быцця»[634].

Лейтматывам твораў пакаленняў паэтаў, пачынаючы ад тых, што нарадзіліся ў ВКЛ, можна лічыць словы «Аплакваем страчаную Айчыну» з вершаванага прысвячэння М. К. Агінскаму,

---

[631] По показанию студента Гажича и других насчет учрежденных между студентами обществ из Русских, Немцев, Поляков и Малороссиян. 1863 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1863 г. Спр. 23. Ч. 313. Арк. 3–3 адв.

[632] *Смалянчук А.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. СПб.: Неўскі прасцяг, 2004. С. 52.

[633] Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. T. Bujnicki; K. Stępnik. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu M. Curie-Skłodowskiej, 2005. S. 136.

[634] Тамсама. S. 25.

напісанага ў 1824 г. у Фларэнцыі[635]. «Слаўнае гістарычнае мінулае земляў над Беразіною, Дняпром, Нарваю, Нёманам, Прыпяццю, пазбаўленых сваёй дзяржаўнасці..., сталася невычэрпанаю крыніцаю тэм і сюжэтаў для беларускіх (дакладней, беларуска-польскіх) пісьменнікаў XIX стагоддзя, ... – піша даследчык іх творчасці Я. Янушкевіч. – Паказваючы цяжар, які неслі на сваіх плячах продкі беларусаў, баронячы нацыянальную годнасць і дзяржаўную самастойнасць, пісьменнікі XIX ст. прамаўлялі да сваіх сучаснікаў словамі супакою і надзеі, што толькі ў змаганні, у супрацьдзеянні, у барацьбе можна адстаяць нацыянальныя святыні, сярод якіх найвышэйшая – незалежнасць, дзяржаўнасць»[636].

Сімвалам барацьбы за незалежнасць Айчыны стаў А. Міцкевіч, які спачатку на чале Таварыства філарэтаў, а потым у эміграцыі «ваяваў» словам, пяром і зброяй (фарміраваў легіёны), каб «Айчына ўваскрэсла». Айчынай для паэта была ў шырокім значэнні Рэч Паспалітая, або «Польшча», як федэрацыя ВКЛ і Польскага Каралеўства; Літва (гістарычная) – у значэнні «малая Радзіма»; а ў лакальным значэнні – наднёманская зямля, Наваградчына[637]. Месца дзеяння герояў міцкевічавых паэм – колішняе ВКЛ, гістарычная Літва, якой ён захапляўся і аб адраджэнні якой марыў, хоць ніколі не ўяўляў Літвы асобна ад Польшчы. Даследчыкі іранізуюць, што гэты «польскі нацыянальны бард» «крычаў аб сваім ліцвінізме» і не з’яўляўся ні ўраджэнцам Польшчы, ні палякам, а яго нага нават ніколі не ступала па вуліцах Варшавы ці Кракава. Іроніяй лёсу лічаць і тое, што як літоўскі нацыянальны паэт ён не ведаў літоўскай мовы[638].

Моцныя нацыянальна-патрыятычныя матывы прагучалі ў паэме А. Міцкевіча «Гражына» (1822 г.), якая паэтызавала

[635] Письма разных лиц к графу Михалу Огинскому, в алфавитном порядке расположенные // РДАСА. Ф. 12. Спр. 300. Ч.1–4. Арк. 569 адв.

[636] *Янушкевіч Я.* Гісторыя Вялікага княства Літоўскага ў творах беларускіх пісьменнікаў І-й паловы XIX ст. // Наш радавод: матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст., Гродна, 3–5 ліп. 1996 г. / адк. рэд. Д. Караў. Гродна: Заходне-беларускі гуманітарны цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы, 1996. Кн. 7. С. 257.

[637] *Швед В.* Барацьба Адама Міцкевіча за незалежнасць сваёй Айчыны // Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы). Навагрудак: «ПТаХа», 2010. С. 179–180.

[638] *Снайдэр Т.* Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569–1999; пер. з англ.; навук. рэд. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. С. 49.

самаахвярнасць у імя вызвалення Айчыны. Створаны ў паэме «Конрад Валенрод» (1828 г.) легендарна-гераічны вобраз рамантычнага і магутнага духам змагара за Айчыну сцвярджаў актуальнасць новага этапу вызваленчай барацьбы супраць царызму. Выданне гэтай паэмы ў Пецярбургу выклікала незадаволенасць у Зімовым палацы. «Вядома і ўжо неаднаразова заўважана было, – пісаў з гэтай нагоды сенатар М. Навасільцаў, – што польскія пісьменнікі ўсхваляюць дзеі продкаў, паўтараюць пра народную славу аб усялякіх подзвігах польскіх палкаводцаў і кіраўнікоў і тым імкнуцца жывіць польскі патрыятызм. Дакуль такое імкненне застаецца ў належных межах, яно не заключае ў сабе яшчэ нічога заганнага ... Але справа прымае іншы выгляд, калі хутка з такім патрыятызмам злучаюцца мары аб будучай незалежнай Польшчы і калі сачыненні польскіх пісьменнікаў схіляюцца да жыўлення ў душах сваіх сучаснікаў падобных думак, бо ў такім выпадку яны агідныя для вернападданніцкай адданасці, адбіраюць сэрцы іх ад сапраўднай Айчыны і прывязваюць іх да нейкай будучай *(Айчыны – С. М.),* якой яшчэ не існуе»[639]. Літаратура, якая сілкавала надзеі на ўваскрашэнне ВКЛ і Рэчы Паспалітай, праследавалася.

Калі ў першай палове 1820-х гг. А. Міцкевіч з аднадумцамі па тайнаму таварыству былі ўпэўнены ў абавязковым аднаўленні ВКЛ, якое адродзіць усю Рэч Паспалітую, то ў паэме «Пан Тадэвуш», якая стваралася ў 1832–1834 гг., адразу пасля паражэння паўстання, пасталелы рамантык гарманічна спалучыў чалавечы і нацыянальны смутак, што Рэч Паспалітую ўжо не аднавіць і сваёй роднай Літвы яму больш не ўбачыць. «Пан Тадэвуш» – гэта прасякнуты тугой па радзіме паэтычны шэдэўр з гаротнымі і красамоўнымі радкамі, прысвечанымі спачыламу ВКЛ:

«Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое:
Не цэнім, маючы, а страцім залатое –
Шкада…»

У час, калі яшчэ жыла памяць пра ўласную дзяржаўнасць, творы А. Міцкевіча мелі моцны грамадскі рэзананс, абуджалі горыч і сум па гістарычнай Літве.

Асэнсаваннем велічы і трагізму існавання ВКЛ і Рэчы

[639] Записка главного делегата при Правительствующем Совете Царства стацкого советника Новосильцева Н. Н. о необходимости запрещения поэмы Адама Мицкевича «Конрад Валенрод» // ДАРФ. Ф. 109. Сакрэтны архіў. Воп. 2. Спр. 35. Арк. 1 адв. – 2 адв.

Паспалітай паміж усходнімі і заходнімі імперыямі была прасякнута творчасць Уладзіслава Сыракомлі[640].

У першай палове – сярэдзіне XIX ст. «распальвала страсці, хвалявала розумы, абуджала надзеі на ўваскрашэнне Польшчы» нелегальная патрыятычная літаратура, якая асабліва расцвіла пасля 1830 г.641. Пакаленне П. Багрыма і В. Дуніна-Марцінкевіча ўзгадоўвалася на запаветах, сфармуляваных у ананімным «Кароткім катэхізісе для ліцвінаў», які ў мностве рукапісаў «хадзіў па руках» па тэрыторыі былога ВКЛ. Гэты кодэкс грамадзянскасці, пабудаваны ў выглядзе пытанняў і адказаў, утрымліваў наступныя пастулаты: «Ці ты Ліцвін? – …Ёсць ім з Божай ласкі. – Хто ж такі Ліцвін? – Той, хто вызнае вольнасць і Права Статута. – Па чым пазнаць праўдзівага Ліцвіна? – Па знаку чыстага патрыятызму»642.

Мясцовая інтэлігенцыя шляхецкага паходжання, палітычнае мысленне якой вярэдзілі думкі аб аднаўленні трагічна страчанай дзяржаўнасці, аказалася вельмі ўспрымальнай да гістарычнай навукі. Першыя гістарычныя музеі ў Лагойску і Вільні, дзейнасць Віленскай археалагічнай камісіі (1855–1865), багацейшая калекцыя гістарычных крыніц па гісторыі ВКЛ XV–XVI ст., сабраная І. Анацэвічам[643], шматтомная «Гісторыя літоўскага народа» (1835–1841) Т. Нарбута – усё гэта фарміравала ўсведамленне вартасці свайго

[640] *Янушкевіч Я.* Гісторыя Вялікага княства Літоўскага ў творах беларускіх пісьменнікаў І-й паловы XIX ст. // Наш радавод: матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст., Гродна, 3–5 ліп. 1996 г. / адк. рэд. Д. Караў. Гродна: Заходне-беларускі гуманітарны цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы, 1996. Кн. 7. С. 257.

[641] Записка неизвестного литовца об истории, составе населения, религии и политическом состоянии Северо-Западного края и мерах для достижения «благоустройства» и спокойствия в нем при отношении Куцынского. 7 июня 1866 г. // ДАРФ. Ф. 109. Сакрэтны архіў. Воп. 2. Спр. 713. Арк. 7 адв.

[642] *Янушкевіч Я.* Гісторыя Вялікага княства Літоўскага ў творах беларускіх пісьменнікаў І-й паловы XIX ст. // Наш радавод: матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст., Гродна, 3–5 ліп. 1996 г. / адк. рэд. Д. Караў. Гродна: Заходне-беларускі гуманітарны цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы, 1996. Кн. 7. С. 257–258.

[643] *Марозаў С.* Ігнат Анацэвіч: старонкі біяграфіі // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2004. № 22. S. 275–305; *Марозаў С. П.* Маральна-палітычныя пошукі студэнтаў Віленскага універсітэта і судовая справа прафесара Ігната Анацэвіча // Заходні рэгіён Беларусі вачыма гісторыкаў і краязнаўцаў: зб. навук. артыкулаў / ГрДУ; рэдкал.: І. П. Крэнь, У. І. Навіцкі, В. А. Белазаровіч (адк. рэдактары) [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2006. С. 367–371; *Габрусевіч С. А., Марозава С. В.* Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына. Гродна: ГрДУ, 2005. С. 107–118.

мінулага, а разам з тым – разуменне значнасці панесеных страт і задумы вярнуць забранае. Інтэлігенцыя ўсведамляла сябе пераемніцай вялікай гістарычнай спадчыны. Пры гэтым не абышлося без ідэалізацыі гісторыі ВКЛ.

Сярод тых, хто цікавіўся гісторыяй Беларусі і Літвы, у 40–50-х гг. было папулярным імя Т. Нарбута, аўтара першай працы па гісторыі ВКЛ, адасобленай ад гісторыі Польшчы. П. Бяссонаў бачыў у Т. Нарбуце ініцыятара даследаванняў, накіраваных на адпор польскай выключнасці, на высвятленне самастойнасці Літвы. Такі «літоўскі сепаратызм» не маглі даравацъ яму польскія гісторыкі[644].

Гісторыя ВКЛ і Рэчы Паспалітай набыла ў тых умовах надзвычайную палітычную актуальнасць. Вывучэнне і прапаганда «славы продкаў» стала тады і свайго роду модай, і доўгам перад айчынай[645]. Выхаванне гісторыяй набыло асаблівае значэнне ў фарміраванні грамадзянскіх якасцяў моладзі.

У жывучасці патрыятычных настрояў капітан корпуса жандараў А. Васільеў у 1832 г. вінаваціў школьных настаўнікаў, якія моладзі «расказвалі пра Баторыя, Жыгімонта, Каралеву Літвы Ядвігу», а гісторыю Расіі выкладалі, «пакалечанай каментарамі ... з варожых запісак польскіх гісторыкаў»[646]. Віцебскі губернатар у 1849 г. паведамляў, што мясцовыя настаўнікі геаграфіі і гісторыі распальваюць «страсці народныя» пры выкладанні сваіх прадметаў[647].

Камітэт заходніх губерняў супрацьпаставіў такому падыходу сваё патрабаванне: «зацвердзіць у ... юнацтве прыхільнасць да прастолу і айчыны і засцерагчы ад шкодных уражанняў у тлумачэнні падзей і пераваротаў, звязаных з

---

[644] *Марозаў С. П.* Тэадор Нарбут – гісторык // З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны: матэрыялы навук. гіст.-краязн. канф., Радунь, 11 снеж. 2004 г. / рэдкал. Д. С. Аляшкевіч (гал.рэд.) [і інш.]. Ліда, 2006. С. 154, 157.

[645] *Марозаў С.* Механізм фарміравання гістарычнай свядомасці беларусаў праз расійскую сістэму адукацыі ў XIX ст. // Молодежь в науке – 2006: сб. тр. междунар. науч. конф. молодых ученых, Минск, 16–19 окт. 2006 г.: в 2 ч. Ч. 1. Минск: Бел. наука, 2007. Ч. 1. С. 288.

[646] Письма капитана Васильева Александра с просьбой назначить его полицмейстером в Варшаву с приложением своих записок о Литве и Польше. Начато 20 мая 1832 г. // ДАРФ. Ф. 109. Сакрэтны архіў. Воп. 2. Спр. 208. Арк. 41 адв.

[647] О неприязненных действиях помещиков Витебской губернии в отношении православия. 1849 г. // НГАБ. Ф. 3157. Воп. 1. Спр. 554. Арк. 10.

гісторыяй Польшчы ці непасрэдна ўплываўшых на яе лёс»[648]. Пераарыентацыя гістарычнай свядомасці беларускай моладзі на іншыя дзяржаўна-палітычныя каштоўнасці паступова давала вынікі. Маёр Ламачэўскі ў аглядзе «палітычнага стану» Мінскай губерні за 1840 г. паведамляў, што на школьных экзаменах у навучальных установах, «пераносячыся ў думках да найбольш цікавых падзей айчыннай гісторыі апошніх чатырох стагоддзяў, цесна звязаных са здарэннямі Літвы і Польшчы, вучань, як бы па звычцы, уяўляе сябе на баку рускіх». Аднак у Слуцкую гімназію аддаваць вучыцца сваіх дзяцей «больш Мінскай *(гімназіі – С. М.)* падабаецца тым палякам, якія трызняць яшчэ жаласнай сваёй незалежнасцю»[649].

Вынікам такіх установак у выкладанні гісторыі, якія з 30-х гг. XIX ст. рэалізоўваліся ў навучальных установах заходніх губерняў, з'явілася адчужэнне беларусаў ад іх уласнай гісторыі, дэфарміраванае ўсведамленне народам свайго месца і ролі ў гісторыі, слабое разуменне сваёй гістарычнай спецыфікі. Школа навязвала беларусам комплекс негістарычнай нацыі, пазбаўленай традыцый уласнай дзяржаўнасці, вяла да адмовы ад дзяржаўна-гістарычнай спадчыны ВКЛ як уласнай. Гэта вызначыла, побач з іншымі фактарамі, цяжкі і марудны шлях фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларусаў да свайго дзяржаўнага самавызначэння[650].

Сярод фактараў, якія жывілі сепаратысцкія настроі ў Беларусі і Літве, пільныя жандары адзначалі нават тэрміналогію: самую назву «Літва»; выраз «забраны край Літоўскі», як называюць яго мясцовыя жыхары; укаранёнае ў іх свядомасць атаясамленне Літвы з Польшчай; урэшце, злучаныя гербы Літвы і Польшчы на Вострай браме ў Вільні, якія нагадваюць пра іх «былое адзінства»[651].

**Такім чынам,** захаваныя атрыбуты ВКЛ (сама назва

---

[648] Дело о духе народности в Западных губерниях. Июль – ноябрь 1837 г. // ДГАЛ. Ф. 378, п/а, 1837 г. Спр. 69. Арк. 48.

[649] Белоруссия в эпоху феодализма: Сборник документов и материалов: в 4 т. Т. 4: Социально-политическая история и культура Белоруссии первой половины XIX в. Отечественная война 1812 г. Минск: Наука и техника, 1979. С. 303–304.

[650] *Марозаў С.* Механізм фарміравання гістарычнай свядомасці беларусаў праз расійскую сістэму адукацыі ў XIX ст. // Молодежь в науке – 2006: сб. тр. междунар. науч. конф. молодых ученых, Минск, 16–19 окт. 2006 г.: в 2 ч. Ч. 1. Минск: Бел. наука, 2007. С. 291.

[651] Письма капитана Васильева Александра с просьбой назначить его полицмейстером в Варшаву с приложением своих записок о Литве и Польше. Начато 20 мая 1832 г. // ДАРФ. Ф. 109. Сакрэтны архіў. Воп. 2. Спр. 208. Арк. 8.

«Літва», сімволіка); сацыякультурная траўма, выкліканая знішчэннем Віленскага ўніверсітэта, царкоўнай уніі, Статута ВКЛ; спосаб навучання ў школе; новая сацыяльная праслойка людзей, «разборам шляхты» апушчаная на ніз сацыяльнай лесвіцы, з'явіліся фактарамі грамадска-палітычнага жыцця, якія падтрымлівалі сепаратысцкія настроі адносна імперыі. Ідэалогія вызваленчага руху ў Беларусі ў 30–50-я гг. XIX ст. фарміравалася ў цеснай сувязі з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам, які абсалютызаваў прапольскія сімпатыі народаў былой Рэчы Паспалітай, і зведала ўплыў рускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай ідэалогіі. Пытанне аб аднаўленні дзяржаўнасці ВКЛ і Рэчы Паспалітай абмяркоўвалася ў тайных і напаўлегальных арганізацыях, створаных на радзіме і ў расійскіх універсітэцкіх сталіцах выхадцамі з гістарычнай Літвы. Іх ліцвінскі патрыятызм яшчэ цалкам падпарадкоўваўся агульнадзяржаўнаму рэчпаспалітаўскаму патрыятызму, але ад ідэі дзяржаўнага цэнтралізму будучай адноўленай Рэчы Паспалітай «на карысць выключна польскай нацыянальнасці» яны ўжо пераходзілі да ідэі федэрацыі, рэспублікі, свабоды і роўнасці народаў. Грамадскую думку фарміравала таксама беларуская польскамоўная літаратура, у якой існавала моцная плынь, што рамантызавала вобраз ВКЛ, звала паўстаць за яго «з касой ды сякерай», і распаўсюджваная нелегальна публіцыстыка, якія карысталіся попытам. Зразумець памеры і значнасць страт, нанесеных знішчэннем ВКЛ, дапамагала гістарычная навука. Яна вярэдзіла палітычнае мысленне інтэлігенцыі і грамадства першымі сістэматычнымі даследаваннямі мінулага трагічна страчанай дзяржаўнасці і яго артэфактамі.

## 3. Ідэя «ўваскрашэння Літвы» напярэдадні і ў паўстанні 1863–1864 гг.

***Узмацненне ў 1861–1862 гг. незалежніцкіх настрояў і мараў аб юрыдычнай адасобленасці ў асяроддзі шляхты Беларусі.*** Лібералізацыя Аляксандрам II унутранай палітыкі, амністыя і вяртанне на радзіму ўдзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. разам з абмеркаваннем сялянскага пытання і спадзяваннямі на грунтоўныя змены ў дзяржаўным ладзе і грамадстве абумовілі нарастанне з 1861 г. на беларускіх землях новай хвалі вызваленчага руху, звязанага з агульным грамадска-палітычным уздымам народаў былой Рэчы Паспалітай. Зноў загучалі адозвы ўзняцца са зброяй у руках за незалежнасць «Літвы і Русі».

Вясной 1861 г. некаторыя прадвадзіцелі дваранства атрымалі па пошце вершаваную «Адозву сына Айчыны да братоў ліцвінаў» з заклікам ліцвінам абудзіцца ад летаргіі і ўзняцца на барацьбу, бо час уваскрашэння Айчыны прабіў. Тайная паліцыя высветліла, што адозву склаў памешчык Мінскай губерні Вінцэнт Марцінкевіч, які, «вылучаецца духам польскага патрыятызму, … распаўсюджвае … напісаны ім на народнай мове верш «Гутарка старога дзеда», дзе ў самым нявыгадным для Расіі святле распавядаецца гісторыя Літвы з 1792 г. да цяперашняга часу, а таксама перавёў на народную мову вядомы польскі патрыятычны гімн»[652].

Назапашаная гадамі крыўда ад знішчэння рэштак дзяржавы: Статута, універсітэта і ўніі, абурэнне злоўжываннямі мясцовых уладаў выйшлі наверх. «Жанчыны, просты народ і юнацтва не могуць прымірыцца з цяперашнім, шкадуюць мінулага і спадзяюцца на будучыню», – пісаў у верасні 1861 г. у міністэрства ўнутраных спраў прадвадзіцель дваранства Мінскай губерні[653].

У вучня Віцебскай гімназіі Зелянко ў лістападзе паліцыя знайшла «паперы абуральнага зместу»: адозву да «землеўладальнікаў Літвы і Русі», зварот да «ліцвінак і русінак», а таксама заклік да духавенства Літвы, Жмудзі

[652] О помещике Марцинкевиче, рассылавшем в Западные губернии возмутительные воззвания к литовцам. 13 апреля 1861 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 г. Спр. 106. Арк. 5–6.

[653] О политических беспорядках в Западных губерниях. Ч. 5-я. В Минской губернии // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 г. Спр. 303. Ч. 1. Арк. 23.

і Русі падрыхтаваць народ да барацьбы за аднаўленне Айчыны[654]. Можна дапусціць, што гімназіст меў дачыненне да распаўсюджвання гэтых рэвалюцыйных матэрыялаў.

Адна з адозваў не выпадкова адрасавалася землеўладальнікам. Разуменне грамадствам усёй глыбіні крызісных з'яў, выкліканых паражэннем Расіі ў Крымскай вайне 1853–1856 гг., распачатыя Аляксандрам II сацыяльныя рэформы стварылі новую гістарычную сітуацыю. З канца 50-х гг. ва ўсёй імперыі разам з абмеркаваннем будучай зямельнай рэформы пачалося адраджэнне легальных форм грамадскага жыцця; фарміраванне лібералізму ў Расіі, арыентаванага на заходнееўрапейскія ідэі канстытуцыяналізму і парламентарызму. Адраджаецца ліберальная думка ў Беларусі[655].

Абмяркоўваючы сялянскае пытанне, лібералы Беларусі і Літвы паспрабавалі прыцягнуць ўвагу новага імператара да асаблівасцей і патрэбаў свайго краю. Паступова яны прыйшлі да ідэі яго адміністрацыйнай і нацыянальна-культурнай аўтаноміі ў складзе Расійскай імперыі і дамагчыся сваіх ідэалаў спадзяваліся з дапамогай рэформ. Лібералы і склалі «белае» крыло апазіцыйнага царызму руху[656], якое сабрала землеўласнікаў, інтэлігенцыю шляхецкага паходжання, служачых, прадстаўнікоў каталіцкага духавенства, мяшчанства. «Розумы нашых палякаў усхваляваныя..., – паведамлялася ў Трэцяе аддзяленне пра настроі ў Заходнім краі. – Непрыхільнасць іх да ўраду ўзрастае, у коле сваіх, не саромеючыся, выказваюць свае ідэі, іншыя хочуць нейкія правы, іншыя трызняць аднаўленнем старой Польшчы...»[657]. Міністр Д. А. Мілюцін слушна заўважыў сувязь паміж рознагалоссямі вакол рэформы лібералаў і крапаснікоў з патрабаваннем аўтаноміі Літвы – мясцовыя памешчыкі лічылі, што калі б адбылося яе жаданае ўз'яднанне з Польшчай, то сялянскае пытанне набыло зусім іншы абарот[658].

«Белыя» дзейнічалі асцярожна, бо не бачылі шанцаў на

[654] О бумагах возмутительного содержания, найденных у ученика Витебской гимназии Зеленко. Начато 20 ноября 1861 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 г. Спр. 497. 35 арк.

[655] *Шалькевіч В. Ф.* Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. Мінск: Грамадскае аб'яднанне «Маладзежнае навуковае супрацоўніцтва», 2002. С. 170.

[656] Тамсама. С. 207, 209.

[657] О политических беспорядках в Западных губерниях. Ч. 5-я. В Минской губернии // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 г. Спр. 303. Ч. 1. Арк. 2–2 адв.

[658] *Смирнов А. Ф.* Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии. М.: АН СССР, 1963. С. 76.

перамогу ўзброенага паўстання без замежнай дапамогі. Яны разлічвалі шляхам «арганічнай працы» і супрацоўніцтва з урадам здабыць культурныя, адукацыйныя і палітычныя канцэсіі для сябе і свайго краю.

Спадзяванні шляхы і інтэлігенцыі атрымаць самакіраванне з рук Аляксандра II ўвасобіліся ў адрас на яго імя ад 50 памешчыкаў Магілёўскай губерні. 10 кастрычніка 1861 г. на сваім сходзе яны выпрацавалі зварот да імператара з просьбай далучыць Магілёўскую губерню ў адміністрацыйных адносінах да Літвы, з якой яна «была спакон вякоў злучана»; вярнуць старажытныя правы, замацаваныя ў Статуце ВКЛ, публічны галосны суд, Віленскі ўніверсітэт; дазволіць сялянам вярнуцца ва ўніяцкую веру. Складальнікі адраса апелявалі да замацаваных у трактаце 1773 г. абяцанняў Кацярыны II «не мяняць правоў і пастаноў народных для грамадскага дабра Беларусі», спасылаліся на заяву Аляксандра I на Венскім кангрэсе злучыць усе вобласці, далучаныя ад Польшчы, у адзінае цэлае і ўвесці ў іх народнае прадстаўнічае праўленне. Вартае ўвагі, што прадвадзіцель шляхты Рагачоўскага павета Я. Богуш, які ўзяў на сябе смеласць данесці да ведама імператара яе мару аб аўтаноміі злучаных у адзіны дзяржаўны арганізм беларуска-літоўскіх зямель з народна-прадстаўнічым праўленнем, «не падзяляў ... памкненняў *(мясцовых – С. М.)* палякаў» аб зліцці з Польшчай[659].

22 кастрычніка 1861 г. па загаду з Пецярбурга кіраўніка і ідэйнага лідара рагачоўскай шляхты арыштавалі, «палітычны адрас злачыннага зместу» ў яго адабралі, а самога аддалі пад суд Сената. І як у здзейсненым ён не раскаяўся, упяклі ў Петрапаўлаўскую крэпасць[660].

Расправа з маршалкам з Белай Русі не спыніла шляхту. У 1862 г. падача адрасоў пачасцілася. У верасні да імператара звярнулася ўкраінская шляхта з хадайніцтвам аб далучэнні Падольскай губерні да Каралеўства Польскага. Урадавым адказам ёй быў арышт губернскага і павятовых маршалкаў. 29 лістапада мінская шляхта на дваранскіх выбарах аднадушна вырашыла хадайнічаць перад імператарам аб далучэнні сваёй губерні да Каралеўства Польскага. Як пісаў К. Каліноўскі ў сваёй «Тлумачальнай запісцы» следству 28 лютага 1864 г.,

---

[659] О Рогачевском уездном предводителе дворянства полковнике Богуше. Начато 24 октября 1861 г. // ДАРФ. Ф. 109. I экспедыцыя. 1861 г. Спр. 394. Арк. 1–58.

[660] *Смирнов А. Ф.* Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии. М.: АН СССР, 1963. С. 78.

гэтыя «нявінныя заявы» выклікалі перапалох у Пецярбургу, які прызнаў іх «бунтоўнымі», а рашэнне шляхты – дзёрзкім і незаконным. Міністр унутраных спраў і мінскі губернатар забаранілі падачу цару адраса[661]. План падачы адрасоў не ўдаўся: урад, будучы апавешчаны, прыняў меры – забараніў іх[662].

Патрыятычныя настроі шырыліся. У 1862 г. «газеты пачалі гаварыць аб старажытнай Польшчы ў межах 1772 г., распаўсюдзіліся чуткі, што Віленская губерня будзе аддзелена ад Расіі»[663]. Адзін з агентаў Трэцяга аддзялення адзначаў, што «палякі … у Заходнім нашым краі захоўвалі пастаянна надзею на адлучэнне гэтага краю ад Расіі», якую «пры ўсякім хваляванні ў Царстве Польскім спрабавалі ажыццявіць». Папярэдзіць новае паўстанне ў заходніх губернях ён прапаноўваў забаронай на «думку»: «Усялякая думка аб якімсьці раз'яднанні ... павінна ўважацца дзяржаўнай здрадай і ўсякае выяўленне гэтай думкі павінна быць пераследавана як дзяржаўнае злачынства»[664].

Датаваная снежнем 1862 г. запіска «Пытанне польскае» афіцэра Генеральнага штаба З. Серакоўскага, прызначанага ў гэтым жа месяцы ваенным начальнікам паўстання ў Літве і Беларусі, адрасавалася ваеннаму міністру Д. А. Мілюціну. У ёй былі выкладзены палітычныя патрабаванні: забяспечыць народам краю права гаварыць на сваіх мовах, весці навучанне на мовах вучняў, мясцовым чыноўнікам валодаць мовамі насельніцтва; жыхарам краю даць свабоду належаць усходняму ці заходняму хрысціянству і праводзіць урадавую палітыку спрыяння абедзвюм рэлігіям. Ураджэнцам заходніх губерняў трэба без абмежаванняў даць права займаць па сваіх здольнасцях адміністрацыйныя, судовыя і вучоныя пасады ў сваім краі. Справы, якія датычаць выключна краю, павінны вырашацца на месцы: «цэнтральны ўрад указвае, чаго не

---

661 *Каліноўскі К.* За нашу вольнасць. Творы, дакументы; уклад, прадм., пасляясл., камент. Г. Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 51, 141, 308.

662 *Смирнов А. Ф.* Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии. М.: АН СССР, 1963. С. 78–79.

663 Дело временого полевого аудиториата Виленского военного округа. Переписка по Виленской организации. Начато 14 декабря 1863 г. // ДГАЛ. Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 468. Ч. I. Арк. 97.

664 Записка неизвестного литовца «Как выйти из ненормального положения в западных губерниях и способах ликвидации в них латино-польского элемента». 12 октября 1865 г. // ДАРФ. Ф. 109. Сакрэтны архіў. Воп. 2. Спр. 707. Арк. 1–2.

рабіць і мінімум таго, што неабходна зрабіць», даючы мясцовай уладзе поўную прастору дзейнасці[665] (дадатак 15).

З аднаго боку, урад імкнуўся абмежаваць уплыў беларуска-літоўскага дваранства, з другога, вымушаныя з ім лічыцца царскія саноўнікі давалі ўхілістыя адказы на яго хадайніцтвы аб прадстаўленні краю нацыянальна-культурнай аўтаноміі. Таму лідары дваранскай апазіцыі – маршалкі гродзенскі Віктар Старжынскі (Стажэнскі), мінскі Аляксандр Лапа і віленскі Аляксандр Дамейка, а таксама епіскап Адам Красінскі – не гублялі надзеі дамовіцца з урадам і працягвалі пошукі пагаднення з царызмам аж да паўстання[666].

Начальнік IV акругі корпуса жандараў А. Гільдэбрант у запісцы з Вільні ад 1 снежня 1861 г. паведамляў шэфу жандараў і начальніку Трэцяга аддзялення В. Далгарукаву аб пазіцыі паважаных людзей краю, якія лічылі, што «далучэнне Літвы да Польшчы – не што іншае, як хімера, якая з'явілася ў галовах неспакойнай і бяздомнай меншасці, да якой далучылася і безразважная моладзь, не ўтаймоўваемая суайчыннікамі, якія маюць неаспрэчны аўтарытэт у краі»[667]. 24 снежня 1862 г. свайго начальніка А. Гільдэбрант інфармаваў пра плыні ў вызваленчым руху ў Літве і Беларусі, пісаў пра «так званую ўмераную партыю, да якой належыць амаль усё адукаванае, заможнае дваранства Заходняга краю і лепшая частка каталіцкага духавенства»: «Перад урадам яна называе сябе кансерватыўнай і прыкідваецца, быццам не мае ніякай надзеі на злучэнне Заходняга краю з Польшчай, ... а хадайнічае пакорліва аб польскай мове ў школах і судах, аб універсітэце ў Вільні і аб Літоўскім статуце, як аб неабходных патрэбах для дабра ўсяго краю. Але гэтыя з выгляду ўмераныя жаданні хаваюць смела абдуманы вераломны намер. У апошні час у асаблівасці партыя ўмераных ... выяўляе ўзмоцненую дзейнасць частымі з'ездамі ў розных месцах Літвы для нарадаў і для збору на патрыятычныя патрэбы грошай»[668].

Да ліку «самых энергічных і дзейсных членаў гэтай партыі»

---

[665] Русско-польские революционные связи. М.: Изд-во АН СССР, 1963. Т. I. С. 237–238.

[666] *Смирнов А. Ф.* Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии. М.: АН СССР, 1963. С. 83.

[667] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Материалы и документы / гл. ред.: С. Кеневич и др. М.: Наука, 1965. С. 78.

[668] Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: Документы и материалы. М. : Наука, 1964. С. 148.

А. Гільдэбрант аднёс В. Старжынскага, які спалучаў «з нястомнай дзейнасцю хітры розум і гарачы патрыятызм»[669].

***Гродзенскі маршалак В. Старжынскі – аўтар праекта «ўваскрашэння Літвы».*** Выразнікам інтарэсаў палітычна актыўнай шляхы і інтэлігенцыі Беларусі і Літвы, якая жадала дамагчыся ад царскага ўраду адміністрацыйнай і культурнай аўтаноміі свайго краю ў складзе Расійскай імперыі, у пачатку 1860-х гг. стаў прадвадзіцель дваранства (маршалак шляхты) Гродзенскай губерні (1861–1863), яе ўраджэнец граф Віктар Старжынскі (Стажэнскі) (1826–1882). Ён выступіў у ролі хадатая за інтарэсы краю перад урадавым Пецярбургам. Пасада губернскага прадвадзіцеля дваранства давала яму доступ да вышэйшых расійскіх кіруючых элітаў. Ён пазбягаў з імі канфліктаў, хоць і крытыкаваў палітыку расійскай адміністрацыі ў заходніх губернях.

Чалавек высокаадукаваны, аўтарытэтны і ўплывовы, В. Старжынскі карыстаўся ў краі вялікім аўтарытэтам, добра ведаў яго патрэбы і задаваў тон усяму дваранству. Ён знайшоў таксама разуменне і сімпатыі вышэйшых урадавых сфераў у Пецярбургу[670].

На працягу 1861–1862 гг. В. Старжынскі распрацаваў праекты рэформ, якія прадугледжвалі стварэнне мясцовай адміністрацыі з ураджэнцаў беларуска-літоўскіх губерняў і іх уключэнне ў склад Заходняга камітэта, аднаўленне Віленскага ўніверсітэта, вяртанне ў прававое поле Статута ВКЛ, стварэнне ў краі навуковага, гаспадарчага і крэдытнага таварystваў, забеспячэнне свабоды верывызнанняў і інш., і сваімі праектамі «ўваскрашэння Літвы» стаў азадачваць Пецярбург.

Адбыліся непасрэдныя сустрэчы-перамовы гродзенскага лiберала з кіраўнікамі тагачаснай расійскай палітыкі: міністрам унутраных спраў П. Валуевым, ваенным міністрам Д. Мілюціным, якіх ён асабіста ведаў, а таксама з начальнікам Трэцяга аддзялення і шэфам корпуса жандараў В. Далгарукавым, нават з імператарам Аляксандрам II, якога граф намагаўся «ўсялякімі спосабамі пераканаць, што хваляванні ў Заходнім краі можна супакоіць толькі мяккасцю,

[669] Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: Документы и материалы. М. : Наука, 1964. С. 148.

[670] Дело Временного полевого аудиториата Виленского военного округа о помещике графе Викторе Старжинском. 27 июня –… ноября 1863 г. // ДГАЛ. Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 166.

ласкавасцю і вяртаннем межаў 1772 г.»[671]. Адначасова В. Старжынскі падтрымліваў кантакты з паўстанцкімі арганізацымі – Цэнтральным нацыянальным камітэтам ў Варшаве, лагерам Адама Чартарыйскага ў Парыжы і напярэдадні паўстання 1863 г. стаў адным з лідараў партыі «белых» у Беларусі і Літве.

Разумны і цвярозы палітык, гродзенскі губернскі прадвадзіцель разумеў наяўнасць розных плыняў у стаўленні афіцыйнага Пецярбурга да беларуска-літоўскага краю і спадзяваўся, што той урэшце пойдзе насустрач яго інтарэсам. Прапанаваныя ім ураду праекты аўтаноміі выпрацоўваліся на працягу 1862 г. на з'ездах прадстаўнікоў беларуска-літоўскага дваранства ў губернях і паветах краю, на агульных з'ездах у Вільні. Пры гэтым В. Старжынскі не падзяляў усеагульнага «жадання адміністрацыйнага далучэння Літвы да Царства Польскага» і пастаянна дзейнічаў «па правінцыйнаму кірунку»[672].

У жаданні прыцягнуць на свой бок мясцовую шляхту і захаваць памяркоўныя арыстакратычныя колы Беларусі і Літвы «ў стане чакання» саступак з боку ўраду царскія саноўнікі давалі ўхілістыя адказы на хадайніцтвы В. Старжынскага, бо бачылі ў дамаганнях аўтаноміі для Беларусі і Літвы намер аслаблення і расчлянення імперыі. Але пасля таго, як у канцы 1862 г. прадстаўнік міністэрства асветы Магілянскі заявіў шляхце, сабранай ў Навагрудку, што пра аднаўленне Віленскага ўніверсітэта не можа быць і размовы, стала відавочна, што канцэпцыя паразумення з урадам прайграла[673]. Мясцовае дваранства, зразумеўшы, што ўрад не дасць яму свабоды дзеянняў, з пачаткам паўстання перайшло ад супрацоўніцтва з царызмам да адкрытай апазіцыі яму.

В. Старжынскі ў лютым 1863 г., калі ўпэўніўся, што яго двухгадовыя намаганні дарэмныя, накіраваў імператару і міністру ўнутраных справаў дзёрзкія лісты з асуджэннем іх палітыкі ў беларуска-літоўскім краі і ў знак пратэсту падаў прашэнне аб адстаўцы. Зрабіць такі ж крок ён заклікаў

[671] *Murawiow (Wieszatel) M.* Wspomnienia / Opracowanie, przekład i wstęp Z. Podgórzec. Warszawa: Wydawnictwo „ZEBRA», 1990. S. 33.

[672] Дело Временного полевого аудиториата Виленского военного округа о помещике графе Викторе Старжинском. 27 июня –… ноября 1863 г. // ДГАЛ. Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 9 адв.

[673] *Fajnhauz D.* Śladami Wielopolskiego, Wiktor Starzeński i jego projekty ugody polsko-rosyjskiej na Litwie i Białorusi (1861–1863) // Przegląd Historyczny. 1994. Z. 3. S. 250.

усіх дваранскіх прадвадзіцеляў, і тыя паследавалі яго прыкладу. Адозва В. Старжынскага і калектыўная адстаўка прадвадзіцеляў паралізавалі, хоць і на кароткі тэрмін, дзейнасць расійскай адміністрацыі ў заходніх губернях і выклікалі шок ва ўрадзе, а таксама атрымалі міжнародны рэзананс[674].

Негатыўнае стаўленне да паўстання, дзейнасць у межах заканадаўства і лаяльнасць да царскага ўраду не выратавалі В. Старжынскага ад жорсткага пакарання. Арыштаваны ў канцы мая за арганізацыю «бунту ўраднікаў краю», ён стаў адной з першых ахвяр рэпрэсіўнай палітыкі Мураўёва-вешальніка. На следстве мяцежнаму маршалку прыйшлося трымаць адказ, як пасмеў ён сцвярджаць аб «затрыманні ўнутранага развіцця Літвы» расійскім урадам; гаварыць у звароце да павятовых правадыроў дваранства «аб гістарычных паданнях краіны ў такі час, калі гэтая ідэя ўваходзіць у планы падбухторшчыкаў супраць Расіі»[675].

Граф вымушаны быў прызнаць, што «ў сваёй самаўпэўненасці...памыляўся», калі спадзяваўся «выклапатаць ва ўраду інстытуцыі і рэформы для краіны»[676]. Але што да папроку аб «затрыманні ўнутранага развіцця Літвы», кінутага расійскім уладам, настойваў на сваім: «Краіна, якая мела свае ўстановы мясцовыя, навучальныя і судовыя, адны – якія даюць бліскучы плён, … іншыя, якія ўвайшлі ў норавы, такая краіна, калі ёй гэтыя ўстановы адабраныя, … не можа не глядзець на сябе як стрыманую на шляху развіцця». Так, закрыццём універсітэта затрымалі яе «на шляху развіцця разумовага»[677].

В. Старжынскаму інкрымінавалі, што «прыняў на сябе пратэктарства ўсёй Літвы, тады як ён быў правадыром толькі Гродзенскай губерні» і «не абавязаны быў па службе клапаціцца пра цэлую Літву»[678]. Фактычна яго абвінавацілі ў кіраўніцтве першай фазай паўстання ў Беларусі і Літве[679]. Мяцежнага маршалка аднеслі да другой катэгорыі

[674] Дело Временного полевого аудиториата Виленского военного округа о помещике графе Викторе Старжинском. 27 июня –… ноября 1863 г. // ДГАЛ. Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 78 адв.

[675] Тамсама. Арк. 13 адв., 16 адв.

[676] Тамсама. Арк. 38–38 адв.

[677] Тамсама. Арк. 16 адв.

[678] Тамсама. Арк. 10, 12 адв.

[679] Тамсама. Арк. 22, 26, 27.

палітычных злачынцаў[680]. Спачатку размова ішла нават аб яго растрэле. Вырак ваеннага суда – шасцігадовая сібірская катарга – М. Мураўёў змякчыў, прымаючы пад увагу сувязь графа з пецярбургскім дваром, шырокі розгалас яго судова-следчай справы, заступніцтва Напалеона III, і абмежаваў годам зняволення ў крэпасці з наступнай высылкай.

Гэта пакаранне В. Старжынскі адбыў у Бабруйскай крэпасці. Потым яго накіравалі ў высылку ў Пермскую губерню, адтуль – у Варонеж пад нагляд паліцыі. Усе яго маёнткі былі канфіскаваныя. Пасля вяртання з высылкі В. Старжынскі жыў у Галіцыі, потым – у Пецярбургу. Вярнуцца на радзіму яму не дазволілі – і па прашэсці гадоў «як кіраўнік мяцежных задум» ён успрымаўся мясцовымі ўладамі больш небяспечным за тых, хто адкрыта са зброяй у руках паўстаў супраць ураду[681].

Такі ж лёс напаткаў і тых дзеячаў, што падтрымлівалі В. Старжынскага і напярэдадні паўстання шукалі пагаднення з расійскім урадам у надзеі выклапатаць канцэсіі для Беларусі і Літвы: прадвадзіцеля дваранства Мінскай губерні Аляксандра Лапа, грамадскага дзеяча .Аляксандра Аскерку, аднаго з кіраўнікоў партыі «белых» і члена паўстанцкага ўраду у Беларусі і Літве, і інш.

***Літоўскае Земскае Крэдытнае Таварыства як праект адраджэння Вялікага Княства Літоўскага.*** Адным з лідараў беларускага дваранства, якое ў пачатку 1860-х гг. прадпрымала крокі, каб перахапіць уладу ў краі ў свае рукі і фактычна ўзнавіць аўтаномію ВКЛ мірным шляхам, быў грамадскі дзеяч ліберальнага накірунку, выпускнік Пецярбургскага ўніверсітэта, ураджэнец Рэчыцкага павета Мінскай губерні, прадстаўнік старажытнага шляхецкага роду Аляксандр Аскерка (1830–1911). Створае ім у пачатку 1860-х г. Літоўскае Земскае Крэдытнае Таварыства ахоплівала сваім уплывам землі былога ВКЛ, на аднаўленне якога была разлічана дзейнасць гэтай арганізацыі[682].

Гістарыяграфічная традыцыя лічыць, што асноўную

[680] Тамсама. Арк. 195.

[681] Тамсама. Арк. 201–201 адв.

[682] *Марозаў С. П.* Літоўскае Земскае Крэдытнае Таварыства – малавядомы праект адраджэння Вялікага княства Літоўскага // Грамадскія рухі і палітычныя партыі ў Беларусі (апошняя чвэрць XIX – пачатак XXI ст.): матэрыялы Рэсп. навук. канф., Гродна, 23–24 кастр. 2008 г. / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: І. І. Коўкель (адк. рэд.) [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2009. С. 70–75.

падрыхтоўчую работу да паўстання правёў створаны летам 1862 г. у Варшаве ЦНК, а ў Беларусі і Літве, якія аказаліся недастаткова падрыхтаванымі да выступлення па закліку ЦНК 22 студзеня 1863 г., самую значную ролю ў паўстанцкім руху адыграў Кастусь Каліноўскі. Аднак матэрыялы архіўнай справы з фонду В. Ф. Ратча ў Аддзеле рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу (дакументы са следчай справы А. Аскеркі, расказы відавочцаў і інш.)[683], сабраныя нейкім С. Крэйцам – хутчэй за ўсё прадстаўніком царскай адміністрацыі ў Беларусі, прыадкрываюць завесу над тайнай сур'ёзнай і прадуманай падрыхтоўкі паўстання ў Беларусі і Літве, аж да распрацоўкі праекта ўладкавання Вялікага Княства Літоўскага пасля перамогі.

На першы план у падрыхтоўцы паўстання на тэрыторыі Беларусі і Літвы, паводле гэтай архіўнай справы, выходзіць Літоўскае Земскае Крэдытнае Таварыства і яго старшыня А. Аскерка, адзін з кіраўнікоў партыі «белых». Акрамя сацыяльнай мэты (абарона інтарэсаў памешчыкаў, па якіх адмена прыгоннага права нанесла ўдар) і мэты эканамічнай (імкненне эканамічна «завязаць» усю зямлю Беларусі і Літвы на таварыстве, незалежным ад дзяржавы, якая дзейнічала па прынцыпу: «канфіскацыя – адзіны дзейсны сродак ад патрыятычнай гарачкі»[684]), ЛЗКТ згуртоўвала дваранства ў «адзінае згоднае палітычнае цела», падпарадкаванае строгай дысцыпліне, з мэтай рэстаўрацыі яго «ранейшага бязмежнага значэння і багацця» ў адноўленай Рэчы Паспалітай[685]. Таварыства не выпадкова названа эканамічным: яно збіралася ўзяць пад свой кантроль большую частку зямлі заходніх губерняў (яго ж члены – уласнікі гэтай зямлі) і значную частку фінансаў краю. У арганізацыю планавалася уцягнуць практычна ўсё дваранства заходніх губерняў, паколькі яно было эканамічна зацікаўлена ў гэтым Таварыстве (сюды ж увайшлі б і прадстаўнікі буйнейшых магнацкіх родаў ВКЛ: Тышкевічы, Тызенгаўзы, Радзівілы, Патоцкія, Любамірскія і г.д.[686]).

[683] *Крейц С.* Александр Оскерко. Министр внутренних дел Литовского народного жонда. Очерк, составленный по подлинным документам, заключающимся в следственных делах. И по рассказам очевидцев и людей, ознакомленных с последним мятежом. (Отрывок из приготовительных работ). 1867 г. Вильно // РНБ. Ф. 629. Спр. 348. 36 арк.

[684] Тамсама. Арк. 12 адв.

[685] Тамсама. Арк. 33–33 адв.

[686] Тамсама. Арк. 10.

Акрамя таго, Таварыства ўтварала цэнтралізаваную бюракратычную сістэму кіравання – цэлую вертыкаль, незалежную ад дзяржавы: дырэктар таварыства (статусам «падобны на дыктатара Літвы») – главы дырэкцый – кіраўнікі акруг – мясцовыя выканаўцы. Усе кадры – са шляхты[687]. Знешне гэта выглядала як філіялы арганізацыі на месцах. Але паколькі шляхціцы, якія кіравалі філіяламі, адначасова валодалі гэтымі ж землямі і сялянамі, то кантроль атрымліваўся не толькі эканамічны, але судовы, адміністрацыйны, рэлігійны, палітычны.

Пакуль «рэвалюцыя» не пачалася, Таварыства збірала людзей, землі, грошы. З пачаткам паўстання яно гатова было ўзяць на сябе кіруючую ролю. Планавалася, што пасля перамогі і выгнання расійскай адміністрацыі бездзяржаўя і анархіі не будзе – Таварыства адразу стала бы вярхоўнай уладай з ужо арганізаванай вертыкаллю і фінансавай структурай.

З пачаткам паўстання А. Аскерка, як гаварылася ў яго судова-следчай справе, ператварыў гэта мірнае эканамічнае Таварыства «ў арганізацыю рэвалюцыйнага ўраду, а сам стаў на чале яго ў Літве. Уласна галавою de jure быў камісар Варшавы – Дзюлерын, але маральная ініцыятыва і перавага ўплыву заўсёды былі на баку Аскеркі», які «аказаўся кімсьці накшталт Літоўскага Міністра Унутраных Спраў і найбольш дзейсным членам у Віленскім аддзяленні нацыянальнага ўраду»[688].

Ролю А. У. Аскеркі як ідэолага і кіраўніка паўстання на землях былога ВКЛ ацэньваюць па-рознаму Адны ўказваюць на яго поўную самастойнасць і незалежнасць ў сваёй дзейнасці. Іншыя, як С. Крэйц, які ў другой палове 1860-х г. рыхтаваў да выдання «выкрывальную» працу аб дзейнасці А. Аскеркі, праводзілі такія паралелі з Т. Касцюшкай: «Касцюшка быў толькі выканаўчым афіцэрам у гульні магнатаў, якія ўсё заказвалі і за ўсё плацілі. Гэтак жа і Аскерка – толькі выканаўца жаданняў графа Старжынскага, Тышкевіча, Чапскага, Андрэя Замойскага і г. д.»[689].

А. Аскерку арыштавалі ў канцы мая 1863 г. амаль адначасова з В. Старжынскім, з якім яны разам стваралі ЛЗКТ. Пры вобыску ў А. Аскеркі знайшлі статут таварыства і перапіску. У лісце з Рэчыцы ў Вільню ад 17 лютага 1862 г. адрасат пытаўся:

687 Тамсама. Арк. 15.

688 Тамсама. Арк. 22, 33 адв. – 34.

689 Тамсама. . Арк. 9.

«Што ж там у Вас адбываецца, мой Аляксандр, нейкія партыі ўтварыліся, якія хочуць мець асобную Літву…»[690].

Палявы аўдытарыят прызнаў, што А. Аскерка належаў «да ліку галоўных асоб рэвалюцыйнай арганізацыі на Літве» і сваімі «злачыннымі дзеяннямі» распальваў паўстанне ў краі[691]. Яго пазбавілі чыноў, дваранскага звання і прыгаварылі да высылкі ў Сібір на катаржную работу ў рудніках на 15 гадоў.

Пасля арышту А. Аскеркі яго месца заняў лідэр «чырвоных» К. Каліноўскі, які ў жніўні стаў старшынёй Выканаўчага аддзела Літвы. Пра арышт А. Аскеркі спачувалі роўна і «чырвоныя», і «белыя», прызнавалі, што з ім паўстанне панесла велізарную страту. Нехта Рагалінскі шкадаваў, што арганізацыя згубіла такога дзейнага чалавека, і ў той жа час заўважыў, што месца яго заняў не менш здольны: «Гэта быў апошні кіраўнік Жонду у Літве – К. Каліноўскі, са смерцю *(якога – С. М.)* арганізацыя бунту, так спрытна складзеная Аскеркам пад выглядам Літоўскага Земскага Крэдытнага Таварыства, канчаткова разбурылася»[692].

С. Крэйц указваў, што «калі разабраць дзейнасць гэтага мірнага рэвалюцыянера і яго намеры, яны здадуцца непараўнальна вышэй за ўсе подзвігі Серакоўскіх, Звіждоўскіх і Каліноўскіх. Праславуты ваявода Серакоўскі проста прыехаў на гатовае ўжо паўстанне, якога ні павесці, ні падтрымаць не здолеў.

Каліноўскі ... гэта быў напаўвар'яцкі чалавек, адораны моцнаю воляю, вядомай дозай розуму і так званай мужыцкай хітрасцю ... Ён імкнуўся да ажыццяўлення нейкі ідэальнай Літвы з простага народа ... У следчай камісіі аднаму з членаў ён казаў за некалькі дзён да шыбеніцы: «Я, хоць які б там ні быў, а ўсё ж – урад!» Нарэшце, ідучы на смерць, Каліноўскі выказваецца: «Адно мяне суцяшае: Палякі ў Літве пасля гэтага ніколі не ўмацуюцца»[693].

Гісторыкам пара адмовіцца ад атаесамлення пазіцыі

---

[690] О помещике Виленской губернии, Вилейского уезда, отставном поручике Александре Оскерко, сужденном за сношение с мятежниками. 20 февраля – … марта 1864 г. // ДГАЛ. Ф. 1248. Воп. 2. Спр. 226. Т. I. Арк. 62.

[691] Тамсама. Арк. 342 адв., 347.

[692] *Крейц С.* Александр Оскерко. Министр внутренних дел Литовского народного жонда. Очерк, составленный по подлинным документам, заключающимся в следственных делах. И по рассказам очевидцев и людей, ознакомленных с последним мятежом. (Отрывок из приготовительных работ). 1867 г. Вильно // РНБ. Ф. 629. Спр. 348. Арк. 32–32 адв.

[693] Тамсама. Арк. 34 адв. – 35.

партыі «белых» у Беларусі і ў Польшы і перастаць ігнараваць беларускія дзяржаватворчыя сілы і інтарэсы напярэдадні сацыяльнага выбуху 1863 г.

***«Літоўскі сепаратыст» К. Каліноўскі.*** Падзеі 1861–1864 гг. на абшарах былой Рэчы Паспалітай актуалізавалі пытанне аб дзяржаўнасці беларуска-літоўскіх земель. Карэспандэнцыя з Вільні, апублікаваная 10 лістапада 1863 г. у варшаўскай газеце «Niepodległość», сфармулявала наступнае палажэнне: «Дзяржавы, якія не маюць традыцыі, гістарычных правоў і мінулага, абавязаны сваім часовым існаваннем збегу палітычных абставін, ... з'яўляюцца і знікаюць, не пакідаючы ніякіх слядоў у гістарычным развіцці чалавецтва. Але народ, які нясе на сваіх плячах цяжар дзесяцівяковай мінуўшчыны, хоць часова раскрыжаваны гістарычнымі нягодамі, тым не менш не перастае жыць і мае права на існаванне, чарпанае са сваёй традыцыі і месца ў гістарычнай цывілізацыі»[694]. Чалавекам, які «першы ўзняў крышку дамавіны, у якую Літва 70 гадоў таму была пакладзена», хоць і заплаціў за гэта сваім жыццём, газета назвала кіраўніка паўстанцкага атрада Людвіка Нарбута[695]. Аўтар карэспандэнцыі лічыў патрэбным «даказаць Еўропе, што яе бяспека і гарантыя спакойнага развіцця цывілізацыі ляжыць над Віслай і Нёманам»[696].

У адрозненне ад папярэдняга паўстання, у якім, на думку А. М. Філатавай, дамінавалі настроі на далучэнне беларуска-літоўскіх зямель да Польшчы[697], пытанне аб іх дзяржаўнасці набыло ў 1861–1864 гг. новае грамадскае гучанне. «Быць Літве, Беларусі і Украіне з кім яны хочуць або ні з кім, абы толькі волю іх ведаць – не падробную, а сапраўдную», – выступіў восенню 1862 г. у абарону іх права самім вырашаць свой лёс вядомы рускі дэмакрат А. І. Герцэн[698]. Будучы прыхільнікам незалежнасці Польшчы, ён патрабаваў ад палякаў адмовіцца ад прэтэнзій на гэтыя землі.

Удзельнікі, відавочцы і першыя даследчыкі паўстання 1863–1864 гг. сведчаць, што «літоўскія змоўшчыкі» чэрпалі

[694] Материалы польского восстания 1863 г. // РДВГА. Ф. 484. Воп. 2. Спр. 659. Арк. 40.

[695] Тамсама. Арк. 40 адв.

[696] Тамсама. Арк. 40.

[697] Паўстанне 1863–1864 гг. і лёсы Беларусі: зб. арт. / гал. рэд. В. Булгакаў. Мінск: Рэдакцыя часопісу «Архэ-Пачатак», 2010. С.14.

[698] Русско-польские революционные связи. М.: Изд-во АН СССР, 1963. Т. I. С. 446.

сваю ідэалогію з Пецярбурга, дзе розумамі польскай (з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай) і рускай моладзі авалодвалі рэвалюцыйныя плыні і «ўладна панаваў уплыў Герцэна»[699].

В. Пшыбароўскі, які займаў адказныя пасады ў паўстанцкіх структурах Варшавы (у тым ліку сакратара Літвы) пісаў, што К. Каліноўскі быў «безумоўным паслядоўнікам дэмагагічна-камуністычных тэорый Цэнтралізацыі і федэратыўных праграм герцэнаўскага «Колокола». Ён «ва ўсёй яе паўнаце стасаваў да Літвы» палітычную праграму Герцэна, грунтаваную на ідэі, што «славянскія землі, пазбавіўшыся дэспатычных паноў і чужога ярма, павінны ўтварыць федэрацыю незалежных дзяржаў, якія маглі б, жывучы па суседству, у ідылічнай згодзе развіваць усе свае нацыянальныя асаблівасці»[700]. Кіраўнік паўстання, па словах В. Пшыбароўскага, лічыў, што «Літва павінна разам з Польшчай дабівацца незалежнасці, змагацца за выбаўленне ад чужога захопніка, але складаць асобную адзінку, зусім незалежную ад Польшчы і звязаную з ёй толькі федэратыўнымі вузамі. … У паўстанні бачыў ён найперш незалежнасць Літвы, а пасля сацыяльную рэвалюцыю»[701]. Прынцып аднаўлення Польшчы тады не супярэчыў імкненню народаў былога ВКЛ да ўласнай дзяржаўнасці.

У ЛПК, як сведчыў афіцыйны гістарыёграф паўстання В.Ф.Ратч, які меў доступ да ўсіх матэрыялаў следства па справах удзельнікаў паўстання, спачатку ніхто не звяртаў увагі на спосаб вырашэння нацыянальна-дзяржаўнага пытання, ды і разумелі яго «цьмяна». З. Серакоўскі, Ф. Далеўскі, Л. Звяждоўскі настойвалі на праекце канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай «з нацыянальным прадстаўніцтвам Літвы»[702]. К. Каліноўскі разыходзіўся з імі ў поглядах, хоць мэта ва ўсіх была адна – незалежнасць Айчыны. Ён, калі стаў на чале «самых славалюбівых асоб з чырвоных ліцвінаў, настойліва праводзіў ідэю самастойнасці Літвы»[703].

К. Каліноўскі, па словах В. Ф. Ратча, «зусім не быў схільны

[699] *Каліноўскі К.* За нашу вольнасць. Творы, дакументы; уклад, прадм., пасляcл., камент. Г. Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 150.

[700] Тамсама. С. 165.

[701] Тамсама. С. 165–166.

[702] Тамсама. С. 152, 153.

[703] Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России: Собрал В. Ратч. Вильна, 1867. Т. 1. С. 184.

працаваць дзеля Польшчы і … бачыць Літву ўцягнутай у той жа вір» шляхетных традыцый уваскрошанага старажытнага магнацтва, «з нацяжкай прыстасаваных да XIX ст.»[704]. Ён «асцерагаўся таго зліцця з Польшчай, пры якім потым ад яе нельга было б адчапіцца»[705]; «стаяў уважлівым вартаўніком інтарэсаў Літвы і адстойваў, каб сродкі і сілы Літвы зусім не ішлі бы на справы Царства Польскага»[706]. Сваім калегам па Камітэту К. Каліноўскі гаварыў, што «Літва … павінна скарыстацца разладам паміж Расіяй і Польшчай і зрабіцца самастойнай»[707]. Сваімі ідэямі ён «да таго захапіў усіх ліцвінаў», што ўжо ў 1862 г. Л. Звяждоўскі, яго асабліва моцны ідэйны праціўнік, «быў рэўнасным абаронцам самастойнасці Літвы»[708].

Па словах В. Ф. Ратча, К. Каліноўскі жадаў цалкам пазбавіцца ад варшаўскай апекі, і па вырабе асобнай пячаткі для ЛПК «варшаўскі жонд павінен быў за подпісам, выражаным штэмпелем новай устаноўленай улады, атрымаць паведамленне, што Літва і Беларусь – самастойная дзяржава»[709]. У аснове ўзаемаадносін паміж віленскімі і варшаўскімі канспіратарамі ляжала нежаданне падпарадкаваць паўстанне ў Беларусі і Літве інтарэсам Варшавы, якая не ў дастатковай ступені паважала іх суверэнітэт. Таму ў ЛПК быў моцны недавер да ЦНК, які абвінавачвалі ў няведанні ўмоў і патрэб Літвы. Сепаратысцкае крэда К. Каліноўскага выражалася ў пастулаце: «Такой дурной галаве, як Варшава, нельга давяраць будучы лёс Літвы»[710]. Стаўшы гаспадаром становішча ў ЛПК пасля ад’езду Л. Звяждоўскага ў Маскву, ён «з нязгаснай энергіяй спрачаўся з «бязглуздымі варшаўскімі галовамі» аб поўнай аўтаноміі Літвы»[711].

Адзін з найбольш аўтарытэтных кіраўнікоў партыі «белых» у Літве і Беларусі Я. Гейштар, які добра ведаў К. Каліноўскага асабіста і, будучы яго ідэйным праціўнікам, тым не менш

[704] *Каліноўскі К.* За нашу вольнасць. Творы, дакументы; уклад, прадм., пасляся., камент. Г. Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 152–153.

[705] Тамсама. С. 153.

[706] Тамсама. С. 154.

[707] Тамсама. С. 154.

[708] Тамсама. С. 153.

[709] Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России: Собрал В. Ратч. Вильна, 1867. Т. 1. С. 231.

[710] Тамсама С. 181.

[711] *Калиновский К.* Из печатного и рукописного наследия. Минск: Беларусь, 1988. С. 193–194.

працаваў разам з ім, у мемуарах характарызаваў яго як чалавека, які «аддадзены быў душой і сэрцам народу і айчыне» і падумваў аб самастойнасці Літвы[712]. Але асуджаў яго за сепаратызм, бо распачатая ім «палеміка ў часе барацьбы пра межы Літвы і Польшчы», у прыватнасці, спрэчка з ЦНК пра заходнія паветы Гродзенскай губерні, падрывала адзінства сіл у паўстанні[713]. Крайнасць сацыяльнай праграмы і сепаратысцкія тэндэнцыі адносна Польшчы – гэтыя дзве рысы адзначаў Я. Гейштар у К. Каліноўскага, і яны абедзьве яму не падабаліся.

Па ўспамінах сакратара ЦНК Ю. Яноўскага, К. Каліноўскі «сувязь Літвы з Польшчай разумеў толькі як федэратыўную – з поўнай незалежнасцю Літвы»[714]. Прыхільнік адраджэння Рэчы Паспалітай у ранейшых межах з роўнасцю ўсіх яе народаў, ураджэнец Віцебскай губерні Б. Ліманоўскі ў сваёй «Гісторыі паўстання» (створана каля 1880 г.) пісаў пра К. Каліноўскага, што той «раўніва пільнаваўся поўнай роўнасці і самастойнасці Літвы», хоць і лічыў унію з Польшчай гістарычнай неабходнасцю[715]. Гэта, праўда, пярэчыць звесткам В. Ф. Ратча, з якіх вынікае, што К. Каліноўскі даволі скептычна ставіўся да аднаўлення ўніі з Польшчай.

Устрывожаны дзеяннямі гэтага «ліцвіна-сепаратыста», яго «спрэчкай аб нацыянальнасцях»[716], аж да намеру разарваць усялякія адносіны з Польшчай, ЦНК камандзіраваў у Вільню аднаго са сваіх найбольш дзейсных і здольных сяброў О. Авейдэ з рэпутацыяй заслужанага рэвалюцыянера, змоўшчыка, а да таго ж універсітэцкага таварыша «новага літоўскага дыктатара». О. Авейдэ «было даручана ўламаць Каліноўскага, угаварыць яго любоўю да польскай Айчыны, аб якой самазванец-дыктатар Літвы і Беларусі рашуча ведаць не хацеў»[717].

Пазней, будучы арыштаваным, О. Авейдэ адзначаў у запісцы для следства: «Самыя найгалоўныя правінцы

[712] *Калиновский К.* Из печатного и рукописного наследия. Минск: Беларусь, 1988. С. 166.

[713] *Каліноўскі К.* За нашу вольнасць. Творы, дакументы; уклад, прадм., пасляcл., камент. Г. Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 154, 156.

[714] *Калиновский К.* Из печатного и рукописного наследия. Минск: Беларусь, 1988. С. 161.

[715] *Каліноўскі К.* За нашу вольнасць. Творы, дакументы; уклад, прадм., пасляcл., камент. Г. Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 161–162.

[716] *Калиновский К.* Из печатного и рукописного наследия. Минск: Беларусь, 1988. С. 196.

[717] Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России: Собрал В. Ратч. Вильна, 1867. Т. 1. С. 233.

Польшчы, якія даюць ёй уласна дзяржаўнае значэнне і вагу, – Літва з Беларуссю і Маларосія – або прама і адкрыта заявілі аб сваім нежаданні складаць неадлучную частку Польшчы (як Маларосія), або былі рашуча абыякавыя да імкненняў польска-самастойных»[718].

Што да самога К. Каліноўскага, то ён трактаваў Літву і Беларусь як гістарычную і культурную цэласнасць. Для яго гэта быў адзіны рэгіён і ў палітычным сэнсе, са сваёй эканамічнай і нацыянальнай спецыфікай. Ён, хоць не адмаўляў выпрацаванага гісторыяй спачування Літвы да Польшчы і ўзмоцненага царскай палітыкай нацыянальнага заняволення, але выказаўся за ўтварэнне самастойнага ўраду для свайго краю – «самарондства». Жаданне самастойнасці гістарычнай Літвы ў федэрацыі з Польшчай, разам з разыходжаннем па арганізацыйных пытаннях і спосабах вядзення барацьбы, выявілася ў канфлікце Віленскага паўстанцкага цэнтра з варшаўскім ЦНК, у цвёрдасці і рашучасці, з якой ЛПК дамагаўся раўнапраўя ва ўзаемаадносінах з Варшавай.

У Тлумачальнай запісцы следству ад 28 студзеня 1864 г. кіраўнік паўстання абавяргаў прад'яўленае яму абвінавачанне ў жаданні разрыву дзяржаўнай сувязі з Расіяй. Ён указваў, што пытанне дзяржаўнага ўладкавання залежыць ад больш важнага пытання – забеспячэння народнага шчасця. У той жа час ён аб'явіў сябе ворагам парадкаў, якя пазбавілі беларускі і літоўскі народы дзяржаўнасці і элементарных умоў для развіцця культуры[719]. Ён прадказваў, што «пакуль урад не набудзе спачування ў сапраўды адукаваным класе тутэйшага насельніцтва», умацаванне пазіцый Расіі ў Літве немагчыма[720]. У гэтай запісцы ён выступаў абаронцам інтарэсаў гістарычнай Літвы і яе народаў.

У «Лісце з-пад шыбеніцы» К. Каліноўскі таксама адстойваў права беларускага і літоўскага народаў на бесперашкоднае нацыянальнае развіццё. Ён асуджаў, што ў школах пры царскай уладзе «ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску, да і па-беларуску, як народ таго хоча»[721]. Паказальным у гэтым сэнсе

[718] Показания и записки о польском восстании 1863 года Оскара Авейдэ. М.: Изд-во АН СССР, 1961. С. 97.

[719] *Смирнов А. Ф.* Кастусь Калиновский. Минск: Госиздат БССР, 1963. С. 179.

[720] *Каліноўскі К.* За нашу вольнасць. Творы, дакументы; уклад, прадм., паслясл., камент. Г. Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 145.

[721] Тамсама. С. 43.

з'яўляецца абнародаванне некаторых паўстанцкіх дакументаў на беларускай мове.

Адзін з буйнейшых кіраўнікоў паўстання ў Літве Антанас Мацкявічус, будучы ў заключэнні, звярнуўся да ўладаў з просьбай перадаць цару наступныя патрабаванні: «Дайце Літве закон, дайце намесніцтва, няхай які з князёў паселіцца ў Вільні, а ў той жа час спытайце – ці жадае быць з Расіяй ці з Польшчай? Прымусам нічога не зробіце. Заўсёды будуць трывожыць, заўсёды будуць паўставаць. Вось мае апошнія жаданні і прапановы»[722]. Гэта, так сказаць, яшчэ адзін «ліст з-пад шыбеніцы», які сведчыць, што нешматлікая яшчэ тады дэмакратычная інтэлігенцыя Літвы і Беларусі не разглядала паўстанне як справу «чыста польскую». Паўстанец Э. Даўкшыс заявіў следчай камісіі, што ён прытрымліваецца перакананняў не польскіх, а «літоўска-славянскіх»[723].

З боку прыхільнікаў «вяртання гістарычных межаў Польшчы» адказам на падобныя настроі ў Беларусі і Літве было выданне брашуры пад назвай «Голас літоўца», у якой рэзка асуджаліся «ўсякія тэорыі аб самастойнай дзяржаўнасці Літвы і Русі»[724].

Айчынныя даследчыкі прызнаюць, што беларускі нацыянальны рух у час паўстання ўзняўся на якасна новы ўзровень, бо ў ім нарадзіўся палітычны кампанент – ідэя дзяржаўнай самастойнасці Літвы і Беларусі, і з гэтага часу беларускія, ліцвінскія патрабаванні адасабляюцца з польскага вызваленчага кантэксту. В. Ф. Ратч, між іншым, сведчыць, што сярод віленскіх гаражан і па Жмудзі доўгі час хадзілі чуткі, што ў Вільні пражывае «Круль Літвы», які хоча «адхіліцца ад палякаў» і завесці «сваё ўласнае крулеўства»[725].

У 1960-я г. гісторык паўстання А. П. Смірноў прызнаў і станоўча ацаніў пастаноўку К. Каліноўскім пытання аб ўтварэнні самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі[726].

[722] *Смирнов А. Ф.* Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии. М.: АН СССР, 1963. С. 323.

[723] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Материалы и документы / гл. ред.: С. Кеневич и др. М.: Наука, 1965. С. 246.

[724] *Смірноў А. П.* Кастусь Каліноўскі ў паўстанні 1863 года. Мінск : Дзяржвыд БССР, 1959. С. 116.

[725] *Лушчыцкі І. Н.* Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку. Мінск: Выдавецтва Белдзяржуніверсітэта імя В. І. Леніна, 1958. С. 232.

[726] На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы / В. В. Яноўская [і інш.]; навук. рэд. В. В. Яноўская; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 126.

«Гісторыя вызваленчага руху ведае шмат прыкладаў – пісаў даследчык, – калі папрокі ў сепаратызме, развале дзяржавы, расколе кідаліся рэвалюцыйным дзеячам, якія стойка і паслядоўна адстойвалі інтарэсы прыгнечаных нацый»[727]. З другога боку, па меркаванню гісторыка, прадстаўнікі лагера «белых», ЦНК, разглядаючы беларускія і літоўскія землі як частку Польшчы, абʼявілі К. Каліноўскага, які адстойваў інтарэсы беларускага і літоўскага народаў, сепаратыстам, што падпаў пад уплыў рускіх дэмакратаў і пачарпнуў ад іх ідэі, шкодныя польскай справе[728].

У беларускім вызваленчым руху А. Каўка вылучыў па крытэрыю яго самаўсведамлення, арганізаванасці і якаснай эвалюцыі два этапы: пачаткова-падсвядомы рух «у сабе» пераважна ў межах польскага нацыянальна-вызваленчага працэсу (1794–1863) і рух «для сябе» са свядомай пастаноўкай уласна беларускіх нацыянальных задач і канчатковай мэты – адраджэння беларускай дзяржаўнасці (1863–1918). К. Каліноўскага даследчык называе першым беларускім палітычным дзеячам новага часу, які ставіць, хай спачатку недастаткова выразна і паслядоўна, уласна беларускія («літоўскія») патрабаванні ў агульнапольскім нацыянальным руху, уключна з ідэяй самастойнасці Літвы-Беларусі ў дэмакратычным саюзе з Польшчай і Расіяй[729].

Акадэмічная «Гісторыі беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.» канстатуе, што «ў час паўстання сярод яго кіраўніцтва дамінавалі ідэі і традыцыі гістарычнай дзяржаўнасці ВКЛ» і што пры вырашэнні тэрытарыяльнага пытання паўстанцы, магчыма, кіраваліся крытэрыем гістарычнай суверэннасці ВКЛ[730].

Вядомыя польскія даследчыкі паўстання С. Кеневіч і Д. Файнхаўз, а таксама Р. Радзік, якія адмаўляюць намер К. Каліноўскага разарваць з Царствам Польскім, разам з тым прызнаюць факт дамаганняў ЛПК да самастойнага кіравання паўстаннем на сваёй тэрыторыі і намеру ў выніку поспеху

[727] *Смирнов А. Ф.* Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии. М.: АН СССР, 1963. С. 126.

[728] *Смирнов А. Ф.* Кастусь Калиновский. Минск: Госиздат БССР, 1963. С. 6.

[729] *Каўка А.* Беларускі вызваленчы рух // Спадчына. 1991. № 5. С. 5–6.

[730] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 224.

вярнуць Літве палітычную адасобленасць у адносінах да Кароны[731].

Ідэі К. Каліноўскага, сфарміраваныя пад моцным уплывам рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, прама або апасродкавана аказалі ўплыў на далейшае развіццё беларускай палітычнай думкі. Яго план стварэння Беларуска-Літоўскай дэмакратычнай дзяржавы – законнай спадчынніцы традыцый ВКЛ – перанялі і развілі мысліцелі і палітыкі першай чвэрці XX ст. К. Каліноўскі з аднадумцамі сталі важным звяном у ланцугу палітычна-гістарычнай сувязі былога ВКЛ з пазнейшай беларускай нацыянальна-палітычнай традыцыяй.

**Такім чынам,** пытанне аб вяртанні страчанай дзяржаўнасці было галоўным у паўстанні 1830–1831 гг. Шляхта Беларусі падтрымала польскую шляхту ў імкненні адбудаваць Рэч Паспалітую. Паўстанцы апелявалі да шматвяковых сувязяў Літвы і Польшчы і традыцыі сумеснай барацьбы за адраджэнне Рэчы Паспалітай. Пры гэтым пачуццё палітычнага адзінства з Польшай спалучалася ў беларуска-літоўскай шляхты з усведамленнем адметнасці гістарычнай Літвы. Салідарныя з барацьбой польскага народа ліцвіны, тым не менш, браліся за зброю змагацца не за інтарэсы палякаў, а за свае ўласныя, і ў аднаўленні Рэчы Паспалітай бачылі залог вяртання дзяржаўнасці ВКЛ. Сярод гісторыкаў няма адзінства ў адказе на пытанне, як бачыўся паўстанцам Беларусі і Літвы характар будучых палітычных адносінаў зямель былога ВКЛ з адноўленым Польскім каралеўствам. Меркаванні вагаюцца ад сцвярджэння, што пытанне пра адбудову ВКЛ у паўстанні не ставілася, да прызнання падтрымкі лозунга аднаўлення Рэчы Паспалітай сведчаннем змагання за аднаўленне ВКЛ у федэратыўнай сувязі з Польшчай.

Закрыццё царскімі ўладамі пасля падаўлення паўстання Віленскага ўніверсітэта, ліквідацыя царкоўнай уніі і скасаванне Статута ВКЛ 1588 г., якія засталіся ў спадчыну ад ВКЛ, але перашкаджалі поўнай інкарпарацыі Беларусі і Літвы ў склад Расійскай імперыі, змяніла палітычную, канфесійную, культурную сітуацыю ў рэгіёне. Закрыццё ўніверсітэта разам з перакройваннем межаў Віленскай навучальнай акругі ставіла

[731] Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі: матэрыялы міжнар. навук. канф., Лондан, 27–29 сак. 2014 г. / пад рэд. А. Смаленчука і Д. Дынглі. Мінск: Зміцер Колас, 2015. С. 46.

былую сталіцу ВКЛ у адзін шэраг з іншымі губернскімі гарадамі імперыі, канчаткова пазбаўляла яе сталічнага статусу. Гэтыя рэпрэсіўныя меры былі ўдарам па важнейшым захаваным яшчэ рэштам ВКЛ, успрыманым мясцовай інтэлігенцыяй сімваламі цывілізаванасці, велічы і магутнасці Княства; нанеслі абразу патрыятычным пачуццям і памяці аб былой дзяржаўнасці. Знішчэнне яе апошніх атрыбутаў увергла беларуска-літоўскае грамадства ў шокавы стан; перажывалася тымі, хто гэта страціў, хто разумеў маштабы страт, як трагедыя і напаліла сітуацыю ў заходніх губернях. У сярэдзіне XIX – пачатку XX ст. пытанне аб вяртанні ўніверсітэта, уніі і Статута неаднаразова ўздымалася спадчыннікамі ВКЛ. Пры гэтым патрабаванні вярнуць Статут 1588 г. у прававое поле беларуска-літоўскіх зямель і ўніверсітэт з'яўляліся неад'емнымі элементамі праектаў адраджэння ВКЛ.

У 30–50-х гг. XIX ст. пытанне аднаўлення дзяржаўнасці ВКЛ і Рэчы Паспалітай захоўвала актуальнасць у грамадска-палітычным руху Беларусі. Ліцвінскі патрыятызм грамадскіх дзеячаў і мысліцеляў з «Дэмакратычнага таварыства», «Братняга саюза літоўскай моладзі», Саюза літоўскай моладзі, а таксама эмігранцкіх эмісараў, хоць яшчэ цалкам падпарадкоўваўся агульнадзяржаўнаму рэчпаспалітаўскаму патрыятызму, але жаданне аднаўлення Рэчы Паспалітай у «гістарычных межах» спалучалася ў іх з намерам вярнуць «літоўска-рускаму народу» самастойны «палітычны быт».

Пачуццё страчанай Айчыны і клопат пра яе будучы лёс згуртавалі студэнтаў з гістарычнай Літвы, пазбаўленай уласнага ўніверсітэта, у расійскіх універсітэцкіх цэнтрах у зямляцтва «Ogół» («Разам»), у якім пад уплывам рускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай ідэалогіі фарміраваліся плыні «белых» і «чырвоных» у будучым паўстанні, што ставілі агульную мэту – адраджэнне дзяржаўнасці, але разыходзіліся ў шляхах і спосабах яе дасягнення. Кансалідацыя ліцвінскай моладзі ў Маскве і Пецярбургу вакол гэтай ідэі асабліва ўзмацнілася на мяжы 50–60-х гг.

Творчая і навуковая інтэлігенцыя краю рабіла спадчыну знішчанага ВКЛ здабыткам гісторыі, літаратуры, паэзіі. Моцны ўплыў на фарміраванне патрыятычнай грамадскай думкі аказвала мастацкая літаратура і публіцыстыка 20–50-х гг. XIX ст., у тым ліку нелегальная. Яна абуджала гістарычную памяць і ўсяляла веру ў здольнасць суайчыннікаў вярнуць

страчаную дзяржаўнасць, мабілізавала на змаганне. Моцны грамадскі рэзананс мелі творы А. Міцкевіча, прасякнутыя ліцвінскім патрыятызмам. Недарэмна царызм пераследаваў такую літаратуру.

Усведамленне вартасці свайго мінулага, разуменне маштабаў стратаў, панесеных у 1795 г., і думкі аб вяртанні забранага вярэдзіла гістарычная навука. Надзвычайную палітычную актуальнасць набыла ў тых умовах гісторыя ВКЛ і Рэчы Паспалітай, іх даследаванне і выкладанне. Літаратура рамантызавала, а гістарычная навука ідэалізавала гісторыю ВКЛ. Улады супрацьпаставілі гэтаму навязванне беларусам комплексу негістарычнай нацыі, пазбаўленай традыцый уласнай дзяржаўнасці, што мела наступствам адмову ад дзяржаўна-гістарычнай спадчыны ВКЛ як уласнай. Разам з тым захаванне такіх знешніх атрыбутаў ВКЛ, як сама назва «Літва», ужываны мясцовымі жыхарамі выраз «забраны край Літоўскі», злучаныя гербы Літвы і Польшчы на Вострай браме ў Вільні жывілі сепаратысцкія настроі ў краі.

У параўнанні з паўстаннем 1831 гг. у грамадска-палітычным руху Беларусі першай трэці 1860-х гг. больш выразна прагучала патрабаванне дзяржаўнасці беларуска-літоўскіх зямель. Грамадска-палітычны ўздым народаў былога ВКЛ адрозніваўся ад вызваленчага руху ў Польшчы, акрамя сацыяльнай спецыфікі, такой пастаноўкай нацыянальна-дзяржаўнага пытання, якая прадугледжвала дасягненне пасля перамогі паўстання незалежнасці гістарычнай Літвы як самастойнай дзяржавы або ў федэратыўным саюзе з Польшчай. Жаданне вярнуць Літве палітычную адасобленасць у адносінах да Кароны характэрна не толькі для лагера «чырвоных», але і «белых».

У новай гістарычнай сітуацыі адраджэння легальных форм грамадскага жыцця ў Расійскай імперыі і ўздыму народаў былой Рэчы Паспалітай у пачатку 1860-х гг. палітычна актыўная шляхта Беларусі і Літвы, што склала «белае» крыло апазіцыі царызму, прыйшла да ідэі аднавАць Вялікае Княства Літоўскае як аўтаномную дзяржаўна-палітычную адзінку ў складзе імперыі і спрабавала дамагчыся сваіх дзяржаўна-палітычных ідэалаў з дапамогай рэформ. Выразнікамі інтарэсаў шляхты былі прадвадзіцелі дваранства: магілёўскага – Я. Богуш, гродзенскага – В. Стражынскі, мінскага – А. Лапа, а таксама заснавацель Літоўскага Земскага Крэдытнага Таварыства А. Аскерка. Яны

аж да паўстання шукалі пагаднення з царызмам на прадмет стварэння мясцовай адміністрацыі, аднаўлення дзеяння Статута ВКЛ, адкрыцця Віленскага ўніверсітэта, стварэнне Крэдытнага і Земляробчага таварыстваў, вяртання ўніяцкай веры і да т.п. Але аўтаномія Беларусі і Літвы не ўкладвалася ў дзяржаўнае рэчышча расійскага самадзяржаўя, якое перыравала ўсялякія намеры аслаблення і расчлянення імперыі і жорстка пакарала лідэраў грамадскай думкі, якія дамагаліся аўтаноміі для свайго краю і вяртання забраных атрыбутаў Княства мірным шляхам. Паўстанне 1863 г. – апошняя спроба беларускай і літоўскай шляхты ўзброеным шляхам адрадзіць інстытуты і традыцыі страчанай дзяржавы.

Вызваленчы рух 1861–1863 гг. у Беларусі і Літве нельга разглядаць як другарадны эпізод барацьбы за «гістарычную» Польшчу. Змаганне за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. не супярэчыла імкненню беларусаў і літоўцаў да аднаўлення ўласнай дзяржаўнасці на аснове гістарычнай традыцыі ВКЛ. Таму дзеянні К. Каліноўскага пры ўсім яго «літоўскім сепаратызме» не трэба ўспрымаць як спробу разарваць адносіны з Царствам Польскім і ідэяй барацьбы за вяртанне Рэчы Паспалітай.

К. Каліноўскі выказаўся за «самарондства» і ўтварэнне самастойнага ўраду для Літвы і Беларусі, якія трактаваліся ім як гістарычная і культурная цэласнасць. Жаданне самастойнасці гістарычнай Літвы ў федэрацыі з Польшчай, разам з разыходжаннем па арганізацыйных пытаннях і спосабах вядзення барацьбы, выявілася ў канфлікце Віленскага паўстанцкага цэнтра з варшаўскім ЦНК, у цвёрдасці і рашучасці, з якой ЛПК дамагаўся раўнапраўя ва ўзаемаадносінах з Варшавай.

«Літоўскі сепаратызм» К. Каліноўскага выявіўся ў жаданні, патрабаванні гарантый свабоднага развіцця народаў былога ВКЛ. Наяўнасць у яго праграме лозунга барацьбы за дзяржаўную самастойнасць Літвы і Беларусі пацвярджаецца яго сучаснікамі. Паплечнікі К. Каліноўскага, які не згаджаўся падпарадкаваць паўстанне ў Літве і Беларусі інтарэсам Варшавы, – дзеячы варшаўскага ЦНК (Н. Дзюлеран, Я. Гейштар, О. Авейдэ, Ю. Яноўскі), для якіх Літва і Беларусь былі толькі часткай гістарычнай Рэчы Паспалітай, кінулі яму абвінавачванне ў сепаратызме адносна Польшчы. Аналагічна прадстаўнікі царскай адміністрацыі абвінавачвалі яго ў жаданні адарваць

Літву і Беларусь ад Расіі. Гісторыкі, блізкія да часу і часта да асобы К. Каліноўскага – В. Ф. Ратч, В. Пшыбароўскі, Б. Ліманоўскі і інш., таксама сцвярджаюць, што ён жадаў бачыць Беларусь і Літву незалежнай дзяржавай, злучанай з Польшчай толькі саюзным дагаворам і палітычнай дружбай. Такім чынам, сучаснікі, якія ведалі К. Каліноўскага і былі да яго блізкія, – людзі процілеглых поглядаў і з розных лагераў – сыходзяцца ў сцвярджэнні, што ён адстойваў незалежнасць гістарычнай Літвы.

У праграме К. Каліноўскага гістарычная навука прызнае наяўнасць лозунга барацьбы за дзяржаўную самастойнасць Літвы і Беларусі на аснове гістарычнай традыцыі ВКЛ (У. М. Ігнатоўскі, А. Станкевіч, А. Ф. Смірноў, Г. Кісялёў, працы «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.», «На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы» і інш.), хоць у савецкай гістарыяграфіі (І. Лушчыцкі і інш.) гэты лозунг абвяшчаўся рэакцыйным. Сумненні наконт выстаўлення ім патрабавання палітычнай самастойнасці Літвы і Беларусі на аснове дзяржаўнай традыцыі ВКЛ выказваюцца аўтарамі, якія, як правіла, спецыялістамі па паўстанню 1863 г. і біяграфіі К. Каліноўскага не з’яўляюцца.

Гісторыкам трэба ўлічваць адметнасць дзяржаўна-палітычных ідэалаў нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі і Літве, хоць ён і знаходзіўся «ў цяні» змагання за адбудову Польшчы (Рэчы Паспалітай), а таксама наяўнасць у пачатку 1860-х гг. беларускіх дзяржаватворчых сіл і інтарэсаў, праігнараваных папярэдняй гістарыяграфіяй.

# Глава 4.
# Згасанне грамадска-палітычнай актыўнасці і перадумовы новай актуалізацыі пытання аб адраджэнні Вялікага Княства Літоўскага (1864–1904 гг.)

## 1. Адмова пасляпаўстанцкага пакалення ад намеру вярнуць ВКЛ

Паўстанне 1863–1864 гг. было апошнім значным выступленнем за адбудову супольнай дзяржавы беларусаў і літоўцаў у гістарычнай форме ВКЛ. Ваеннае становішча, працяглая паласа палітычнай рэакцыі пасля падаўлення паўстання, рэпрэсіі і рэжым выключных законаў, усталяваныя ў Беларусі і Літве, надоўга выкаранілі ўсе праявы рэвалюцыйнай і адраджэнскай дзейнасці. Разгляд мясцовай шляхты як «нядобранадзейнага элемента», яе выцясненне з органаў мясцовай улады, дэкласацыя; аслабленне эканамічных пазіцый сацыяльных вярхоў, якім дэманстравалі, што не яны цяпер гаспадары ў краі; замена чыноўнікаў і настаўнікаў выхадцамі з Расіі; ганенні на касцёл, які падтрымліваў сепаратысцкія памкненні, – усё гэта было моцным ударам па тых сацыяльна-прафесійных пластах, якія ў папярэдні перыяд змагаліся за працяг гістарычнай дзяржаўнай традыцыі. Забарона на адкрыццё ВНУ адмоўна адбілася на фарміраванні інтэлігенцыі, а стварэнне выключна рускай і праваслаўнай сістэмы адукацыі разам з дэфармацыяй гістарычнай памяці на аснове сумесі вялікарускай ідэалогіі і заходнерусізма[732] перакрывала каналы фарміравання патэнцыйных змагароў за вяртанне ранейшай дзяржаўнасці. Палітыка рэпрэсій і русіфікацыі знішчыла тыя парасткі беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, якія пачалі з'яўляцца ў 40–50-я гг., надоўга затрымала развіццё вызваленчага руху і новую пастаноўку ім пытання аб формах

[732] *Смалянчук А.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. СПб.: Неўскі прасцяг, 2004. С. 101.

дзяржаўнага ўладкавання Беларусі. Ён ажывіўся толькі на мяжы 70–80-х гг., калі ў барацьбу ўступіла новае пакаленне рэвалюцыйных дэмакратаў.

У рэчышчы палітыкі забеспячэння тэрытарыяльнай і дзяржаўнай цэласнасці Расійскай імперыі перарываліся любыя крокі, якія маглі перашкодзіць курсу на ўмацаванне адзінства яе адміністрацыйнай і прававой прасторы. Выклікалі падазрэнні «зборышчы і з'езды без папярэдняга на тое дазволу начальніка», якія адбыліся ў лютым 1868 г. у шматлікіх маёнтках Свянцянскага і Віленскага паветаў, у мястэчку Свір Свянцянскага павета. Як палітычнае злачынства расцэньваўся спеў песні са словамі: «Пачакайце ж, … Польшча яшчэ не згінэла і не згіне і як была, так і бэндзе»[733]. Небяспеку ўлады бачылі нават у слове «айчына». У 1866–1867 гг. Віленскі палявы аўдытарыят разглядаў справу жыхаркі Мінскага павета Хрысціны Савіцкай – «галоўнага завадатая і кіраўніцы» спявання пры пахаванні памерлага сваяка псалма, да кожнай страфы якога дадаваліся словы з забароненага палітычнага гімна: «Перад тваім алтаром прыносім малітву: айчыну і вольнасць зрабі нам ласку вярнуць»[734].

Пераследу падлягала ўсё, што нагадвала пра былую дзяржаву, яе славутыя старонкі, катастрофу і барацьбу за выратаванне: распаўсюджванне ў 1876 г. у Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губернях фотаздымкаў з карцін Я. Матэйкі «Прыняцце Стэфанам Баторыем рускага пасольства» і «Падзел Польшчы»[735]; захаванне ў маёнтку С. Матусевіча у Кобрынскім уездзе кніг пра Т. Касцюшку і паўстанне 1794 г.[736]; усё гэта прызнавалася злачынстам і каралася.

У 1860-я гг. цалкам адышло пакаленне, якое нарадзілася ў ВКЛ і за яго змагалася (у тым ліку «апошнія з магікан»

[733] О сборищах и съездах помещиков, а также суждениях о Правительственных распоряжениях. 22 февраля 1868 г. // ДГАЛ. Ф. 419. Воп. 2. Спр. 277. Арк. 2.

[734] О пении возмутительного гимна жителями Минского уезда 4 марта 1866 г. 1 июля 1866 – 12 января 1867 г. // ДГАЛ. Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 974. Арк. 2, 31 адв., 42.

[735] О продаже торговцами товаров в разнос в Виленской, Ковенской и Гродненской губерниях фотографических снимков с недозволенных в России картин известного польского художника Матейки. 9 февраля 1876 – 11 ноября 1878 г. // ДГАЛ. Ф. 378. Палітычны аддзел. 1876 г. Спр. 30. Арк. 1.

[736] По представлению Гродненского губернатора от 30 июня 1876 г. за № 4339 о найденных у помещицы Кобринского уезда Стефании Матусевич книгах о польском востании 1794 и другие. 2 августа 1876 – 4 декабря 1878 г. // ДГАЛ. Ф. 378. Палітычны аддзел. 1876 г. Спр. 73. Арк. 1–3 адв.

А. Чартарыйскі, Т. Нарбут). Разам з ім паступова адыходзіць у гісторыю і ідэя адраджэння Княства.

Па меры таго, як гісторыя ВКЛ аддалялася храналагічна, а вобраз яго рамантызаваўся літаратурай, ВКЛ ператвараўся з катэгорыі рэальнай, асязальнай (вось-вось, яшчэ адно намаганне і дзяржава вернецца) у катэгорыю духоўную. Міф пра ВКЛ станавіўся часткай беларускай нацыянальнай ідэалогіі, магутны імпульс развіццю якой даў удзельнік паўстання 1863 г., расчараваны ў яго ідэалах, Ф. Багушэвіч. Перыяд знаходжання ў складзе ВКЛ ён разглядаў «залатым векам» беларускай гісторыі. Я. Карскі ацаніў погляды Ф. Багушэвіча, калі той нагадваў беларусам пра іх сумеснае жыццё з Літвой у мінулым, як сепаратысцкія[737].

Дыяпазон настрояў мясцовай грамадскасці ва ўмовах рэпрэсій і выключных законаў быў шырокім: ад гатоўнасці прыстасавацца да новых умоваў дзеля захавання ўласных эканамічных пазіцый, кар'еры да жадання працягваць узброеную барацьбу. Паўстанцы 1863 г. заставаліся героямі для наступных пакаленняў моладзі. Сярод сацыяльных вярхоў найбольш распаўсюджанымі былі згодніцкія настроі кампрамісу з царызмам.

Па назіраннях А. Смалянчука, «у апошняй трэці XIX ст. ліцвінства не знікла. У ім нават знайшлося месца для ўспрыняцця тэрыторыі былога ВКЛ у якасці Беларусі і Літвы». Праўда, ліцвінства ў гэты час набыло новыя рысы. «Менавіта як авантуру ацэньвала паўстанне 1863 г. частка шляхты беларускіх і літоўскіх земляў у другой палове 60–70-х гг., якая займала пазіцыі згодніцтва, – сцвярджае гісторык. – Такое ліцвінства слаба нагадвала былую прыхільнасць да палітычных традыцый ВКЛ. Яно ператваралася ў праяву рэгіяналізму ў польскім руху»[738]. Разам з тым, як адзначае гісторык, большасць мясцовай паланізаванай грамадскасці супрацьстаяла выключнаму заканадаўству і «імкнулася адстойваць інтарэсы гістарычнай Літвы, якія не супадалі з польскімі нацыянальнымі інтарэсамі»[739].

У польскай гістарыяграфіі выказваецца наступнае

---

737 *Карский Е. Ф.* Белорусы. Вильна: Тип. А. Г. Сыркина, 1904. Т. 1: Введение к изучению языка и народной словесности. С. 451.

738 *Смалянчук А.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. СПб.: Неўскі прасцяг, 2004. С. 118.

739 Тамсама. С. 115.

палажэнне: прадстаўнікі пасляпаўстанцкага пакалення, якое змірылася з тым, што ВКЛ ужо не вярнуць, першымі ў адрозненне ад пакаленняў 1831 і 1863 гг. з іх імкненнем да ўласнай дзяржаўнасці, прызналі сябе грамадзянамі Расійскай імперыі і выступілі за расійскую дзяржаўнасць і аўтаномію ў ёй. І гэты факт прыналежнасці гістарычнай Літвы да Расіі ўпершыню ў гісторыі быў шырока прызнаны беларускай і літоўскай грамадскай думкай як аснова ўласнай палітычнай ідэалогіі. Тэорыя адбудовы Літвы ў гістарычных межах пераўтварылася ў праект аўтаноміі – «утопію» змяніў палітычны рэалізм. Існуе меркаванне, што пастулат аўтаноміі належыць разглядаць як паражэнне ў змаганні за вяртанне сваёй дзяржавы і кампраміс з пераможцам.

На змену ідэі адраджэння ВКЛ прыходзяць новыя палітычныя канцэпцыі, адпаведныя духу часу. Група беларускіх народнікаў у Пецярбургу, якая першай у сваёй нелегальнай газеце «Гоман» (1884) артыкулявала нацыянальную суб'ектнасць беларусаў, сфармулявала пастулат іх дзяржаўнай самастойнасці ў складзе расійскай федэратыўнай дзяржавы. Дзяржаўна-палітычны ідэал гоманаўцаў, для якога характэрна імкненне да саюзу з Расіяй, карэнным чынам адрозніваўся ад шляхецкага. На думку Р. Радзіка, адарвацца ад традыцыйных катэгорый мыслення, у той час яшчэ моцна ўкаранёных у вышэйшых пластах беларускага грамадства, гоманаўцам дапамагло іх сацыяльнае паходжанне – яны не былі дваранамі (Х. Ратнер і А. Марчанка паходзілі, адпаведна, з купцоў і сялян) і паходжанне геаграфічнае – з усходняй Беларусі. Яны не выхоўваліся ў духу «gente Lithuani, natione Poloni», у большасці сваёй былі праваслаўнымі і часцей сутыкаліся з рускай культурай, чым з польскай, – і з-за ўдзелу ў рускім рэвалюцыйным руху, і проста таму, што жылі і вучыліся ў расійскай сталіцы[740].

Параўноўваючы з К. Каліноўскім і яго аднадумцамі погляды беларускіх народавольцаў-гоманаўцаў, А. Станкевіч канстатаваў: «Першыя яшчэ агляданіся на Польшчу і на традыцыі Вял. Кн. Літ., а другія лучылі лёс Беларусі з Расеяй і ўжо аб традыцыях Вял. Кн. Літ, калі не лічыць Грынявіцкага,

[740] *Радзик Р.* Петербургские народники – творцы современной белорусской национальной идеи // Белорусский сборник: статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. СПб.: Издательство Российской национальной библиотеки, 2005. Вып. 3. С. 83.

бадай не помнілі нічога. Гэтыя інтэлігенты ўжо не называлі сябе літоўцамі, як гэта рабіў Каліноўскі і нават яшчэ Грынявіцкі, а выразна беларусамі. Яны ўжо перасталі жыць традыцыямі Вял. Кн. Літоўскага. Можна смела сказаць, што на беларускіх народавольцах, што групаваліся каля «Гомона», ці мо яшчэ лепш: на самым «Гомоне», – традыцыі польскія, шляхоцкія і літоўскія адмерлі цалкам»[741].

Р. Радзік звярнуў увагу на тое, што «ўпершыню ясна сфармуляваная беларуская нацыянальная ідэя была выказана за межамі Беларусі і, немалаважна, на чужой, хоць і функцыянуючай тут ужо сто гадоў, рускай мове». Фармулёўка гэтай ідэі ў Пецярбургу мела вынікам яе адарванасць ад беларускай зямлі і яе рэалій. Сітуацыя, у якой узнік «Гоман», на думку польскага вучонага, была вынікам паражэння паўстанняў, ліквідацыі Віленскага ўніверсітэта і неабходнасці для беларускай моладзі вучыцца ў Расі або па-за межамі імперыі[742]. Гоманаўцы, як характарызуе іх У. Е. Снапкоўскі, «сумяшчалі ідэі сацыялістаў-рэвалюцыянераў з рэгіянальнымі краёвымі патрабаваннямі беларускіх патрыётаў»[743].

З задушэннем паўстання пачынаюць разыходзіцца інтарэсы былых саюзнікаў па ВКЛ і Рэчы Паспалітай, бо «і да нашага краю нарэшце дайшла «эпоха нацыяналізмаў»[744]. Стала відавочным, што нацыянальна-вызваленчыя рухі ў Польшчы і ў Беларусі ўжо не змяшчаюцца ў адным рэчышчы, у кожнага з іх фарміраваліся свае мэты і ўласны шлях. З гэтага часу беларускія, ці «ліцвінскія» нацыянальныя патрабаванні вылучаюцца з польскага вызваленчага кантэксту[745].

Заканчэнне «змрочнага 20-годдзя», як назваў польскі гісторык Е. Савіцкі перыяд 1863–1883 гг.[746], адначасова

[741] *Станкевіч А.* Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення // Станкевіч А. Выбранае; уклад., прадм. і камент. Ул. Конана. Мінск: Кнігазбор, 2008. С. 244.

[742] *Радзик Р.* Петербургские народники – творцы современной белорусской национальной идеи // Белорусский сборник: статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. СПб.: Издательство Российской национальной библиотеки, 2005. Вып. 3. С. 85–86.

[743] *Снапковский В. Е.* История внешней политики Беларуси: пособие. Минск: БГУ, 2013. С. 217.

[744] *Лялькоў І.* Традыцыі Вялікага Княства Літоўскага ў палітычным жыцці беларускіх земляў у ХІХ ст. // Спадчына. 2002. № 2–3. С. 65.

[745] *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 48.

[746] *Sawicki J.* Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń: TNT, 1998. S. 73.

стала пачаткам распаду адзінства народаў былога ВКЛ. З зараджэннем самастойных літоўскага (звычайна датуюць 1883 г.) і беларускага нацыянальных рухаў яны ставяць сабе мэтай стварэнне нацыянальных дзяржаўных або квазідзяржаўных арганізмаў. Што датычыць аднаўлення ВКЛ, то да гэтай ідэі зноў вярнуліся праз 40 гадоў пасля паўстання, калі на арэну палітычнага жыцця Беларусі і Літвы выйшаў рух краёўцаў.

У грамадскіх рухах апошняй трэці XIX – пачатку XX ст., якія актывізаваліся ў заходніх губернях у перыяды лібералізацыі дзяржаўнай палітыкі, важнае месца займаюць іншыя каштоўнасці і інтарэсы. Ліберальныя грамадскія арганізацыі і групы займаліся не тэарэтызаваннем, але вырашэннем сваіх надзённых праблем, якія зводзіліся да ўстанаўлення грамадзянскіх правоў і свабоды слова, друку, сходаў, развіцця мясцовага самакіравання. Прыхільнікамі апошняга былі кансерватары, упэўненыя ў тым, што яны самі і складуць большасць у органах самакіравання. Радыкальныя грамадскія рухі («хаджэнне ў народ», марксізм) абмяркоўвалі пытанні не дзяржаўнага, а грамадскага ўладкавання, што спрыяла распаўсюджванню цікавасці да сацыялістычных ідэй[747].

Разам з тым і ў ліберальным, і ў кансерватыўным, і ў радыкальным рухах, у якіх да таго ж вылучаюцца нацыянальныя плыні, пытанне дзяржаўнасці не здымалася з парадку дня: палякі «вылучалі ліберальныя патрабаванні, ставячы на першае месца ідэю нацыянальнага вызвалення, у беларусаў ліберальныя патрабаванні спалучаліся з нацыянальна-рамантычнай рыторыкай»[748]. Шматлікія гурткі самаадукацыі сацыяльна-рэвалюцыйнай накіраванасці, якія існавалі амаль ва ўсіх гарадах Беларусі, чытаюць, як паведамляў у 1875 г. мінскі губернатар, творы Ласаля, Маркса, Дарвіна, Прудона, але адначасова «мараць пра аўтаномію Польшчы» і выступаюць супраць русіфікатарскіх мераў ураду[749]. М. Сакалова заключае, што з улікам блізкасці мяжы, адчування непасрэднай сувязі з еўрапейскімі падзеямі ўвесь «сацыяльны неспакой гэтага перыяду выліўся, у канчатковым

[747] *Соколова М.* Общественные объединения и движения в Беларуси в конце XVIII – начале XX века: проблемы становления гражданского общества. Минск: 2002. С. 79, 84, 93.

[748] Тамсама. С. 79.

[749] Тамсама. С. 88.

рахунку, у традыцыйныя для *(гэтай – С. М.)* тэрыторыі формы палітычнага паўстання за аднаўленне Рэчы Паспалітай»[750].

## 2. Абставіны новага звароту да спадчыны Княства

Часы грамадскай апатыі і ментальнай стагнацыі спадчыннікаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, выкліканыя падаўленнем апошняга паўстання, мінулі і на мяжы XIX–XX ст. на арэну барацьбы выйшлі новыя сілы, з'явіліся новыя палітычныя настроі.

Падзеі 1890-х гг. – перанос праху А. Міцкевіча з Парыжа ў Кракаў (1890), стагоддзе Канстытуцыі 3 мая, Таргавіцкай канфедэрацыі і паўстання Т. Касцюшкі – абуджалі ўспаміны палякаў і ліцвінаў пра барацьбу за незалежнасць у канцы XVIII ст. У 1893 г., гадавіну Таргавіцкай канфедэрацыі, «уся краіна ад вясёлай Варшавы да аддаленых куткоў Літвы» апранулася ў жалобу. Як гаварылася ў аглядзе рэвалюцыйнага руху на гэтых землях, зробленым у 1899 г. для члена расійскага ўраду П. Шувалава, не пазначаныя ў календары, гэтыя дні і гадавіны былі захаваны ў сэрцах палякаў і ліцвінаў[751]. Абуджаныя ўспаміны «аб славутым гістарычным мінулым Літвы» нараджалі памкненні да адраджэння яе палітычнай самастойнасці[752].

Грамадскую думку ўзбударажыла і развярэдзіла даўняя крыўда – устаноўка ў Вільні помнікаў М. Мураўёву (1897), які 40 гадоў таму «агнём і крывёю заліў усю нашу краіну», і Кацярыне II (1903), «якая 100 гадоў таму наклала на нас сваю ўладу»[753].

У згаданым аналітычным аглядзе для графа П. Шувалава гаварылася, што ідэя аднаўлення страчанай дзяржаўнасці не згасла сярод народаў былога ВКЛ і Рэчы Паспалітай, а знаходзіла ўсё больш прыхільнікаў па меры знікнення слядоў апошняга паўстання і ўзрастання новых пакаленняў. Аглядальнік

[750] Тамсама. С. 87.

[751] Обзор революционного польского движения после восстания 1863 г., составленный Турау Е. с препроводительным письмом Турау Сипягину Д. С. 11 декабря 1899 г. // ДАРФ. Ф. 586. Воп. 1. Спр. 194. Арк. 4, 9 адв., 25 адв.

[752] Тамсама. Арк. 47 адв.

[753] Департамент полиции. Агляды // ДАРФ. Ф. 102. Воп. 253. Спр. 142. Арк. 299 адв. – 300; Обзор революционного польского движения после восстания 1863 г., составленный Турау Е. с препроводительным письмом Турау Сипягину Д. С. 11 декабря 1899 г. // ДАРФ. Ф. 586. Воп. 1. Спр. 194. Арк. 41.

перасцерагаў палітыка: гістарычны прыклад пераможаных народаў вучыць, што яны дамагаюцца самастойнасці толькі шляхам дзейснага супраціўлення, бо пасіўнасць вядзе да страты даверу да палітычнай сілы народа[754].

Культурная праца інтэлектуалаў – навуковыя даследаванні, кнігі, калекцыі старажытных артэфактаў, газеты (літоўская «Auśra» з 1883 г., «Гоман» (1884), з 1905 г. – «Наша ніва») – будзілі ў народаў нацыянальны дух. «Фундаментам» ідэалогіі беларускага вызваленчага руху другой паловы XIX ст. стала публіцыстыка Францішка Багушэвіча, якая падкрэслівала пераемнасць багатых дзяржаўна-палітычных і культурных традыцый ВКЛ з сучаснымі задачамі сацыяльнага і палітычнага вызвалення і культурнага адраджэння беларускага народа.

Моладдзю, інтэлігенцыяй усё больш авалодвалі патрыятычна-рэвалюцыйныя настроі, якія ішлі і ў народныя масы. На гістарычную арэну ўпершыню выходзіў народ. У новай атмасферы пачало абуджацца палітычнае жыццё. Гэта вылівалася ў стварэнне на радзіме і за мяжой тайных гурткоў і партый. Іх рэвалюцыйныя выданні і адозвы выклікалі бражэнне розумаў. З'явіліся прыхільнікі падрыхтоўкі новага паўстання. У Варшаве і Вільні вялася «дзейсная агітацыя на глебе тэрору». Не выключалася царазабойства[755]. У 1905 г. задавалі пытанне: «Чацвёртае паўстанне ці першая рэвалюцыя?»[756]. Прадпрымаліся спробы аб'яднання палітычных сілаў народаў краю. Іх нацыянальныя рухі пачыналі выпрацоўваць свае палітычныя ідэалы. Моцная апазіцыя існуючаму дзяржаўнаму ладу, якая з 1903 г. праявілася ў расійскім грамадстве, не замарудзіла аказаць уплыў на эвалюцыю поглядаў палітычных сілаў на ўскраінах імперыі.

Змена геапалітычнай сітуацыі, абуджэнне нацыянальных рухаў, расійскія рэвалюцыі зноў ажывілі надзеі на аднаўленне ВКЛ.

Востры крызіс царскай улады з пачаткам руска-японскай вайны, падзенне прэстыжу манархіі, расстройства фінансаў імперыі разам з напаленай грамадска-палітычнай атмасферай

---

754 Обзор революционного польского движения после восстания 1863 г., составленный Турау Е. с препроводительным письмом Турау Сипягину Д. С. 11 декабря 1899 г. // ДАРФ. Ф. 586. Воп. 1. Спр. 194. Арк. 2–2 адв.

755 Тамсама. Арк. 3, 12.

756 *Pajewski J.* Odbudowa Państwa Polskiego. 1914–1918. Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2005. S. 21.

у «турме народаў» прадвяшчалі вялікія і беспаваротныя змены. У цэнтры і на перыферыі для ўсіх стала зразумелым, што падзеі, якія разыгрываліся на Далёкім Усходзе, незалежна ад зыходу вайны, штурхнуць Расію на новы шлях, прымусяць змяніць адносіны да прыгнечаных народаў, лічыцца з імі.

Да народаў так званага Паўночна-Заходняга краю вярталася страчаная вера ва ўласныя сілы. Вайна абудзіла іх ад «палітычнай спячкі»; практыку палітычнага жыцця набывала новае пакаленне інтэлігенцыі. Пачалі адкрыта гаварыць аб праве нацый на самавызначэнне. У Беларусі, Літве, Польшчы з'яўляліся радыкальныя і рэвалюцыйныя жаданні, з якіх галоўным было: адновім Айчыну «ў межах, якія Бог вызначыў і гістарычныя традыцыі перадалі». З'явіліся і новыя палітычныя, а таксама сацыяльныя лозунгі.

Моцны імпульс для палітычнай дзейнасці на абшарах былых ВКЛ і Рэчы Паспалітай далі канферэнцыя рэвалюцыйных і ліберальных партый Расіі ў Парыжы 30 верасня – 2 кастрычніка 1904 г. і першы з'езд дзеячаў земстваў Расіі 6–9 лістапада 1904 г. Канферэнцыя асудзіла царскую палітыку нацыянальнага прыгнёту і выказалася за права самавызначэння народаў. З'езд выступіў за пашырэнне мясцовага самакіравання на ўсю імперыю[757].

Адукаванае грамадства заходніх губерняў адчула, што ўрад вагаецца і гатовы пайсці на нейкія рэформы. У Варшаве, Вільні – цэнтры літоўскага і беларускага нацыянальных рухаў – адбываліся шматлікія сходы інтэлігенцыі. На іх абмяркоўваліся патрэбы народаў краю, выпрацоўваліся розныя праграмы дзеянняў. Побач з праблемамі Фінляндыі (парушэнне яе канстытуцыйных правоў) і Польшчы (пошук новых шляхоў атрымання незалежнасці і ідэя палітычнай аўтаноміі Каралеўства Польскага), востра ўзнятымі іх палітычнымі сіламі ў 1904–1905 гг., выходзіла тады на «свет Божы» і пытанне будучыні Беларусі і Літвы. Праўда, як слушна заважыў Р. Мікныс, зрабіць пытанне іх палітычнай аўтаноміі прадметам афіцыйных палітычных дэбатаў было вельмі цяжка, непараўнальна цяжэй, чым праблем Польшчы і Фінляндыі. Катэгарычную настроенасць супраць самой пастаноўкі пытання

---

[757] *Василевский (Плохоцкий) Л.* Современная Польша и ее политические стремления. СПб.: Тип. Общества «Общественная польза», 1906. С. 198; *Miknys R.* Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905 // Lithuano-Slavica Poznaniensia Studia Historica. 2001. T. VIII. S. 100.

аб самастойнай Беларусі-Літве мелі кіруючыя колы Расіі, якія прызнавалі былую тэрыторыю ВКЛ «спрадвечна рускай зямлёй». Справу ўскладнялі галасы польскіх палітычных сіл, якія таксама прэтэндавалі на спадчыну ВКЛ, сваім рытарычным пытаннем, «што такое Літва, якой павінна быць, а дакладней з кім і супраць каго?»[758]. Справа ў тым, што сярод беларускай і літоўскай інтэлігенцыі традыцыйна існаваў пэўны палітычны сепаратызм адносна Кароны. Ён, аднак, па словах даследчыка В. Вяльгорскага, не перакрочваў межаў таго, што называюць «рэгіяналізмам» у адносінах да агульнай польска-літоўскай айчыны[759].

У сваіх палітычных дыскусіях, распачатых у 1904–1905 гг., аб праве народаў ВКЛ на самавызначэнне прэтэндэнты на яго спадчыну апелявалі да гістарычнай традыцыі, якую пастунова ўсё больш прыстасоўвалі да інтарэсаў сваіх нацый і патрэб бягучай палітыкі. У дыскусіях выпрацоўваліся розныя варыянты ідэі рэінкарнацыі ВКЛ, у розных палітычных камбінацыях.

Гэтай інтэлігенцкай ідэяй былі апантаны прадстаўнікі розных грамадска-палітычных і нацыянальных рухаў: беларускага, літоўскага, польскага, некаторыя іх лідары і ідэолагі, якія лічылі сябе правапераемнікамі ВКЛ, мелі «дзяржаўнае пачуццё» і палітычную свядомасць – перакананне ў тым, што час адбудовы дзяржавы наступіць. Гэта было дастаткова вузкае кола людзей з ліку дваран і сялян (літоўскі рух быў прадстаўлены, галоўным чынам, інтэлігенцыяй у першым пакаленні, з сялян), гатовых актыўна дзейнічаць, легальна і нелегальна, у імя абароны нацыянальных правоў сваіх народаў і атрымання імі незалежнасці. Мысліцелі і палітыкі, яны разумелі, што для адраджэння ВКЛ патрэбны два фактары: знешні і ўнутраны. Знешні – змена міжнароднай сітуацыі і падзенне царызму ў Расіі, унутраны – працяг стогадовай традыцыі змагання. Эпоха войнаў і рэвалюцый, якая пачалася ў 1904–1905 гг., упершыню пасля 1795 г. стварыла перадумовы для рэалізацыі мараў некалькіх пакаленняў змагароў і спрычынілася да высвятлення пазіцый народаў-нашчадкаў ВКЛ.

Аднак новы зварот беларускага руху да пытання аб

[758] *Miknys R.* Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905 // Lithuano-Slavica Poznaniensia Studia Historica. 2001. T. VIII. S. 100–101.

[759] *Wielhorski W.* Litwa etnograficzna. Przyroda, jako podstawa gospodarcza. Rozwój stosunków narodowościowych. Wilno: Wydawnictwo Wileńskiego Biura Informacyjnego, 1928. S. 143–144.

адраджэнні ВКЛ адбыўся пры неспрыяльных для яго абставінах. У канцы XIX ст., як адзначаюць даследчыкі, украінцы, літоўцы і латышы апярэжвалі беларусаў на 20–30 гадоў у сваіх патрабаваннях і барацьбе за ідэнтычнасць[760]. Спецыяліст па этнагісторыі П. У. Церашковіч кантатуе, што беларусы адным з апошніх народаў у Еўропе сталі на шлях нацыянальнай кансалідацыі, што, зрэшты, характэрна для ўсёй усходняй часткі Цэнтральна-Усходняй Еўропы[761]. Сярод прычын такога адставання называюцца наступныя.

Беларусы значна саступалі ўкраінцам па ступені развіцця палітычна актыўных ідэягенерыруючых сацыяльных груп (так, доля ўкраінцаў сярод юрыстаў удвая перавышала аналагічны паказчык сярод беларусаў). Адсутнасць універсітэцкіх цэнтраў у Беларусі не дазволіла сфарміравацца нацыянальна-арыентаванай прафесуры і значна абмежавала магчымасць сацыяльнай мабільнасці карэннага насельніцтва (колькасць сялян з універсітэцкай адукацыяй ва Украіне была ў 20 разоў больш, чым у Беларусі)[762].

Беларусы, гэтак жа як і літоўцы, з’яўляліся сялянскім народам, а доля літоўцаў-гараджан была нават меншай. Абодва народы не мелі сваіх універсітэцкіх цэнтраў, а ўзровень адукацыі літоўцаў быў ніжэйшым. Разам з тым літоўскі рух адрозніваўся зайздросным дынамізмам і пасля польскага руху першым прад’явіў прэтэнзіі на стварэнне нацыянальнай дзяржавы. П. У. Церашковіч бачыць у гэтым вынік уздзеяння цывілізацыйна-канфесійнага фактару, наяўнасці надзвычай актыўнай у нацыянальна-культурных адносінах літоўскай эміграцыі. Важным фактарам з’яўляецца актыўнасць нешматлікай, але надзвычай энергічнай літоўскай інтэлігенцыі, чые паводзіны, на думку этнолага, вызначаліся натхняльнай роляй гістарычнай памяці. «Гістарычнасць» літоўцаў, у адрозненне ад беларусаў, не падлягала ніякаму сумневу[763].

«Фарміраванне беларускай нацыянальнай супольнасці працякала ў ледзь ці не найменш прыдатных для гэтага ўмовах, – піша П. У. Церашковіч. – Практычна ўсе значныя для паспяховага развіцця нацыянальнага руху фактары або

[760] *Laniec S.* Białoruś w dobie kryzysu społeczno-politycznego (1900–1914). Olsztyn: Druk: Wyższa Szkoła Pedagogiczna, 1993. S. 9.

[761] *Терешкович П. В.* Этническая история Беларуси XIX – начала XX в.: В контексте Центрально-Восточной Европы. Минск: БГУ, 2004. С. 180.

[762] Тамсама. С. 194.

[763] Тамсама. С. 195.

былі слаба выяўлены (рынкавая актыўнасць, урбанізацыя, сацыяльная мабільнасць, пісьменнасць, этналінгвістычная і канфесійная адметнасць), або наогул адсутнічалі (універсітэцкія цэнтры, «гістарычнасць», «П'емонт»). Таму відавочнае спазненне нацыянальнай кансалідацыі беларусаў у XIX – пачатку XX ст. насіла аб'ектыўна абумоўлены характар»[764].

Сярод фактараў, якія абумовілі цяжкі шлях беларусаў да нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння, у тым ліку на шляхах аднаўлення ВКЛ, побач з канфесійным падзелам на праваслаўных і католікаў і русіфікатарскай палітыкай царызму, У. Е. Снапкоўскі называе і тое, што беларускае пытанне (у адрозненне ад польскага ці нават украінскага) занадта доўга заставалася толькі ўнутранай справай Расіі, а беларускі рух – феноменам толькі ўнутрырасійскага палітычнага жыцця. У беларускага этнасу ў яго супраціўленні не было такой знешняй маральнай і арганізацыйнай падтрымкі, якой для ўкраінцаў Расіі была нацыянальна-культурная аўтаномія ў Аўстра-Венгрыі, для літоўцаў – літоўскі этнічны анклаў ва Усходняй Прусіі[765].

Урэшце, новай пастаноўцы беларускім рухам пытання аб уласнай дзяржаўнасці перашкаджала пазіцыя царскага ўраду. Ва ўмовах абуджэння нацыянальных рухаў на ўскраінах імперыі яго палітыка па-ранейшаму вызначалася прынцыпам захавання «адзінай і непадзельнай Расіі» і любыя патрабаванні свабоды нацыянальнага развіцця, а тым больш палітычнай аўтаноміі або незалежнасці (апошнюю патрабавалі толькі Польшча і Фінляндыя) разглядаліся як сепаратысцкія і антыдзяржаўныя[766].

**Такім чынам,** пасляпаўстанцкія рэпрэсіі і палітыка русіфікацыі надоўга выкаранілі праявы грамадскай актыўнасці на карысць вяртання дзяржаўнасці, нанеслі ўдар па сацыяльна-прафесійных пластах – носьбітах гэтай ідэі і перакрылі каналы фарміравання новых пакаленняў змагароў. Але мара-ідэя жыла ў шляхецкіх маёнтках, увасаблялася ў несанкцыянаваныя з'езды памешчыкаў, патрыятычныя прамовы і спевы, распаўсюджванне літаратуры і сімволікі, што нагадвала пра былую дзяржаву. Імперыя падаўляла любыя праявы патрыятызму і сепаратызму.

[764] *Терешкович П. В.* Этническая история Беларуси XIX – начала XX в.: В контексте Центрально-Восточной Европы. Минск: БГУ, 2004. С. 197.

[765] *Снапковский В. Е.* История внешней политики Беларуси: пособие. Минск: БГУ, 2013. С. 216.

[766] Тамсама. С. 219.

З адыходам пакалення, якое нарадзіліся ў ВКЛ і за яго змагаліся, сам вобраз ВКЛ, рамантызаваны літаратурай, ператварыўся з катэгорыі рэальнай у духоўную. Грамадскія настроі пакаленняў апошняй трэці XIX ст. вагаліся ад згодніцтва з уладамі, асабліва распаўсюджаныя сярод сацыяльных вярхоў, да жадання моладзі, інтэлігенцыі працягнуць барацьбу.

Працэс фаміравання нацый, які паскорыўся к канцу XIX ст., развёў інтарэсы былых саюзнікаў па ВКЛ. Спачатку літоўцы і беларусы ў пошуках шляхоў дзяржаўнага будаўніцтва перастаюць па-ранейшаму азірацца на Польшчу, а з 1883–1884 гг. ідуць уласнымі шляхамі і фарміруюць свае мэты. З аднаго боку, міф пра ВКЛ становіцца адным з «кітоў» беларускай нацыянальнай ідэалогіі (Ф. Багушэвіч). З другога, не звязаныя са шляхецкай традыцыяй і каталіцкай верай выхадцы з Усходняй Беларусі гоманаўцы сфармулявалі пастулат аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі. Разам з тым «сацыяльны неспакой» у Беларусі ў апошняй трэці XIX – пачатку XX ст. па-ранейшаму быў завязаны з ідэяй аднаўлення страчанай дзяржаўнасці. Пастулат аўтаноміі Беларусі і Літвы на аснове расійскай дзяржаўнасці, які ў пачатку XX ст. замацаваўся ў палітычнай ідэалогіі нацыянальных рухаў краю, можна разглядаць як прызнанне імі свайго паражэння ў змаганні за адбудову ВКЛ і кампраміс з пераможцам.

З'яўленне новых палітычных настрояў у канцы XIX ст., вяртанне спадчыннікам ВКЛ страчанай веры ва ўласныя сілы, культурная работа інтэлектуалаў, 100-гадовы юбілей падзей, звязаных з гібеллю і спробамі выратавання дзяржавы, нараджалі імкненне да аднаўлення яе палітычнай самастойнасці. Гэта ідэя знаходзіла прыхільнікаў у новых пакаленнях. Надзея на аднаўленне ВКЛ зноў ажывае ў 1903 г. і ўзмацняецца з 1904–1905 гг. Інтэлігенцыя краю абмяркоўвае патрэбы сваіх народаў, выпрацоўвае розныя праграмы дзеянняў. Аднак на этапе новых пошукаў шляхоў дзяржаўнага ўладкавання Беларусі і Літвы ў гістарычнай форме ВКЛ беларускі рух прайграваў нацыянальным рухам сваіх былых саюзнікаў па ВКЛ па маштабам, лідарству, узроўню нацыянальнага самаўсведамлення народа.

# Глава 5.
# Эвалюцыя падыходаў да палітычнай спадчыны Вялікага Княства Літоўскага ў 1904–1920 гг.

## 1. Вызначэнне народамі-нашчадкамі ВКЛ сваіх пазіцый адносна яго палітычнай спадчыны ў 1904–1914 гг.

***Дзяржаўная традыцыя Вялікага Княства Літоўскага ў ідэалогіі краёвага руху пачатку XX ст.*** Сфарміраваная на аснове сентымента* да гістарычнай традыцыі Вялікага Княства Літоўскага краёвая ідэя – культурны і палітычны феномен Беларусі і Літвы першай паловы XX ст. Заснаваная на гістарычнай свядомасці, памяці і эмацыйнай сувязі з ВКЛ, яна з'явілася ў час вялікіх узрушэнняў і грамадска-палітычных пераўтварэнняў, выкліканых расійскай рэвалюцыяй 1905–1907 гг. Але яе вытокі, звязаныя з адстойваннем дзяржаўнай самастойнасці ВКЛ, сягаюць у далёкае мінулае.

Вытокі краёвай ідэі яе прыхільнікі выводзілі з часоў вялікага князя Вітаўта, які стварыў паміж Кракавам і Масквой асобны дзяржаўны арганізм з Літвы і Беларусі. Таму ідэю стварэння, абароны, а потым – і аднаўлення «самастойнай дзяржаўнасці пад знакам Пагоні» называюць Вітаўтавай ідэяй, якая адрозніваецца ад Ягелонскай ідэі акцэнтам на суверэнітэт ВКЛ.

Вялікі ўплыў на фарміраванне Вітаўтавай ідэі аказаў даўні «літоўскі сепаратызм», які ў грамадска-палітычным жыцці беларуска-літоўскіх зямель пастаянна змагаўся (і спалучаўся) з другой аднолькава моцнай тэндэнцыяй – салідарнасцю інтарэсаў з Польшчай. Ён выяўляўся ў супраціўленні ліцвінскай шляхты ўсялякім захадам скасаваць унію ВКЛ з Польскім каралеўствам і ператварыць Рэч Паспалітую з польска-літоўскай федэрацыі ва ўнітарную і польскую дзяржаву. Па словах М. Ромера, адчуванне ВКЛ сваёй адметнай палітычнай ідэнтычнасці не насіла характару дзяржаўнага сепаратызму, а было толькі праявай жадання ліцвінскай шляхты захаваць

* Сентымент – эмацыйная ўстаноўка; нерацыянальныя пачуцці і жаданні людзей, якія вызначаюць матывы іх дзеянняў

выключна для сябе ўсе выгоды ў краі[767]. У сучаснай гістарычнай літаратуры для пазначэння палітычных тэндэнцыі асобных частак дзяржавы да самастойнага палітычнага жыцця выкарыстоўваюць тэрмін «партыкулярызм».

На працягу стагоддзяў Вітаўтава ідэя захоўвала «сваю актуальную жыццяздольнасць», нягледзячы «на вонкавае польска-літоўскае братэрства», а ў XIX ст. «выявіла нечуваную з часоў Вітаўта сілу» ў творчасці А. Міцкевіча[768]. Ніхто з яго землякоў, як адзначала К. Скірмунт, не саромеўся імя ліцвіна, хоць гаварыў і пісаў па-польску. Гэты наш геній «па-сыноўску любіў Польшчу як ідэйнае і палітычнае цэлае, але выдатна разумеў індывідуальнасць сваёй нацыі і краю; і калі ён называў усе нашыя народы сынамі адзінай Польшчы і ахопліваў іх адной назвай палякаў, то адрозніваў у гэтым сямейным саюзе братоў паміж сабою»[769].

Некаторыя даследчыкі шукаюць генезіс краёвай ідэі таксама ў літаратурнай творчасці У. Сыракомлі, Э. Ажэшкі, чые творы аказвалі сентыментальны ўплыў на іх сучаснікаў, якія не хацелі змірыцца з тым, што ВКЛ ужо няма[770].

У другой палове XIX ст. Вітаўтава ідэя знайшла паслядоўнікаў сярод дэмакратаў (К. Каліноўскі), мела тайных прыхільнікаў у пасляпаўстанцкія часы. У пачатку XX ст. яна, здавалася бы, даўно стаўшая гісторыяй, заявіла аб сабе зноў як мэта на будучыню. Праўда, адрадзілася яна ў змененай форме – у выглядзе лозунга аўтаноміі беларуска-літоўскіх зямель[771].

Адаптаваная да новых гістарычных умоў ідэя «дзяржаўнасці пад знакам Пагоні» выявіліся ў ідэалогіі краёўцаў. Гэта палітычная плынь была прадстаўлена, галоўным чынам, польскамоўным каталіцкім заможным і сярэднезаможным

[767] *Sawicki J.* Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń: TNT, 1998. S. 68, 82.

[768] *Гарбачэўскі Ю.* Адраджэнне Літвы і польская ідэя // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 92, 94, 105.

[769] *Скірмунт К.* Што нам абавязкова патрэбна ў карэннай Літве // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 65.

[770] *Szpoper D.* Sukcesorzy Wielkiego Księstwa. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1904–1939. Gdańsk: Arche, 1999. S. 51.

[771] *Абрамовіч Л.* In Hoc Signo Vinces! // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 286; *Абрамовіч Л.* Трыццацігоддзе краёвай ідэалогіі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 290.

дваранствам і інтэлігенцыяй беларуска-літоўскага краю, які асацыраваўся імі з землямі былога ВКЛ, або гістарычнай Літвы. Гэтыя людзі лічылі сябе спадкаемцамі Княства, з павагай ставілася да яго дзяржаўна-палітычных і культурных традыцый і да іх апелявалі ў сваёй дзейнасці. Краёвец, як вызначала яго газета «Przegląd Wileński», – гэта жыхар краю, незалежна ад нацынальнай прыналежнасці, які «разумее і адчувае дзяржаўныя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага»[772] (дадатак 48).

Мясцовае дваранства (аўтахтоны) небеспадстаўна ўсведамляла сябе самай заможнай, культурнай і адукаванай часткай грамадства краю. Дбаючы аб яго роcквіце, развіцці ўсіх яго народаў і культур, дабрабыце ўсіх саслоўяў, дваранства прэтэндавала на тое, каб захаваць свае былыя сацыяльныя і палітычныя пазіцыі і адыгрываць самастойную і дамінуючую ролю ў новых рэаліях пачатку ХХ ст. Краёвая канцэпцыя (у яе дэмакратычнай і кансерватыўнай плынях) адлюстроўвала гэтыя жаданні і інтарэсы.

З другога боку, краёвы рух быў адказам інтэлігенцыі Беларусі і Літвы на рускі шавінізм, з аднаго боку, польскі нацыяналізм, з другога, і літоўскі нацыяналізм, з трэцяга. Датаваны 1917 г. «Мемарыял», што выйшаў з яе колаў, адзначаў факт з’яўлення краёвай праграмы, заснаванай на адмаўленні польскіх палітычных жаданняў адносна Літвы – прадмета спрэчкі паміж Польшчай і Расіяй, пасля ў фармулёўкі ў 1905–1906 гг. у Польскім каралеўстве праграмы аўтаноміі[773]. Краёвая ідэя з’яўлялася патрыятычным памкненнем значнай часткі карэннага дваранства і інтэлігенцыі супрацьстаяць ператварэнню сваёй зямлі ва ўскраіну Польшчы або Расіі (дадаткі 24–27).

Краёўцы (Р. Мікныс назваў іх віленскімі аўтанамістамі) у канцы 1904 – першай палове 1905 г. паклалі пачатак вялікай дыскусіі адносна праблем і супольнай будучыні беларуска-літоўскіх зямель. Іх ідэалогія, якая сумясціла аўтанамісцкія, ліберальныя і інтэрнацыянальныя лозунгі, прынцыпы талерантнасці, роўнасці моў, культур і веравызнанняў краю, выкрышталізоўвалася ў публіцыстыцы Р. Скірмунта,

---

[772] *Талочка У.* Пра краёвасць // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 275.

[773] Memoriał, złożony przez grupa działaczy litewskich J. E. Panu Prezesowi Ministrów [1917] // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 828. Арк. 1.

К. Скірмунт, М. Ромера і інш., знайшла водгук сярод інтэлігенцыі Беларусі і Літвы, карысталася сімпатыяй часткі віленскай прэсы.

Асабістыя вытокі ўласцівага пакаленню мысліцеляў першай чвэрці XX ст. пачуцця «краёвасці» Міхал Ромер раскрыў у аўтабіяграфіі (дадатак 20). Яго бабка нарадзілася ў 1829 г. і паходзіла са шляхецкага роду, які асеў у «этнаграфічнай» Беларусі, на мяжы Вілейскага і Барысаўскага паветаў. Яна неаднойчы тлумачыла свайму ўнуку, што іх род, як і наогул землеўладальнікі ў Белай Русі, не з'яўляюцца ўласна палякамі, але русінамі, і хоць гаварылі па-польску і палітычна з Польшчай ўяўлялі адзінства, аднак па крыві і нацыянальнасці ўтваралі асобную супольнасць – рускую. Гэтыя прызнанні бабкі былі «рэхам старой традыцыі, успадкаванай ёй ад папярэдніх пакаленняў»[774].

Але ўжо ў XX ст. яе дзеці і ўнукі, яе акружэнне такіх поглядаў не мелі і русінамі сябе не лічылі. Бабка адчувала анахранізм сваіх сцвярджэнняў, разумела, што нідзе не знойдзе разумення, і таму публічна пра гэта не гаварыла. Ужо на смяротным ложы, калі траціла прытомнасць і ўсведамленне рэчаіснасці, апошнія дні жыцця яна гаварыла толькі па-беларуску. З вуснаў маці М. Ромер ніколі не чуў прызнання роду русінамі. Але і ў ёй жыло «глыбокае пачуццё сваёй краёвасці, у значэнні спецыфічнасці літоўскай супольнасці, асобнай ад «Кароны», ці Польшчы і ахопліваючай усю гістарычную Літву, г. зн. Літву і Беларусь»[775].

М. Ромер, які, па словах А. Смалянчука, у час нацыянальнага адраджэння народаў былога ВКЛ, быццам акумуляваў дух г. зв. «ліцвінскага сепаратызму» часоў Рэчы Паспалітай[776], заяўляў: «Мы адкідаем пазіцыю так званых «крэсаў», якая наш край – Літву і Беларусь – трактуе ў якасці нечых сатэлітаў, ход і развіццё якіх павінны вызначацца законам прыцягнення да пэўнага знешняга цэнтру. Мы, шчырыя і законныя грамадзяне Літвы і Белай Русі, павінны адкінуць усялякія тэндэнцыі штучнага падпарадкавання развіцця абодвух нашых краёў патрэбам

[774] Riomerių šeimos aktai [b.d.] // БАНЛ. – Ф. 138. Спр. 2262. Арк. 24.

[775] Тамсама.

[776] *Solak, Zbigniew.* Między Polska a Litwa. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920. Kraków, 2004. 484 s. (Алесь Смоленчук) [Электронны рэсурс] // Беларускі Гістарычны Агляд. Рэжым доступу: http://www.belhistory.eu/solak-zbigniew-miedzy-polska-a-litwa-zycie-i-dzialalnosc-michala-romera-ales-smalyanchuk/. Дата доступу: 22.01.2019.

сумежных краін»[777] (дадатак 21). Фактычна ён паставіў такім чынам праблему палітычнага адасаблення Беларусі і Літвы, вырашэнне якой, аднак, залежала ад падзення абсалютызму ў Расіі і перамогі рэвалюцыі.

М. Ромер сфармуляваў два галоўныя пастулаты і задачы краёвай ідэі: прынцып асобнасці і палітычнай самастойнасці беларуска-літоўскіх зямель, які адзіны можа забяспечыць нармальнае развіццё краю; раўнапраўе нацый, якія яго насяляюць, «а не захопніцкае паглынанне нацыянальна-культурных элементаў кімсьці адным»[778], і агульнае змаганне за інтарэсы краю (дадатак 51). Рэалізацыя гэтых прынцыпаў павінна была прывесці, па меркаванню А. Смалянчука, да фарміравання нацыі дзяржаўнага (грамадзянскага) тыпу і адраджэння ВКЛ як незалежнай дэмакратычнай дзяржавы[779].

Варшаўскіх палітыкаў, што бачылі ў беларуска-літоўскім краі толькі «парафію Кароны», «засценак» каронnай метраполіі, які не павінен выказваць прэтэнзій на некія асобныя правы», асуджаў Р. Скірмунт[780] (дадатак 18). Ён папракаў тых мясцовых грамадзян, што прагнулі «польскага нацыянальнага пашырэння за кошт Літвы і Русі». Р. Скірмунт бачыў небяспеку, якую несла яго краю імкненне «імпартаваць нам грамадска-палітычную думку, акліматызаваць панятκі, што выраслі на іншай глебе, у чужых для нас умовах», калі адны на Карону «нам паказваюць як на нашу радзіму», другім «назва Русі, ужываная таксама расійцамі, замуціла розум»[781] (дадатак 16). Вырачыся прэтэнзій трымаць былых саюзнікаў па ўніі «на ланцужку выключна польскай нацыянальнай

[777] *Ромер М.* [Ад рэдакцыі] // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 141.

[778] Тамсама. С. 141–142.

[779] *Solak, Zbigniew.* Między Polska a Litwa. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920. Kraków, 2004. 484 s. (Алесь Смоленчук) [Электронны рэсурс] // Беларускі Гістарычны Агляд. Рэжым доступу: http://www.belhistory.eu/solak-zbigniew-miedzy-polska-a-litwa-zycie-i-dzialalnosc-michala-romera-ales-smalyanchuk/. Дата доступу: 22.01.2019.

[780] *Скірмунт Р.* У абарону ідэі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 26, 29.

[781] *Скірмунт Р.* Голас мінулага і патрэбы сучаснасці (вытрымкі) Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 10–11, 14.

палітыкі» і «навучацца шанаваць індывідуальнасць Літвы» заклікаў Варшаву таксама Ю. Гарбачэўскі[782].

Краёўцы трактавалі беларуска-літоўскія землі як адзіны арганізм – край, што гістарычна сфарміраваўся ў межах ВКЛ, мае свае традыцыі і да гэтага часу ўяўляе сабой тэрытарыяльнае, эканамічнае і культурнае цэлае. Падзел гэтага адзінства здаваўся ім ненатуральным і шкодным. Пры ўсіх рознагалоссях краёўцы ўспрымалі свой край як суб'ект гісторыі і працавалі над яго ператварэннем у суб'ект палітыкі[783]. Тадэвуш Урублеўскі лічыў магчымым хуткае ўвядзенне тут шырокай аўтаноміі[784]; Канстанцыя Скірмунт заклікала «ўвасобіць у новых формах вялікія традыцыі бацькоў»[785].

Разгорнутую праграму ўладкавання «Літоўскай правінцыі» прапанаваў у 1907 г. Баляслаў Ялавецкі[786] (дадаткі 22, 23). Яго палітычным ідэалам была адзіная непадзельная Літоўская правінцыя з кіраваннем мясцовымі справамі ў Вільні і прадстаўніцтвам у расійскіх Дзяржаўнай думе і Дзяржаўным савеце для спраў агульнадзяржаўных. Статус правінцыі ў імперы, паўнамоцтвы яе самакіравання павінны быць акрэслены і гарантаваны дзяржаўным заканадаўствам. Першынство ва ўсіх органах мясцовага кіравання давалася краёўцам, «а краёвыя мовы – польская, літоўская і беларуская – павінны мець належныя ім правы»[787].

Прадугледжвалася наданне Беларусі і Літве грамадзянскіх правоў: роўнасць людзей, незалежна ад нацыянальнасці, веравызнання і пола; роўнасць саслоўяў; свабода слова, друку, сходаў, саюзаў; права заснавання грамадскіх арганізацый; інш. Меркавалася, што пачатковая адукацыя стане ўсеагульнай, усесаслоўнай і абавязковай, а мову выкладання выбярэ

[782] *Гарбачэўскі Ю.* Адраджэнне Літвы і польская ідэя // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 97.

[783] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 233.

[784] *Урублеўскі Т.* Правінцыйныя сеймы і абарона правоў меншасці // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 170.

[785] *Скірмунт К.* Наша «тутэйшасць» // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 62.

[786] *Ялавецкі Б.* Літва і яе патрэбы. Нацыянальны катэхізм Літвы // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 134–140.

[787] Тамсама. С. 136–138.

мясцовае насельніцтва; адкрыецца Віленскі ўніверсітэт, будуць створаны палітэхнічны і агранамічны інстытуты[788].

Палітычным ідэалам створанай у 1907 г. мясцовымі землеўладальнікамі Краёвай партыі Літвы і Беларусі (лідары – Э. Вайніловіч, Р. Скірмунт) з'яўлялася «імкненне да аб'яднання Літвы і Беларусі з Палессем у аўтаномную адзінку ... з агульным палітычным цэнтрам у Вільні і культурна-аўтаномнымі цэнтрамі ў Коўне ды Менску»[789] (дадаткі 17, 19). За аўтаномію і адзінства зямель былога ВКЛ выступала таксама Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі, створаная біскупам Эдвардам Ропам (дзейнічала ў 1905–1907 гг.).

Свае патрабаванні краёўцы панеслі ў вышэйшы заканадаўчы орган імперыі – Дзяржаўную думу, настойваючы, каб яна «прызнала «Літоўскую правінцыю» ў межах ВКЛ ад 1790 года з кіраўніцтвам усёй правінцыяй у Вільні»[790]. Вартае ўвагі тое, што краёўцы жадалі надання «Літоўскай правінцыі» статусу, які мела ВКЛ да Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Гэту ідэю ў першай Дзяржаўнай думе праводзіў юрыст Аляксандр Ляндніцкі, абраны дэпутатам ад Мінскай губерні. Разумеючы, што лозунг згуртавання ў імя польскасці ў краі ўжо не дзейнічае[791], ён арганізаваў у Думе з дэпутатаў ад беларуска-літоўскіх зямель Саюз аўтанамістаў, які стаў на абарону інтарэсаў краю.

Пазіцыя краёўцаў нікому тады не здавалася дзіўнай, анахранічнай, вартай асуджэння. Аднак развіццё краёвага руху запаволілі палітычныя ўмовы: рост нацыяналізму народаў краю ў адказ на больш моцны расійскі нацыяналізм, а таксама ваенныя дзеянні Першай сусветнай вайны, вынікам якіх стаў тэрытарыяльны падзел былога ВКЛ[792]. Тым не менш, ва ўмовах вайны дзяржаўная традыцыя ВКЛ аказалася

[788] Ялавецкі Б. Літва і яе патрэбы. Нацыянальны катэхізм Літвы // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 137–138..С. 137–138.

[789] *Скірмунт К.* Краёвая партыя Літвы і Беларусі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 76.

[790] *Ялавецкі Б.* «Літва, наша айчына...» // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 126.

[791] *Ляндніцкі А.* Пасля выбараў // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 189.

[792] *Абрамовіч Л.* In Hoc Signo Vinces! // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 286, 287.

запатрабаванай адданымі краёвай ідэі мясцовымі палітыкамі акупаваных тэрыторый Літвы і Заходняй Беларусі.

Прыкметную ролю ў пашырэнні краёвай ідэалогіі адыгралі масонскія ложы, якія аб'ядналі частку дэмакратычных сіл усіх нацыянальных рухаў Беларусі і Літвы[793]. У пачатку Першай сусветнай вайны масоны краю стварылі ложу «Вялікі Усход Літвы», якая адмовілася падпарадкоўвацца кіруючаму цэнтру расійскіх масонаў, і стала самастойнай. Яны разышліся ў поглядах на будучыню гэтых зямель. Расійскае масонскае кіраўніцтва не прызнавала правоў беларускага і літоўскага народаў на самавызначэнне і стварэнне сваіх форм дзяржаўнага жыцця. У палітычным плане члены ложы «Вялікі Усход Літвы» адстойвалі поўную незалежнасць гістарычнай Літвы як дзяржаўнага ўтварэння беларусаў і літоўцаў[794].

***Ідэя адбудовы ВКЛ у беларускім нацыянальным руху.*** З пачатку XX ст. у Беларусі, якая ў свой час ахоплівала 80 % тэрыторыі паслялюблінскага ВКЛ, з'явіліся моцныя акцэнты нацыявызвалення і пачала фарміравацца беларуская палітычная думка, абапертая на новых задачах. Па словах Т. Грыба, выхаваная на ідэях Я. Чачота, К. Каліноўскага і Ф. Багушэвіча беларуская рэвалюцыйная дэмакратыя восенню 1902 г. заклала «Беларускі гурток народнай асветы» (заснавальнік І. Луцкевіч), які ў 1903 г. «прымае зусім выразную палітычную праграму і ставіць сваім заданнем аб'яднанне ўсіх дэмакратычных элементаў Беларусі і Літвы на грунце адбудовы ўтрачанай дзяржаўнасці Вялікага Княства Літоўскага»[795].

З першымі праявамі нацыянальнага руху, як сведчыў А. Луцкевіч, у мясцовым грамадстве «будзіліся яркія ўспаміны

[793] *Багалейша С. В.* Дзейнасць масонскіх арганізацый на беларуска-літоўскіх землях у пачатку XX ст. // Белорусские земли в составе Российского государства (1772–1917 гг.): материалы Респ. науч.-технич. конф., Минск, 2 дек. 2013 г. / редкол.: В. А. Божанов, Т. В. Кедрик, Д. Н. Хромченко. Минск: БНТУ, 2013. С. 18–24.; *Смалянчук А.* Масонскія ложы на беларускіх і літоўскіх землях. 1910–1916 гг. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2002. T. 17. S. 141–155.; *Sawicki J.* Z dziejów «Wielkiego Wschodu Litwy» // Przegląd Wschodni. 1997. T. IV, zeszyt 2 (14). S. 443–450.

[794] Проблемы формирования белорусской государственности в XX – начале XXI века: избранные труды Н. С. Сташкевича / под науч. ред. А. Н. Данилова, В. С. Кошелева. Минск: РИВШ, 2012. С. 31, 153–154; Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1. / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 256–257.

[795] *Грыб Т.* «Нашы мэты і заданні». Артыкул без канца. Машынапіс. Пачатак 1920-х г. // БДАМЛіМ. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 145. Арк. 57.

незалежнага бытавання і расло жаданне вызвалення ... выдзяленнем краю з агульнарасійскага арганізму, здабыццём утрачанай незалежнасці». У дыскусіях 1904–1905 гг. адносна эканамічных і дзяржаўна-прававых асноў будучай Беларусі акрэслілася думка, што яна, адрэзаная ад мора, не зможа незалежна развівацца эканамічна і палітычна. Таму да ранейшай формулы «вызваленне з-пад прыгнёту Расіі» дадаецца новая: «вольная Беларусь, як дэмакратычная рэспубліка, сфедэраваная з суседзямі»[796].

Але, па словах А. Луцкевіча, «вайна, адкрыта аб'яўленая беларусам пасля 1905 г.» большасцю расійскага грамадства і краёвых палякаў, «узрост нацыяналізму і агрэсіўнасці» з захаду і з усходу адбіліся «на аб'ёме формулы федэрацыі». На першы план выйшла думка аб збліжэнні з тымі краямі і народамі, з якімі беларусаў звязваюць больш моцныя сувязі, чым «выпадковая» прыналежнасць да адной дзяржавы, і ад якіх не трэба чакаць агрэсіўнасці. «Тут на першым плане стаялі ліцвіны»[797]. З літоўцамі беларусаў збліжалі доўгае сумеснае жыццё ў агульнай дзяржаве, у якой беларусы дасягнулі найвышэйшага культурнага росквіту, агульнае права, а да таго іх і цяпер злучаюць агульныя эканамічныя інтарэсы і гістарычная сталіца. Таму, як канстатаваў А. Луцкевіч, ідэя федэрацыі з суседнімі народамі, «пры больш цесным збліжэнні з Літвой», стала нібыта аддаленым нацыянальным палітычным ідэалам, на якім сышліся беларусы ўсіх партый і палітычных кірункаў. Ён разумеў, што нельга ашукваць сябе надзеямі на лёгкае дасягненне гэтага палітычнага ідэалу. Нават калі выкажуць згоду суседзі, ён меў бы шансы толькі пры адной умове – поўным развале расійскай дзяржаўнай сістэмы[798].

У 1924 г. нямецкі часопіс «Litauische Rundschau», які выдаваўся ў Коўне, разважаў на тэму, як Літве атрымаць Вільню, бо Ліга Нацый гэта пытанне на яе карысць вырашыць не можа. Прааналізаваўшы варыянты будучыні Літвы ў магчымых камбінацыях дзяржаў: Германія-Літва-Расія або Германія-Літва (такія саюзы цяпер «не па часе»), Літва-Польшча (гэты саюз наогул «бессэнсоўны»), часопіс высунуў «трэцюю камбінацыю»: аб'яднанне Літвы з Беларуссю і Украінай, «якое і магло б даць Літве Вільню»[799].

[796] Пратаколы беларускіх арганізацый. 1916 г. // БАНЛ. Ф. 21. Спр. 276. Арк. 5–5 адв.

[797] Тамсама. Арк. 5 адв.

[798] Тамсама. Арк. 6 адв. – 7.

[799] *Луцкевіч А.* Барацьба за вызваленне; уклад., навук. рэд., пераклады, каментары і прадмова А. Сідарэвіча. Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае

На такі паварот разважанняў А. Луцкевіч адказаў артыкулам пад назвай «Уваскросшы праект (аб беларуска-ўкраінска-літоўскім саюзе)»[800]. У ім ён пісаў, што думка аб такім «трайным саюзе» народаў існавала ў беларускім, украінскім і частцы літоўскага грамадства яшчэ задоўга да сусветнай вайны. Яна мела пад сабой не толькі «ідэйныя пабуджэнні» – супольнасць нацыянальных ідэалаў, «але і вельмі рэальныя падставы»: патрэбу змагання з агульнымі ворагамі (Масква і Варшава) і эканамічныя інтарэсы трох краін. Ідэолагі «трайнога саюзу», па словах А. Луцкевіча, лічылі, што тыя ж самыя прычыны, якія некалі прывялі да стварэння вялізнай дзяржавы ад Балтыйскага да Чорнага мора, не перасталі існаваць і пасля знікнення ВКЛ, і найперш геаграфічнае становішча Беларусі, Украіны і Літвы, супольнасць іх водных артэрыяў, узаемнае дапаўненне прыроднымі багаццямі.

З пачаткам сусветнай вайны, як пісаў А. Луцкевіч, абудзіліся незалежніцкія імкненні народаў і зноў выплыла ідэя «трайнога саюзу». Але тагачасныя «гаспадары палажэння» – берлінскія палітыкі паставіліся да яе варожа. Германія баялася стварэння магутнай сілы аб'яднаных народаў і пайшла на іх абасабленне: прызнала незалежнасць Літвы і Украіны, паміж якімі, нібы клін, павінна была ўрэзацца «расійская» Беларусь»[801].

Такім чынам, напярэдадні Першай сусветнай вайны беларуская думка мела два асноўныя варыянты бачання палітычнай будучыні сваіх зямель. Адзін з іх быў прадстаўлены краёвай ідэяй і прадугледжваў дзяржаўную незалежнасць або аўтаномію і непадзельнасць гістарычнай Літвы. Даследчык беларускага нацыянальнага руху пачатку ХХ ст. А. Унучак канстатуе, што для «нашаніўскага кола», якое фактычна стварыла ідэйны падмурак адраджэння беларускай дзяржаўнасці, «безумоўным прыярытэтам з'яўлялася аднаўленне ў нейкай форме Вялікага Княства Літоўскага»[802]. Другі, пастулат нацыянальна-культурнай аўтаноміі Беларусі ў складзе дэмакратычнай Расіі, быў сфармуляваны ў партыйнай праграме Беларускай сацыялістычнай грамады.

---

гістарычнае таварыства, 2009. С. 318.

[800] Тамсама. С. 318–320.

[801] Тамсама.

[802] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 272–273.

***Літоўскія канцэпцыі гістарычнай і этнаграфічнай Літвы.*** У літоўскім грамадска-палітычным руху пачатку XX ст. сфаміраваліся дзве плыні: незалежнікі і аўтанамісты. Пры гэтым нацыянальная палітычная думка сфармулявала дзве канцэпцыі будучай дзяржавы: Літвы гістарычнай і Літвы этнаграфічнай. Згодна першай канцэпцыі, літоўцы згаджаліся з беларусамі жыць у адной дзяржаве, аднак прэтэндавалі на тое, каб манапольна распараджацца спадчынай ВКЛ. Прыхільнікі другой канцэпцыі атаесамлялі сучасную ім Літву з Літвой гістарычнай і ў адрозненне ад беларускага руху, які захоўваў традыцыі шматнацыянальнага ВКЛ, змагаліся за стварэнне на аснове ВКЛ сваёй мананацыянальнай дзяржавы. Адны літоўскія палітыкі стаялі за этнаграфічную Літву, другія – за Літву гістарычную.

Літоўскія палітыкі пачатку XX ст. лічылі Літву адзінай правапераемніцай ВКЛ, хоць у свой час яе тэрыторыя складала невялікую частку гэтай вялізнай дзяржавы, і адмаўлялі беларусам у праве на палітычную спадчыну ВКЛ, г. зн. у праве апеляваць да мінулага і гістарычнай дзяржаўна-палітычнай традыцыі. Такі падыход канчаткова аформіўся і замацаваўся ва ўмовах Першай сусветнай вайны. Атрымлівалася, што Літва аднаўляла сваю нацыянальную дзяржаву, страчаную са знікненнем ВКЛ. Беларусам жа даводзілася ствараць уласную дзяржаўнасць з самага пачатку, што было непараўнальна больш складана, паколькі пазбаўляла беларускую нацыю гістарычнага падмурку ў вачах еўрапейскіх краін[803]. Больш таго, літоўскія палітыкі, спасылаючыся на гістарычнае права, уключалі ў склад Літоўскай дзяржавы этнічныя беларускія землі, якія на той час знаходзіліся ў Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай, Сувалкаўскай губернях, а таксама ў Навагрудскім павеце Мінскай губерні[804].

Нацыяналістычныя плынь у літоўскім нацыянальным руху расла па меры таго, як узмацняліся праявы польскага

---

[803] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 309.

[804] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 310; Обзор деятельности Польской и Литовской социал-демократической партий. Б. д. // ДАРФ. Ф. 102. Воп. 253. Спр. 120. Арк. 221 адв.

і расійскага шавінізму[805]. Калі ў 1896 г. літоўскія сацыял-дэмакраты выступілі за федэрацыю Літвы з Польшчай[806], то ў пачатку XX ст. літоўская інтэлігенцыя ўсведамляла, што палітычная будучыня дзяржаў павінна быць асобнай. Свае палітычныя пастулаты літоўцы адстойвалі, стварыўшы ўласныя партыі, праз агульнарасійскія партыі, ва ўрадзе Расіі, а таксама з дапамогай сваёй эміграцыі, арганізаванай і свядомай, якой беларусы не мелі.

Палітычным ідэалам ЛДП, сфера дзейнасці якой распаўсюджвалася таксама на «ўсю Рускую Літву» (Беларусь), з'яўлялася аўтаномія для этнаграфічнай Літвы з сеймам у Вільні, да якой «могуць далучыцца і суседнія іншародныя часткі па ўзаемнай згодзе, … правы меншасці гарантуюцца агульнадзяржаўнымі законамі». Афіцыйнай мовай з'яўляецца літоўская, дапускаюцца мясцовыя мовы. Да кампетэнцыі цэнтральнага ўраду імперыі пакідаліся міжнародныя зносіны, мытнае ведамства, манетная справа, абарона дзяржавы[807]. Лістоўкі ЛСДП у 1905 г. патрабавалі: «…нам не патрэбен толькі адзін сейм усіх нацый у Расіі»[808]; «Не пакладзём зброі, пакуль не будзе магчымасці літоўскім дэпутатам сабрацца не ў Пецярбургу, а ў Вільні, і тут рашыць, … ці павінна Літва па-старому заставацца пад уладай Расіі або ад яе аддзяліцца»[809].

У канцы 1904 г. на палітычную арэну выйшла група аўтанамістаў (аўтанамістаў-федэралістаў) – прадстаўнікоў дэмакратычных колаў Літвы і Беларусі, якія ў снежні 1904 г. – чэрвені 1905 г. арганізавалі ў Вільні міжнацыянальныя кансультацыйныя з'езды і на іх абмяркоўвалі праблемы палітычнай і адміністрацыйнай аўтаноміі Літвы ў межах Расійскай імперыі. На гэтых з'ездах палякі, беларусы, яўрэі выступілі за гістарычную і геаграфічную аўтаномію Літвы, а літоўцы – за этнаграфічную. Першыя ў сваіх праектах апелявалі да прынцыпу грамадзянства, другія – да прынцыпу

[805] *Miknys R.* Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905 // Lithuano-Slavica Poznaniensia Studia Historica. 2001. T. VIII. S. 102.

[806] *Wielhorski W.* Litwa współczesna. Warszawa: Wojskowy Instytut Geograficzny, 1938. S. 61.

[807] Обзор деятельности Польской и Литовской социал-демократической партий. Б. д. // ДАРФ. Ф. 102. Воп. 253. Спр. 120. Арк. 202 адв. – 204.

[808] Тамсама. Арк. 43 адв.

[809] Тамсама. Арк. 40 адв.

нацыянальнасці[810]. Дасягнуць паразумення прадстаўнікам народаў тады не ўдалося. Але гэтыя іх першыя афіцыйныя кантакты распачалі дыялог паміж прыхільнікамі дзвюх канцэпцый Літвы.

Пазіцыя літоўцаў, як сцвярджае Р. Мікныс, стала падставай усіх далейшых непаразуменняў, хоць спачатку іх адстойванне этнаграфічнай Літвы не перакрэслівала магчымасці рэалізацыі канцэпцыі гістарычнай Літвы, тым больш, што этнаграфічная Літва павінна была ахапіць частку Беларусі. Але ў хуткім часе беларусаў (але не іх тэрыторыі) выразна адмежавалі ад Літвы. На нарадах літоўскай інтэлігенцыі, арганізаваных ЛДП у канцы сакавіка – пачатку красавіка 1905 г., пытанне аб палітычнай аўтаноміі Літвы ў этнаграфічных межах было пастаўлена па-новаму – гаварылася аб федэрацыйнай сувязі Літвы з усімі народамі імперыі. Беларусы трактаваліся як адзін з такіх народаў, гэта значыць, іх ад Літвы адмежавалі[811].

Абгрунтоўваючы аддзяленне этнаграфічнай Літвы ад Беларусі, літоўцы заявілі, што не маюць нічога супраць яе аўтаноміі. Але паколькі беларускі нацыянальны рух яшчэ не выказаў імкнення да аўтаноміі Беларусі, то праграма яе аўтаноміі – гэта ідэалізм і фантазія. А горстка беларускай інтэлігенцыі не прэзентуе беларускага народа, паколькі ён яшчэ «не прачнуўся». Беларусы, на думку літоўскіх дэмакратаў, яшчэ не прайшлі працэс фарміравання на сваёй этнічнай тэрыторыі. У адрозненне ад беларусаў, у літоўцаў дасягненне палітычнай аўтаноміі павінна ўвянчаць канечны этап адраджэння літоўскага народа і працэс фарміравання літоўскай нацыі. Гэтаму найбольш адпавядала канцэпцыя Літвы этнаграфічнай[812].

Літоўцы небеспадстаўна бачылі пагрозу для свайго нацыянальнага існавання ў канцэпцыі дзяржаўнасці гістарычнай Літвы, у якой яны аказаліся бы ў ролі нацыянальнай меншасці. Таму яны апелявалі да права народаў на самавызначэнне і, кіруючыся нацыянальным інтарэсам, стаялі на пастулаце нацыянальнай дзяржавы, які таксама дазваляў прывязаць да традыцыі даўняй дзяржаўнасці[813].

[810] *Miknys R.* Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905 // Lithuano-Slavica Poznaniensia Studia Historica. 2001. T. VIII. S. 108.

[811] Тамсама. S. 108–110.

[812] Тамсама. S. 111.

[813] Тамсама.

Пад канец 1905 г. літоўскі рух выступіў ужо як значная сіла ў палітычнай сферы[814]. З'езд у Вільні 21–22 лістапада 1905 г., які сабраў больш за 2000 прадстаўнікоў ад усіх партый Літвы, выступіў за яе аўтаномію з урадам у Вільні і федэрацыяй з суседнімі народамі[815]. 15 снежня 1905 г. група літоўскіх дзеячаў прапанавала Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі вызначыцца адносна пытання аўтаноміі Літвы[816]. З'езд літоўцаў Амерыкі 22 лютага 1906 г. выказаў гатоўнасць сваю знішчаную дзяржаву адрадзіць і рашучасць яе забраныя атрыбуты і скарбы вярнуць. З'езд зрабіў заяву, каб іх народу, «які яшчэ не забыў часы незалежнасці, калі … мелі сваё войска і грошы, свой сейм, Універсітэт», усё гэта было вернута, а таксама былі вернуты канфіскаваныя маёмасці манастыроў і памесцяў, лясы[817]. Прадстаўнікі ЛСДП у Дзяржаўнай думе патрабавалі для свайго краю палітычнай аўтаноміі з мясцовым сеймам, пры якой «усе літоўскія народнасці і мовы маюць роўныя правы»[818]. Першая сусветная вайна наблізіла ажыццяўленне гэтых патрабаванняў.

Такім чынам, канцэпцыі дзяржаўнасці Літвы, якія сфарміраваліся ў літоўскім руху, апелявалі да традыцыі ВКЛ, хоць і вызначалі адметную тэрыторыю, этнічны склад насельніцтва, палітыку. Сутнасць канцэпцыі гістарычнай Літвы – працяг дзяржаўнай традыцыі шматэтнічнага ВКЛ, другая канцэпцыя – Літва этнаграфічная. З пачатку XX ст. літоўская палітычная думка ўсё больш эвалюцыянізавала ад свядомасці грамадзян ВКЛ да свядомасці літоўскай нацыянальнай дзяржавы[819].

---

814 *Wasilewski L.* Kresy wschodnie. Litwa i Białorus-Podliasie i Chelmszczyzna. Galicya wshodnia-Ukraina. Warszawa–Kraków: Towarzystwo Wydawnicze w Warszawie, 1917. S. 81.

815 *Wielhorski W.* Litwa współczesna. Warszawa: Wojskowy Instytut Geograficzny, 1938. S. 61.

816 Заявление группы литовских деятелей в бюро к.-д. партии о согласии примкнуть к партии кадетов при условии определения их отношения к вопросу автономии Литвы. 15 декабря 1905 г. // ДАРФ. Ф. 579. Воп. 1. Спр. 1842. Арк. 1–1 адв.

817 Мемориал съезда делегатов от литовцев, проживающих в Америке, о предоставлении автономии Литве. 22 февраля 1906 г. // ДАРФ. Ф. 579. Воп. 1. Спр. 1843. Арк. 1, 4.

818 Обзор деятельности Польской и Литовской социал-демократической партий. Б. д. // ДАРФ. Ф. 102. Воп. 253. Спр. 120. Арк. 129.

819 *Miknys R.* Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905 // Lithuano-Slavica Poznaniensia Studia Historica. 2001. T. VIII. S. 99.

***Дзяржаўна-палітычная традыцыя ВКЛ у польскім руху.*** На працягу XIX ст. усе палітычныя кірункі польскага вызваленчага руху мыслілі адраджэнне Польшчы не інакш як у межах Рэчы Паспалітай да падзелаў. Пра Польшчу этнаграфічную тады не думалі[820]. Таму кожны раз пры пастаноўцы пытання аб аднаўленні Рэчы Паспалітай паўставала і пытанне аб лёсе Літвы, Беларусі, Украіны, г. зн. зямель і народаў былога ВКЛ. Іх будучыня звычайна трактавалася ў аспекце рэанімацыі міждзяржаўнай уніі, якую палякі лічылі адной з галоўных рысаў сваёй гісторыі. Зацікаўленасць справамі Літвы і Беларусі выплывала з непасрэднага суседства і з традыцыі даўняй дзяржаўнай сувязі.

Новыя сілы ў польскім грамадска-палітычным руху, якія на мяжы XIX–XX ст. выйшлі на арэну барацьбы, адразу праявілі цікавасць да пытання «палітычнага вызвалення Літвы і Русі». Устаноўчы з'езд ППС у 1892 г. прыняў дакумент «Пытанне аб Літве і Русі», якім дэклараваў «поўную роўнасць народаў, якія ўваходзяць у склад Рэчы Паспалітай на аснове дабраахвотнай федэрацыі»[821]. Сфармуляваная ў польскай палітычнай думцы ідэя федэралізму прадугледжвала адбудову Рэчы Паспалітай у гістарычных межах як дэмакратычнай шматнацыянальнай дзяржавы. На думку Т. Снайдэра, ідэя федэралізму аформіліся ў пачатку XX ст. на аснове палітычных поглядаў краёўцаў[822]. У польскім руху тады атрымала пашырэнне думка, што палякі разам з літоўцамі, беларусамі і ўкраінцамі павінны ўтварыць «братнюю Рэч Паспалітую», «саюз вольных народаў»[823].

Найбольш яркім прадстаўніком федэралізму быў польскі рэвалюцыянер, палітык і дзяржаўны дзеяч Ю. Пілсудскі – ураджэнец Літвы, нашчадак ліцвінскай шляхецкай фаміліі, у ментальнасці якога зліваўся ў адзіна рэчпаспалітаўскі і ВКЛ-аўскі патрыятызм. Мяркуюць, што да гэтай канцэпцыі яго схілілі ліцвінская традыцыя, палітычны рэалізм і добрае

[820] *Pajewski J.* Odbudowa Państwa Polskiego. 1914–1918. Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2005. S. 15.

[821] *Wasilewski L.* Dzieje zjazdu paryskiego 1892 roku. Przyczynek do historji polskiego ruchu socjalistycznego. Warszawa: Wydawnictwo Instytutu Badania Najnowszej Historji Polski, 1934. S. 33, 40, 47.

[822] *Снайдэр Т.* Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569–1999 гг.; пер. з англ.; навук. рэд. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. С. 65–66.

[823] *Pajewski J.* Odbudowa Państwa Polskiego. 1914–1918. Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2005. S. 29.

веданне Расіі[824]. Сваю праграму лідар ППС сфармуляваў у ліпені 1904 г. у Токіо ў мемарыяле для японскага ўраду[825]. У ім Ю. Пілсудскі засведчыў, што сярод паняволеных Расіяй народаў падставы для стварэння ўласных дзяржаў маюць толькі «народы гістарычныя», да якіх залічыў палякаў. Перспектывы будучыні літоўцаў, беларусаў, латышоў і часткова ўкраінцаў ён бачыў у суіснаванні з адроджанай Польшчай[826].

Праграма Ю. Пілсудскага адносілася найперш да літоўскіх і беларускіх зямель і меркавалася як першы этап дасягнення палітычнай стабільнасці ва Усходняй Еўропе. Ён надаваў вялікае значэнне супольнай польска-літоўскай гістарычнай традыцыі. ВКЛ у яго канцэпцыі была ключом для ажыццяўлення федэрацыйных намераў. Важная роля ў яго праграме адводзілася Вільні і Віленшчыне, на якія прэтэндавалі літоўцы, беларусы, палякі. Федэрацыя вырашала гэту праблему: Віленшчына станавілася звяном, якое звязвала, а не прадметам спрэчак[827]. Разумеў ён і тое, што на літоўска-беларускіх землях было цяжка правесці нацыянальны падзел.

Але літоўскі і беларускі нацыянальныя рухі, якія ў той час хутка развіваліся, ужо мыслілі сваю дзяржаўную будучыню без унійнай сувязі з Польшай. Нежаданне літоўцаў да ўніі з Польшчай усё больш узмацнялася. Ідэя федэрацыі з ёй не мела шырокай грамадскай падтрымкі і ў Беларусі.

Мясцовыя палякі ў пачатку XX ст. падзяліліся ў бачанні будучыні гістарычнай Літвы. У адрозненне ад большасці ліцвінаў, якія лічылі, што падзелы Рэчы Паспалітай паставілі кропку на польска-літоўскай уніі, краёўцы, якія захоўвалі свядомасць грамадзян ВКЛ, з’яўляліся прыхільнікамі федэрацыі. Яны былі перакананы, што ўнію народаў нельга разарваць[828]. У Беларусі і Літве федэрацыйную праграму падтрымлівалі сацыялісты і буйныя землеўласнікі. Мясцовая польская дэмакратычная інтэлігенцыя ўсведамляла, што палітычная будучыня гістарычнай Літвы павінна быць

[824] *Krajewski Z.* Geneza i dzieje wewnętrzne Litwy Środkowej (1920–1922). Lublin: Ośrodek Studiów Polonijnych i Społecznych PZKS w Lublinie, 1996. S. 31.

[825] Тамсама. S. 29–30.

[826] *Miknys R.* Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905 // Lithuano-Slavica Poznaniensia Studia Historica. 2001. T. VIII. S. 101.

[827] *Krajewski Z.* Geneza i dzieje wewnętrzne Litwy Środkowej (1920–1922). Lublin: Ośrodek Studiów Polonijnych i Społecznych PZKS w Lublinie, 1996. S. 30–31.

[828] *Grunberg K.* Polskie koncepcje federalistyczne 1864–1918. Warszawa: Książka i Wiedza, 1971. S. 251.

асобнай ад палітычнай эвалюцыі этнічнай Польшчы і была варожа настроена да нацыяналістычных тэндэнцый, як польскіх, так і літоўскіх[829]. Але сярод мясцовых палякаў было нямала і такіх, што хацелі простага ўключэння краю ў склад Польшчы.

Спачатку Ю. Пілсудскі спадзяваўся, што яму ўдасца схіліць да сваіх планаў літоўцаў і беларусаў, але тыя не спяшаліся. Палякі прапаноўвалі яму стварыць федэрацыю са зброяй у руках, але гэта супярэчыла прынцыпам федэрацыі. У час гвалтоўнага выбуху нацыяналізмаў у Еўропе ідэя Ю. Пілсудскага не магла быць рэлізавана[830].

ППС – адзіная польская партыя, якая выступала за федэрацыю з Літвой і Беларуссю і за адбудову на іх землях ВКЛ. На канферэнцыі сацыялістычных рэвалюцыйных партый Расіі, якая праходзіла ў пачатку 1905 г. у Фінляндыі, у супольнай дэкларацыі ППС і БСГ абвяшчалася неабходнасць «выдзялення тэрыторыі гістарычнай Літвы (Літвы і Беларусі) разам з усімі нацыянальнасцямі, што яе насяляюць, у асобны палітычны арганізм»[831].

Але пазіцыя польскіх палітычных сіл у справе будучыні гістарычнай Літвы не была аднолькавай. Раздаваліся галасы, што Літва і Беларусь з'яўляюцца «натуральным дапаўненнем Польшчы» – іх інкарпарацыя павінна стаць кампенсацыяй за заходнія польскія землі (прускага і аўстрыйскага «забору»). Ідэолагі эндэкаў Р. Дмоўскі, Й. Паплаўскі і інш., у адрозненне ад ППС, катэгарычна выступілі супраць федэрацыйных дзяржаўных сувязяў паміж Польшчай і Літвой-Беларуссю, і бачылі гэты край як частку будучай нацыянальнай польскай дзяржавы[832]. Польскія і літоўскія нацыяналісты, паводле выказвання Т. Снайдэра, пахавалі ідэю Ю. Пілсудскага пра адраджэнне ВКЛ[833].

Такім чынам, федэралістычная праграма аднаўлення Рэчы

---

[829] *Miknys R.* Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905 // Lithuano-Slavica Poznaniensia Studia Historica. 2001. T. VIII. S. 104.

[830] *Krajewski Z.* Geneza i dzieje wewnętrzne Litwy Środkowej (1920–1922). Lublin: Ośrodek Studiów Polonijnych i Społecznych PZKS w Lublinie, 1996. S. 34.

[831] Кароткі нарыс беларускага пытаньня. Мінск: Выдавец І. П. Логвінаў, 2009. С. 40.

[832] *Miknys R.* Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905 // Lithuano-Slavica Poznaniensia Studia Historica. 2001. T. VIII. S. 101.

[833] *Снайдэр Т.* Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569–1999; пер. з англ.; навук. рэд. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. С. 95, 99.

Паспалітай у польскай палітычнай думцы пачатку XX ст. прадугледжвала аб'яднанне Кароны з адбудаваным ВКЛ у межах свабоднай федэрацыі пры культурным лідарстве Польшчы. Нацыянал-дэмакратычная праграма стаяла за адраджэнне Польшчы як нацыянальнай дзяржавы палякаў і інкарапарацыю ў яе склад гістарычнай Літвы. Польскія планы тэрытарыяльнай інтэграцыі ўсходніх земляў у іх абодвух варыянтах не ўлічвалі незалежніцкія памкненні нарастаючых нацыянальных рухаў беларусаў і літоўцаў.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі адбыўся «рэнесанс федэралістычных канцэпцый» польскіх дэмакратычных сіл. У маі 1917 г. у сумеснай «Польскай дэкларацыі ў справе Літвы» яны заявілі, што «ад імя грамадства адроджанай польскай дзяржавы жадаюць незалежнага дзяржаўнага існавання зямель былога Вялікага Княства Літоўскага» і «ўзнаўлення традыцыйнай сувязі» з ім[834].

## 2. Праекты ўладкавання беларуска-літоўскіх зямель у гістарычнай форме ВКЛ і спробы іх рэалізацыі ў 1915–1917 гг.

Выклiканая Першай сусветнай вайной змена геапалітычнай сітуацыі, расійскія рэвалюцыі 1917 г., абуджэнне нацыянальных рухаў на землях былой Рэчы Паспалітай разам з прынцыпам права нацый на самавызначэнне, які запанаваў у Еўропе, здавалася, упершыню пасля 1795 г. стварылі рэальны шанс для аднаўлення ВКЛ. Да таго ж у мінулым гістарычнай Літвы немцы ўбачылі зручны спосаб шантажу супраць Расіі. Усё тут нагадвала гісторыю: лінія фронту, якая стабілізавалася ўздоўж мяжы другога падзелу Рэчы Паспалітай; Обер Ост, створаны немцамі на захопленай тэрыторыі Заходняй Беларусі і Літвы, межамі, абрысамі, памерам плошчы нагадваў ВКЛ 1793–1795 гг. Камандуючы Усходнім фронтам фельдмаршал Паўль Гіндэнбург і кіраўнік Обер Оста генерал Эрых Людэндорф, намерваліся стварыць на падкантрольнай ім тэрыторыі квазі-дзяржаву – «герцагства Курляндыю і Вялікае Княства Літоўскае, якія ... найцяснейшым чынам далучаліся б да Германіі»[835] (дадатак 28), а яе рэсурсы і выгоды стратэгічнага

[834] *Grunberg K.* Polskie koncepcje federalistyczne 1864–1918. Warszawa: Książka i Wiedza, 1971. S. 258–259.

[835] *Людендорф Э.* Мои воспоминания о войне 1914–1918 гг. М.: Вече, 2014. С. 424.

палажэння выкарыстаць у вайне з Расіяй. Нацыянальна-сепаратысцкія памкненні народаў былой Рэчы Паспалітай былі на руку Берліну, які абвясціў сябе абаронцам прыгнечаных народаў, надаючы такім чынам акупацыі беларусіх і літоўскіх земляў у грамадскай думцы бачнасць вызваленчых дзеянняў. Стаўку ён зрабіў на рэгіянальны нацыяналізм і антырасійскія палітычныя эліты, дзейнасць якіх паставіў пад свой жорскі кантроль[836].

Сваё жаданне стратэгічнай карэктуры межаў з Расіяй Берлін вуаляваў разважаннямі на тэму той або іншай формы дзяржаўнасці Польшчы і гістарычнай Літвы. У студзені 1916 г. супрацоўнік Міністэрства замежных спраў Расіі Святкоўскі ў паведамленні са Швейцарыі свайму начальству пра прабыванне кайзера Вільгельма II у Вільні (снежнь 1915 г.) адзначаў, што германскі імператар яшчэ не мае дакладных планаў адносна Літвы, але, відавочна, што з улікам ваенных дзеянняў «будзе абвешчана аўтаномія Літвы або якая іншая форма самакіравання або дзяржаўнасці». Святкоўскі прадставіў у Пецярбург розныя варыянты нямецкіх планаў будучыні Літвы: 1) Літоўскае каралеўства – фармальна незалежная буферная дзяржава; 2) Літоўскае каралеўства – федэральная дзяржава з сынам Вільгельма II на троне; 3) Літва – край Рэйха[837]. Месца для самастойнай Беларусі ў геапалітычнай прасторы Усходняй Еўропы кіраўніцтву Германіі не бачылася[838].

Выпрацоўваючы праекты перакройвання палітычнай карты Усходняй Еўропы Берлін пайшоў на свядомы палітычны камуфляж: з аднаго боку, падзяляў акупаваныя землі па этнічнаму крытэрыю па прынцыпу divide et impera і ўзяў курс на дзяржаўнасць этнаграфічнай Літвы, з другога, распаўсюджваў пагалоску пра намер утварэння мадыфікаванага ВКЛ у палітычнай сістэме «Сярэдняй Еўропы». Гэта былі прынцыпова

---

836 *Коваленя А. А.* Первая мировая война: проблемы научных исследований в белорусской историографии // Беларусь у гады Першай сусветнай вайны. Смаргоншчына: трагедыя, гераізм, памяць : матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (г. Смаргонь, 18–19 мая 2007 г.) / навук. рэд. А. М. Літвін, У. В. Ляхоўскі; рэдкал.: М.У.Мясніковіч [і інш.]. Мінск: Чатыры чвэрці, 2009. С. 32.

837 *Lopata R.* W kręgu projektów odrodzenia Wielkiego Księstwa Litewskiego (1915–1916) // Lituano-Slavica Posnaniensia: studia historica. 2001. Vol. VIII. P. 157.

838 *Ладысеў У. Ф., Брыгадзін П. І.* Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917 – 1939 гг.). Мінск: БДУ, 2003. С. 79.

розныя рэчы: рэальная палітычная лінія і запушчаная ў паветра ідэя, якая правакавала Расію да падпісання сепаратнага міру[839].

У адказ на нямецкую падтрымку ілюзіі гэтак званай «Вялікай Літвы» ў межах Обер Оста мясцовыя палітыкі на акупаваных тэрыторыях актыўна пачалі адраджаць ідэі гістарычнай дзяржаўнасці і прапагандаваць уласныя праекты[840]. Разлічваць на іх хоць бы частковую рэалізацыю можна было толькі ў межах акупаваных зямель. Невыразна акрэсленая палітыка германскага канцлера Вільгельма II, па меркаванню С. Багалейшы, давала ім стымул арыентавацца на адзін з варыянтаў канцэпцыі дзяржаўнасці гістарычнай Літвы. Заява канцлера Аўстра-Венгрыі ў парламенце, што «вызваленыя ад Расіі» землі не вернуцца назад пад маскоўскае ярмо, дала падставу дзеячам нацынальных рухаў краю абʼявіць свету пра аднаўленне ВКЛ[841]. Тады і БСДРГ, створаная ў Вільні з рэштаў грамадоўскіх гурткоў, адступіла ад праграмных установак БСГ, вылучыўшы лозунг «Палітычнай незалежнасці Літвы і Беларусі ў яе апошняй гістарычнай форме Вялікага Княства Літоўскага»[842], якому раней не было дазволена дамінаваць у грамадскім дыскурсе гэтых зямель у Расійскай імперыі. З канца 1915 г. у віленскім беларускім асяродку з новай сіла загучалі заклікі да аднаўлення ВКЛ.

Імкненне беларускіх палітыкаў і інтэлектуалаў да дзяржаўнага адзінства з Літвой мела пад сабой гістарычныя, геаграфічныя і эканамічныя падставы: больш чым 500-гадовая традыцыя супольнага дзяржаўнага жыцця, агульная

[839] *Lopata R.* W kręgu projektów odrodzenia Wielkiego Księstwa Litewskiego (1915–1916) // Lituano-Slavica Posnaniensia: studia historica. 2001. Vol. VIII. P. 156–158.

[840] *Гімжаўскас Э.* Беларускі фактар пры фармаванні літоўскай дзяржавы ў 1915–1923 гг. Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. С. 53; *Марозаў С. П.* Ідэя рэстытуцыі Вялікага Княства Літоўскага ў беларускай думцы часоў Першай сусветнай вайны // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Сер. 1, Гісторыя і археалогія. Філасофія. Паліталогія. 2015. № 1 (189). С. 63–80; *Марозаў С. П.* Канцэпцыя Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага ў беларускай палітычнай думцы (1915–1916 гг.) // Первая мировая война в исторических судьбах Европы: сб. материалов Междунар. науч. конф., Вилейка, 18 окт. 2014 г. / редкол.: В. А. Богуш (пред.) [и др.]. Минск: Изд. центр БГУ, 2014. С. 289–294.

[841] *Багалейша С.* Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага: праекты і здзяйсненні // Беларускі гістарычны часопіс. 2005. № 7. С. 13.

[842] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 257.

гістарычная спадчына; гістарычна і геаграфічна складзены цэльны гаспадарча-эканамічны і сацыяльны арганізм, прыкладна аднолькавы ўзровень развіцця і ўзаемазалежнасць беларускіх і літоўскіх зямель (узаемадапаўненне прыроднымі багаццямі, супольная сістэма рэк, каналаў, дарог) [843]; агульны цэнтр духоўнага развіцця – Вільня, якая і ў Расійскай імперыі з'ўлялася адміністрацыйным цэнтрам краю[844]. Да аб'яднання з суседзямі падштурхоўвала імкненне забяспечыць доступ Беларусі да мора, у чым бачылася важнейшая ўмова развіцця нацыянальнай эканомікі[845]. Агульная дзяржава дазваляла захаваць цэласнасць этнічных беларускіх тэрыторый і пазбегнуць палітычнай канкурэнцыі з-за Вільні, так важнай і для беларусаў, і для літоўцаў. Лічылі, што эканамічная магутнасць беларускай дзяржавы без сувязяў з марскімі партамі Літвы, а яе ідэалагічна-культурны прэстыж без Вільні істотна знізіцца[846].

Прыхільнасць беларускіх дзеячаў да ідэі рэінкарнацыі ВКЛ абумоўлена таксама ўсведамленнем недахопу эканамічнага, сацыяльнага, культурнага падмурку для стварэння мананацыянальнай беларускай дзяржавы, недахопу ўласных сілаў для дзяржавастваральнай працы. На іх думку, беларуская грамадства не было падрыхтаваным да незалежнасці. Не паспелі сфарміравацца беларускія буржуазія і нацыя[847]. Сказвалася ідэалізацыя месца беларускага народа ў ВКЛ.

Усё гэта прымушала шукаць апоры ў суседзяў – арыентацыя найперш была скіравана на Літву. Праявіць зацікаўленасць у развіцці адносін з новай еўрапейскай краінай у выглядзе адроджанага ВКЛ маглі іншыя дзяржавы[848].

Падставай для ідэі рэстытуцыі ВКЛ, папулярнай сярод

---

[843] *Луцкевіч А.* Барацьба за вызваленне; уклад., навук. рэд., пераклады, каментары і прадмова А. Сідарэвіча. Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2009. С. 315–316, 318–320.

[844] *Ціхаміраў А.* Беларуска-літоўскія дачыненні ў 1914–1920 гг. // Спадчына. 2000. № 5–6. С. 3.

[845] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 309.

[846] *Шыбека З.* Чаму Вільня не стала сталіцай БНР? [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://old.belcollegium.org/lekcyji/historyja/szybeka_01.htm. Дата доступу: 24.01.2019.

[847] Тамсама.

[848] *Смалянчук А.* Беларускі нацыянальны рух і краёвая ідэя // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2000. № 14. S. 114.

яго правапераемнікаў, магло быць гістарычнае (інакш – дзяржаўнае) права. Яго сутнасць заключаецца ў наступным: людзі, якія пражываюць у адной дзяржаве, аб'яднаныя адным геаграфічным і геапалітычным асяроддзем, структурамі адной улады, падпарадкаваныя адным законам, гаспадарчым і культурным патрэбам, ствараюць унікальны лад жыцця – цывілізацыю. Калі дзяржава была ліквідавана прымусова, але створаная ёй цывілізацыйная спадчына застаецца жывой у свядомасці людзей, то стварaецца прававая аснова для яе аднаўлення[849].

На працягу 1915–1918 г. у колах віленскай інтэлігенцыі было выпрацавала некалькі канцэпцый геапалітычнага ўладкавання беларуска-літоўскага рэгіёна на аснове дзяржаўнай традыцыі ВКЛ. Узмацненне дыялогу і пошук кампрамісаў паміж нацыянальнымі палітычнымі асяродкамі часам даваў супольныя праекты.

У пошуках формулы беларуска-літоўскай дзяржаўнасці ў канцы 1915 – пачатку 1916 г. была створана канцэпцыя Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага. Для яе ажыццяўлення ў снежні 1915 г. у Вільні паўстала арганізацыя «Канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага», якая аб'яднала прадстаўнікоў нацыянальных палітычных арганізацый краю: літоўскіх і беларускіх дэмакратаў, польскіх краёўцаў, яўрэйскіх сацыялістаў. Вялікую ролю ў выпрацоўцы канцэпцыі Канфедэрацыі і стварэнні гэтай міжнацыянальнай арганізацыі адыграў БНК.

Канфедэрацыю ўзначаліла Часовая рада, у якую ўвайшоў шэраг вядомых літоўскіх і яўрэйскіх палітыкаў (Ю. Шаўліс, Й. Вілейшыс, А. Янулайціс, А. Заштаўт, Ц. Шабад, Ш. Разенбаўм), але найбольш актыўную ролю адыгрывалі беларусы (браты А. і І. Луцкевічы, В. Ластоўскі), асабліва прыхільныя да гэтага праекта. Ім зацікавіліся А. Смятона, Й. Станкявічус[850] – будаўнікі будучай незалежнай Літвы. Сем з дзесяці членаў Часовай рады з'яўляліся членамі масонскіх ложаў.

---

[849] *Гімжаўскас Э.* Беларускі фактар пры фармаванні літоўскай дзяржавы ў 1915–1923 гг. Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. С. 47.

[850] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 307–306.

Дачыненне да праекта масонаў, прыхільных краёвай ідэі, з аднаго боку, садзейнічала ўзаемаразуменню, аблягчала пошук кампрамісу, але, з другога, вызначыла вузкае кола прыхільнікаў Канфедэрацыі, не дала праекту шырокай падтрымкі ўплывовых нацыянальных арганізацый краю – яны засталіся ў баку і занялі пазіцыю чакання[851].

З вызначальным уплывам масонскіх ложаў з іх законспіраванасцю звязваецца тайна, якая нават для сучаснікаў ахутвала Канфедэрацыю і кінуты ёй лозунг адраджэння ВКЛ. Ды і гісторыкам аж да канца XX ст. пра іх мала што было вядома. У польскай гістарыяграфіі да сярэдзіны 1990-х г. Канфедэрацыя наогул лічылася фікцыяй, палітычнай інтрыгай, цалкам масонскім праектам і нават ледзь не жартам некалькіх невядомых[852].

Часовая рада Канфедэрацыі занялася выпрацоўкай мадэлі дзяржавы, здольнай «дайсці вызвалення Літвы і Беларусі, як дзяржаўнай адзінкі»[853] і задаволіць інтарэсы асноўных нацый краю. Гэта мадэль была сфармулявана ва ўніверсале Рады (19 снежня 1915 г.) і яе адозве «Грамадзяне» (16 лютага 1916 г.). Універсалам, выдадзеным на чатырох мовах краю (літоўскай, польскай, беларускай і яўрэйскай), Канфедэрацыя абвясціла пра свой намер стварыць дзяржаву, апелюючы да ўсіх нацый, саслоўяў, арганізацый і да ўсіх грамадзян краю з заклікам да мірнага суіснавання і аб'яднання пад лозунгам адраджэння ВКЛ[854] (дадаткі 29, 30). Ад імя беларусаў гэты зварот-універсал падпісалі І. Луцкевіч, А. Луцкевіч, Д. Сямашка і В. Ластоўскі.

Адозва «Грамадзяне!» больш дэталёва акрэслівала межы і асноўныя палажэнні палітычнага ладу будучай канфедэрацыі[855] (дадаткі 31, 32). У ёй Рада заўляла аб разрыве палітычных сувязяў з Расіяй (незалежна ад яе ладу) і збліжэнні з цэнтральнаеўрапейскімі дзяржавамі, з якімі пасля іх перамогі ў вайне польскія і літоўска-беларускія землі створаць

---

[851] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. с. 589–590.

[852] *Ponarski Z.* Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916 // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 1998. № 10. S. 57, 59.

[853] Hramadziane! 1916 г. // БАНЛ. Ф. 255. Спр. 1674. Арк. 2.

[854] Унівэрсал Конфэдэрації Вялікаго Князьства Літоускаго. 1915 г. // БАНЛ. Ф. 255. Спр. 1673. Арк. 1 адв.

[855] Hramadziane! 1916 г. // БАНЛ. Ф. 255. Спр. 1674. Арк. 2.

дзяржаўныя адзінкі ў той ці іншай камбінацыі пры ўмове гарантыі іх самастойнага культурнага і палітычнага развіцця. Больш канкрэтна акрэслівалася тэрыторыя планаванага ВКЛ – этнаграфічная Літва і заходняя Беларусь. Не перакрэсліваліся і магчымасць пашырэння новай дзяржавы на ўсход. Сталіцай абвяшчалася Вільня, вышэйшым органам улады – сейм.

Гэтыя праграмныя дакументы, у аснову якіх было пакладзена пытанне аб спадчыне ВКЛ, хоць і выдадзеныя нелегальна, выйшлі далёка за межы Обер Оста і дасягнулі Аўстрыі, Швейцарыі, Францыі[856].

Некаторыя фрагменты з гісторыі станаўлення, дзейнасці і заняпаду Канфедэрацыі ВКЛ дазваляюць рэканструяваць успаміны і дзённікі ўдзельнікаў і сведкаў палітычнага жыцця таго часу: Пятраса Клімаса, Юліі Вітан-Дубейкоўскай, Цямаха Шабада і інш. З іх даведваемся пра палітычныя сходы віленскіх інтэлігентаў «адносна канфедэрацыі Літвы з Беларуссю» 27 студзеня, 10 лютага, 13 красавіка 1916 г., пра сустрэчы па чацвяргах і пра сутнасць узнятых на іх праблем.

Так, на адным са сходаў І. Луцкевіч сказаў выдатную прамову, «лепшую за ўсіх», пра неабходнасць паўстання дзяржавы ад Чорнага мора да Балтыкі, якая будзе абарончым валам супраць небяспекі з Усходу і з Захаду. На нарадзе 27 студзеня ўсе літоўскія палітыкі выступілі за суіснаванне з Беларуссю, занятай немцамі, якая ў такой форме хоць і небяспечная, але з пункту погляду эканомікі, веры і часткова культуры з'яўляецца блізкай і патрэбнай. На сходзе 10 лютага раскрытыкавалі ўхвалу палякаў, якая сцвярджала, што Літва і Беларусь – гэта асобная адзінка, якая аднак не можа быць самастойнай дзяржавай, але толькі далучаная да Польшчы на асновах федэрацыі[857].

Але кансалідацыя сацыялістычных і дэмакратычных нацыянальных сіл краю на глебе ідэі адбудовы ВКЛ аказалася з-за змены сітуацыі хуткаплыннай. Праз 2–3 месяцы іх пазіцыі сталі ўсё больш разыходзіцца. 13 красавіка П. Клімас занатаваў у сваім дзённіку: «На сход групы інтэлігентаў не прыйшлі кампетэнтныя людзі. Падобна (канфедэрацыя) распадзецца», –

[856] *Lopata R.* W kręgu projektów odrodzenia Wielkiego Księstwa Litewskiego (1915–1916) // Lituano-Slavica Posnaniensia: studia historica. 2001. Vol. VIII. P. 159.

[857] *Ponarski Z.* Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916 // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 1998. № 10. S. 58–59; *Lopata R.* W kręgu projektów odrodzenia Wielkiego Księstwa Litewskiego (1915–1916) // Lituano-Slavica Posnaniensia: studia historica. 2001. Vol. VIII. P. 164.

і больш пра яе не згадваў[858]. Відавочнай станавілася згасанне да яе цікавасці з боку літоўскіх палітыкаў – адны баяліся, што ў ёй верх возьмуць палякі, другія стаялі за этнаграфічную Літву.

Пачатак пагаршэння ў 1916 г. адносін паміж літоўскімі і беларускімі арганізацыямі з-за амбіцый іх кіраўнікоў, абвастрэнне міжэтнічных адносін (асабліва польска-літоўскіх), да якога прыклала руку акупацыйная адміністрацыя, хутка зруйнавалі праект віленскай інтэлігенцыі. Але адзін за другім узнікаюць новыя праекты адбудовы ВКЛ, хоць сумесны беларуска-літоўскі праект з'явіўся яшчэ толькі аднойчы.

Удзельнікі Канфедэрацыі недастаткова ўзгаднялі свае крокі. Да таго ж літоўцы Коўна мелі ўласныя планы – жадалі ўзяць палітычную спадчыну ВКЛ у свае рукі. Яны стварылі Галоўны літоўскі нацыянальны камітэт, і на арганізаванай ім 6 студзеня 1916 г. разам з латышамі канферэнцыі прынялі «Пастулаты» і «Асновы Канстытуцыі самастойнага ВКЛ». У іх гаварылася, што літоўскі, латышскі і беларускі народы згодна з гістарычнай і нацыянальнай традыцыяй можа паяднаць ідэя манархіі – самастойнага ВКЛ з мясцовай дынастыяй. Выказвалася спадзяванне, што пытанне незалежнасці новай дзяржавы вырашыць будучы мірны кангрэс[859]. Беларускі даследчык А. Сідарэвіч звярнуў увагу на тое, што дакументы гэтай канферэнцыі дэкларавалі добраахвотнае аб'яднанне літоўцаў і латышоў і ўтварэнне незалежнай дзяржавы з дзвюма аўтаномнымі тэрыторыямі, а беларусам прапанавалі далучыцца да яе ў якасці трэцяй аўтаноміі[860].

Такім чынам, утварылася двоеўладдзе, і кожны з бакоў – Вільня і Коўна – прэтэндаваў на кіраўніцтва землямі гістарычнай Літвы. Іх праекты мелі прынцыповыя адрозненні. Рухаючай сілай віленскай Канфедэрацыі былі лібералы, і яны мелі на мэце стварыць федэрацыю з рэспубліканскім ладам, у якой галоўная роля адводзілася Беларусі. Ковенская Канфедэрацыя – твор клерыкалаў[861] і прадугледжваў рэстытуцыю ВКЛ у форме канстытуцыйнай манархіі з

[858] *Ponarski Z.* Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916 // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 1998. № 10. S. 59.

[859] *Lopata R.* W kręgu projektów odrodzenia Wielkiego Księstwa Litewskiego (1915–1916) // Lituano-Slavica Posnaniensia: studia historica. 2001. Vol. VIII. P. 159.

[860] *Сідарэвіч А.* Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 4. Мінск: БелЭн, 1997. С. 93.

[861] *Багалейша С.* Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага: праекты і здзяйсненні // Беларускі гістарычны часопіс. 2005. № 7. С. 16.

аўтаномнымі адзінакамі і галоўнай роллю Літвы. З. Панарскі назваў гэта чарговым утапічным планам перабудовы Цэнтральнай Еўропы пасля Першай сусветнай вайны[862].

Паколькі канцэпцыя Канфедэрацыі ВКЛ захоўвалася, хоць у іншых версіях, 21 мая 1916 г. яе Часовая рада была пераўтворана ў Пастаянную літоўска-беларускую камісію, што, аднак, істотна знізіла яе статус. Летам 1916 г. БНК працягваў перамовы з прадстаўнікамі народнасцяў краю ў духу ўніверсалу Канфедэрацыі. На сваім пасяджэння 4 чэрвеня ён заслухаў справаздачу А. Луцкевіча аб перагаворах «з літвінамі ў мешанай беларуска-літоўскай Камісіі». Як было запісана ў пратаколе, выяснена, што ніякіх прынцыповых перашкод да сумеснай палітычнай работы «на грунці канфедэрацкай плятформы» няма[863].

Аднак станавілася відавочным, што пазіцыі нацыянальных арганізацый усё больш разыходзяцца: літоўцы баранілі этнаграфічную формулу, у той час як беларусы – гістарычную і ў літоўскай формуле бачылі жаданне падзяліць беларускія землі[864].

Таму літоўская і беларуская дэлегацыі павезлі кожная свой праект дзяржавы на кангрэс нацый у Лазане (27–29 чэрвеня 1916 г.), у якім удзельнічалі 400 дэлегатаў з 23 краін[865]. Літоўцы прызналі за іншымі народамі ВКЛ права самім вырашаць свой лёс. Пры гэтым, аднак, адмаўлялі ім у праве на палітычную спадчыну ВКЛ – у праве апеляваць да гісторыі. У вачах Еўропы гэта фактычна пазбаўляла беларускую нацыю гістарычнага фундаменту – сваю дзяржаўнасць яна стварала нібыта з нуля ў той час, як Літва аднаўляла сваю нацыянальную дзяржаўнасць, страчаную са знікненнем ВКЛ[866].

Дэлегацыя БНК у Швейцарыі ў складзе І. Луцкевіча і

---

[862] *Ponarski Z.* Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916 // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 1998. № 10. S. 66.

[863] Пратаколы беларускіх арганізацый. 1916 г. // БАНЛ. Ф. 21. Спр. 2068. Арк. 14.

[864] *Гімжаўскас Э.* Беларускі фактар пры фармаванні літоўскай дзяржавы ў 1915–1923 гг. Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. С. 54.

[865] Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4: Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) / М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч [і інш.]; рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Экаперспектыва, 2005. С. 453.

[866] *Хомич С.* Территория и государственные границы Беларуси в XX веке. От незавершенной этнической самоидентификации и внешнеполитического произвола к современному status quo. Минск: Экономпресс, 2011. С. 48.

В. Ластоўскага прадставіла кангрэсу праект «Злучаных штатаў Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны», распрацаваны ў чэрвені 1916 г. А. Луцкевічам у развіццё канцэпцыі Канфедэрацыі ВКЛ (дадатак 33). На змену ідэі адной дзяржавы (ВКЛ) з аўтаномнымі тэрыторыямі ў беларускай палітычнай думцы прыйшла ідэя альянсу незалежных дзяржаў ад Балтыйскага да Чарнаморскага мора. Будучы рэалізаваным, гэты праект мог даць магутную еўрапейскую дзяржаву, змяніць традыцыйны баланс сіл у рэгіёне, вывесці маладыя дзяржавы з залежнасці ад Польшчы, Расіі, умацаваць іх абароназдольнасць і паспрыяць эфектыўнаму аднаўленню разбуранай падчас вайны эканомікі[867].

Імкненне Беларусі да дзяржаўнага адзінства з Літвой, Латвіяй і Украінай абгрунтоўвалася ў праекце А. Луцкевіча таксама яе жаданнем мець выхад да Балтыйскага і Чорнага мораў, пазбегнуць спрэчкі з літоўцамі з-за Вільні. У ім гаварылася, што гэта ідэя зрабілася нібы нацыянальным палітычным ідэалам для беларускага свядомага грамадства і з ліцвінамі ўжо ёсць дамоўленасць аб сумеснай палітычнай платформе, заснаванай на канцэпцыі Канфедэрацыі ВКЛ[868]. Але ва ўмовах, калі палітыкі суседніх народаў выпрацоўвалі канцэпцыі ўласных нацыянальных дзяржаў, ён аказаўся чарговым рамантычным геапалітычным праектам. Літва, Латвія, Украіна, маючы выхад да мора і эканамічна незалежныя ад Беларусі, не мелі такой патрэбы аб’яднання, як яна. Беларускія палітыкі пераацэньвалі значэнне мора і недаацэньвалі імкненне Літвы, Латвіі, Украіны да ўласнай незалежнасці. Да таго ж лягчэй было сфарміраваць невялікую дзяржаўную адзінку, чым ледзь не з нуля ствараць вялізны, цяжка кіруемы дзяржаўны арганізм.

Таму літоўскія палітыкі, не парываючы з беларусамі канчаткова, усё больш дыстанцыяваліся ад іх прапаноў аб сумеснай дзяржаве. Такая тактыка дазваляла ім пры неабходнасці атрымаць падтрымку беларусаў, асабліва на міжнародным узроўні, і ў той жа час прад’яўляць да іх тэрытарыяльныя прэтэнзіі. БНК, разумеючы гэту двухсэнсоўнасць, тым не менш, кантактаў з Літоўскім камітэтам не парываў і на працягу 1916 г. і амаль усяго 1917 г.

[867] *Ціхаміраў А.* Беларуска-літоўскія дачыненні ў 1914–1920 гг. // Спадчына. 2000. № 5–6. С. 6.

[868] Пратаколы беларускіх арганізацый. 1916 г. // БАНЛ. Ф. 21. Спр. 276. Арк. 6–7.

намагаўся пераканаць яго разам вызначыць асновы сумеснага дзяржаўнага жыцця[869].

Намер Германіі і Аўстра-Венгрыі аднавіць пад сваім пратэктаратам Каралеўства Польскае з канстытуцыйна-манархічным ладам ўзмацніў у віленскім беларускім актыве надзею, што аналагічныя крокі будуць зроблены і ў напрамку рэанімацыі ВКЛ. Гэта тэма горача абмяркоўвалася на нарадах і сходах, у газеце «Гоман». У нумары за 10 лістапада 1916 г. газета пісала, што ў гэтым «мы, беларусы, грамадзяне колішняга незалежнага Вялікага Княства Літоўскага, знаходзім запаведзь новай долі і для нашага Краю»[870]. Але ажыццявімасць гэтай ідэі станавілася ўсё больш сумніўнай.

Трывога краёўцаў, арыентаваных на захаванне асобнасці і цэласнасці гістарычнай Літвы і аднаўленне яе дзяржаўнай сувязі з Польшчай, анэксіяніcцкімі намерамі Германіі знайшла адлюстраванне ў іх «Мемарыяле», датаваным 1917 г. У ім гаварылася аб з’яўленні канцэпцыі, згодна якой ВКЛ «уяўляе самастойную цэласнасць і павінна быць асобнай дзяржавай», якраз тады, калі ў Германіі выспяваў «праект стварэння ўяўна самастойнага Княства Літоўскага, як форма замаскіраванай анэксіі»[871]. Такога Княства, звязанага з Рэйхам, жадалі галоўнакамандуючы Усходнім фронтам, начальнік Генеральнага штаба, генерал-фельдмаршал Паўль Гіндэнбург і Эрых Людэндорф, намеснік начальніка штаба. Аўтары «Мемарыяла» выказвалі занепакоенасць, што ажыццяўленне гэтых намераў прывядзе да германізацыі ліцвінаў і нямецкай каланізацыі. І тады толькі палітычная катастрофа Германіі дазволіць адарваць ад яе Літву, звязаную з ёй уніяй (дадатак 34).

Краёвец Л. Абрамовіч, каб не дапусціць падзелу гістарычнай Літвы дзяржаўнымі межамі, лічыў неабходным аднаўленне «заміраючых традыцый Вялікага Княства Літоўскага», «як наймацней падтрымаць выказаныя ва Універсале Рады

[869] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 310; *Хомич С.* Территория и государственные границы Беларуси в XX веке. От незавершенной этнической самоидентификации и внешнеполитического произвола к современному status quo. Минск: Экономпресс, 2011. С. 50.

[870] Z aposznich dzion // Homan. 1916. 10 listapada. C. 2.

[871] Memoriał, złożony przez grupa działaczy litewskich J. E. Panu Prezesowi Ministrów [1917] // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 828. Арк. 1.

Канфедэрацыі ВКЛ жаданні ліцвінаў і беларусаў, якія нягледзячы на сто гадоў расійскага панавання захавалі пачуццё нацыянальнай і дзяржаўнай адметнасці»[872]. «Для нас ёсць толькі адзін шлях: прызнанне і гучнае абвяшчэнне В. Кс. Літоўскага, як гістарычнага дзяржаўнага фарміравання. Праўда, ужо слабыя традыцыі гэтай дзяржаўнасці, але цалкам не згаслі», – пісаў Л. Абрамовіч у 1916 г.[873]. Дзеля гэтага найперш трэба, каб пагадзіліся паміж сабой літоўцы, беларусы і латышы (дадатак 37).

Але да ідэі стварэння магутнай сілы аб'яднаных народаў варожа паставіліся тагачасныя «гаспадары палажэння» – берлінскія палітыкі. Яны пайшлі на адасабленне гэтых народаў[874].

У пачатку 1917 г., калі Берлін, не зацікаўлены ва ўзнікненні ва Усходняй Еўропе буйнай дзяржавы, хоць і ўключанай першапачаткова ў сферу германскага ўплыву, схіліўся да стварэння мононацыянальнай літоўскай дзяржавы, літоўскія палітыкі заўважна ахаладзелі да праекта адраджэння ВКЛ. Аднак прэтэнзіі адноўленай польскай дзяржавы на гістарычную Літву зноў прымусілі літоўцаў і беларусаў да ўзаемаўзгодненых дзеянняў. Нямецкаму эмісару Ф. Ропу, які ў сярэдзіне студзеня 1917 г. прыбыў у Вільню, была прадстаўлена палітычная платформа, падрыхтаваная сумесна А. Смятонам, Ю. Шаўлісам, С. Кайрысам, А. Дарашэвічусам, А. і І. Луцкевічамі, В. Ластоўскім. Іх асноўныя палажэнні наступныя: незалежнасць ВКЛ і Курляндыі, аддзеленых ад Расіі; адмоўнае стаўленне да злучэння з Польшчай; падзел ВКЛ на тры аўтаномныя нацыянальныя часткі (літоўскую, беларускую і латышскую); сталіца Вільня з дзвюма афіцыйнымі мовамі (літоўскай і беларускай) належыць да літоўскай часткі[875]. Гэта быў другі і апошні сумесны беларуска-літоўскі праект адраджэння ВКЛ.

Хоць супольныя палітычныя дзеянні даваліся ўсё цяжэй, у

[872] *Abramowicz Ludwik*. Polska a Litwa [1917] // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 767. Арк. 1 адв., 3–4.

[873] Тамсама. Арк. 2, 3–3 адв.

[874] *Луцкевіч А.* Уваскросшы праект (аб беларуска-ўкраінска-літоўскім саюзе) // А. Луцкевіч. Барацьба за вызваленне / уклад., навук. рэд., пераклады, каментары і прадмова А. Сідарэвіча. Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2009. С. 319.

[875] *Гімжаўскас Э.* Беларускі фактар утварэння сучаснай літоўскай дзяржавы. 1915–1917 гг. // Гістарычны альманах. Гародня; Беласток, 2005. Т. 11. С. 61–62.

мемарандуме канцлеру Германіі ў сакавіку 1917 г. А. Луцкевіч гаварыў пра агульнае жаданне беларусаў і літоўцаў мець «хоць бы часткова рэстытуяванае Вялікае Княства Літоўскае»[876] (дадатак 35). Згодна дакументаў беларускіх арганізацый 1917 г., менавіта адсутнасць паразумення з літоўцамі перашкодзіла рэалізацыі праекта Канфедэрацыі ВКЛ[877]. Іх нежаданне адраджаць ВКЛ было выказана вуснамі кіраўніка Тарыбы А. Смятоны: «Літва не хоча апусціцца да ўзроўню правінцыі якойсьці дзяржавы, бо тады будзе падпарадкавана чужым інтарэсам»[878]. У мемарандуме да нямецкіх уладаў, абвешчаным літоўскімі палітыкамі у ліпені 1917 г., Літва выстаўлялася манапольнай пераемніцай гістарычнай спадчыны ВКЛ і ўтрымліваліся яе прэтэнзіі на беларускія землі. У сувязі з гэтым 22 ліпеня 1917 г. А. Луцкевіч заявіў, што літоўцы сталі для беларусаў нават большымі ворагамі, чым палякі[879].

Адданыя краёвай ідэі дзеячы марылі аб адраджэнні гістарычнай Літвы як шматнацыянальнай дзяржавы літоўцаў, беларусаў, яўрэяў і палякаў, асуджалі выстаўленую літоўскім нацыянальным рухам праграму аўтаноміі, а потым і незалежнасці этнічнай Літвы, бо яна падрывала і ламала старую дзяржаўную канцэпцыю гістарычнай Літвы, якой супрацьпаставіла падзел зямель былога ВКЛ[880]. Уладзіслаў Завадскі пісаў у «Мемарыяле па літоўскаму пытанню» 7 лістапада 1917 г., што «літоўскі рух ... зусім не вынікае з дзяржаўнай традыцыі В. Княства». Прэтэндуючы на Вільню, як сталіцу гістарычнай Літвы, ён разрывае з гэтай традыцыяй, «на другі план ставіць патрэбы краю, ігнаруе інтарэсы іншых нацыянальнасцяў краю», у сваім імкненні

[876] Его Эксцеллянции господину Имперскому Канцеляру. 1917 г. // БАНЛ. Ф. 21. Арк. 11–12.

[877] *Гімжаўскас Э.* Беларускі фактар утварэння сучаснай літоўскай дзяржавы. 1915–1917 гг. // Гістарычны альманах. Гародня; Беласток, 2005. Т. 11. С. 62.

[878] *Smetona A.* Geneza litewskiej rady krajówej. XI.1917 // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 784. Арк. 2.

[879] *Шыбека З.* Чаму Вільня не стала сталіцай БНР? [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://old.belcollegium.org/lekcyji/historyja/szybeka_01.htm. Дата доступу: 24.01.2019.

[880] *Цуба М. В.* Грамадска-палітычнае жыццё на Беларусі з пачатку Першай сусветнай вайны да Лютаўскай рэвалюцыі (жнівень 1914 – люты 1917 гг.): Матэрыялы да курса «Гісторыя Беларусі». Пінск: Палескі дзяржаўны ўніверсітэт, 2006. С. 83, 96.

сканструяваць дзяржаву ён усвядомлена ідзе «на змяшанне гістарычнай Літвы з этнаграфічнай»[881].

На нямецка-літоўскай сустрэчы, якая адбылася 13 лістапада 1917 г. у Берліне пад старшынствам Ф. Ропа, абмяркоўвалася пытанне аб палітычнай будучыні Літвы. Адзін з удзельнікаў таго сходу, прафесар Берлінскага ўніверсітэта Ганс Дэлбрук, звярнуў увагу на складанасць гэтага пытання і выказаў занепакоенасць лёсам Вільні – «самага незвычайнага горада на свеце, які размешчаны на беларускай зямлі, заселены палякамі і яўрэямі (ліцвіны складаюць хіба тры чалавекі са ста), а мае стаць сталіцай Літвы»[882]. Падтрымка Германіі дазволіла літоўскім палітыкам цвёрда ўзяць курс на ўтварэнне мананацыянальнай дзяржавы ў межах «этнаграфічнай Літвы з прылеглымі тэрыторыямі» і са сталіцай у Вільні.

У 1917–1918 гг. інтарэсы былых саюзнікаў па ВКЛ усё больш разыходзяцца. У іх змаганні за дзяржаўнае самасцвярджэнне спадчына Княства становяцца аб’ектам палітычнай канкурэнцыі, узаемных тэрытарыяльных і нацыянальных прэтэнзій.

У адказ на літоўскія прэтэнзіі на беларускія землі ў Вільні летам 1917 г. заявіла аб сабе законспіраваная арганізацыя на чале з В. Ластоўскім «Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі». Яна выказала пратэст супраць «анэксыйных прэтэнсій літвіноў да беларускіх зямель, знаходзячыся па гэтай старане фронту, абапертых на тым, што землі гэтыя ўхадзілі калісь у склад В.Князьства Літоўскага»[883]. Група В. Ластоўскага была першай беларускай арганізацыяй, якая паставіла пытанне аб незалежнасці Беларусі і арыентавала суайчыннікаў на пабудову сваёй дзяржавы з апорай на ўласныя сілы.

Праблематычнасць аднаўлення ВКЛ станавілася яшчэ большай на фоне падзей ва Усходняй Беларусі. Там пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. нацыянальны рух разгортваўся на платформе аўтаноміі Беларусі ў этнічных межах у расійскай федэрацыі і не стасоўваўся з арыентацыяй віленскага

[881] *Zawadski Wł.* Memoriał o sprawie litewskiej. 7.11.1917 // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 787. Арк. 2, 5.

[882] Літоўскі вечар у Берліне. 1917 г. Артыкул // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 822. Арк. 3–5.

[883] Знешняя палітыка Беларусі : Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Т. 1 (1917–1922 гг.). Мінск: БелНДІДАС, 1997. С. 17.

беларускага цэнтра на супольную з літоўцамі дзяржаву ў межах былога ВКЛ[884].

У кастрычніку-лістападзе 1917 г., пасля бальшавіцкага перавароту ў Расіі, адзін з буйнейшых землеўласнікаў Ашмянскага павета Казімір Шафнагель заклікаў інтэлігенцыю краю не ўпусціць спрыяльны гістарычны момант, які можа ніколі больш не паўторыцца, для нацыянальнага і палітычнага адраджэння беларускага народа, пазбаўленага сваёй дзяржаўнасці, кінутага сваімі кіраўнікамі – духавенствам і свецкай інтэлігенцыяй, «баламучанага» палітычна, эканамічна і культурна пануючымі над ім нацыянальнасцямі. «Няма даўнасці для правоў народу, – пісаў К. Шафнагель, – і гасударственасць, трываўшая цэлыя сталецці пад іменем Беларуска-Літоўскай дзяржавы і загубленая сто лет таму назад, мусіць быць вернута паўстаўшым да новага жыцця беларусам і літвінам, адвечным гаспадарам гэтага краю…»[885]. Ён асуджаў апалячанае панства і інтэлігенцыю краю, якія хочуць беларускаму народу «навязаць … чужую гасударственасць – замест памагчы яму стварыць уласную». Краёвец павучаў іх не «шукаць сабе ідэалаў у Варшаве або Кракаве», а «свае палітычныя аспірацыі, ідэалы, вашы патрыятычныя абавязкі» чэрпаць са свайго краю, з Бацькаўшчыны. «Не Польшчу трэба тут цяпер будаваць, а нашу ўласную дзяржаву; не арла, а пагоню насіць»[886].

Аднак голас краёўцаў, якія ўсведамлялі адметнасць зямель былога ВКЛ адносна Польшчы, не аказаў уплыву на сітуацыю ў рэгіёне, а далейшае развіццё падзей і наогул нанесла моцны ўдар па канцэпцыі аднаўлення Княства, адсунула яе на задні план. Першым ударам па ёй стала, па словах С. Свяневіча, «умацаванне пры дапамозе нямецкіх акупантаў нацыянальнай Літвы»[887].

Крах канцэпцыі Канфедэрацыі ВКЛ і самой арганізацыі датуецца канцом 1917 г. (пачатак рэалізацыі немцамі новай

[884] Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4: Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) / М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч [і інш.]; рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Экаперспектыва, 2005. С. 454.

[885] *Шафнагель К.* Да нашай краёвай інтэлігэнцыі (Адкрытае пісьмо) // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 301, 307.

[886] Тамсама. С. 303, 308.

[887] *Свяневич С.* Ідэя краёвасці // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 259.

літоўскай палітыкі і выбары ў Тарыбу) – пачаткам 1918 г. (прызнанне Германіяй незалежнасці Літвы). Прычыны краху бачацца ў непадрыхтаванасці тагачаснага грамадства да адраджэння ВКЛ, анахранізме самой ідэі вяртання ВКЛ, адсутнасці адзінства канфедэратаў, несумяшчальнасці нацыянальных інтарэсаў палітычных суб'ектаў мяркуемай канфедэрацыі, неспрыяльнай міжнароднай сітуацыі і інш.[888].

Правал планаў Віленскага беларускага цэнтра па стварэнні Канфедэрацыі ВКЛ абумоўлены цэлым комплексам знешніх і ўнутраных фактараў, якія – з улікам сучаснага стану навуковых ведаў і крыніцавай базы па праблеме – можна згрупіраваць у наступныя чатыры: літоўскі, беларускі, нямецкі і польскі.

**Літоўскі фактар.** Гістарычная сувязь з ВКЛ не давала літоўцам ніякіх дадатковых пераваг, да таго ж невыканальнай задачай з'яўлялася поўная інтэграцыя беларускага і польскага насельніцтва, якое пражывала на ўсходзе краіны. Ідэя дзяржаўнасці ў межах былога ВКЛ была для літоўцаў рызыкоўнай – яны небеспадстаўна асцерагаліся небяспекі асіміляцыі літоўскага этнасу ў адноўленым ВКЛ колькасна пераважаючым беларускім насельніцтвам. Літоўскія палітыкі сумняваліся ў тым, што змогуць атрымаць ад беларусаў, чыя нацыянальная самасвядомасць знаходзілася на невысокім узроўні, шырокую падтрымку ў барацьбе за незалежнасць. Наадварот, такое аб'яднанне магло прынесці больш праблем, чым карысці. Беларускія дзеячы недаацанілі імкненне Літвы да ўласнай незалежнасці.

**Беларускі фактар.** Больш слабы ў параўнанні з літоўскім беларускі палітычны патэнцыял быў недастатковы для сур'ёзнага мадэлявання ў тых умовах розных перспектыў будучыні. Беларусы не здолелі пераканаць немцаў у тым, што яны ўяўляюць сабой значную і, што больш важна, схільную да кампрамісаў палітычную сілу. Пры ўмове натуральнай канкурэнцыі беларускі нацыяналізм прайграваў альтэрнатыўным нацыянальным рухам рэгіёна, польскаму і літоўскаму, у барацьбе за масы. У той жа час слабасць беларускага нацыянальнага руху была важным, але не вызначальным фактарам, які тлумачыў, чаму немцы не бралі

[888] *Марозаў С.* Правал Канфедэрацыі ВКЛ 1915 года – лёс або заканамернасць? // Шлях да ўзаемнасці = Droga ku wzajemnosci: матэрыялы XV міжнар. навук. канф., Гродна, 13–14 лістап. 2008 г. / рэдкал.: І. Крэнь, С. Мусіенка, І. Папоў, Я. Роўба (адк. рэдактары) [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2009. С. 265–269.

пад увагу канцэпцыю беларускіх адраджэнцаў. Галоўным фактарам былі вызначаныя ваенна-стратэгічныя мэты Германіі адносна Расіі[889].

Акрамя таго ва ўмовах акупацыі мясцовае насельніцтва ўспрымала любыя пошукі беларускімі арганізацыямі разумення і падтрымкі Германіі як згодніцтва з акупантамі. Ідэйная падаплёка гэтых захадаў у разлік не прымалася.

**Нямецкі фактар** быў вызначальным. Аб'яднанне нацыянальных сіл краю супярэчыла нацыянальнай палітыцы divide et impera акупацыйных уладаў. Таму яны прыклалі руку да абвастрэння міжэтнічных адносін у краі; распальвалі польска-літоўскія супярэчнасці, звязаныя з узаемнымі прэтэнзіямі на тэрыторыю Беларусі; сваёй двурушніцкай палітыкай (акаталічаным беларусам абяцалі адраджэнне Польшчы, а беларусам і літоўцам – іх дзяржавы) абвастралі ўнутраныя спрэчкі нацыянальных камітэтаў і хутка разбурылі гэту трохі рамантычную ідэю.

Імкненне беларусаў да непадзельнасці гістарычнай Літвы не стыкоўваліся з геапалітычнымі інтарэсамі Германіі, палітыка якой выключала магчымасць рэалізацыі якіх-небудзь маштабных праектаў. Беларускі канфедэрацыйны праект закранаў інтарэсы яшчэ магутнай Расіяй, з якой Германія намервалася заключыць сепаратны мір і яго коштам утрымаць Ober Ost.

Слабасць беларускага руху, які прайграваў літоўскаму, не меў правага палітычнага крыла, адмаўляўся ад германскага пратэктарата, а таксама часовае і частковае супадзенне палітычных мэтаў немцаў і літоўцаў, чые дзеячы згаджаліся на ўмовы акупантаў, зрабілі непазбежнай стаўку Берліна на выкарыстанне літоўскага нацыянальнага праекта.

**Польскі фактар.** Многія сучаснікі лічылі, што працэс сепарацыі нацый пачаў паглыбляцца з-за пазіцыі палякаў, якія адмаўлялі магчымасць паўстання самастойнай дзяржавы на аснове былога ВКЛ і агітавалі за злучэнне з Польшчай у форме федэрацыі або аўтаноміі; а пазней выбралі інкарпарацыю. М. Б. Шчаўлінскі называе галоўнай прычынай, з-за якой распалася Канфедэрацыя ВКЛ, супярэчнасці паміж беларускім сялянствам, звязаным праз праваслаўную рэлігію з рускай

---

[889] *Снапкоўскі У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 65.

царквой, і чужым каталіцызму, з польскімі памешчыкамі, якія пераважалі ў Беларусі ў структуры пануючага саслоўя[890].

Нацыі краю разышліся ў бачанні сваёй будучыні: палякі глядзелі ў бок Варшавы, з якой хацелі звязаць свой лёс; яўрэі, прываблены вялікім рынкам Расіі, аглядаліся на Маскву. Літоўцы, спачатку прыхільныя да ідэі адраджэння ВКЛ, зрабілі, як і палякі, стаўку на стварэнне мананацыянальнай дзяржавы з прэтэнзіямі на беларускія землі Гродзеншчыны і Віленшчыны. Толькі беларусы безнадзейна спадзяваліся, што можа паўстаць супольная дзяржава з літоўцамі, якія ад іх аддаляліся. Віленскія беларускія лідары, найбольш зацікаўленыя гэтай формай вырашэння нацыянальных праблем, найдаўжэй падтрымлівалі ідэю стварэння канфедэрацыі народаў ВКЛ. З. Панарскі назваў гэты праект «шляхетнай утопіяй XX ст.», якая і не магла ажыццявіцца[891].

У адданасці беларускага руху дзяржаўна-палітычнай традыцыі ВКЛ Т. Снайдэр бачыць яго слабасць – пакуль беларусы дамагаліся пабудовы супольнай шматнацыянальнай дзяржавы, літоўцы і палякі стварылі свае мананацыянальныя дзяржавы. Так што большая, у параўнанні з літоўцамі, адданасць беларусаў традыцыям ВКЛ абярнулася супраць іх саміх[892]. Аналагічна разважае А. Трафімчык: «у той час, як народы былой Рэчы Паспалітай (палякі, літоўцы, украінцы) зрабілі выбар на карысць самастойнага шляху дзяржаўнага будаўніцтва, беларусы працягвалі трымацца ранейшага дзяржаўнага status quo ў выглядзе ВКЛ, што фактычна не пакідала ім альтэрнатывы»[893].

---

[890] *Щавлинский Н. Б.* Белорусское национальное движение в в годы первой мировой войны (1914–1918 гг.). Минск: РИВШ БГУ, 2001. С. 20; *Щавлинский Н. Б.* Государственно-политическое и национально-культурное самоопределение Беларуси в годы Первой мировой войны (1914–1918). Минск: ООО «Мэджик Бук», 2009. С. 40.

[891] *Ponarski Z.* Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916 // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 1998. № 10. S. 65–66.

[892] *Снайдэр Т.* Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569–1999; пер. з англ.; навук. рэд. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. С. 385.

[893] *Трафімчык А.* Стаўленне бальшавікоў да дзяржаўнасці Беларусі ў 1917–1921 гг. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://old.belcollegium.org/lekcyji/historyja/trafimczyk_01.htm. Дата доступу: 24.01.2019.

## 3. Праекты адраджэння ВКЛ пачатку XIX і пачатку XX ст.: параўнальны аналіз

Выбар для параўнання храналагічных адрэзкаў – пачатак XIX ст. і пачатак XX ст., якія адстаяць адзін ад другога адлегласцю у стагоддзе, абумоўлены тым, што ў гэтыя перыяды дасягала апагею «канцэнтрацыя» на адзінку часу праектаў; мысліцеляў і палітыкаў, у іх задзейнічаных; меў месца высокі палітычны ўзровень іх абмеркавання і настойлівасць дамаганняў па ўвасабленню ў жыццё. Гэтыя часавыя адрэзкі маюць таксама падабенства міжнароднай сітуацыяй і вастрынёй пастаноўкі дзяржаўна-нацыянальных пытанняў.

Першы адрэзак часу заключаны ў храналагічных межах 1805–1815 гг. – ад абмеркавання ўрадам Аляксандра I праекта адраджэння ВКЛ і Рэчы Паспалітай А. Чартарыйскага (1805–1810 гг.), потым – плана М. К. Агінскага (1811 – пачатак 1812 г.), праз частковую рэалізацыю ідэі ў выглядзе створанага Напалеонам ВКЛ ў «французскім варыянце» (другая палова 1812 г.) да рашэнняў Венскага кангрэса і адмовы расійскага імператара ад разгляду гэтага пытання ў сувязі з яго дэактуалізацыяй (1815 г.).

Другі храналагічны адрэзак уключае падзеі і з’явы 1915–1918 гг. – ад стварэння арганізацыі «Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага» і распрацоўкі канцэпцыі канфедэрацыі, яе эвалюцыі ў праект Злучаных Штатаў Беларусі, Літвы і Украіны праз «парад» незалежнасцяў народаў былога ВКЛ, проціпастаўленне рэстаўратарска-аб’яднаўчым (заходне) беларускім тэндэнцыям літоўскага курса на будаўніцтва сваёй мананацыянальнай дзяржавы, ілюзію пачатку рэалізацыі канцэпцыі канфедэрацыі ВКЛ у лістападзе 1918 г. стварэннем Міністэрства беларускіх спраў ва ўрадзе Літвы і да пераходу ВКЛ з разраду будучыні (мэта, мара, форма эвентуальнай дзяржавы) у разрад гісторыі.

На кожны з разглядаемых перыядаў часу прыходзіцца па некалькі праектаў-канцэпцый з рознымі варыянтамі вырашэння лёсу зямель і народаў былога ВКЛ на аснове (або з улікам) іх дзяржаўна-палітычнай традыцыі (адпаведна 10 і 9).

Для пачатку XIX ст. – гэта: 1) «Пулаўскі» план А. Чартарыйскага (1805–1810 гг.); 2) «Мемарыял аб уладкаванні Літвы» С. Нямцэвіча, уручаны ў 1806 г. А. Чартарыйскаму;

3) «Мемарыял» (план паўстання) і праект арганізацыі ВКЛ, прапанаваныя А. Сапегай Напалеону (вясна 1807 г.); 4) План паўстання ў заходніх губернях (Ю. Серакоўскі, чэрвень 1907 г.), прапанаваны ў Тыльзіце Напалеону; 5) Ваенна-палітычны праект А. Г. Радзівіла, прапанаваны Аляксандру I (1807 г.); 6)Урадавы праект «літоўскай аўтаноміі» («Запіска аб уладкаванні польскіх губерняў» М. Сперанскага, 1811 г.); 7) «Пісьмо Э. Тышынскага аб утварэнні асобага княства Літоўскага» (чэрвень 1811 г.); 8) Праект групы М.К. Агінскага ВКЛ (вясна 1811 – пачатак 1812 г.); 9) Мемарыял «Аб спосабах пазбаўлення Еўропы ад уплыву Расіі, а дзякуючы гэтаму – і ад уплыву Англіі» М. Сакальніцкага (люты 1812 г.); 10) «Французская версія» ВКЛ (ліпень – снежань 1812 г.).

На пачатак XX ст. прыйшліся наступныя праекты: 1) Праект-канцэпцыя Канфедэрацыі ВКЛ і пад яго рэалізацыю – аднайменная міжнацыянальная арганізацыя ў Вільні (канец 1915 – першая палова 1916 г.); 2) Ковенскі праект ВКЛ з дзвюма аўтаномнымі тэрыторыямі (Літва і Латвія) і правам Беларусі далучыцца па правах трэцяй аўтаноміі (пачатак 1916 г.); 3) Праект Злучаных Штатаў Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны (Балтыйска-Чарнаморскага саюза), абгрунтаваны ў чэрвені 1916 г. А. Луцкевічам; 4) Літоўска-беларуская палітычная платформа для нямецкіх уладаў (студзень 1917 г.); 5) Мемарандум канцлеру Германіі (А. Луцкевіч, сакавік 1917 г.); 6) «Праект Е. Чапскага» (кастрычнік-лістапад 1918 г.); 7) Краёвая канцэпцыя дзяржаўнага уладкавання народаў былога ВКЛ (К. Шафнагель, М. Ромер і інш.); 8) Варыянты дзяржаўнасці гістарычнай Літвы, разгляданыя ў 1916–1918 г. Берлінам (ВКЛ, Літоўскае каралеўства); 9) Дзейнасць з лістапада 1918 г. МБС ва ўрадзе Літвы і далучэнне Гродзенскай губерні да Літвы на правах аўтаноміі, што стварала ўражанне пачатку рэалізацыі канцэпцыі Канфедэрацыі ВКЛ.

Такім чынам, у пачатку XIX ст. і ў пачатку XX ст. было распрацавана каля двух дзесяткаў найбольш вядомых праектаў адраджэння/стварэння дзяржавы на аснове палітычнай традыцыі ВКЛ. На кожны з гэтых перыядаў прыпадае па аднаму рэлізаванаму праекту: «французскі варыянт» ВКЛ 1812 г.; стварэнне ў Літоўскай Рэспубліцы беларускай аўтаноміі з Гродзенскай губерні і дзейнасць МБС – своеасаблівага ўрада «гродзенскай аўтаноміі».

Параўноўваючы праекты пачатку XIX ст. і пачатку XX ст., галоўны акцэнт робіцца на плане М. К. Агінскага (вясна 1811 – пачатак 1812 г.) г. і праекце-канцэпцыі Канфедэрацыі ВКЛ, рэалізаваць які намагаўся беларускі нацыянальны рух у 1915–1918 гг. у нямецкай зоне акупацыі. Параўнанне гэтых праектаў на прадмет устанаўлення ў іх адметнага і агульнага праводзіцца па наступным крытэрыям: прычына з'яўлення; сацыяльная база; унутраныя і знешнія абставіны распрацоўкі праектаў; адносіны да замежных сіл; месца, якое адводзілася беларускім землям ВКЛ у геапалітыцы імперый, і стаўленне апошніх да праектаў адраджэння ВКЛ; змест праектаў; этнанацыянальны аспект праектаў; характар узаемаадносін паміж народамі-спадкаёмцамі ВКЛ і Рэчы Паспалітай, у тым ліку што датычыць супольнай спадчыны ВКЛ; ступень рэалізацыі ідэі; прычыны правалу праектаў.

**Прычына з'яўлення.** У аснове змагання за адраджэнне ВКЛ (для пачатку XX ст. можна прымяніць слова «дамаганне») ляжала адна прычына: пошук яго правапераемнікамі шляхоў дзяржаўнага самавызначэння. У першым выпадку – калі свая дзяржава нядаўна была страчана, у другім – незадоўга да яе ўтварэння. У першым выпадку мясцовымі лідарамі рухала настальгія па страчанай дзяржаве і свайму статусу ў ёй, у другім у большай меры – нацыянальны прагматычны разлік, узмоцнены запанаваўшым у Еўропе правам нацый на самавызначэнне. Але ў абодвух выпадках мела месца жаданне павярнуць назад кола гісторыі, перанесці мінулае ў будучыню.

**Сацыяльная база.** Праекты мелі розную сацыяльную базу. Аўтарамі праектаў пачатку XIX ст. выступаюць палітыкі былога ВКЛ: С. Нямцэвіч і Т. Ваўжэцкі, М. К. Агінскі, Ф.-К. Друцкі-Любецкі і інш. За імі стаялі магнаты, шляхта, каталіцкае і ўніяцкае духавенства, студэнцкая моладзь. Гэта – прадстаўнікі першага пакалення нашчадкаў ВКЛ з ліку інтэлектуальнай і палітычнай эліты, якія ў ВКЛ нарадзіліся, атрымалі адукацыю, зрабілі кар'еру. Яны з'яўляліся сведкамі або сучаснікамі руйнавання іх дзяржавы, некаторыя ратавалі яе ў паўстанні 1794 г., а са знікненнем страцілі былыя правы і прывілеі, пасады, уладу, уплывы. Гэта пакаленне было найбольш падвергнута сацыякультурнай траўме ад падзей 1794–1795 гг.

У пачатку XX ст. ідэя адраджэння ВКЛ прымае

форму нацыянальных інтэлектуальных праектаў, якія распрацоўваліся беларускай інтэлігенцыяй каталіцкага веравызнання, што паходзіла з асяроддзя дробнай або сярэдняй шляхты, і літоўскай інтэлігенцыяй сялянскага паходжання. Гэта былі прадстаўнікі пятага – шостага пакаленняў спадкаёмцаў ВКЛ, у якіх рэаліі 1890-х гг.– 1915 гг. аднавілі сацыякультурны посттраўматычны стан, што пацягнула новы вiток канструявання ВКЛ на грунце гістарычнай памяці.

Аўтарамі праектаў пачатку ХХ ст. былі лідары і ідэолагі беларускага нацыянальнага руху браты І. і А. Луцкевічы, В. Ластоўскі і інш., за якімі стаялі нешматлікія, моцна парадзелыя з пачаткам Першай сусветнай вайны ў сувязі з мабілізацыяй у войска і бежанствам інтэлектуальныя сілы заходняй Беларусі, Віленшчыны, хоць гэтыя праекты мелі прыхільнікаў у цэнтральнай Беларусі (З. Варонка і інш.), а таксама на ўсходзе.

У той жа час у абодвух выпадках вялікія пласты насельніцтва Беларусі засталіся індыферэнтнымі да ідэі адраджэння ВКЛ, а некаторыя (праваслаўнае духавенства, рускія чыноўнікі і арыентаваная на Расію мясцовая інтэлігенцыя, галоўным чынам, усходу Беларусі) вяртанне мінулага яшчэ і баяліся.

**Унутраныя абставіны з’яўлення праектаў.** У пачатку XIX ст. перажыванне сацыякультурнай траўмы было моцным, як і настальгія па мінуламу; яшчэ не згасла традыцыя незалежнасці і асабістага гонару за свае ВКЛ-аўскае грамадзянства. Для тых, хто праз стагоддзе звярнуўся да ідэі ВКЛ, гэта традыцыя была ўжо абарвана вынішчэннем і высылкай тых, хто адстойваў яе у паўстанні 1863 г., і прызнаннем пасляпаўстанцкім пакаленнем свайго расійскага грамадзянства. Але ў абодвух храналагічных зрэзах мела месца перажыванне сацыякультурнай траўмы; жаданне мець сваю дзяржаву; настальгія аб мінулым, якое было рамантызавана літаратурай XIX ст.; наяўнасць лідараў, якія распрацоўвалі планы адраджэння, і прыхільнікаў, гатовых узяцца за іх ажыццяўленне; у рэшце рэшт, прагматычныя інтарэсы – сацыяльныя, эканамічныя, палітычныя, нацыянальныя і іншыя выгоды ад існавання ўласнай дзяржавы.

У пачатку XIX ст., як і ў пачатку ХХ ст. меў месца перанос мінуўшчыны ў будучыню: разуменне неабходнасці змагацца

за дзяржаву, якая загінула, каб яна дала магчымасці для будучага развіцця.

**Знешнія абставіны распрацоўкі праектаў.** Моцным штуршком стала змена ў Еўропе геапалітычнай сітуацыі ў 1812 г. і 1915 г.

У канцы XVIII – 60-я гг. XIX ст. «польскае пытанне», састаўной часткай якога было «літоўскае пытанне», займала важкае месца ў сістэме еўрапейскіх міжнародных адносін. Адраджэнскія памкненні адносна Рэчы Паспалітай і ВКЛ выказвалі Англія, Францыя; мясцовыя прыхільнікі аднаўлення спадзяваліся таксама на дапамогу Турцыі. Спробы ў 1806–1815 гг. Францыі, а ў 1914–1918 гг. Германіі змяніць на сваю карысць геапалітычную сітуацыю ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе нараджалі ў вышэйшых кіруючых колах дзяржаў-агрэсараў, а таксама ў асяроддзі правапераемнікаў ВКЛ розныя геапалітычныя праекты дзяржаўнага ўладкавання беларуска-літоўскага рэгіёна, у тым ліку ў форме адноўленага ВКЛ. У вайне 1812 гг. іншых варыянтаў і не разглядалася. У падзеях 1915 г. пытанне «гістарычнай Літвы» з унутранага пытання Расійскай імперыі зноў выходзіць на міжнародны ўзровень.

Рэальныя шанцы адраджэння ВКЛ ўзнікалі тады, калі «літоўскае» пытанне з унутранай справы яго спадчыннікаў набывала міжнародны статус. Праект М. К. Агінскага быў распрацаваны напярэдадні вайны, праект Канфедэрацыі ВКЛ – калі вайна ўжо ішла. Войны станавіліся каталізатарам ажыўлення ідэі і намаганняў вяртання дзяржаўнасці ВКЛ. У другім выпадку спрыяльныя магчымасці для самавызначэння адкрывала перад нерускімі народамі імперыі падзенне царызму.

**Адносіны да замежных сіл.** Мясцовыя дзяржаватворчыя сілы выкарыстоўвалі міжнародныя калізіі, што ў пачатку XIX ст. і ў пачатку XX ст. абрынуліся на Расійскую імперыю, якая «праглынула» ВКЛ, для пастаноўкі пытання аб яго вяртанні. Іх шанцы напярэдадні франка-рускай вайны павялічвала саперніцтва паміж імператарамі за беларускую і літоўскую шляхту.

Агульным у праектах была арыентацыя на знешнюю палітычную сілу, якая, здавалася, падавала найбольшыя надзеі на ўваскрашэнне ВКЛ. Пры гэтым, аднак, мелі месца

рознанакіраваныя арыентацыі – на супрацьстаяўшыя знешнія сілы. М. К. Агінскі ўзяў курс на Расію, і гэта супала з жаданнем Аляксандра I заручыцца вернападданствам шляхты заходніх губерняў, каб нейтралізаваць яе прафранцузскія настроі перад пагрозай вайны з Францыяй. Другія бачылі больш моцнага пратэктара ў Напалеоне і на яго зрабілі стаўку пад час французскай акупацыі Беларусі і Літвы.

У 1915 г. беларускія дзеячы Вільні ўбачылі рэальную сілу, здольную паспрыяць адраджэнню ВКЛ, у кайзераўскай Германіі. Падзел тэрыторыі Беларусі ў 1915 г. нямецкай зонай акупацыі на дзве часткі ўскладняў мясцовым палітыкам пошукі шляхоў дзяржаўнага самавызначэння сваёй зямлі і народа. Таму не дзіўна, што ў Вільні і Мінску ўзніклі розныя праекты іх дзяржаўнага ўладкавання.

Пры гэтым кожны, хто прапаноўваў свае праекты адпаведна Расіі, Францыі або Германіі, намагаўся даказаць, што аднаўленне ВКЛ будзе выгадна для гэтай краіны і Цэнтральна-Еўрапейскага рэгіёна ў цэлым.

Арыентацыя на замежныя сілы, якія, аднак, на тэрыторыі Беларусі і Літвы доўга не затрымліваліся, з аднаго боку, стварала ілюзію магчымасці выправіць гістарычную несправядлівасць канца XVIII ст., а, з другога, абмяжоўвала мясцовыя дзяржаватворчыя сілы.

**Месца, якое адводзілася беларускім землям ВКЛ у геапалітыцы імперый, і іх стаўленне да праектаў адраджэння ВКЛ.** Замежныя сілы – Францыя ў эпоху напалеонаўскіх войнаў і Германія ў 1915–1918 гг. – «прыбіраліся ў тогу» вызваліцеляў народаў былога ВКЛ, падагравалі іх незадаволенасць існуючымі парадкамі і падавалі надзею на ўвасабленне ў жыццё сканструяванай імі дзяржавы. Але дзяржавы-агрэсары кіраваліся ў сваіх дзеяннях не намерам ашчаслівіць захопленыя народы, а ўласнымі ваенна-стратэгічнымі мэтамі, элементам дасягнення якіх разглядаліся беларуска-літоўскія землі, найперш у плане выкарыстання іх людскіх і матэрыяльных рэсурсаў. З аднаго боку, захопнікі маглі пайсці на стварэнне на гэтых землях залежнай ад сябе буфернай квазі-дзяржавы. З другога, тэрыторыя Беларусі з'яўлялася для іх козырнай картай, а ў горшым выпадку – разменнай манетай ў дыпламатычным гандлі з Расіяй. У

любым выпадку акупанты былі зацікаўлены ў лаяльнасці мясцовага насельніцтва.

Таму абяцаючы беларусам-ліцвінам адрадзіць іх дзяржаву, Напалеон, кайзер Вільгельм, як і Аляксандр I , вымушаныя лічыцца з мясцовымі настроямі, вялі двайную гульню. Ні Францыя ў 1806–1812 гг., ні Германія ў 1915–1918 гг. не былі зацікаўлены ў стварэнні/адраджэнні на абшарах былога ВКЛ буйнай дзяржавы, якая магла з часам выйсці з-пад іх кантролю.

Што да Беларусі, то Германія лічыла яе часткай Расіі, хоць і са сваёй этнаграфічнай спецыфікай, беларускі нацыянальны рух – рухам адзінак у Вільні, а беларускае пытанне – зусім нязначным і не вартым увагі. Таму рэйх і не праяўляў асаблівай зацікаўленасці. Для Расіі ў эпоху напалеонаўскіх войнаў і ў Першую сусветную вайну Беларусь была стратэгічным плацдармам для наступлення і абароны сваіх тэрыторый.

Варта звярнуць увагу яшчэ на адзін момант: і напалеонаўскае ВКЛ 1812 г., і нямецкі камуфляж з адраджэннем ВКЛ у 1915–1918 гг., а рэальнай падтрымкай этнічнай Літвы мелі антыпольскую накіраванасць – разлік рабіўся на абмежаванне празмернага ўмацавання Польшчы. І тым больш агрэсары, як, дарэчы, і Аляксандр I , не ішлі на аб’яднанне «рускіх правінцый» разам з Польшчай у адну дзяржаву.

Змена геапалітычнай сітуацыі, з аднаго боку, стымулявала распрацоўку мясцовымі палітыкамі самых смелых дзяржаўніцкіх праектаў, але, з другога, абмяжоўвала іх у магчымасцях дзяржаватварэння, бо краіны, ад якіх залежала адраджэнне ВКЛ, зыходзілі са сваіх ваенна-стратэгічных мэтаў і прагматычных інтарэсаў.

**Змест праектаў.** ***Назва дзяржавы.*** Згодна з праектамі пачатку XIX ст. і ў пачатку XX ст., захоўваліся ранейшая назва дзяржавы «Вялікае Княства Літоўскае» (або яе некаторая мадыфікацыя) і сталіца ў Вільні.

***Характар узаемаадносін з Расіяй.*** План М. К. Агінскага прадугледжваў злучэнне або ўключэнне ВКЛ у склад Расійскай імперыі, праект Канфедэрацыі ВКЛ – разрыў палітычных сувязяў з Расіяй (незалежна ад яе ладу) і збліжэнне з цэнтральнаеўрапейскімі дзяржавамі.

Важную ролю адыгрывалі адносіны расійскай палітычнай эліты: у 1810-я гг. шавіністычныя настроі расійскай

інтэлігенцыі выказваў М. Карамзін. Пад час Першай сусветнай вайны агульнарасійскія палітычныя партыі «рабілі вызначальны ўплыў на расстаноўку палітычных сіл у прыфрантавой Беларусі і амаль манапольна ўздзейнічалі на ход і вынікі палітычнай барацьбы па пытаннях нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў краі»[894].

***Тэрыторыя і насельніцтва.*** Па плану 1811 г. ВКЛ складалася з васьмі губерняў: Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай і Валынскай разам з акругамі Беластоцкай і Тарнопальскай з насельніцтвам 8 млн чалавек.

Канфедэрацыя ВКЛ стваралася на занятых нямецкімі войскамі тэрыторыях Літвы, Беларусі (заходняй) і Курляндыі. Гэта губерні Віленская, Ковенская, Гродзенская, частка Мінскай, Сувалкаўская, частка Курляндскай. Тэрыторыя мела плошчу 112 тыс. кв. км, сваімі межамі і абрысамі нагадвала ВКЛ 1793–1795 г. Тут пражывалі 3 млн чалавек[895], з якіх амаль палову (каля 1,5 млн) складалі беларусы[896]. Не перакрэсліваліся магчымасць пашырэння новай дзяржавы на ўсход.

***Органы ўлады і кіравання.*** На чале ВКЛ паводле плана 1811 г. стаяў імператарскі намеснік, якога прызначаў расійскі імператар. Пры намесніку і пад яго старшынствам стваралася Адміністрацыйная рада кіравання, падзеленая на дэпартаменты. Усе сябры Рады прызначаюцца імператарам. Дзейнічаюць уласны Сенат і Вярхоўны трыбунал. Пасады ў дзяржаўным кіраванні могуць замяшчацца толькі ўраджэнцамі ВКЛ. Для кіравання справамі ВКЛ у Пецярбургу пад непасрэдным распараджэннем імператара і пад кіраўніцтвам аднаго з міністраў ствараецца Літоўская канцылярыя.

Вышэйшым органам улады Канфедэрацыі ВКЛ планаваўся сейм, абіраны на аснове агульных, роўных, простых і тайных выбараў.

***Заканадаўства.*** Па праекту 1811 г. захоўваўся Статут ВКЛ, адрэдагаваны і адаптаваны да расійскага заканадаўства.

---

[894] *Снапкоўскі У.Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: У 2 ч. Ч. 2: Ад канца XVIII да пачатку XXI ст. Мінск: БДУ, 2004. С. 68.

[895] U Wilni i wakolicach // Homan. 1916. 7 listapada. S. 2.

[896] *Щавлинский Н.Б.* Белорусское национальное движение в в годы первой мировой войны (1914–1918 гг. Минск: РИВШ БГУ, 2001. С. 19.

Адноўленай Рэчы Паспалітай меркавалася надаць канстытуцыю, прыбліжаную да канстытуцыі 3 мая 1791 г.

***Нацыянальнае пытанне.*** Мовай справаводства праект 1811 г. абвяшчаў польскую. Праект 1915–1916 гг. забяспечваў роўныя правы ўсім нацыям, якія жывуць на тэрыторыі ВКЛ.

***Этнанацыянальны аспект праектаў.*** Праекты адраджэння ВКЛ – вынік усведамлення сваёй адметнасці ад Польшчы. Праект М. К. Агінскага можна разглядаць праявай ліцвінскага сепаратызму (адносна Польшчы), хоць палякі ўспрымаліся як браты і аднадумцы, а ВКЛ меркавалася адрадзіць як асобную дзяржаву (з усімі яе атрыбутамі), аднак у федэратыўнай сувязі з Польшчай у складзе Рэчы Паспалітай. У развіццё свайго плана М. К. Агінскі з прыхільнікамі планавалі далучыць Варшаўскае княства да адроджанага ВКЛ і, такім чынам, менавіта з ВКЛ пачаць аднаўленне Рэчы Паспалітай. У праектах 1915–1916 гг. унія з Польшчай не разглядалася.

Праект 1915–1916 гг. можна лічыць праявай беларускага «інтэрнацыяналізму» – у той час, як літоўцы хацелі стварыць монанацыянальную літоўскую дзяржаву, беларусы трымаліся за традыцыю поліэтнічнага ВКЛ. Гэты праект з’яўляецца выяўленнем беларускай нацыянальна-дзяржаўнай ідэі, бо планавалася стварэнне поліэтнічнай дзяржавы з дамінацыяй беларускага этнасу.

***Характар узаемаадносінаў паміж народамі-спадкаёмцамі ВКЛ і Рэчы Паспалітай, у тым ліку што датычыць супольнай спадчыны ВКЛ.*** Для пачатку XIX ст. характэрна адзінства дзеянняў спадкаемцаў Рэчы Паспалітай і ВКЛ пры наяўнасці, аднак, пэўнага «літоўскага сепаратызму».

За стагоддзе, якое прайшло пасля Венскага кангрэса 1815 г., змяніўся характар узаемаадносін паміж народамі-спадкаёмцамі ВКЛ. З пачаткам нацыянальных рухаў, асабліва пасля паўстання 1863 г., адбываецца разыходжанне інтарэсаў спадкаемцаў ВКЛ. У першай чвэрці XX ст. спадчына ВКЛ (тэрыторыя, сталіца) пераўтвараецца ў дадатковы фактар палітычнай канкурэнцыі ў змаганні за дзяржаўнае самасцвярджэнне, у тэрытарыяльныя і нацыянальныя прэтэнзіі з боку бліжэйшых суседзяў, якія ўяўлялі тады для Беларусі ці не большую пагрозу, чым Германія і Расія.

***Ступень рэалізацыі ідэі.*** Нягледзячы на шматлікія спробы адраджэння ВКЛ, рэальна ажыццявіць гэту ідэю

ўдалося толькі аднойчы на некалькі месяцаў 1812 г. Праўда, з вялікай доляю скепсісу можна казаць, што гэта ўдалося зрабіць самім ліцвінам. Больш справядлівым будзе прызнаць, што гэта Напалеон добра разыграў «літоўскую» карту ў сваёй геапалітычнай «гульні».

Бачнасць пачатку адбудовы ВКЛ у канцы 1918 г. стварыла дзейнасць МБС ва ўрадзе Рэспублікі Літва і ўваходжанне ў яе склад Гродзенскай губерні.

У абодвух выпадках гэта было толькі ілюзіяй адраджэння ВКЛ. Створанае Напалеонам ВКЛ мела атрыбуты дзяржаўнасці (тэрыторыю, межы, органы ўлады, войска), але эканамічнай і палітычнай самастойнасцю не валодала. Канфедэрацыя ВКЛ была хутчэй тактычным крокам, праз які і літоўцы, і беларусы спрабавалі вырашыць свае палітычныя мэты без эскалацыі канфлікту.

***Прычыны няўдачы праектаў*** аднаўлення ВКЛ агульныя для абодвух перыядаў: 1. Носьбіт ідэі – эліта – не змагла кансалідаваць вакол ідэі вяртання гістарычнай дзяржаўнасці большасць народа. У 1917–1918 гг. быў аддадзены прыярытэт сацыяльным інтарэсам над нацыянальна-дзяржаўнымі. Не было адзінства ў асяроддзі самой эліты. 2. Абумоўленая слабасцю ўнутранага патэнцыялу арыентацыя на замежныя сілы, якія мелі ў Беларусі ўласныя геапалітычныя інтарэсы і доўга тут не затрымліваліся (напалеонаўская Францыя, кайзераўская Германія). 3. Негатыўныя адносіны да ідэі адбудовы ВКЛ у расійскім грамадстве, якое бачыла ў ёй пагрозу цэласнасці Расійскай імперыі. 4. Фатальнае ў гэтым сэнсе геаграфічнае размяшчэнне Беларусі на мяжы цывілізацый, паміж імперыямі.

Адметныя прычыны правалу Канфедэрацыі ВКЛ: 5. Неўлік досведу папярэднікаў – стратэгія і тактыка не зведала прынцыповых зменаў. 6. Рашаючую ролю адыграла разыходжанне інтарэсаў і канкурэнцыя за спадчыну ВКЛ.

***Тэрмін, праз які ідэя ВКЛ пасля няўдачы з яе рэалізацыяй адраджаецца зноў,*** – 15–20 гадоў. Пасля правалу праектаў і спробаў рэалізацыі дзяржаўнасці ВКЛ у 1811–1812 гг. носьбіты ідэі яшчэ двойчы змагаліся за ВКЛ у паўстаннях.

Пытанне працягу дзяржаўнай традыцыі ВКЛ, не ажыццёўленае ў 1915–1918 гг. і, здавался, дэактуалізаванае

ў 1919 г., яшчэ было выкарыстаная бальшавіцкай уладай (стварэнне ССРЛіБ), зноў узнята краёвым рухам у 1920-я – 1930-я гг. і на непрацяглы час было адноўлена ў 1939 г., калі ў Маскве вырашалася пытанне аб прыналежнасці Вільні і Віленскага края, каб на гэты раз быць назаўсёды пахаваным.

**Такім чынам**, перыяд 1915–1918 гг. мае з перыядам 1805–1815 гг. падабенства міжнароднай сітуацыяй і вастрынёй пастаноўкі дзяржаўна-нацыянальных пытанняў, калі дасягала апагею «канцэнтрацыя» на адзінку часу праектаў; мысліцеляў і палітыкаў, у іх задзейнічаных; меў месца высокі палітычны ўзровень іх абмеркавання і настойлівасць намаганняў па ўвасабленню ў жыццё. Эвентуальныя дзяржавы, згодна з праектамі 1811 г. і 1915–1916 гг., мелі ранейшую назву, сейм у Вільні, уласныя органы ўлады і кіравання, сваю армію, але розніліся тэрыторыяй, насельніцтвам і знешнепалітычнай арыентацыяй. Тое, што па прашэсці стагоддзя змест, сутнасць праектаў, формы спробаў ажыццяўлення праектаў не змяніліся, пацвярджае прывабнасць ВКЛ як феномену гістарычнай памяці (дадатак 36). Але краіны-спадкаемцы не змаглі выстаяць перад выклікам часу, якім стаў рух за незалежныя мананацыянальныя дзяржавы. Так, агульная сталіца Вільня, якая аб'ядноўвала ў пачатку XIX ст., у пачатку XX ст. стала фактарам канкурэнцыі паміж Літвой, Беларуссю, Польшчай.

## 4. Канкурэнцыя правапераемнікаў ВКЛ за яго палітычную спадчыну (1918 –1920 гг.)

З утварэннем Літвой уласнай дзяржавы беларускія палітыкі не паставілі кропку на канцэпцыі стварэння дзяржавы на аснове палітычнай традыцыі ВКЛ, як традыцыйна лічыцца ў гістарыяграфіі. Ухваленая на Беларускай канферэнцыі ў Вільні 25–27 студзеня 1918 г., гэта ідэя значна пашырыла кола прыхільнікаў. Абвяшчэнне незалежнасці Літвы ВБР вітала як «першы крок да ажыццяўлення адвечнага імкнення беларускага народу да аднаўлення свабоднага і самастойнага Вялікага Княства Літоўскага ў яго гістарычных межах – злучанай Літвы і Беларусі»[897]. У той жа час беларускія палітыкі

[897] *Ціхаміраў А.* Беларуска-літоўскія дачыненні ў 1914–1920 гг. // Спадчына. 2000. № 5–6. С. 9.

неадназначна ўспрымалі працэс станаўлення літоўскай дзяржаўнасці, бо бачылі ў ім пагрозу рэалізацыі свайго праекта. ВБР не прызнавала права Тарыбы выступаць на міжнароднай арэне ад імя былога ВКЛ, паколькі яна прадстаўляла голас і інтарэсы толькі 40 % насельніцтва гістарычнай Літвы[898] (дадатак 41).

Дамаганні Польшчы на землі гістарычнай Літвы, яе прэтэнзіі на Вільню падштурхоўвалі і частку літоўскіх палітычных дзеячаў да супрацоўніцтва з беларускім нацыянальным рухам у пытаннях перспектыў сумеснай дзяржаўнасці. Як адзначае Р. Мікныс, паміж літоўскімі прыхільнікамі канцэпцый гістарычнай і этнаграфічнай Літвы дыскусіі працягваліся нават тады, калі другая з іх была ўжо рэалізавана ў выглядзе Літоўскай Рэспублікі. Дыскусію жывіла разуменне таго, што канчатковая рэалізацыя гэтай канцэпцыі адбудзецца не хутка, – трэба было вырашыць шэраг складаных праблем і перадолець шмат перашкод. Сярод іх – пытанні аб Вільні, Клайпедзе, вяртанні культурнай спадчыны ВКЛ і інш. Р. Мікныс прызнае, што Літоўская Рэспубліка, хоць і лічыла сябе прадаўжальніцай дзяржаўнасці ВКЛ, аднак не магла ў поўнай меры выступаць у гэтай ролі. У той час, як канцэпцыя Літвы гістарычнай мела спосабы рашэння гэтых праблем. Таму яна захоўвала актуальнасць, асабліва ва ўмовах Першай сусветнай вайны[899].

Беларускія палітыкі не адмовіліся ад ідэі ВКЛ нават пасля ўтварэння Беларуссю ўласнай дзяржавы.

Зварот ВБР 18 лютага 1918 г. да заходніх краін аказаць дапамогу ў справе адбудовы «дзяржаўнай незалежнасці колішняга Вялікага Княства Літоўскага, не ўзіраючы на яго цяперашні падзел мяжою фронту»[900] (дадатак 40), прагучала тады, калі ў Мінску 9 лютага 1918 г. ужо было абʼяўлена аб стварэнні БНР. Як сцвярджае З. Шыбека, у нацыянальным руху на гэтым этапе суіснавалі два праекты беларускай

[898] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Вільня; Нью Ёрк; Менск; Прага: Беларускі Інстытут навукі й мастацтва Таварыства беларускага пісьменства, 1998. Т. 1, кн. 1–2: Фонд № 582 Дзяржаўнага Архіву Літвы («Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі»). С. 51.

[899] *Miknys R.* Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905 // Lithuano-Slavica Poznaniensia Studia Historica. 2001. T. VIII. S. 98–99.

[900] *Турук Ф. Ф.* Белорусское движение: Очерки истории национального и революционного движения белорусов. Минск: Картографическая фабрика Белгеодезии, 1994. С. 114–115.

дзяржаўнасці: федэратыўнае ВКЛ – гэты шлях выбралі віленскія лідары – і ўнітарная нацыянальная дзяржава, шляхам стварэння якой пайшлі мінскія лідары БНР і які тады выбіралі практычна ўсе народы былой Расійскай імперыі. Даследчык лічыць, што для віленскіх лідараў праект адраджэння ВКЛ са сталіцай у Вільні быў больш значным і лёсавызначальным, чым абвяшчэнне БНР з цэнтрам у Мінску[901].

У канцы кастрычніка – пачатку лістапада 1918 г. адбылася яшчэ адна спроба аднаўлення ВКЛ групай беларускіх землеўласнікаў, грамадскіх дзеячаў і палітыкаў Мінскай губерні (Э. Вайніловіч, А. Смоліч, Р. Скірмунт і інш.), якая выказалася супраць падзелу Беларусі на часткі па ўмовах Брэсцкага міру і выступіла з ініцыятывай стварэння з паўночна-заходніх губерняў Вялікага Княства Літоўска-Беларускага пад нямецкай апекай. Меркавалася, што гэта будзе канстытуцыйна-манархічная дзяржава са сталіцай у Вільні. Лідарам дваран выступіў іх прадвадзіцель граф Е. Чапскі, адзін з кіраўнікоў Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі. Ён узначаліў дэлегацыю з 30 дваран да нямецкага генерала Эрыха фон Фалькенгайна з афіцыйным зваротам на імя германскага імператара аб такім імкненні (дадатак 43). Каб заручыцца падтрымкай самога Вільгельма ІІ мясцовыя дваране накіравалі ў Берлін сваю дэлегацыю на чале з Р. Скірмунтам. Але спроба дамагчыся аўдыенцыі ў яго, як і сама ініцыятыва адраджэння ВКЛ пад апекай Германіі поспеху не мелі. Па меркаванню А. Смалянчука, гэта хутчэй за ўсё была апошняя спроба адстаяць краёвую канцэпцыю дзяржаўнасці, захаваць тэрытарыяльную цэласнасць гістарычнай Літвы і пабудаваць беларускую дзяржаўнасць на падставе беларуска-літоўскай федэрацыі або канфедэрацыі[902]. Станавілася ўсё больш відавочным, што ў новай сітуацыі рэалізацыя канцэпцыі беларуска-літоўскага федэралізму не мае шанцаў на поспех.

Наступны факт дае падставы падвяргнуць сумненню стэрэатып аб негатыўным стаўленні народа Беларусі да ідэі

---

[901] *Шыбека З.* Чаму Вільня не стала сталіцай БНР? [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://old.belcollegium.org/lekcyji/historyja/szybeka_01.htm. Дата доступу: 24.01.2019.

[902] *Смалянчук А.* Беларускі Нацыянальны рух і краёвая ідэя // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2000. S. 113.

адраджэння ВКЛ. У датаваным студзенем 1918 г. звароце жыхароў-каталікаў Гродзенскай губерні (Ваўкавыскага, Бельскага паветаў) на адрас Рады Польскага Каралеўства гаварылася: «У эпоху адраджэння прыгнечаных дзяржаў і народаў вітаем з радасцю ўваскрашэнне Вялікага Княства Літоўскага...», пад якім разумелі «землі Гродзенскага, Мінскага і вядучага калісьці Наваградскага ваяводства, якое дало людзей такога вымярэння, як Міцкевіч, Касцюшка, Рэйтан і Солтан»[903].

Тэндэнцыі незалежнасці ў беларускай палітычнай думцы ўзмацніліся пасля падпісання 3 сакавіка 1918 г. грабежніцкага для Беларусі Брэсцкага дагавора[904], па якому савецкая Расія «падзялілася» яе землямі з Германіяй, і прызнання 23 сакавіка германскім кайзерам незалежнасці Літвы. Беларускім палітыкам тады здавалася, што няздольнасць Расіі ў лютым-сакавіку абараніць Беларусь і адсунула Маскву як цэнтр іх палітычнай арыентацыі ў гістарычнае мінулае[905].

Стаўшая тады відавочнай няўдача ВБР з рэалізацыяй канцэпцыі дзяржаўнасці ў форме ВКЛ схіліла яе дзеячаў да ажыццяўлення ідэі ўласна беларускай дзяржаўнасці. Напярэдадні абвяшчэння незалежнасці Беларусі каптаваныя ў склад Рады БНР прадстаўнікі ВБР (І. і А. Луцкевічы, В. Іваноўскі, Я. Станкевіч і інш.) узмацнілі незалежніцкія тэндэнцыі мінскіх палітыкаў[906]. А. Цвікевіч і М. Доўнар-Запольскі не выпадкова назвалі тады Вільню «разумовым цэнтрам Беларусі, які найбольш жыва ўсведамляе ідэю беларускай дзяржаўнай самастойнасці»[907].

На абвяшчэнне Беларуссю, абуджанай вайной да дзяржаўнага жыцця, Народнай Рэспублікі ў межах рассялення і лічбавай перавагі беларусаў, газета 10-й нямецкай арміі

---

[903] Odpis. 1917 r. // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 892. Арк. 1, 4.

[904] *Ладысеў У. Ф., Брыгадзін П. І.* Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.). Мінск: БДУ, 2003. С. 45.

[905] *Трацяк С. А.* Брэсцкі мір і грамадска-палітычныя працэсы ў Беларусі: лістапад 1917 – студзень 1919 г. Мінск: Беларуская навука, 2009. С. 77–78.

[906] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Вільня; Нью Ёрк; Менск; Прага: Беларускі Інстытут навукі й мастацтва Таварыства беларускага пісьменства, 1998. Т. 1, кн. 1–2: Фонд № 582 Дзяржаўнага Архіву Літвы («Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі»). С. 67.

[907] Крах немецкой оккупации в Белоруссии в 1918 году: сб. документов из партархива ЦК КП(б) Белоруссии. Минск: Государственное издательство БССР, 1947. С. 148.

«Zeitung der X Armee» адгукнулася 20 сакавіка 1918 г. артыкулам «Жаданні беларусаў». У ім гаварылася, што «беларуская адозва кідае яблыка раздору ва ўсх кірунках»: яна «дасць адказ украінцам», «робіць закід літоўцам у іх невырашальныя прэтэнзіі», «абвяргае анэксійныя жаданні палякаў». Адчуваецца, што гэтыя народы імкнуцца выбіцца да лепшага і гарантаванага існавання з-пад «брутальнай сілы расійскага кнута», якая «можа наймацней пакалечыла беларусаў», іх «зацерла … амаль зусім»[908]. «Але беларускі пасад такім сціплым не ўяўляецца», – адзначала нямецкая газета. Беларусаў налічваецца 8,5 млн. Трэба толькі выбраць, напрыклад, г. Вільню і Віленскую губерню, паглядзець, як там «адначасова палітычная традыцыя, нацыянальная перавага і значэнне мовы, каб перака675наццаь»[909].

Літоўская Тарыба і Рада БНР узаемна прызналі незалежнасць новастворанаых дзяржаў, але ніяк не маглі дамовіцца аб межах паміж імі. Гісторыкі традыцыйна лічаць, што на гэтым беларусы знялі сваю канцэпцыю аднаўлення незалежнасці Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў гістарычнай форме ВКЛ. Але віленскія лідары засталіся аддынымі сваёй ідэі. Стаўка беларускага Мінска на ўнітарную нацыянальную дзяржаву не перакрэслівала іх гатоўнасці ісці на федэратыўны саюз з суседнімі краінамі (Літвой, Украінай, Расіяй) пры ўмове прызнання імі цэльнасці і непадзельнасці беларускіх земляў. Найбольш рэальным саюзнікам заставалася Літва. Для БНР, на думку З. Шыбекі, рыхтавалася падстрахоўка. Літоўска-беларуская дзяржаўная супольнасць магла быць у тых складаных умовах больш жыццяздольнай і хутчэй атрымаць міжнародную падтрымку. Не выключана, што Мінск ва ўяўленнях віленскіх палітыкаў адпавядаў тактычным мэтам дасягнення беларускай дзяржаўнасці, а Вільня – стратэгічным[910].

23 красавіка 1918 г., ужо пасля абвяшчэння незалежнасці БНР, А. Луцкевіч, ініцыятар гэтага абвяшчэння і член Рады БНР, вёў перамовы з прадстаўнікамі літоўскага кіраўніцтва адносна агульнай дзяржавы. Ён заявіў, што ідэал беларусаў –

[908] Żądania Białorusinów. 20.III.1918 // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 897. Арк. 1–2.

[909] Тамсама. Арк. 2

[910] *Шыбека З.* Чаму Вільня не стала сталіцай БНР? [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://old.belcollegium.org/lekcyji/historyja/szybeka_01.htm. Дата доступу: 24.01.2019.

«адраджэнне ВКЛ як федэрацыі Літвы і Беларусі» (меўся на ўвазе саюз новых дзяржаў – Літоўскай Рэспублікі і БНР), а «Літва ў межах, прадугледжаных Тарыбай, ёсць Малая Літва ці толькі завязка адраджэння ВКЛ». Такім чынам, як сцвярджае Э. Гімжаўскас, ён лічыў завязкай ВКЛ нават не БНР, а Літву. Калі б удалося дасягнуць згоды з літоўцамі адносна агульнай дзяржавы ў межах Обер Оста, то пры ўмове паспяховага развіцця БНР яго заходняя мяжа магла быць тоеснай заходняй мяжы гістарычнага ВКЛ з дамінаваннем беларусаў[911]. «Спрацоўвала і гістарычная настальгія, і прагматычны разлік», – піша з гэтай нагоды З. Шыбека[912].

Змена сітуацыі ў Балтыйска-Чарнаморскім рэгіёне ў лістападзе 1918 г. – рэвалюцыя ў Германіі, дэнансацыя Брэсцкага міру, адступленне нямецкіх войскаў з тэрыторыі Беларусі, прэтэнзіі на беларускія і літоўскія землі савецкай Расіі і Польшчы, слабыя пазіцыі Тарыбы на Віленшчыне і Гродзеншчыне – усё гэта вымусіла беларускіх палітыкаў зноў вярнуцца ў сваёй дзейнасці да ідэі канфедэрацыі ВКЛ, якую намагалася рэалізаваць у 1916 г. БСДРГ з А. Луцкевічам на чале[913]. Многія з іх лічылі, што супрацоўніцтва з Літвой пасадзейнічае адраджэнню беларускай дзяржаўнасці. У новых гістарычных умовах, калі большасць членаў Рады БНР пакінула Мінск і пераехала ў Гродна і Вільню, была зроблена спроба наладзіць плённае беларуска-літоўскае палітычнае і ваеннае супрацоўніцтва[914].

У пагадненні ВБР з Тарыбай 27 лістапада 1918 г. Я. Варонка бачыў арганізацыю падтрымкі БНР – «калі не абараніць БНР, то хоць бы ўтрымаць у рамках дзяржаўнасці беларускую справу ... з дапамогай будуемага літоўскімі дзеячамі

[911] *Гімжаўскас Э.* Беларускі фактар пры фармаванні літоўскай дзяржавы ў 1915–1923 гг. Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. С. 73.

[912] *Шыбека З.* Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002). Мінск: Энцыклапедыкс, 2003. С. 200.

[913] *Ашарчук В. А.* Попытки создания Литовско-белорусского государства (1915–1923 гг.) // Актуальныя праблемы станаўлення і развіцця беларускай дзяржаўнасці / рэдкал.: А. І. Андарала [і інш.]. Мінск: БДПУ, 2009. Ч. 1: Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ад старажытнасці да 1918 г. С. 193; *Щавлинский Н. Б.* Государственно-политическое и национально-культурное самоопределение Беларуси в годы Первой мировой войны (1914–1918). Минск: ООО «Мэджик Бук», 2009. С. 143.

[914] *Ладысеў У. Ф., Брыгадзін П. І.* Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.). Мінск: БДУ, 2003. С. 85.

на захадзе былога Вялікага Княства Літоўскага новага дзяржаўнага арганізму»[915]. Увядзенне ў склад Тарыбы шасці членаў ВБР, пачатак актыўнай дзейнасці ва ўрадзе Літвы МБС, далучэнне Гродзенскай губерні на правах аўтаноміі да Літвы, пачатак фарміравання беларускага войска – ўсё гэта стварала ўражанне, што беларускія нацыянальныя лідары вельмі блізкія да здзяйснення свайго плана. У справаздачы аб дзейнасці МБС за першыя 10 месяцаў гаварылася: «Так пачалася супольная праца беларусаў з ліцвінамі, пачалося адраджэнне старога Літоўска-Беларускага Гаспадарства, пад штандарам якога два народы праз пяць вякоў змагаліся за сваю супольную незалежнасць і дабрабыт»[916].

У пачатку 1919 г., калі беларускія землі сталі арэнай барацьбы паміж адроджанай Польскай дзяржавай і савецкай Расіяй, значная частка дзеячаў БНР таксама схіляліся да саюзу з Літвой з надзеяй захаваць беларускую дзяржаўнасць хоць бы ў форме канфедэрацыі Беларусі і Літвы. Абаронцам гэтай ідэі выступаў прафесар М. В. Доўнар-Запольскі. Ён указваў «на слабасць Літвы ў культурных і эканамічных адносінах, што выключала магчымасць занявольвання Літвой Беларусі». Пры гэтым спасылаўся на гістарычныя факты, якія сведчылі, што ў ВКЛ Беларусь мела пануючае становішча. Другі сур'ёзны аргумент прыхільнікаў літоўскай арыентацыі заключаўся ў магчымасці захавання за Беларуссю заходніх і паўночна-заходніх абласцей, адабраных па Брэсцкаму міру. Апаненты прафесара (сярод іх – А. Цвікевіч) перасцерагалі, што сувязь з Літвой прывядзе да непазбежнай германізацыі Беларусі і яе да канчатковага разрыву з Расіяй[917] (дадатак 42).

Найбольш паслядоўна ідэю Канфедэрацыі ВКЛ (фактычна канфедэрацыі Літоўскай Рэспублікі і БНР) адстойваў адзін з заснавальнікаў БНР, міністр беларускіх спраў ва ўрадзе Літвы Я. Варонка. Ён працягнуў курс ВБР – «дамагацца злучэння ўсёй Літвы і ўсёй Беларусі, як этнаграфічных

[915] *Варонка Я.* Беларускі рух ад 1917 да 1920 году. Кароткі агляд. Менск: Беларускае коопэрацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэньне», 1991. С. 16.

[916] *Засецкі М.* Міністэрства беларускіх спраў за 10 месяцаў існаваньня. 1.XII.1918 – 1.X.1919. Кароткі нарыс. Коўна: Выдавецтва імя Ф. Скарыны, 1919. С. 4.

[917] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Вільня; Нью Ёрк; Менск; Прага: Беларускі Інстытут навукі й мастацтва Таварыства беларускага пісьменства, 1998. Т. 1, кн. 1–2: Фонд № 582 Дзяржаўнага Архіву Літвы («Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі»). С. 166, 173.

адзінак, і адраджэнне ў апошніх граніцах Вялікага Княства Літоўскага»[918]. Але не толькі ён. 1–2 снежня 1918 г. з'езд насельніцтва Гродзенскай губерні выказаўся за яе аб'яднанне з Літвой на правах аўтаноміі[919]. Аднак не ўсе «айцы» БНР падзялялі ідэю аднаўлення ВКЛ.

«Адбылася пацешная метамарфоза, – піша гісторык С. М. Хоміч, – Я. Варонка і яго прыхільнікі, многія з якіх стаялі ля вытокаў нацыянальнага руху ва ўсходняй Беларусі, нечакана знайшлі прывабным план сумеснай беларуска-літоўскай дзяржавы. І наадварот, А. Луцкевіч, які доўгі час з'яўляўся прыхільнікам беларуска-літоўскай дзяржаўнасці, калі ўзначаліў урад БНР, стаў непрымірымым праціўнікам гэтай ідэі, магчыма, расчараваўшыся ў ёй за папярэднія гады. Адпаведнай была і пазіцыя Рады Народных Міністраў БНР – яна больш не разглядала Літву ў якасці бліжэйшага саюзніка ў справе стварэння беларускай дзяржаўнасці. ... А. Луцкевіч і ўзначалены ім кабінет глядзелі на Літву далёка не як на саюзную дзяржаву. Падобным чынам А. Луцкевіч ставіўся і да Я. Варонкі, бачачы ў ім прадстаўніка ўрада сумежнай дзяржавы і абвінавачваючы ў здрадзе беларускім нацыянальным інтарэсам»[920]. Удакладнім: Я. Варонка праводзіў курс на ўваходжанне беларускіх тэрыторый у Літву на правах аўтаноміі, у той час як А. Луцкевіч выступаў за аб'яднанне з ёй на роўных у межах Канфедэрацыі ВКЛ[921]. Тым не менш, як канстатуе А. Ціхаміраў, да дзеячаў БНР таксама яшчэ не аднойчы прыходзіла разуменне, што «толькі злучанымі ўсіллямі Літва і Беларусь здолеюць захаваць усю

[918] *Варонка Я.* Заходняя Беларусь: Городзеншчына і Віленшчына. Палітычна-статыстычны нарыс з дадаткам дакументаў і пратэстаў проці польскай акупацыі. Коўна, 1919. Аўтограф, машынапіс, друкаванае выданне // БДАМЛіМ. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 152. Арк. 25.

[919] *Варонка Я.* Заходняя Беларусь: Городзеншчына і Віленшчына. Палітычна-статыстычны нарыс з дадаткам дакументаў і пратэстаў проці польскай акупацыі. Коўна, 1919. Аўтограф, машынапіс, друкаванае выданне // БДАМЛіМ. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 152. Арк. 15; *Чарнякевіч А.* Гарадзенскія апосталы. Беларускі нацыянальны рух у Гродна ў 1918–1920 гг. Гродна, 1999. С. 5.

[920] *Хомич С.* Территория и государственные границы Беларуси в ХХ веке. От незавершенной этнической самоидентификации и внешнеполитического произвола к современному status quo. Минск: Экономпресс, 2011. С. 111.

[921] *Ашарчук В. А.* Попытки создания Литовско-белорусского государства (1915–1923 гг.) // Актуальныя праблемы станаўлення і развіцця беларускай дзяржаўнасці / рэдкал.: А. І. Андарала [і інш.]. Мінск: БДПУ, 2009. Ч. 1: Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ад старажытнасці да 1918 г. С. 194.

паўнату свайго дзяржаўнага суверэнітэту», пакуль у сярэдзіне 1920-х гг. арыентацыя на Літву зусім не страціла для большасці з іх сваёй прывабнасці[922].

Надзеі на незалежную Літву не спраўдзіліся. Літоўскі ўрад спалохаўся «беларускага генерал-губернатарства»[923] з цэнтрам у Гродна і з МБС на чале, якое, будучы адарваным ад Тарыбы, выконвала на беларускай тэрыторыі ролю паўнапраўнага ўраду.

Факт прысутнасці ідэі ВКЛ у грамадскай свядомасці пэўнай часткі насельніцтва Беларусі быў выкарыстаны савецкай уладай пры стварэнні ў лютым 1919 г. на тэрыторыі Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай, Мінскай і часткі Сувалкаўскай губерняў ЛітБел з 6-мільённым насельніцтвам і сталіцай ў Вільні[924]. Акрамя ваенна-палітычнага фактару, галоўнага ва ўтварэнні гэтай буфернай дзяржавы паміж Расіяй і Польшчай, і сходства гаспадарчых характарыстык існавала яшчэ адна важная падстава: ідэя аб'яднання Беларусі з Літвой неаднойчы ўзнікала ў мінулым. У 1915–1917 гг. з канцэпцыяй канфедэрацыі ВКЛ выступала ВБР. У канцы 1918 г., калі яна пайшла на супрацоўніцтва з Тарыбай, было ўражанне, што беларускія палітыкі вельмі блізкія ад здзяйснення свайго плана. С. Хоміч дапускае, што «інфармацыя аб спробах беларускіх і літоўскіх дэмакратаў стварыць агульную дзяржаву магла навесці бальшавіцкіх лідараў на ідэю зрабіць нешта падобнае, але на савецкай аснове»[925].

Лютаўскія карэктывы, унесеныя ў нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва беларускага народа, – «лічыць унію Літвы з Беларуссю ў вышэйшай ступені жаданай»[926] – прывялі да з'яўлення на карце новай геапалітычнай канструкцыі, «что-то вроде советского ВКЛ», па выразу Ю. Туронка[927]. Гэта

[922] *Ціхаміраў А.* Беларуска-літоўскія дачыненні ў 1914–1920 гг. // Спадчына. 2000. № 5–6. С. 15, 23, 26.

[923] Засецкі М. Міністэрства беларускіх спраў за 10 месяцаў існаваньня. 1.XII.1918 – 1.X.1919. Кароткі нарыс. Коўна: Выдавецтва імя Ф. Скарыны, 1919. С. 12.

[924] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2011. С. 409.

[925] Тамсама. С. 408.

[926] *Круталевич В. А.* История Беларуси. Становление национальной державности. Минск: Право и экономика, 2003. С. 154.

[927] *Туронок Ю.* Нежеланная республика // Деды: дайджест публикаций о белорусской истории / сост., научн. ред. А. Е. Тараса. Минск: Харвест, 2011. С. 227.

была альтэрнатыва тым дзяржаваўтваральным працэсам, якія адбываліся на тэрыторыі, непадкантрольнай уладам РСФСР[928]. Новатвор Літ-Бел спыняў рознагалосссі паміж беларусамі і літоўцамі з-за спрэчных тэрыторый, з-за дзяржаўных межаў, сталіцы. Здымаліся пытанні этнічнай перамешанасці насельніцтва ў Гродзенскай і Віленскай губернях, а таксама правамернасці далучэння да РСФСР усходніх беларускіх зямель.

«Дзяржава абодвух народаў», як называлі ў прапагандысцкіх мэтах ЛітБел, фармальна маючы нібыта гістарычныя падставы, на самай справе зусім не адпавядала інтарэсам народаў былога ВКЛ. У ЛітБела не было нічога нацыянальна-беларускага, пачынаючы з мовы, бо ўсё яно лічылася контррэвалюцыйным; беларуская палітычная эліта не ўдзельнічала ў кіраўніцтве дзяржавай. Да таго ж разрывалася беларуская этнічная тэрыторыя.

Зліццё рэспублік было пададзена ў савецкай інтэрпрэтацыі як «волевыяўленне народу». Але гэты «бальшавіцкі твор», як назваў яго Ю. Весялкоўскі, не знайшоў падтрымкі ні беларусаў, ні літоўцаў[929] (дадатак 44). Акрамя таго, ЛітБел не быў нікім прызнаны, акрамя савецкай Расіі; хутка выявіў сваю нежыццяздольнасць; не выканаў задачу, ускладзеную на яго бальшавіцкім кіраўніцтвам; праіснаваў кароткі тэрмін і не паспеў стварыць нават асноўныя атрыбуты дзяржаўнасці; меў урад з чыста намінальнай уладай і быў скасаваны, калі са зменай абстаноўкі ў гэтай рэспубліцы знікла патрэба.

Падзеі 1918–1921 гг. наносілі ўдар за ўдарам па канцэпцыі аднаўлення гістарычнай Літвы. Канкурэнцыя за яе спадчыну абвастралася. Першым такім ударам, як ужо адзначалася, было стварэнне мананацыянальнай Літоўскай дзяржавы, якая заявіла прэтэнзію на частку беларускіх зямель і на манаполію на спадчыну ВКЛ. Другім ударам сталі ваенныя дзеянні паміж былымі саюзнікамі па ВКЛ і захоп Вільні Ю. Пілсудскім, а потым яе анэксія генералам Люцыянам Жалігоўскім. Іх, узгадаваных на традыцыях ВКЛ, «натхнялі федэралісцкія ідэі і спадзеў адрадзіць

[928] *Туронок Ю.* Нежеланная республика // Деды: дайджест публикаций о белорусской истории / сост., научн. ред. А. Е. Тараса. Минск: Харвест, 2011. С. 226.

[929] *Весялкоўскі Ю.* Беларусь у Першай Сусветнай вайне (Гістарычны нарыс). Беласток; Лёндан, 1996. С. 200.

ВКЛ»[930]. Рэхам папулярных да нядаўнага часу адраджэнскіх настрояў прагучала адозва «Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага», выдадзеная 22 красавіка 1919 г. Ю. Пілсудскім пры ўступленні ў горад[931]. У гэтай адозве і страце Вільні Масква ўбачыла імкненне палякаў аднавіць гістарычную федэрацыю Польшчы з Літвой і Беларуссю[932].

Каментуючы сваю адозву ў лісце за 4 мая 1919 г. да прэм'ер-міністра Польшчы Ігнацыя Падэрэўскага, Ю. Пілсудскі скардзіўся, што «і палякі, і ліцвіны, і беларусы аглядаюцца адны на Варшаву, другія на Коўна і Мінск», ён жа, называючы край ВКЛ, «меў на ўвазе гістарычную Літву як цэласць», ліцвіны ж «наследуюць нашым эндэкам». Здаецца, як мяркуе польскі даследчык Ян Відацкі, ніхто акрамя Ю. Пілсудскага аб уваскрашэнні ВКЛ у той момант не клапаціўся[933].

Але ажыццявіць сваю федэрацыйную праграму ў час, калі з развалам Расійскай імперыі запанавалі нацыянальныя ідэі з іх мадэлямі дзяржавы, Ю. Пілсудскі не змог, хоць на яго баку была рэальная сіла. Пасля таго, як іншыя партыі адхілілі ідэю федэрацыі, яму нічога больш не заставалася, як кінуць свае сілы на рэалізацыю другой канцэпцый Польшчы (Рэчы Паспалітай) – як нацыянальнай дзяржавы палякаў. Але далучэннем Вільні і яе ваколіц да сваёй дзяржавы, паланізацыйнай палітыкай урад Польшчы аддаў перавагу польскаму нацыяналізму перад федэралісцкай традыцыяй Рэчы Паспалітай. Гэта быў, па вызначэнню Т. Снайдэра, «трыумф мадэрнага нацыяналізму над традыцыйным шматнацыянальным патрыятызмам ВКЛ» – польскія і літоўскія нацыяналісты пахавалі ідэю Ю. Пілсудскага пра адраджэнне ВКЛ[934].

Восенню 1919 г. краёвец Ч. Янкоўскі выказаў скепсіс адносна перспектывы аднаўлення ВКЛ. У артыкуле «Пад сцягам Пагоні», апублікаваным у віленскай прэсе, ён сцвярджаў,

---

930 *Снайдэр Т.* Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569–1999; пер. з англ.; навук. рэд. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. С. 90.

931 *Абрамовіч Л.* In Hoc Signo Vinces! // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 286–287.

932 *Туронок Ю.* Нежеланная республика // Деды: дайджест публикаций о белорусской истории / сост., научн. ред. А. Е. Тараса. Минск: Харвест, 2011. С. 231.

933 Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. T. Bujnicki; K. Stępnik. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu M. Curie-Skłodowskiej, 2005. S. 32.

934 *Снайдэр Т.* Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569–1999; пер. з англ.; навук. рэд. Г. Сагановіч. Мінск: Медысонт, 2010. С. 89–90; 99–100.

што ВКЛ «перастала быць рэальным палітычным фактарам» тады, калі з'явілася «Aušra» Басанавіча і выданні беларускай суполкі «Загляне сонца ў наша аконца», якія прапагандавалі нацыянальную эмансіпацыю сваіх народаў. Прыкладна 25 гадоў таму «ўваскрашэнне Вялікага Княства Літоўскага перастала існаваць як праблема, як палітычная актуальнасць». Яно стала ўжо толькі «рэспектабельным і шанаваным фетышам», «модным і памятным антыкварыятам»[935].

Ч. Янкоўскі падверг крытыцы пазіцыю польскіх дэмакратычных сіл, якія «ад імя грамадства адроджанай польскай дзяржавы жадаюць незалежнага дзяржаўнага існавання зямель былога Вялікага Княства Літоўскага» і «ўзнаўлення традыцыйнай сувязі» з ім[936]. Ужо немагчыма адрадзіць ВКЛ, сцвярджаў Ч. Янкоўскі, а палякі ў Варшаве ў маі 1917 г. «вуснамі прадстаўнікоў усіх нашых партый» ў сумеснай «Дэкларацыі ў справе Літвы» выказвалі жаданне Польшчы «аднаўлення традыцыйнай сувязі з незалежным Вялікім Княствам Літоўскім!»[937]. Ён выказваў здзіўленне, як гэта «ў годзе Божым 1917-м гаварыць пра незалежнасць суверэннага ВКЛ, якое нават існаваць не можа». Але, канстатаваў, што яшчэ і сёння (восенню 1919 г.) некаторыя ў Польшчы выказваюцца за ўнію з уваскрошаным ВКЛ са сталіцай у Вільні і соймам[938]. Як пісаў Ч. Янкоўскі, «нідзе на бязмерных абшарах Белай Русі не ўздымаецца старадаўняя харугва з Арлом і Пагоняй на адным дзяржаўным гербе», а толькі мы тут у Варшаве развяваем гэты сцяг, нягледзячы на «гістарычную рэзекцыю» палякам ад беларусаў і ліцвінаў[939].

Уваскрасіць ВКЛ, як лічыў Ч. Янкоўскі, – «значыла бы кінуць у палітычны хаос цяперашніх ліцвінаў і беларусаў, што роўназначна … злучыць паміж сабою агонь і ваду»[940]. Ён быў перакананы, што мары аб вяртанні на прасторы Еўропы былой Альгердавай дзяржавы, якія ўсё яшчэ існуюць, з'яўляюцца нерэальнымі і рэалізаваць іх немагчыма. Гэтага не дапусцяць дзве акалічнасці: 1) хуткае даспяванне ў апошнія

---

935 *Jankowski Czesław*. Pod banderą Pogoni. 1919 // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 749. Арк. 1.

936 *Grunberg K.* Polskie koncepcje federalistyczne 1864–1918. Warszawa: Książka i Wiedza, 1971. S. 258–259.

937 *Jankowski Czesław*. Pod banderą Pogoni. 1919 // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 749. Арк. 1.

938 Тамсама.

939 Тамсама. Арк. 3.

940 Тамсама. Арк. 1.

два дзесяцігоддзі беларускага і літоўскага нацыянальных рухаў, аж да ўтварэння сваіх нацыянальных дзяржаў у межах уласных этнаграфічных тэрыторый; 2) «панічная боязь ліцвінаў адносна істотнага для іх грознага беларускага мора ў выпадку зліцця паміж сабой карэннай Літвы і мясцовай Беларусі»[941] (дадатак 45).

Станавілася відавочным, што прыхільнікі адраджэння ВКЛ не дацанілі ролі нацыяналізму. Нават ідэолаг краёвага руху М. Ромер пад уплывам узмоцненых Лютаўскай рэвалюцыяй у Расіі літоўскіх сепаратысцкіх тэндэнцый, якія паступова падрывалі і ламалі ранейшую дзяржаўную канцэпцыю, у 1920 г. прызнаў «праграму ўваскрашэння гістарычнай Літвы … пазбаўленай рэальных падставаў, бо нельга ўваскрашаць творы, якія паўсталі ў зусім іншых гістарычных умовах, немагчымы для прыняцця ліцвінамі, якія былі б пераважаны колькасна…»[942].

Праекты, звязаныя з краёвай ідэяй, пацярпелі паражэнне. Яны разбіліся аб рост нацыяналізму народаў былога ВКЛ і іх канкурэнцыю за яго спадчыну, што вылілася ў тэрытарыяльныя канфлікты. Паражэнне руху і яго ідэі тлумачацца іх запозненасцю, агістарычным поглядам на сітуацыю і дзейнасцю насуперак дынаміцы падзей[943], непапулярнасцю краёвай ідэі, якой яе носьбіты не змаглі зацікавіць шырэйшыя колы грамадства.

Трэцім і апошнім ударам па канцэпцыі аднаўлення гістарычнай Літвы стаў Рыжскі мірны дагавор 18 сакавіка 1921 г., які падзяліў яе тэрыторыю паміж дзвюма дзяржавамі.

**Такім чынам, у** пачатку XX ст. дзяржаўна-палітычная традыцыя ВКЛ была актуалізавана краёвым рухам, нацыянальнымі рухамі яго спадчыннікаў, а таксама шэрагам партый сацыял-дэмакратычнай арыентацыі (ППС, БСГ, ЛСДП), якія ўнеслі ў свае праграмы пастулат адраджэння ВКЛ або ўлічвалі гэту традыцыю.

У пачатку XX ст. ідэолагі краёвага руху стварылі

---

941 Тамсама. Арк. 1.

942 *Sawicki J.* Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń: TNT, 1998. S. 96, 100,110.

943 *Czerep J.* Historyczne uwarunkowania dla powodzenia odrodzenia «ideologii krajowej» na pograniczu polsko-białoruskim w kontekście europejskim // Acta Albaruthenica. Literatura, język i kultura: tradycje i nowatorstwo. Warszawa: SOWA, 2009. T. 9. S. 334.

арыгінальную формулу бачання лёсу беларуска-літоўскіх зямель, заснаваную на эмацыйнай сувязі з ВКЛ. Яны заклікалі да адраджэння ВКЛ, упісанага ў новую рэчаіснасць, і да працягу яго лепшых традыцый (найперш талерантнасці і дыялогу паміж народамі і культурамі).

Будучы праціўнікамі «нацыянальна-адасабленчага» шляху развіцця краю і раздраблення тэрыторыі былога ВКЛ на нацыянальныя дзяржавы, краёўцы асуджалі падзел спадчыны ВКЛ (найперш, тэрыторыі, сталіцы, сімволікі) паміж яго правапераемнікамі і, тым больш, прысваенне, манапалізацыю адным з народаў і выступалі за яе захаванне ў цэласнасці. Краёўцы выступілі супраць палітычнай «апекі» Варшавы над іх краем. Іх сепаратызм абапіраўся на гістарычную традыцыю, якая брала пачатак з часоў Крэўскай і Люблінскай уній і атрымала працяг у XIX ст. Краёвая канцэпцыя была арыентавана на будучыню. Лідары краёвага руху не лічылі, што ідэя адраджэння ВКЛ вычарпала сябе, але былі ўпэўнены, што яна мае перспектыву для рэалізацыі.

Аднак краёўцам не ўдалося прышчапіць гэту элітарную інтэлігенцка-шляхецкую ідэю ў масавую ідэалогію. Яна не аказала ўплыву на ход падзей, сустрэлася з сур'езнымі перашкодамі (канкурэнцыя за спадчыну ВКЛ, тэрытарыяльныя канфлікты, канфлікты з-за Вільні) і аказалася ўтапічнай.

Пытанне аб палітычнай спадчыне ВКЛ (сама дзяржава, яе тэрыторыя, сталіца, органы ўлады, заканадаўства і інш.) заняло важнае месца ў нацыянальных рухаў народаў, якія лічылі сябе яе правапераемнікамі: беларускага, літоўскага, польскага – і выкарыстоўвалі яе ў сваіх нацыянальных інтарэсах. Цікавасць беларускіх і літоўскіх палітыкаў да пытання рэінкарнацыі ВКЛ абумоўлена аб'ектыўнымі прычынамі: гістарычны, геаграфічны і эканамічны фактары, агульная сталіца, слабасць уласных сіл для дзяржавастваральнай працы, імкненне да трывалага саюза з суседзямі і інш.

Аднак разыходжанне інтарэсаў былых саюзнікаў па ВКЛ па меры фарміравання нацый і нацыянальнага самаўсведамлення, рознае бачанне будучыні народамі гістарычнай Літвы прывяло да канкурэнцыі з-за супольнай палітычнай спадчыны: прэтэнзіі на тэрыторыю ВКЛ, а пазней – і спрэчкі за Вільню. Адышла ў нябыт сумесная барацьба народаў за адраджэнне Рэчы Паспалітай (дадаткі 38,

39). Тым не менш, нацыі краю прадпрымалі спробы дыялогу. Яго найбольш яркай праявай былі з'езды прадстаўнікоў дэмакратычнай інтэлігенцыі літоўска-беларускага краю ў Вільні ў канцы 1904 – першай палове 1905 г.

Нацыянальныя рухі сфарміравалі адрозныя падыходы да выкарыстання палітычнай спадчыны ВКЛ. Канцэпцыя гістарычнай Літвы ў літоўскай палітычнай думцы стаяла за працяг дзяржаўнай традыцыі шматэтнічнага ВКЛ у той час, як канцэпцыя этнаграфічнай Літвы трактавала яго як «вотчыну» літоўскага этнасу. Польская федэралісцкая праграма прадугледжвала адбудову ВКЛ і яго аб'яднанне праз новую ўнію з Каронай на ўмовах федэрацыі; а праграма нацыянал-дэмакратаў – інкарпарацыю гістарычнай Літвы ў склад Польшчы. Асабліва трывала пастулат аб неабходнасці вяртання ВКЛ на карту Еўропы прапісаўся ў беларускім грамадска-палітычным руху і палітычнай думцы.

Ідэя аднаўлення ВКЛ, адаптаванага да новых рэалій, дамінавала ў асяроддзі беларускіх арганізацый у зоне нямецкай акупацыі пад час Першай сусветнай вайны, у канцы 1915 – пачатку 1918 г. Штуршком для ажыўлення надзеі на вяртанне ВКЛ сталі змена геапалітычнай сітуацыі, абуджэнне нацыянальных рухаў і прынцып права народаў на самавызначэнне, які запанаваў тады ў Еўропе, расійскія рэвалюцыі. Адданасць часткі беларускіх палітыкаў і мысліцеляў гэтай ідэі абумоўлена недастатковай эканамічнай, сацыяльнай, культурнай базай для стварэння мананацыянальнай беларускай дзяржавы, непадрыхтаванасцю беларускага грамадства да незалежнасці, жаданнем пазбегнуць спрэчкі з літоўцамі з-за Вільні.

Свае асноўныя канцэптуальныя падыходы да стварэння беларускай дзяржаўнасці ў выглядзе адроджанага ВКЛ айчынная палітычная думка сфармулявала на працягу студзеня 1915 – чэрвеня 1916 г.: канфедэрацыя двух народаў (Канфедэрацыя ВКЛ) і федэрацыя чатырох народаў (Злучаныя штаты Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны). Наступныя праекты грунтаваліся на ўжо выпрацаванай палітычнай платформе канфедэрацыі або федэрацыі. Яны былі агучаны ў мемарандуме канцлеру Германіі (сакавік 1917 г.), пастанове Беларускай канферэнцыі 25–27 студзеня 1918 г., заяве

Віленскай беларускай рады 18 лютага 1918 г., на перамовах з літоўскім кіраўніцтвам (27 лістапада 1918 г.) і інш.

Вылучаюцца тры этапы руху за адраджэнне ВКЛ: 1) восень 1915 – першая палова 1916 гг. – выпрацоўка асноўных канцэптуальных падыходаў да гэтага пытання; 2) другая палова 1916 – 1917 гг. – пошукі падтрымкі Германіі для хоць бы частковага адраджэння ВКЛ; 3) 1918 г. – падтрымка канцэпцыі канфедэрацыі ВКЛ беларускімі арганізацыямі Віленшчыны і Гродзеншчыны (Беларуская канферэнцыя 25–27 студзеня 1918 г.); трансфармацыя ідэі адраджэння ВКЛ у ідэю саюза новых дзяржаў – Літоўскай Рэспублікі і БНР і ілюзія пачатку ажыццяўлення даўняй мары з уваходжаннем беларускіх прадстаўнікоў у склад Тарыбы.

Пазіцыя беларускага руху ў 1916–1918 гг. у ажыццяўленні канцэпцыі Канфедэрацыі ВКЛ характарызавалася паслядоўнасцю, цвёрдасцю і рашучасцю. Беларускія геапалітычныя праекты ўладкавання рэгіёна на аснове дзяржаўна-палітычнай традыцыі ВКЛ не ўдалося рэалізаваць з-за разыходжання інтарэсаў народаў гістарычнай Літвы, неспрыяльнага развіцця міжнародных падзей, а таксама непадрыхтаванасці тагачаснага грамадства і недахопу сілаў – унутранага патэнцыялу і знешняй падтрымкі.

Пошукі мадэлі дзяржаўнага ўладкавання Беларусі ў гістарычнай форме ВКЛ з’яўляюцца адной з праяў беларускай нацыянальна-дзяржаўнай ідэі, дэманструюць яе значны палітычны і інтэлектуальны патэнцыял. Праекты геапалітычнага ўладкавання беларуска-літоўскага рэгіёна, вылучаныя лідарамі беларускага нацыянальнага руху ў 1915–1918 гг., з’яўляюцца іх укладам у беларускую палітычную думку XX ст., узбагачэннем арсенала беларускай дыпламатыі, а таксама – сведчаннем скачка ў фарміраванні беларускай нацыі, паказчыкам узроўню яе дзяржаўна-палітычнай спеласці – яна ўжо ўсвядоміла сябе суб’ектам гістарычнага працэсу і пачала ўсведамляць свае палітычныя інтарэсы.

Перыяд 1915–1918 гг. мае з перыядам 1805–1815 гг. падабенства міжнароднай сітуацыяй і вастрынёй пастаноўкі дзяржаўна-нацыянальных пытанняў, калі дасягала апагею «канцэнтрацыя» на адзінку часу праектаў; мысліцеляў і палітыкаў, у іх задзейнічаных; меў месца высокі палітычны ўзровень іх абмеркавання і настойлівасць намаганняў па

ўвасабленню ў жыццё. Эвентуальныя дзяржавы, згодна з праектамі 1811 г. і 1915–1916 гг., мелі ранейшую назву, сейм у Вільні, уласныя органы ўлады і кіравання, сваю армію, але розніліся тэрыторыяй, насельніцтвам і знешнепалітычнай арыентацыяй. Тое, што па прашэсці стагоддзя змест, сутнасць праектаў, формы спробаў ажыццяўлення праектаў не змяніліся, пацвярджае прывабнасць ВКЛ як феномену гістарычнай памяці.

# Глава 6.
# «Апошнія магікане» гістарычнай Літвы і яе дзяржаўна-палітычная традыцыя ў 20-я – сярэдзіне 40-х гг. ХХ ст.

## 1. Дзяржаўная традыцыя ВКЛ у ідэалогіі позняга краёвага руху (1921–1939 гг.)

На пытанне, калі палітычная думка Беларусі і Літвы цалкам адмовіліся ад намеру стварыць/адрадзіць дзяржаву на аснове гістарычнай традыцыі ВКЛ, у навуцы няма адназначнага адказу. Адны лічаць, што апошні раз такое пытанне ставілася ў паўстанні 1830–1831 гг. Другія сцвярджаюць, што апошняе ўзброенае выступленне за гэту ідэю датуецца 1863–1864 гг. Іншыя перакананы, што яна адышла ў нябыт на мяжы XIX–XX ст. з фарміраваннем літоўскай і беларускай нацый і фармулёўкай імі сваіх нацыянальных ідэй.

Кропку на намеры аднавіць ВКЛ звычайна ставяць 1918 годам, калі разышліся інтарэсы яго народаў-правапераемнікаў. Ствараючы свае нацыянальныя дзяржавы, яны распачалі канкурэнцыю за спадчыну Княства, найперш яго тэрыторыю і сталіцу. Літва заявіла прэтэнзіі на манапольнае валоданне гэтай спадчынай. Справа дайшла да ваенных дзеянняў паміж былымі саюзнікамі па ВКЛ (захоп Вільні польскім войскам Ю. Пілсудскага ў красавіку 1919 г.). Рыжскі мір 18 сакавіка 1921 г. канчаткова пахаваў (і без таго прывідныя) магчымасці аднаўлення гістарычнай Літвы, падзяліўшы яе тэрыторыю паміж Польшчай і СССР.

Падзеі 1918–1921 гг. (захоп Вільні войскам Польшчы – былога саюзніка па ВКЛ; падзел тэрыторыі былога ВКЛ паміж дзяржавамі па Рыжскаму міру і інш.) нанеслі моцны ўдар па краёвай канцэпцыі аднаўлення гістарычнай Літвы. Аднак, як сведчаць гістарычныя крыніцы, такія мары працягвалі і надалей хваляваць інтэлектуалаў Беларусі і Літвы (дадатак 51) і адышлі ў нябыт толькі з поўным згасаннем краёвага руху.

Восенню 1919 г. публіцыст і краявед родам з Ашмян Чэслаў

Янкоўскі даказваў у варшаўскім часопісе «Tygodnik illustrowany», што мары аб вяртанні на прасторы Еўропы былой Альгердавай дзяржавы нерэальныя і рэалізаваць іх немагчыма. Але прызнаваў, што яны ўсё яшчэ існуюць, а гістарычная традыцыя ВКЛ карыстаецца павагай суайчыннікаў, – з'яўляецца модным, «рэспектабельным і шанаваным фетышам»[944] (дадатак 45). У 1934 г. палітолаг Станіслаў Сваневіч, ураджэнец Дзвінска Віцебскай губерні, пісаў пра «наш культ традыцыі Вялікага Княства Літоўскага», чужы, аднак, для пераважнай большасці польскага грамадства «з тыповай эндэцкай ментальнасцю»[945]. Нават у 1942 г. польскі пісьменнік, абаронца правоў беларусаў у другой Рэчы Паспалітай Юзаф Мацкевіч абвяргаў пашыранае сцвярджэнне пра ўтапічнасць, састарэласць і непапулярнасць краёвай ідэі адраджэння ВКЛ[946].

Рыжскі мір, яго наступствы абудзілі ў віленскай прэсе дыскусію аб шанцах захавання, працягу ў новых умовах традыцыі гістарычнай дзяржаўнасці і падрыву гэтай традыцыі Рыжскім дагаворам 1921 г. Краёўцы, прадстаўленыя, галоўным чынам, польскамоўным каталіцкім дваранствам і інтэлігенцыяй беларуска-літоўскага краю, стаялі за працяг дзяржаўна-палітычнай і культурнай традыцыі Княства (найперш, талерантнасці, дыялогу паміж народамі і культурамі), асуджалі падзел спадчыны ВКЛ (тэрыторыі, сталіцы, сімволікі) паміж яго правапераемнікамі і выступалі за яе захаванне ў цэласнасці, а таксама супраць палітычнай «апекі» Варшавы над іх краем.

У абарону дзяржаўна-палітычнай традыцыі ВКЛ у 20–30-я гг. XX ст. выступілі краёўцы Л. Хамінскі, К. Скірмунт, С. Сваневіч, Л. Абрамовіч, перакананыя ў тым, што час адбудовы ВКЛ наступіць, а Рыжскі мір толькі адклаў гэту магчымасць на больш позні час, але ніяк не назаўжды[947]. Праграму-мінімум яны бачылі ў атрыманні аўтаноміі ўсходніх зямель другой Рэчы Паспалітай, праграму-максімум – у аб'яднанні ўсіх зямель

---

[944] *Jankowski Czesław.* Pod banderą Pogoni. 1919 // Бібліятэка імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы. – Ф. 79. Спр. 749. Арк. 1.

[945] *Сваневіч С.* Наша пазіцыя // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 269.

[946] *Мацкевіч Ю.* Ідэя двух франтоў // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 299.

[947] Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. T. Bujnicki; K. Stępnik. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu M. Curie-Skłodowskiej, 2005. S.145.

былога ВКЛ у шматнацыянальную дзяржаву, чаго, верылі, дачакаецца наступнае пакаленне.

Грамадска-палітычны і культурны дзеяч Беларусі і Польшчы Людвік Хамінскі, ураджэнец вёскі Альшэва Свенцянскага павета (цяпер у Мядзельскім раёне), асудзіў падзел беларускага народа паміж рознымі дзяржавамі і ігнараванне яго дзяржаватворчых сіл Польшчай. На яго думку, выказаную ў артыкуле «Памылкі» (1920 г.), Польшча дапусціла дыпламатычную памылку – праваліла ў Рызе справу Беларусі, а, захапіўшы Вільню, правальвае справу Літвы, бо «ідэя саюзу народаў, што насяляюць дзяржавы ад Белага да Чорнага мора, пачынаецца на Белай Русі, ідзе праз Літву і Украіну»[948].

Памылкі Рыжскай дамовы, на думку Л. Хамінскага, можна згладзіць склiканнем сейма ў Вільні, які «мог бы ... стварыць ... цэнтр для адбудовы Вялікага Княства Літоўскага» з удзелам у працы яго рады беларусаў і літоўцаў. Гэты цэнтр павінен стварыць «шырокі вялікалітоўскі арганізм, збудаваны на кантанальнай ці іншай падобнай аснове, чым забяспечвалася б раўназначнасць літоўскага чынніка на захадзе, польскага – у цэнтры і беларускага – на ўсходзе». Цэнтр павінен гарантаваць свабоду развіцця нацый краю, забяспечыць гаспадарчыя інтарэсы ўсёй яго супольнасці. Польшча абавязана падтрымаць цэнтр адбудовы ВКЛ у рэалізацыі ім сваіх міжнародных, мілітарных, мытных і камунікацыйных задач – і такім толькі чынам яна магла б «вярнуць натуральны ход развіцця падзей на ўсходзе»[949] (дадатак 46).

Публіцыст і гісторык Канстанцыя Скірмунт у артыкуле «Ягелонская ідэя і палітыка на ўскраінах» (1925 г.) назвала падзел зямель былога ВКЛ дзяржаўнай мяжой «выбрыкам новай гісторыі». Яна асудзіла «стваральнікаў Рыжскага міру» за тое, што яны страцілі і растапталі «выдатную ідэю мінулага і будучыні», створаную ў XIV ст. Ягайлам, Вітаўтам і Ядвігай, – Ягелонскую ідэю злучэння ў адной дзяржаве народаў Польшчы, Літвы і Русі[950].

Па словах К Скірмунт, «у сваёй этнічнай і эгаістычнай слепаце» Польшча бачыць у землях Віленшчыны, Беларусі,

---

[948] *Хамінскі Л.* Памылкі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 238.

[949] Тамсама. С. 242.

[950] *Скірмунт К.* Ягелонская ідэя і палітыка на ўскраінах // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 84.

Палессі, ва Украіне «толькі... крэсы польскасці», але не бачыць у іх краіны і нацыі і прымусовай паланізацыяй ігнарue этнічнае абуджэнне народаў[951]. Такая палітыка пярэчыць даўнейшаму дуалізму, ці дакладней – федэралізму Рэчы Паспалітай, на ўсходзе якой доўгі час «трывалі наступствы моцнай, хоць і першабытнай палітычнай будовы даўняй Літвы», і таму «пазбаўляе Польшчу дзяржаўнага права на валоданне гэтымі землямі»[952]. Калі ў канцы XVIII ст. «сыны ўсходніх земляў з тыповымі для сваіх рас і краёў характарамі – Касцюшка, Чартарыскія, Любецкі (і шмат іншых) – … як маглі ратавалі закатаваную Рэч Паспалітую», то сёння расчараваныя патрыёты гэтых зямель з усіх сіл абараняюцца ад недальнабачнай польскай «крэсовай палітыкі», бо яна ігнаруе адметнасць іх краю[953].

У 20–30-х гг. XX ст. адным з прапагандыстаў краёвай ідэалогіі з яе ідэяй адбудовы Вялікай Літвы стаў юрыст, эканаміст і саветолаг Станіслаў Свяневіч (1899–1997) з Дзвінска Віцебскай губерні. Выхадзец з інтэлігентнай дваранскай сям'і патрыётаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай (прадзед загінуў у Лістападаўскім паўстанні, дзед з братам удзельнічалі ў Студзеньскім паўстанні), які атрымаў добрую адукацыю ва ўніверсітэтах Масквы, Вільні, Парыжа, Брэслава і Кіля, С. Свяневіч быў яркім прадстаўніком дэмакратычна-федэрацыйнай канцэпцыі дзяржаўнага ўладкавання народаў былой Рэчы Паспалітай на аснове прынцыпу роўнасці і выступаў ад імя прыхільнікаў аўтаноміі ўсходніх зямель другой Рэчы Паспалітай.

«Памыляецца той, – пісаў С. Свяневіч у 1926 г., – хто лічыць, што ідэал непадзельнасці земляў былога Вялікага Княства Літоўскага … – гэта толькі праява пэўных палітычных сімпатый, асабістых прыхільнасцяў летуценнікаў, што ганяюцца за ценямі вялікай мінуўшчыны»[954]. Гэты ідэал з'яўляецца ўвасабленнем эканамічных інтарэсаў літоўска-беларуска-ўкраінскіх зямель, іх мары пра эканамічны росквіт.

Знявечанне зямель ВКЛ штучнымі дзяржаўнымі межамі С. Свяневіч абвяшчаў вялікім грахом, які ўчыніла

[951] *Скірмунт К.* Ягелонская ідэя і палітыка на ўскраінах // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 83, 86, 87.

[952] Тамсама. С. 87.

[953] Тамсама. С. 87–88.

[954] *Свяневіч С.* Грахі польскай палітыкі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 252.

незалежная Польшча адносна гісторыі, супраць ідэалаў мінулага і здаровага сэнсу. Але верыў, што з часам «здаровая палітычная думка», рэальныя эканамічныя інтарэсы перамогуць і з'явяцца спрыяльныя ўмовы для рэалізацыі краёвых ідэалаў. Ён разумеў, што выправіць памылку хутка не ўдасца – аб'яднанне гэтых зямель у «адно цэлае пры адначасовай рэалізацыі федэралісцкай праграмы» з'яўляецца «толькі ідэалам на далёкую будучыню, які асвятляе нашу грамадскую і палітычную працу»[955]. Занепакоены тым, што лозунг стварэння на руінах царызму саюзу народаў былой Расійскай імперыі перахоплівае бальшавіцкая Расія, саветолаг лічыў неабходным ужо цяпер даць краю аўтаномію.

«Прапагандаваная намі ідэя краёвасці, імкненне да надання літоўска-беларускім землям тэрытарыяльнай аўтаноміі, – працягваў у 1928 г. абгрунтоўваць свой праект С. Свяневіч (артыкул «Ідэя краёвасці»), – ... з'яўляецца вынікам той асобнасці, якую цяперашнія ўсходнія землі на працягу стагоддзяў ... мелі ў адносінах да Рэчы Паспалітай... . Гэтая асобнасць знайшла сваё ўвасабленне ў іншым уладкаванні Літвы ў параўнанні з усёй Польшчай. ... Фактычна ў выніку далейшага развіцця падзей асаблівасць умоў на землях былога Вялікага Княства Літоўскага ... ў поўным аб'ёме захавала сілу ажно да нашых часоў» [956] (дадатак 47).

Тры фактары, па меркаванні С. Свяневіча (артыкул «Ідэя краёвасці», 1928 г.), сведчаць «на карысць захавання на літоўска-беларускіх землях краёвасці, іншымі словамі – надання ім тэрытарыяльнай аўтаноміі»: гаспадарчы, культурны і гістарычна-палітычны.

Уся гаспадарка на гэтых землях мае адметную ад Польшчы структуру, і «вядзецца хутчэй у рамках усяго былога Вялікага Княства Літоўскага», у якім яна фарміравалася. Напрамкам чыгуначных ліній, дарог і водных шляхоў, вытворчасцю амаль аднолькавых тавараў, ідэнтычнымі шляхамі экспарту і крыніцамі імпарту беларуска-літоўскія землі і «цяпер складаюць адно цэлае, якое цалкам розніцца ад гаспадарчага аблічча Польшчы», і таму патрабуюць адрознай лініі эканамічнай палітыкі. Не ўкладаецца ў агульнапольскі шаблон культурная асобнасць беларуска-літоўскіх зямель, спецыфічная

---

[955] *Свяневіч С.* Ідэя краёвасці // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 255–256.

[956] Тамсама. С. 255–256.

індывідуальнасць іх сталіцы Вільні, псіхалагічныя асаблівасці іх жыхароў, таму гэту асобнасць неабходна цаніць і ахоўваць[957].

Аднак «найважнейшым козырам у руках прыхільнікаў ідэі краёвасці … з'яўляецца гістарычна-палітычны чыннік». Як і пяць стагоддзяў таму, Польшчы і Літве па-ранейшаму пагражае Германія. Яе лозунг «Drang nach Osten» не пахавала сусветная вайна. С. Сцяневіч быў перакананы, што дзве магутнасці – Германія і Расія, толькі да часу пазбаўленыя моцы ў выніку сусветнай вайны, – яшчэ сутыкнуцца ў барацьбе за падпарадкаванне сабе беларуска-літоўскіх зямель. І таму, як заключае саветолаг, «узнікае пытанне аднаўлення Вялікай Літвы з Вільняй, Менскам і Коўнам, Вялікай Літвы, якая з апорай на Польшчу стварала б міжнародную сілу, аб якую разбіваліся б тэрытарыяльныя прэтэнзіі як Нямеччыны, так і Расіі»[958].

Аднаўленне Вялікай Літвы, якая ўключала б гэтыя гарады, упэўнены С. Сцяневіч, «мусіць адбыцца раней ці пазней»: «Землі, якія сёння складаюць Ковенскую Літву, Савецкую Беларусь, а таксама Віленшчыну, Наваградчыну і Гарадзеншчыну, складаюць арганічнае цэлае, штучны падзел якога не зможа пратрымацца доўга. Межы, якія аддзяляюць нас дэмаркацыйнай лініяй ад Ковенскай Літвы і … праз вялікае гістарычнае непаразуменне дзеляць напалову жывое цела беларускага народа, мусяць знікнуць. Менавіта ў гэтым кірунку незалежна ні ад каго працуе жыццё»[959].

Таму ідэя краёвасці, паводле С. Сцяневіча, грунтуецца на дзвюх праграмах. Праграма-максімум прадугледжвала «аднаўленне Вялікай Літвы і злучэнне яе ў федэрацыйным саюзе з Польшчай». Першым этапам яе рэалізацыі з'яўляецца праграма-мінімум з галоўнай мэтай – наданне беларуска-літоўскім землям тэрытарыяльнай аўтаноміі[960] (дадатак 49).

У 1934 г. С. Сцяневіч выступіў у прэсе з тлумачэннем пазіцыі віленскага клуба «Бадзяга», які аб'ядноўваў прыхільнікаў краёвай ідэі. Статут клуба, як гаварылася ў артыкуле «Наша пазіцыя», дэклараваў, што ён «за тэрыторыю свайго дзеяння прымае зямлю Вялікага Княства Літоўскага», асяродкам дзейнасці лічыць «насельніцтва, якое жыве на тэрыторыі Вялікага Княства»,

[957] *Сцяневіч С.* Ідэя краёвасці // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 263–264.

[958] Тамсама. С. 264–265.

[959] Тамсама. С. 265.

[960] Тамсама. С. 266.

мэтай працы ставіць вывучэнне і культурнае, грамадскае і гаспадарчае збліжэнне народаў былога ВКЛ, а ў перспектыве мяркуе стварэнне польска-літоўска-беларуска-ўкраінскай федэрацыі, якая стане часткай «вялікай панеўрапейскай сям'і народаў»[961].

С. Свяневіч растлумачыў у сваім артыкуле разуменне краёвай ідэі і значэнне яе падтрымкі ў рэаліях таго часу: «У падмурку краёвай ідэі, якую мы атаясамляем з паняццем Ягелонскай ідэі, ляжыць перакананне, што галоўныя, найбольш прынцыповыя сілы, якія вырашалі гісторыю даўняга Вялікага Княства Літоўскага, сёння з'яўляюцца не менш актуальнымі, чым былі пяцьсот год таму назад. …

За апошняе стагоддзе шмат што змянілася ў свеце: з'явіліся чыгунка, электрычнасць, аўтамабілі, танкі. Але прынцыповыя элементы нашай сітуацыі застаюцца без змен. … У такіх умовах Ягелонская ідэя не менш, а нават больш актуальная, чым у часы Вітаўта ці Баторыя»[962]. Гэту ідэю палітолаг намерваўся пашыраць на суседнія землі з Вільні і дзеля гэтага імкнуўся здабыць як мага больш актыўных прыхільнікаў канцэпцыі адбудовы Вялікай Літвы, якія б падзялялі і разумелі «наш культ традыцыі Вялікага Княства Літоўскага»[963] (дадатак 50).

Польскі гісторык, журналіст і выдавец Людвік Абрамовіч, звязаны з беларускім грамадска-культурным жыццём у Вільні, сцвярджаў, што ВКЛ не было выпадковым і часовым утварэннем. Прычыны геаграфічнага, эканамічнага, палітычнага і псіхалагічнага характару, якія паклікала яго да жыцця, «і сёння ў значнай ступені не перасталі дзейнічаць». Нягледзячы на штучныя межы, якія парэзалі Літву і Беларусь, яны не перасталі складаць аднаго арганізму і заўсёды, насуперак усім перашкодам будуць імкнуцца (магчыма, несвядома) злучыцца «і стварыць агульнае цэлае ў новай форме»[964].

У 1925 г. Л. Абрамовіч пісаў, што грунтаваная на традыцыях ВКЛ краёвая праграма з'яўляецца не «рэшткавым рэліктам даўно мінулых часоў, … гістарычнай легендай, ацалелай у галовах пары летуценнікаў і рамантыкаў», але вельмі рэальнай і сучаснай канцэпцыяй, якая толькі часова, з-за неспрыяльных

[961] *Свяневіч С.* Наша пазіцыя // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 267.

[962] Тамсама. С. 267–268.

[963] Тамсама. С. 269–270.

[964] *Абрамовіч Л.* In Hoc Signo Vinces! // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 288.

абставін, не знаходзіць прымяненння і таму пазбаўлена шырокага ўплыву[965] (дадатак 52). Ён верыў, што наступнае пакаленне дачакаецца трыумфу краёвай ідэі, і яна будзе запатрабаванай у шматнацыянальнай дзяржаве, «якой ў будучыні мусіць стаць Вялікае Княства Літоўскае» са сталіцай у Вільні, «якая нарэшце выйдзе з ролі пешкі, лёс якой вырашае хтосьці іншы паводле нацыяналістычных пастулатаў таго ці іншага боку»[966].

Новая геапалітычная сітуацыя ў рэгіёне, створаная аб'яднаннем у 1939–1940 гг. беларускага і літоўскага народаў у адзіныя дзяржавы і іх уключэннем у склад СССР, выклікала новы віток асэнсавання краёвай ідэі і актуалізацыі палітычнай спадчыны ВКЛ. Пра гэта сведчаць апублікаваныя ў 1940 г. артыкулы Зыгмунта Юндзіла «Трагедыя ідэі»[967], Зоф'і Абрамовіч «Некалькі слоў па краёвую ідэю» [968], Міхаіла Ромера «Няма Людвіка Абрамовіча»[969] і інш.

Так, З. Абрамовіч, дачка Людвіка, пісала што землі былога ВКЛ, хоць і парэзаныя пастаянна штучнымі межамі, з'яўляюцца «адзіным арганізмам» і патрабуюць адметнага характару дзяржаўнасці[970] (дадатак 55).

М. Ромер даў тлумачэнне прынцыповага адрознення паміж «краёвай» і «крэсовай» канцэпцыямі гістарычнай Літвы. Яно заключаецца «не ў большай ці меншай «любові» да гэтых земляў і пашаны да мінуўшчыны Вялікага Княства Літоўскага». Гэта адрозненне выяўляецца ў трактоўцы з'яў і працэсаў, што тут адбываюцца, праз прызму палітычнай асобнасці і цэласнасці (непадзельнасці) краю, чаго «найвыдатнейшым, найбольш гістарычным пацверджаннем … з'яўляецца яго *(самастойная – С. М.)* дзяржаўнасць» і незалежнасць, «ці толькі праз прызму нечых ускраін»[971] .

«Крэсовая» канцэпцыя разглядае край як «ускраіну»,

[965] *Абрамовіч Л.* In Hoc Signo Vinces! // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 287.

[966] *Абрамовіч З.* Некалькі слоў пра краёвую ідэю // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 326–327.

[967] *Юндзіл З.* Трагедыя ідэі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 317–319.

[968] *Абрамовіч З.* Некалькі слоў пра краёвую ідэю // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 325–327.

[969] *Ромер М.* Няма Людвіка Абрамовіча // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 320–324.

[970] *Абрамовіч З.* Некалькі слоў пра краёвую ідэю // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 326.

[971] *Ромер М.* Няма Людвіка Абрамовіча // Краёвая ідэя : канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. – Вільня : Палітычная сфера, 2014. – С. 321.

«рэгіянальны дадатак» да палітычнай канструкцыі па-за яго межамі. Для адных гэта былі заходнія ўскраіны, для другіх – усходнія. «Крэсовая» канцэпцыя, паводле М. Ромера, выключае «грамадскую і палітычную асобнасць краю, звернутую ў будучыню». Ёй супрацьстаіць «цэнтраімклівая канцэпцыя Літвы як краю, які мае ўласную палітычную асобнасць і адметнасць у людской супольнасці свету», і яна катэгарычна аспрэчвае нацыянальна-адасабленчы шлях развіцця краю і раздрабленне яго народаў[972] (дадатак 54).

Але станавілася відавочным, што прыхільнікі выкарыстання дзяржаўна-палітычнай спадчыны ВКЛ і працягу яго гістарычнай традыцыі не дацанілі ролі нацыяналізму. Вядомы польскі пісьменнік «вялікалітоўскага паходжання» Чэслаў Мілаш звязваў канец ВКЛ з перыядам 20–30-х гг. XX ст., калі «ўзялі верх нацыяналізмы», змяніўся характар міжнацыянальных адносін на Віленшчыне, а сама Вільня пераўтварылася ў аб'ект спрэчак, і канчатковы канец – з 1939 г.; астатнія ж сляды ВКЛ сцерла Другая сусветная вайна. «Не магло быць уваскрашэння ВКЛ, якое ўжо распалася на нацыі», – пісаў ён[973]. З 1939 г. звязвае канец існавання краёвага асяродка таксама Д. Шпопер[974].

Паводле А. Смалянчука, апошнія праявы краёвасці назіраліся ў 1939–1940 гг. і былі звязаны з перадачай Вільні Літоўскай дзяржаве. Улагодзіць польска-літоўскія адносіны і дасягнуць нацыянальнай згоды на падставе адраджэння традыцый гістарычнай Літвы спрабавалі тады Зыгмунт Юндзіл, Браніслаў Крыжаноўскі, Юзаф Мацкевіч і інш. «Рамантычным донкіхоцтвам» назваў іх спробу М. Ромер – нацыяналістычныя настроі аказаліся мацнейшымі[975].

---

[972] *Ромер М.* Няма Людвіка Абрамовіча // Краёвая ідэя : канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. – Вільня : Палітычная сфера, 2014. – С. 320, 324..

[973] Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. T. Bujnicki; K. Stępnik. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu M. Curie-Skłodowskiej, 2005. S. 34.

[974] *Szpoper D.* Sukcesorzy Wielkiego Księstwa. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1904–1939. Gdańsk: Arche, 1999. S. 336.

[975] *Смалянчук А.* «Краёвасць» у беларускай і літоўскай гісторыі. 1905–1940 [Электронны рэсурс] // Белорусская цифровая библиотека Library.by. Рэжым доступу: http://www.library.by/portalus/modules/belarus/show_archives.php?subaction=showfull&id=1290713066&archive=1291455490&start_from=&ucat=8&. Дата доступу: 24.01.2019.

## 2. Апошнія грамадзяне Вялікага Княства Літоўскага

У навуковай літаратуры, публіцыстыцы, ва ўспамінах можна сустрэць выраз «апошні грамадзянін ВКЛ». Тэрмін, у якім чуецца настальгія і сум па страчанаму мінуламу, узнік тады, калі самой дзяржавы ўжо не існавала. Зразумела, размова ішла пра духоўную прыналежнасць да ВКЛ і творчасць, палітычную дзейнасць па яго вяртанню. У 20–30-я гг. XX ст. пачуццё гістарычнай настальгіі па ВКЛ яшчэ два дзесяцігоддзі жыло, хай сабе ўжо ў адзінках, у Заходняй Беларусі і міжваеннай Літве. Вялікі сантымент да ВКЛ зведвалі прыхільнікі краёвай ідэі з ліку прадстаўнікоў старэйшага пакалення, якія насуперак гістарычным рэаліям не жадалі губляць свой «Край», лічылі сябе грамадзянамі гэтай дзяржавы і працягвалі яе шляхецкія і грамадзянскія традыцыі. Яны былі ўпэўнены, што ВКЛ – гэта не толькі мінулае, але і будучыня Беларусі і Літвы, а Рыжскі мір толькі адклаў магчымасць аднаўлення і працягу гістарычнай дзяржаўнай традыцыі гэтых зямель на больш позні час. «Апошнімі магіканамі гістарычнай Літвы» назваў іх М. Ромер[976].

Ідэалы апошняга пакалення краёўцаў ці не найбольш яскрава ўвасобіў па-еўрапейску знакаміты віленскі юрыст і грамадска-палітычны дзеяч Тадэвуш Урублеўскі (1858–1925) – пляменнік аднаго з лідараў паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі і Літве, а пазней генерала Парыжскай камуны Валерыя Урублеўскага.

У 1925 г. тады яшчэ малады юрыст С. Свяневіч, які сімпатызаваў палітычнай ідэалогіі краёўцаў, успамінаў у артыкуле «Грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага», як некалькі гадоў таму ён упершыню зайшоў да Т. Урублеўскага за парадай па «пытанню ўсходніх ускраін». Старац-мысліцель павітаў яго словамі: «Вы знаёміцеся з адным з апошніх магіканаў. Сёння засталося ўжо толькі тры сапраўдныя грамадзяніны Вялікага Княства Літоўскага і толькі тры сапраўдныя краёўцы. Я – адзін з іх»[977]. Завязалася размова. С. Свяневіч, для якога эпоха ВКЛ была ўжо легендай, калі пачуў, з якой свабодай і натуральнасцю яго суразмоўца аперыраваў

[976] *Sawicki J.* Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń: TNT, 1998. S. 112.

[977] *Свяневіч С.* Грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 248.

архаічным для цяперашніх пакаленняў тэрмінам «Вялікае Княства», зразумеў, што іх легенда была для Т. Урублеўскага «рэальнай гістарычнай рэчаіснасцю».

З той сустрэчы-знаёмства С. Сцяневіч заключыў, што славуты адвакат перажыў «сваю» эпоху на некалькі соцень гадоў. Яго месца было ў Вялікім Княстве Літоўскім XV ці XVI ст., «калі паны Літвы не хацелі поўнага разрыву з Каронай, але адначасова востра працівіліся ўсялякім паглынальным тэндэнцыям з боку апошняй»[978]. Ён і сам разумеў, як успамінаў С. Свяневіч, што сярод нас яму ўжо няма чаго рабіць; асуджаў тых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, «якія маюць шмат сантыментаў да вялікіх момантаў нашага мінулага, але адначасова заражаныя і ўсёмагутным нацыяналізмам сучаснай эпохі»[979].

Т. Урублеўскі быў катэгарычным і рашучым ворагам нацыяналізму і ідэі нацыянальнай дзяржавы. «Паляк сёння любіць польскую нацыянальную ідэю, літовец – літоўскую, беларус – беларускую, – пісаў пра яго С. Свяневіч. – Урублеўскі ж любіў перш за ўсё наш край з усімі яго жыхарамі, без розніцы ўжыванай мовы, з усім яго багатым мінулым, ад слаўных паходаў Вітаўта аж да баёў Каліноўскага ў гарадзенскіх лясах»[980] (дадатак 53).

Ураджэнец Віленшчыны, сусветна вядомы польскі пісьменнік «вялікалітоўскага» паходжання Чэслаў Мілаш (1911–2004) назваў апошнім грамадзянінам ВКЛ аднаго з найбольш вядомых пісьменнікаў і публіцыстаў міжваеннага дваццацігоддзя Юзафа Мацкевіча (1902–1985), які ў сваіх творах рабіў акцэнт на гісторыі і культуры зямель колішняга ВКЛ, крытыкаваў палітыку Варшавы на «крэсах» і вылучаўся вялікім рэгіянальным патрыятызмам.

Аўтар твора пра канец рэшткаў ВКЛ, якія дажылі да 1939 г., Ю. Мацкевіч пісаў аб «унутраным падзеле» Вялікага Княства, здзейсненым палякамі, літоўцамі і беларусамі: «Пераможца ўсіх не аб’явіўся. Папросту гэткага не было. Кожны хацеў урваць сабе кавалак». «Адсюль, – канстатаваў Ю. Мацкевіч, – узьнікла спрэчка, якая перарасла ў адкрытую бойку за мову, за культуру, за традыцыю, інтэрпрэтацыю гісторыі, за рэлігію.

978 *Свяневіч С.* Грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 249.

979 Тамсама. С. 250.

980 Тамсама. С. 249.

Бойка адбывалася таксама і на кулаках, на аглоблях, на пісталетах...». На думку Ю. Мацкевіча, ці не найбольшую адказнасць за гэта нясе польскі бок, бо «пераможцы ў бойцы за спадчыну ўсіх земляў Вялікага Княства» былі спольшчаныя культурна і палітычна і ўзнікаючым нацыяналізмам, літоўскаму і беларускаму, сумелі супрацьпаставіць толькі польскі нацыяналізм[981]. За выказванне такіх ідэй А. Мацкевіч быў безупынна ўціскаты цэнзурай і абвінавачаны літоўцамі ў падрыўных тэндэнцыях – маўляў, «што гэта за падступная балбатня аб Вялікім Княстве?»[982]. Выказаную ў 1940 г. Ю. Мацкевічам ідэю-шкадаванне, што палякі і літоўцы хочуць адхапіць больш кавалак спадчыны ВКЛ, але ніхто не клапоціцца пра цэлую, – можна разглядаць як завяшчанне ВКЛ[983].

Апошнім грамадзянінам ВКЛ называюць таксама Людвіка Абрамовіча (1879–1939) (А. Смалянчук[984]); Канстанцыю Скірмунт (1851–1934) (Д. Шпопер[985]) і інш.

Мары пра працяг традыцыі ВКЛ памерлі разам са смерцю ў сярэдзіне 20-х – сярэдзіне 40-х гг. лідараў і ідэолагаў краёвага руху Т. Урублеўскага, К. Скірмунт, Р. Скірмунта, Л. Абрамовіча, М. Ромера, якія да канца жыцця разумелі, што іх этнічна і культурна markнародны край, хоць і парэзаны штучнымі межамі, утварае адзін арганізм і патрабуе адметнага характару дзяржаўнасці.

«Культурнае і цывілізацыйнае выпраменьванне ВКЛ» у XX ст. узгадавала таксама асоб фармату публіцыста і палітыка Ежы Гедройца (1906, Мінск – 2000), сусветна вядомага

[981] *Мілаш Ч.* Канец Вялікага Княства Літоўскага // Быць або ня быць сярэднеэўрапейцам. Сучаснае польскае мысленьне. Мінск: Выдавецтва «Энцыклапедыкс», 2000. С. 283, 284.

[982] Тамсама. С. 287.

[983] *Бумблаускас А.* Деление наследия Великого Княжества Литовского: взгляд на Могилев из Кретинги // Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць: зб. навук. прац VII Міжнар. навук. канф., Магілёў, 29–30 чэрв. / уклад. А. М. Бацюкоў, І. А. Пушкін. Магілёў: УА «МДУ імя А. А. Куляшова», 2011. С. 313–321 [Электронны рэсурс] // Magnus Dukatus Lithuaniae. Рэжым доступу: http://www.mdl.projektas.vu.lt/wp-content/uploads/2013/02/2011_delenie-nasledija-vkl-vzgliad-na-mogiliov-iz-kretingi.pdf. Дата доступу: 24.01.2019.

[984] *Смалянчук А.* Краёвая ідэя і беларускі нацыянальны рух у Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гг. // Homo Historicus 2012: Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад рэд. А. Смаленчука. Вільня: ЕГУ, 2012. С. 380–405.

[985] *Szpoper D.* Gente Lithuana, Natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt. Gdańsk: Arche, 2009. 487 s.

пісьменніка «вялікалітоўскага» паходжання, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша (1911–2004) і інш., якім было ўласціва нязгаслае пачуццё прыналежнасці да ВКЛ, пачуццё спадчынніка ВКЛ як шматэтнічнай і шматкультурнай дзяржавы. Е. Гедройц называў сябе ліцівінам[986]. Калі Ч. Мілаша у 1990-я гг. спыталіся, дзе ён нарадзіўся, той адказаў, што дзяржавы, якая з'яўляецца яго радзімай, даўно няма, а называецца яна ВКЛ. Вядомы тэзіс Ч. Мілаша, што ён быў апошнім грамадзянінам ВКЛ[987].

## 3. Апошнія водгукі традыцыі ВКЛ (1940-я гг.)

Храналагічна апошнія гістарычныя крыніцы, нам вядомыя, што носяць характар праектаў-канцэпцый аднаўлення гістарычнай Літвы, датуюцца першай паловай – сярэдзінай 1940-х гг.

У 1942 г. Юзаф Мацкевіч выклаў свой план стварэння «на ўскрайку Усходняй Еўропы, дзе здаўна панавала Вільня», дзяржавы, здольнай абараніць свае народы адначасна і з Захаду, і з Усходу, – «Вялікае Княства Літоўскае (назавем як захочам)…». «Гэтае ідэалізаванае мною Вялікае Княства Літоўскае, – пісаў Ю. Мацкевіч, – мела б характар трохмоўнай і трохнацыянальнай дзяржавы з беларусамі, літоўцамі і палякамі»; іх «моўная роўнасць прадугледжвала першынство літоўскай мовы ў Коўне, польскай – у Вільні, беларускай – у Менску». Ён быў упэўнены, што прапанаваная ім канцэпцыя «адраджэння дзяржавы на тэрыторыі былога ВКЛ з апорай на Польшчу і Украіну» карысная для ўсіх трох зацікаўленых народаў і дасць ім сур'ёзныя эканамічныя выгоды. Так, беларусы «атрымліваюць доступ да мора і ўмовы для нармальнага развіцця». У той жа час разумеў, што гэта будзе няпростае паразуменне-рашэнне «народаў, абцяжараных махінай нацыянальна-канфесійна-гаспадарчых

[986] Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. T. Bujnicki; K. Stępnik. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu M. Curie-Skłodowskiej, 2005. S. 7, 178.

[987] *Бумблаускас А.* Деление наследия Великого Княжества Литовского: взгляд на Могилев из Кретинги // Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць: зб. навук. прац VII Міжнар. навук. канф., Магілёў, 29–30 чэрв. / уклад. А. М. Бацюкоў, І. А. Пушкін. Магілёў: УА «МДУ імя А. А. Куляшова», 2011. С. 313–321 [Электронны рэсурс] // Magnus Dukatus Lithuaniae. Рэжым доступу: http://www.mdl.projektas.vu.lt/wp-content/uploads/2013/02/2011_delenie-nasledija-vkl-vzgliad-na-mogiliov-iz-kretingi.pdf. Дата доступу: 24.01.2019.

імкненняў». Ён катэгарычна выступіў супраць прапановы «імперцаў» дасягнуць гэтага стварэннем вялікай «польскай» дзяржавы, бо іх падыход да беларускага або ўкраінскага пытання «ўтрымлівае нешта з погляду шляхецкай веранды на падуладнага мужыка»[988].

Ю. Мацкевіч пазіцыяніраваў сябе прадаўжальнікам справы адваката Т. Урублеўскага і публіцыста, грамадскага дзеяча Л. Абрамовіча, якія «імкнуліся да адраджэння Вялікага Княства Літоўскага як незалежнай дзяржавы» і свае намеры «абгрунтоўвалі геапалітычным і гістарычным адзінствам земляў, што знаходзяцца … паміж Дняпром і Балтыкай». Ён выказваў нязгоду з думкай пра ўтапічнасць, састарэласць і непапулярнасць краёвай ідэі аднаўлення ВКЛ і сцвярджаў, што нягледзячы на рамантычную афарбоўку, яна з'яўляецца рацыянальнай і практычнай. Тых, хто быў схільны бачыць у яго канцэпцыі «састарэлыя або «зношаныя» формы», Ю. Мацкевіч адсылаў да «навейшага ўзору» – нацыянальнай палітыкі Савецкага Саюза, якую назваў «геніяльным, адзіным годным пераймання з усіх панурых эксперыментаў камунізму»[989] (дадатак 56).

Змянялася эпоха. Мары аб вяртанні Вялікага Княства Літоўскага на палітычную карту Еўропы адыходзілі ў нябыт ў 1939–1945 гг. разам з іх апошнімі носьбітамі Р. Скірмунтам, Л. Абрамовічам, М. Ромерам, які назваў сваіх калег-аднадумцаў «апошнімі магіканамі гістарычнай Літвы»[990]. Апошнія сляды ВКЛ сцёрла Другая сусветная вайна. Але і ў гэтых умовах ідэйныя пераемнікі апошніх краёўцаў міжваеннай Літвы і Заходняй Беларусі, якіх пасля вайны лёс закінуў у эміграцыю, верылі, што ідэя адраджэння ВКЛ не вычарпала сябе, але мае перспектыву для рэалізацыі, хоць і адкладзена на больш позні час.

1946 годам датуецца палітычны твор «Вялікая Літва» – плён калектыўнага стратэгічнага мыслення людзей, што і ў пасляваенны час захавалі сентымент да дзяржаўнай традыцыі ВКЛ. Гэта – праект-канцэпцыя стварэння ва Усходняй Еўропе новай дзяржавы пад назвай «Літва» або «Вялікая Літва» на

---

[988] *Мацкевіч Ю.* Ідэя двух франтоў // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 294, 295, 297, 298, 299, 300.

[989] Тамсама. С. 293–294, 298–299.

[990] *Sawicki J.* Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń: TNT, 1998. S. 112.

тэрыторыі былога ВКЛ і на аснове яго палітычнай традыцыі[991]. Праект выйшаў з-пад пяра прадстаўніка пасляваеннай эміграцыі ў Вялікабрытаніі, імя якога ўстанавіць пакуль не ўдалося. Ды і толькі ў эміграцыі былым палітыкам беларуска-літоўскага краю можна было тэарэтызаваць на прадмет геапалітычнага перакройвання заходняга рэгіёну СССР і «будаваць замкі на пяску».

Аўтар агаворвае, што гэта канцэпцыя ўладкавання і ўпарадкавання краю можа пераўтварыцца з мары ў рэальнасць адзіна пры ўмове, калі савецкая Расія (хутчэй за ўсё меўся на ўвазе Савецкі Саюз) «хутчэй ці пазней, звонку і з сярэдзіны, у выніку новай вайны ці ўласных дэструкцыйных працэсаў, заўтра ці праз 20 гадоў…перастане быць дзяржавай». Нават калі «гэта будзе шанец адзін з 99», мы павінны мець уласную папулярную, абмеркаваную і выспеўшую канцэпцыю дзяржаўнага ўладкавання нашых краёў[992].

Новую дзяржаву меркавалася стварыць на тэрыторыі пражывання «ліцвінаў, што гаворыць па-польску, па-літоўску і па-беларуску ў прапорцыі як 1:1:2». Гэта (у даваенных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінках) – «Ковенскай Літва», Жмудзь з Клайпедскай вобласцю, Віленскае, Навагрудскае і 2/5 Беластоцкага (з Гродна і Сувалкамі) ваяводствы, усходняя частка Прусіі і ўся Савецкая Беларусь. Гэты край утварае адну геаграфічную, гістарычную і гаспадарчую цэласць і з'яўляецца воссю воднага шляху Нёмана да адзінага порта ў Клайпедзе («Рыга не мае таго значэння з-за неплавучасці Дзвіны»). Падзел краю ў папярэднія 20 гадоў дзяржаўнымі межамі насуперак яго гаспадарчай структуры абярнуўся эканамічным застоем Віленшчыны[993].

У думках, размовах і дыскусіях яшчэ даваеннага перыяду, як адзначана ў праекце, акрэсліліся тры альтэрнатыўныя варыянты дзяржаўнай арганізацыі гэтай тэрыторыі: 1) «Вялікая Літва»; 2) «сціплейшая Вялікая Літва без Палесся, якое можа застацца Польшчы»; 3) утварэнне па абодва бакі «Рыжскай мяжы» беларускай дзяржавы, асобнай ад Расіі, Літвы і Польшы, але сфедэраванай з дзвума апошнімі. Аўтар

---

[991] Wielka Litwa. 1946 // БВілУ. Ф. 257. Спр. 263. 20 арк.
[992] Тамсама. Арк.1.
[993] Тамсама. Арк.1, 2.

праекта абараняе і абгрунтоўвае першую канцэпцыю як «адзіна рацыянальную», «рэальную», «моцную»[994].

Таму гэта дзяржава павінна быць павялічана «літоўскімі землямі», якія да вайны належалі Польшчы і Прусіі. Прадугледжвалася, што ўсходняя мяжа гэтага мадыфікаванага ВКЛ супадзе з усходняй мяжой Рэчы Паспалітай 1772 г., а заходняя – з мяжой Расіі з Польшчай і пройдзе па Бугу. Палесссе, «згодна з даўняй традыцыяй», – на літоўскім баку, як і памежны Брэст, які «павінен вярнуцца да сваёй гістарычнай назвы «Брэст-Літоўскі», цалкам апраўданай». Белавежская пушча, «каб яе не дзяліць», цалкам застаецца на польскім баку, а Ваўкавыск, чыгунка Гродна–Аўгустоў–Сувалкі – на літоўскім. На поўдні Вялікая Літва будзе межаваць з Украінай, на поўначы – з Латвіяй. У такіх абшарах новая дзяржава будзе мець насельніцтва каля 8 мільёнаў чалавек і плошчу 400 тысяч кв. км – у 10 разоў большую за Бельгію і ў 7 разоў большую за Швецыю[995].

Меркавалася, што новая дзяржава стане самастойным фактарам міжнароднай палітыкі, а Беларусь у ёй «вернецца да сваёй традыцыйнай і гістарычнай ролі ўсходняй мяжы Сярэдняй Федэрацыі». Гэта будзе дзяржава, кіруемая самімі ліцвінамі з супольнай гаспадаркай, роўнымі правамі ўсіх яе народаў, іх моў і культур, роўнасцю культавых інстытутаў, трыма ўніверсітэтамі (літоўскі ў Коўне, польскі ў Вільні і беларускі ў Мінску) і трыма ўрадавымі мовамі: польскай, літоўскай і беларускай, кожнай з якіх павінен валодаць любы чыноўнік, у той час, як «прыватны чалавек» можа валодаць толькі адной[996].

«Ліцвінаў, якія гавораць па-беларуску», у гэтай дзяржаве будзе болей, але «іх ураўнаважаць культурна і палітычна даспелыя палякі і літоўцы». Акрамя таго, беларуская мова, будучы адной са старэйшых моў, у той жа час «наймаладзейшая з пункту погляду культурнага развіцця». Таму, як перакананы аўтар праекта, колькасная перавага беларусаў, «не зможа навязаць усёй дзяржаве пераважана беларускага характару», як гэта было ў XV і XVI ст. Але, як падкрэслена ў праекце, не трэба забываць, што гэты народ даў Літве яе куміраў: «што Касцюшка быў беларусам, што беларусам быў Міцкевіч, што да

[994] Wielka Litwa. 1946 // БВілУ. Ф. 257. Спр. 263. Арк. 3 –4.
[995] Тамсама. Арк. 1–2, 4–5, 19.
[996] Тамсама. Арк. 2, 4, 11–12, 13, 18.

гэтага дня ў Навагрудскім ваяводстве цэлыя вёскі беларускіх Сянкевічаў»[997].

З улікам рэлігійнай спецыфікі гэтай тэрыторыі прадугледжвалася не змяншаць ролі каталіцкай царквы, вярнуць царкоўную ўнію, устанавіць у Вільні ці, «згодна даўнейшай традыцыі», у Навагрудку праваслаўную мітраполію, «пазбаўленую залежнасці царквы ад Расіі», і забяспечыць усім тром культавым інстытутам роўныя правы[998].

Згодна з праектам-канцэпцыяй, Вялікая Літва ў акрэсленых вышэй межах і з насельніцтвам, якое размаўляе трыма мовамі, дае адзіную магчымасць іх арганізацыі згоднага сужыцця, без крыўдзячай перавагі аднаго над другім. Вялікая Літва – гарантыя суіснавання народаў. Усім жыхарам гэтай зямлі трэба вярнуць пачуццё ўласнай годнасці і свядомага грамадзянства, супольнай адказнасці за лёс свайго краю. Трэба забяспечыць усім тром народам магчымасць свабоднага культурнага развіцця. Прывілеяў і пераваг не павінен мець ніводзін з іх, ніводная з нацыянальных культур – «тут не дапамогуць законы, паліцыя»: трэба толькі роўных правоў і вольнасці: мовы, школ, друку, правоў для ўсіх. Але дзеля гэтага трэба кансалідаваць розныя моўныя групы Вялікай Літвы. Перашкод для гэтага няма: «мы адной крыві, маем агульную гісторыю» і трэба толькі не змагацца паміж сабой за ўплывы, але прызнаць роўныя правы названых народаў, іх моў і культур, і на гэтай роўнасці будаваць будучае жыццё[999].

Гербам Вялікай Літвы будзе Пагоня на блакітным полі, якая «не ад сёння і не ад учора з'яўляецца … нашым агульным гербам» і таму «не патрабуе сябе накідваць»[1000].

Канцэпцыя такой Літвы не з'яўляецца, па словах аўтара гэтага палітычнага твору, новай. У свой час такую дзяржаву хацеў стварыць Юзэф Пілсудскі, але не быў зразуметы сучаснікамі, а ў Польшы ў 1920 г. яго федэрацыйную ідэю і наогул успрынялі як здраду. Прычына, па меркаванню аўтара, заключаецца ў тым, што Ю. Пілсудскі недаацаніў значэння такой «навейшай зброі» як прапаганда – «свае вялікія задумы выношваў у адзіноце і ў адзіноце спрабаваў іх рэалізаваць»[1001].

[997] Wielka Litwa. 1946 // БВілУ. Ф. 257. Спр. 263. Арк. 11–12.
[998] Тамсама. Арк. 14–16.
[999] Тамсама. Арк. 1–3, 13–18.
[1000] Тамсама. Арк. 19.
[1001] Тамсама. Арк. 16–17.

Ні Польшча, ні Літва, ні бліжэйшыя суседнія дзяржавы, як гаварылася ў праекце, «не змогуць утрымацца доўга, будучы ў поўнай адсепараванай незалежнасці». Павінна з'явіцца федэрацыйная супольнасць народаў, блізкіх духам і культурай, – «Commonwealth паўночнай часткі Міжмор'я, Рэчпаспалітая федэральная». Прычым вяртанне Рэчы Паспалітай у ранейшай форме немагчыма, бо з таго часу адбылося шмат значных змен. Унія не будзе патрэбнай, затое федэрацыйная сувязь павінна адпавядаць інтарэсам усіх бакоў. Аўтар дапускае, што да гэтай федэрацыі з часам могуць далучыцца Украіна, Славакія, Чэхія, Венгрыя і Румынія[1002] (дадатак 57).

Логіку з'яўлення гэтага праекта ў замежжы, у асяроддзі ідэйных нашчадкаў краёўцаў Літвы і Заходняй Беларусі, тлумачыць палажэнне, сфармуляванае ў калектыўнай польска-беларускай працы «Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego» («Апошні грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага»): «Зацёртыя сляды рэліктаў традыцыі Вялікага Княства Літоўскага звычайна знаходзяцца паміж утопіяй (гістарычнай, грамадскай і культурнай) і настальгіяй тых, хто на яго землях нарадзіўся і, пазбаўлены краю дзяцінства, вымушаны жыць далёка ад яго, на эміграцыі. Утопія, праектаваная ў бліжэй неакрэсленую будучыню, вырасла з канфрантацыі страчаных шанцаў (цяжка ацаніць, у якой ступені рэальных) рэстытуцыі Вялікага Княства Літоўскага у яго выглядзе перад падзеламі, з палітычна-грамадскімі рэаліямі, якія былі найперш вынікам Рыжскай дамовы, а потым Другой сусветнай вайны»[1003]. Пасля гэтай дамовы рэалізацыя ідэі адраджэння ВКЛ была адкладзена на больш позні час, але, як аказалася, – назаўжды.

**Такім чынам,** нягледзячы на моцныя ўдары, нанесеныя па канцэпцыі аднаўлення гістарычнай Літвы канкурэнцыяй за як спадчыну (захоп Вільні войскам Польшчы – былога саюзніка па ВКЛ; падзел тэрыторыі паміж дзяржавамі ў 1921 г.), лідары краёвага руху не лічылі гэту ідэю вычарпанай. Спачатку Рыжскі мір, а потым аб'яднанне ў 1939–1940 гг. беларускага і літоўскага народаў у адзіныя дзяржавы і іх уключэнне ў

[1002] Wielka Litwa. 1946 // БВілУ. Ф. 257. Спр. 263. Арк. 17–18.

[1003] Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. T. Bujnicki; K. Stępnik. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu M. Curie-Skłodowskiej, 2005. S. 10.

склад СССР выклікала новы віток актуалізацыі пытання аб палітычнай спадчыне ВКЛ і яго асэнсавання краёўцамі.

Ідэалогіі позняга краёвага руху ўласцівы культ дзяржаўнай традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Вялікую павагу да гэтай традыцыі прадэманстравала ў 20-х – сярэдзіне 40-х гг. ХХ ст. апошняе пакаленне краёўцаў, упэўненае, што ВКЛ – не толькі мінулае, але і будучыня Беларусі і Літвы. Л. Хамінскі, К. Скірмунт, С. Свяневіч і Л. Абрамовіч асудзілі «знявечанне» зямель былога ВКЛ у 1921 г. штучнымі дзяржаўнымі межамі як «выбрык новай гісторыі», а таксама недальнабачную «крэсовую» палітыку Польшчы, якая ігнаравала адметнасць іх краю і яго дзяржаватворчыя сілы.

Магчымасць аднавіць «натуральны» ход развіцця падзей у рэгіёне краёўцы бачылі ў вяртанні ВКЛ на палітычную карту Еўропы. Яны лічылі, што ў новых гістарычных умовах і геапалітычнай сітуацыі, створаных Рыжскім мірам і Другой сусветнай вайной, не перасталі дзейнічаць прычыны геаграфічнага, эканамічнага, палітычнага і псіхалагічнага характару, якія ў свой час паклікалі да жыцця дзяржаву Ягелонаў. Рамантычнай афарбоўцы сваёй ідэі яны супрацьпаставілі яе рацыянальнасць, практычнасць і адпаведнасць эканамічным інтарэсам літоўска-беларуска-ўкраінскіх зямель. Скептыкам указвалі на тое, што іх ідэю аб’яднання народаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна перахоплівае СССР. Яго досвед нацыянальнай палітыкі 20-х гг. лічылі станоўчым і прывабным для беларусаў.

Сваёй праграмай-мінімум краёўцы акрэслілі дасягненне аўтаноміі ўсходніх зямель другой Рэчы Паспалітай, бо яна адпавядала іх эканамічным інтарэсам, праграмай-максімум – аб’яднанне ўсіх зямель былога ВКЛ у шматнацыянальную дзяржаву, чаго, верылі, дачакаецца наступнае пакаленне. Апошнія вядомыя нам праекты аднаўлення гістарычнай Літвы датуюцца 1942 і 1946 гадамі.

Прадстаўнікі старэйшага пакалення краёўцаў (Т. Урублеўскі, К. Скірмунт, Р. Скірмунт, Л. Абрамовіч, М. Ромер) да канца жыцця разумелі, што іх этнічна і культурна разнастайны край, хоць і разрэзаны штучнымі межамі, утварае адзіны арганізм і патрабуе асаблівага характару дзяржаўнасці. Ім было ўласціва незгаслае пачуццё грамадзяніна, спадчынніка ВКЛ як поліэтнічнай і полікультурнай дзяржавы. Сучаснікі

называлі іх «апошнімі магіканамі гістарычнай Літвы». Будучы працiўнікамі нацыянальна-адасабленачага шляхту развіцця народаў гістарычнай Літвы, яны ў 1940 г. вуснамі З. Юндзіла выказвалі шкадаванне, што «раскоша пакрытых гранітам ці мармурам сучасных гмахаў маладых дзяржаў», створаных на руінах ВКЛ, не можа параўнацца са шчарбатымі калосамі замка Міндоўга – велічнай «архітэктурай» мінулага[1004].

[1004] *Юндзіл З.* Трагедыя ідэі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 317.

# Заключэнне

Насуперак рашэнню Расіі, Аўстрыі і Прусіі, якія выкрэслілі Вялікае Княства Літоўскае з карты Еўропы, яго патрыёты былі ўпэўнены, што патэнцыял іх дзяржавы не вычарпаны, а сябе лічылі здольнымі вярнуць яе і дзеля гэтага хапаліся за любую магчымасць. Траўма страты дзяржавы, зведаная ў канцы XVIII ст. і паглыбленая ў 1830-я г. знішчэннем апошніх атрыбутаў Княства: універсітэта, уніі, Статута 1588 г., і пошукі шляхоў яе пераадолення – былі рэпрадуцыраваны ў шасці-сямі пакаленнях спадчыннікаў ВКЛ (лічыцца, што абнаўленне пакаленняў адбываецца праз 20–25 гадоў). У іх грамадска-палітычныя рухі трывала прапісалася перакананне ў неабходнасці і немінучасці аднаўлення Княства, абумоўленае жаданнем пазбавіцца залежнасці ад Расіі або атрымаць ў яе складзе аўтаномію, змяніць баланс сіл і геапалітычную сітуацыю ў рэгіёне. Дзяржаўны досвед Княства заставаўся запатрабаваным у палітычных праектах па пераўладкаванні беларускіх і літоўскіх зямель на працягу прыблізна 150 гадоў.

Ідэя адраджэння ВКЛ, якая то затухала, то абуджалася зноў, прадэманстравала незвычайную гістарычную ўстойлівасць. Гэта ідэя нашмат перажыла самую дзяржаву і захоўвала актуальнасць у грамадска-палітычным жыцці Беларусі да канца Першай сусветнай вайны, пакуль не запанавала тэндэнцыя распаду імперый і стварэння нацыянальных дзяржаў; вясной 1918 г. пераўтварылася ў ідэю саюза з Літоўскай Рэспублікай, у лютым 1919 г. была выкарыстана савецкай уладай пры ўтварэнні ЛітБел, а пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. змянілася лозунгам аўтаноміі беларуска-літоўскага краю ў другой Рэчы Паспалітай.

Намер вярнуць дзяржаўнасць ВКЛ – ідэя інтэлігенцкая, элітарная, бо адукаваныя колы грамадства найбольш востра перажывалі траўму страты дзяржавы. У залежнасці ад гістарычных абставін мяняўся толькі носьбіт ідэі. Першымі змагарамі за вяртанне Княства выступілі яго былыя палітыкі, потым – прафесары Віленскага ўніверсітэта, студэнцкая моладзь – кожны з іх змагаўся за агульную мэту сваімі спосабамі..

У канцы XVIII – 60-х гг. XIX стст. прыхільнай да адраджэння

ВКЛ з'яўлялася народжаная ў ВКЛ і ўзгадаваная на яго традыцыях польская па мове і культуры, але ліцвінская па палітычнай свядомасці рымска-каталіцкая і ўніяцкая шляхта ва ўсіх яе сацыяльных і розных прафесійных пластах і яе нашчадкі (дзеці і ўнукі). Магнаты і шляхта марылі вярнуць былы статус у дзяржаве, свае правы і прывілеі, а таксама законы, якія іх ахоўвалі. Народы ВКЛ хацелі адрадзіць дзяржаву, якая абараняла іх нацыянальна-культурныя інтарэсы і рэлігійную адметнасць. Каталіцкае духавенства жадала аднавіць пануючы статус сваёй веры, уніяцкае – самую веру. У гэты перыяд упэўненасць у далёка не вычарпаным патэнцыяле ВКЛ існавала сярод інтэлектуальнай і палітычнай эліты ўсёй Беларусі, хоць у большай ступені выяўлялася на захадзе беларускіх зямель.

У першай чвэрці ХХ ст. грамадска-палітычны рух за адраджэнне ВКЛ кансалідаваў частку беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі шляхецкага паходжання, як правіла, з каталіцкага (постуніяцкага) асяроддзя. Ёй рухаў намер стварыць шматнацыянальную дзяржаву з дамінацыяй беларускага этнасу, а таксама жаданне пазбегнуць падзелу этнічнай беларускай тэрыторыі і спрэчкі з літоўцамі з-за Вільні. Найбольш зацікаўленымі такой формай вырашэння нацыянальна-дзяржаўных праблем Беларусі аказаліся заходнебеларускія дзеячы Вільні. Беларускія палітыкі праявілі большую адданасць прынцыпу непадзельнасці гістарычнай Літвы ў параўнанні з іншымі яе спадчыннікамі.

Грамадзянамі ВКЛ лічылі сябе ўдзельнікі краёвага руху з ліку інтэлігенцыі і землеўладальнікаў Заходняй Беларусі і Віленскага краю. Асобныя краёўцы старэйшага пакалення (Р. Скірмунт, К. Скірмунт, Л. Абрамовіч, Т. Урублеўскі, Ю. Мацкевіч, С. Свяневіч, Л. Хамінскі і інш.) у міжваенны час захоўвалі свядомасць грамадзянства даўно неіснуючай дзяржавы і ў 1930-я гг. яшчэ верылі ў магчымасць яе адраджэння.

Нязменнасць жадання аднавіць ВКЛ абумоўлена комплексам прычын: гістарычных, геаграфічных, псіхалагічных, палітычных, сацыяльных, эканамічных, нацыянальных, культурных. Сказвалася 500-гадовая традыцыя сумеснага жыцця беларускага і літоўскага народаў у агульнай дзяржаве, агульная гістарычная сталіца.

Шматразовая актуалізацыя на працягу 1795–1939 гг.

пытання аб вяртанні дзяржаўнасці ВКЛ і яго забраных атрыбутаў з'яўляецца пошукам выхаду з сацыяльна-культурнай траўмы. Спрацоўвалі гістарычная настальгія, асабліва моцная ў першых пакаленнях правапераемнікаў Княства, рамантызацыя літаратурай і ідэалізацыя гістарычнай навукай вобразу ВКЛ і месца ў ім беларусаў, а таксама прагматычны разлік, які быў дамінуючым у пакаленняў 1900–1930-х гг. Яго імкненне да дзяржаўнага адзінства Беларусі з Літвой мела пад сабой геаграфічныя і эканамічныя падставы: вякамі ўтвораны на гэтых землях цэльны гаспадарча-эканамічны і сацыяльны арганізм, супольная сістэма рэк, дарог, а таксама жаданне мець выхад да Балтыйскага мора.

Грамадска-палітычны рух за адраджэнне ВКЛ у сваім развіцці прайшоў наступныя пяць этапаў:

1795–1829 гг. – перыяд абвостранай сацыякультурнай траўмы і палітычнага рамантызму. Яго зместам з'яўлялася абуджэнне палітычнай думкі і дзейнасць першай тайнай арганізацыі «Віленская асацыяцыя» з мэтай падрыхтоўкі новага паўстання (1796–1799); вынас пытання на дзяржаўны ўзровень (1805–1810) А. Чартарыйскім, С. Нямцэвічам, А. Радзівілам; гуртаванне аднадумцаў вакол М. К. Агінскага і спроба выкарыстаць геапалітычную барацьбу Францыі і Расіі, ілюзія аднаўлення ВКЛ Напалеонам (1811–1815; праекты М. К. Агінскага 1811 г., М. Сакальніцкага 1812 г.; ВКЛ, якое існавала ў ліпені – снежні 1812 г.); пастаноўка ў 1815–1829 гг. пытання ў дзейнасці масонскіх ложаў, тайных таварыстваў (студэнцкія арганізацыі шубраўцаў, філаматаў, філарэтаў, прамяністых, «Патрыёты Айчыны»; «Дэмакратычнае таварыства», «Брацкі саюз літоўскай моладзі» і інш.) і ідэалагічная падрыхтоўка да ўзброенай барацьбы за вяртанне сваёй дзяржаўнасці.

1830–1864 гг. – час сепаратызму і – у пачатку і ў канцы дадзенага перыяду – узброенай барацьбы. Для яго характэрна бачанне залогу вяртання дзяржаўнасці ВКЛ у адбудове Рэчы Паспалітай (паўстанне 1830–1831); паглыбленне сацыякультурнай траўмы знішчэннем у 1831–1840 гг. апошніх атрыбутаў ВКЛ (універсітэт, унія, Статут); рамантызацыя вобразу ВКЛ літаратурай і яго ідэалізацыя гістарычнай навукай (1830–1850-я); узмацненне ў 1861 – пачатку 1863 гг. незалежніцкіх настрояў і дамаганне юрыдычнай адасобленасці беларуска-літоўскіх зямель

органамі шляхецкага самакіравання (Магілёўскі дваранскі сход; Мінскі дваранскі сход і інш.), легальнымі арганізацыямі шляхты (ЛЗКТ) і ідэолагамі партыі «белых» (А. Аскерка, В. Старжынскі); «літоўскі сепаратызм» і пастаноўка пытання аб дзяржаўнай самастойнасці Літвы-Беларусі «чырвоным» крылом кіраўніцтва паўстаннем 1863–1864 гг. (К. Каліноўскі, З. Серакоўскі і інш.).

1864–1904 гг. – згасанне грамадска-палітычнай актыўнасці на карысць адбудовы ВКЛ і з'яўленне перадумоў новай актуалізацыі пытання. Рэпрэсіі, пераслед усялякіх дэманстрацый памяці пра былую дзяржаву; адыход пакалення, якое нарадзіліся ў ВКЛ і за яго змагалася, і перакрыццё каналаў фарміравання патэнцыйных змагароў за яго вяртанне абумовілі затуханне ў сярэдзіне 60-х – 80-х гг. XIX ст. актыўнасці на карысць працягу гістарычнай дзяржаўнай традыцыі; пасіўныя формы грамадскага руху (несанкцыянаваныя з'езды памешчыкаў, патрыятычныя прамовы і спевы, распаўсюджванне патрыятычнай літаратуры і сімволікі) і яго «замыканне» ў шляхецкіх сядзібах. Вобраз ВКЛ ператварыўся з катэгорыі рэальнай у духоўную. Тэорыю адбудовы гістарычнай Літвы змяніў праект аўтаноміі беларускіх і літоўскіх зямель у межах расійскай дзяржавы.

На мяжы XIX–XX стст. на традыцыі ВКЛ пачалі аглядацца новыя палітычныя сілы (беларуская, літоўская, польская нацыянальныя эліты і створаныя імі партыі: БСГ, ЛДП, ППС). Спадчыннікам ВКЛ вяртаецца страчаная вера ва ўласныя сілы. Надзеі на аднаўленне яго палітычнай самастойнасці ажываюць у 1903 г. і ўзмацняюцца ў 1904–1905 гг.

Пачаўся распад адзінства народаў ВКЛ і разыходжанне іх інтарэсаў. Міф пра ВКЛ стаў часткай беларускай нацыянальнай ідэалогіі, аднак напярэдадні этапу новай пастаноўкі пытання аб уласнай дзяржаўнасці беларускі рух прайграваў нацыянальным рухам былых саюзнікаў па ВКЛ па маштабам і ўзроўню нацыянальнай кансалідацыі.

1904–1921 гг. – перыяд ажыўлення надзеі на аднаўленне ВКЛ і спробаў яе рэалізацыі, звязаны з абуджэннем нацыянальных рухаў, расійскімі рэвалюцыямі, зменай геапалітычнай сітуацыі ў выніку Першай сусветнай вайны. Характэрныя рысы і тэндэнцыі гэтага перыяду: апеляцыя краёвага руху да дзяржаўнай традыцыі ВКЛ (Р. Скірмунт, К. Скірмунт, М. Ромер

і інш.); вызначэнне сваіх пазіцый адносна гэтай традыцыі народамі-праваперaемнікамі ВКЛ (1904–1914); выпрацоўка іх палітыкамі адаптаваных да новых умоў і часу мадэляў дзяржаўнасці ВКЛ і пошукі ў Германіі падтрымкі яе хоць бы частковай рэстытуцыі (1915–1918). Традыцыі дзяржаўнасці ВКЛ у гэты перыяд выяўляліся ў праграмных дакументах і дзейнасці палітычных партый і арганізацый беларускай нацыянальнай арыентацыі (БСГ, БНК (Вільня), ВБР і інш.).

Час новай актуалізацыі пытання аб адраджэнні ВКЛ у 1915–1918 гг., у сваю чаргу, падзяляецца на тры этапы: 1) восень 1915 – першая палова 1916 гг. – выпрацоўка беларускім рухам асноўных канцэптуальных падыходаў, іх падтрымка літоўскім рухам, стварэнне і дзейнасць арганізацыі «Канфедэрацыя ВКЛ» для іх рэалізацыі; 2) другая палова 1916–1917 гг. – змяншэнне з канца 1916 г. шанцаў на поспех беларускага праекта; другі (і апошні) сумесны беларуска-літоўскі праект адраджэння ВКЛ (студзень 1917); пошукі літоўскімі палітыкамі падтрымкі Германіі ў стварэнні сваёй монанацыянальнай дзяржавы, а беларускімі палітыкамі – хоць бы частковага адраджэння ВКЛ; 3) 1918 г. – ухваленне курса на адраджэнне ВКЛ Беларускай канферэнцыяй у Вільні (студзень 1918) і яго працяг ВБР; ініцыятыва групы дваран Мінскай губерні аб стварэнні Вялікага Княства Літоўска-Беларускага пад нямецкім куратарствам (кастрычнік–лістапад); з утварэннем Літвой і Беларуссю сваіх нацыянальных дзяржаў пасля канфрантацыі з кіраўніцтвам Літвы (сакавік–лістапад) вяртанне беларускіх палітыкаў да канцэпцыі канфедэрацыі ВКЛ (лістапад) і ілюзія пачатку ажыццяўлення даўняй мары ў выглядзе дзейнасці МБС ва ўрадзе Літоўскай рэспублікі і ўключэння Гродзенскай губерні ў яе склад.

З 1919 г. адбываецца дэактуалізацыя пытання аб вяртанні дзяржаўнасці ВКЛ.

У 1918–1921 гг. інтарэсы былых саюзнікаў па ВКЛ разыходзяцца і ідзе канкурэнцыя за яго палітычную спадчыну (тэрыторыю, сталіцу): стварэнне Літоўскай дзяржавы і яе прэтэнзіі на частку беларускіх зямель; захоп Вільні войскам Польшчы ў 1919 г.; падзел у 1921 г. тэрыторыі гістарычнай Літвы паміж Расіяй і Польшчай.

1921–1939 гг. – новы віток цікавасці да палітычнай спадчыны ВКЛ у ідэалогіі позняга краёвага руху,

прадстаўленага польскамоўнай каталіцкай інтэлігенцыяй беларуска-літоўскага краю; культ традыцыі ВКЛ у асяроддзі прадстаўнікоў старэйшага пакалення краёўцаў (Т. Урублеўскі, Ю. Мацкевіч і інш.), перакананых, што час адбудовы ВКЛ наступіць, толькі адкладзены Рыжскім мірам на больш позні час; апошнія праявы краёвасці ў 1939–1940 гг. Краёвы рух асуджаў падзел спадчыны ВКЛ паміж яе правапераемнікамі, нацыянальна-адасабленачы шлях іх развіцця і палітычную «апеку» Варшавы над іх краем (Л. Хамінскі, К. Скірмунт, С. Свяневіч, Л. Абрамовіч і інш.).

Апошнія вядомыя нам праекты-канцэпцыі аднаўлення гістарычнай Літвы датуюцца 1942 г. (план Ю. Мацкевіча) і 1946 г. (палітычны твор «Вялікая Літва»).

Да традыцыі дзяржаўнасці ВКЛ звярталіся прадстаўнікі ўсіх накірункаў грамадска-палітычнага руху 1795–1939 гг.: «шляхецка-рамантычнага» (масонскія ложы, тайныя таварыствы, органы шляхецкага самакіравання), рэвалюцыйна-дэмакратычнага (К. Каліноўскі), сацыялістычнага (БСГ, А. Луцкевіч і інш.), краёвага (Р. Скірмунт, С. Свяневіч і інш., Краёвая партыя Літвы і Беларусі). За адраджэнне ВКЛ яны змагаліся рознымі спосабамі (палітыка-ідэалагічны, дыпламатычны, ваенны) і шляхамі: мірным (легальны: хадайніцтвы перад сваімі манархамі, дыпламатыя; тайна-канспіратыўны: масонскія ложы, тайныя таварыствы), а таксама ўзброеным. Разлік на вяртанне ВКЛ заўсёды ўзмацняўся ў эстраардынарных умовах, якія гэтыя сілы самі стваралі (паўстанні) або якія выкарыстоўвалі (напалеонаўскія войны, Першая сусветная вайна).

Схільнасць грамадска-палітычнага руху Беларусі да геапалітычнага ўладкавання беларуска-літоўскага рэгіёна на аснове дзяржаўнай традыцыі ВКЛ увасобілася ў шэраг індывідуальных і калектыўных праектаў: «Пулаўскі план» адраджэння Рэчы Паспалітай А. Чартарыйскага 1805–1810 гг.; план С. Нямцэвіча 1806 г.; ваенна-палітычны праект 1807 г. А. Г. Радзівіла; праект М. Сперанскага 1811 г.; план Агінскага 1811 г.; праект М. Сакальніцкага 1812 г.; ВКЛ 1812 г. (праект, рэалізаваны Напалеонам); праекты адміністрацыйнай і нацыянальна-культурнай аўтаноміі З. Серакоўскага, В. Старжынскага 1861–1863 гг., праект ЛЗКТ пачатку 1860-х гг. (А. Аскерка); краёвы праект пачатку XX ст. (Р. Скірмунт, К. Скірмунт,

М. Ромер, Ю. Гарбачэўскі, Т. Урублеўскі, Б. Ялавецкі); праект Канфедэрацыі ВКЛ 1915–1916 гг.; праект «Злучаных штатаў Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны» 1916 г.; сумесная літоўска-беларуская палітычная платформа для нямецкіх уладаў (студзень 1917 г.); праект Е. Чапскага (1918); праграма-мінімум і праграма-максімум позняга краёвага руху (С. Свяневіч, Л. Хамінскі; палітычны твор «Вялікая Літва» 1946 г.). Прынцыпы ўладкавання адноўленага Княства былі таксама выкладзены ў шэрагу публічных і сакрэтных дакументаў (запіскі, мемарандумы, рэзалюцыі: мемарандум канцлеру Германіі (сакавік 1917 г.); рашэнне Беларускай канферэнцыі ў Вільні (студзень 1918 г.) і інш.).

Праекты і дакументы канца XVIII–XIX стст. з'яўляюцца сведчаннем рэстраспектыўнага ўсведамлення адметнасці ВКЛ ад Польшчы, а рух за адраджэнне ВКЛ – праявай ліцвінскага сепаратызму, які ў грамадска-палітычным жыцці беларуска-літоўскіх зямель пастаянна змагаўся (і спалучаўся) з другой аднолькава моцнай тэндэнцыяй – салідарнасцю інтарэсаў з Польшчай.

Праекты акрэслівалі тэрыторыю, межы, сталіцу, назву дзяржавы, яе палітычны лад, органы вышэйшай улады і кіравання, заканадаўства, сацыяльныя і эканамічныя асновы, узаемаадносіны з суседзямі, перспектывы развіцця і іншыя пытанні.

Грамадска-палітычным рухам Беларусі разглядаліся розныя мадэлі дзяржаўнасці ВКЛ у да– і пасляяюблінскім варыянце, у адзінстве або федэратыўным саюзе з Польшчай і без аднаўлення ўніі з ёй; на платформе канфедэрацыі Беларусі і Літвы (Канфедэрацыя ВКЛ) або больш шырокай федэрацыі дзяржаў з Латвіяй і Украінай (Балтыйска-Чарнаморскі саюз); у форме манархіі (праект Е. Чапскага) або дэмакратычнай рэспублікі (краёвы праект); пад эгідай Варшавы або Пецярбурга, Парыжа, Берліна ў залежнасці ад таго, якая з дзяржаў на той момант была больш рэальнай сілай.

Аўтары праектаў узводзілі «літоўскае пытанне» ў ранг еўрапейскай значнасці і даводзілі Расіі, Францыі і Германіі, што ад яго вырашэння залежыць зыход вайны, лёс дзяржаў, баланс сіл на кантыненце. З другога боку, пастаноўка мясцовымі палітыкамі гэтага пытання стварала для тых краін палітычныя праблемы. Праекты, у выпадку іх рэалізацыі, вялі бы да змены геапалітычнай сітуацыі ў рэгіёне і ў Еўропе.

Падзеленыя стагоддзем храналагічныя адрэзкі 1805–1815 гг. і 1915–1918 гг. маюць падабенства міжнароднай сітуацыяй і вастрынёй пастаноўкі пытання аб адраджэнні ВКЛ, калі дасягала свайго апагею «канцэнтрацыя» на адзінку часу праектаў; мысліцеляў і палітыкаў, у іх задзейнічаных; высокім палітычным узроўнем абмеркавання гэтых праектаў і настойлівасцю намаганняў па іх увасабленню ў жыццё. Эвентуальныя дзяржавы, згодна з праектамі 1811 г. і 1915–1916 гг., мелі ранейшую назву, сейм у Вільні, уласныя органы ўлады і кіравання, сваю армію. Але істотна розніліся тэрыторыяй і насельніцтвам (у першым выпадку – ўся Беларусь, Літва, цэнтральная і заходняя Украіна з насельніцтвам 8 млн чалавек; у другім – заходняя Беларусь, Літва, частка Латвіі і 3 млн жыхароў); а таксама знешнепалітычнай арыентацыяй (саюз або аўтаномія ў складзе Расійскай імперыі па праекту 1811 г.; разрыў з ёй палітычных сувязяў і збліжэнне з Германіяй згодна праекта 1915–1916 гг.).

Праекты адраджэння ВКЛ, як плён працы мысліцеляў і палітыкаў, гатовых узяць на сябе адказнасць за лёс беларускіх і літоўскіх зямель, – яркая з’ява грамадска-палітычнай думкі і дыпламатыі Беларусі канца XVIII – першай паловы XX ст., сведчанне існавання тут дзяржаватворчых сіл, паказчык адметнасці ідэалогіі беларускага грамадска-палітычнага руху ад ідэалогіі польскага руху, хоць яго «ліцвінскі сепаратызм» да сярэдзіны 1860-х гг. спалучаўся з салідарнасцю інтарэсаў з Польшчай. Ішоў пошук шляху развіцця беларускіх і літоўскіх зямель, адметнага ад Польшчы і Расіі і заснаванага на традыцыях гістарычнай дзяржаўнасці. Выпрацаваная ў 1915–1916 гг. праект-канцэпцыя канфедэрацыі ВКЛ, якая забяспечвала бы ў адроджанай шматнацыянальнай дзяржаве этнічную дамінацыю беларусаў, адыграла пэўную ролю ў працэсе станаўлення беларускай нацыянальна-дзяржаўнай ідэі падчас Першай сусветнай вайны.

Інтэлектуалам і палітыкам канца XVIII – першай паловы XX ст. не ўдалося «перанесці мінулае ў будучыню» і вярнуць ВКЛ. Ды і рэальныя ўмовы дзеля гэтага склаліся толькі аднойчы – іх стварыў удзел Расіі ў Першай сусветнай вайне, падзенне царызму і абвешчаны прынцып права народаў на самавызначэнне.

Прычыны няўдач з рэалізацыяй праектаў адраджэння ВКЛ абумоўлены гістарычнымі ўмовамі і геапалітычнымі

фактарамі, якія абмяжоўвалі іх творцаў, і падзяляюцца на ўнутраныя і знешнія. Сказаўся недахоп уласных сіл для дзяржавастваральнай працы і знешняй падтрымкі. Творцы праектаў не здолелі кансалідаваць вакол сваіх лозунгаў большасць грамадства. Беларускае грамадства у пачатку XX ст. аказалася непадрыхтаваным да ўвасаблення гэтых праектаў.

Ракавым фактарам з'яўлялася геапалітычнае становішча Беларусі і Літвы паміж магутнымі імперыямі (Расійскай і Французскай, потым – Расійскай і Германскай).

Намеры вярнуць дзяржаўнасць ВКЛ моцна закраналі інтарэсы Расіі, таму сустрэлі негатыўныя адносіны яе ўладных структур і расійскага грамадства, якое бачыла ў праектах пагрозу расчлянення імперыі. Імперыя жорстка карала любыя намаганні і нават намеры парушэння сваёй цэласнасці, хоць, вымушаная абапірацца на эліту далучаных зямель, у некаторых выпадках (1806–1815 гг.) выказвала гатоўнасць падтрымаць справу аднаўлення і аўтаноміі ВКЛ.

Не апраўдалася стаўка на замежныя сілы. Арыентацыя на іх, з аднаго боку, стварала ілюзію магчымасці адраджэння ВКЛ, а, з другога, абмяжоўвала мясцовыя дзяржаватворчыя сілы. Праекты адбудовы ВКЛ не стасоўваліся з геапалітычнымі інтарэсамі дзяржаў-агрэсараў (напалеонаўскай Францыі, кайзераўскай Германіі), якія на словах іх падтрымлівалі, бо бачылі ў іх зручны спосаб шантажу Расіі, а на справе выкарыстоўвалі стаяўшыя за імі групоўкі і арганізацыі для замацавання сваёй улады на захопленых тэрыторыях.

Ажыццяўленню праектаў не спрыяла развіццё міжнародных падзей.

Урэшце, беларускія праекты першай чвэрці XX ст. адраджэння ВКЛ перакрэсліла разыходжанне інтарэсаў народаў гістарычнай Літвы і іх канкурэнцыя за спадчыну Княства (сталіца, тэрыторыя). У Першую сусветную вайну адносіны былых саюзнікаў па ВКЛ эвалюцыянізавалі ад супрацоўніцтва да канфрантацыі, тэрытарыяльных і нацыянальных прэтэнзій.

# Спіс выкарыстаных крыніц і літаратуры

## Архіўныя матэрыялы

### *Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (Мінск)*


1. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 134. Рэзалюцыі, дэкларацыі, звароты і іншыя дакументы Беларускага камітэта ў г. Вільня за 1917–1918 г. 54 арк.

2. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 145. Грыб Т. «Нашы мэты і заданні». Артыкул без канца. Машынапіс. Пачатак 1920-х г. 70 арк.

3. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 152. Варонка Я. Заходняя Беларусь: Городзеншчына і Віленшчына. Палітычна-статыстычны нарыс з дадаткам дакументаў і пратэстаў проці польскай акупацыі. Коўна, 1919. Аўтограф, машынапіс, друкаванае выданне. 29 арк.

4. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 169. Дакументы беларускай нацыянальнай палітычнай нарады (пратаколы, рэзалюцыі, інфармацыі), якая адбылася 26–30 верасня 1921 г. у г. Прага. 117 арк.

5. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 200. Дакументы беларускага цэнтра ў Літве (г. Коўна). 1930-я г. 26 арк.Ф. 3. Воп. 1. Спр. 241. Артыкулы і даклады К. Дуж-Душэўскага аб беларускім нацыянальным руху і беларуска-літоўскіх узаемаадносінах. 1918–1935 г. 347 арк.

6. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 257. Дакументы V асамблеі Лігі нацый, якая адбылася ў Жэневе ў верасні 1924 г. (Выступленне В. Ю. Ластоўскага, бюлетэні, дэкларацыі і інш.). 92 арк.

7. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 292. Стэнаграма прамоў дэлегатаў народаў Расіі на Усерасійскай дэмакратычнай нарадзе ад 14–21 верасня 1917 г. Машынапіс. 89 арк.


### *Бібліятэка Варшаўскага ўніверсітэта, аддзел рукапісаў*


8. Спр. 2381. До литвинов. Универсал Александра I, изданный в Вильно 12/24 декабря 1812 г. Арк. 10–11.


### *Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта, аддзел рукапісаў*


9. Ф. 257. Спр. 263. Wielka Litwa. 1946. 20 арк.


### *Бібліятэка імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы, аддзел рукапісаў*


10. Ф. 21. Спр. 276. Пратаколы беларускіх арганізацый. 1916 г. 36 арк.

11. Ф. 21. Спр. 277. Лістоўка № 3 Сувязі незалежнасці і непадзельнасці Беларусі.

12. Ф. 21. Спр. 319. Дзённік Антона Луцкевіча. 27.12.1918 – 23.03.1919. 59 арк.

13. Ф. 21. Спр. 332. Łuckiewič, A. Ekonomičnaja ewolucija i biełaruski ruch. 1917. 8 арк.

14. Ф. 21. Спр. 334. Рукапісы Антона Луцкевіча. 1914–1921. 8 арк.

15. Ф. 21. Спр. 341. Рукапісы Антона Луцкевіча. 14 арк.

16. Ф. 21. Спр. 858. Унівэрсал Конфэдэрацііі Вялікаго Князьства Літоускаго. 1915 г. Арк. 5–7 адв.

17. Ф. 21. Спр. 2068. Пратаколы беларускіх арганізацый. 1916 г. 16 арк.

18. Ф. 21. Его Эксцеллянции господину Имперскому Канцеляру. 1917 г. Арк. 1–12.

19. Ф. 79. Спр. 749. Jankowski Czesław. Pod banderą Pogoni. 1919. 5 арк.

20. Ф. 79. Спр. 767. Abramowicz Ludwik. Polska a Litwa [1917]. 5 арк.

21. Ф. 79. Спр. 784. Smetona A. Geneza litewskiej rady krajówej. XI.1917. 3 арк.

22. Ф. 79. Спр. 787. Zawadski Wł. Memoriał o sprawie litewskiej. 7.11.1917. 6 арк.

23. Ф. 79. Спр. 822. Літоўскі вечар у Берліне. 1917 г. Артыкул. 9 арк.

24. Ф. 79. Спр. 824. Litwa a Niemcy. 1.IX.1917. 2 арк.

25. Ф. 79. Спр. 828. Memoriał, złożony przez grupa działaczy litewskich J. E. Panu Prezesowi Ministrów [1917]. 2 арк.

26. Ф. 79. Спр. 842. Polityka narodowośćiowa [1917]. 5 арк.

27. Ф. 79. Спр. 857. Odpis. 27.X.918. 3 арк.

28. Ф. 79. Спр. 866. Sprawozdanie z zebrania dyskusijnego w sprawie Litwy [1918]. 5 арк.

29. Ф. 79. Спр. 892. Odpis. 1917 г. 9 арк.

30. Ф. 79. Спр. 897. Żądania Białorusinów. 20.III.1918. 3 арк.

31. Ф. 79. Спр. 898. Żądania Litwinów. 31.VIII.1918. 8 арк.

32. Ф. 79. Спр. Спр. 869. Stosunki na Litwie [1918]. 5 арк.

33. Ф. 138. Спр. 2262. Riomerių šeimos aktai [b.d.]. 33 арк.

34. Ф. 255. Спр. 1673. Унівэрсал Конфэдэрацііі Вялікаго Князьства Літоускаго. 1915 г. Арк. 1–2 адв.

35. Ф. 255. Спр. 1674. Hramadziane! 1916 г. 2 арк.

## *Галоўны архіў старажытных актаў (Варшава)*

36. Ф. 202. Спр. 4. Дело по предписаниям г. минского временного военного губернатора о доставлении попечителем Белорусского учебного округа Карташевым сведений о молодеченских учителях. 2 сентября 1831 г. 8 арк.

37. Ф. 197. Спр. 217. О наблюдении за поступками поляков по случаю политических обстоятельств в 1815 году. 12 февраля – 30 ноября 1815 г. 409 арк.

38. Ф. 197. Спр. 109. О переписке разных лиц на счет политических обстоятельств. 1814 г. 56 арк.

39. Ф. 197. Спр. 103. О шпионах и подозрительных людях. 5.4.1814–4.9.1815 г. 151 арк.

40. Ф. 200. Inventarz zespołu archiwalnego «Władze Centralne Powstania

губернях, напрыклад: універсітэт, вышэйшыя навучальныя ўстановы іншых катэгорый, краёвы аддзел рэгулявання землекарыстання, банкі для правядзення парцэляцыі, меліяратыўныя банкі ды іншае. ...

Пытанне. – *Якія грамадзянскія правы найбольш патрэбныя ў Літве?*

Адказ. – Роўнасць усіх веравызнанняў, а таксама поўная свабода для ўсіх веравызнанняў і сумлення. Роўнасць у грамадзянскіх правах усіх, незалежна ад нацыянальнасці, веравызнання і полу; роўнасць саслоўяў; свабода слова, друку, сходаў, саюзаў і арганізацый; свабода заняткаў і месцазнаходжання; гарантыя грамадзянскай свабоды, гэта значыць недатыкальнасць асобы і жылля без рашэння суда; незалеж насць суда ад адміністрацыйных уладаў.

Пытанне. – *Што неабходна для народа (нацыі)?*

Адказ. – Школы павінны быць перададзены самакіраванню; мовай выкладання ў пачатковай, сярэдняй і вышэйшай школе павінна быць мова, якой будзе патрабаваць мясцовае насельніцтва; пачатко вая адукацыя павінна быць усеагульная, усесаслоўная і абавязковая. Апроч таго, кожная нацыя павінна мець права заснавання ўласных школ. У Вільні павінен быць універсітэт і незалежна ад яго ў Вільні або ў іншых гарадах Літвы павінны быць політэхнічны і аграномічны інстытуты, а таксама ніжэйшыя і сярэднія прафесійныя школы, у першую чаргу, сельскагаспадарчыя.

Пытанне. – *Наколькі неабходна вывучэнне і добрае веданне дзяржаўнай расійскай мовы?*

Адказ. – Вывучэнне расійскай мовы ў сярэдніх і вышэйшых школах, безумоўна, неабходнае, таксама як і вывучэнне гісторыі і геаграфіі Расіі.

Пытанне. – *Ці павінна існаваць поўная свабода заснавання грамадскіх інстытутаў?*

Адказ. – Усе, незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, павінны мець права заснавання ўласных грамадскіх, культурных, спартыўных і клубных інстытутаў, свабодных ад любых абмежаванняў.

Пытанне. – *Ці павінны краёўцы мець права першынства ў органах самакіравання і ў дзяржаўных установах, а таксама права карыстання краёвымі мовамі?*

Адказ. – Ва ўсіх органах самакіравання, у дзяржаўных

установах, а таксама ў судзе краёўцы павінны мець першынство, а краёвыя мовы – польская, літоўская і беларуская – павінны мець належныя ім правы.

Пытанне. – *Як найлепей можна вырашыць аграрнае пытанне?*

Адказ. – ... Неабходна распрацаваць праект такога гаспадарчага развіцця, якое б цалкам адпавядала патрэбам насельніцтва нашага краю. Вопыт Заходняй Еўропы сведчыць пра неабходнасць паступовага драблення зямельнай уласнасці на невялікія гаспадаркі. Мы не павінны закрываць на гэта вочы, а цалкам свядома пачаць працу над урэгуляваннем паступовага пераходу вялікіх зямельных абшараў у рукі вясковага насельніцтва, а менавіта сялян, дробнай шляхты ды іншых падобных катэгорый, да ючы ім пры гэтым усё, што можа паспрыяць паляпшэнню стану зямельных угоддзяў і найбольш эфектыўна выкарыстаць эканамічныя ўмовы для развіцця дробнай прамысловасці. ...

Пытанне. – *Як трэба ставіцца да пастаянных жыхароў краю рускай нацыянальнасці ды іншых нацыянальнасцяў у Літве?*

Адказ. – Стаўленне да пастаянных жыхароў краю рускай нацыянальнасці ды іншых нацыянальнасцяў павінна быць цалкам братэрскім, як да нашых суграмадзянаў, якія ва ўсіх грамадскіх спра вах працуюць разам з намі для дабра краю.

...

Пытанне. – *Што рабіць, калі не атрымаем лепшага заканадаўства?*

Адказ. – Перш за ўсё трэба даць адукацыю нашым дзецям, бо адукацыя – гэта падмурак усяго. ... Трэба вывучаць тыя правы, якія мы маем, і карыстацца імі, каб не саступаць бяспраўю. ...

## 24. Антон Луцкевіч. Краёвае становішча (1912 г.)

***Крыніца:*** *Луцкевіч А. Краёвае становішча // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 225–229.*

Сотні гадоў жывем мы тутака разам – на адной Зямлі – беларусы і літвіны, палякі і жыды. Нейкі гістарычны прымус, дужэйшы, чым жаданні мільёнаў людзей, звязаў нас усіх і разам далучыў да дзяржавы Расейскай.

Нельга думаць, каб нам калі-небудзь давялося разысціся ў розныя бакі і рассяліцца. Нельга думаць, бо Край гэты стаў родным роўна для ўсіх: і для адвечных жыхароў яго – беларусаў, і літвінаў, і для «прымакоў» колішніх палякаў і жыдоў. З гэтай Зямлёй звязана наша мінуўшчына і будучына. На ёй спазналі мы многа гора і бед – і лепшай долі тутака дачакаемся.

... ўсе тутэйшыя нацыі звязаныя не толькі тым, што на адной зямлі жывуць: нас злучае ў адну вялікую сям'ю, у адно брацтва наша доля-нядоля, нашы беды і жаданні, наша супольная палітычная думка. З той думкі творыцца краёвая праграма, паводле якой усе мы павінны змагацца за шчасце краю.

... ёсць людзі, якія не хочуць працаваць дзеля нашай старонкі затым, што для іх яна чужая: адны працуюць дзеля Польшчы, другія шукаюць бацькаўшчыны ў Палестыне, трэціх сэрца цягне ў Маскву. Тут – у нас – яны быццам госці дачасныя. Яны хаваюць свае сілы, сваю здольнасць дзеля іншай зямелькі, каторую лічаць сваёй бацькаўшчынай. Гэта не грамадзяне нашага краю, а каланісты. Яны заўсёды застануцца для нас чужымі. Для іх краёвая ідэя не мае ніякай цаны.

## 25. Людвік Абрамовіч. Два шляхі (1912 г.)

***Крыніца:*** *Абрамовіч Л. Два шляхі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 276–280.*

… Расійскі імперыялізм лічыў і лічыць сваёй найважнейшай задачай, сваёй гістарычнай місіяй найшчыльнейшае з’яднанне гэтых земляў з карэннай часткай дзяржавы. Але ў гэтых памкненнях ён сустракаў натуральную перашкоду ў форме гістарычнай традыцыі, якая выводзіцца з часоў Гарадзельскай уніі, што выклікае прыцягненне Літвы і Беларусі да этнаграфічнай Польшчы. Польская нацыя сцерагла гэтую традыцыю як найвялікшы скарб, а ў марах сваіх песціла вобраз будучай незалежнай польскай дзяржавы, у якую абавязкова мусіць увайсці гістарычная Літва.

…

Таму цалкам натуральна, што Ягелонская ідэя, ідэя польскай дзяржавы, якая б ахоплівала польскія, літоўскія і русінскія землі, лічылася найбольш узвышанай традыцыяй мінулага, страта якой успрымалася як нацыянальная здрада. Як вынік, расійскі нацыяналізм разглядаў Ягелонскую ідэю як свайго найбольш небяспечнага ворага, яе супрацьдзеяннем тлумачылася беспаспяховасць русіфікацыйных захадаў. Аб Ягелонскую ідэю як сутнасны змест спрэчкі, хоць можа і не заўсёды ясна сфармуляваны і дастаткова ўсвядомлены, разбіваліся ўсе спробы польска-расійскага прымірэння, нават у тэорыі.

…

З развіццём дэмакратызацыі наступіла нацыянальнае самаўсведамленне народных масаў. Шляхта страціла сваё паноўнае становішча. На публічную арэну ўступілі новыя сілы, вырашальную ролю пачалі граць чыннікі, якія да гэтага часу не ўспрымаліся ўсур’ёз. Распаліся перажытыя формы палітычных канцэпцый, пачалі паўставаць новыя, адпаведныя змененым умовам, што вынікаюць з навачасных дэмакратычных стасункаў. Нарадзіўся да гэтага часу нечуваны лозунг аўтаноміі.

Польскае каралеўства высунула патрабаванне ўласнай аўтаноміі, Літва – уласнай. Польшча, як больш аднастайны

і развіты арганізм, сфармулявала свае памкненні ясна і выразна, Літва і Беларусь, якія знаходзяцца яшчэ ў стадыі абуджэння і крышталізацыі палітычнай думкі, не здолелі надаць сваім імкненням акрэсленую форму. Але тэндэнцыя адчуваецца бясспрэчна.

Маладыя літоўскае і беларускае грамадствы, якія не маюць ніякага багажу гістарычных традыцый, стварылі канцэпцыю самастойнай літоўска-беларускай тэрытарыяльнай адзінкі без усялякіх ваганняў, натуральна і з лёгкасцю. …

…

Перакананне ў тым, што Літва і Беларусь – гэта асобны край, які валодае ўласнымі інтарэсамі і ўласнымі шляхамі развіцця, не звязанымі непасрэдна з Польскім каралеўствам, усё больш набывае права на жыццё і становіцца фундаментам польскай палітычнай думкі на нашай глебе.

Аднак і ў нас ёсць розумы, не здольныя да цвярозага погляду на свет і дакладнага мыслення. …

… расійскія нацыяналісты. Яны разумеюць Ягелонскую ідэю як памкненне да адбудовы польскай дзяржавы ў межах да падзелаў, як падпарадкаванне інтарэсаў нашага краю інтарэсам Польшчы, як залежнасць Вільні ад дырэктываў Варшавы. Мэтай майго артыкула і было паказаць хімернасць такіх падазрэнняў.

… Трэба быць зусім блізарукім, каб не заўважаць, што літоўцы і беларусы да гэтага часу ўспрымаюць Ягелонскую ідэю (у яе сутнасным значэнні – як унію з Польшчай) калі не варожа, то абыякава; але паколькі ўласныя палітычныя ідэалы яны не здолелі выразна сфармуляваць, то цяжка сёння казаць пра будучую перспектыву. Аднак няма сумневаў, што польскае грамадства не можа ажыццяўляць палітыку на ўласны розум, не зважаючы на літоўскі і беларускі народ.

## 26. Міхал Ромер. Дэмакратыя і нацыянальнае развіццё (1912 г.)

***Крыніца:*** *Ромер М. Дэмакратыя і нацыянальнае развіццё // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 144–149.*

… Развіццё краю знаходзіцца пад знакам нацыянальнасці.

Адносна нядаўна мінулі старыя часы, яшчэ заспетыя старэйшым пакаленнем жывучых сёння грамадзян краю, калі Літва і Беларусь не ведалі таго ўнутранага нацыянальнага разладу, які сёння так востра праяўляецца. Здавалася, што ў гэтым краі жыве адзіны народ, які размаўляе, праўда, на розных мовах, але згуртаваны і маналітны. Спрэчка ішла толькі пра прыналежнасць краю да Польшчы ці Расіі, а ўласна кажучы – пра выцісканне адсюль польскіх культуры і ўплываў расійскімі. Акрамя гэтага народа тагачасных «літвінаў», у які ўваходзіла як польскамоўная шляхта, так і мяшчанства ды вясковыя масы, што размаўлялі па-літоўску і па-беларуску, існавалі, праўда, пэўныя чужыя элементы, перадусім габрэі, расійцы-стараверы і г. д., але гэта былі групы дакладна і выразна адасобленыя ў грамадскім арганізме. Бачнасць адзінства была захаваная. Ля тых вытокаў і нават у першых спробах адраджэння літоўскай ці беларускай літаратуры, якія мы бачым на пачатку XIX стагоддзя і якія выходзяць пераважна з асяродку шляхты, мы назіраем хутчэй рысы пэўнага акцэнтавання правінцыялізму, чым свядомае фармаванне асобнай і самастойнай нацыянальнай культуры.

Аднак жа да канца XIX стагоддзя ідылія адзінства знікае, народ даўніх «літвінаў», якім яго ведалі ці хутчэй успрымалі нашы бацькі, распадаецца на асобныя нацыянальныя групы і ў сваім старым выглядзе знікае. Яшчэ і сёння можна пабачыць, як у новых змененых варунках блукае выміраючы від «літвінаў» старога тыпу, якія належаць пераважна да старэйшага пакалення, не хочуць паверыць у факт нацыянальнага раз’яднання нашага грамадства і лічаць гэта ці праявай калектыўнага пагаршэння, ці вынікам варожай інтрыгі. Большасць, аднак, у сваёй пасіўнай масе сама патрапляе пад гэты працэс раз’яднання; новыя элементы разладу штораз пранікаюць у чалавечую свядомасць і радыкальна

перафармоўваюць звычайную псіхіку ў нацыянальнай сферы. Ад народа «літвінаў» адасобіліся літоўцы, палякі, урэшце беларусы. Апошнія бадай што дагэтуль яшчэ складалі ў сваёй масе асяроддзе «тутэйшых», гэта значыць народа мясцовага з тэрытарыяльнага пункту гледжання, без акрэслення нацыянальнай індывідуальнасці, падзеленага на «каталікоў», што ідэнтыфікуюцца збольшага як палякі, і «праваслаўных», што ідэнтыфікуюцца як расійцы.

Працэс нацыянальнага раз’яднання крочыць усё хутчэй, усё энергічней і глыбей. Асобныя нацыі усё больш узмацняюць свае культуры, умацоўваюць шчыльнасць сваіх шэрагаў, робяць больш выразнымі свае патрабаванні. Апошнія гады пасля 1905 года вызначылі ў гэтым кірунку значны прагрэс, тэмпы якога з года ў год растуць. Таму мы таксама зараз знаходзімся перад абліччам нацыянальнага пытання, зусім выразна і прынцыпова інакш акрэсленаа, чым старая колішняя польска-расійская спрэчка за Літву. Нацыянальнае пытанне ў яго цяперашнім стане – гэта наша агромністая ўнутраная краёвая праблема. Гэта культурная і грамадская праблема першараднага гістарычнага значэння, вырашэнне якой належыць да галоўных задач будучыні і мусіць ужо цяпер прасоўвацца наперад сучасным пакаленнем. У любым выпадку задача гэта робіцца з дня ў дзень усё больш актуальнай і вымагае пастаянных выдаткаў энергіі і думкі, асабліва ў напрамку дэмакратыі, якой належыць будучыня.

Відавочна, што гэты працэс нацыянальнага адасаблення не быў толькі справай выпадку ці толькі эвалюцыяй паняццяў. … Дэмакратызацыя грамадства ў XIX стагоддзі і перадусім разнявольванне сялян запачаткавала працэс фармавання асобных самастойных нацыянальных культур краю. З моманту, калі сялянскія народныя масы пачалі пераходзіць ад бяздзейнасці да актыўнай чыннасці, калі яны пачалі браць у свае рукі стырно ўласных патрэбаў і дамагацца іх задавальнення ці то ў форме імкнення да асветы і гаспадарчага развіцця, ці то ў форме, напрыклад, выбараў у Думу, ці нават такіх спраў, як пытанне мовы набажэнства ў касцёле і г. д., калі з гэтага народа пачала выходзіць інтэлігенцыя, калі, дарэчы, масы пачалі вызваляцца ад апякунчых пялюшак і аказваць усё больш дзейснае і свядомае ўздзеянне на ўвесь парадак грамадскіх адносін, з таго моманту культурная

індывідуальнасць мусіла вылучыцца як новы і ўсё больш магутны чыннік развіцця.

…

Старыя казкі пра чужынскую інтрыгу, пра злую волю двудушных агітатараў, што адрываюць народ ад гістарычнай традыцыі і да таго падобнага цяпер, улічваючы ўсё больш моцны нацыянальны рух і ўсё больш масавы яго характар, выглядаюць ужо зусім камічна і не вымагаюць аспрэчвання.

Сёння мы маем дачыненне не толькі з тэндэнцыяй, але ўжо ў значнай ступені і са здзейсненым фактам.

Якія ж з гэтага могуць вынікаць наступствы і парады для краёвай дэмакратыі? Якая мусіць быць яе пазіцыя ў святле гэтага факта? Ці мусіць яна распасціся паводле нацыянальнага падзелу на асобныя польскую, літоўскую, беларускую дэмакратыі, ці ўсё ж ва ўлонні краёвай грамадскасці ствараць маналітную сувязь гістарычнага працэсу?

…

Несумненна, як гэта ўжо адзначана вышэй, што само нацыянальнае пытанне ў яго сённяшнім стане ёсць творам дэмакратыі. Таму замест вонкава маналітнай і бясколернай «тутэйшай» масы мы сёння маем нацыянальныя культуры, якія ўжо ці выразна індывідуалізаваныя, ці, як беларусы (і літоўцы у Віленскай губерні), знаходзяцца ў працэсе індывідуалізацыі. Гэты працэс мусіць быць скончаны і будзе скончаны.

…

Індывідуалізацыя нацыянальных культур у краі зусім не нішчыць адзінай краёвай супольнасці, якая пастаянна існуе...

### 27. Міхал Ромер. Пра наш край (1913 г.)

***Крыніца:*** *Ромер М. Пра наш край // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 156–162.*

Наш край, гэта значыць даўняя гістарычная Літва, або, як мы зараз кажам, Літва і Беларусь, займае велізарную прастору зямлі ад Балтыкі да Дняпра і ад пскоўскіх раўнін аж да мазавецкіх пяскоў і палеска-пінскіх балот, таму яе нельга разумець як цалкам аднародную. Яна змяшчае ў сабе цэлы шэраг асаблівых рэгіянальных уласцівасцяў, як фізічна-кліматычных, так і этнаграфічных ды культурных. Гісторыя, супольнае мінулае, падпарадкаванне роднасным элементам знешніх уплываў, звязалі гэтыя рэгіёны ў адзіную краёвую цэласць, але не знішчылі лакальных асаблівасцяў, не знівелявалі цалкам розніцу ў паходжанні і культуры народа. Найбольш выразным з'яўляецца падзел гэтага краю на дзве асноўныя вялікія тэрыторыі, заселеныя дзвюма сялянскімі народнасцямі, – Літву і Беларусь. …

… Літоўцы усё больш выразна агучваюць лозунг Літвы для літоўцаў, літоўскай Літвы. Фармаванне нацыянальнай Літвы ў супрацьпастаўленні Літве гістарычнай або нават этнаграфічнай – гэта адна з прыкметаў літоўскага руху, адна з догмаў таго гістарычнага дзеяння, якім з'яўляецца Адраджэнне Літвы. Тут гэтая канцэпцыя ўсё больш пранікае ў псіхалогію народа. Заходняя, карэнная Літва ўсё больш вылучаецца з краёвай цэласнасці гістарычнай Літвы, як de facto асобная аўтаномная нацыянальна-тэрытарыяльная адзінка.

… Глыба «тутэйшасці» ўсё больш разбіваецца і трушчыцца, саступаючы месца новым формам – нацыянальным. Народныя выдавецтвы, асветніцкі рух і да таго падобныя, якія ідуць з усіх трох бакоў (літоўскага, польскага і беларускага), звернутыя ў тым самым кірунку. І трэба тут адзначыць, што рух, з усіх трох нібыта найбольш слабы, бо не карыстаецца аніякай прыхільнасцю з боку ўладаў, не багаты на культурныя сродкі, не мае якой-небудзь вонкавай дапамогі ад суседніх рэгіёнаў, не валодае традыцыяй і сілай сфармаванага руху – беларускі рух тут не адстае ад іншых. У асобных мясцовасцях каталіцкай

Белай Русі ён замацоўваецца ў масах, здабывае сабе мясцовыя асяродкі для непасрэднай прапаганды, жывыя народныя пляцоўкі, і сістэматычна ды трывала расце, адначасова паціху ствараючы ўласныя кадры асабліва працавітай ды актыўнай інтэлігенцыі, так званай народнай паўінтэлігенцыі.

...

Аднак далейшае і вышэйшае культурнае развіццё народа, што праходзіць самавызначэнне, мусіць выяўляцца ў нацыянальнай спецыялізацыі, у акрэсленых выразных формах той ці іншай нацыі. Пры гэтым, у нашых умовах нацыянальнае адмежаванне ёсць справай вельмі цяжкай, якая не можа быць вырашаная простым адсячэннем. Таму паступовыя поспехі працэсу нацыянальнага ўсведамлення безупынна выклікаюць непаразуменні, спрэчкі пра спадчыну, сутыкненні і ўзаемнае суперніцтва. Найлепшым чыннікам для падзелу ёсць мова, але і яна не да канца ўсталяваная, ды і, зрэшты, не толькі яна адна абумоўлівае сукупнасць культурна-звычаёвых рысаў, на якіх грунтуецца нацыянальны падмурак.

...

Беларусь – гэта народ яшчэ пераважна ў спячцы, народ, грамадская і культурная самасвядомасць якога ў масе сваёй яшчэ вельмі нізкая. З захаду і поўдня працэс самавызначэння пачынае паволі праточваць пасіўную абалонку бяссілля, але ў параўнанні з суседняй Літвой гэты працэс знаходзіцца толькі ў зародку. Інтэлігенцыя, што паходзіць з гэтага народу, яшчэ дагэтуль амаль паўсюдна падпадае пад дэнацыяналізацыю, а гарады паводле мовы і свайго самаадчування застаюцца расійскімі. Народныя каталіцкія элементы цягнуцца ў гарадах да польскасці, рэшта ж – як масы, так і інтэлігенцыя – русіфікуецца. Толькі вельмі нешматлікія адзінкі з інтэлігенцыі абвяшчаюць у гарадах узнікненне свядомага беларускага руху, а на вёсцы ўсё ж такі пачынаюць вырастаюць кадры ніжэйшай народнай паўінтэлігенцыі, якія становяцца найбольш энергічным зачынам адраджэння Белай Русі, канцэнтруючы вакол сябе ядро свядомых памкненняў у спячай дагэтуль народнай масе.

## 28. З мемуараў генерала Эрыха Людэндорфа, кіраўніка Обер Оста

***Крыніца:*** *Людендорф, Э. Мои воспоминания о войне. Первая мировая война в записках германского полководца. 1914–1918 гг. Под ред. Л. М. Суриса. Москва-Берлин: Директ-Медиа, 2015. С. 594.*

Генерал-фельдмаршал и я ставили себе конечной целью образовать в области, находившейся в ведении главнокомандующего востоком, герцогство Курляндию и Великое Княжество Литовское, которые, блюдя взаимные интересы, теснейшим образом примыкали бы к Германии и возглавлялись бы его величеством; связь личной унией могла бы быть, безразлично, с престолом Пруского короля или троном Германского императора. Таким образом, Германия – Пруссия в военном отношении получила бы обеспечение от нового нападения со стороны России, и одновременно приобрела бы территорию для устройства наших солдат после войны.

**29. Універсал Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага (на яўрэйскай, літоўскай, беларускай, польскай мовах). 19 снежня 1915 г. Копія**

***Крыніца:*** *Унівэрсал Конфэдэрацііі Вялікаго Князьства Літоускаго. 1915 г. // БАНЛ. Ф. 21. Спр. 858. Л. 5–7 адв.; Ф. 255. Спр. 1673. Л. 1–2 адв.*



# אוניווערסאל

פון דער קאנפעדעראציע פון גרויס-פירסטענטום ליטא.

דעם 19 דעקאבער 1915 יאהר האבען מיטגלידער פון ליטווישע, ווייסרוסישע, פוילישע און אידישע ארגאניזאציעס געגרינדעט די קאנפעדעראציע פון דעם גרויספירסטענטום ליטא, וואס שטרעבט מיט פעראייניגטע כוחות צו דערגרייכען, אז די ליטווישע און ווייסרוסישע לענדער, וועלכע עס האבען אמאל געבילדעט דאס גרויס-פירסטענטום ליטא און וואס זיינען איצט פערנומען פון די דייטשע חיילות, זאלען פעראייניגט ווערען ביי די נייע היסטארישע בעדינגונגען צו בילדען א זעלבשטענדיגע מדינה מיט זיכערונג פון פולע גלייכע רעכט פאר אלע נאציאנאליטעטען, וועלכע לעבען אין די דערמאנטע לענדער.

מיט דעם לאזונג ווענדען זיך די קאנפעדעראטען צו אלע נאציאנאליטעטען, צו אלע קלאסען פון דער בעפעלקערונג, צו אלע ארגאניזאציעס און צו אלע בירגער פון ליטא און ווייסרוסלאנד, אז האבענדיג אין זינען די וויכטיגקייט פון דעם גרויסען היסטארישען מאמענט, זאלען זיי פערגעסען די געגענזייטיגע בעליידיגונגען, פאראורטיילע און מיסטרויען און זאלען אלע צוטרעטען צו דער קאנפעדעראציע פון דעם גרויספירסטענטום ליטא צוליעב דעם גליק פון זייער אלגעמיינעם פאטערלאנד.

דער צייטווייליגער ראט
פון דער קאנפעדעראציע גרויספירסט. פון ליטא.

**Didžiosios Lietuvos Kunigaikštijos Konfederacijos**

# Atsišaukimas.

Gruodžio 19 d. 1915 m. lietuvių, gudų, lenkų ir žydų organizacijų nariai sudarė **Didžiosios Lietuvos Kunigaikštijos Konfederaciją**, stengdamiesi bendromis spėkomis prie to, kad Lietuvos bei Gudijos žemės, iš kurių kitą kart buvo sutapusi Didžioji Lietuvos Kunigaikštija, o kurios dabar vokiečių kariuomenės yra užimtos, sudarytų, prie naujųjų istorijos sąlygų, vieną **nedalijamą ir savitą Lietuvos bei Gudijos kūną, atskiros valstybinės vienatos pavidale, su visiška teisių pilnumo garantija visoms tautoms, tame krašte gyvenančioms.**

Tuo tikslu susitelkusieji Konfederacijon jos nariai šiaukiasi į visas tautas, visus luomus, visas esamas organizacijas ir visus krašto piliečius, idant jie, atsiminę visą šios didelės istorijos valandos svarbumą, pamiršę pritirtas nuoskaudas, metę šalin prietarus ir neišsitikėjimą, dėlei bendrosios tėvynės labo — dėtųs Didžiosios Lietuvos Kunigaikštijos Konfederacijon.

**Didžiosios Lietuvos Kunigaikštijos Konfederacijos**
**LAIKINĖ TARYBA.**

# Унівэрсал

**Конфэдэрацііі Вялікаго Князьства Літоускаго.**

Лета 1915 мес. Грудня 19 дня члены Літоускіх, Беларускіх, Польскіх і Жыдоускіх організацій прыступілі да КОНФЭДЭРАЦІІ ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО, дабіваючыся супольнымі сіламі, абы Літоускіе і Беларускіе землі, каторые здауна прыналежалі да ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО, а цяпер апанаваны Нямецкімі войскі, станавілі пры новых варунках гісторычных нераздзельнае цела на фундамэнці НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ ЛІТВЫ І БЕЛАРУСІ, ЯК СУЦЭЛЬНАЙ ДЗЕРЖАВЫ, ЗАСЬЦЕРАГАЮЧЫ УСІМ НАЦІЯМ У ЯЕ МЕЖАХ УСЕ ПРАВЫ.

Дзеля гэтаго конфэдэраты звертаюцца да усіх націй, да усіх станау, да усіх істнуючых організацій і да усіх грамадзян Краю, клічучы, абы уважаючы на важнасць вялікаго гісторычнаго момэнту, забыушыся крыуд узаемных, свар і недавер'я, маючы на мэці адно карысць супольнае Бацькаушчыны, прылучыліся да КОНФЭДЭРАЦІІ ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО.

*РАДА ТЫМЧАСОВАЯ*
*Конфэдэрацііі Вялікаго Князьства Літоускаго.*

# Uniwersał

***Konfederacji Wielkiego Księstwa Litewskiego.***

Dnia 19 grudnia roku 1915 członkowie organizacji Litewskich, Białoruskich, Polskich i Żydowskich zawiązali KONFEDERACJĘ WIELKIEGO KSIĘSTWA LITEWSKIEGO, dążąc wspólnemi siłami ku temu, by ziemie Litewskie i Białoruskie, ongiś w skład WIELKIEGO KSIĘSTWA LITEWSKIEGO wchodzące, a obecnie przez wojska Niemieckie zajęte, stanowiły przy nowych warunkach historycznych nierozerwalną całość na zasadzie USAMODZIELNIENIA LITWY I BIAŁORUSI W POSTACI JEDNOSTKI PAŃSTWOWEJ, Z ZAGWARANTOWANIEM PEŁNI PRAW WSZYSTKIM NARODOWOŚCIOM, POMIENIONE TERYTORJUM ZAMIESZKUJĄCYM.

W myśl powyższej zasady, Skonfederowani apelują do wszystkich narodowości, do wszystkich stanów, do wszystkich istniejących organizacji i do wszystkich Obywateli Kraju, by zważywszy na doniosłość wielkiej chwili dziejowej, zapomniawszy wzajemnych uraz, uprzedzeń i niedowierzań, dla dobra wspólnej Ojczyzny zgłosili swój akces do KONFEDERACJI WIELKIEGO KSIĘSTWA LITEWSKIEGO.

***RADA TYMCZASOWA***
***Konfederacji Wielkiego Księstwa Litewskiego.***

**30. Універсал Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага (беларускамоўны варыянт). 19 снежня 1915 г.**

***Крыніца:*** *Унівэрсал Конфэдэрациї Вялікаго Князьства Літоускаго. 1915 г. // БАНЛ. Ф. 21. Спр. 858. Л. 5–7 адв.; Ф. 255. Спр. 1673. Л. 1–2 адв.*

**Унівэрсал Конфэдэрациї вялікаго Князьства Літоускаго**

Лета 1915 мес. грудня 19 дня члены Літоўскіх, Беларускіх, Польскіх і Жыдоускіх організацій приступілі да КОНФЭДЭРАЦІІ ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО, дабіваючыся супольнымі сілами, абы Літоускіе і Беларускіе землі, каторые здауна прыналежалі да ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО, а цяпер апанаваны Нямецкімі войскамі, станавілі пры новых вырунках гісторычных неразздельнае цела на фундамэнці НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ ЛІТВЫ І БЕЛАРУСІ, ЯК СУЦЭЛЬНАЙ ДЗЕРЖАВЫ, ЗАСЬЦЕРАГАЮЧЫ УСІМ НАЦІЯМ У ЯЕ МЕЖАХ УСЕ ПРАВЫ.

Дзеля гэтаго конфэдэраты звертаюцца да усіх націй, да усіх станау, да усіх істнуючых організацій і да усіх грамадзян Краю, клічучы, абы уважаючы на важнасць вялікаго гісторычнаго момэнту, забыушыся крыуд узаемных, свар і недавер'я, маючы на мэці адно карысць супольнае Бацькаушчыны, прылучыліся да КОНФЭДЭРАЦІІ ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО.

РАДА ТЫМЧАСОВАЯ
Конфэдэрациї Вялікаго Князьства Літоускаго

## 31. Адозва «Грамадзяне!» Рады «Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага». Люты 1916 г. Копія

***Крыніца:*** *Hramadziane! 1916 г. // БАНЛ. Ф. 255. Спр. 1674. 2 л.*

# Hramadzianie!

Abwiesczenaja 19 hrudnia 1916 hodu Tymczasowaj Radaj Konfederacija Wialikaho Kniażstwa Litoŭskaho maje na mecie, jak toje u Uniwersale jaje adznaczeno, dajšci **wyzwaleńnia Litwy i Bielarusi, jak dzierżaŭnaj adzinki.**

Kirujuczysia da hetaj mety, Konfederacija apirajecca na hetakich asnowach:

Piersz za ŭsio Konfederacija liczyć, szto ŭsie nadziei na Rasieju—nia tolki pustyja, ale i szkodnyja. Bolsz czym staletniaje supolnaje žyćcio naszaje z Rasiejej najlepiej pakazało, szto hetaje hasudarstwo chocze z nami zrabić. Praz uwieś czas supolnaho z nami žyćcia jano planowa i systematyczna kirawałosia da taho, kab scierci ŭsie adznaki naszaj samaczynnaści. I hystoryja astatnich sta dwacaci let zapoŭniena ŭsia biezupynnym śmiarotnym zmahańniem naszym za swoj byt s prahawitaj rasiejskaj dzierżaŭnaściu.

Na darozi da wyzwaleńnia naszaho my spatykajem worahoŭ nia tolki ŭ czynoŭnickaj rasiejskaj dzierżaŭnaści, ale i ŭ bolszaj czaści rasiejskaho hramadzianstwa, katoraje praz swaje partii, nia liczaczy niekotorych niewialikich lewych grup, zaŭsiody wystupało proci naszaho ruchu da woli. Z hetaj pryczyny my nie sumlewajemsia i ab rasiejskim liberaliźmie, katory kirujecca da taho, kab u swaje ruki zabrać ułaść paśla carskich czynoŭnikoŭ.

Da jakoj stupieni centralistycznaho aślepleńnia dajszła kirujuczaje czaść rasiejskaho hramadzianstwa, mohuć świadczyć choć-by hałasy pressy rasiejskaj, katoraja nawet ciapier, kali nas užo nareszcie aswabadzili ad jarma carskaj apieki, nie zabywajecca pry kożnym zdareńni adznaczywać, szto bytcym to Kraj nasz jość i dalej pawinien astawacca rasiejskim—„istinno rasiejskim na wieki“.

Sieci intryg, rasstaŭlanych zahranicaj i ŭ naszym Kraju u astatnija czasy dosi achwoczaj i sprytnaj rukoju najmitoŭ rasiejskaho caratu, nie pawinny nas aszukać czy usypić naszu czutkość.

Naszy nadzieji na spaŭnieńnie žadańnia woli Kraju naszaho kirujucca ciapier u druhuju staranu: da grupiroŭki hasudarstw srednie-europejskich. My wierym, szto paśla pabiedy srednie-europejskich hasudarswtw byŭszyja zachodnija prawincii Rasieji, a piersz za ŭsio ziemli polskija, litoŭska-biełaruskija i nadbaltyckija pawinny buduć adpaść ad Rasieji i stwaryć hasudarstwienyja adzinki u takoj abo siakoj kombinacii z srednie-europejskimi hasudarstwami, a pry hetym byliby pryniaty pad razwahu emancypacyjnyja damahańnia hetych ziamiel i zapeŭnieny samoczynnaho razwićcia ich socijalno-kulturnaho i palitycznaho žyćcia.

Hetkaja možliwaść karystna nia tolki dla hetych krajoŭ, ale karystna i dla srednie-europejskich hasudarstw. Biezsporna, hetym aposznim ważno nia tolki toje, kab Rasieja była asłablena, ale i toje, kad ad jaje addzialicca muram, katory baraniŭ by ich ad nacisku z uschodu. Samo saboj razumiejecca, szto choć bolej-mieniej dalnowidnaja palityka, jakoj możem spadziewacca ad srednie-europejskich hasudarstw, budzie wymagać, kab Kraji, katoryja buduć służyć za taki mur, nia tolki ciahnulisia da Sredniaj Europy s pryczyn zwierchnych i minajuczych, ale i byli zacikaŭleny takoj łucznaściu s pryczyn unutrennych, pastajannych.

Nia dumajem, kab ciaper užo była para praroczyć ab konkretnych formach buduczaho układu adnosin srednie-europejskich hasudarstw, — pakul arużża wajujuczych nie skazało swajeho astatniaho stanoŭczaho słowa. Usioż taki nam zdajecca, szto užo para, kab zainteresowanyja starony, a ŭ hetym szczocie i nasz Kraj, wyskazali publiczna swaju wolu i swaje sprawedliwyja damahańnia.

U myśl hetaho Konfederacija Wialikaho Kniažstwa Litoŭskaho žadaješ:

1. aby ziemli litoŭska-biełaruskija stanawili pry nowym układzie niezaležnuju hasudarstwienuju adzinku z sejmam u Wilni, wybiranym na asnowie ahulnych, roŭnych, prostych i tajnych wybaroŭ, z zabiezpieczeniem poŭnych prawoŭ usim nacijam, katoryja žywuć na nazwanych ziemlach.

2. aby ŭ mieżach nazwanych ziemiel byli prinamsi ziemli, zaniatyja ciapier niamieckimi wojski, znaczyca: Kowienskaja i Wilenskaja hubernii, biełaruskaja i litoŭskaja czaści Hrodzienskaj i Suwalskaj hubernij, litoŭskija czaści Kurlandzkaj huberni i czaści hubernii Minskaj, katoraja zwiazana z Wilenskim centram — i aby usie hetyja ziemli stanawili adno niepadzielnaje całaje;

3. aby forma unutrenaho ładu i asnaunaja konstytucija buduczaj wolnaj, litouska-biełaruskaj hasudarstwienaj adzinki nie była nakinuta nam z wierchu, ale była ustanoulena i zaćwerżona ustanouczym sejmam u Wilni, wybranym ahulnaj, roŭnaj, prostaj i zakrytaj padaczaj hałasoŭ.

Hetyja asnaunyja naszy žadańnia, katoryja nasz Kraj praz świedomyja hramadzkija orhanizaciji wyskazywaŭ u takoj abo siakoj formie, u zaležnaści ad warunkoŭ momentu, adpawiedajuć usim sprawedliwym wymahańniam jak szyrejszych kruhoŭ hramadzianstwa naszaho, tak i asobnych narodoŭ naszaho Kraju.

Hramadzianie!

Moment, katory pastanowić ab doli naszaho Kraju, naszaj supolnaj Ajczyzny, nabližajecca szparkimi krokami. Buduczyna i dobrabyt Kraju budzie u znacznaj miery zaležać ad taho, jakuju pazyciju my zajmiem. Budźma-ž rastaropnymi i dalnawidnymi, nie padawajmosia tolki uczućciu, katoraje nas czasta aszukiwaje, ale razważajmo ab doli naszaj, doli całych buduczych pakaleńnioŭ chałodnym razumam, siahajuczy daloka pierad saboju.

Jednajmosia nawokoł supolnaho kliczu, bo tolki u jedności siła. Kińmo swarki i zwadki, ad katorych cierpić uwieś Kraj. Padumajmo razam dy szczyra ab doli hetaho Kraju, bo-ž usie my apracza žmieni prybłud, syny naszaj ziemli — naszaj Litwy i Biełarusi.

Nie czekajmo na toje tolki, szto niechta dla nas zrobić, nie aszukiwajmo siabie, a woźmiemo swaju dolu ŭ swaje ruki: trywałym budzie tolki toje, szto my swaimi supolnymi siłami adwajujem, zdabudziem i utrymajem.

Stojma, hramadzianie, mocna, ćwiorda i u zhodzi biaz rożnicy stanoŭ, nacii i wiery, pry sztandary naszaj wolnaj baćkoŭszczyzny — Litwy i Biełarusi!

**Luty 1916 h.**

*RADA Konfederacii Wialikaho Kniażstwa Litouskaho.*

**32. Адозва «Грамадзяне!» Рады «Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага». Люты 1916 г. Тэкст**

***Крыніца:*** *Hramadziane! 1916 г. // БАНЛ. Ф. 255. Спр. 1674. 2 л.*

Грамадзяне!

Абвешчаная 19 грудня 1915 году Тымчасовая Рада Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага мае на мэце, як тое ва Універсале яе адзначана, дайсці **вызвалення Літвы і Беларусі, як дзяржаўнай адзінкі** [выдзелена ў дакуменце].

Кіруючыся да гэтай мэты, канфедэрацыя абапіраецца на гэтакіх асновах:

Перш за ўсё Канфедэрацыя лічыць, што ўсе надзеі на Расію – ня толькі пустыя, але і шкодныя. Больш чым сталетняе супольнае жыццё нашае з Расеей найлепей паказала, што гэтае гасударства хочэ з намі зрабіць. Праз увесь час супольнага з намі жыцця яно планова і сістэматычна кіравалася да таго, каб сцерці ўсе адзнакі нашай самачыннасці. І гісторыя астатніх ста дваццаці лет запоўнена ўся безупынным смяротным змаганнем нашым за свой быт з прагавітай расейскай дзяржаўшчынай.

На дарозі да вызвалення нашага мы спатыкаем ворагаў ня толькі ў чыноўніцкай расейскай дзяржаўнасці, але і ў большай часці расейскага грамадзянства, каторае праз свае партіі, ня лічачы некаторых невялікіх левых груп, заўседы выступала проці нашага руху да волі. З гэтай прычыны мы не сумлеваемся і аб расейскім лібералізме, каторы кіруецца да таго, каб у свае рукі забраць уласнасць расля царскіх чыноўнікаў.

Да якой ступені цэнтралістычнаго аслеплення дайшла кіруючая часць расійскаго грамадзянства, могуць свядчыць хоць-бы галасы прэсы расейскай, каторая нават цяпер, калі нас ужо нарэшце асвабадзілі ад ярма царскай апекі, не забываецца пры кожным здарэнні адзначываць, што бытцам то Край наш ёсць і далей павінен аставацца расейскім – «істінно расійскім на векі».

Сеці інтрыг, разстаўленых заграніцай і ў нашым Краю у астатнія часы досі ахвочай і спрытнай рукою наймітаў расейскаго царату, не павінны нас ашукаць чы усыпіць нашу чуткосць.

Нашы надзеі на спаўненне жадання волі Краю нашага кіруецца цяпер у другую старану: да групіроўкі гасударств средне-еўрапейскіх. Мы верым, што пасля пабеды средне-еўрапейскіх гасударств быўшыя заходняя правінціі Расеі, а лепш зя ўсё землі польскія, літоўска-беларускія і надбалтыцкія павінны будуць адпасьць ад Расеі і стварыць гасударственныя адзінкі ў такой або сякой камбінацыі з средне-еўрапейскімі гасударствамі, а пры гэтым былі прыняты пад развагу эманцыпацыйныя дамаганьня гэтых зямель і запеўнены самочыннаго развіцця іх соціяльно-культурнаго і палітычнаго жыцця.

Гэткая можлівосць  карысна ня толькі для гэтых краёў, але карыстна і для средне-еўрапейскіх гасударств. Безспорна, гэтым апошнім важно ня толькі тое, каб Расея была аслаблена, але і тое, каб ад яе аддзяліцца мурам, каторы бараніў бы іх ад націску з усходу. Само сабой разумеецца, што хоць болей-меней дальновідная палітыка, якой можэм спадзевацца ад средне-еўрапейскіх гасударств, будзе вымагаць, каб Краі, каторыя будуць служыць за такі мур, ня толькі цягнуліся да Средняй Еўропы з прычын зверхных і мінаючых, але і былі зацікаўлены такой лучнасцю з прычын унутренных, пастаянных.

Ня думаем, каб цяпер ужо была пара прарочыць аб канкрэтных формах будучага укладу адносін средне-еўрапейскі гасударств, – пакуль аружжа ваюючых не сказало сваего астатняго станоўчаго слова. Усёж такі нам здаецца, што ўжо пара, каб заінтересованныя староны, а ў гэтым шчоце і наш край, высказалі публічна сваю волю і свае справедлівыя дамагання.

У мысль гэтага канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага жадаець:

абы землі літоўска-беларускія станавілі пры новым укладзе незалежную гасударственную адзінку з сеймам у Вільні, выбіраным на аснове агульных, роўных, простых і тайных выбароў, з забеспячэнем поўных правоў усім нацыям, каторыя жывуць на названых землях.

абы ў межах названых земель былі прінамсі землі, занятыя цяпер нямецкімі войскамі, значыцца: Ковенская і Віленская губерніі, беларуская і літоская часці Гродзенскай і Сувалскай губеніі, літоўскія часці Курландзкай губерні і часці губерніі

Мінскай, каторая звязана з Віленскім цэнтрам, – і абы усе гэтыя землі станавілі адно непадзельнае цэлае;

абы форма унутренаго ладу і аснауная констытуцыя будучай вольнай, літоўска-беларускай гасударственнай адзінкі не была накінута нам з верху, але была устаноўлены і зацвержона установучым сеймам в Вільні, выбраным агульнай, роўнай, простай і закрытай падачай галасоў.

Гэтыя аснаўныя нашы жадання, каторыя наш Край праз сведомыя грамадзкія організацыі высказываў у такой або сякой форме, у залежнасці ад варункаў моменту, адпаведаюць усім справедлівым вымаганням як шырэйшых кругоў грамадзянства нашаго, так і асобных народаў нашаго Краю.

Грамадзяне!

Момент, каторы пастановіць аб долі нашаго Краю, нашай супольнай Айчызны, набліжаецца шпаркіі крокамі. Будучына і дабрабыт Краю будзе ў значнай меры залежаць ад таго, якую пазіцыю мы займем. Будзьма-ж растаропнымі і дальнавіднымі, не падаваймося толькі ўчуццю, каторае нас часта ашуківае, але разважаймо аб долі нашай, долі цэлых будучых пакаленніоў халодным разумам, сягаючы далёка перад сабою.

Еднаймося навокол супольнага клічу, бо толькі у едносьці сіла. Кіньмо сваркі і звадкі, ад каторых церпіць увесь Край. Падумаймо разам ды шчыра аб долі гэтаго Краю, бо-ж усе мы апрача жмені прыблуд, сыны землі – нашай Літвы і Беларусі.

Не чэкаймо на тое толькі, што нехта для нас зробіць, не ашуківаймо сябе, а возьмемо сваю долю ў свае рукі: трывалым будзе толькі тое, што мы сваімі супольнымі сіламі адваюем, здабудзем і ўтрымаем.

Стойма, грамадзяне, моцна, цвёрда і ў згодзі бяз рожніцы станоў, нації і веры, пры штандары нашай вольнай бацькоўшчыны – Літвы і Беларусі!

Люты 1916 г.

Рада Конфедэрації Вялікаго Княжства Літоўскаго

**33. Рэферат Антона Луцкевіча для беларускай дэлегацыі на кангрэс нацый у Лазане (27–29 чэрвеня 1916 г.) з абгрунтаваннем ідэі стварэння Балтыйска-Чарнаморскага саюза. Чэрвень 1916 г.**

***Крыніца:*** *Рэферат Антона Луцкевіча аб Беларусах для дэлегацыі ў Лазану. Чэрвень 1916 г. // БАНЛ. Ф. 21. Спр. 276. Арк. 5–7 адв.*

Рэферат А. Луцкевіча

Ужо ў 1904-5 гадах на чысленных з'ездах, нарадах і мітынгах абгаворывалася пытанне, якой волі павінен дабівацца Беларускі край, і тут высоўваліся наперад думкі практычнага характару. Было прызнана, што на адных толькі нацыянальных асобенасцях, на адметнасці культуры народу нельга яшчэ будаваць гасударства: дзеля гэткай будоўлі трэба знайсці і другія асновы – эканамічныя і праўна-дзяржаўныя. Беларусь, акружаная расейцамі, украінцамі, літвінамі і палякамі, Беларусь, адрэзаная ад мора, з перарэзанымі адвечнымі тарговымі дарогамі да мора – рэкамі Нёманам, Дзвіной і Дняпром – гэткая Беларусь не магла бы лічыць на незалежнае эканамічнае развіццё, без каторага нельга і думаць аб папраўдзі вольным жыцці Краю. І вось, да старой формулы: «вызваленне Беларусі з-пад уціску расейскай дзержавы» – дадаецца новая формула, каторая гаворыць аб «вольнай Беларусі, як дэмакратычнай рэспубліцы, сфедэрованай з суседзямі».

Гэткая формула знайшла месцо ў новай праграмі зрэформованой «Беларускай Сацыялістычнай Грамады», шырока разыйшлася між грамадзянамі і вызвала ўсюды гарачы вотклік. Пачынаючы ад канца 1905 году, на гэткай жа платформі паўставалі новыя палітычныя партыі, саюзы і г.д., як «Сацыялдэмакратычная партыя Беларусі», «Беларускі Мужыцкі Саюз» «Саюз Беларускіх Народых Вучыцеляў», «Саюз Вучыцельскай Семінарыі», арганізацыі работнікаў, студэнцкай толадзі і т. д. У болей або меней выразнай формі гэта ідэя праводзілася і ў беларускай прэссі, каторую беларусы здабылі толькі пасля 1905 году. У мысль яе беларусы прынімалі гарачае учасціе ў саюзі і з'ездах аўтономістаў-федэратоў і т.п.

Вайна, аткрыта аб'яўленая беларусам пасля 1905 году з

аднаго боку аграмаднай большасцю расійскага грамадзянства, з другога – такой жа большасцю краёвых палякау памалу пачала адбівацца на аб'ёмі формулы федерацыі. Бачучы з усходу і заходу роўна сільны узрост нацыяналізму і агрэсіўнасці, беларусы, гаворучы аб федэрацыі з суседзямі, на першым плані пачалі стаўляць збліжэнне з тымі краямі і народам, з каторымі іх вяжуць больш моцныя звязі, чым прыпадковая прыналежнасць да аднаго гасударства, ды ад каторых беларусы не могуць спадзявацца агрэсіўнасці. Тут на першым плане стаялі літвіны.

З літвінамі беларусы былі заўсёды звязаны вельмі блізка. У аснові тэй блізкасці ляжыць колішняя супольная праца над будаваннем сваёй супольнай незалежнай дзержавы – Вялікага Княжства Літоўскаго, у каторай беларусы заўжды былі найвышэйшага культурнага расцвету. Такая праца, доўгае супольнае жыццё і змаганне за незалежны быт свайго гасударства, само сабой, збліжалі беларусаў з літвінамі як на культурным грунце, так і на грунце адзінакавых праўных норм, а да таго іх і цяпер злучае супольная гандлевая арганізацыя, супольны шырокі водны шлях – Нёман, каторы вядзе да мора, ды агульныя варункі эканамічнага жыцця. Доўгая няволя, каторая настала пасля ўпадку Вялікага Княжства Літоўскаго, прымушала здаўна беларусоў і літвіноў агледацца на сябе ўзаемна, каб разам бараніцца ад лішку вялікіх апетытаў заходніх і ўсходніх суседзяў. Урэшце, старая сталіца Гедыміна, Вільня, станавіла і становіць цэнтр культурнага жыцця абодвух народаў, цэнтр усялякіх грамадзкіх арганізацый і арганізацый эканамічных, каторыя абнімалі як беларускія, так і літоўскія землі.

Выхад да Балтыцкаго мора – гэта першы варунак для эканамічнага развіцця Беларусі. Але да гэтага мора, апрача Нёмана, вядуць чыгункі – да лібаўскаго порту і Рыгі, ды Дзвіна – да тэй жа Рыгі…

Апроч Балтыцкаго мора, Беларусь сваімі эканамічнымі інтарэсамі звязана і з Чорным Морам. Яе звязывае з палуднем Днепр і прытокі яго: Бярэзіна, Сож, Прыпяць, каторыя глыбока ўрэзаюцца ў Беларускія землі. Ужо адна гэта прычына павіна была бы прымусіць беларусоў шукаць апору і саюзу з украінцамі, калі б не было другіх вельмі важных прычын для беларуска-украінскай еднасці. Гэтыя прычыны – адвечныя супольныя гісторычныя традыцыі і успаміны, блізкасць культур і моў, а ўрэшці – доўгая гранічная лінія, на каторай беларусы стыкаюца

з украінцамі і каторая, ідучы ад Брянска ажно пад Польшчу, становіць трэцюю часць з усіх меж Беларускай зямлі.

Так звязываецца Беларусь з Літвой, Латышскім краем і Украінай, і лучнаць з імі на грунці федэрацыі пры больш цесным зближэнні з Літвой – гэта ідэя, каторая ў болей або меней поўнай і выразнай формі зрабілася самай папулярнай, зрабілася як-бы нацыянальным ідэалам для беларускага свядомага грамадзянства. Спаўненне яго магло бы ў найбольш поўнай меры забяспечыць беларускамі народу свабоду ўсестаронняга развіцця і праўдзівую волю.

Вольная Беларусь у федэрацыі з вольнымі суседнімі народамі, свайго роду «Злучэныя Штаты» ад Балтыцкага да Чорнага мора – гэта найшырэйшы, найдалейшы палітычны ідэал, на каторым зыходзяцца беларусы ўсіх партый, усіх палітычных кірункаў.

Само сабой разумеецца, што нельга ашукваць сябе надзеямі на лёгкае спаўнене гэтаго ідэалу. Калі б на яго выявілі згоду суседзі беларусоў, дык і так спаўненне яго мела-бы шансы толькі пры адным варунку: пры поўным развале расійскай гасударственнай сістэмы.

У гэты момант пад уціскам немцаў знаходзіцца толькі часць Беларусі: Гродзеншчына, часць Віленскай і край Мінскай губерні. Гэтыя землі найцясней – і эканамічна, і культурна, і палітычна – звязаны з Вільняй і Балтыцкі морам, – значыць, у першы чарод з этнаграфічнай Літвой. На гэтым грунці беларусы і літвіны ўжо згаварыліся аб супольнай палітычнай платформе, каторая выстаўлена Конфедэрацыяй Вялікага Княжства Літоўскаго. «Універсал» Конфедэрацыі даслоўна гаворыць: «Лета 1915, месяца грудня 19 дня члены літоўскіх, беларускіх, польскіх і жыдоўскіх арганізацый прыступілі да конфедэрацыі Вялікаго Княжства Літоўскаго, дабіваючыся супольнымі сіламі, абы Літоўскія і Беларускія землі, каторыя здаўна прыналежалі да Вялікаго Княжства Літоўскаго...»

Само сабой разумеецца, што гэты літоўска-беларускі саюз не выключае злучэння ў адзін арганізм окупіраваных Беларуска-Літоўскіх зямель з Латышскім краем. Наадварот: у гэтым кірунку беларускае і літоўскае грамадзянства зыходзіцца зусім і роўна горача жадаюць еднасці з Латышамі.

Чэрвень 1916 г. Рэферат Антона Луцкевіча аб Беларусах для дэлегацыі ў Лазану.

### 34. З мемарыяла групы краёўцаў (1917 г.), устрывожаных анэксіяніcцкімі намерамі Германіі адносна Літвы

***Крыніца:*** *Memoriał, złożony przez grupa działaczy litewskich J. E. Panu Prezesowi Ministrów [1917] // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 828. 2 л.*

Літва з'яўляецца прадметам спрэчкі паміж Польшчай і Расіяй. ... Калі ў Польскім каралеўстве ў 1905–1906 г. стала папулярнай праграма аўтаноміі, то ў Літве і Русі сярод мясцовых палякаў паўстала так званая краёвая праграма, якая засноўваецца на адмаўленні польскіх палітычных жаданняў адносна Літвы. ...

Канцэпцыя, згодна якой Вялікае Княства Літоўскае ўяўляе самастойную цэласнасць і павінна быць асобнай дзяржавай, з'яўляецца якраз тады, калі ў Германіі распаўсюджваецца праект стварэння ўяўна самастойнага Княства Літоўскага, як формы замаскіраванай анэксіі. Княства гэта можа быць звязана з Германіяй. ... Гэта можа прывесці да германізацыі ліцвінаў праз нямецкую каланізацыю.

...

Літва, звязаная рэальнай уніяй з Германіяй, можа быць адарвана ад яе толькі ў выпадку палітычнай катастрофы Германіі. ... Сярод немцаў няма адзінства поглядаў на літоўскае пытанне. Гіндэнбург і Людэндорф жадаюць Княства Літоўскага як замаскіраванай анэксіі. ... Гараскопы нашага паразумення з літвінамі сёння ніякія. ... Літвіны складаюць меншасць у гістарычнай Літве, ... дзейнічаюць насуперак інтарэсам большасці насельнцтва Літвы.

З пункту погляду геаграфічнага (эканамічнага і гаспадарчага) мы павінны патрабаваць Мінскую і Валынскую губерні, а таксама Вільню.

## 35. Антон Луцкевіч. Мемарандум канцлеру Германіі. Сакавік 1917 г.

***Крыніца:*** *Его Эксцеллянции господину Имперскому Канцеляру. 1917 г. // БАНЛ. Ф. 21. Арк. 1–12.*

Его Эксцеллянции господину Имперскому Канцеляру

В настоящее время, когда каждый день приближает развязку великой европейской войны, вопрос о будущем белорусских земель, занятых немецкими войсками, становится все более актуальным и глубоко волнует население Белоруссии. Принимая во внимание, что актом 5 ноября 1916 года среднеевропейские державы на деле доказали свое признание принципа освобождения малых наций и восстановление разрушенных государственных организаций…

Гинденбургом, в бытность его главнокомандующим на Востоке, были признаны в полном объеме права белорусов, как особой национальности, – белорусы полагают, что имеют достаточные основания подняться на осуществление центральными державами их национального идеала, и поэтому я, в качестве доверенного лица объединенных общими для всех политическими стремлениями белорусских общественных организаций по эту сторону военного фронта имею честь обратиться к Вашей Эксцелленции с изложением господствующих среди белорусского общества пожеланий и взглядов на устройство дальнейшего существования оккупированных Белорусских земель.

…во время своей принадлежности к Польше, … и под властью России белорусы подвергались насильственной денационализации, народы белорусские при сем на указанном пространстве сохранили свою национальность, свой язык и память о независимом государственном существовании в прошлом. И когда XIX столетие принесло – наряду с другими – и белорусское национальное возрождение, оно оказалось объединенным и с широким политическим идеалом, в своей высшей форме выражающимся в достижении политической независимости всей этнографически белорусской территории.

Свой идеал освобождения от политической зависимости белорусы уже прокламировали на съездах угнетенных народов России в Стокгольме и Лозанне.

Однако, принимая во внимание, что в настоящий момент от власти России освобождена лишь незначительная часть Белоруссии, что большая часть последней все еще остается в пределах российской империи и могла бы стать предметом суждения других держав лишь в случае полного разгрома России, … белорусское организованное общество вполне осознает невозможность найти сейчас одно разрешение белорусского вопроса в полном объеме. И оно разделяет его на две части.

В отношении подъяремной Белоруссии белорусское общество может лишь просить центральные державы, на основании признания национальных прав белорусского народа, оказать возможное содействие, чтобы права эти были признаны и обеспечены Россией.

Мы не обманываем себя надеждой на реальное значение этого пожелания: вопрос о достижении национальных прав в пределах Российской Империи – это вопрос внутренней услуги России и может быть разрешен только путем борьбы белорусского народа за свое право с нарушителями этого права.

…

Единственными носителями идеи объединения земель Великого Княжества литовского с Польшей являются в нашем крае лишь руководящие круги местной польской земельной буржуазии и мещанства.

… Несмотря на то, что подавляющее большинство населения Белоруссии и Литвы стремится издавна к независимости существований этих земель, местные поляки, игнорируя голос народа, ведут совершенно ясную акцию в целях уже не восстановления унии Вел. Кн. Литовского с Польшей, а просто аннексии Белорусско-Литовских земель к Королевству Польскому. Для создания видимости тяготения нашего края к Польше, они искусственно придают ему польские внешние черты.

…

Белорусы отдают себе полный отчет в том, что жизненные интересы их края заставляют их стремиться к единению не с востком, а с западом. Только входя в западно-европейскую экономическую систему, Белоруссия может рассчитывать на быстрое экономическое развитие свое, так долго задерживавшееся вследствие политики России, которая

стремилась к подавлению «окраин» ради обеспечения развития центра. В этом видят гарантию улучшения своего материального и правового положения белорусские рабочие и крестьянские массы. А тот факт, что белорусы впервые получили признание своих национальных прав от немецких властей, будет служить лишним фактором, связывающим наш край с центральными державами. Однако, это тяготение к западу не мирится с разрешением вопроса об оккупированной Белоруссии на почве аннексии ее Пруссией или Германской империей по нижеследующим соображениям.

Во-первых, аннексия Белорусских земель противоречит в принципе идее освобождения угнетенных народов. …только обеспечение белорусам оккупированных земель высшей формы свободы может раз навсегда уничтожить здесь почву для российских махинаций.

Во-вторых, белорусский край, разоренный разыгравшимися на его территории военными событиями, за время оккупации несет чрезвычайно тяжелые экономические тяготы. По окончании войны его экономическое положение будет таково, что потребуется крайнее напряжение всех платежных сил населения, чтобы восстановить нормальную жизнь и дать толчок для дальнейшего развития его экономической жизни. Поэтому белорусы понимают, что присоединение их края к той или другой из возможных сторон – назад к России или к Германии, – будет иметь своими последствиями еще и возложение на него совершенно непроизводительного податного бремени ради покрытия военных расходов, единственной формой своего политического существования, обеспечивающего возможность хозяйственно-экономического прогресса считают политическую независимость.

Наконец, вопрос о судьбе оккупированной Белоруссии настолько тесно связан с вопросом о будущем устройстве Литвы, что невозможно решать одного из них независимо от другого: обе земли представляют сложившийся вследствие географических и исторических условий цельный хозяйственно-экономический и социальный организм, которого делить нет возможности, не нарушив жизненных интересов обеих коренных народностей его.

Государственная жизнь белорусского народа в далеком прошлом создавалась и развивалась в тесном единении с

литовцами, причем, ядром, из которого выросло Великое Княжество Литовское, являются почти как раз Белорусско-Литовские земли настоящей немецкой оккупации. И хотя в самом начале своем единение это опиралось на литовских завоеваниях, однако в дальнейшем сожительстве литовцы совершенно не посягали на национальность белорусов. Наоборот, в независимом Велк. Княж. Лит. белорусский язык стал языком государственным, и к «Литовскому» периоду относится наивысший расцвет старой белорусской цивилизации, белорусской письменности и т.д.

…

И само Вильно, расположенное в области соприкосновения белорусов и литовцев, объединяло и сейчас объединяет оба народа: это – самый крупный культурный центр края; здесь создаются и развиваются большинство белорусских и литовских национальных учреждений… И если белорусы считают Вильно своей столицей, то литовцы не могут себе представить Литву без Вильна. … Наконец, белорусы и литовцы, как близкие друг другу по своей социальной структуре (оба по преимуществу крестьянские народы), имели и имеют одинаковых врагов как в лице русских властей с их обрусительной политикой, так и в лице польской земельной буржуазии, стремящейся к полонизации народных масс, – и эта общая борьба на два фронта с теми же противниками составляет еще одно звено в длиной цепи, связующей Белорусско-Литовский край в один организм.

На основании изложенного, белорусы во всех своих выступлениях (политических изданиях, партийных резолюциях, декларациях съездов и т. п.) в тот период, когда белорусский вопрос предполагалось разрешить еще в пределах России, выставляли требование общей автономии Белоруссии и Литвы в пределах бывшего Вел. Кн. Литовского. … А вслед за уходом русских войск в изданиях «Конфедерации Вел. Кн. Литовского» мы читаем о стремлении как белорусов, так и литовцев к частичному реституированию бывшего Белорусско-Литовского государства в пределах немецкой оккупации.

Сознавая, какое значение для хотя бы частично реституированого великого Княжества литовского должен иметь свободный выход к морю, белорусы свою политическую

концепцию дополняют объединением Белорусской и Литовской территорий с Курляндией.

…

Таким образом, политические стремления белорусов в пределах оккупации сводятся к следующей формуле: создание из трех объединенных областей – Белоруссии, Литвы и Курляндии, занятых немецкими войсками, независимой государственной организации, на федеральных началах – с тем, чтобы эта новая политическая единица была объединена со средне-европейской системой государств.

## 36. Праекты адраджэння ВКЛ пачатку XIX і пачатку XX ст.: агульнае і адметнае (параўнальны аналіз) *

| *Крытэрыі для параўнання* | *Характарыстыка эпохі пачатку XIX ст. і яе важнейшага праекта* | *Характарыстыка эпохі пачатку XX ст. і яе важнейшага праекта* |
|---|---|---|
| | *Агульнае* | |
| | *Адметнае* | *Адметнае* |
| **Час** | **1805–1815 гг.** (ад вынасу пытання А. Чартарыйскім на дзяржаўны ўзровень (1805) да адмовы Аляксандра I ад яго разгляду пасля Венскага кангрэса ) | **1915–1918 гг.** (ад стварэння арганізацыі «Канфедэрацыя ВКЛ» да пераходу ВКЛ з утварэннем Літвой і Беларуссю ўласных дзяржаў з разраду будучыні (мэта, мара, форма эвентуальнай дзяржавы) у разрад гісторыі) |
| | Падабенства міжнароднай сітуацыяй і вастрынёй пастаноўкі дзяржаўна-нацыянальных пытанняў.<br>Дасягала апагею «канцэнтрацыя» на адзінку часу праектаў; мысліцеляў і палітыкаў, у іх задзейнічаных.<br>Меў месца высокі палітычны ўзровень іх абмеркавання і настойлівасць дамаганняў па ўвасабленню ў жыццё.<br>На кожны з перыядаў прыходзіцца па шэрагу праектаў (першы – 10, другі – 9), з якіх адзін (храналагічна апошні) у кожным перыядзе быў рэалізаваны. | |
| **Праекты** | 1) «Пулаўскі» план А. Чартарыйскага (1805–1810.)<br>2) «Мемарыял аб уладкаванні Літвы» С. Нямцэвіча, уручаны ў 1806 г. А. Чартарыйскаму<br>3) «Мемарыял» (план паўстання) і праект арганізацыі ВКЛ, прапанаваныя А. Сапегай Напалеону (вясна 1807.)<br>4) План паўстання ў заходніх губернях (Ю. Серакоўскі, чэрвень 1907 г.), прапанаваны ў Тыльзіце Напалеону<br>5) Ваенна-палітычны праект А. Г. Радзівіла, прапанаваны Аляксандру I (1807)<br>6) Урадавы праект «літоўскай аўтаноміі» («Запіска аб уладкаванні польскіх губерняў» М. Сперанскага, 1811)<br>7) «Пісьмо Э. Тышынскага аб утварэнні асобага княства Літоўскага» (чэрвень 1811)<br>8) Праект групы М.К. Агінскага ВКЛ (вясна 1811 – пачатак 1812)<br>9) Мемарыял «Аб спосабах пазбаўлення Еўропы ад уплыву Расіі, а дзякуючы гэтаму – і ад уплыву Англіі» М. Сакальніцкага (люты 1812)<br>10) «Французскі варыянт» ВКЛ | 1) Праект-канцэпцыя Канфедэрацыі ВКЛ (канец 1915 – першая палова 1916)<br>2) Ковенскі праект ВКЛ з дзвюма аўтаномнымі тэрыторыямі (Літва і Латвія) і правам Беларусі далучыцца па правах трэцяй аўтаноміі (пачатак 1916)<br>3) Праект Злучаных Штатаў Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны (Балтыйска-Чарнаморскага саюза), абгрунтаваны ў чэрвені 1916 г. А. Луцкевічам<br>4) Літоўска-беларуская палітычная платформа для нямецкіх уладаў (студзень 1917)<br>5) Мемарандум канцлеру Германіі (А. Луцкевіч, сакавік 1917)<br>6) «Праект Е. Чапскага» (кастрычнік-лістапад 1918)<br>7) Краёвая канцэпцыя дзяржаўнага уладкавання народаў былога ВКЛ (К. Шафнагель, М. Ромер і інш.)<br>8) Варыянты дзяржаўнасці гістарычнай Літвы, разгляданыя ў 1916–1918 г. Берлінам (ВКЛ, Літоўскае каралеўства)<br>9) Беларуская аўтаномія і МБС у Літоўскай Рэспубліцы (з лістапада 1918; рэалізаваны) |

* *Распрацоўка аўтара*

| | | |
|---|---|---|
| | (ліпень – снежань 1812; рэалізаваны) | |
| **Праекты** | **План М. К. Агінскага (1811 г.)** | **Праект канфедэрацыі ВКЛ (канец 1915 – пачатак 1916 г.)** |
| **Прычына з'яўлення** | Пошук правапераемнікамі ВКЛ дзяржаўнага самавызначэння ў час | |
| | калі дзяржава нядаўна была страчана | незадоўга да стварэння дзяржавы |
| **Сацыяльная база** | Палітыкі былога ВКЛ, магнаты, шляхта, каталіцкае і ўніяцкае духавенства, студэнцкая моладзь (першыя пакаленні спадчыннікаў ВКЛ). | Лідары і ідэолагі беларускага нацыянальнага руху, беларуская інтэлігенцыя каталіцкага веравызнання з дробнай і сярэдняй шляхты, пераважна з заходняй Беларусі і Віленшчыны (пятае – шостае пакаленні спадкаёмцаў ВКЛ). |
| | Вялікія пласты насельніцтва засталіся індыферэнтнымі, а некаторыя (праваслаўнае духавенства, рускія чыноўнікі і арыентаваная на Расію мясцовая інтэлігенцыя, галоўным чынам, усходу Беларусі) вяртанне мінулага яшчэ і баяліся. | |
| **Унутраныя абставіны распрацоўкі праектаў** | Перажыванне сацыякультурнай траўмы і настальгія аб мінулым.<br>Жаданне мець уласную дзяржаву і звязаныя з гэтым прагматычныя інтарэсы – сацыяльныя, эканамічныя, палітычныя, нацыянальныя і інш.<br>Наяўнасць лідараў, якія распрацоўвалі планы, і прыхільнікаў, гатовых узяцца за іх ажыццяўленне.<br>Меў месца перанос мінуўшчыны ў будучыню: разуменне неабходнасці змагацца за дзяржаву, якая загінула, каб яна дала магчымасці для будучага развіцця. | |
| | Больш моцныя перажыванне сацыякультурнай траўмы і гістарычная настальгія; яшчэ не згасла традыцыя незалежнасці і асабістага гонару за сваё ВКЛ-аўскае грамадзянства. | Традыцыя незалежнасці і асабістага гонару за свае грамадзянства ВКЛ была абарвана рэпрэсіямі супраць тых, хто адстойваў яе у паўстанні 1863 г., і прызнаннем пасляпаўстанцкім пакаленнем свайго расійскага грамадзянства. |
| **Знешнія абставіны распрацоўкі праектаў** | Рэальныя магчымасці адраджэння ВКЛ ўзнікалі тады, калі «літоўскае» пытанне з унутранай справы яго спадчыннікаў і ўнутранага пытання Расійскай імперыі набывала міжнародны статус.<br>Штуршком для распрацоўкі праектаў стала змена геапалітычнай сітуацыі ў Еўропе і рэгіёне.<br>Праект М. К. Агінскага быў распрацаваны напярэдадні вайны, праект Канфедэрацыі ВКЛ – калі вайна ўжо ішла. | |
| | Адраджэнскія памкненні мясцовай шляхты падтрымлівалі Англія, Францыя, Турцыя.<br>Саперніцтва Напалеона і Аляксандра I за беларускую і літоўскую шляхту павялічвала шанцы напярэдадні франка-рускай вайны.<br>Іншых варыянтаў, акрамя вяртання ранейшай дзяржаўасці, не разглядалася. | Спрыяльныя магчымасці для самавызначэння адкрывала падзенне царызму. |

| | | |
|---|---|---|
| **Адносіны да знешніх сіл** | Мясцовыя дзяржаватворчыя сілы выкарыстоўвалі міжнародныя калізіі, якія абрынуліся на Расійскую імперыю, для пастаноўкі пытання аб вяртанні ВКЛ.<br>Мела месца арыентацыя на знешнюю палітычную сілу, якая, здавалася, падавала найбольшыя надзеі на ўваскрашэнне ВКЛ. Аўтары праектаў намагаліся даказаць адпаведна Расіі, Францыі або Германіі, што аднаўленне ВКЛ будзе выгадна для гэтай краіны і для Еўропы ў цэлым. Пры гэтым мелі месца рознанакіраваныя арыентацыі. | |
| | Група М. К. Агінскага ўзяла курс на Расію, другія зрабілі стаўку на Напалеона. | Беларускія дзеячы Вільні ўбачылі рэальную сілу, здольную паспрыяць адраджэнню ВКЛ, у Германіі. У Вільні і Мінску ўзніклі розныя праекты іх дзяржаўнага ўладкавання – падзел Беларусі нямецкай зонай акупацыі на дзве часткі ўскладняў мясцовым палітыкам пошукі шляхоў дзяржаўнага самавызначэння. |
| **Месца, якое адводзілася беларускім землям ВКЛ у геапалітыцы імперый** | Дзяржавы-агрэсары (Францыя, Германія), зацікаўленыя ў лаяльнасці мясцовага насельніцтва, «прыбіраліся ў тогу» вызваліцеляў народаў былога ВКЛ, падагравалі іх адраджэнскія настроі. Яны маглі пайсці на стварэнне на гэтых землях залежнай ад сябе буфернай квазі-дзяржавы. Але не былі зацікаўлены ў адраджэнні буйнай дзяржавы, якая магла з часам выйсці з-пад іх кантролю. Абяцаючы ліцвінам адрадзіць ВКЛ, Напалеон, кайзер Вільгельм, як і Аляксандр I вялі двайную гульню.<br>Змена геапалітычнай сітуацыі, з аднаго боку, стымулявала распрацоўку мясцовымі палітыкамі смелых праектаў, але, з другога, абмяжоўвала іх магчымасці дзяржаватварэння, бо краіны, ад якіх залежала адраджэнне ВКЛ, зыходзілі са сваіх ваенна-стратэгічных мэтаў і прагматычных інтарэсаў.<br>Францыя, Германія, як і Расія праводзілі на беларуска-літоўскіх землях палітыку абмежавання празмернага ўмацавання Польшчы, і не пайшлі на іх аб'яднанне з Польшчай у адну дзяржаву.<br>Для Расіі ў эпоху напалеонаўскіх войнаў і ў Першую сусветную вайну Беларусь была стратэгічным плацдармам для наступлення і абароны сваіх тэрыторый. | |
| | | Рэйх не праяўляў цікавасці да беларускіх праектаў, бо лічыў Беларусь часткай Расіі, беларускі нацыянальны рух – рухам адзінак у Вільні, а беларускае пытанне – зусім нязначным і не вартым увагі. |
| | **Змест праектаў** | |
| ***Назва дзяржавы*** | Вялікае Княства Літоўскае | |
| ***Сталіца*** | Вільня | |
| ***Характар узаемаадносін з Расіяй*** | Злучэнне або ўключэнне ВКЛ у склад Расійскай імперыі.<br>Негатыўныя адносіны да праектаў выхаду са складу імперыі расійскай эліты. | Разрыў палітычных сувязяў з Расіяй (незалежна ад яе ладу) і збліжэнне з цэнтральнаеўрапейскімі дзяржавамі.<br>Вызначальны ўплыў і ўздзеянне расійскіх партый ў прыфрантавой Беларусі на ход і вынікі палітычнай барацьбы па пытаннях нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў краі |
| ***Тэрыторыя*** | ВКЛ складалася з васьмі губерняў: Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай і Валынскай | ВКЛ ствралася на занятых нямецкімі войскамі тэрыторыях Літвы, Беларусі (заходняй) і Курляндыі. Гэта губерні Віленская, Ковенская, |

| | | |
|---|---|---|
| | разам з акругамі Беластоцкай і Тарнопальскай. | Гродзенская, частка Мінскай, Сувалкаўская, частка Курляндскай. Тэрыторыя мела плошчу 112 тыс. кв. км, сваімі межамі і абрысамі нагадвала ВКЛ 1793–1795 г. Не перакрэсліваліся магчымасць пашырэння новай дзяржавы на ўсход. |
| ***Насельніцтва*** | 8 млн чалавек | 3 млн чалавек, з якіх амаль палову (каля 1,5 млн) складалі беларусы |
| ***Дзяржаўны лад*** | Манархія | Дэмакратычная рэспубліка |
| ***Органы ўлады і кіравання*** | На чале ВКЛ – імператарскі намеснік. Пры ім – Адміністрацыйная рада кіравання (складалася з дэпартаментаў). Уласны Сенат і Вярхоўны трыбунал. Пасады ў дзяржаўным кіраванні замяшчаюцца толькі ўраджэнцамі ВКЛ. У Пецярбургу для кіравання справамі ВКЛ ствараецца Літоўская канцылярыя. | Вышэйшы орган улады – сейм, выбіраны на аснове агульных, роўных, простых і тайных выбараў. |
| ***Заканадаўства*** | Статут ВКЛ, адрэдагаваны і адаптаваны да расійскага заканадаўства. | |
| ***Нацыянальнае пытанне*** | Мова справаводства – польская. | Роўныя правы ўсім нацыям. |
| ***Этнанацыянальны аспект праектаў*** | Праекты – вынік усведамлення адметнасці Беларусі і Літвы ад Польшчы. | |
| | ВКЛ меркавалася адрадзіць як асобную дзяржаву (з усімі яе атрыбутамі), аднак у федэратыўнай сувязі з Польшчай у складзе Рэчы Паспалітай. | Унія з Польшчай не разглядалася.<br>Праект 1915–1916 гг. – 1) праява беларускага «інтэрнацыяналізму» (літоўцы стаялі за монанацыянальную літоўскую дзяржаву, а беларусы трымаліся за традыцыю поліэтнічнага ВКЛ); 2) выяўленне беларускай нацыянальна-дзяржаўнай ідэі (планавалася поліэтнічная дзяржава з дамінацыяй беларускага этнасу). |
| ***Характар узаемаадносінаў паміж народамі-спадкаёмцамі ВКЛ*** | Адзінства дзеянняў спадкаемцаў Рэчы Паспалітай і ВКЛ пры наяўнасці пэўнага «літоўскага сепаратызму». | Разыходжанне інтарэсаў спадкаемцаў ВКЛ і канкурэнцыя за яго спадчыну (тэрыторыя, сталіца), тэрытарыяльныя і нацыянальныя прэтэнзіі былых саюзнікаў па ВКЛ да Беларусі, якія ўяўлялі ці не большую пагрозу, чым Германія і Расія. |
| **Ступень рэалізацыі праектаў** | Рэальна вярнуць да жыцця дзяржаву ВКЛ удалося толькі аднойчы і толькі на некалькі месяцаў 1812 г. Але гэта ажыццявілі не самі ліцвіны, але Напалеон разыграў «літоўскую» карту ў сваёй геапалітычнай «гульні». | Бачнасць пачатку адбудовы ВКЛ у канцы 1918 г. стварыла дзейнасць МБС ва ўрадзе Рэспублікі Літва і ўваходжанне ў яе склад Гродзенскай губерні. Гэта быў хутчэй тактычны крок, праз які літоўцы і беларусы спрабавалі вырашыць свае палітычныя мэты без эскалацыі канфлікту. |
| | У абодвух выпадках гэта было толькі ілюзіяй адраджэння ВКЛ. | |
| **Прычыны няўдачы праектаў** | Агульныя прычыны:<br>1). Эліта, прыхільная да вяртання гістарычнай дзяржаўнасці, не змагла кансалідаваць вакол гэтай ідэі большасць народа. Не было адзінства ў | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | асяроддзі самой эліты.<br>2). Абумоўленая слабасцю ўнутрнанага патэнцыялу арыентацыя на замежныя сілы, якія мелі ў Беларусі ўласныя геапалітычныя інтарэсы і доўга тут не затрымліваліся (напалеонаўская Францыя, кайзераўская Германія).<br>3). Негатыўныя адносіны да праектаў адбудовы ВКЛ расійскага грамадства, якое бачыла ў іх пагрозу цэласнасці імперыі.<br>4). Фатальнае геаграфічнае размяшчэнне Беларусі паміж магутнымі імперыямі. | | |
| | | | Адметныя прычыны:<br>1). Неўлік досведу папярэднікаў – стратэгія і тактыка не зведала прынцыповых зменаў.<br>2). Рашаючую ролю адыграла разыходжанне інтарэсаў былых саюзнікаў па ВКЛ і канкурэнцыя за яго спадчыну.<br>У 1917–1918 гг. быў аддадзены прыярытэт сацыяльным інтарэсам над нацыянальна-дзяржаўнымі. |
| **Тэрмін, праз які намер вярнуць ВКЛ з’яўляецца зноў** | Праз 15–20 гадоў | | |
| | Узнята паўстанне ў 1830 г. | | Пытанне аб працягу дзяржаўнай традыцыі ВКЛ было ўзнята зноў у 1939 г., калі ў Маскве вырашалася пытанне аб прыналежнасці Вільні і Віленскага края. |
| **ВЫСНОВЫ** | **Агульнае:** назва дзяржавы, сталіца, сейм, уласныя органы ўлады і кіравання, свая армія. | | |
| | **Адметнае:** тэрыторыя, колькасць насельніцтва, дзяржаўны лад, знешнепалітычная арыентацыя. | | |
| | **План М. К. Агінскага** | | **Праект канфедэрацыі ВКЛ** |
| | Уся Беларусь, Літва, цэнтральная і заходняя Украіна | *Тэрыторыя* | Заходняя Беларусь, Літва, частка Латвіі |
| | 8 млн | *Насельніцтва* | 3 млн |
| | Манархія | *Дзяржаўны лад* | Рэспубліка |
| | Саюз або аўтаномія ў складзе Расійскай імперыі | *Знешнепалітычная арыентацыя* | Разрыў палітычных сувязяў з Расіяй і збліжэнне з Германіяй |

## 37. Запіска Людвіка Абрамовіча «Польшча і Літва» (1917 г.) адносна пытання гістарычнай Літвы ў сувязі з польскай дзяржаўнасцю

***Крыніца:*** *Abramowicz Ludwik. Polska a Litwa [1917] // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 767. 5 арк.*

Прызнанне гістарычнай Літвы як непадзельнай цэласнасці павінна быць асновай польскай палітычнай думкі.

Гэта не значыць, што межы гістарычнай Літвы павінны разглядацца як нешта непарушнае ад часу заняпаду Рэчы Паспалітай. Прайшоўшыя сто гадоў расійскага панавання ўнеслі значныя змены на тэрыторыі В. Кн. Літоўскага, заціраючы, у прыватнасці, сярод люднасці на ўсходніх крэсах пачуццё нацыянальнай і дзяржаўнай адметнасці. Большая частка гэтай тэрыторыі разам з былымі польскімі Інфлянтамі да гэтага часу ўяўляе адметную цэласнасць з выразнымі слядамі супольнай, але незалежнай дзяржаўнасці, сімвалам і трывалым помнікам якой у свядомасці насельніцтва да гэтага часу застаецца Вільня, як сталіца краю. …

Пытанне дзяржаўнасці Літвы мела бы падпарадкаванае значэнне, калі б былі віды на адбудову пасля вайны польскай дзяржавы ў гістарычных межах. Тады бы адносіны Польшчы да Літвы былі ўнутранай справай і не вымагалі бы аднаўлення заміраючых традыцый В. Кн. Літоўскага. Аднак … аптымізм не дазваляе жывіць надзею, што цэнтральныя дзяржавы, а тым больш еўрапейскі кангрэс хацелі бы рэстытуяваць польскую дзяржаву аж да Дзвіны. …

Падзел гістарычнай Літвы, а дакладней той яе часткі, якая застанецца адарванай ад Расіі, паміж Германіяй і Польшчай, – на гэта ў нас глядзяць неахвотна. Насупраць, вельмі распаўсюджаны погляд, што этнаграфічная Літва дастaвіць Польшчы толькі клопат і нават лепей, калі яе забярэ Германія, тады як Беларусь з’яўляецца выдатнай тэрыторыяй для польскай каланізацыі, паколькі польскі элемент там нашмат лічнейшы і мае вялікія ўплывы. Памятаючы ўжо цяжкасці дакладнага размежавання ўласна Літвы і Беларусі з пункту погляду на значэнне абсягу тэрыторыі мяшанага насельніцтва і з пункту погляду пытання Вільні, якая з’яўляецца сталіцай абедзвюх

гэтых раёнаў, вышэй выкладзены погляд не вытрымлівае крытыкі з пункту погляду статыстычных дадзеных.

Дапусцім … Польшча атрымае частку Беларусі, яе асімілюе і каланізуе. Польскі этнаграфічны абшар тады павялічыцца на некалькі тысяч кв. км і пару мільёнаў галоў. Але … Польшча не зможа канкурыраваць з двума магутнымі суседзямі: Расіяй і Германіяй. Германія, захапіўшы Літву і Курляндыю, будзе іх каланізаваць і германізаваць. Расія, асцерагаючыся польскіх уплываў, прыступіць да энергічнай русіфікацыі засталай у яе валоданні ўсходняй Беларусі... . Польшча акажацца тады заціснутай паміж прускім мурам на поўначы і не менш цвёрдай вялікарасійскай сцяной на ўсходзе.

Іначай справа выглядае, калі Літва і Беларусь, гэта значыць былое В. Кн. Літоўскае (хоць значна зменшанае) разам з Курляндыяй будзе ўяўляць сабой пэўную тэрытарыяльную цэласнасць у дзяржаўнай сувязі з Польшчай. Мала верагодна, што гэта можа быць ажыццёўлена ў выніку цяперашняй вайны. Але ў далейшай будучыні ўсё можа адбыцца, аднак пры ўмове, што Літва не будзе разарваная, у прыватнасці, што палякі не прыкладуць да гэтага руку.

Мы павінны заняць пазіцыю выразную і паслядоўную: калі жадаем для Польшчы самастойнага палітычнага быту, не можам выкарыстоўваць іншыя меры адносна Літвы і Беларусі. Гэта таму, што ў нашым разуменні польскі народ стаіць на ўзроўні еўрапейскіх народаў, а ў адносінах да ліцвінаў і беларусаў маем сур’ёзны сумнеў, ці трэба іх лічыць нацыямі ці толькі народамі. …

Працягванне Польшчай рук да заходняй Беларусі сустрэнецца з гучным пратэстам прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху, працягванне да Вільні выкліча крык на ўсю Еўропу з боку ліцвінаў.

Для нас ёсць толькі адзін шлях: прызнанне і гучнае абвяшчэнне В. Кс. Літоўскага, як гістарычнага дзяржаўнага фарміравання. Праўда, ужо слабыя традыцыя гэтай дзяржаўнасці, але цалкам не згаслі. На працягу вайны нават абудзіліся незалежніцкім памкненні ў розумах палітычных лідараў, літоўскіх і беларускіх, якія да гэтага задавольваліся ідэалам аўтаноміі ў Расійскай дзяржаве. У пачатку года ў Вільні была выдадзена друкам на польскай, літоўскай, беларускай і

яўрэйскай мовах наступная дэкларацыя, якая была вынікам паразумення мясцовых палітычных партый. *

У дзяржаўным польскім інтарэсе ляжыць як найгарачэйшая падтрымка пажаданняў, выказаных у гэтым Універсале. Цяжка праўда ўводзіць сябе ў зман, што эквівалентна з польскай дзяржавай паўстала бы незалежная літоўска-беларуская дзяржава. ... Для нас найважнейшая справа – недапушчэнне анэксіі этнаграфічнай Літвы Германіяй... . Мы глыбока перакананы, што ў аддаленай або бліжэйшай будучыні можа наступіць аднаўленне уніі паміж Польшчай і гэтым няздольным да самастойнага дзяржаўнага існавання літоўска-беларуска-латышскім арганізмам.

Дзеля гэтага трэба, ... каб пагадзіліся паміж сабой літвіны і беларусы, верагодна, латышы, ... якія сёння ў асобах сваіх лепшых прадстаўнікоў выношваюць праекты польска-літоўска-балтыйскай федэратыўнай дзяржавы. ... Хто ведае, ці не атрымаецца стварыць з гістарычнай Літвы якойсьці буфернай дзяржаўкі пад скіпетрам некага з Гагенцолернаў? Любое рашэнне будзе лепшым за яе падзел і анэксію Германіяй Жмудзі і Курляндыі.

... Ягелонская ідэя не памерла, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, якія, здавалася, пахавалі яе канчаткова. ...

Заключэнне: трэба выразна заняць пазіцыю прызнання асобнасці і цэласнасці гістарычнай Літвы ... і як наймацней падтрымаць жаданні літвінаў і беларусаў, не выношваючы з польскага боку ніякіх прэтэнзій на тэрытарыяльныя набыткі... . Тады атрымаем сімпатыю літоўскіх і беларускіх палітыкаў ... і нейтралізуем анэксійныя намеры Германіі. Адначасова трэба развіваць выдавецкую дзейнасць, якая ўказвае на неабходнасць стварэння буфернай і нейтральнай дзяржавы паміж Заходняй Еўропай (да якой адносіцца Польшча) і Расіяй, складзенай з гістарычнай Літвы і Курляндыі. У гэтай сувязі трэба нагадаць свету, што Вялікае Княства Літоўскае калісьці было самастойнай дзяржавай, адзіна злучанай рэальнай уніяй з Польшчай.

---

* *Тут прыведзены тэкст Універсала Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага.*

**38. Карта «Літоўская тэрытарыяльная мара» з кнігі Й. Жылюса «Рубяжы Літвы» (Парыж, 1920 г.)**



**39. Карта «Беларусь паводле канцэпцыі ўраду БНР» (з артыкула Ч. Янкоўскага «Пад сцягам Пагоні», 1919 г.)**

***Крыніца:*** *Jankowski Czesław. Pod banderą Pogoni. 1919 // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 749. Арк. 1–3.*



**40. Пастанова Віленскай Беларускай Рады ад 18 лютага 1918 г.**

***Крыніца:*** *Турук, Ф. Ф. Белорусское движение. Очерки истории национального и революционного движения белорусов. Минск: Картографическая фабрика Белгеодезии, 1994. С. 114–115.*

Прымаючы пад увагу:

Што бытнасць падтрымліваемых «Энтэнтай» дзеля яе палітычных мэт чужацкіх польскіх войск на адвечна Беларускіх землях можа ў будучыні аказацца прэцэдэнтам дзеля анэксіі гэтых зямель да Польскага Каралеўства, або дзеля дамагання тэрытарыальных кампэнсаціяў у постацы Беластоцкай вокругі, сумежнай с Польшчаю;

Што абвешчаючы прілучэння часці закардоннай Беларусі да Польскай манархіі, польскія войскі выяўляюць гэтак захопныя тэндэнцыі на Беларускія землі, і іх чыннасць з гэтаго нагляду перастае ўжо быць самаабаронай палякоў ад бальшавіцкай анархыі і прыбірая характар вялізнай палітычнай авантуры, каторая ідзе супроць найбольш жіццявых інтарэсаў беларускаго народу і супроць яго жадання незалежнасці;

Што расейскія войскі, каторыя па загаду расейскага ураду акружнай сілай перашкодзілі утварэнню беларускай нацыянальнай арміі, самі нездолелі утрымаць беларускія землі і блізка сусім пакінулі іх, значыць няспоўнілі перад імі сваіх павіннасьцаў і абецанак;

Што Беларусь ад XIII да канца XVIII сталецця была незалежна, творучы разам з літвінамі асобную дзяржаву (Вялікая Князьства Літоўвская), і пасля прылучэння яе гвалтам да Расеі праз сто двадцаць гадоу няволі і уціску ня пакідала дабівацца незалежнасьці навэт з аружжам у руках (1812–1905 г.г.);

Што бальшаві[ц]кі урад даляй віоў палітыку гвалтаву над беларускім народам, даючы яскрівая выражэння гэтаго у разгоня Беларускай Канфярэнцыі у Мінску, Беларуская Рада, аб'яўляючы разарванай звязь між Беларусью і Расеяй, выказывая свае дамагання:

Каб польскія войскі чым хутчэй выйшлі з беларускіх зямель,

на каторых беларускія краевыя арганізацыі вазьмуць пад сваю апеку імення і жыцця жыхароу;

Каб пакінутыя на няміласць долі беларускае землі за хронтам былі ураз жа далучаны да акупаванай часці Беларуска-Літоускага краю дзеля арганізацыі тут незалежнаго дзержаўнага быту.

Каб сумежные з Польшчай спрадвечна Беларускія землі (Беласток, Гродна) ні ў якіх здарэннях ня былі выключаны з рэшты краю дзеля далучэння да Польскаго каралеуства.

Беларуская Рада, апіраючыся на рэзалюцыі Беларускай канферэнцыі ў Вільні 25, 26 і 27 янв. 1918 г. (аносные пункты да гэтаго далучяюцца) і на пастановя разагнанаго бальшавікамі Беларускаго кангрэсу у Мінску 30–31–XII 1917 г., звертаяцца да усіх государстваў, прызнаючых прынцып самазначэння нацыанальнасьцяў, а у першы чарод да Няметчыны, каторая мая найболяй супольных з Беларуска-Літоускім краем эканамічных інтарэсоў, с прызывам оказать помач у справя адбудовы дзяржаунай незалежнасці колішняго Літоуска-Беларускаго государства (Вялікаго княжства Літоўскаго) – няузіраючыся на цяперашні раздзел яго мяжою хронту.

Вільня, 18 лютага (февраля) 1918 г.

Подпісы: Прэзэс Беларускай Рады А. Луцкевіч, пратаіярэй Галянкевіч, кс. Вл. Талочка, Казімір Фалькевіч, Дулька.

Сябры Рады: Язэп Таркевіч, Язэп Салавей, Іван Луцкевіч, Янка Станкевіч, М. Радзевіч, Марцін Перскі.

Сакратар Рады: Даменік Сямашка.

## 41. Ліст Віленскай Беларускай Рады Рэйхсканцлеру Германіі [Вясна] 1918 г.

***Крыніца:*** *Ліст Віленскай Беларускай Рады (Вільня) Рэйхсканцлеру Нямеччыны (Бэрлін) за ??.)?.1918 г. // Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Вільня; Нью Ёрк; Менск; Прага: Беларускі Інстытут навукі й мастацтва Таварыства беларускага пісьменства, 1998. Т. 1 Кн. 1–2: Фонд № 582 Дзяржаўнага Архіву Літвы («Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі»). С. 51.*

Его Пр-ву Г-ну Германскому Имперскому Канцлеру

Белорусская Рада в Вильне, избранное Конференцией всего белорусскаго населения оккупированных областей представительство всего белорусскаго народа просит Ваше превосходительство повергнуть с стопам Его Величества Германского Императора выражение глубокой благодарности белоруссов оккупированных областей за признание Литвы самостоятельным свободным государством, усматривая в этом признании первый шаг к осуществлению заветных стремлений белорусскаго народа к восстановлению свободнаго и самостоятельнаго Великаго Княжества Литовскаго в его исторических пределах – соединенной Литвы и Белоруссии. Разорванные Брест-Литовским договором Белорусские земли в силу политической и экономической естественной необходимости должны сростись в единую Белорусско-Литовскую историческую Государственную единицу, свободную и самостоятельную – к этой цели направлены все помыслы и стремления белорусскаго народа по ту и по сию сторону искусственно созданной границы, разорвавшей на двое единое живое целое, благодаря тому, что при разрешении Литовскаго вопроса был заслушан не голос всего населения оккупационной области, а лишь голос учреждения, могущаго считаться представительством лишь части населению Литвы – литвинов, составляющих около 40 % населения, но отнюдь не представительством Литвы. Мы вынуждены громогласно заявить, что не признаем за этим учреждением, Литовским Landesrat'ом представительство, никакого права заключать от имени Литвы договоров и конвенций; мы решительно заявляем, что заключенные этим учреждением договоры и

обязательства будут считаться связующими население Литвы и обязательным для него лишь постольку, поскольку они будут приняты демократически избранным представительством всего населения Литвы. Сам Landesrat в адресе, испрашивающем признание Литвы свободным и самостоятельным государством, указывает на необходимость скорейшаго созыва демократически избранного представительства всего населения Литвы для установления всех взаимоотношений и для подтверждения принятых договорных обязательств, признавая таким образом свою некомпетентность говорить и действовать от имени всего населения Литвы.

**42. Пратакол нарады беларускай дэлегацыі з абмеркаваннем пытання аб федэрацыі з суседнімі дзяржавамі. 1 чэрвеня 1918 г.**

***Крыніца:*** *Протокол совещания белорусской делегации – А. И. Цвикевича и проф. М. В. Довнар-Запольского, управляющих делами делегации И. Фарботько и А.И. Модзалевскаго при участии инж. Головинскаго, Н. Н. Фермара и С. В. Мясоедова. 1 июня 1918 г. // Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Вільня; Нью Ёрк; Менск; Прага: Беларускі Інстытут навукі й мастацтва Таварыства беларускага пісьменства, 1998. Т. 1 Кн. 1–2: Фонд № 582 Дзяржаўнага Архіву Літвы («Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі»). С. 167–168.*

Совещание обменялось мнениями по вопросу о современном политическом положении Б.Н.Р. Большинство членов собрания, принимая во внимание невозможность даже в ближайшем будущем существования Белоруссии в изолированной самостоятельной форме, – высказывается за необходимость федерации с тем или другим из соседних с Белоруссией государств.

Такая невозможность изолированного существования Белоруссии вытекает из неизбежной экономической зависимости от более сильных соседей и отсутствия у Белоруссии выхода к морю. В совещании намечаются две конкретные возможности – федерация с Украиной и федерация с Литвой, определенно опирающейся на Германию и связанной с ней государственными конвенциями.

Решительным защитником федерации с Литвой выступает проф. М. В. Довнар-Запольский, который указывает на слабость Литвы в культурных и экономических отношениях, что исключает возможность порабощения Литвой Белоруссии. В подтверждение своих соображений проф. М. В. Довнар-Запольский ссылается на известные исторические факты, говорящие о том, что в результате унии Литвы с Белоруссией последняя заняла господствующее положение.

А. И. Цвикевич, отвергая в частности приемлемость федерации с Литвой, как ведущую к неизбежной германизации Белоруссии, – вообще считает возможной в дальнейшем федерацию с тем или другим из соседних с Белоруссией госу-

дарств, но не находит необходимым и целесообразным делать в настоящий момент в этом направлении какие-либо шаги в виду, главным образом, неопределенности настоящаго политического момента и мировой экономической коньюнктуры.

## 43. З успамінаў Эдварда Вайніловіча

***Крыніца:*** *Войнилович Э. Воспоминания; пер. с польск. / общ. ред. В. Завальнюка. Минск: Издание Минской римо-католической парафии св. Симона и Елены, 2007. С. 252–254.*

После бегства Керенского и прихода большевиков, особенно в результате Брестского мира, на белорусских Кресах произошел ощутимый крен в немецкую сторону. Это не от того, что наше общество питало сильную любовь к немцам или его стремление ко всему славянскому стало менее заметным, а просто потому, что в них видели защитников общественного порядка и стражей общественной безопасности, особенно в условиях все больше распоясывающегося большевизма в России и скрытой, но с каждым разом все более активной, деятельности его сторонников в Беларуси.

…

Не могу привести тексты этих мемориалов, поскольку не я их редактировал, но при возможности всегда старался удалять из них излишне филонемецкие концепции, а черновики мои пропали. Могу, однако, отметить, что первое заявление было более уравновешенным по сравнению со вторым; предполагалось, что первое не пойдет далее, как через штаб Фалькенхейна, до Главной Ставки, находящейся в то время в Короне. Там шла речь всего лишь о благодарности оккупантам за то, что вернули общественный порядок, а также о желании отделиться от большевиков и быть с народами Запада, опираясь на сильное немецкое государство.

Второе заявление было вручено в связи с тем, что в результате Брестского договора на повестку дня встал вопрос об отступлении немцев с востока и передаче ими в установленные сроки большевикам определенных участков белорусской территории «до Березины и за Березину.

… мы все перед лицом страха быть расстрелянными большевиками и в панике вскоре будем покидать родные места, будучи уже невольными. Эта передача по частям Беларуси большевикам была самой настоящей катастрофой для местных польских землевладельцев. Ссылаясь на исторические традиции, мы даже желали создания Великого княжества Литовско-Беларусского под немецкой кураторией и просили

фон Фалькенхейна сообщить о нашем стремлении императору Вильгельму.

Это последнее обращение было настолько противным моим политическим взглядам, настолько мерзким, что я в течение трех суток боролся, чтобы не ставить своей подписи, а вместе с тем среди «senioren Conventu», состоящего из 30 человек, только один, самый младший, Зигмунт Ревеньский, меня поддержал. И, будучи вынужденным и заклинаемым на «salus reipublicae suprema lex» (призыв республики – высший закон). Правда, не на первом месте, как это было в первом обращении, но подпись свою поставил.

Мой протест был запротоколирован добросовестным секретарем М. Поровским с пометкой, что согласился подписать только под давлением собрания и как бы закулисных инсинуаций, что якобы отсутствие моей подписи лишило бы авторита всю эту акцию. Во всяком случае, когда мы пошли к фон Фалькенхейну, не я, а граф Ежи Чапский возглавлял тогда делегацию в отличие от первого обращения, на котором первой стояла моя подпись. И я представлял тогда делегацию ф. Фалькенхейну. Следует также отметить, что в этой делегации принимал участие и поставил свою подпись замещающий отсутствующего губернского маршалка борисовский маршалок Бурнашев, выступающий, как официальное лицо. Ф. Фалькенхейн, в ответ на произнесенную графом Чапским речь отметил, что передача по частям территорий Беларуси была предусмотрена в Брестском договоре, который он не подписал бы, если бы там находился, и который сегодня должен слепо выполнять. А что касается наших политических стремлений создать буферное государство между Германией и Россией, то он постарается доложить об этом в Главной императорской Ставке.

## 44. Дзённік Антона Луцкевіча. Запісы за 29.12.1918 – 16.02.1919 г.

***Крыніца:*** *Дзённік Антона Луцкевіча. 27.12.1918 – 23.03.1919 // БАНЛ. Ф. 21. Спр. 319. 59 арк.*

07.01.1919

Раніцай газэты прынесьлі вестку аб заняцці Вільні большэвікамі. Пры іншых варунках гэта вызвала бы агульны сум, – але цяпер мы шчыра цешымся: бо гэта – адзіны ратунак ад польскага панаваньня. Большэвізм (ведама, калі ён не запануе па ўсенькім сьвеце, а на гэта, здаецца, яшчэ рана!) можна прыраўнаваць да дзіцячай хваробы – адры, або іншай, на якую дзіця павінна перахварэць, але пасьля ад яе сьледу не астаецца. Наадварот: калі б хоць на нейкі час у нас запанавалі палякі, дык гэта хвароба … ўслася-бы ў кроў і косьці нашага народу аж да дзясятага пакаленьня. І ядынае анцідотум проці Польшчы – гэта большэвізм!

Усе гэта можа быць, але не ў такой форме і не ў такой меры, як думае Домінік. Здаецца, што большэвізм не прападзе, як іншыя думаюць, не разьвееца, як дым, а толькі перажыве сур'ёзную эволюцыю.

А калі пад гэты час маскоўшчына залье і ўсю Беларусь, і ўсю Літву і Балтыку, – дык якімі прымусовымі крокамі антанта і немцы маглі бы разьвязаць гэту ўнутраную справу Расеі ў кірунку незалежнасьці? Шансы на незалежнасць можа мець яшчэ Украіна, калі абароніцца ад большэвікоў, бо ў ей ужо ёсць сілы і арганізацыя, з якой можна пачаць будаваць гасударства. Але тады, раз Расея утраціць палудзень і Чорнае мора, дык напэўна ад яе не адрэжуць Балтыцкага. Можа быць гутарка аб фэдэрацыі, аўтаноміі і т.д. Калі-ж і Украіну зальець большэвізм, дык абраз зьмяняецца, і магчыма утварэньне трайной фэдэрацыі Балтыцка-Літоўска-Беларускай у больш слабым зьвязку з Расеей. Але тое, што цэнтральныя дзяржавы і антанта сьвядома дапускаюць залеў нас большэвізмам і паварот у стары стан, ёсьць благая запаведзь для незалежніцкіх ідэй. Наагул, палажэньне нашае з кожным днём становіцца горшым. Дзеля ратаваньня нацыянальнай справы нашым людзям астаецца адно: прыстасовывацца да новых варункаў, якія утворацца з прыходам большэвікоў.

…

10.01.1919

Яшчэ раніцай у газэтцы «Echo» з'явілася вестка, што ў Менску 2.1.19 савецкія ўласьці апавесьцілі незалежнаць савецкай Беларускай Рэспублікі. Гэта ўсіх нашых так наэлектрызавала, што ўсе, як адзін, гатовы ехаць у Менск і працаваць разам з большэвікамі.

…

15.01.1919

Прыехаў кур'ер з Кіева. Цэлы пак псем! Асабліва цікавы даклад Смоліча. Аказваецца, апавешчаньне незалежнасці Савецкай Беларусі ў саюзе з Расеей – эта факт.

26.01.1919

Сягодня урачыста адкрылася Рада работніцкіх дэпутатаў.

Трохі уражанняў з адкрыцця совдэну. У прывітаньнях, у дэклярацыях партый не зыходзіла са сцэны ні на адзін момант «Беларусь», «Літва», «Вайсрусланд унд Літве». Барадаты левы с.-р. максімаліст заяўляў: «Мы будем бороться за Белорусско-Литовскую Республику, сфедерированную с Россией!» У тым жа духу прамаўляў і с.-с. Паслалі прывет: совнаркому, часоваму ураду Беларусі і Літвы, чырвонай арміі і нямецкаму пролетарыяту.

Ідэя Беларускай рэспублікі, як бачым, можа сьвяткаваць поўную пабеду. Аб ей гаворац, за яе абяуцюцца бароцца тыя, хто яшчэ ўчора бароўся проці яе! І тыя ж большэвікі, каторыя разганялі ўсебеларускі зьезд у сьнежні 1917 году, аб'явілі незалежную савецкую Беларусь у фэдэрацыі з Расеяй, а да ўраду яе ўвялі Жылуновіча, Дылу, Фальскага, Чэрвякова і іншых праўдзівых беларусаў, часьцю учасьнікаў таго-ж разагнанага кангрэсу!

16.02.1919

Апошнія дні поўны розных вестак, спадзяваньняў, надзей і … расчараванняў.

Ясна і бязспорна толькі адно: што на Гродзеншчыну йдуць дзве хвалі – з усходу і заходу, што разыграецца йшчэ адзін акт крывавай драмы, пачаўшайся ў 1914 гаду. І абедзве гэтыя хвалі роўна нясць нам руіну і зьнішчэньне ня толькі матэр'яльнага

багацьця, але – і гэта найгорш – нашых палітычных ідэалаў, нашага дзяржаўнага будаўніцтва.

Праўда, у «совдэнскай» часьці наша Краю праводзіцца ў жыцьцё йшчэ адзін з нашых палітычных лозунгаў: аб'яднаньне Беларусі з Літвой. Але праводзіцца гэта чужымі нам рукамі – жыдамі і маскалямі – ў імя інтарэсаў савецкага ураду!

Большэвізм у нас немінучы, як, здаецца, немінучы ён і ў Польшчы. І чым хутчэй наш народ перапаліцца ў яго агні, тым лепш: тым хутчэй пачнецца творчая работа – будаваньне новай будучыні, дзе народ сапраўды будзе гаспадаром на сваёй зямлі.

## 45. Чэслаў Янкоўскі. Пад сцягам Пагоні (1919 г.)

***Крыніца:*** *Jankowski Czesław. Pod banderą Pogoni. 1919 // БАНЛ. Ф. 79. Спр. 749. Арк. 1–3.*

Вялікае Княства Літоўскае перастала быць рэальным палітычным фактарам з той хвіліны, калі з'явілася «Aušra» Басанавіча – сімвал эмансіпацыі літоўскага народа ..., і праз некалькі гадоў, калі ў Беларусь з берагоў Нявы сталі паступаць горсці агітацыйных выданняў, якія прапагандавалі беларускую нацыянальную эмансіпацыю пад назвай «Загляне сонца ў наша ваконца». З гэтай даты, г.зн. прыкладна 25 гадоў таму ўваскрашэнне Вялікага Княства Літоўскага перастала існаваць нават як праблема, як палітычная актуальнасць; ні ад сённяшняга, ні ад учарашняга дня гістарычнае Вялікае Княства Літоўскае, якое сягала ад Балтыкі за Чарнігаў, з'яўлялася ўжо толькі шанаваным, рэспектабольным і памятным антыкварыятам, а мы яшчэ ў маі 1917 г. дэкларавалі адносна Бога і людзей тут, у сталічнай Варшаве, вуснамі прадстаўнікоў усіх нашых партый гарачае жаданне Польшчы аднаўлення традыцыйнай сувязі з незалежным Вялікім Княствам Літоўскім! Не гожа ў годзе Божым 1917 усур'ёз браць у разлік незалежнасць чагосьці суверэннага, што нават існаваць не можа. Але яшчэ і сёння некаторыя выказваюцца за ўнію з уваскрослай незалежнай Польшчай Вялікага Княства Літоўскага, якое ні ў якім уяўленні не можа ўваскроснуць, са сталіцай у Вільні, з сеймам літоўска-польска-беларуска-яўрэйскім.

Тым часам уваскрасіць Вялікае Княства Літоўскае, асабліва як дзяржаву Літоўска-Рускую, – значыла бы кінуць у палітычны хаос цяперашніх ліцвінаў і беларусаў, што раўназначна ... злучыць паміж сабою агонь і ваду.

Апошнія пару дзесяткаў гадоў беларускі і літоўскі рухі хутка даспяваюць, аж да ўтварэння сваіх нацыянальных дзяржаў або дзяржаўнай суверэннасці ў межах уласных этнаграфічных тэрыторый, з другога боку, панічная боязь ліцвінаў адносна істотнага для іх грознага беларускага мора ў выпадку зліцця паміж сабой этнічнай Літвы і этнічнай Беларусі – гэтага ўжо абедзвьве акалічнасці не дапусцяць. Нават вольна гаварыць пра рэалізацыю нерэальных мараў аб вяртанні на прасторы

Еўропы былой Альгердавай дзяржавы, асабліва ва ўніі з Польшчай.

Літоўцы баяцца польскай культуры ў сто разоў больш за беларускую. Гавораць, што унія з Польшчай імгненна адкрыла бы вароты Літвы для паланізацыі.

…

А што Белая Русь? … Беларусы акрэслілі сабе тэрыторыю ў прыкладна 300 тысяч квадратных кіламетраў, што з’яўляецца паловай тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, якое пры Альгердзе ў якімсь 1360 годзе мела тэрыторыю ў 600 тысяч квадратных кіламетраў.

Нідзе на бязмерных абшарах Белай Русі не ўздымаецца старадаўняя харугва з Арлом і Пагоняй на адным полі дзяржаўнага герба. Толькі мы тут у Варшаве развяваем гэты сцяг, нягледзячы на гістарычную рэзекцыю палякам ад беларусаў і ліцвінаў.

### 46. Людвік Хамінскі. Памылкі (1920 г.)

***Крыніца:*** *Хамінскі Л. Памылкі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія.* ***.*** *Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 238–242.*

Ідэя саюзу народаў, што насяляюць дзяржавы ад Белага да Чорнага мора, пачынаецца на Белай Русі, ідзе праз Літву і Украіну.

…

Справу Белай Русі мы мелі ў сваіх руках і маглі яе спакойна вырашыць. У такім выпадку лягчэй было б мець справы з Літвой, а з часам удалося б развязаць і пытанне Украіны. Але мы правалілі справу Беларусі ў Рызе і праз дзіўную няздатнасць правальваем Літву і Сярэднюю Літву.

Пра Украіну мы ўжо ўвогуле не думаем.

Як такое здарылася?

Перш за ўсё Беларусь. Можна пагаджацца з тымі шматлікімі «спецыялістамі» па беларускіх справах, якія сцвярджаюць, што Беларусь дагэтуль не праявіла дзяржаватворчых сілаў, што гэты народ абыякавы і пераважна несвядомы, што ён рэлігійна падзелены на два варожыя лагеры, як да нядаўняга часу сербы і харваты, што нешматлікія правадыры, падзеленыя паміж суседнімі дзяржавамі, дагэтуль праводзяць з-за сваіх разнастайных арыентацый разнародную палітыку. Адным словам, што сусветная вайна не выклікала ў беларускага народа творчай сілы, актыўнага дзейснага рухавіка, дастатковага для пабудовы дзяржаўнасці.

Калі нават цалкам пагадзіцца з вышэйзгаданымі сцверджаннямі, якія, аднак, на самай справе патрабуюць шэрагу агаворак, часта нават сур’ёзных – гэта, нягледзячы ні на што, не перакрэсліць аднаго факту – існавання беларускага народу, які займае пэўную вялікую тэрыторыю каля нашых усходніх межаў.

Беларускі народ ёсць. Можна на даўжэйшы ці карацейшы час перакрэсліць беларускае «пытанне», можна на дзясяткі гадоў адсунуць яго дзяржаўнае будаўніцтва – але самога факту існавання беларуса, існавання беларускага народу схаваць не ўдасца.

…

Будзе пастаўлена першае пытанне: з Польшчай ці з Расіяй? І, нягледзячы на натуральны ход падзей, на спляценне культурных, геаграфічных, гістарычных і эканамічных момантаў, якія непараўнальна бліжэй натуральным чынам звязваюць Беларусь з Польшчай, чым з Расіяй, адказ будзе – з Расіяй. Але не трэба мець за гэта да беларусаў прэтэнзій, бо тут мы самі вінаватыя.

Там, дзе ёсць Менск, сэрца і калыска Беларусі, там, дзе ёсць перавага беларускага аднароднага абшару – там будзе цэнтр, аб'ядначы для ўсяго гэтага народа.

Па ўласнай віне, дзеля трыумфу бяздумнасці, стаўшай у позу дробнага аргумента «нераздражнення Расіі», мы аддалі ў Рызе Менск пад расійскі ўплыў. …

Беларускага пытання, як пра гэта думаў Ст. Грабскі, Польшча не пазбылася, пазбавілася яна толькі магчымасці яго вырашэння. …

...Тэрыторыя, якая заставалася ў нашых межах, давала б праз пэўны час магчымасць для развіцця беларускага руху, і пры дапамозе польскай дэмакратыі мы неўзабаве атрымалі б магчымасці для выканання нашай гістарычнай задачы. Ідэя федэрацыі вольных з вольнымі ажыла б наноў і, уведзеная Польшчай у дзеянне, зноўку распачала б адзіна рацыянальную пабудову ўсходу Еўропы. А ўвесь беларускі абшар цэнтраімклівa цягнуўся б да заходняй часткі Беларусі, якая праводзіла б у жыццё ўласныя дзяржаўныя ідэалы з дапамогай Польшчы. Гэта стрымлівала б Расію, змушала б яе быць з намі асцярожнай. Цяпер усё стала іначай. Беларускую ірыдэнту будзе мець Польшча – і цэнтрабежныя памкненні будуць скіраваныя на ўсход.

…

Пакуль яшчэ ёсць час, мы павінны зразумець сваю памылку як адносна будучыні Беларусі, так і адносна будучыні Польшчы, і прыкласці ўсе намаганні, каб яе выправіць.

Само жыццё, эканамічны ход гісторыі таксама падкрэслівае вышэй выказаныя пастулаты.

Да выпраўлення сітуацыі пакуль ёсць час!

А Літва? …

Польшча, заспетая гэтай смеласцю знянацку, была ахопленая энтузіязмам: цешыліся з таго, што Вільня патрапіла ў польскія рукі. …

Была створана сітуацыя, якая для еўрапейца прадстаўляецца ў форме змагання двух імперыялізмаў, польскага і літоўскага, прычым, улічваючы непаразуменне адносна назвы «Літва», быў дадзены козыр у рукі ковенскіх літоўцаў, якія перад гэтым былі сур’ёзна аслабленыя стварэннем Сярэдняй Літвы.

…

Мусіць яшчэ быць скліканы Сейм у Вільні як адгалосак вялікай думкі, якая свяціла пры нараджэнні Сярэдняй Літвы. Сейм мог бы яшчэ шмат кепскіх рэчаў выправіць, стварыць у адпаведнасці з першапачатковымі намерамі ініцыятараў акцыі цэнтр для адбудовы Вялікага Княства Літоўскага. Гэты цэнтр пры шанаванні індывідуальнасці жыхароў розных нацыянальнасцяў, пры талерантным стаўленні да габрэяў, якія маюць вялікі ўплыў на ўсходніх землях, пры ўдзеле ў працы радаў беларусаў, а магчыма, што і літоўцаў, мог бы стаць прывабным элементам, з аднаго боку, для Ковенскай Літвы, з якой, перамаўляючыся як роўныя з роўнымі, мы маглі б прыйсці да пэўнага паразумення. З другога боку, гэты ўплыў мог бы сягаць і на ўсход, уцягваючы ў сваю арбіту Беларусь.

Шырокі вялікалітоўскі арганізм, збудаваны на кантанальнай ці іншай падобнай аснове, чым забяспечвалася б раўназначнасць літоўскага чынніка на захадзе, польскага – у цэнтры і беларускага – на ўсходзе, даваў бы гарантыю свабоднага нацыянальнага развіцця ўсіх жыхароў, забяспечваў бы неразарвальныя гаспадарчыя інтарэсы ўсёй супольнасці і цалкам абапіраўся б на Польшчу пры рэалізацыі сваіх міжнародных, мілітарных, мытных і камунікацыйных задачаў, якія, вырашаныя сумесна з Польшчай, прыносілі б аднолькавую карысць абодвум бакам.

Такім толькі чынам можна было б яшчэ згладзіць памылкі Рыжскай дамовы, можна было б Польшчы вярнуць натуральны ход развіцця падзей на ўсходзе.

### 47. Станіслаў Свяневіч. Грахі польскай палітыкі (1926 г.)

***Крыніца*:** *Свяневіч С. Грахі польскай палітыкі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 251–254.*

У пераломныя 1919–1921 гады Польшча адносна нашага краю ўчыніла вялікі грэх, наступствы якога яшчэ доўга ў гістарычнай будучыні будуць адгукацца на справах краю і на лёсе Рэчы Паспалітай як вялікай дзяржавы. Гэтым грахом, вялікім грахом супраць ідэалаў мінулага, а таксама супраць здаровага сэнсу, быў дазвол на падзел земляў Вялікага Княства Літоўскага штучнымі дзяржаўнымі межамі. ...

Памыляецца той, хто лічыць, што ідэал непадзельнасці земляў былога Вялікага Княства Літоўскага і ідэал польска-літоўска-беларуска-ўкраінскай федэрацыі – гэта толькі праява пэўных палітычных сімпатый, асабістых прыхільнасцяў летуценнікаў, што ганяюцца за ценямі вялікай мінуўшчыны. Федэралісцкі ідэал – гэта таксама і ўвасабленне эканамічных інтарэсаў нашых земляў, гэта мара пра буйны жыццёвы росквіт, пра стварэнне ўмоў для павышэння прадукцыйнасці краёвай вытворчасці, пра сотні тысяч тон грузаў, якія перавозяцца па нашых рэках і па нашых чыгунках.

Дастаткова павярхоўнага погляду на карту, каб пераканацца, што само геаграфічнае становішча звязвае паміж сабой землі, якія ляжаць паміж Балтыйскім і Чорным морамі. Геаграфічнае становішча проста навязвае літоўска-беларуска-ўкраінскім землям вертыкальную кааперацыю. З незапомных часоў праз гэтыя землі ішоў буйны водны шлях, які злучаў два згаданыя моры. З поўначы на поўдзень, а таксама на паўднёвы ўсход, – гэта значыць больш-менш па вертыкальнай лініі, разгарнулася вялікая арганізацыйная праца ўладаў гістарычнай Літвы. У расійскія часы мы таксама адчувалі вельмі моцныя повязі, якія злучалі басейн Дняпра з басейнамі Нёмана і Дзвіны. Таксама прыблізна ў вертыкальным напрамку ідуць чыгуначныя лініі, якія злучаюць гарады Беларусі і Літвы з балтыйскімі партамі. Сёння гэтыя лініі з гандлёвага пункту гледжання фактычна не эксплуатуюцца.

Такім чынам, вялікім грахом адносна гісторыі, які ўчыніла незалежная Польшча, з'яўляецца тое, што з-за заключэння

Рыжскай дамовы, з-за канцэпцыі эндэцка-пэпээсаўскага нацыяналізму , з-за хісткай палітыкі адносна Ковенскай Літвы для нашых земляў быў зачынены шлях да аднаўлення натуральнай вертыкальнай кааперацыі. Я сцвярджаю, што куды менш шкоды эканамічнаму развіццю нашага краю прынесла закрыццё рэвалюцыяй шляхоў у глыбіню Расіі, чым гэтае зацісканне межамі з поўдня і з поўначы. З-за адрэзанасці ад Коўна, Лібавы і Клайпеды з аднаго боку, а таксама ад Украіны – з другога, мы перасталі жыць у гаспадарчым плане, а сталі толькі існаваць.

Пішам мы гэта не для таго, каб прыгадваць памылкі мінулага, а таму, што верым – з часам мусіць сціхнуць сляпая і тупая зацятасць польскіх і беларускіх нацыяналістычных дэмагогаў, а таксама будзе вымушана сысці з палітычнай арэны злачынная дурнота маральных лідараў сённяшняй літоўскай дзяржавы. Мы верым, што здаровая палітычная думка і рэальныя эканамічныя інтарэсы з часам мусяць перамагчы. Таму верым і ў магчымасць узнікнення ў будучыні спрыяльных умоў для рэалізацыі федэрацыйных ідэалаў. Такім чынам, мы ставім гэты пункт на галоўнае месца ў сваёй доўгатэрміновай праграме.

... лозунг аўтаноміі ўсходніх земляў пачынае знаходзіць усё больш прыхільнікаў. Нават сярод нацыяналістычна настроенай часткі польскай грамадскасці нашага краю усё больш пачынае ўтварацца прыдатная псіхалагічная аснова для разумення аўтанамісцкіх лозунгаў. Усё больш людзі ў нас пачынаюць разумець, што калі б у шэрагу нашых спраў інстанцыяй, якая прымае рашэнні, была мясцовая аўтаномная ўлада, мы маглі б пазбегнуць цэлага шэрагу балячак як у нашым адміністрацыйным, так і ў гаспадарчым жыцці.

Мы лічым, што цяпер найлепшы час для таго, каб Польшча пачала выпраўляць памылкі сваёй палітыкі ў дачыненні да нашага краю. Вялікай памылкі знявечання земляў Вялікага Княства Літоўскага штучнымі межамі хутка выправіць не ўдасца. Таму аб'яднанне гэтых земляў у адно цэлае пры адначасовай рэалізацыі федэралісцкай праграмы застаецца для нас у гэты момант толькі ідэалам на далёкую будучыню, які асвятляе нашу грамадскую і палітычную працу. Але цэнтралісцкі кірунак ранейшай польскай палітыкі – гэта памылка, выправіць якую можна ўжо сёння. Усходнія землі

мусяць атрымаць аўтаномію. Таму ўжо сёння павінен стаць актуальным праект вылучэння ўсходніх земляў у асобную адміністрацыйную адзінку, што стала б першым крокам да ўстанаўлення на працягу некалькіх найбліжэйшых гадоў у нашым краі аўтаномнага ладу.

**48. Уладзіслаў Талочка. Пра краёвасць (1927 г.)**

***Крыніца:*** *Талочка У. Пра краёвасць // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 274–275.*

**Ад рэдакцыі**[*]

Пан Дрыгвіч *(У. Талочка – С.М.)* даў свайму артыкулу няправільную назву, бо ён у ім гаворыць не столькі пра краёвасць, колькі пра адносіны польскай дэмакратыі ў нашым краі да беларускага нацыянальнага руху.

...Краёвасць не звязаная з ніводнай нацыянальнасцю. Краёўцам можа быць як тутэйшы паляк, так і літовец, беларус, нават габрэй, калі ён разумее і адчувае дзяржаўныя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. І наадварот – усе яны не будуць краёўцамі, калі інтарэсы сваёй нацыянальнасці ставяць вышэй за агульныя, краёвыя інтарэсы...

Кажучы коратка: літоўская палітычная думка, а яшчэ ў большай ступені беларуская, увогуле яшчэ не дарасла да краёвай ідэалогіі, абапертай на традыцыях Вялікага Княства Літоўскага, у той час як польская (тутэйшая) палітычная думка пад уплывам нацыянальных сілаў, якія дзейнічаюць звонку, яе перарасла, а хутчэй непамерна і аднабакова збуяла...

Адным словам, краёвасць – гэта выразна тэрытарыяльная, а не нацыянальная канцэпцыя, і ўсе высновы пана Дрыгвіча па сутнасці з праблемай краёвасці не маюць нічога агульнага.

---

[*] *Заўвага рэдактара газеты «Przegląd Wileński» да артыкула У. Талочкі.*

## 49. Станіслаў Свяневіч. Ідэя краёвасці (1928 г.)

***Крыніца:*** *Свяневіч С. Ідэя краёвасці // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія***.** *Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 255–266.*

Прапагандаваная намі ідэя краёвасці, імкненне да надання літоўска-беларускім землям тэрытарыяльнай аўтаноміі не ўзнікла, як гэта некаторыя неабгрунтавана сцвярджаюць, ad usum *(дзеля патрэбы)* моманту. Яна з'яўляецца вынікам той асобнасці, якую цяперашнія ўсходнія землі на працягу стагоддзяў, на калісьці вялізнай тэрыторыі, якая ахоплівала Вільню, Коўна і Менск, мелі ў адносінах да Рэчы Паспалітай, з якой Вялікая Літва была ў той час звязаная Люблінскай уніяй. Гэтая асобнасць знайшла сваё ўвасабленне ў іншым уладкаванні Літвы ў параўнанні з усёй Польшчай. Праўда, Канстытуцыя 3-га мая фармальна адмяніла гэтыя асаблівасці ў дзяржаўным уладкаванні паміж братнімі краінамі, аднак адпаведная пастанова ніколі не была ўведзена ў жыццё, засталася мёртвым гукам. Фактычна ў выніку далейшага развіцця падзей асаблівасць умоў на землях былога Вялікага Княства Літоўскага, ідучы рознымі шляхамі, перажыла часы расійскай акупацыі і ў поўным аб'ёме захавала сілу ажно да нашых часоў.

…

Польскі народ не адмаўляўся ад сваіх правоў на незалежнасць, некалькі разоў дэманструючы гэта адчайным і безнадзейным узброеным выступленнем, народы ж, якія жылі на тэрыторыі гістарычнай Літвы, надалей захоўваючы пачуццё сваёй асобнасці, змагаліся супраць Расіі супольна з палякамі, імкнучыся такім чынам да вяртання такой Польшчы, якой яна была перад падзеламі, гэта значыць складзенай з этнаграфічнай Польшчы і Літвы і ўладкаванай на федэрацыйных асновах.

...

У сучасных межах цяперашніх польскіх усходніх земляў, з дадаткам да іх Менска, адчувалася хоць і моцнае, але ўжо памкненне толькі да здабыцця ў межах расійскай дзяржаўнасці тэрытарыяльнай аўтаноміі. Такія ж памкненні – аўтаномныя, а не незалежніцкія, пусцілі парасткі таксама на тэрыторыі

цяперашняй выключна нацыянальнай Літвы, называнай дзеля адрознення ад гістарычнай Літвы і Сярэдняй Літвы Ковенскай Літвой.

…

Жыхары літоўска-беларускіх земляў, да апошняга моманту заварожаныя магутнасцю расійскага калоса, баяліся і марыць пра аднаўленне ягелонскай ідэі, пагаджаючыся застацца ў рамках расійскай дзяржаўнасці і патрабуючы для сябе толькі тэрытарыяльнай аўтаноміі. …

Прадаўжальнікамі расійскай палітыкі на тэрыторыі земляў былога Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць стасавання да іх іншага падыходу, чым да астатніх частак былой Рэчы Паспалітай, былі падчас некалькігадовай акупацыі немцы. …

…Створаны ў той час Польскі камітэт, які складаўся з прадстаўнікоў усіх кірункаў палітычнай думкі, пачынаючы з перакананых правых і канчаючы сябрамі Польскай сацыялістычнай партыі, нягледзячы на вялізную розніцу ў поглядах і перакананнях, заняў агульную пазіцыю. У мемарандуме, звернутым да акупантаў, Польскі камітэт патрабаваў стварэння з Польшчы і Вялікай Літвы з Вільняй, Коўнам і Менскам адзінай дзяржавы «на аснове самастойнасці складовых частак» (Польшчы і Літвы). Такім чынам, польская грамадскасць салідарна стала на федэрацыйныя пазіцыі, імкнучыся тым самым да новага ажыццяўлення ягелонскай ідэі.

Такім чынам, польская грамадскасць усведамляла адметнасць, якую мелі землі былога Вялікага Княства Літоўскага ў дачыненні да Польшчы, іначай у вышэйзгаданым мемарандуме дамагалася б больш цеснай сувязі з Польшчай. Аднак гэты голас польскай грамадскасці не меў у той час аніякага ўплыву на складванне сітуацыі ў Прыбалтыцы.

Развіццё далейшых падзей пайшло ў зусім іншым кірунку, у выніку чаго канцэпцыя аднаўлення Вялікай Літвы была адсунутая на задні план, па ёй наносіўся ўдар за ўдарам.

Умацаванне пры дапамозе нямецкіх акупантаў нацыянальнай Літвы нанесла гэтай канцэпцыі першы магутны ўдар. …

Распачатае немцамі засяванне нянавісці Літвы да Польшчы пачало ў рэшце рэшт падразаць яшчэ да апошніх часоў моцныя карані ягелонскіх традыцый, якія жылі глыбока ў душах не

толькі карэнных палякаў, для якіх ягелонская ідэя была і дагэтуль ёсць найсвятлейшай старонкай айчыннай гісторыі, але і ў душах жыхароў Вялікай Літвы. Гэта быў другі магутны ўдар.

Трэцім ударам па канцэпцыі аднаўлення Вялікай Літвы быў кірунак польскай палітыкі ў 1920 годзе. Польшча ў той час знаходзілася тут, у Прыбалтыцы, у становішчы, як Нямеччына перад сваёй паразай. Яна магла паводле сваёй волі дыктаваць умовы як Расіі, так і Літве, якія яны volens nolens мусілі б прыняць. Яна магла стварыць Вялікую Літву, што напрошвалася само сабой. Сталася, аднак, іначай …

Такім чынам, у Прыбалтыцы склалася карыкатурная сістэма адносін. Замест аднаго натуральнага дзяржаўнага арганізма, якім была Вялікая Літва, узніклі ажно тры: на поўначы – нацыянальная Літва з Коўнам, на ўсходзе – нацыянальная Беларусь з Менскам, а ў цэнтры – землі з пераважна польскім элементам, з якіх утварылася Сярэдняя Літва – апошні магіканін канцэпцыі Вялікай Літвы ў межах польскай дзяржаўнасці.

… справа аднаўлення Вялікай Літвы аказалася на доўгі час пахаваная …

Таму мы, краёўцы, лічым, што адзіным выхадам з гэтай сітуацыі з’яўляецца рэалізацыя гарантаванага ў свой час літоўска-беларускім землям асобнага арганічнага статусу, іншымі словамі – наданне ім тэрытарыяльнай аўтаноміі.

…

Літоўска-беларускія землі маюць адметную гаспадарчую структуру, якая адрознівае іх ад астатніх частак Польшчы. Уся дзяржаўная і грамадская гаспадарка на тых землях вядзецца хутчэй у рамках усяго былога Вялікага Княства Літоўскага, у якім гэтая гаспадарка фармавалася. Напрамак чыгуначных ліній, дарог і водных шляхоў, вытворчасць амаль аднолькавых тавараў, ідэнтычныя шляхі экспарту і крыніцы імпарту сведчаць нам пра тое, што цяперашнія літоўска-беларускія землі, якія ўваходзяць у склад Польшчы, складалі раней і складаюць цяпер адно цэлае, якое цалкам розніцца ад гаспадарчага аблічча Польшчы. Дзеля таго ў дачыненні да гэтых земляў неабходным з’яўляецца праводзенне лініі эканамічнай палітыкі, адрознай ад іншых частак Польшчы.

Культурны чыннік, які не ўкладаецца ў рамкі

агульнапольскага шаблону – гэта спецыфічная індывідуальнасць нашай сталіцы, Вільні, і яе ваколіцаў, гэта псіхалагічныя асаблівасці жыхароў нашага краю, якія толькі і маглі нарадзіць на свет такіх найвялікшых геніяў Польшчы, як народны вяшчун Адам Міцкевіч і геніяльны палітык ды военачальнік маршалак Юзаф Пілсудскі.

…

Аднак бадай што найважнейшым козырам у руках прыхільнікаў ідэі краёвасці на літоўска-беларускіх землях у цяперашніх межах Польшчы з'яўляецца гістарычна-палітычны чыннік.

…

І тут узнікае пытанне аднаўлення Вялікай Літвы з Вільняй, Менскам і Коўнам, Вялікай Літвы, якая з апорай на Польшчу стварала б міжнародную сілу, аб якую разбіваліся б тэрытарыяльныя прэтэнзіі як Нямеччыны, так і Расіі.

На нашу думку, аднаўленне Вялікай Літвы, якая ўключала б, як мы вышэй згадалі, Вільню, Коўна і Менск, мусіць адбыцца раней ці пазней. Землі, якія сёння складаюць Ковенскую Літву, Савецкую Беларусь, а таксама Віленшчыну, Наваградчыну і Гарадзеншчыну, складаюць арганічнае цэлае, штучны падзел якога не зможа пратрымацца доўга. Межы, якія аддзяляюць нас дэмаркацыйнай лініяй ад Ковенскай Літвы і, падкрэслім гэта яшчэ раз, праз вялікае гістарычнае непаразуменне дзеляць напалову жывое цела беларускага народа, мусяць знікнуць. Менавіта ў гэтым кірунку незалежна ні ад каго працуе жыццё.

…

Тут сама сабой напрошваецца выснова, што першым крокам у гэтым кірунку павінна быць наданне літоўска-беларускім землям у Польшчы тэрытарыяльнай аўтаноміі.

Ідэя ж краёвасці грунтуецца на дзвюх праграмах: максімальнай і мінімальнай. Максімальная праграма – аднаўленне Вялікай Літвы і злучэнне яе ў федэрацыйным саюзе з Польшчай. Мінімальная праграма – наданне землям са змешаным польска-літоўска-беларускім насельніцтвам тэрытарыяльнай аўтаноміі, якая ў разуменні краёўцаў з'яўляецца першым этапам для рэалізацыі максімальнай праграмы.

## 50. Станіслаў Свяневіч. Наша пазіцыя (1934 г.)

***Крыніца:*** *Свяневіч С. Наша пазіцыя // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія***.** *Вільня: Палітычная сфера, 2014. С.267–270.*

У падмурку краёвай ідэі, якую мы атаясамляем з паняццем Ягелонскай ідэі, ляжыць перакананне, што галоўныя, найбольш прынцыповыя сілы, якія вырашалі гісторыю даўняга Вялікага Княства Літоўскага, сёння з'яўляюцца не менш актуальнымі, чым былі пяцьсот год таму назад.

... Мы разумеем Ягелонскую ідэю як ідэю цеснай супрацы нацый, якія імкнуцца абараніць сваю палітычную незалежнасць і культурную індывідуальнасць ад хваляў, што накатваюцца з раўніны, у якой мы знаходзімся на заходнім мысе.

За апошняе стагоддзе шмат што змянілася ў свеце: з'явіліся чыгунка, электрычнасць, аўтамабілі, танкі. Але прынцыповыя элементы нашай сітуацыі застаюцца без змен. ... У такіх умовах Ягелонская ідэя не менш, а нават больш актуальная, чым у часы Вітаўта ці Баторыя.

Для таго, каб супрацьстаяць павевам віхуры, якая ніколі не перастане нам пагражаць з абшараў гэтай прасторы, патрэбная вялікадзяржаўная магутнасць...

Польшча не ёсць вялікай дзяржавай. Але Польшча сёння, як і калісьці, можа стаць найважнейшым чыннікам стварэння вялікадзяржаўнай магутнасці. Усе нацыі, што аселі на межах вялікай Усходняй раўніны, прытуліўшыся да балтыйскіх берагоў ці карпацкіх сцен, могуць супольна стварыць сілу, якая будзе ў сабе ўтрымліваць элементы вялікадзяржаўнай магутнасці. Мроі пра супольную рэалізацыю гэтай магутнасці палякамі і суседнімі нацыямі складае, на нашу думку, прынцыповы змест Ягелонскай ідэі.

...

Мы дакладна ўсведамляем, што наш культ традыцыі Вялікага Княства Літоўскага, наша канцэнтрацыя ўвагі на вялікіх праблемах прыбалтыйскай і расійскай палітыкі, наша зацікаўленасць украінскім і беларускім пытаннем з'яўляюцца чужымі для пераважнай большасці польскага грамадства. Нашы канцэпцыі непапулярныя. Але калі ў Польшчы і ёсць

дзе-небудзь людзі, якія падзяляюць пакутлівыя для нас клопаты і смелыя мары, разумеюць нашы канцэпцыі, – то знаходзяцца яны ў межах лагера маршалка Пілсудскага.

…

Наш клуб краёвую ідэю разумее больш шырока. Мы разумеем яе як пэўную ідэю, якая заставалася жывой у Вільні як у часы славы, так і ў найгоршы перыяд нядолі, якая сёння мусіць стаць супольнай ідэяй Польшчы, балтыйскіх дзяржаў, а таксама ўкраінскага і беларускага адраджэнскіх рухаў. Таму прыхільнікам нашых поглядаў можа быць не толькі чалавек, які паходзіць з нашых земляў, але кожны, хто падзяляе і разумее нашы ідэалы. Мы імкнёмся да таго, каб наша канцэпцыя здабыла як мага больш актыўных прыхільнікаў. З гэтага гледзішча мы прадстаўляем сабою свайго роду ідэйны імперыялізм Вільні.

## 51. Людвік Абрамовіч. Трыццацігоддзе краёвай ідэалогіі (1936 г.)

***Крыніца:*** *Абрамовіч Л. Трыццацігоддзе краёвай ідэалогіі // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 290–292.*

Краёвая ідэя ўзыходзіць да гісторыі так далёка, наколькі даўно існавала Вялікае Княства Літоўскае. Рэальныя формы ёй надаў Вітаўт Вялікі, аб'яднаўшы ў адно цэлае Літву і Русь ды стварыўшы з іх асобны дзяржаўны арганізм паміж Польшчай і Масквой. Гэтая ідэя свяціла на працягу стагоддзяў шматлікім выдатным асобам з вяльможных родаў Літвы: Гаштольдаў, Радзівілаў, Сапегаў, Пацаў, Агінскіх, у пэўныя моманты захоплівала таксама шляхецкія масы, а пасля заняпаду Рэчы Паспалітай знаходзіла прыхільнікаў і паслядоўнікаў у шэрагах дэмакратычных змагароў за свабоду. Гарачым і перакананым яе прыхільнікам быў «дыктатар Літвы» Канстанцін Каліноўскі. Не было недахопу ў патаемных яе прыхільніках і пазней, у часы найцяжэйшага ўціску, які рабіўся пасля паўстання. Ідэя жыла ў сэрцах і розумах, але толькі як нешта туманнае, дакладна не акрэсленае, хутчэй як паважаная традыцыя, чым маяк і выразная мэта на будучыню. Ажывіў яе, сфармуляваў і акрэсліў толькі Міхал Ромер у заснаванай ім у 1906 годзе «Gazecie Wileńskiej».

28 лютага 1906 года выйшаў першы нумар згаданай штодзённай газеты, у якім уступны артыкул пачынаўся наступнымі словамі:

«Выданне «Gazeta Wileńska» мы збіраемся выдаваць для Літвы і Белай Русі, а таму пры вызначэнні нашай пазіцыі мусім кіравацца краёвымі патрэбамі і ў іх шукаць зыходны пункт для ўсялякай палітычнай, грамадскай і культурнай дзейнасці. З гэтага ж пункту гледжання мы адкідаем пазіцыю так званых «крэсаў», якое наш край – Літву і Беларусь – трактуе ў якасці нечых сатэлітаў, ход і развіццё якіх павінны вызначацца законам прыцягнення да пэўнага знешняга цэнтру. Мы, шчырыя і законныя грамадзяне Літвы і Белай Русі, павінны адкінуць усялякія тэндэнцыі штучнага падпарадкавання развіцця абодвух нашых краёў патрэбам сумежных краін».

Далей мы чытаем:

«Гаворка ідзе пра ўсталяванне сумеснага жыцця разнастайных нацыянальна-культурных элементаў у абодвух краях на шчырых

пазіцыях супольнага краёвага грамадзянства. Мы лічым, што менавіта такое сужыццё, а не захопніцкае паглынанне нацыянальна-культурных элементаў кімсьці адным, адпавядае інтарэсам агульнай культуры. ...»

Два вышэйзгаданыя пастулаты: асобнасць і самастойнасць літоўска-беларускіх земляў і раўнапраўе ўсіх нацыянальнасцяў, якія іх насяляюць, з'яўляюцца асновай краёвай ідэалогіі. Больш падрабязнай праграмы, асабліва з улікам палітычных момантаў, «Gazeta Wileńska» распрацаваць не паспела. Гэтага ёй не дазволілі знешнія абставіны. Хуткі тэмп пераўтварэнняў, якія ў той час адбываліся ва ўнутраным жыцці расійскай дзяржавы, пытанні агульнапалітычнага характару паглыналі ўвагу рэдакцыі і адсоўвалі праблему адасаблення Літвы і Беларусі на задні план, бо яна знаходзілася ў залежнасці ад заняпаду абсалютысцкага ладу ў Расіі і перамогі рэвалюцыйных элементаў. Зрэшты, «Gazeta Wileńska» спыніла сваё жыццё пасля некалькіх месяцаў існавання.

Аднак ідэйны кірунак, пазначаны Міхалам Ромерам, не перарваўся і не перастаў пракладаць сабе шлях у свядомасці польскага грамадства Літвы і Беларусі. Лозунг «краёвасці» знайшоў шырокі водгук у разнастайных сферах. ...

Палітычныя ўмовы, аднак, не спрыялі развіццю краёвай ідэалогіі. Усё больш моцны расійскі нацыяналізм у выніку выклікаў рост нацыяналізму сярод усіх народаў, супраць якіх накіроўвалася вастрыё нападак «ісцінна рускіх людзей». ...

Нягледзячы на гэта, краёвая ідэя не згасла. Яна знайшла апору ў асяродку прагрэсіўнай віленскай інтэлігенцыі, што здолела стварыць уласнае выданне, якое змагаецца з зацятасцю і нераталерантнасцю «ўсепалякаў». Перадваенны «Przegląd Wileński» меў той слабы бок, што недастаткова ўлічваў гістарычны чыннік, гледзячы на краёвую ідэалогію амаль выключна як на адасобленую дэмакратычную дактрыну. Гэты прагал запоўніла, у меру сілаў і магчымасцяў, нашая газета ў пасляваеннай версіі, выводзячы паходжанне сучаснай краёвай ідэі з далёкай мінуўшчыны і апелюючы да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, у якім пачуццё дзяржаўнай агульнасці пастаянна пераважала над цэнтрабежнымі памкненнямі і ўнутранымі антаганізмамі, якія тут і там часам вымалёўваліся.

Такім чынам, народжаная Міхалам Ромерам трыццаць гадоў таму краёвая ідэалогія не занепадае і не памірае, а наадварот, развіваецца і набывае больш напоўненую форму.

## 52. Людвік Абрамовіч. In Hoc Signo Vinces![*] (1925 г.)

***Крыніца:*** *Абрамовіч Л. In Hoc Signo Vinces! // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 286–289.*

Грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага назваў святой памяці Тадэвуша Урублеўскага аўтар ягонай пасмяротнай характарыстыкі ў газеце «Kurjer Wileński», дадаўшы да гэтага, што нябожчык пераҗыў сваю эпоху на некалькі соцень гадоў. «Ягонае месца было ў Вялікім Княстве Літоўскім у XV ці XVI стагоддзі, калі паны Літвы не хацелі поўнага разрыву сувязяў з Каронай, але аднačасова востра працівіліся ўсялякім паглынальным тэндэнцыям з боку апошняй».

Гэтая заўвага слушная толькі да пэўнай ступені. Крыніцай краёвай ідэалогіі сапраўды з'яўляецца дзяржаўная думка, выразнікамі якой былі на некалькі стагоддзяў раней паны-рада Вялікага Княства Літоўскага, а пасля, у XVIII стагоддзі – паасобныя магнаты Літвы. З цягам часу, па меры ўзмацнення асіміляцыйнага працэсу, сепаратысцкія тэндэнцыі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага слабелі, а ў пачатку XIX стагоддзя амаль цалкам замерлі. Аднак яны зноў абудзіліся, праўда, у змененай форме і ў іншых умовах, на мяжы XIX і XX стагоддзяў, а сваё выразнае і недвухсэнсоўнае выяўленне знайшлі падчас вялікіх узрушэнняў і грамадска-палітычных пераўтварэнняў пасля рэвалюцыі 1905 года. Лозунг аўтаноміі літоўска-беларускіх земляў быў адраджэннем ужо заняпалай асобнай традыцыі і самастойнай дзяржаўнасці пад знакам Пагоні.

Ідэя Вялікага Княства Літоўскага ў пачатку XX стагоддзя, перад вайной, пачынала здабываць усё больш прыхільнікаў і паслядоўнікаў, а краёвы лагер узмацняўся як паводле сілы, так і паводле значэння. Развіццё «краёвасці» з аднаго боку было запаволена ростам нацыяналізму ў паасобных народаў, якія жывуць у нашым краі, а з другога – ваеннымі падзеямі і выпадковасцю іх вынікаў, якая знайшла выяўленне ў тэрытарыяльным падзеле былога Вялікага Княства Літоўскага. Але яшчэ жывым рэхам да нядаўнага часу папулярных краёвых настрояў была адозва да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага, выдадзеная Пілсудскім пры ўступленні ў Вільню ў 1919 годзе.

[*] *Гэтым пераможаш! (лац.)*

Таму можна цалкам слушна сцвярджаць, што Урублеўскі перажыў сваю эпоху на некалькі соцень гадоў, але гэтак сама слушна можна сказаць, што перажыў ён яе толькі на які дзясятак гадоў, бо ўсё ж такі перад пачаткам вайны пазіцыя краёўцаў нікому не падавалася ні такой дзіўнай, ні такой анахранічнай, ні такой вартай асуджэння, як пра яе сёння мяркуе шырокая польская грамадская думка.

«Вы знаёміцеся з адным з апошніх магіканаў. Сёння засталося ўжо толькі тры сапраўдных грамадзяніна Вялікага Княства Літоўскага і толькі тры сапраўдныя краёўцы. Я – адзін з іх», – так нібыта заявіў Урублеўскі некалькі гадоў таму безымяннаму аўтару пасмяротнага ўспаміну, калі той першы раз яго наведаў. Усеагульна вядомая любоў памерлага дзеяча да парадоксаў і эфектных афарызмаў. Таму не трэба ўспрымаць вышэйзгаданых слоў літаральна. Хоць сёння кірунак краёвай думкі вузкі і слабы, усё ж такі ён налічвае значна больш прыхільнікаў і паслядоўнікаў. …

… Калісьці прыйдзе дзень трыумфу краёвай ідэі, якая адна толькі можа развязаць гэты клубок супярэчнасцяў і антаганізмаў, што стаў вынікам расквітнелых і пастаянна варожых адзін да аднаго нацыянальных эгаізмаў.

Да гэтага моманту Урублеўскі не дажыў, не дажыве, магчыма, і рэдакцыя «Przeglądu Wileńskiego», але дачакаецца яго наступнае пакаленне. Вялікае Княства Літоўскае ўзнікла невыпадкова і не было часовым утварэннем. Яго паклікала да жыцця гістарычная неабходнасць, якая вынікала з шэрагу прычын геаграфічнага, эканамічнага, палітычнага і псіхалагічнага характару, якія і сёння ў значнай ступені не перасталі дзейнічаць. Нягледзячы на штучныя межы, якія парэзалі наш край, Літва і Беларусь не перасталі складаць аднаго арганізму, а раздзёртыя ягоныя часткі не перасталі імкнуцца адна да адной. Ніводная з гэтых частак не з’яўляецца настолькі моцнай, каб паглынуць і прыцягнуць да сябе астатнія. Але злучыцца адна з адной і стварыць агульнае цэлае ў новай форме ўсе яны прагнуць (магчыма, несвядома) і будуць да гэтага імкнуцца насуперак усім перашкодам. Ці не шмат значыць той факт, што як Літва, так і Беларусь выступаюць пад адным і тым жа знакам – Пагоняй?

Краёвая ідэалогія, якая грунтуецца на традыцыях Вялікага Княства Літоўскага, сёння не папулярная ні сярод палякаў,

якія мараць пра дэнацыяналізацыю і ўніфікацыю «ўсходніх крэсаў», ні сярод літоўцаў, якія прагнуць толькі вяртання Вільні ды Гародні і не бяруць пад увагу наступствы такога падзелу краю, ні сярод беларусаў, што ўвогуле не аперуюць гістарычнымі катэгорыямі. І менавіта дзякуючы сваёй нейтральнасці, з-за таго, што яна не звязаная з ніводным элементам, які пануе тут ці недзе ў іншым месцы, што яна пазбаўленая нацыянальнай афарбоўкі – з часам краёвая ідэалогія мусіць пераадолець абыякавасць, непрыязнасць і ўзаемныя прадузятасці грамадства … .

## 53. Станіслаў Свяневіч. Грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага (1925 г.)

***Крыніца:*** *Свяневіч С. Грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 248–250.*

Калі некалькі гадоў таму як чалавек, што асэнсоўвае той клубок праблем, які ў нас носіць назву «пытання ўсходніх ускраін», я першы раз уваходзіў у кватэру знакамітага юрыста, хочучы пачуць ягоную думку пра тую праблематыку, якая мяне мучыла, ён прывітаў мяне словамі: «Вы знаёміцеся з адным з апошніх магіканаў. Сёння засталося ўжо толькі тры сапраўдныя грамадзяніны Вялікага Княства Літоўскага і толькі тры сапраўдныя краёўцы. Я – адзін з іх».

… Праз нейкі момант, калі завязалася размова і калі я пачуў, з якой свабодай і натуральнасцю мой суразмоўца апераваў архаічным для нас тэрмінам «Вялікае Княства», то зразумеў, што нашая легенда была для яго рэальнай гістарычнай рэчаіснасцю. У нядзельным выпуску «Słowa» ва ўступным артыкуле пан Цат напісаў, што Урублеўскі перажыў сваю эпоху на гадоў якіх з 50. Я б сказаў больш. Урублеўскі перажыў яе на некалькі соцень гадоў. Ягонае месца было ў Вялікім Княстве Літоўскім XV ці XVI стагоддзя, калі паны Літвы не хацелі поўнага разрыву сувязяў з Каронай, але адначасова востра працівіліся ўсялякім паглынальным тэндэнцыям з боку апошняй. Тады ён, магчыма, застаўся б у памяці нашчадкаў як вялікая гістарычная постаць, як вялікі дзяржаўны дзеяч.

Паляк сёння любіць польскую нацыянальную ідэю, літовец – літоўскую, беларус – беларускую. Урублеўскі ж любіў перш за ўсё наш край з усімі яго жыхарамі, без розніцы ўжыванай мовы, з усім яго багатым мінулым, ад слаўных паходаў Вітаўта аж да баёў Каліноўскага ў гарадзенскіх лясах.

Таму ў цяперашняй нацыяналістычнай Польшчы Тадэвуш Урублеўскі для сябе знайсці месца не мог. І калі так шмат жоўці, так шмат незвычайнай злосці неаднойчы прабівалася ў ягоных выказваннях пра сучасную Польшчу – магчыма, гэта менавіта таму, што ён разумеў – сярод нас яму няма ўжо чаго рабіць. Сённяшняй Польшчы Урублеўскі зразумець не мог. …

Нацыяналістаў Урублеўскі лічыў сваімі праціўнікамі. Гэта

быў для яго чужы і варожы лагер. Нацыяналісты таксама адказвалі яму зусім непрыхаванай нянавісцю. Сярод левай дэмакратыі нябожчык меў шмат асабістых сяброў, але пра сам кірунак заўсёды казаў з лёгкім адценнем пагарды. На ягоную думку, уся наша левая інтэлігенцыя ўяўляе з сябе варты жалю вобраз людзей, прасякнутых ліберальнымі лозунгамі другой паловы мінулага стагоддзя, якія маюць шмат сантыментаў да вялікіх момантаў нашага мінулага, але адначасова заражаныя і ўсёмагутным нацыяналізмам сучаснай эпохі. ... Урублеўскі ж быў занадта катэгарычным, занадта рашучым ворагам нацыяналізму і ідэі нацыянальнай дзяржавы, каб знайсці сабе месца ў гэтым лагеры.

## 54. Міхал Ромер. Няма Людвіка Абрамовіча (1940 г.)

***Крыніца:*** *Ромер М. Няма Людвіка Абрамовіча // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 320–324.*

Сутнасцю «краёвага» кірунку ёсць тое, што канцэпцыі «крэсовай» Літвы супрацьпастаўляецца цэнтраімклівая канцэпцыя Літвы як краю, які мае ўласную палітычную асобнасць і адметнасць у людской супольнасці свету. «Крэсовая» канцэпцыя, натуральна, не выключае любові да гэтага краю і сантыменту да яго вялікай і цікавай гістарычнай мінуўшчыны, не выключае нават рэгіяналізму, але выключае жывую, грамадскую і палітычную асобнасць краю, звернутую ў будучыню. «Крэсовая» канцэпцыя трактуе гэты край, то бок Літву, як для адных менш, а для другіх больш каштоўны, прыгожы і ўлюбёны рэгіянальны дадатак, далучаны да цэнтра (метраполіі) нейкай з суседніх земляў, аформленых у якасці асобнай палітычнай адзінкі. Для адных гэта былі б заходнія ўскраіны, для іншых – усходнія. Калі казаць пра «крэсовую» канцэпцыю ў віленскіх і літоўскіх палякаў – то для іх гэтыя «крэсы», натуральна, усходнія. Дадзеную «крэсовую» канцэпцыю так званая краёвая канцэпцыя катэгарычна аспрэчвае і адкідае.

Менавіта ў гэтым і заключаецца прынцыповае і змястоўнае адрозненне паміж гэтымі дзвюма канцэпцыямі ці пазіцыямі. Не ў большай ці меншай «любові» да гэтых земляў і пашаны да мінуўшчыны Вялікага Княства Літоўскага. … Найвыдатнейшым, найбольш гістарычным пацверджаннем палітычнай асобнасці краю з'яўляецца яго дзяржаўнасць – тое, што мы называем Незалежнасцю….Тыя, для каго гэты край ці яго сталіца ды тэрыторыя толькі што вернутыя і надалей з'яўляюцца «ўскраінамі» палітычнай канструкцыі па-за межамі краю, паспяхова пра гэтыя творчыя рэчы гаварыць не могуць.

Не з'яўляюцца «краёўцамі» тыя, хто захоўвае стрыманасць адносна пытання асобнасці краю і ставіць гэта ў залежнасць ад таго, ці супадае палітычная сістэма, якая ў гэтым асобным краі на дадзены момант функцыянуе, на 100 ці прынамсі на 50% з той, якой менавіта ім хочацца.

У Англіі ёсць апазіцыя, але гэта апазіцыя «Яго Вялікасці Караля». У нас яна mutatis mutandis была б «апазіцыяй Найяснейшай Рэчы Паспалітай» пад знакам Пагоні. …

Не з’яўляюцца таксама абаронцамі «краёвай» пазіцыі тыя (зрэшты, прыстойныя і шляхетныя людзі), якія падкрэсліваюць сваё цалкам шчырае прызнанне «Незалежнасці Літвы» як, паводле іхняга разумення, пазітыўнага, каштоўнага і трывалага чынніка ў канструкцыі Усходняй Еўропы. Але гэтую асобнасць Літвы, якую моцна падкрэсліваюць і нават сардэчна вітаюць, яны замыкаюць у межах фактычнага падзелу, зробленага пры дапамозе «здзейсненых фактаў» 1920–1922 гадоў. Яны не «краёўцы», бо па-ранейшаму з’яўляюцца тымі, ці іх спадкаемцамі, хто рэзаў на кавалкі жывое цела Літвы, а цяпер жадаюць боль гэтых ранаў працягнуць надалей … .

## 55. Зоф'я Абрамовіч. Некалькі слоў па краёвую ідэю (1940 г.)

***Крыніца:*** *Абрамовіч З. Некалькі слоў пра краёвую ідэю // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 325–327.*

...Сёння ідэя краёвасці, як падаецца, выклікае да сябе значна больш цікавасці: пра яе гавораць, яе інтэрпрэтуюць. У выніку рознасці пазіцый можа быць небяспека памылковага яе разумення як у польскім грамадстве, так і ў літоўскім. З-за гэтага можа скласціся перакрыўленае ўяўленне пра сапраўдную палітычную пазіцыю майго бацькі.

...На маё ж пытанне ... ён абурыўся, што не можа ісці гаворкі толькі пра адну Вільню, аддзеленую ад усіх іншых земляў Вялікага Княства Літоўскага, якія складаюць такі вялікі, разнародны і багаты абшар. Менавіта ён ёсць «нашым – палякаў Літвы, літоўцаў і беларусаў – краем», нашай агульнай уласнасцю, адзіным арганізмам, на жаль, пастаянна парэзаным штучнымі межамі. ...

Ніводзін нацыяналіст, як ён заявіў, не можа пагадзіцца з краёвасцю, паколькі неабходна, каб нацыянальныя ідэі, што паводле сваёй прыроды патрабуюць выключнасці, падпарадкаваліся краёвай ідэі, якая з'яўляецца процілегласцю выключнасці і ўвасабленнем супольнасці. Таму краёвасць непатрэбная ў нацыянальна аднароднай дзяржаве, затое неабходная ў шматнацыянальнай, якой у будучыні мусіць стаць Вялікае Княства Літоўскае, у якім усе тры згаданыя нацыянальнасці будуць адчуваць сябе дома і карыстацца цалкам роўнымі правамі на ўзор Бельгіі ці Швейцарыі. Сталіцай такой дзяржавы тады будзе Вільня, якая нарэшце выйдзе з ролі пешкі, лёс якой вырашае хтосьці іншы паводле нацыяналістычных пастулатаў таго ці іншага боку. Усялякія ж безаглядныя памкненні да палітычнай і культурнай гегемоніі з боку польскага, літоўскага ці беларускага элементаў абавязкова будуць падрываць гэтае адзінства, бо ў выніку гаворка пойдзе пра звядзенне іншых элементаў да ролі «меншасцяў», якія талеруюцца і якім тое ці іншае дазваляецца. Пры гэтым не мела б значэння, ці сістэма кіравання прывілеяванай большасці было б больш ці менш ліберальнай. У любым выпадку б

парушаўся зусім адметны характар гэтай дзяржаўнасці, якая нашым землям патрабуецца з-за іх этнічнай і культурнай featuresазнароднасці. Таму ў цяперашняй палітычнай канфігурацыі краёвец-паляк мусіць знаходзіцца ў апазіцыі не столькі з-за тых або іншых метадаў кіравання,а з-за таго, што сама канцэпцыя ролі Вільні ў рамках нацыяналістычнай дзяржавы з'яўляецца для яго непрымальнай.

Але гэтая сітуацыя зноў можа змяніцца. Тады зноў справай краёўцаў будзе змаганне за тое, каб гэтая канцэпцыя нарэшце была падкарэктаваная, каб герб Пагоня не быў зведзены да ролі сімвала літоўскага нацыяналізму, каб факт вяртання Вільні да ролі сталіцы быў адначасова праявай разумення, наколькі такая роля з'яўляецца выключнай і якія гэта накладае абавязкі на край і дзяржаву. ...

... краёвая ідэя яшчэ доўга, відаць, застанецца непапулярнай, як любая ідэя, якая прадугледжвае ўтаймаванне нацыянальных эгаізмаў і адмаўленне ад некаторых непасрэдных і на выгляд вялікіх выгодаў ў імя дабра большай супольнасці.

## 56. Юзаф Мацкевіч. Ідэя двух франтоў (упершыню надрукавана ў 1942 г.)

***Крыніца:*** *Мацкевіч Ю. Ідэя двух франтоў // Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. Вільня: Палітычная сфера, 2014. С. 293–300.*

Што такое «краёвасць»? Перш за ўсё заўважу, што назва ідыятычная. Яна, звычайна, выкарыстоўваецца дзеля назвы жыхароў экзатычных краінаў – «краёўцы»! Тыя, хто афіцыйна прадстаўляў гэтую ідэю ў Вільні, як вядомы адвакат Тадэвуш Урублеўскіці выдатны публіцыст Людвік Абрамовіч, імкнуліся да адраджэння Вялікага Княства Літоўскага як незалежнай дзяржавы. Свае намеры яны абгрунтоўвалі геапалітычным і гістарычным адзінствам земляў, што знаходзяцца плюс-мінус паміж Дняпром і Балтыкай. Не буду пярэчыць, што ў іх развažаннях, таксама як і ў маіх, значную ролю адыгрываў сантымент, палітычны рамантызм, які выцякаў са звычайнай прывязанасці да спецыфічных рысаў рэгіёну. Але мая асабістая глыбокая прыхільнасць да г. зв. (менавіта гэтак званай) «краёвай ідэі» абумоўленая халодным палітычным разлікам.

…

Мой план урэгулявання сітуацыі ва Усходняй Еўропе шляхам стварэння дзяржавы, роўнай Германіі і Расіі, схематычна выглядае наступным чынам: Вялікае Княства Літоўскае (назавем як захочам) ахоплівае ўсе беларускія і літоўскія землі ў агульным накірунку ад Дняпра і Прыпяці на паўночны захад са сталіцай у Вільні. Польшча – ад этнаграфічнай беларуска-ўкраінскай мяжы на захад і поўдзень разам з Памор’ем, Сілезіяй і г.д. На паўднёвым усходзе – Украіна. Больш менш у цэнтры гэтай патройнай дзяржавы, недзе на пачатку Прыпяці, зыходзіліся б гэтыя тры мяжы. Тры сталіцы – Варшава, Вільня, Кіеў. Гэтыя дзяржавы, або тры часткі адной дзяржавы з адзінай замежнай і ваеннай палітыкай дамаўляюцца пра размежаванне сфераў і накірункаў палітычнай экспансіі, тэрытарыяльных інтарэсаў і намаганняў.

Да сферы інтарэсаў той часткі дзяржавы, якую мы традыцыйна называем «Вялікім Княствам Літоўскім», магла б належаць Латвія і паўночна-ўсходні накірунак на Пскоў –

Ноўгарад – Смаленск – Бранск. Усходняя Прусія стала б зонай сумесных уплываў Вільні і Варшавы.

Вяртаючыся да больш сціслай праблемы гэтак званай «краёвай ідэі» альбо, паводле маёй канцэпцыі, адраджэння дзяржавы на тэрыторыі былога ВКЛ з апорай на Польшчу і Украіну, сцвярджаю, што яна не толькі карысная для ўсіх трох зацікаўленых народаў – беларусаў, палякаў і літоўцаў. Яна – адзіная, якая можа гарантаваць незалежнае існаванне на гэтых тэрыторыях...

…

Гэтае ідэалізаванае мною Вялікае Княства Літоўскае мела б характар трохмоўнай і трохнацыянальнай дзяржавы з беларусамі, літоўцамі і палякамі. … Літоўцы атрымаюць доступ да Вільні-сталіцы і да ўсёй гістарычнай Літвы, не губляючы нічога са свайго нацыянальна-культурнага даробку і, з'яўляючыся раўнапраўным элементам у дзяржаве, будуць карыстацца доступам да мора. Беларусы, якія з'яўляюцца колькасна дамінуючым элементам, могуць не баяцца асіміляцыі, асабліва пагрозлівай для іх з боку Расіі, атрымліваюць доступ да мора і ўмовы для нармальнага развіцця. Віленскія палякі, захоўваючы сваю родную мову і культуру, а таксама сваю традыцыйную адметнасць ад Кароны, нарэшце атрымаюць права голасу ва ўласнай малой Айчыне, не згубяць, але ўмацуюць свой аўтарытэт як элемент, што шчыльна канцэнтруецца ў цэнтры дзяржавы і ў сталіцы. Пры гэтым яны не з'яўляюцца косткай нязгоды, аператвараюцца ў мост паміж Варшавай і Вільняй.

Калі б нехта пажадаў убачыць у маёй канцэпцыі састарэлыя або «зношаныя» формы, кантанальныя швейцарскія ўзоры, праекты Гіманса і г.д., то я б звярнуў увагу на навейшы ўзор, які мы грунтоўна пазнаем толькі зараз. Гэта нацыянальная палітыка Савецкага Саюза. Маю вялікае жаданне назваць гэты ўзор нават геніяльным, адзіным годным пераймання з усіх панурых эксперыментаў камунізму.

…

Аказваецца, што ўзаемная нацыянальная нянавісць не сядзіць настолькі глыбока ў чалавеку, а моўныя адрозненні не з'яўляюцца настолькі важнай часткай ягоных імкненняў, калі іх справядліва задаволіць праз раўнапраўе, аўтарытэт вярхоў, прапаганду. Усе могуць быць задаволенымі, і я асабіста

пераканаңы, што ў багатай, моцнай і незалежнай дзяржаве яны былі б асабліва задаволеныя, калі б моўная роўнасць прадугледжвала першынство літоўскай мовы ў Коўне, польскай – у Вільні, беларускай – у Менску.

… не адкідаю адразу ж прадбачаных і добра мне вядомых папрокаў, сур'ёзных і не вельмі контраргументаў, з якіх найбольш пашыранымі былі сцверджанне пра ўтапічнасць, састарэласць і, перш за ўсё, непапулярнасць ідэі, пра якую не хочуць чуць ні палякі, ні літоўцы, ні беларусы.

…

Гэта мая канцэпцыя, мая палітычная ідэя. … Гэта крэда маіх ідэалаў, за рэалізацыю якіх, здаецца, я маю права змагацца на ўскрайку Усходняй Еўропы, дзе здаўна панавала Вільня.

**57. Вялікая Літва (1946 г.)** *

***Крыніца:*** *Wielka Litwa. 1946 // БВілУ. Ф. 257. Спр. 263. 20 арк.*

Усе далейшыя развагі – гэта нерэальная мара, калі Савецкая Расія захавае сваю цяперашнюю сілу. Аднак верым, што хутчэй ці пазней, звонку ці знутры, у выніку новай вайны ці ўласных дэструкцыйных працэсаў, заўтра ці праз 20 гадоў Расія страціць магутнасць.

Калі ў гэты час, у выніку новай сітуацыі ў Сярэдняй Еўропе нас спытаюць: «Ці маеце вы якую ўласную канцэпцыю ўладкавання і ўпарадкавання вашых краёў», – павінны такую канцэпцыю ўжо мець, папулярную, абмеркаваную, саспелую. Можа гэта будзе адзін шанец з 99. Але нават гэтага аднаго не можам упусціць з поля зроку.

Літва – гэта не толькі Ковенскя дзяржава, Святая Жмудзь з выпадкова далучанай Клайпедскай вобласцю ці з чужой дапамогай далучанай вузкай палоскай Віленшчыны; гэта ў роўнай меры Вільня, Навагрудак, Гродна, Сувалкі, Мінск і ўся савецкая Беларусь, Палессе і усходняя частка Прусіі. Перад вайной на гэтай тэрыторыі пражывала 10 мільёнаў ліцвінаў, якія гавораць па-польску, па-літоўску і па-беларуску ў прапорцыі як 1:1:2. Пасля вайны, пасля заканчэння рээміграцыйных рухаў, ... колькасць насельніцтва зменшылася; ваенныя страты закранулі гэты край больш за які іншы, але ўзаемныя суадносіны трох моўных груп засталіся без змен.

Вялікая Літва, з павялічанай тэрыторыяй і насельніцтвам, якое размаўляе трыма мовамі, дае адзіную магчымасць арганізацыі іх згоднага сужыцця, без крыўднай перавагі аднаго над другім...

Паколькі малая Ковенская Літва заўсёды будзе залежаць ад ласкі аднаго з трох сваіх суседзяў, то Вялікая Літва, павялічаная літоўскімі землямі, якія да вайны належалі Польшчы і Прусіі, Літва з насельніцтвам каля 8 млн чалавек і тэрыторыяй ў 400 тысяч кв. км стане самастойным фактарам міжнароднай палітыкі, здольным да адпору ўсім дэструкцыйным плыням, якія зыходзяць з Масквы ці з Берліна, і стане раўназначным партнерам Польшчы, і без боязі крыўднай залежнасці, як

* *Пераклад С. П. Марозава*

«вольны з вольным» уступіць у сужыццё з Польшчай ў той ці іншай форме.

Літва мае прэтэнзіі да Вільні. І правільна. Гэта з'ява штучная і пярэчыць натуральнаму ходу спраў, што гістарычная сталіца дзяржавы знаходзіцца па-за яе межамі. Але не толькі Вільня. Усё Віленскае ваяводства, поўнасцю Навагрудскае, каля 2/5 Беластоцкага з Гродна і Сувальшчынай, усходняя частка Прусіі, урэшце ўся савецкая Беларусь – гэта Літва. Увесь гэты край, разам з Ковенскай Літвой, утварае адну геаграфічную, гістарычную і гаспадарчую цэласць. Адзін вялікі, пераважна аграрны край, які з'яўляецца воссю воднага шляху Нёмана да адзінага порта ў Клайпедзе. Рыга не мае таго значэння з-за неплавучасці Дзвіны… . Гаспадарчы застой Віленшчыны ў папярэднія 20 гадоў быў выкліканы найперш межамі, якія дзялілі Літву насуперак яе гаспадарчай структуры. …

У думках, размовах і дыскусіях акрэсліліся тры альтэрнатывы арганізацыі літоўскіх земель. … 1) Вялікая Літва…; 2) сціплейшая Вялікая Літва без Палесся, якое можа застацца Польшчы, а на ўсходзе будзе абмежавана Рыжскай мяжой; 3) па абодва бакі Рыжскай мяжы ўтвараецца беларуская дзяржава, асобная ад Расіі, а таксама ад Літвы і Польшы, але сфедэраваная з Польшчай і Літвой. …

Адзіна рэальная канцэпцыя – Вялікая Літва, якая ахоплівае ўсю савецкую Беларусь, Ковеншчыну і польскую частку Літвы, супольна заселеная, гаспадараваная і кіраваная ліцвінамі, якія гавораць па-польску, па-літоўску і па-беларуску.

…

Мяжа з Латвіяй застанецца без змен, у Вялікую Літву ўключаецца савецкая Беларусь, мяжа паміж Беларуссю і Расіяй дакладна супадзе з усходняй мяжой Рэчы Паспалітай 1772 г. Тады Беларусь вернецца да сваёй традыцыйнай і гістарычнай ролі, як усходняя мяжа Сярэдняй Федэрацыі. На поўдні Вялікая Літва будзе межаваць з Украінай… . На захадзе – як мяжа Расіі з Польшчай. Палесссе – на літоўскім баку, згодна з даўняй традыцыяй.

Мяжа з Польшчай пойдзе па Бугу, на літоўскім баку – Брэст, сталіца Палесся. Названы афіцыйна апошнія 20 гадоў Брэст-над Бугам, ён можа і павінен вярнуцца да сваёй гістарычнай назвы «Брэст-Літоўскі», цалкам апраўданай. … Белавежская пушча, каб яе не дзяліць, цалкам застаецца на польскім баку.

… Ваўкавыск – на літоўскім баку. … На Літве застанецца чыгуначная каляя Гродна – Аўгустаў – Сувалкі…

У такіх абшарах Влікая Літва будзе ў у 10 разоў большай за Бельгію, у 7 разоў – за Швейцарыю…

Ліцвінаў, якія гавораць па-беларуску, у Вялікай Літве будзе болей. Але іх ураўнаважаць больш даспелыя культурна і палітычна палякі і літоўцы.

Літоўская дзяржава павінна быць трохмоўнай: польская, літоўская і беларуская мовы павінны быць прызнаны ўрадавымі мовамі.Ураднікі павінны валодаць усімі трыма мовамі. Прыватны чалавек можа валодаць толькі адной з іх…

Колькасная перавага беларусаў аднак не зможа навязаць усёй дзяржаве пераважаючага беларускага характару, як гэта было ў XV і XVI стагоддзях. Хоць адна са старэйшых, беларуская мова – наймаладзейшая з пункту погляду культурнага развіцця. … Не трэба забываць, што Касцюшка быў беларусам, што беларусам быў Міцкевіч, што да гэтага дня ў Навагрудскім ваяводстве цэлыя вёскі беларускіх Сянкевічаў…

Жыхарам краю трэба вярнуць пачуццё ўласнай годнасці і свядомага грамадзянства, супольнай адказнасці за лёс свайго краю.

У Вялікай Літве школы павінны культываваць усе тры мовы з перавагай адной з іх для прыватных школ. …

Канцэпцыя Вялікай Літвы не з’яўляецца новай. Яе хацеў стварыць Пілсудскі. Але Пілсудскі не дацаніў вагі навейшай зброі прапаганды. Свае вялікія задумы выношваў у адзіноце і ў адзіноце спрабаваў іх рэалізаваць. Не зразумелі яго. … Федэрацыйная ідэя … успрымалася як здрада Польшчы. …

З польскага пункту гледжання, не з’яўляецца стратай уступка Літве як найбольшай колькасці зямель традыцыйна і гістарычна літоўскіх, этнічна змяшаных з перавагай польскага элемента. … Вялікая Літва будзе для Польшчы заўсёды прыязным саюзнікам, верным і пэўным, незалежна ад таго, у якую форму складзецца палітычнае суіснаванне і ўзаемазалежнасць дзяржаў.

… ні Польшча, ні Літва, ні бліжэйшыя ад поўдня суседнія дзяржавы не змогуць утрымацца доўга, будучы ў поўнай адсепараванай незалежнасці. Павінен з’явіцца федэрацыйны саюз народаў, блізкіх духам і культурай, – Commonwealth паўночнай часткі Міжмор’я, Рэчпаспалітая федэральная.

… Гэта назва можа пужаць ліцвінаў.

Былая Рэч Паспалітая не мела прыкметніка «Польская». Польшча была толькі часткай Рэчы Паспалітай, і то нават не найбольшай. Літва была большай. Трэба ўлічваць, што Польшча з 1919 г. ужывае тытул «Рэч Паспалітая» праз сантымент да традыцыі, без сувязі з істотным зместам выразу. А сапраўды з'яўляецца толькі рэспублікай.

Гэта зусім немагчыма вяртанне Рэчы Паспалітай у той самай, што і раней форме. Зашмат адбылося змен, і вельмі значных. …

… Унія не будзе патрэбнай. Затое федэрацыйная сувязь можа і павінна адпавядаць інтарэсам усіх бакоў. … да яе могуць далучыцца Украіна, … Славакія і Чэхія, … Венгрыя і Румынія.

Але да таго трэба ўнутрана кансалідаваць розныя моўныя групы Вялікай Літвы. Для гэтага няма перашкод. … Мы адной крыві, маем агульную гісторыю, хоць ужываем розныя мовы. Трэба толькі не змагацца паміж сабой за ўплывы і значэнне, але прызнаць роўныя правы і на гэтай роўнасці будаваць будучае жыццё.

Наша дзяржава павінна быць трохмоўнай … – мовы беларуская, літоўская і польская прызнаны за раўнапраўныя дзяржаўныя на ўсёй тэрыторыі. Указы выдаюць на трох мовах. У школах вывучаюць усе тры мовы з перавагай адной. Прыватныя школы могуць быць аднамоўныя. Вольны выбар бацькоў, без ціску, шантажу.

Павінен застацца літоўскі ўніверсітэт ў Коўне, польскі ўніверсітэт у Вільні. З часам абодва ўніверсітэты страцяць свой выключна літоўскі або выключна польскі характар, уводзячы выкладанне на дзвюх мовах Вялікай Літвы. Трэцяя вышэйшая навучальная ўстанова павінна з'явіцца ў Мінску.

Назва дзяржавы можа заставацца ў двух раўназначных варыянтах: Літва і Летува; першая з іх міла гучыць для моў польскай і беларускай. … або можа быць заменена лацінскай назвай «Lithuania». …

Пагоня на блакітным полі не патрабуе сябе накідваць. Не ад сёння і не ад учора з'яўляецца яна нашым агульным гербам.

# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

**Марозаў** Сяргей Паўлавіч

# Ідэя адраджэння Вялікага Княства Літоўскага ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі (1795–1939 гг.)

Вёрстка, вокладка: *Алесь Рыжы, Ілья Рыжы*

Падпісана да друку 16.09.2019 г. Фармат 60x84/16.
Папера афсетная. Рызаграфія
Ум.друк.арк. 25,9. Ул.-выд.арк 23,4.
Тыраж 110 экз. Заказ 72-4/2019

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЮрСаПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/388 ад 01.07.2014 г.
Вул. Карла Маркса,11, 230015, г. Гродна.
+375 152 77 18 20
+375 295 87 84 11

www.usp.by info@usp.by